

# Быкаў на Свабодзе

Выданьне другое, дапоўненае

Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода

Надвячоркам кожнага дня
я ўключаю прымач
і шукаю «Свабоду».
Тое сталася звычаем
і патрэбай душы.

*Васіль Быкаў*

**БЫКАЎ НА СВАБОДЗЕ.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). —2-е выд., дапоўненае. — Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.

Рэдактар і ўкладальнік *Сяргей Навумчык*
Мастак *Генадзь Мацур*
Стыльрэдактар і карэктар *Аляксандра Макавік*

У кнізе выкарыстаныя фатаздымкі Алеся Адамовіча, Ірыны Быкавай, Юрыя Дзядзінкіна, Уладзімера Кармілкіна, Глеба Лабадзенкі, Андрэя Лянкевіча, Сяргея Навумчыка, Марыі Сэдэрбэрг, Сяргея Шапрана, Уладзіслава Яндзюка, а таксама фотаматэрыялы з архіваў сям'і Васіля Быкава.



ISBN 0-929849-08-6

...Быкаў сьмяецца ў трубку і кажа: «Ну, калі я вам яшчэ не надакучыў, калі ласка — прышлю».
Праз пару дзён пошта прыносіць цяжкую капэрту з новай прыпавесьцю, у лісьце абавязковая прыпіска: «Перадайце прывітаньне вашым мілым дзяўчатам і хлопцам, якія так хораша чытаюць...»
У 1965-м супрацоўнікі радыё выдалі ў Мюнхэне аповесьць «Мёртвым не баліць». І вось мы зноў выдаём кнігу Быкава. Шмат гадоў нашыя слухачы першыя знаёміліся зь яго новымі творамі, а таксама меркаваньнямі, ацэнкамі й прагнозамі. Пераважна гэта былі невясёлыя прагнозы, але Быкаў не пагаджаўся, што гэта пэсымізм. Сьвечка надзеі ніколі ня гасла ў ягоных выступах. І ў рэдакцыйных сьценах ён запомніўся заўсёды з прыязнай цёплай усьмешкай, — мы спадзяёмся, ён пачуваў сябе на «Свабодзе» добра і лёгка, сярод сяброў.
Апошнія месяцы мы мелі шчасьце сустракацца часьцей — у прагулках па Празе, на імпрэзах, у вулічных кавярнях, дома. І ў шпіталі. За тоўстымі сьценамі «Свабода» лавілася дрэнна, мы прынесьлі яму магнітафон, і ён атрымліваў навіны зь Беларусі ў запісе. Быкаў слухаў «Свабоду» даўно, але пасьля таго, як жыцьцё ў Менску стала нясьцерпным і пачаўся апошні вандроўны пэрыяд ягонай творчасьці, ён не расставаўся з караткахвалевым прымачом.
Мы рабілі праграму, ведаючы, што яе будзе слухаць Быкаў.
Мы так і будзем рабіць надалей, Васіль Уладзімеравіч.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода, Прага*



# Беларусь

сьнежань 1991 — красавік 1998

Для сучасьнікаў Васіля Быкава ягонае імя зьвязанае ня толькі зь літаратурай, але і з падзеямі, якія перажыла Беларусь. Вось некаторыя этапы грамадзкай дзейнасьці Быкава: 1988 — сябра аргкамітэту, а затым Сойму Беларускага Народнага Фронту, 1989 — народны дэпутат СССР, 1990 — прэзыдэнт Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», 1994 — даверанaя асоба кандыдата ў прэзыдэнты Зянона Пазьняка, 1995 — прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру, адзін з заснавальнікаў Хэльсынскага камітэту, 1996 — старшыня аргкамітэту сьвяткаваньня ўгодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі.

У пачатку 1990-х гадоў супрацоўнікі мюнхэнскай рэдакцыі Радыё Свабода ўпершыню атрымліваюць магчымасьць наведваць Беларусь — з Васілём Быкавым знаёмяцца тагачасны дырэктар Беларускай службы Вячка Станкевіч і журналістка Ларыса Верас. «Свабода» рэгулярна перадае інтэрвію Быкава, ягоныя ацэнкі палітычных і грамадзкіх падзеяў, літаратурнага працэсу.

У 1996 годзе з плянаў дзяржаўнага выдавецтва выключаюць кнігу з новымі творамі пісьменьніка, і на хвалях «Свабоды» пачынае гучаць проза Быкава.

## «УСЯ НАШАЯ ГІСТОРЫЯ ЗАКЛІНІЛАСЯ НА ГЭТЫМ РЭАКЦЫЙНЫМ БАЛЬШАВІЦКІМ ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ»

Сьнежань 1991

***Юрка Ляшчынскі, Мікола Ваўранюк, Менск-Беласток***

Народны пісьменьнік, прэзыдэнт Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» Васіль Быкаў — несумненны маральны аўтарытэт у Беларусі. Прапануем вашай увазе размову са спадаром В.Быкавым, тэма — палітычная сытуацыя ў Беларусі пры канцы 1991 году.

— Палітычная сытуацыя ў Беларусі вельмі напружаная ўжо даволі доўгі час. І гэтая напружанасьць не мінае, таму што не вырашаецца самае галоўнае, самае кардынальнае пытаньне, якое цяпер стаіць перад беларусамі, — гэта пытаньне дзяржаўнасьці. Хаця ў нас прынятая Дэклярацыя аб незалежнасьці, аб сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусь і зробленыя сякія-такія законныя захады, фактычнай самастойнасьці яшчэ няма — і невядома, калі яна будзе. Грамадзтва даўно ўжо насьпела да таго, але нашыя палітычныя ўлады, нашы заканадаўчыя органы не сьпяшаюцца вырашаць гэтай праблемы. Не сьпяшаюцца яны з той элемэнтарнай прычыны, што яны ня здольныя, бо ў нас Вярхоўны Савет, як вядома, на 80% складаецца з камуністаў, і гэтыя камуністы, вядома, не зацікаўленыя ў тым, каб Рэспубліка Беларусь набыла сапраўдную самастойнасьць, аддзялілася ад імпэрыі.

*— Што трэба зрабіць, каб гэтую дэкляраваную незалежнасьць зрабіць сапраўднай? Можа, тое выйсьце, што ва Ўкраіне, — рэфэрэндум?*

— У тым жа і справа, што ў нас шляхам рэфэрэндуму





можна вырашыць, канечне. Але зноў жа вырашаць павінен Вярхоўны Савет. Цяпер уся палітыка Беларусі заклінілася на гэтым Вярхоўным Савеце. У гэтым уся справа. Па сутнасьці, цяпер першачарговая задача — гэта прыняць закон аб рэфэрэндуме, прыняць закон аб выбарах, распусьціць Вярхоўны Савет і правесьці новыя выбары на шматпартыйнай аснове. Толькі ў такім выпадку будзе нейкі зрух да фактычнай сувэрэннасьці Беларусі.

*— Як практычна можна распусьціць гэты Вярхоўны Савет?*

— Вось я і кажу, што гэта павінен зрабіць сам Вярхоўны Савет. Пастанову аб роспуску Вярхоўнага Савету можа прыняць сам Вярхоўны Савет. А сам Вярхоўны Савет гэтага ня хоча рабіць, пакуль ня будзе прынятая новая Канстытуцыя. Калі нават і новая Канстытуцыя будзе прынятая, зноў жа гэты роспуск у яго руках. Вось я таму гавару, што ўся нашая гісторыя заклінілася на гэтым рэакцыйным бальшавіцкім Вярхоўным Савеце.

*— А сёньняшняя Беларусь — як краіна, як рэспубліка — ці падрыхтаваная да незалежнасьці? Бо ж і валюту трэба мець сваю, і армію, шмат пытаньняў.*

— Можна гэта ўсё, трэба рыхтаваць. Трэба рыхтавацца, калі будзе такая пэўная мэта. Аднак жа цяпер у гэтым кірунку нічога ня робіцца. Таму што Вярхоўны Савет зусім ня ставіць сабе такой мэты.

*— А ці Беларусь будзе весьці сваю замежную палітыку самастойна?*

— Безумоўна. Калі яна будзе самастойная, то і замежная палітыка будзе самастойная.

*— Як будуць выглядаць кантакты, стасункі з суседзямі, зь Літвою, з Украінай?*

— Калі ў Беларусі будзе дэмакратычны лад і будуць так-

сама дэмакратычныя лады ў нашых суседзяў, то нашы адносіны будуць таксама дэмакратычныя, справядлівыя і вельмі мірныя, я б сказаў, нават братнія. Калі ж усталюецца іншы лад, неспрыяльны лад у Беларусі альбо ў іншых рэспубліках, нашых суседзяў, то, канечне, будуць усялякія праблемы і супярэчнасьці, можа быць варажнеча. Усё будзе залежаць ад волі ня толькі нашага грамадзтва, але найбольшым чынам — нашага кіраўніцтва.

*— Ці разглядаюцца цяпер такія справы як зьмена межаў?*

— Цяпер не разглядаюцца. І не павінны цяпер разглядацца, таму што мы ня вырашылі кардынальных пытаньняў. Праблемы межаў будуць вырашацца ў апошнюю чаргу, тады, калі ўжо паміж намі нічога ня будзе стаяць, таксама, як і над намі нічога ня будзе вісець. А пакуль што над намі вісіць небясьпека вялікая, імпэрская небясьпека. І яшчэ не хапала нам улезьці ў гэтыя канфлікты нашага памежжа. Гэта вельмі небясьпечная праблема.

*— Якую вы цяпер палітычную сілу разглядаеце як найбольш прыдатную на стварэньне сапраўднай дзяржаўнасьці? Бо год таму быў толькі БНФ. Цяпер зьявіліся партыі.*

— Безумоўна, цяпер шмат партыяў, дэмакратычных партыяў. Праўда, яны ўсё ж ня дужа моцныя, хаця яны імкнуцца, так бы мовіць, весьці работу ў нашым грамадзтве. Усё-такі я лічу, што самая магутная палітычная сіла цяпер — гэта, безумоўна, Беларускі Народны Фронт. Там ёсьць ня толькі моцная падтрымка, але ўжо і спрактыкаванае, разумнае, вопытнае кіраўніцтва.

*— Палітычная сіла вялікая — гэта былыя камуністы.*

— Безумоўна.

*— І ўсё ж пагражаюць дэмакраты?*





— Вядома, яны змагаюцца так ці інакш, таму што хаця кампартыя ўвогуле і адлучаная ад дзяржаўных справаў, але яе сябры, сябры гэтай партыі, займаюць усе інстанцыі — ад мясцовых саветаў, гаспадарчых органаў і да Вярхоўнага Савету. Усюды іх большасьць. І таму, натуральна, яны праводзяць — у адпаведнасьці са сваімі ідэямі, якія яны спавядаюць, — палітыку ў Беларусі.

## «ПРАДЧУВАНЬНІ МАЕ САМЫЯ ЗМРОЧНЫЯ, І Я ТОЛЬКІ ХАЧУ, КАБ ЯНЫ НЯ СПРАЎДЗІЛІСЯ»

Жнівень 1993

***Аляксандар Лукашук, Мюнхэн***

Інтэрвію з Васілём Быкавым.

*— Нядаўна мінула другая гадавіна жнівеньскага камуністычнага путчу. Адразу пасьля яго правалу рэзка актывізаваліся палітычныя працэсы ў рэспубліках, у тым ліку ў Беларусі. Было некалькі грунтоўных намаганьняў дзеля пабудовы дзяржаўнага сувэрэнітэту. Ці не ўпершыню пасьля Аляксандра Чарвякова быў абраны старшыня Вярхоўнага Савету, які гаворыць па-беларуску, была прыпыненая дзейнасьць кампартыі. Чаму, на вашую думку, працэс пераменаў пасьля жнівеньскага штуршка стаў заціхаць, пайшоў некуды назад і ўбок? Што і хто вінаваты?*

— Уся справа ў тым, што гэтая актывізацыя адбывалася ня ў выніку пэўных унутраных працэсаў, а выключна пад узьдзеяньнем зьнешніх абставінаў, у дадзеным выпадку — няўдачы маскоўскага путчу. Камуністычная намэнклятура тады спалохалася, а яна, як правільна некалі зазначыў Зянон Пазьняк, толькі ў стане спалоху і можа прыняць добрае рашэньне. Але гэты спалох паволі мінуў — «дэмакраты» аказаліся зусім лагодныя,

нікога ў Беларусі не арыштавалі, «паляваньня на ведзьмаў» не дапусьцілі, і камуністычны Вярхоўны Савет ды ўрад хутка зразумелі, што «прадзешавілі», што дарма паддаліся дружнаму напору жменькі апазыцыянэраў Народнага Фронту. З таго часу Вярхоўны Савет і ўрад пачалі працаваць на рэстаўрацыю. І калі гэтай рэстаўрацыі дагэтуль не адбылося цалкам, дык за гэта трэба дзякаваць зноў той жа жменьцы апазыцыі БНФ, якая сваёй (я б сказаў, гераічнай) дзейнасьцю сарвала многія спробы такога кшталту і ў Вярхоўным Савеце, і ва ўрадзе. Ну, і яшчэ трэба мець на ўвазе некаторую палітычную няпэўнасьць у Маскве, ад якой памкненьні нашага кіраўніцтва залежаць болей, чым ад чаго-небудзь іншага.

*— Што з таго, што ўпусьцілі дэмакратычныя сілы, своечасова ня здолелі зрабіць, вам уяўляецца найвялікшай стратай? Чаму?*

— Аб тым надта добра сказаў прэзыдэнт Ельцын. Забараніўшы кампартыю, трэба было прызначыць новыя выбары ў Вярхоўны Савет і мясцовыя органы ўлады. Канечне, ва ўмовах Беларусі гэта няшмат дало б, але ўсё ж ад улады былі б адхіленыя самыя зацятыя камуністы, цьвёрдакаменная, сталінскага тыпу намэнклятура, якая дзясяткі год звыкла ўладарыла ў Беларусі.

*— Адно вельмі канкрэтнае пытаньне аб нядаўнім мінулым. На пачатку перабудовы вы, як і многія іншыя дзеячы культуры, як той жа Сахараў, падтрымлівалі Міхаіла Гарбачова. Ды і Гарбачоў, здаецца, прыхільна ставіўся да вас. Калі мясцовыя партыйныя прышыбеевы пачалі шалёнае цкаваньне вас, Алеся Адамовіча, Гарбачоў запрасіў вас у паездку ў Амэрыку, пасьля чаго мясцовая Вандэя мусіла прыкусіць свой брыдкі язычок. Аднак была, мне здаецца, і нейкая недагаворанасьць, адчужанасьць у вашым стаўленьні да Гарбачова. Ці так гэта? Як вы ацэньваеце першага і апошняга прэзыдэнта СССР сёньня, калі зьявіўся ўжо пэўны гістарычны*





*фон і магчымасьць для параўнаньня зь цяперашнімі лідэрамі?*

— Вядома, на пачатку перабудовы шмат якія дэмакратычна настроеныя грамадзяне вельмі падтрымлівалі Гарбачова, ягоныя сапраўды эпахальныя ініцыятывы ў галіне раззбраеньня і міжнароднай палітыкі. І праўда, ён дамогся амаль немагчымага: адхіліў ядзерную катастрофу, на парозе якой стаяў сьвет, дамогся палітычнай разрадкі паміж Усходам і Захадам, аб'яднаў Нямеччыну. Але ўнутры былога Саюзу... Тут ён застаўся традыцыйным генсэкам партыі камуністаў — адна толькі ягоная прыхільнасьць да сацыялістычнага выбару гаворыць пра ўсё астатняе. Тут нашая згода зь ім і канчалася.
Зрэшты, аб ролі Гарбачова ў нашай гісторыі вельмі добра напісаў Алесь Адамовіч у сваёй паліталягічнай працы, якая была надрукаваная ў нашых часопісах. Трэба разумець, што Гарбачоў як палітычная асоба дваякі — таксама, як дваякі быў Хрушчоў ды іншыя малыя і вялікія рэфарматары камунізму. Галоўная іх вартасьць, мабыць, у іх рэфарматарскай наіўнасьці, калі мець на ўвазе, што камунізм ніякай рэфармацыі не паддаецца. Таксама, як і вытворная ад яго эканоміка. Яго можна толькі або прыняць як безумоўную дадзенасьць, альбо адкінуць дарэшты. Адаптаваць яго да якой-небудзь іншай сацыяльнай сыстэмы нельга, аб тым сьведчыць увесь даволі працяглы вопыт у абыходжаньні з гэтай палітычнай зьявай. І калі некаторыя людзі дзеляць ягоных прыхільнікаў на камуністаў і бальшавікоў, на памяркоўных марксістаў-палітэканомаў і радыкальных трацкістаў-рэвалюцыянэраў, дык тым самым упадаюць у схалястыку: вялікай розьніцы паміж гэтымі разнастайнасьцямі няма. На практыцы клясычнае ўвасабленьне камунізму — гэта гвалт, кроў, татальны чэкізм, хіба часам прыкрытыя страката расфарбаваным камуфляжам, як у сучасных вайскоўцаў.

*— Апроч параўнаньня ў часе, мы параўноўваем сябе і ў прасторы. Нашыя паўночныя суседзі, тры балтыйскія дзяржавы, ужо фактычна вярнуліся ў Эўропу; многія на Захадзе не сумняюцца ў эўрапейскай будучыні Ўкраіны. Вы ня раз гаварылі аб унікальным шанцы, які атрымала воляй гісторыі Беларусь для свайго адраджэньня. Ці ня ўпушчаны ўжо і гэты нацыянальны шанец Беларусі, як быў ён вырваны і з рук адраджэнцаў у 1918 годзе? Якія варункі і нацыянальныя рысы, на вашую думку, могуць стаць вызначальнымі ў лёсе Беларусі і беларусаў у агляднай будучыні?*

— Як могуць бачыць менчукі, над будынкам Вярхоўнага Савету Беларусі лунае бел-чырвона-белы сьцяг, а пад ім нязрушна камянее выява старога сярпаста-малаткастага гербу БССР. У тым мне бачыцца красамоўны сымбаль няпэўнасьці нашага часу, яго палітычнай амбівалентнасьці. Здаецца, што Беларусь нерухома завісла ў часе і прасторы паміж дзьвюма несумяшчальнымі стыхіямі — усясьветнай дэмакратычнай і імпэрскай таталітарнай.

Пра палітычныя памкненьні кіраўніцтва я ўжо ўсё сказаў; што ж датычыць народу, дык ён цяпер у разгубленасьці. З аднаго боку, ён разумее, што вяртаньне ў камуністычную казарму — дужа непрыемная справа. Але ў казарме, як вядома, кормяць. А што рабіць на рынку бяз грошай, без тавару, сярод зграі прыежджых і сваіх жулікаў, п'янчуг і хуліганаў? Можна і галаву страціць — тым больш, што нашыя кіраўнікі амаль нічога ня робяць, каб павылавіць тых жулікаў, забясьпечыць хоць які парадак на тым рынку-базары.

А тут яшчэ камуністычная прапаганда кожны дзень трубіць, што ўсё тое — вынік Віскулёў, развалу Саюзу, што будзе яшчэ горш. І сапраўды гэтае «горш» спраўджваецца з кожным месяцам. Ужо няма бэнзіну, цэны жахаюць сваім няспынным ростам, бандыты сталі сьмялейшыя за міліцыянэраў. Расея пагражае зусім адключыць газ і ня даць сыравіны, за якія, зрэшты, нам няма чым плаціць, бо фінансавая сыстэма разваленая дарэшты. І людзі пачынаюць думаць: на якога д'ябла тая сувэрэннасьць, калі зь ёй няма як жыць? Лепш назад — хоць у казарму, хоць у турму. У стойла. Канечне, там было кепска, але, калі рахмана сябе паводзіць, не злаваць начальства (асабліва маскоўскае), дык, можа, яшчэ не дадуць памерці ад голаду і сьцюжы. Гэта Пазьняк даказвае, што ўсё тое — вынік камуністычнага бясправўя. А людзі схільныя бачыць прычыну сваёй непрытульнасьці ў дэмакратах. І сапраўды, мы назіраем цяпер надзвычайную блытаніну прычынаў і наступстваў, якою з пэўнай выгадай для сябе карыстаюцца тыя ж камуністы — ва ўладзе і каля яе.

*— Беларусь і Расея. Як вы ацэньваеце цяперашнія стасункі паміж дзьвюма дзяржавамі — эканамічныя, вайсковыя, палітычныя? Якой вам бачыцца рэальная пэрспэктыва дачыненьняў? Ці згодныя вы зь меркаваньнем, што паўнавартасны сувэрэнітэт — справа багатых краінаў, і Беларусь, як і многія былыя савецкія рэспублікі, эканамічна асуджаная на ролю «меншай сястры»?*

— Роля Расеі ў нашай гісторыі добра вядомая. Тут усё амаль на паверхні. Каб тое зразумець, вялікіх намаганьняў ня трэба. Кажуць, што іншых дачыненьняў, чым тыя, што стагодзьдзі былі між Беларусьсю і Расеяй, і не магло быць, ужо хоць бы з рознасьці патэнцыялаў вялікай і малой нацыі. Увогуле гэта правільна: вялікі ня роўня маломy, бедны багатаму не таварыш.

Ня толькі камуністычная ідэалёгія, але і імпэрская сацыялістычная эканоміка была пабудаваная такім хітрым чынам, што частка яе магла функцыянаваць толькі ў сыстэме цэлага. Вядома, што за гады сталінскіх ды іншых пяцігодак беларуская прамысловасьць была пераўтвораная ў так званую «адвёртачную» вытворчасьць, у зборачны цэх імпэрскага ВПК. Напрыклад, калі ў Менску рабілі балты, дык гайкі ў іх наразалі на

Ўрале (такі быў прынцып сацыялістычнай каапэрацыі), а пасьля гэты болт з навінчанай гайкай везьлі ва Ўкраіну, дзе яны выкарыстоўваліся на зборцы ракетаў, або касьмічных апаратаў, або танкаў, або авіяносцаў, або славутых «калашнікавых», якімі цяпер узброена паўсьвету — і кожнае трэцяе забойства на Зямлі робіцца менавіта гэтай зброяй.
Але вось гнаць поўнапаточныя праграмы ракетна-ядзернага ўзбраеньня стала немагчыма, і наша родная прамысловасьць аблілася сьлязьмі; спыняюцца заводы, звальняюцца высокапрафэсійныя спэцыялісты, няма грошай, няма камплектных, перакрылі газ і бэнзін. Гвалт, крах эканомікі! Таму хутчэй назад, у Саюз, у сыстэму калектыўнай бясьпекі, да «старэйшага брата» зь яго імпэрскай псыхалёгіяй.
Але ці патрэбныя гэтыя меншыя браты старэйшаму брату? Во яшчэ ў чым пытаньне. Мабыць, будуць патрэбныя, калі ўзновіцца ранейшая, імпэрская ідэалёгія, калі па старых праграмах запрацуе магільшчык Расеі — яе ВПК, калі зьявіцца патрэба ў яго зборачных цэхах у Беларусі, калі беларускія хлопцы пойдуць абараняць імпэрскія інтарэсы Расеі ў Сярэдняй Азіі ды іншых рэгіёнах сьвету. І зусім не патрэбныя, калі Беларусь пакончыць з імпэрскімі амбіцыямі і стане нарэшце на сапраўды дэмакратычны шлях разьвіцьця.
Значыць, на маю думку, наш сувэрэнітэт па-ранейшаму ў значнай меры знаходзіцца ў руках «старэйшага брата». Але ў хаце «старэйшага брата» пануе вялікае бязладзьдзе і няпэўнасьць. І гэтая няпэўнасьць перакідваецца на настроі тых, хто вырашае народны лёс у органах улады Беларусі. І яны нэрвуюцца, а часам і дапускаюць паслабкі, як у выпадку зь беларускай сымболікай. Іначай ужо даўно б усё было іначай. Як, скажам, у краінах Балтыі, як у Эўропе, як і ва ўсім сьвеце, дзе не ступала нага сацыялізму і пануе прыватная ўласнасьць.





*— Што значыць для нас, для лёсу Беларусі сучасны гістарычны кантэкст, у якім выяўляецца трагічнасьць нашай эпохі: этнічныя войны, экалягічныя крызісы, спаўзаньне ў галечу цэлых краінаў, нядольнасьць міжнароднай супольнасьці даць рады гэтым выклікам часу? Ці згодныя вы зь меркаваньнем, што сьвет забыўся ўжо ўрокі і жахі дзьвюх усясьветных войнаў і гэта можа дорага каштаваць усім?*

— Як вядома, гісторыя — пераважна крыважэрная драпежная ведзьма, рэдка які народ карыстаецца яе дабрынёй. А так — войны, голад, мор... Асабліва жахлівая доля выпадае тым народам, якія з розных прычынаў спазьняюцца на свой рэй, упускаюць свой шанец. Беларусь, несумненна, спазьнілася. Можа, і не па сваёй віне, а можа, і сама ў тым вінаватая. Ня толькі страціла дзяржаўнасьць, але нават і згубіла ўласную гістарычную назву. Што ўжо казаць пра іншае. З таго ўсё і пачалося. Цяпер, вядома, ня меней жахліва: цяпер шанец яе ў гэтым сэнсе стаў яшчэ меншы. Сьвет зрабіўся больш жорсткі, вольных месцаў у ім няма — ні ў прасторы, ні ў палітыцы, ні ў эканоміцы. Усе нішы занятыя. Добра, калі б былі занятыя памяркоўнымі стварэньнямі, а то пераважна — ня тымі. Што рабіць спазьнелым беларусам? Я не хачу прарочыць, але прадчуваньні мае змрочныя, і я толькі хачу, каб яны ня спраўдзіліся.

*— Ці дзейсная цяпер спадчына адраджэнцаў «расстралянага пакаленьня»? Які ўплыў іх працаў на сябе вы маглі б згадаць сёньня? Ці магчыма вярнуцца да ідэяў тых адраджэнцаў у практычным аспэкце, альбо двойчы ў адну і тую ж раку ўжо не ўвайсьці, жыцьцё вымагае шукаць іншых ідэяў і спосабаў пабудовы Беларусі?*

— Як гэта было прынята ў гады бальшавіцкай дыктатуры, пра дзейнасьць беларускіх адраджэнцаў амаль нічога нідзе не пісалася. А ў тым, што часам прарывалася ў друку, была толькі ацэнка — гэткая сумесь кляцьбы ды

лаянкі. І толькі за мяжой высілкамі беларускай дыяспары што-нішто зьбіралася, захоўвалася, і ў часе маіх некаторых замежных паездак зьяўлялася магчымасьць пазнаёміцца з пэўнымі творамі «расстралянага пакаленьня».
Памятаю, сьпярша гэта быў зборнічак паэзіі Алеся Гаруна, некаторыя творы Ластоўскага, вершы Купалы пачатку 1920-х гадоў. Пра трагічныя і гераічныя вобразы дзеячоў БНР на эміграцыі я пачуў ад Ларысы Геніюш, яе мужа Івана Пятровіча. Першае, і, можа, самае вялікае ўражаньне ад таго — зьдзіўленьне трагічнасьці лёсу гэтых людзей, безагляднасьці іх гераізму ў барацьбе за растаптаную ідэю беларушчыны. Іншыя з раней вядомых паўсталі ў новым абліччы — як, напрыклад, Янка Купала, паэзію якога літаратуразнаўцы нам заўжды трактавалі як апалёгію камуны, шчасьлівае савецкай долі (славуты ляўкоўскі цыкль). А напраўду ягоная палітычная паэзія пачатку 1920-х гадоў — гэта трагічныя гімны беларускасьці, набат трывогі, болю і безвыходнасьці. Не, як бы там ні гаварылі і камуністы, і дэмакраты-згоднікі, перад беларускай інтэлігенцыяй, яе творчым цэхам стаіць усё тая ж ранейшая мэта, вышэй за якую няма і, мабыць, ня будзе, пакуль ідэя адраджэнцаў ня будзе ажыцьцёўленая. За гэтай ідэяй — лёс і гісторыя самага занядбанага народу ў Эўропе, да якога мы маем гонар ці няшчасьце належаць.

*— Некалькі гадоў таму вы досыць пэсымістычна выказваліся пра «Закон аб мовах». Як вы ацэньваеце цяпер працэс беларусізацыі альбо «дэрусіфікацыі» і яго пэрспэктывы?*

— Праблема беларускай мовы ці ня зь ліку вечных беларускіх праблемаў, і, вядома, яна баліць у сэрцах беларусаў болей за іншыя. Асабліва ў сэрцах пісьменьнікаў. І калі высілкамі беларускіх інтэлігентаў (найперш пісьменьнікаў і мастакоў) яна была некалі рубам пастаўленая перад маскоўскім кіраўніцтвам (тым жа Гарбачовым), менскае кіраўніцтва пачало імітаваць (менавіта імітаваць) нейкія меры, каб улагодзіць найбольш няўрымсьлівых нацыяналістаў. Пачалі распрацоўваць «Закон аб мовах». Прызнаюся, спачатку і я тую імітацыю ўважаў за сур’ёзную справу, браў у ёй удзел аж да моманту прыняцьця на Вярхоўным Савеце пастановы «Аб увядзеньні ў дзеяньне «Закону аб мовах». Менавіта з тае пастановы стала відавочна, што ніякага зруху ў праблеме мовы гэты хітры закон ня зробіць, што ўсё тое па меншай меры несур’ёзна, для адводу вачэй, ніхто гэтага закону выконваць ня будзе, ды і створаны ён не для выкананьня. На жаль, таго не зразумелі (ці не захацелі зразумець) некаторыя камуністычныя рупліўцы беларускасьці, якія на поўным сур’ёзе ўключыліся ў тую гульню і гуляюць у яе дагэтуль. Вынікаў ад яе ні на грош.
Праўда, упершыню ў гісторыі беларускага Вярхоўнага Савету па-беларуску загаварыў яго старшыня (хоць ён і дагэтуль гаварыў па-беларуску), але з уплывовых кіраўнікоў дзяржавы ніхто болей. Камуністы распачалі шалёную вайну з нацыянальнай мовай, за «равноправие русскоязычия», і, баюся, што недалёкі той час, калі камуністычная большасьць Вярхоўнага Савету на парадак дня чарговай сэсіі паставіць пытаньне аб «дэбеларусізацыі». Аб скасаваньні нават беларускай дзяржаўнай сымболікі яна ўжо ставіць.

*— Віленская газэта «Наша Ніва» нядаўна прапанавала разглядаць беларускую гісторыю апошніх стагодзьдзяў праз прызму паняцьця «акупацыя» і яго вытворных («калябарант», «калёнія», «марыянэтка») — з аднаго боку і змаганьня з акупантамі — з другога. Цяпер у Беларусі няма зьнешняга акупанта. Чаму ж тады натуральнае права на нацыянальнае адраджэньне, на свабоду даводзіцца адстойваць цяжкімі высілкамі нямногіх?*

— Падлегласьць, несамастойнасьць сталі другой натурай пэўнай часткі беларускага грамадзтва, якая цяпер,

у новых сацыяльна-палітычных умовах, выявіла сваю поўную няздольнасьць ня толькі да разьвіцьця, але і да існаваньня без апекі «старэйшага брата». Я ўжо не кажу пра камуністаў ды іхную намэнклятуру — варта зірнуць на некаторых з тых, хто ўважае сябе за дэмакратаў. Адмаўляючы палітыку БНФ, якую яны лічаць памылковай і празьмерна радыкальнай, бо яна можа разззлаваць таго ж «старэйшага брата», яны паклалі ў аснову свае палітыкі прынцып «нацыянальнай згоды», які на справе ёсьць згодаю з камуністамі — былымі і новымі. Напрыклад, «Славянскі сабор», «Палессе», пісьменьніцкае згуртаваньне баталістаў і марыністаў. Ці во яшчэ так званы «Народны рух Беларусі», які ладзіць цяпер свой кангрэс і ў сваім кіраўніцтве складаецца спрэс зь перафарбаваных камуністаў. Мне думаецца, што не зважаючы на дэмакратычныя назовы, сутнасьць гэтых згуртаваньняў — замаскаваная ці адкрытая калябарацыя з тымі праімпэрскімі сіламі, якія даўно таемна, а цяпер ужо і адкрыта павялі курс на ліквідацыю беларускай дзяржаўнасьці і распачалі падрыхтоўку да рэстаўрацыі БССР у складзе СССР.
Калі менавіта гэта мець на ўвазе, тады робяцца зразумелымі шмат якія дзяржаўныя захады ў Беларусі — ад непрыняцьця новага дзяржаўнага гімну да нафтавай крызы — усё гэта добра распрацаваныя меры ў кірунку вялікай імпэрыі, на гэты раз у складзе БССР і РСФСР. На маю думку, аднак, сьмешная будзе гэтая імпэрыя, і наўрад ці яе створаць праімпэрскія сілы Расеі нават і з дапамогай беларускіх калябарантаў. Але, вядома, крыві народам яны здольныя папсаваць нямала, у тым ліку і беларускаму народу.

*— У Беларусі, як і ў суседзяў, зорка партгасактыву яшчэ ня згасла. У чым, па-вашаму, спэцыфіка намэнклятуры ў Беларусі, ці можна спадзявацца, напрыклад, на карысьць ад яе гаспадарчай, адміністрацыйнай дасьведчанасьці? Ці чакаеце вы радыкальных пераменаў у расстаноўцы палітычных сілаў пасьля новых выбараў у парлямэнт?*

— Зорка партгасактыву — гэта рэшта ад міту пра КПСС, ад яе збанкрутаванай, марксісцкай сакральнасьці. Ня ў стане прэтэндаваць на ранейшую татальную бязгрэшнасьць, камуністы спрабуюць цяпер зьберагчы міт аб высокай прафэсійнасьці яе спэцоў, або хочуць нанова стварыць імідж прафэсіяналаў у рынкавай эканоміцы. Якія яны рынкавыя прафэсіяналы, мы нешта ня бачым, але мы добра бачылі, як яны гаспадарылі ў сацыялістычнай сфэры, як ведалі адно — трубіць пра сацыялістычнае спаборніцтва, якое шырылася і шырылася. Тое мы назіралі дзясяткі гадоў, і цяпер толькі дурань ці злыдзень можа паверыць, што іхныя эканамічныя здольнасьці нечага вартыя. Нічога яны ня ўмелі і не разумелі ў сацыялізьме, ня ўмеюць і ня хочуць разумець — у капіталізьме. Апроч хіба забясьпечаньня чыста шкурных інтарэсаў — кар'еры, выгодаў, прывілеяў, якія дасягаюцца, як вядома, ня так здольнасьцямі рабіць, як здольнасьцю дагадзіць. Тут яны сапраўды майстры — дагаджаць. І гэта ва ўсіх галінах народнага жыцьця — ідэалёгіі, гаспадарцы, культуры, войску, судах, у карных і ва ўсіх іншых органах.
Новыя выбары, якія ўсё ж некалі будуць — цяпер галоўны боль нацыянальнай дэмакратыі. Мусіць, ад іх будзе залежаць усё ў найбліжэйшай будучыні Беларусі. Сапраўды, каго выбіраць? І як выбіраць? Пры цяперашняй палітычнай апатыі грамадзтва вельмі нават магчыма, што да салодкага пірага ўлады пралезуць ня самыя лепшыя, а як і раней — самыя нахабныя, бессаромныя, хцівыя, усё тыя ж камуністы, хіба што адаптаваныя да новых умоваў, але з ранейшымі мэтамі. Ну, але што рабіць — чаго вартыя, тое і маем.

*— На пачатку пазбаўленьня ад таталітарызму многія асаблівыя надзеі ўскладаліся на вяртаньне да Бога, на адраджэньне рэлігіі — як у пляне практычнай маралі,*

*так і ў вырашэньні глябальных пытаньняў жыцьця і сьмерці. Як вы цяпер ацанілі б тыя спадзяваньні і рэальную ролю царквы ў грамадзтве?*

— Канечне, гэта выдатна — вяртаньне народу яго традыцыйнай рэлігіі, зварот да хоць якой-небудзь духоўнасьці ў нашым спрэс бездухоўным, матэрыяльным сьвеце. Баюся толькі, што ва ўмовах посттаталітарнага грамадзтва гэтае вяртаньне ня дасьць таго плёну, на які можна было б разьлічваць. Мусіць, як і ў іншых сфэрах жыцьця, у рэлігіі патрэбная непарыўная сувязь часоў; выпаданьне з гісторыі пэўнага (і вялікага) прамежку, вядома ж, не на карысьць нават і такой магутнай тысячагадовай традыцыі, якой зьяўляецца хрысьціянства. Новыя пакаленьні ня маюць магчымасьці пераняць ад бацькоў і дзядоў веру і дагмат царквы, ім трэба дайсьці да іх самахоць, з уласнай патрэбы, а час для таго ня самы спрыяльны. Зноў жа, нельга не ўлічыць старой праблемы дзьвюхканфэсійнасьці ў Беларусі, праваслаўнага расейскамоўя. Ды і агульнавядомая сэрвільнасьць пэўнай (і вялікай) часткі царкоўнага кліру ў форме супрацоўніцтва ня толькі з партыйнымі органамі... Усё тое ня робіць простай і лёгкай праблемы вяртаньня хрысьціянства да народу, або вяртаньня народу да Хрыста. Надта шмат перашкодаў за гады ўтварылася перад імі.

*— У новай праграме БНФ заяўленая тэза аб парытэце правоў нацыі і правоў чалавека. Ці рэальнае мірнае суіснаваньне гэтых двух прынцыпаў, ці няма тут небясьпекі для дэмакратыі, падпарадкаваньня індывідуальнага калектыўнаму, ад імя і дзеля імя якога вяршыліся самыя чорныя старонкі савецкай гісторыі? Ці маюць рацыю тыя, хто папярэджвае аб разбуральным вірусе нацыяналізму ў Беларусі, які пагражае міру і грамадзкаму спакою?*

— Маё глыбокае перакананьне палягае ў тым, што без





забесьпячэньня правоў нацыі немагчыма забясьпечыць правы асобнага чалавека. Гэта ў дэмакратычных грамадзтвах, дзе магчымасьці грамадзтва забясьпечаныя поўнасьцю, дзе добра арганізаваныя і нармальна функцыянуюць усе дзяржаўныя арганізмы, застаецца толькі забясьпечыць нармальныя правы індывіда. А калі пагарджаюцца правы асноўнай нацыі, калі яна пазбаўленая магчымасьцяў аўтаномнага разьвіцьця? У такіх умовах, здаецца мне, прыярытэты павінны быць крыху іншыя за тыя, што прынятыя ў сучасным дэмакратычным сьвеце.
Гаворка пра «разбуральны беларускі нацыяналізм» зусім беспадстаўная. Наш нацыяналізм цалкам заснаваны на стваральнай нацыянальнай тэндэнцыі, і хаця скіраваны сваёй увагай на інтарэсы беларускай нацыі, але тое ня ў шкоду іншым нацыям, наадварот — на карысьць іхнаму разьвіцьцю таксама. Беларусы маюць вялізны вопыт суладнага існаваньня зь іншымі нацыямі і маюць намер ім карыстацца надалей — на карысьць усім. Праблема найперш палягае ў стаўленьні да нас. Нашае ж стаўленьне да расейцаў, палякаў, літоўцаў, габрэяў, татараў ды іншых самае спрыяльнае — як гэта і было на працягу многіх стагодзьдзяў нашага сумеснага існаваньня. За што беларусы і прыдбалі славу самага талерантнага народу ў Эўропе. Часам нават залішне талерантнага, як на маю думку. Асабліва да безумоўнага зла і насільля.

*— Беларуская інтэлігенцыя — якая яна, чым патлумачыць яе невыразную ролю ў палітычным жыцьці рэспубліцы? Пасьля ўтварэньня БНФ у канцы 1988 году мінула амаль пяць гадоў, але кола лідэраў і актыўных прыхільнікаў гэтага руху застаецца амаль нязьменным. За выключэньнем адной-дзьвюх асобаў, не далі сьвежых імёнаў і новыя партыі. Не чуваць у палітыцы і маладых галасоў, якія так гучна і хораша пачыналі ў «Талацэ», «Тутэйшых», іншых маладзёвых суполках. Чаму?*

— Калі коратка адказваць на гэтае пытаньне, дык прычына — задоўжаная камуністычная мэнтальнасьць нацыянальнай інтэлігенцыі. Гэта некалі нашая інтэлігенцыя была народнай. Ды ўжо даўно яна страціла адзнакі народнасьці й ператварылася ў элітарную частку той жа камуністычнай партыйнасьці.
Творчая інтэлігенцыя сталася такой з прычыны апантанай яе ідэалягізацыі — у школе, камсамоле, ВНУ, у партыі, яе змушанай творчай сэрвільнасьці ў дачыненьні да ўлады. Тэхнічная і навуковая інтэлігенцыя — гэта нявольнікі ВПК (дагэтуль добра, аднак, аплачваныя), спэцы ракетнае і іншае зброі, космасу, атрутных рэчываў ды вайсковай тэхнікі. Сельская інтэлігенцыя — рупная паслугачка райкамаў у іх дачыненьні да сялянскіх масаў. Менавіта зь яе ўдзелам ажыцьцяўлялася ўся безьліч партыйных ініцыятываў на вёсцы — ад колішняй калектывізацыі і падпіскі на пазыку да паліт-адукацыі, выкананьня розных гаспадарчых плянаў. Выхоўваючы ў якасьці таталітарных нявольнікаў сялянства, яна і сама адпаведна выхоўвалася. Так сказаць, у поўным адзінстве з народам. Сталася так, што рэдка якога настаўніка ў школе можна было знайсьці беспартыйнага, па-беларуску гаварылі адно настаўніцы беларускай мовы, зарплата якіх была ўрэзаная ў параўнаньні з настаўнікамі расейскай мовы.
Наконт самадзейных рухаў... Сапраўды, многія з тых, хто некалі пачынаў справу дэмакратыі і беларусізацыі, адышлі ад яе, безнадзейна махнуўшы рукой: маўляў, усё бескарысна! І гэта ня самыя горшыя — можа, самыя нецярплівыя. Іншыя пабеглі зноў да камуністаў. Нядаўна славуты кінарэжысэр, народны артыст БССР радасна абʼявіў у друку, што ніколі і не выходзіў з партыі камуністаў і захаваў свой білет. Зноў жа трэба мець на ўвазе, што пэўная колькасьць тагачасных руплiўцаў была ўкаранёная ў дэмакратычныя рухі кампэтэнтнымі органамі, і цяпер адпала ад тых рухаў, калі пахіснуліся органы. Мабыць, цяпер у іх іншыя задачы. Якія? Я думаю, гэта неўзабаве высьветліцца, хоць радасьці з таго нам будзе няшмат.

*— Як вы ацэньваеце сучасны літаратурны працэс у Беларусі — і з гледзішча здабыткаў і стратаў, і з гледзішча тэндэнцыяў? Што адбываецца, чаму сьціхла яшчэ нядаўна гаманкая пісьменьніцкая грамада? Ці ўспрыняла беларускае мастацтва ўвогуле (тэатар, кіно, жывапіс, графіка, скульптура) палітычныя, псыхалягічныя перамены апошніх гадоў?*

— Літаратурны працэс у Беларусі прыціх, замёр, нібыта чагосьці чакае. Зрэшты, тое зразумела. Працягваць у ранейшым сэнсе было б дурнотай. Пачынаць у новым — але хто ведае, якім? Мабыць, працэс спакваля назапашвае мысьленчую энэргію, а пасля нешта будзе. Толькі што? Тут цяжка нешта прарочыць, жыцьцё болей складанае, хітрае і разумнае, чым самыя дасканалыя прароцтвы. Ужо ёсьць, хай сабе першыя, адзнакі таго. Вось, напрыклад, нядаўна надрукаванае ў «ЛіМе» апавяданьне Алеся Наварыча «Кажух». Выдатны твор, на мой погляд, зародак новага кірунку ў нацыянальнай літаратуры. Дай Бог шчасьлівага літаратурнага лёсу ягонаму аўтару.

*— Вас даўно ведае самы шырокі чытач, вы былі народным дэпутатам СССР, вашае слова было чуваць і сябрам, і ворагам. Ці задаволеныя вы тым, як пражытыя гэтыя апошнія гады?*

— Толькі злыдзень ці дурань можа быць задаволены гэтымі пражытымі гадамі. Гадамі зь безьліччу трывог, надзеяў і расчараваньняў. Хіба тое грэе, што найлепшыя гады Беларусі ўсё ж наперадзе. Толькі як доўга ісьці да іх — во ў чым праблема. Многім ужо не дайсьці.

*— Чаго вы больш за ўсё баіцеся цяпер і на што спадзяецеся? Як бы вы адказалі цяпер на пытаньне: што рабіць?*

— Самае кепскае — палітычны анабіёз нацыі. Самае неабходнае — прачнуцца і падняцца з калень.

## ВАСІЛЮ БЫКАВУ СПОЎНІЛАСЯ 70 ГАДОЎ

22 чэрвеня 1994

***Сяргей Навумчык, Менск***

19 чэрвеня Беларусь сьвяткавала 70-я ўгодкі з дня нараджэньня Васіля Быкава.

Удзельнікаў урачыстасьцяў, што адбыліся ў менскім сквэры Янкі Купалы і ў сядзібе БНФ, непрыемна ўразіла, што сярод сотняў віншавальных тэлеграмаў не было прывітаньняў ад старшыні парлямэнту і кіраўніка ўраду. Гэта можа даволі аб'ектыўна характарызаваць цяперашняе кіраўніцтва Беларусі, пра якое праз сотню гадоў будуць згадваць хіба ў кантэксьце біяграфіі геніяльнага пісьменьніка.

## ВЭТЭРАНАЎ ВАЙНЫ-АКТЫВІСТАЎ БНФ НЕ ПУСЬЦІЛІ ДА ПОМНІКА ПЕРАМОГІ

8 ліпеня 1994

***Сяргей Навумчык, Менск***

Падзеі, якія адбыліся каля помніка Перамогі ў Менску падчас сьвяткаваньня 50-й гадавіны вызваленьня Беларусі, нагадалі многім удзельнікам адзначэньне Дзядоў у 1988 годзе.

Лідэры БНФ атрымалі афіцыйны дазвол на шэсьце калёны Народнага Фронту па праспэкце Скарыны і ўскладаньне кветак. Калёна рушыла з плошчы Незалежнасьці — адразу за калёнай камуністаў. Акрамя дзяржаўнага бел-чырвона-белага сьцяга, народафронтаўцы несьлі сьцягі дзяржаваў-удзельніц антыгітлераўскай кааліцыі. Шэсьце было дазволенае, але шлях народафронтаўцам двойчы перапыняў міліцэйскі кардон. На скрыжаваньні праспэкту Скарыны і вуліцы Янкі Купалы міліцыя не пажадала прапусьціць калёну і спрабавала ўжыць сілу. На чале калёны былі дэпутаты Вярхоўнага Савету — асобы, паводле закону, недатыкальныя. У першых шэрагах ішлі таксама Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, дзясяткі вэтэранаў з ордэнамі і мэдалямі. Калі калёна падышла да плошчы Перамогі, насупраць яе паўсталі хлопцы ў чорных кашулях са сьцягамі СССР. Міліцыя выставіла кардон, аднак праігнаравала просьбу дэпутатаў забясьпечыць праход да помніка. З ініцыятывы Зянона Пазьняка калёна разгарнулася і пайшла да помніка Янкі Купалы. Удзельнікі імправізаванага мітынгу назвалі ініцыятараў правакацыі «камунафашыстамі».

## «НЕ БАІЦЕСЯ СУДУ ГІСТОРЫІ — ПАБОЙЦЕСЯ ПРЫСУДУ НАШЧАДКАЎ»

25 сакавіка 1995

У гадавіну абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі й за некалькі тыдняў да рэфэрэндуму аб дзяржаўнасьці беларускай мовы і зьмене дзяржаўнай сымболікі да грамадзянаў Беларусі зьвяртаецца Васіль Быкаў.

— Тыя, што сваёй нацыянальнай воляй больш за семдзесят гадоў таму абвясьцілі стварэньне Беларускай На-

роднай Рэспублікі, былі людзі розныя, узгадаваныя ў розных кутках Беларусі, у розным сацыяльным і палітычным асяродзьдзі. Але яны былі задзіночаныя сьвятой мэтай — здабыць волю свайму занядбанаму, гаротнаму народу. І яны ведалі спосаб дамагчыся таго: не які-небудзь адмысловы ці звыродлівы, а адзіна правільны, цалкам дэмакратычны спосаб, апрабаваны шмат якімі народамі сьвету, — прыдбаць уласную дзяржаву. Незалежна ад іншых, хай сабе і болей багатых, болей дужых, можа, і болей разумных, але — сваю. Як у людзей. І зажыць, як людзі, як жылі тады і сталі жыць цяпер людзі ў Эўропе. Дамагчыся таго ім не далі. Ня даў час, не далі абставіны, можа, і самі яны не былі гатовыя да зьдзяйсьненьня тае сваёй заўчаснай сувэрэннасьці, прынамсі, ня ўсе гатовыя сацыяльна і псыхалягічна. Але галоўнае — не дала зьдзейсьніць таго сіла, грубая, чыгунная сіла Ўсходу і Захаду, што зрушыла, растаўкла і збэсьціла, зжавала і выплюнула, бо ёй не смакавала. Бо ёй, той сіле, не было справы да сьвятога памкненьня, чалавечага і Боскага права беларусаў на людзкае жыцьцё. Ім бліжэй быў уласны клопат пра ўласныя імпэрскія інтарэсы. Час быў такі, такая была гісторыя, і геапалітычныя абставіны таго вымагалі. Зрэшты, як заўжды і ўсюды. Але ж час зьмяніўся. Пачатак стагодзьдзя перарос у сярэдзіну, і нарэшце блізіцца ягоны канец. А мы — ізноў ля разьбітага карыта. Ізноў — адны толькі мары. Толькі марныя спробы і няпэўная кволая спадзяванка, якую топчуць і глушаць на ўсіх узроўнях і ўсімі магчымымі сродкамі.
І нацыя ўсё глыбей падае ў прорву галечы і злыбеды, ня маючы права хоць бы гучна заплакаць. Ня кажучы ўжо пра крык, каб дапамаглі. Не дапаможа ніхто, як не памагаў ніколі. Гісторыя любіць парадоксы і часам гуляе зь людзьмі ў свае злыя гульні. Абяцанка — цацанка, надзея — матка дурных. Тое вядома даўно. Колькі разоў лёс сьмяяўся з даверлівасьці беларусаў, з нашай вясковай дурноты! Здавалася б, пара б чаму-небудзь і навучыцца. Не, ня вучымся. Як дурні ў начным полі, бяжым на кожны мільготкі агеньчык, каб тут жа забрысьці ў балота. Выбраўшыся, брыдзем у другі бок, на зычны прызыўны крык — абы быў мацнейшы. Ізноў — ня тое, ізноў — ашуканства. Бяда, катастрофа!.. Колькі таму доўжыцца ў нашай гісторыі?
Але такой бяды, якая цяпер грукае ў нашы дзьверы, мабыць, яшчэ не было ніколі: каб так паверылі і так ашукаліся. Каб так блізка была мара, рэдкая і адзіна рэальная магчымасьць зрабіцца людзьмі. Без крывавай рэвалюцыі, паўстаньняў, бяз жаху разбурэньня. І гэтак хутка настала расчараваньне! Бо — не хапае. Чаго не хапае? Сілы, розуму, пасьлядоўнасьці? Не хапае волі. На гэты раз аднае згуртаванай нацыянальнай волі да самастойнага жыцьця. І ўрокі гісторыі нас ня вучаць. Але тады яны жорстка караюць, гісторыя — настаўніца дужа суровая, вялікі грэх — яе ня слухаць. Прыслухайся ж да яе, Беларусь! Падумай, у які бок кіравацць. Ці ў той, у які кіравала дагэтуль, і адкуль ня можаш выкараскацца, ці, можа, у іншы. Вырашай, Беларусь, бо пасьля — будзе позна. Да твайго вырашэньня, выбару засталіся лічаныя тыдні, а пасьля як бы ізноў, і каторы раз, не давялося спазьнела кусаць уласныя локці. Падумай! Калі не пра сябе — пра сваіх нашчадкаў падумай, пра малых і слаўных хлапчукоў і дзяўчынак. Што мы ім нарыхтавалі да іхнае будучыні? Што яны скажуць пра нас, цяперашніх? Зьнімуць шапкі перад крыжамі нашых магілаў, ці пройдуць абы-як, а то яшчэ і плюнуць у наш бок, калі мы будзем такія недарэкі, злачынцы перад гісторыяй?
Не баіцеся суду гісторыі — пабойцеся прысуду нашчадкаў. Падумайце. Малю вас, беларусы, дый не беларусы — таксама.

## «НАВАТ ЯЎНАЯ ПАРАЗА НЕ ПАВІННА АДКІНУЦЬ НАС АД НАШАЙ СПРАВЫ, БО ТАЯ СПРАВА — СЬВЯТАЯ»

10 красавіка 1995

У Менску адбыўся чацьверты зьезд БНФ. Адкрыў зьезд сябра БНФ Васіль Быкаў. Ён цяпер вельмі рэдка выступае — да таго ж, відаць, ніводны з афіцыйных СМІ не падасьць ягонай прамовы, таму прапануем вам ягоны выступ цалкам.

— Шаноўныя спадары і спадарыні! У грамадзкім жыцьці краіны людзі са зьдзіўленьнем і жахам вымушаныя назіраць дзівоснае перараджэньне звыклай для грамадзтва кампартыйнай уладарнасьці ў новую палітычную фармацыю з выразным фашыстоўска-дыктатарскім адценьнем. Часам здаецца парадаксальным тое, быццам бы ненатуральнае, збліжэньне дзьвюх супрацьлеглых зьяваў і сыстэмаў, адна зь якіх пяцьдзясят гадоў таму перамагла другую. Але ці так гэта парадаксальна? Ці так ужо несумяшчальныя тыя зьявы і сыстэмы? Нават на сымбалічным, знакавым узроўні чырвонае і карычневае ў каляровым спэктры ляжаць побач, яны адрозьніваюцца хіба што адценьнем. Аднолькава чырвоныя сьцягі розьняцца толькі дэталямі: са свастыкай у адных ды сярпом з молатам у другіх. Галоўнае, што робіць блізьнятамі два некалі варожыя рэжымы — гэта звыклая стаўка на грубую паліцэйска-вайсковую сілу ды нястрымная папулісцкая дэмагогія ў адносінах да народу. Ушчэнт дыскрэдытаваўшы сябе за болей як семдзесят гадоў, партыя камуністаў хапаецца цяпер за апошнюю магчымасьць самазахаваньня, яна бессаромна мімікруе, перацякае з дапамогай спэцслужбаў у іншыя партыі й рухі, дружна зьліваецца з фашызмам. Галоўная яе мэта ў нас ці ў Расеі адна — рэстаўрацыя нядаўна яшчэ магутнай ядзерна-ракетнай





імпэрыі, безь якой існаваньне камунафашызму пазбаўленае сэнсу.
Зрэшты, камунафашызм ня грэбуе задачамі й болей сьціплага маштабу, маленькімі перамогамі на ўскраінах былой імпэрыі, «блізкага замежжа», пракамуністычныя рэжымы якіх па-ранейшаму зьяўляюцца марыянэткамі ў чужых руках. Некаторыя краіны гэтага «замежжа» выкарыстоўваюцца ў якасьці адмысловых палігонаў для адпрацоўкі болей значных плянаў, у выніку чаго ўзьнікаюць крывавыя авантуры кшталту чачэнскай. У іншых ідзе вялы працэс — накшталт «далучэньня Расеі да Беларусі», як адмыслова выказаўся ў Менску небезьвядомы ўсім «сын рускай і юрыста».
Наша выканаўчая ўлада, усе гэтыя выканкамы, прэзыдэнцкія вэртыкалі, а таксама пракуратура, суды, сродкі масавай інфармацыі — усе дружна працуюць толькі на наваяўленую дыктатуру, якая хутка набірае моц і пагражае ператварыцца ў вайсковую дыктатуру лацінска-амэрыканскага тыпу. Рэфэрэндум з мэтай вынішчэньня нацыянальнай мовы і дзяржаўнай сымболікі — толькі першы крок у чарадзе іншых, можа, болей страшных, антыдзяржаўных і антыдэмакратычных мераў новага кіраўніцтва. Наша заканадаўчая ўлада недасканалая традыцыйна — намэнклятурная, камуністычная па сваёй мэнтальнасьці. Але і яна стала перашкодай на шляху ўсталяваньня камуністычна-фашыстоўскага рэжыму, як і хуткія выбары, што ў вачах міжнароднай грамадзкасьці яшчэ да свайго пачатку ператвараюцца ў бяздарны рытуальны фарс. Дыктатарскай уладзе ня трэба ніякіх выбараў, ёй трэба пэўнасьць, гарант, каб сапраўды — усур'ёз і надоўга. Як колішні знакаміты Трэці райх, заплянаваны на тысячу гадоў, але пагарэлы за дзесяцігодзьдзе. Але нават фашыстоўскія ўрокі не ідуць на карысьць імпэрскім рэаніматарам. Камунафашызм не прызнае ніякіх гістарычных урокаў, ён хоча быць творцам гісторыі.
Так, камунізм стаў зьменлівы і шматаблічны, зь дзівос-

най здольнасьцю да пераўтварэньня. Ён жвава падладкоўваеца пад сацыял-дэмакратыю, яднаецца з архаікай панславізму, перацякае ў камунафашызм, уцягваючы ў сваё атрутнае асяродзьдзе люмпэнізаваныя ды маргінальныя элемэнты, утвараючы асабліва небясьпечную выбуховую сумесь. Тая сумесь здольная на самыя нечаканыя выверты — спрэс, аднак, антыдэмакратычнага, антынацыянальнага, антычалавечага кшталту. Здаецца, гэта апошні шанец усясьветнага камунізму. Але драматызм сытуацыі ў тым, што і для нашай спазьнелай дэмакратыі канец XX стагодзьдзя таксама ёсьць ці не апошнім шанцам. Вось гэтыя шанцы і сышліся разам, каб цяперашнім пакаленьням вырашыць — хто каго.

Што ж у гэтых умовах можа нацыянальная дэмакратыя, яе палітычны авангард — Беларускі Народны Фронт? Недэмакратычныя, тым болей амаральныя мэтады для нас прынцыпова недапушчальныя. Неадэкватныя адпадаюць самі сабой. Што ж застаецца? Папулізм — як адзіна магчымы з адносна прымальных сродкаў, таксама заезджаны, запэцканы, а ў нашых умовах, па сутнасьці, адыёзны, як і іншыя сродкі з багатага арсэналу нашых праціўнікаў. Наўрад ці гожа БНФ карыстацца імі. Усё ж існуе нешта вышэйшае за палітычную ці іншую мэтазгоднасьць, вышэй за яўны і прагматычны палітычны разьлік. Ці гожа забываць, нават у цяжкія часіны, на пэўныя імпэратывы зь ліку хрысьціянскай этыкі, эвангельскай маралі, чалавечага сумленьня, нарэшце?

У гэтым сэнсе маральны рыгарызм Беларускага Народнага Фронту і ягонага лідэра — той каштоўны капітал, якім валодае цяпер мала якая партыя, і ня толькі ў Беларусі. Гэта маральная сіла зь несумненным палітычным эфэктам — хіба, можа, скіраваная ня так у сучаснасьць, як у будучыню. Асабліва калі мець на ўвазе, што наш рух — не на пяць гадоў, што мы лучым у далёкую гістарычную пэрспэктыву, нават калі яна будзе належаць ня нам. Але ўсё роўна яна будзе належаць Беларусі. Мы ня цешым сябе хуткай і лёгкай перамогай — лёгкай перамогі, відаць, ня будзе. Але нават яўная параза не павінна адкінуць нас ад нашай справы, бо тая справа — сьвятая. Яна дзеля народу, дзеля нашай занядбанай нацыі, дзеля чалавецтва і чалавечнасьці. Дзеля дэмакратыі і гісторыі, нарэшце. Будзем жа і надалей сумленнымі перад нашай шматпакутнай гісторыяй. Жыве Беларусь!





## «КРАІНАЙ ЗАКІРУЕ ПРЭЗЫДЭНЦКАЯ ХУНТА»

19 красавіка 1995

> Прэзыдэнт Аляксандар Лукашэнка выступіў з ініцыятывай рэфэрэндуму — ён прапануе скасаваць бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня» ў якасьці дзяржаўных сымбаляў, ліквідаваць статус беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, а таксама хоча падтрымкі курсу на эканамічную інтэграцыю з Расеяй і права прэзыдэнта распускаць Вярхоўны Савет.

9 красавіка дэпутаты апазыцыі БНФ правялі мітынг ля будынку Вярхоўнага Савету па вуліцы Карла Маркса, які прайшоў у атачэньні падразьдзяленьняў міліцыі. У ноч з 11 на 12 красавіка дзевятнаццаць дэпутатаў апазыцыі БНФ, якія на знак пратэсту супраць рэфэрэндуму абвясьцілі галадоўку — Мікалай Аксаміт, Сяргей Антончык, Лявон Баршчэўскі, Юрась Беленькі, Ігар Гермянчук, Валянцін Голубеў, Уладзімер Заблоцкі, Барыс Гюнтэр, Лявон Дзейка, Лявонці Зданевіч, Мікалай Крыжаноўскі, Мікола Маркевіч, Віталь Малашка, Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк, Сяргей Папкоў, Пётра Садоўскі, Алег Трусаў і Аляксандар Шут — былі зьбітыя ў Авальнай залі парлямэнту байцамі невядомага спэц-

падразьдзяленьня ў чорных масках. Празь некалькі гадзінаў большасьць дэпутатаў Вярхоўнага Савету прагаласавала за прапанову прэзыдэнта Лукашэнкі аб правядзеньні рэфэрэндуму.

*В.Быкаў:* Вельмі хацелася б памыліцца, згледзець усё як эпізод у няпростых калізіях палітычнага змаганьня ў Беларусі, але, здаецца, памыліцца тут немагчыма. Тое, што адбылося ў апошнія дні, ёсьць нечым іншым, кшталту прэлюдыі фашыстоўскага перавароту, калі група асобаў учыняе крывавую лазьню ў сьценах парлямэнту і захоплівае ўсю паўнату ўлады ў краіне. Адбылося тое, што нядаўна адбывалася хіба што ў шэрагу лацінскаамэрыканскіх краінаў, у чорнай Афрыцы, некаторых краінах Азіі. Але што цікава: нідзе той дыктатарска-фашыстоўскі рэжым не затрымаўся надоўга. У крайнім выпадку, яго хутка зьмяняў такі ж, хоць і пад іншым кіраўніцтвам, які ставіўся да сваіх папярэднікаў гэтак сама бязьлітасна, як тыя ставіліся да сваіх. У нас жа вельмі непрыемна і нават страшна, што ўсё тое інсьпіравана зьверху, пад кіраўніцтвам быццам бы дэмакратычна абранага прэзыдэнта, у руках якога і без таго засяроджаная вялізарная сіла. Раней ён тую сілу праз сваю славутую вэртыкаль пагрозьліва рэалізоўваў на плошчах ды вуліцах, якія захапілі ўзброеныя фармаваньні зь іхнай тэхнікай, як гэта было 9 красавіка, і з арыштам кожнага, хто ў дзень угодкаў БНР адважваўся ўзяць у рукі беларускі нацыянальны сьцяг. Цяпер іх судзяць у розных судах сталіцы.
Але самае на ўвесь сьвет ганебнае ён учыніў у парлямэнце, калі прымяніў сілу да жменькі непакорнай апазыцыі. Нават кішэнны, паслухмяны і пракамуністычны Вярхоўны Савет стаў для яго перашкодай. Але перашкодай на шляху — куды? Ведама ж, устанаўленьня асабістай дыктатуры, каб «усур’ёз і надоўга». Сёньня ён перамог рукамі «гарылаў» у чорных масках. Ужо пэўна, што ў Беларусі ня будзе парлямэнту, ня будзе дэмакратычных выбараў, зьнікнуць рэшткі вольнае прэсы. Краінай закіруе прэзыдэнцкая хунта, а як кіруе хунта — мы добра ведаем зь нядаўняга вопыту. Беларусь падае яшчэ глыбей у прорву палітычна-эканамічнага крызісу, на выйсьце зь якога страчваюцца апошнія спадзяваньні. Што ж, можна хіба павіншаваць беларусаў зь мінулымі выбарамі. Горай — ня зробіш. Для сябе, для грамадзтва, для нашчадкаў — таксама.





## «ЭНТУЗІЯЗМУ НЯМА Ў НАЦЫІ, І ЯГО НЯ МОЖА БЫЦЬ І Ў ПІСЬМЕНЬНІКА»

7 траўня 1995

***Сяргей Плыткевіч, Менск***

Беларусь сьвяткуе 50-я ўгодкі перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Але чамусьці ў многіх людзей няма сапраўднага сьвяточнага настрою, апошнія тыдні ў грамадзтве зьявілася нават нейкая трывога. Пра сёньняшні дзень Беларусі і пра яе мінулае мы гутарым з народным пісьменьнікам В.Быкавым.

*— Набліжаецца дзень перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Гэты сьвяточны дзень мог бы аб’яднаць наш народ, але ён можа стаць і прычынай чарговага канфлікту. Вы ўзначальваеце грамадзкую камісію сьвяткаваньня перамогі, і вы пастанавілі ня ўдзельнічаць у афіцыйным сьвяткаваньні. Чаму?*

— Улады нават такое найважнейшае мерапрыемства як 50-годзьдзе нашай перамогі над нямецкім фашызмам, як заўсёды, стараюцца выкарыстаць у сваіх палітычных мэтах. Таму ня можа быць ніякай гаворкі пра нейкія «ўсенародныя» мерапрыемствы, усенародную ўрачыс-

тасьць, а ўсё сплянавана такім чынам, каб павялічыць магчымасьці ўлады, тых, хто гэтую ўладу мае. Гэтаму служаць і распрацаваныя сцэнары гарадзкіх мерапрыемстваў, у тым ліку і «парады Победы», якія, канечне, будуць праводзіць. Хаця, здаецца, што праводзіць? Якія могуць быць парады для такой арміі, якой зьяўляецца цяпер беларуская, — хаця яна ніколі, канечне, не была беларускай арміяй. Таму дэмакратычныя вэтэраны і наш камітэт альтэрнатыўны прынялі рашэньне адмовіцца ад гэтай помпы, ад гэтага ажыятажу палітычнага. І ціха і сьціпла адзначыць гэты дзень тым, што мы сходзім на некаторыя магілкі, пакладзём кветкі... Але ўсё гэта будзе адбывацца без усялякай заарганізаванасьці, проста вельмі па-чалавечы, можна нават сказаць, вельмі інтымна, як і патрабуе момант.

*— Беларусь называлі «рэспублікай-партызанкай», дзесяцігодзьдзямі гаварылі, што наша зямля «гарэла пад нагамі ворагаў», што кіравалі партызанамі-падпольшчыкамі выключна камуністы. І цяпер камуністы спрабуюць прысвоіць перамогу. Але ж мы ведаем, што было і іншае падпольле, і што шмат у чым камуністычнае кіраўніцтва — гэта міт.*

— Так, відаць, падпольлі былі розныя, гэта безумоўна. Ну, але рэч у тым, што камуністы, як выразьнікі таталітарызму, яны не маглі прызнаць нікога побач з сабой, апроч сваіх людзей. І таму мы ведаем, як берыеўскія органы выдавалі сваім калегам з гестапа падпольшчыкаў Менску, якія тут арганізаваліся самастойна, не пад эгідай маскоўскіх чэкісцкіх органаў, а проста з патрыятычных меркаваньняў, каб змагацца зь нямецкімі захопнікамі. Але вось іменна гэтая непадлеглая барацьба была, відаць, непрымальная для чэкістаў, для Берыі са Сталіным, і яны змагаліся з гэтым падпольлем — неафіцыйным, альтэрнатыўным, ці, як яго можна назваць, патрыятычным, беларускім падпольлем — з такой жа лютасьцю, як і зь нямецкімі фашыстамі.





Гэта, канечне, яшчэ адна трагічная старонка вайны, якая не раскрытая дагэтуль ні ў літаратуры, ні ў гістарыяграфіі.

*— Пасьля вайны, калі рэспублікай кіравалі партызаны, менавіта і гаварылі, што «рэспубліка-партызанка». Ці гэта міт, ці гэта праўда — кіраваньне менавіта партызанамі?*

— Ну, гэта, відаць, ня міт. У 1944 годзе, улетку, пасьля вызваленьня Беларусі, народ, мужчыны (прынамсі, прызыўнога ўзросту) пайшлі ў войска, у савецкую армію, працягвалі барацьбу на франтах, у тым ліку і многія партызаны. Многія зь іх загінулі пасьля ва Ўсходняй Прусіі, пад Варшавай, а таксама ў Бэрліне. Але — кіраўніцтва партызанскае, чэкісцкае кіраўніцтва было пакінутае тут. Яны тут будавалі савецкую ўладу. Гэта даволі цікава: толькі некаторыя з партызанскіх камандзіраў пайшлі далей ваяваць у войска. Астатнія былі пакінутыя тут, незалежна ад таго, пражывалі яны на гэтай тэрыторыі да вайны, ці тут апынуліся да пачатку вайны выпадкова. Яны будавалі тут савецкую ўладу. Натуральна, што партызанскія камандзіры занялі ўсе кіраўнічыя пасады па лініі савецкай улады, па лініі партыйнай улады, па лініі органаў НКВД і ва ўсіх іншых «органах». Таму можна сказаць, што кіраўніцтва было менавіта партызанскае. І кіравалі яны рэспублікай ранейшымі партызанска-чэкісцкімі мэтадамі.

*— Так атрымалася, што вы заўсёды аказваліся ў апазыцыі да ўлады. Няўжо за ўсё вашае жыцьцё ў кіраўніцтве рэспублікі не было прыстойнага чалавека?*

— Відаць, прыстойныя людзі былі. Як заўсёды — менш прыстойныя і больш прыстойныя. Але я ніколі не ўваходзіў у органы ўлады, я быў проста грамадзянінам, і таму я ня меў зь імі справы ў такой меры, каб мне можна было меркаваць, якія гэта людзі, наколькі яны прыстойныя, наколькі яны кваліфікаваныя. Мог бы сказаць,

што сярод партыйных работнікаў таго часу траляліся людзі больш-менш прыстойныя. Але гэтая іх прыстойнасьць была выключэньнем. Яны, можа быць, нават самі саромеліся тае прыстойнасьці, і, канечне, вялікай кар'еры яны не зрабілі і зрабіць не маглі. А тыя, што рабілі кар'еру, якія выходзілі да самых вярхоў у сваім кіраўніцтве, тыя, канечне, нічога ня мелі агульнага з прыстойнасьцю.

*— Летась дэмакраты Беларусі прайгралі прэзыдэнцкія выбары, цяпер таксама праходзяць парлямэнцкія выбары, гучаць даволі змрочныя прагнозы. Што думаеце на гэты конт вы?*

— Галоўная рыса, вызначальная — гэта шанец, які гісторыя дала Беларусі. Гэта, вядома, унікальная зьява. Ніколі такога не было — мабыць, ня толькі ў беларускай гісторыі, але і ў гісторыі ўсясьветнай, каб гісторыя давала такую рэдкую магчымасьць нейкай нацыі для яе сувэрэнітэту. Менавіта з тае прычыны, што гэты шанец вельмі рэдкі, ён, здаецца, ня будзе выкарыстаны беларускай нацыяй. Нацыя не была гатовая пакарыстацца ў поўнай меры. Гэты шанец сыходзіць з нашых рук, так сама, як і шмат што ў эканамічнай галіне сышло. Беларусь проста ня здолела выкарыстаць гэта два-тры гады таму, а цяпер час упушчаны, ужо позна, і таго, чым можна было пакарыстацца, — таго ўжо ня вернеш.

*— І апошняе пытаньне — над чым цяпер працуеце?*

— Ну, што-нішто пішу. Безь вялікага энтузіязму. Таму што энтузіязму няма ў нацыі, і яго ня можа быць і ў пісьменьніка.

*— Вы сустракаеце сьвята пэсымістычна?*

— Радасьці няма, канечне. Таму што ня так павінны былі б сьвяткаваць беларусы гэтае 50-годзьдзе. Мы бачым, што, як і ўсё іншае, перамога таксама высьлізнула з нашых рук. Ёй карыстаюцца іншыя, але ня мы.





## «ТРЭБА ШУКАЦЬ ШЧЫЛІНЫ Ў БЭТОННАЙ СЬЦЯНЕ ТАТАЛІТАРЫЗМУ»

6 ліпеня 1995

***Сяргей Навумчык, Менск***

Увечары 5 ліпеня ў памяшканьні Акадэміі Навук Беларусі адбылася нарада грамадзкіх і палітычных дзеячоў краіны.

У ёй бралі ўдзел акадэмікі Сяргей Астапчык, Радзім Гарэцкі і Іван Нікітчанка, народныя пісьменьнікі Беларусі Васіль Быкаў і Ніл Гілевіч, эканаміст Анатоль Станкевіч, рэктар Акадэміі мастацтваў Васіль Шарангові́ч, старшыня Саюзу прадпрымальнікаў Уладзімер Карагін, а таксама дэпутаты Вярхоўнага Савету Дзьмітры Булахаў, Генадзь Карпенка, Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч. Паводле Радзіма Гарэцкага, які вёў нараду, яе ўдзельнікі «выказалі перакананьне, што ўсе здаровыя сілы Беларусі павінны згуртаваць сваю працу і накіраваць яе на прадухіленьне разбуральных працэсаў, на стварэньне шырокай грамадзкай кааліцыі за ўмацаваньне дзяржаўнасьці і незалежнасьці Беларусі».
На думку Васіля Быкава, «у барацьбе з таталітарызмам дэмакратыя ня мае адэкватных сродкаў і найчасьцей церпіць паразу. Аднак неабходна шукаць нейкай шчыліны ў бэтоннай сьцяне таталітарызму і канцэнтраваць намаганьні». Як лічыць Васіль Быкаў, дэмакраты павінны апэляваць да тых двух мільёнаў грамадзянаў Беларусі, якія прагаласавалі супраць пракамуністычнай сымболікі. «Трэба зьвяртацца да сумленьня гэтых людзей. Тады, можа, пачуюць і іншыя», — адзначыў Васіль Быкаў.

## «КГБІСЦКАЯ КАРТАТЭКА, ПРАДБАЧЛІВА АДПРАЎЛЕНАЯ НА ЛУБЯНКУ, ВЫЗНАЧЫЛА ПАЛІТЫЧНЫ ВЫБАР БЕЛАРУСКАГА КІРАЎНІЦТВА: НЯ ЗАХАД, А ЎСХОД»

27 ліпеня 1995

У гэты дзень падчас шэсьця ад плошчы Незалежнасьці да сквэру Янкі Купалы, арганізаванага БНФ у гонар гадавіны прыняцьця Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце, міліцыянты затрымалі адзінаццаць чалавек і парвалі некалькі бел-чырвона-белых сьцягоў.

*В. Быкаў:* Невясёлыя думкі прыходзяць у галаву ў гэты сьветлы дзень нашай Незалежнасьці. Сталася так, што ў палітычным лексыконе нашага ўсходняга суседа словы «сувэрэннасьць», «незалежнасьць», «самастойнасьць» набылі нэгатыўнае, амаль зьнішчальнае адценьне. А між тым, яшчэ нядаўна яны мелі іншы, паважаны, нават сакральны сэнс. І не зьнікалі са старонак бальшавіцкай прэсы. Праўда, тады яны стасаваліся да народаў далёкіх краінаў, якія вялі самастойную, самаадданую барацьбу супраць каляніяльных заваёўнікаў. Іншая рэч цяпер, калі той самай свабоды і незалежнасьці захацелі народы ўласнай савецкай імпэрыі.
Шмат якія зь цяперашніх расейскіх дэмакратаў, ня кажучы ўжо пра камуністаў-ленінцаў, пасьпешліва перакваліфікаваліся ў архаічных патрыётаў-дзяржаўнікаў і як за галоўны аргумэнт тае мэтамарфозы ўхапіліся за адзін з двух пастулятаў вядомай дэклярацыі аб «непарушнасьці тэрыторыяў». Другі ж пастулят — ня меней, а можа і болей важны, аб праве нацыяў на самавызначэньне — пакінулі без увагі, нібыта яго там і не было ніколі.
Мабыць, зь біблейскіх часоў вядома, што галоўная ісьціна людзкога існаваньня простая і зразумелая — як хлеб і вада, жыцьцё і сьмерць. Гэта кніжнікі і фарысэі прывыклі ўскладняць і заблытваць іх дзеля ўласнай карысьці. Старанна заблытваецца цяпер і элемэнтарны сэнс сувэрэннасьці й незалежнасьці. Нядаўняе памкненьне нацыяў і народаў да вызваленьня ад шматгадовай імпэрскай залежнасьці адбылося не з прычыны якога-небудзь недагляду ці чыёй злой волі, як гэта нам тлумачаць імпэрскія апалягеты, а на падставе сумнага, шматвяковага вопыту падняволенага існаваньня ў складзе вядомай імпэрыі.
У Белавежы быў удала скарыстаны рэдкі момант, які ня часта здараецца ў гісторыі імпэрыі, і гэтая імпэрыя рухнула. Без крыві і вялікіх выпрабаваньняў, бяз жахаў унутранай грамадзянскай вайны — і бы ў казцы са шчасьлівым канцом. Здаецца, ужо гэтая акалічнасьць павінна выклікаць задавальненьне ўсіх, у тым ліку і ў расейцаў, якія нарэшце вызваліліся ад прыкрай патрэбы, як яны кажуць, карміць і разьвіваць няўдзячныя маларазьвітыя нацыі. Задавальненьня, аднак, не атрымалася. Шматабяцальная падзея прынесла ці ня цалкам нэгатыўны вынік, і бадай усе яе ўдзельнікі плачуць цяпер горкімі сьлязьмі. Але чаму — так? Ці ня ў выніку ўсё той жа раптоўнасьці, нечаканасьці, пасьпешлівасьці, якія прыйшлі ў галовы кіраўнікоў трох братніх рэспублік, але пакінулі абыякавымі іхныя народы?
Штосьці ў Белавежы было ня ўлічана, штосьці зроблена ня так, як належала.
Семдзесят гадоў нявольніцкага існаваньня ў рэжыме сацыялістычнай казармы ўшчэнт дэфармавалі масавую сьвядомасьць, выпрацавалі адмысловую людзкую мэнтальнасьць сацыяльных утрыманцаў, якія бязвольна чакаюць усяго неабходнага для жыцьця і для шчасьця — калі не ад Бога, дык ад начальства, ЦК, Саўміну, дырэктара.
Зноў жа, ці можна ня ўлічваць спантаннага, а то й добра арганізаванага сабатажу камуністычнага авангарду, ці, як цяпер кажуць, намэнклятуры, які, хутка ак-

рыяўшы пасьля путчаўскага спалоху, уцяміў, што «паляваньня на ведзьмаў» ня будзе, а «прыхватызатарская» эканоміка нават ня горшая за партнамэнклятурную прывілеяванасьць. Спалох ад путчу ў Беларусі стаўся можа нават мацнейшым чым дзе яшчэ, бо ў нас зь нядаўняга часу непрадказальным страшыдлам замаячылі Курапаты. Але ён і мінуў хутчэй, калі аказалася, што БНФ марна палохае люстрацыяй, на якую ў яго ня хопіць высілкаў, бо ўся КГБісцкая картатэка прадбачліва адпраўленая на Лубянку. Гэтая акалічнасьць і вызначыла палітычны выбар беларускага кіраўніцтва: ня Захад, а Ўсход.

Самая вялікая пагроза сувэрэнізацыі мінула, нават не прагрымеўшы над Беларусьсю. Малаважна, што эканоміка неўзабаве апынулася ў руінах, спарахнелі «зайчыкі», палітыка рэформаў сканала, ледзьве пачаўшыся. Затое спосабам «шокавага рэфэрэндуму» ды хітраванскага выбарчага закону з палітычнай арэны была адхіленая апазыцыя, а перад тым зьявіўся «ўсенародна абраны прэзыдэнт» зь яго загадкавай фантомнай ідэяй «славянскага саюзу», як «Славянскага базару» ці «Славянскага сабору». Малаважна, што пра тую шалёную ідэю няма пэўнага ўяўленьня ў асноўнай масы славянства, якое дагэтуль ніяк ня выхаркае з крывёй папярэдняй камуністычнай ідэі. Затое хапае энтузіязму ў яе ініцыятара.

Ну, а сувэрэннасьць і незалежнасьць? Яе збольшага ўспамінаюць у масах як недарэчны казус, што здарыўся зь віны трох «белавескіх зуброў», і патрабуюць трыбуналу над імі. Пасьля нядаўніх недарэчных выбараў пра дэмакратаў ужо не гавораць. Здаецца, у Беларусі іх ужо перасталі і заўважаць. З дапамогай АМОНу ліквідаваная ня толькі парлямэнцкая апазыцыя, але і сам недалужны парлямэнт, замест якога ў краіне дзейнічае нечуваны дагэтуль наватвор — «прэзыдэнцкая вэртыкаль». Эканоміка паралізаваная. Курс на доўгачаканую інтэграцыю з Расеяй завісае ў паветры. Яно і вядома: каму патрэбная сястра-жабрачка? Нават калі яна гатовая да паслугаў і просіць на пастой і пракорм чужое войска. Але дзе гарантыя таго, што тое войска сапраўды будзе накормленае?

Зноў жа, вучоныя прафэсары не перастаюць пераконваць, што «поўнага сувэрэнітэту не бывае», што «незалежнасьць — справа жахлівага ЦРУ, агенты спрыяньня якога кішаць у краіне». Праўда, выкарчаваць тых агентаў, мабыць, нялёгкая справа, затое ва ўсіх на вачах фінансавая дзейнасьць Фонду Сораса. Але, як трапна заўважыла нядаўна Радыё Свабода, навошта нам амэрыканскія мільёны, калі іх немагчыма скрасьці? Значыцца — вон зь Беларусі, пан Сорас! Яму тут жа апэратыўна быў створаны рэжым найбольшага неспрыяньня. Заткнуты рот дэмакратычнай прэсе, разваленая навука, аганізуе нацыянальная культура. Менскія ўлады забараняюць народнае шэсьце да Дня Незалежнасьці.

Затое танцуе і сьпявае ў Віцебску касмапалітычны «Славянскі базар», і сьвінцоваю сілай наліваецца аўтарытарная дыктатура. З чым і віншую, Беларусь, у сумны Дзень тваёй Незалежнасьці.

Гэтае слова Васіля Быкава спачатку мелася надрукаваць маскоўская газэта «Аргументы и факты», але ў апошні момант матэрыял зьнялі з нумару.

## УЛАДЫ ЧАКАЛІ ПРАВАКАЦЫЯЎ

2 лістапада 1995

***Алесь Хмяльніцкі, Менск***

Сёньня — Дзяды. У 11 гадзінаў у Менску ля будынку КГБ (былы НКВД) была ўсталяваная традыцыйная капліца памяці, і прайшоў мітынг-рэквіем. У жалобным мітынгу-рэквіюме ўдзельнічалі сотні менчукоў.

Людзі прыйшлі да каплічкі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі і з кветкамі ў руках. Кветкі ўсклалі да капліцы з надпісам: «Адсюль, ад будынку НКВД, пачынаўся пакутны шлях у Курапаты. Вечная памяць ахвярам бальшавіцкага тэрору». У мітынгу ўзялі ўдзел Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк, Сяргей Навумчык. Большасьць удзельнікаў мітынгу-рэквіюму потым накіравалася ў Курапаты ўшанаваць памяць тысяч ахвяраў сталінізму, што ляжаць там. Пакідаючы гэтую жалобную акцыю, я ўбачыў, як з двара побач з будынкам КГБ выехалі тры міліцэйскія «газікі» і тры «цяжкавозы» з закратаванымі вокнамі, дзе сядзелі амонаўцы. Улады нават на Дзяды чакалі правакацыяў.

## «У ГРАМАДЗТВЕ, ДЗЕ КОЖНЫ ТРЭЦІ — КАМУНІСТ, А КОЖНЫ ДРУГІ — СЭКСОТ, ЦЯЖКА РАЗЬЛІЧВАЦЬ НА ПЕРАМОГУ ДЭМАКРАТЫІ ДЭМАКРАТЫЧНЫМІ СРОДКАМІ»

30 сьнежня 1995

***Аляксандар Лукашук, Прага***

Інтэрвію з Васілём Быкавым.

*— Калі лічыць ад жнійўня 1991-га, Рэспубліка Беларусь сустракае пяты Новы год. Прычым уражаньне, што шлях увесь час — пад гару, што пік нашага вызваленьня — той самы жнівень 1991-га. Кароткая хроніка: 1992 год — стварэньне свайго войска, банкаўскай сыстэмы, але ў гэты ж час — аднаўленьне кампартыі і забарона рэфэрэндуму. 1993-ці: рэстаўрацыя ва ўсіх сфэрах, праяданьне эканамічнага патэнцыялу, пошукі ўратаваньня ў рублёвай зоне з Расеяй. 1994 год: прыняцьцё Канстытуцыі, намінальная параза старой намэнклятуры на прэзыдэнцкіх выбарах, а фактычна — перамога яе маладзейшага пакаленьня. 1995-ты: вядома, расправа з гербам «Пагоня», сьцягам і мовай праз рэфэрэндум. Дзе, на якім этапе зрабілі дэмакраты памылку?*





— Думаю, што гаварыць пра якія-небудзь памылкі дэмакратыі, можа быць, няма сэнсу. Калі разабрацца і прынцыпова падыходзіць — дык гэтых памылак, такіх значных памылак, было ня так і шмат — можа быць, і навогул не было. Іншая справа, што і вельмі правамоцная і абгрунтаваная палітыка не прынесла посьпеху. Дык яна ў гэтых умовах і не магла прынесьці таго посьпеху, на які дэмакраты разьлічвалі. Значыць, можна гаварыць пра празьмерныя спадзяваньні беларускай дэмакратыі. Вось гэта сапраўды было. Грамадзтва яшчэ не гатовае, каб прынесьці посьпех беларускай нацыянальнай дэмакратыі.

Даўно вядома, што дэмакратыя можа разьвівацца толькі ад няпоўнай дэмакратыі да больш дасканалай, поўнай. А ва ўмовах таталітарызму дэмакратыя ня можа існаваць нават у зачатках. Што датычыць выбараў, то дэмакратычныя выбары ў нашых умовах проста немагчымыя. Дэмакратычныя выбары ва ўмовах таталітарызму і аўтакратычнай дыктатуры немагчымыя. Бо яны непазьбежна будуць сфальсыфікаваныя, як гэта ў нас і адбываецца ўжо не адзін год.

Таталітарныя сілы вельмі ўмела карыстаюцца дэмакратычнымі інстытуцыямі, і якраз вось гэтае іх умелае карыстаньне ўспрымаецца заходнімі наглядальнікамі і палітолягамі за чыстую манэту, за чыстую гульню. На справе гэта — самая шулерская гульня. Так было ў нас, было так пры камуністах, так працягваецца і цяпер таксама. І больш за тое, я б сказаў, што гэты наш мэтад распаўсюджваецца і на некаторыя расейскія рэспублікі — напрыклад, у Чачэніі. Выбары, якія адбыліся ў Беларусі і ў Чачэніі, яны маюць шмат агульнага. Гэта адзін і той жа дзяржаўны фальсыфікат.

*— Мяркуеце, Беларускі Народны Фронт не прайграў, а*

*яго перамаглі? Ці згодныя вы, што сыход БНФ з адкрытай палітычнай арэны, з парлямэнцкай трыбуны — канец нацыянальнай ідэі на шмат гадоў наперад?*

— Я думаю, што гэта не канец, але для нацыянальных ідэалістаў вынік атрымаўся, магчыма, нечаканы. Але іншага выніку і не магло быць. Таму што нельга перамагчы дыктатуру, таталітарызм у працэсе нейкіх там выбараў, у працэсе чыста дэмакратычных акцыяў. Я даўно сьцьвярджаў, што ў барацьбе з таталітарызмам дэмакратыя ня мае адэкватных сродкаў. Тут патрэбныя іншыя сродкі, якімі дэмакратыя не валодае без таго, каб ня страціць свайго дэмакратычнага іміджу.
Мы знаходзімся ў пэўным тупіку. І гэты тупік стварае найперш дыктатарская ўлада. Пакуль яна будзе абапірацца і ажыцьцяўляць сябе з дапамогай сілы, проста фізычнай сілы, якую ўвасабляе АМОН, КГБ і іншыя чыста паліцэйскія сродкі, то спадзявацца на якую-небудзь перамогу, на якія-небудзь здабыткі дэмакратычныя проста немагчыма. У народу памяць кароткая — і праз адсутнасьць свабоды, дэмакратыі, свабоды друку. Гэта ўсё забываецца, а памятаецца іменна пра кошт таннай каўбасы. Некаторыя кажуць, у грамадзтве, дзе кожны трэці камуніст, а кожны другі — сэксот, цяжка разьлічваць на перамогу дэмакратыі дэмакратычнымі сродкамі.

*— Вы ўжылі такі тэрмін — «нацыянальныя ідэалісты». Я згадаў, што прыкладна гадоў восем таму зьявіўся верш Пімена Панчанкі «Разьвітаньне з роднай мовай». Як вы ацэньваеце тыя працэсы, што праходзілі апошнія гады вакол беларускай мовы?*

— Беларуская мова, можа, пацярпела найбольш у гэтай калатнечы, эканамічнай і сацыяльнай. Таму што мова — аснова ня толькі нацыянальнай культуры, але і існаваньня нацыі, існаваньня этнасу. І таму супраціў пэўных рэакцыйных сілаў нацыянальнай мове быў аказаны





самы вялікі. Якое гэта было жахлівае супраціўленьне з боку найперш камуністычных уладаў! А пасьля вось і сучасныя ўлады. Найперш яны, вядома, імпэрскага паходжаньня. А як вядома, ва ўмовах, калі ставіцца мэта стварэньня новай імпэрыі або інтэграцыі ў ранейшую імпэрыю, нацыянальная мова абсалютна не патрэбная, яна шкодзіць, бо яна працуе на нацыянальную самабытнасьць. Таму разьвіцьцю нацыянальнай мовы гэтак люта супраціўляліся. Цяпер мы бачым, што ў галіне мовы і дэмакратыя дапусьціла найбольшыя памылкі — нацыянальная дэмакратыя, я маю на ўвазе.
Першая памылка ў тым, што для барацьбы за ўстанаўленьне нацыянальнай мовы, за яе дзяржаўны прыярытэт былі выбраныя няправільныя, выключна бюракратычныя сродкі. Усе гэтыя законы прынятыя былі афіцыйна Вярхоўным Саветам, і яны расьцягвалі, расьцягвалі на дзесяцігодзьдзе ўстанаўленьне дзяржаўнасьці беларускай мовы. Тады ўжо было відаць, што ва ўмовах нестабільнасьці грамадзтва нельга разьлічваць на дзесяць гадоў. Па-другое, я лічу, што няправільна ўсё ж было зроблена, калі ў самой нацыі пачалася нейкая незразумелая валтузьня наконт дзьвюх граматык — наркамаўкі і тарашкевіцы. У гэтых умовах хоць бы захаваць якую-небудзь цэльнасьць беларускай мовы! Аднак жа яна яшчэ была расколатая на дзьве плыні, і, канечне, гэта ніяк не спрыяла яе ўцьвярджэньню, яе ўгрунтаваньню ў грамадзтве.

*— Васіль Уладзімеравіч, год таму на пытаньне Беларускай службы Радыё Свабода «Што вас радуе ў жыцьці?» вы адказалі коратка: прырода. А што вы скажаце сёлета?*

— Ну, прырода пакуль што яшчэ здольная радаваць. Можа быць, нават ня так задавальняць, як пабуджаць да задавальненьня. Я спадзяюся, што яшчэ нейкі «хвосьцік» прыроды нам Бог пакідае для нашага задавальненьня. Я маю на ўвазе, вядома, старых людзей. І ў

гэтым, можа быць, кропелька спадзяванкі, нейкая крыніца Боскага задавальненьня.

*— Моладзі няма месца ў вашым поглядзе на будучыню?*

— Я проста ня бачу... Пра нашу моладзь, канечне, размова асобная. Але я баюся, што больш за ўсіх за наша цяперашняе расплаціцца моладзь — у будучыні.

## «МЫ ДОЎГА НЕ МАГЛІ ПРАВЕСЬЦІ ЗНАКУ РОЎНІЦЫ ПАМІЖ НЯМЕЦКІМ ФАШЫЗМАМ І АЙЧЫННЫМ КАМУНІЗМАМ»

26 студзеня 1996

***Алесь Васілеўскі, Нью-Ёрк***

Рэстаўрацыя савецкага рэжыму — відавочная. Апошнія выбары ў парлямэнт рэспублікі, у Дзяржаўную Думу Расеі лішні раз сьведчаць пра гэта. «Камунафашызм» — гэтак характарызуе палітычны стан у Беларусі Васіль Быкаў, артыкул якога зьявіўся ў расейскамоўных пэрыёдыках ЗША. Дзьве расейскамоўныя газэты, папулярныя сярод эмігрантаў ЗША, «Курьер» і «Новое русское слово», 23 студзеня на першых старонках надрукавалі артыкул Васіля Быкава «Камунафашызм — новая выбуховая сумесь».

«Падчас вайны ды па ёй, — піша Васіль Быкаў, — мы былі перакананыя, што няма нічога больш небясьпечнага ў сьвеце за нямецкі фашызм, які быў разгромлены. Каб ён больш не адрадзіўся ні ў Эўропе, ні ў Злучаных Штатах, вялася вялікая праца, выдаткоўваліся немалыя сродкі. Шматнацыянальная літаратура СССР прысьвячала свае творы геразізму народу, які перамог у другой усясьветнай вайне. Але ў той жа час і пісьменьнікі, і народ-пераможца не жадалі паглядзець на самiх





сябе, за сьпінамі якіх нараджалася новая небясьпека. Магчыма, сьлепата розуму, абмежаванасьць мастацкага ўяўленьня і не далі літаратарам разгледзець падступнай існасьці ладу пераможцаў — ладу, які ўгрунтаваны на крыві, на хлусьні, на запалохваньні і страху. Мы доўга не маглі правесьці знаку роўніцы паміж двума, на першы погляд, супрацьлеглымі пачаткамі — нямецкім фашызмам і айчынным камунізмам. Толькі зусім нядаўна гэта стала відавочна. Сёньня гэтая дыялектычная тоеснасьць відаць паўсюль, ад Масквы да самых ускраінаў імпэрыі, якая рухнула. Рухнула, здавалася б, без крыві і асаблівых узрушэньняў, але здолела захаваць усе адзнакі для сваёй рэстаўрацыі.
І сёньня мы са зьдзіўленьнем і жахам назіраем ня тое што адраджэньне, але трыюмфальнае шэсьце імпэрскае дзяржаўнасьці зь ейным выразным мурлом фашызму. Галоўнае, што робіць блізьнятамі два некалі варожыя рэжымы — гэта стаўка на грубую фізычную сілу і беспардонная папулісцкая дэмагогія. Партыя камуністаў, якая дыскрэдытавала сябе, хапаецца за апошнюю саломінку, бессаромна мімікруе пры дапамозе спэцслужбаў, перацякае ў розныя «роднасныя» партыі і рухі — сацыялістычныя, дзяржаўныя, патрыятычныя. Ды, зразумела, зьліваецца з фашызмам, засноўваючы новую выбуховую сумесь — камунафашызм. Відаць, толькі ў гэтым камуністы бачаць магчымасьць затрымацца на палітычным полі, супрацьдзеяць натуральнаму росту дэмакратыі, а галоўнае — дамагчыся рэстаўрацыі імпэрыі, якая рухнула і безь якой існаваньне камунафашызму бессэнсоўнае.
Горш за ўсё, што дэмакратыя пазбаўленая адэкватных магчымасьцяў супрацьдзеяць камунафашызму. Традыцыйна дэмакратычныя, парлямэнцкія мэтады не дасягаюць мэты, церпяць паразу ад грубых, беспардонных сродкаў, якія ўжываюцца супраць дэмакратыі. На разумную антыфашысцкую кампанію ў друку камунафашысты, што загадваюць друкам, здымаюць няўгодных

рэдактараў, манапалізуюць паліграфічную базу, як гэта шырока практыкуецца сёньня ў Беларусі. Ва ўмовах пракамуністычнай заканадаўчай, кішэннай судовай і гэткай жа выканаўчай уладаў, грамадзтва практычна пазбаўленае эфэктыўных мэтадаў супрацьстаяньня фашызму. Развальваецца эканоміка, імкліва расьце інфляцыя, бяднее народ, затое, як на дражджах, растуць высокааплатныя абаронныя фармаваньні, унутраныя войскі, асабовая абарона высокіх чыноўнікаў. Народ перастае разумець, што адбываецца. Самае парадаксальнае, што наіўная бальшыня жыхарства ўспрымае існы рэжым як дэмакратычны, які прыйшоў на зьмену камуністычнаму. І пераканаць у адваротным гэтае жыхарства пры адсутнасьці свабоднае прэсы практычна немагчыма».

Што ж да нацыянальнай літаратуры, якая, на думку Васіля Быкава, здушаная палітычна, зьбяднелая эканамічна, зьняважаная маральна, дык яна зьнікае, як зьнікае культура навогул. «Фашызм і культура — несумяшчальныя», — гэтак заканчвае свой артыкул Васіль Быкаў.

## «УСЁ ЯГОНАЕ ЗМАГАРНАЕ ЖЫЦЬЦЁ, ЯГОНАЯ ПУБЛІЦЫСТЫКА ДЫ ЛІТАРАТУРА ПЕРАКАНАЎЧА АБВЯРГАЮЦЬ МОДНУЮ ТЭЗУ ІНДЫВІДУАЛІЗМУ»

27 студзеня 1996

Слова Васіля Быкава да другой гадавіны сьмерці Алеся Адамовіча.

Алесь Адамовіч быў вялікі аматар вандровак, малых і вялікіх, па сваёй краіне і ў далёкім замежжы. Ня ведаю, ці засталіся ў сьвеце краіны, дзе б не пабывала ягоная лёгкая нага. Але ўсё тое — не для турыстычнай асалоды. Яго вяла прага спазнаньня, спасьціжэньня новага, нязьведанага, у сэнсе геаграфічным, палітычным і асабліва духоўным. Менавіта такой прагнасьцю, апроч іншага, можна вытлумачыць ягоную ініцыятыву ў стварэньні дакумэнтальных кніг пра народную бяду ў спартызаненай Беларусі, пра вынішчэньне голадам другой расейскай сталіцы ў гады мінулай вайны.

Можна сказаць, што на падставе мінуўшчыны народу ён вучыўся спазнаваць яго будучыню.

Вядома, што сучаснае грамадзтва мае надзіва кароткую памяць. Яно добра памятае, колькі дзесяць гадоў таму каштавала каўбаса, але ж гатовае забыцца, на якім краі згубы апынулася тады чалавецтва праз ракетна-ядзернае супрацьстаяньне Ўсходу з Захадам, якая пагроза навісла над жыцьцём на Зямлі.

Адамовіч быў адным зь нешматлікіх прарокаў, якія ня толькі ўбачылі, але і ўзьнялі свой голас пратэсту супраць ваяўнічай камуністычнай згубы. І яго ўчулі — ня толькі ў Беларусі, але і ў Маскве, і ў Эўропе. І як ні дзіўна, яго паслухаліся. І калі Гарбачоў паехаў у Рэйк'явік на сустрэчу з Рэйганам, дык у тым гістарычным факце была і доля палітычнага ўнёску нашага Адамовіча.

У асобе Алеся Адамовіча шчасьліва спалучаліся дзьве выдатныя якасьці — мысьліцеля і змагара. Няўрымсьлівае змаганьне з замшэлай камуністычнасьцю ён вёў на шырокім абсягу — ад элітных акадэмічных форумаў да масавых мітынгаў і дэманстрацыяў, асабліва ў пачатковы пэрыяд перабудовы. Ягоны эмацыйны голас гучаў над шматтысячнымі натоўпамі Менску, Масквы, некаторых краінаў замежжа. Ён быў патрыётам беларушчыны і дэмакратам сьвету. Усё ягонае змагарнае жыцьцё, ягоная публіцыстыка ды і ўласная літаратура пераканаўча абвяргаюць модную тэзу індывідуалізму, асабліва распаўсюджаную сярод творчай інтэлігенцыі як апраўданьне яе няўдзелу ў дзяржаўнай палітыцы. Цяпер нам кажуць: «Сядзіце і ня лезьце туды, дзе вы не прафэсіяналы, пакіньце палітыку тым, каму яна на-

лежала 70 гадоў». Адамовіч ня быў прафэсіяналам-палітыкам, але ён бачыў і востра перажываў тое, што зрабілі з палітыкай і сьветам «прафэсіяналы»-авантурысты. Ён ня мог пріняць прынцыпу няўдзелу ў ёй і беззапаветна кідаўся ў бойку, не зважаючы на вынік. І здаралася, перамагаў нават тады, калі шанцаў на перамогу не было ніякіх.
Адамовіч валодаў рэдкім дарам прадбачаньня і глядзеў далёка наперад. У будучыні ён бачыў шчасьлівы лёс чалавецтва толькі ў тым выпадку, калі яно знойдзе ў сабе здольнасьць канчаткова адмовіцца ад згубнай камуністычнасьці, набыць хрысьціянскую маральнасьць, замірыць грамадзтвы і нацыі. Ён шмат гаварыў і пісаў пра тое, асабліва ў апошнія гады свайго жыцьця, калі зьявілася пэўная надзея на жаданыя зьмены грамадзкага ладу.
Але нашы спадзяванкі трывалі нядоўга. Узялі верх тыя, хто тады карысьліва дамагаўся недапушчэньня «паляваньня на ведзьмаў», хто выступаў за авантурны плюралізм і талерантнасьць да чырвона-карычневых, якія, маўляў, у новых, рынкавых умовах, павінны «перарадзіцца». Але наўрад ці. Як воўк ня можа перарадзіцца ў авечку, так і камуніст — у хрысьціяніна, нават калі ён пачне хадзіць у царкву і тройчы жагнацца перад тэлекамэрай.
Тады Адамовічу няшмат верылі. Але што ж — мабыць, такі лёс кожнага з сапраўдных прарокаў. Ім пачынаюць верыць, як іх ужо няма на зямлі. Адамовіч папярэджваў аб рэстаўрацыі ранейшых парадкаў і згубных ідэяў. І казаў, што ў выпадку вяртаньня таталітарызму і яго ўлады, ён, узбагачаны вопытам і злосьцю, стане ў сто разоў страшнейшы, чым быў дагэтуль. Здаецца, ягонае прароцтва пачынае зьдзяйсьняцца. Ён быў надзіва мяккі і спагадлівы да людзей, шмат каму дапамагаў, клапаціўся, абараняў. Мог і ўмеў многае дараваць у жыцьці — памылкі, слабасьці, нават бяздарнасьць. Але толькі ня здраду. Здрады ідэям свабоды і дэмакратыі ён не дараваў нікому. Менавіта з тае прычыны пры канцы жыцьця ён адхіснуўся ад некаторых сяброў. І думаецца, цяпер адхіснуўся б яшчэ шмат ад каго, калі б дажыў да нашага ганебнага, поўнага здрады і дробязнага разьліку часу.
Яго востры розум і чуйнае сэрца ў сваёй боскай еднасьці няспынна генэравалі дабро для людзей, і, натуральна, тое генэраваньне не магло доўжыцца бясконца. Асабліва ў наш цяжкі, пераломны, няўстойлівы час. Настаў час хваробаў, і нарэшце пара апошняй вандроўкі вялікага пілігрыма — на гэты раз ад Масквы да вядомай пасьля ягонай сьмерці Глушы, дзе яго і пахавалі два гады таму сьцюдзёным зімовым днём.
Дзе б ні вандраваў, дзе б ні лятаў і ні езьдзіў — назаўжды супакоіўся ў беларускім хвойніку, на роднай зямлі, побач з роднымі і землякамі. Менавіта тут знайшоў ён сваю апошнюю праўду ў жыцьці, да якой гэтак трудна і ўпарта імкнуўся.

## «ТЫЯ, ХТО СПАЗЬНЯЮЦЦА, АПЫНАЮЦЦА Ў КАТАСТРАФІЧНЫМ СТАНОВІШЧЫ»

Люты 1996, Прага

Адказы Васіля Быкава на пытаньні нацыянальных службаў Радыё Свабода.

*— Як цяпер, праз дзесяць гадоў пасьля пачатку перабудовы, вы ацэньваеце гэты пэрыяд?*

— Я думаю, яго можна назваць найперш пэрыядам няспраўджаных рамантычных ілюзіяў. Цяпер, за рэдкім выключэньнем, паўсюдна назіраецца спад эўфарыі, якая шмат што значыла і на хвалі якой вялася барацьба з камунізмам, за ажыцьцяўленьне нацыянальных ідэяў, ідэяў сувэрэнізацыі. Некаторыя нацыі дасягнулі на гэ-

тым шляху даволі значных посьпехаў — я маю на ўвазе Прыбалтыку, некаторыя краіны Сярэдняй Азіі, Закаўказьзя. Хаця ўсё было неадназначна, і ў кожнай зь іх усё адбывалася па-рознаму.

Што датычна Беларусі, дык яна таксама была ахопленая гэтымі працэсамі, але вынік тут быў найменшы. Гэтаму ёсьць шмат розных прычынаў, у якіх дасканала мысьляры і палітыкі здолеюць разабрацца, можа быць, у XXI стагодзьдзі. Мы бачым, што галоўныя спадзяванкі і мэты, якія рухалі некалі нашым грамадзтвам, не дасягнутыя. Камунізм пасьля нядоўгага перапынку ізноў набірае моц. Не ажыцьцявіліся ідэалы дэмакратызацыі грамадзтва, у якім адбываюцца далейшыя развал і распад. Гэта спрыяе таму, што грамадзтва траціць веру. Будучае, такім чынам, вельмі нявызначанае, дэмакратычная пэрспэктыва застаецца вельмі праблематычнай.

*— Хацелася б зьвярнуцца да тэмы XX зьезду, саракагодзьдзе якога адзначаецца сёлета. Чым тады для вас быў гэты зьезд, што ён значыў у жыцьці вашага пакаленьня? Можа быць, карані страты постперабудовачных ілюзіяў варта шукаць у больш далёкай мінуўшчыне?*

— З вышыні сёньняшняга дня мы бачым, якія наіўныя былі нашыя намеры і ілюзіі таго часу. Што датычна XX зьезду, дык гэта, можа быць, першы пэрыяд зрухаў у дачыненьні да нашага сталінскага мінулага. У нейкай ступені ў масавай сьвядомасьці быў разбураны маналіт сталінізму. І ўпершыню, найперш у пэўных слаях творчай інтэлігенцыі зьявіўся нейкі прагрэс. Наступныя замаразкі шмат што адкідаюць назад, але, тым ня менш, зерне спадзяваньняў, якія пасеяў XX зьезд, далі свае парасткі раней, чым надышло брэжнеўскае пахаладаньне. І таму, калі цяпер гавораць пра «шасьцідзясятнікаў» як пра пакаленьне абсалютна нядзеяздольнае, я думаю, што гэта няслушна: усе пакаленьні нешта далі, зрабілі





нейкі ўнёсак у пераадоленьне таталітарызму. Іншая рэч, што не атрымалася так, як трэба было.

Я лічу, што найбольшыя перамены адбыліся менавіта ў гарбачоўскія гады, калі было ліквідаванае супрацьстаяньне з Захадам, дасягнутыя вельмі важныя дамоўленасьці з Амэрыкай. Гэтыя зьявы, можа быць, і не далі імгненнага выніку. Але іх уплыў адчуваецца і цяпер. Самым важным, канечне, была ліквідацыя супрацьстаяньня, канфрантацыі з Захадам, раззбраеньне. Дасягненьні былі памножаныя, асабліва пасьля путчу, першымі ельцынскімі дэкрэтамі — асабліва ў тым, што тычылася ліквідацыі камунізму. Хаця, канечне, гэта было згубленa ў наступнай палітыцы, і цяпер мы ўжо кажам пра даволі актыўны і паўсюдна распачаты працэс аднаўленьня таго, што было з такімі намаганьнямі падсечанае ў нядаўнім мінулым.

*— Як вы глядзіце на пэрспэктывы аднаўленьня Савецкага Саюзу, пра што шмат гаворыцца апошнім часам?*

— Калі б мы дасягнулі нейкага ўзроўню дэмакратызацыі, такі варыянт быў бы немагчымы. Аднаўленьне імпэрыі дэмакратычным шляхам, канечне, немагчымае. Гэта недарэчнасьць. Але ж мы бачым, што дэмакратыя не перамагла. Цяпер адбываюцца нейкія рухі, у Расеі — асабліва. Я перакананы, што Ўкраіна ня пойдзе на стварэньне новай імпэрыі альбо на рэанімацыю ранейшай, ня пойдзе, канечне, і Прыбалтыка. Што датычна Беларусі, дык зусім магчыма, што нашыя, так сказаць, фюрэры, ізноў шляхам казуістычных рэфэрэндумаў і палітычнага махлярства прывядуць да нечага падобнага на імпэрыю, і мы ізноў апынемся перад фактам. Але нават калі яна фармальна будзе створаная, дык праіснуе вельмі нядоўга. Хаця спробы, верагодна, будуць, і ім будзе спадарожнічаць пэўны посьпех.

*— Аднаўленьне ранейшых сувязяў неабавязкова азначае вяртаньне да таталітарызму. Чаму іх нельга аднавіць*

*на падставе дэмакратычных крытэраў? Цяпер у краінах Сярэдняй Азіі ўтварыліся своеасаблівыя манархічныя рэжымы. Як вы ацэньваеце пэрспэктывы народаў гэтых краінаў?*

— Канечне, рэспублікі былога Саюзу апынуліся ў розных умовах, як і варта было чакаць. Усе разам яны жылі ў таталітарнай краіне, а потым раптам знайшлі свой натуральны стан. Для некаторых ён аказаўся яшчэ горшы, чым быў у складзе адзінай імпэрыі, дзе ўсе існавалі ў аднолькавым палітычным і гаспадарчым клімаце. Я лічу, што і ў Беларусі атрымалася горш, чым было, ва ўсіх адносінах — у эканамічным, палітычным, і нават маральным сэнсе. Але ўсё ж я разглядаю гэта як натуральны і заканамерны працэс пераходу ад адной формы ўласнасьці да другой. Усё ж мы маем спадзяваньне, што на падставе дэмакратычнага працэсу ўсё ўсталюецца — паводле прыкладу, перш за ўсё, Эўропы. Ня трэба вынаходзіць ровара, як гэта робяць некаторыя нашыя палітыкі ў пошуках нейкага асаблівага шляху. Ня трэба абцяжарваць гэтымі пошукамі і выпрабаваньнямі цяперашнія пакаленьні. Што датычна Беларусі, для яе вельмі важны прыклад Прыбалтыкі, нават Украіны, якія перажылі падобныя цяжкасьці, але знайшлі зь іх выйсьце. Беларусь жа робіць выгляд, што ў яе ёсьць уласнае выйсьце, якое палягае ў руху назад, дзе быццам было лепей. Але пры гэтым забываюцца на тое, што таму і зруйнаванае мінулае, што існаваньне ў ім было не аптымальнае, а набліжалася да катастрофы. Значыць, трэба наперадзе шукаць выйсьця з катастрофы, а не вяртацца назад, каб паўтарыць яе зноўку. Тыя, хто спазьняюцца, апынаюцца ў катастрафічным становішчы, як гэта і назіраецца ў Беларусі.

*— Маскоўская «Независимая газета» 9 лютага прывяла зьвесткі наконт стаўленьня беларусаў да ліквідацыі Савецкага Саюзу. Калі ў сьнежні 1991 году такое рашэньне лічылі слушным 69% насельніцтва, дык у сьнежні 1995-га роўна такая ж колькасьць апытаных лічыла гэтае рашэньне няправільным. Чым гэта патлумачыць? Настальгія па савецкіх прасторах альбо вяртаньне да ранейшых установак ідэалягічнага кшталту?*

— Рэч у элемэнтарным прагматызьме. Проста людзі параўноўваюць. Масавая сьвядомасьць зусім не павінна валодаць, ды і ніколі не валодала нейкімі аналітычнымі здольнасьцямі. Звычайна ў людзей кароткая памяць: на адлегласьці «пяцігодкі», як гэта ў нас прынята. «Раней было лепей». А хто спрачаецца? Іншае пытаньне — што з гэтага вынікае? Што датычна сацыялягічных зьвестак, дык даўно ім ня веру. Я лічу, што ў Беларусі няма сацыялёгіі. Зьвесткі сацыёлягаў высмактаныя з пальца, яны нічога не адлюстроўваюць. Гэта навука, якая ў нас збанкрутавала яшчэ ў зародку. Скажыце, што-небудзь зь яе прагнозаў ажыцьцявілася ў апошні час? Людзі ў Беларусі, за выключэньнем намэнклятуры, ня маюць ніякага піетэту перад камуністычным мінулым. Яны ведаюць, што гэтае мінулае ім нічога не дало. Разумнейшыя ўсьведамляюць, што менавіта камунізм прывёў да прорвы. Рэч у тым, што цынікі ў палітыцы, карыстаючыся цяперашнім момантам, дыскрэдытуюць дэмакратыю і дэмакратычныя ідэі. Я заўсёды казаў, што мы можам сутыкнуцца зь вельмі кепскай зьявай, калі ідэі будуць дэзавуяваныя ў масавай сьвядомасьці, і гэтая сьвядомасьць будзе адкінутая да камуністычнай. Не таму, што людзі адданыя камуністычным ідэалам, а таму, што іншага нічога не засталося ў гэтым соцыюме. І камуністы, канечне, гэтым карыстаюцца.

*— Калі б сёньня ў Беларусі адбыўся рэфэрэндум, на якім людзі былі б пастаўленыя перад адзіным выбарам: за аднаўленьне Савецкага Саюзу альбо супраць — у які бок, на ваш погляд, схілілася б грамадзкая думка?*

—Вынік рэфэрэндуму быў бы дакладна такі, якога пажадалі б ягоныя арганізатары. Таму што ў нас няма дэ-

макратыі ў шырокім сэнсе слова. У нас няма заканадаўчай улады, няма судовай улады, амаль няма свабоднай прэсы. Каб зразумець мэханізм рэфэрэндумаў і выбараў, якія ўжо былі ў Беларусі, трэба зьвярнуцца да апошніх выбараў у Чачэніі. Там, як вядома, новага лідэра абралі 92% галасоў, у той час як апазыцыя набрала 1,5% галасоў выбарцаў, якія ўдзельнічалі ў выбарах. У нас, ва ўмовах дыктатуры, таксама неістотна, ці пойдуць людзі галасаваць, яны могуць гэтага і не рабіць.

*— Якая цяперашняя апазыцыя ў Беларусі? Ці зьвязаная яна з творчай інтэлігенцыяй?*

— У Беларусі ёсьць некалькі дэмакратычных партыяў — ва ўсялякім выпадку, намінальна дэмакратычных. Я асабіста сумняюся ў дэмакратычнасьці некаторых зь іх. Магу і памыліцца, але пакуль яны нешта не сьпяшаюцца выявіць сваёй дэмакратычнасьці на справе. Што ж датычна Беларускага Народнага Фронту, гатовы гарантаваць, што гэта сапраўды дэмакратычная арганізацыя. Яна ствaралася, так сказаць, наўпрост, у тым ліку і з ініцыятывы творчай інтэлігенцыі. Гэтая арганізацыя ня створаная спэцслужбамі, іх агенты ня ўсунутыя ў нашыя шэрагі, як гэта адбывалася са шмат якімі іншымі. Яна пасьлядоўна вядзе змаганьне супраць камуністычнага таталітарызму. На жаль, сілы няроўныя: ёй супрацьстаіць, як выявілася, монстар больш моцны, чым гэта ўяўлялася нават нам. Але, нягледзячы на тое, што ў выніку выбараў Фронт адхілены ад удзелу ў парлямэнцкім жыцьці, праца сярод людзей усё ж вядзецца. Мы лічым, што самае галоўнае — захаваць у іхнай сьвядомасьці ідэі дэмакратыі. Канечне, хацелася б, каб БНФ стаў арганізацыяй масавай, як гэта і задумвалася з самага пачатку, якая б аб'яднала самыя розныя дэмакратычныя слаі. Тым ня менш, я думаю, частка творчай інтэлігенцыі, якая была ангажаваная ў гэты рух з самага пачатку, захавалася, і яе час яшчэ прыйдзе.

*— Вашае стаўленьне да пытаньня аб мове?*





— Гэта, канечне, балючая праблема — для беларусаў асабліва. У канцы XX стагодзьдзя мы апынуліся перад пагрозай яе зьнікненьня. Расейская мова цудоўная, нічога ня скажаш. Гэта мова, на якой створаная вялікая культура. Але яна ўсё ж не ўнівэрсальная. У Беларусі ж яна абсалютна выцесьніла з ужываньня беларускую. Абвясьціўшы, хаця б і намінальна, дзяржаўны сувэрэнітэт, Беларусь, натуральна, ня здолела абысьціся хай і цудоўнай, але ўсё ж чужой мовай. А ўласная апынулася ў катастрафічным становішчы. Інтэлігенцыя, канечне, першая гэта адчула, і пачалася, я б сказаў, апантаная барацьба за захаваньне нацыянальнай мовы. Мы зразумелі, што калі страцім гэты момант, дык наша мова зьнікне праз некалькі гадоў ва ўмовах рэанімацыі таталітарызму і пагрозы рэінтэграцыі ў адзіную імпэрыю. Але і ворагі нацыянальнай ідэі зразумелі сытуацыю і зрабілі контардзеяньні. Адным з рашучых дзеяньняў стаў рэфэрэндум, на якім пад выглядам роўнасьці моваў была атрыманая фармальная згода народу на палітыку фактычнага зьнішчэньня беларускай мовы. І цяпер гэтая палітыка выканаўчай уладай праводзіцца вельмі актыўна. Я ня бачу якіх-небудзь надзеяў на лепшае ў найбліжэйшы час.

*— Звычайна драматычны час нараджае вялікую літаратуру. Вы ўвайшлі ў літаратуру з пасьляваеннай прозай. Цяпер сытуацыя хаця і не ваенная, але дастаткова драматычная. Над чым вы цяпер працуеце?*

— Што датычна цяперашняга драматычнага часу, дык я сумняюся, што ён народзіць навогул якую-небудзь літаратуру. Як бы яна ў ім ні задыхнулася назаўсёды. Калі гэта здарыцца, літаратура, вядома, адродзіцца і зьявяцца новыя творы. Але гэта будзе няхутка, напэўна, напачатку наступнага стагодзьдзя.
На завяршэньне хачу сказаць, што я шчасьлівы быць на Радыё Свабода, якое ў маім жыцьці адыграла вялікую ролю. Яшчэ даўно, калі яго глушылі, я заўсёды яго

слухаў. Але рэч ня толькі ўва мне. Яго ўплыў на грамадзкую сьвядомасьць і элітарную, і масавую, у Савецкім Саюзе быў калясальны. Нават былі размовы ня так даўно пра вылучэньне Радыё Свабода на Нобэлеўскую прэмію. Спадзяюся, да гэтага яшчэ вернуцца. Было вельмі сумна даведацца, што Кангрэс ЗША крыху зьмяніў сваё стаўленьне да Радыё Свабода і ва ўмовах «пацяпленьня» палічыў магчымым аслабіць яго функцыю. Я думаю, што цяпер, калі ў шмат якіх рэспубліках былога СССР сродкі масавай інфармацыі губляюць нават мінімальныя магчымасьці інфармаваць грамадзтва, роля Радыё Свабода толькі ўзрастае. Вас слухаюць.

## «ДЛЯ ТАКІХ НАЦЫЯЎ, ЯК НАША, ТОЛЬКІ І МАГЧЫМА ВУЧЫЦЦА НА ЎЛАСНЫМ ВОПЫЦЕ»

19 чэрвеня 1996

***Аляксандар Лукашук, Прага***

Песьняй «Шумныя бярозы» на словы Янкі Купалы ў выкананьні Данчыка і Лявона Барткевіча мы віншуем Васіля Ўладзімеравіча Быкава з 73-мі ўгодкамі. Чаму менавіта песьняй на верш Купалы? Пра гэта — у інтэрвію зь пісьменьнікам.

*З раніцы Васіль Уладзімеравіч зьбіраўся на дачу, але ў Менску ішоў дождж, і выезд адкладаўся. Пасьля віншаваньняў гутарка перакінулася на выбары ў Расеі. Самая галоўная праблема ўсё ж яшчэ ня вырашаная, вырашыцца ў другім туры, лічыць Быкаў. Вялікія шанцы застаюцца ў камуністаў — электарат Лебедзя і Жырыноўскага, на думку Быкава, пераключыцца, у большасьці, на Зюганава. Сымпатыі самога пісьменьніка ў гэтых варунках, натуральна, на баку Ельцына.*





— Ну, натуральна. Не таму, што гэта сымпатыі, але сапраўды — «из двух зол». Таму што калі прыйдзе да ўлады Ельцын — так яго адносіны з Лукашэнкам вельмі праблематычныя, так бы мовіць. А калі прыйдзе Зюганаў, дык ніякай праблематыкі няма, гэта аднадумцы і людзі адной камуністычнай фармацыі. Можна вызначыць, што чакае і Расею, і Беларусь.

*— Цікава, што ў гэтыя ж дні ўчора ў Латвіі былі таксама выбары прэзыдэнта, і быў пераабраны мінулы прэзыдэнт, які вядомы сваімі дэмакратычнымі рынкавымі поглядамі, і ніякага вялікага ўплыву на погляды ў прыбалтыйскіх краінах сытуацыя ў Расеі ня мела. А мы паранейшаму зьвязваем лёс сваёй краіны з Расеяй. Як вы думаеце, колькі будзе працягвацца такая сытуацыя, колькі будзе існаваць такая залежнасьць?*

— Будзе існаваць такая залежнасьць да таго часу, пакуль Беларусь ня стане сувэрэннай дзяржавай. А пакуль яна ад гэтай сувэрэннасьці ўсяляк адварочваецца. Ну, мы ж ведаем усе гэтыя захады нашага беларускага кіраўніцтва, асабліва прэзыдэнта. А прыбалты — яны адвярнуліся ўжо даўно, і правільна зрабілі. Бо яны будуюць уласныя дзяржавы адпаведна з нацыянальнымі ўласнымі інтарэсамі. А Беларусь яшчэ нават не ўсьвядамляе важнасьці сувэрэннасьці. І яшчэ пакуль мы топчамся на праблемах нацыянальнай ідэі, яшчэ ідуць дыскусіі, прычым у такім пачатковым выглядзе. Тыя ісьціны, якія ўжо спасьцігл народы сьвету, у Эўропе ўжо даўным-даўно з гэтай праблемай скончана — у нас яшчэ яна дыскутуецца.

*— Васіль Уладзімеравіч, а падзеі гэтай вясны вы не ацэньваеце як пералом у гэтай дыскусіі? Як перамену вэктару грамадзкага настрою?*

— Пералом грамадзкага настрою адбываецца, але вельмі марудна. Для гэтага патрэбныя, безумоўна, не тэарэтычныя нейкія выкладкі. Для пераломy важны будзе ка-

ляпс эканамічны. Вось як ён адбудзецца, тады людзі на ўласным жываце спасьцігнуць найважнейшыя ісьціны нашага веку.

*— Ну што ж, цяжка вучыцца на вопыце чужым, выглядае, што можна навучыцца толькі на сваім.*

— Для такіх нацыяў, як наша, толькі і магчыма вучыцца на ўласным вопыце. Ну, як вядома, гэта, канечне, ня самы лепшы варыянт.

*— Што ж, нават у дзень нараджэньня не выпадае не гаварыць з Васілём Быкавым пра палітыку. Але не выпадае не гаварыць і пра літаратуру. Апошнюю аповесьць Васіля Быкава чытачы могуць прачытаць у 4-м нумары часопіса «Полымя». А што чытае цяпер сам Васіль Быкаў? Што прыцягвае ягоную ўвагу?*
— Цяпер чытаю некаторыя публікацыі, якія адносяцца да самага пачатку творчасьці Янкі Купалы. У гарадзенскім часопісе «Сьвіцязь» надрукаваныя сьведчаньні малавядомыя, пра тое, як Купала пайшоў пасьля сьмерці яго бацькі з дому, з хутару, з фальварку пайшоў у белы сьвет, шукаць свайго шчасьця. Ну і асабліва яго адносіны з Эпімах-Шыпілам. Гэта вельмі важна, і я ня ведаў ува ўсёй складанасьці і важнасьці гэтага чалавека, ягонай ролі ў жыцьці, і асабліва ў станаўленьні пісьменьніцкім, паэтычным станаўленьні Купалы. Вось я гэта цяпер чытаю.

*— А чаму вам цікава сёньня чытаць пра Купалу? Апошні час роля прызнаных клясыкаў беларускай літаратуры значна зьменшылася. Увогуле зьявы, якія яшчэ нядаўна былі важныя, — вяртаньне праўды пра мінулае, адышлі на пэрыфэрыю грамадзкай думкі. Вы лічыце, што там ёсьць нейкі патэнцыял, які можна сёньня выкарыстаць? Гэта важна зноў?*

— Справа ня ў тым, ці важна. Але мне там бачыцца ўсё ж больш праўды пра лёс нацыі, калі мець на ўвазе літаратуру як крыніцу нейкага жыцьцяпісу нацыянальнага, чым у некаторых іншых творах, асабліва ў іншых літаратурных кірунках. Як вядома, цяпер моладзь ад сацыяльнасьці (літаратурная моладзь, я маю на ўвазе) уцякае больш да індывідуалізму, да самавыяўленьня. Але ўсё ж мне думаецца, што для нас па-ранейшаму важныя нейкія лёсавызначальныя моманты, і сярод іх, канечне, сацыяльныя рэвалюцыі расейскія, наша апошняе адраджэньне, яго матывы. То бок, сацыяльныя моманты, а зусім ня нейкія вытанчана-псыхалягічныя, індывідуалістычныя, якія, канечне, таксама цікавыя для літаратуры і маюць пэўнае значэньне, тым больш што літаратура мае поўнае права на гэта. Але ўсё-такі, усё-такі... Ну, мне асабіста бліжэй дэвіз Някрасава пра тое, што «паэтам можаш ты ня быць, а грамадзянінам быць абавязаны», чым некаторая вытанчаная лірыка там Фета ці Цютчава.

*— А хто ўвогуле ваш любімы паэт?*

— Любімы паэт зь беларускіх — Янка Купала, я скажу.

*— А што ў Купалы?*

— Асабліва купалаўская творчасьць дасавецкага пэрыяду. Таму што там вельмі шмат, безумоўна, і паэтычных вартасьцяў, гэта само сабой. Апроч таго, нейкая душэўная блізкасьць у ім мне адчуваецца. Блізкасьць характару, ці што. Гэта нейкая шчырасьць, гэта нейкая шчымлівасьць, гэта нейкае вельмі гуманістычнае стаўленьне яго да жыцьця і да чалавека.

Васілю Быкаву — 73 гады. Сам пісьменьнік адзначаць свайго дня нараджэньня не зьбіраецца і гасьцей, як сказаў, не запрашаў. А вось мы адзначым, бо гэта і нашае сьвята, і радасьць для ўсіх, хто любіць Быкава і яго кнігі. Як казаў Купала, «шукаючы волю — шаблячкай махну». Дзякуй вам, Васіль Уладзімеравіч, за вашую вострую шаблячку.

## «МЫ Ж БАЧЫМ, І ЎВЕСЬ СЬВЕТ БАЧЫЦЬ, ЯКІ РЭЖЫМ УСТАЛЁЎВАЕЦЦА Ў БЕЛАРУСІ»

31 ліпеня 1996

***Віталь Тарас, Менск***

Міжнародныя інфармацыйныя агенцтвы паведамілі, што лідэры БНФ Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык папрасілі палітычнага прытулку ў ЗША. Можна толькі ўявіць, колькі бруду ды інсынуацыяў абрынецца цяпер на лідэраў БНФ з вуснаў афіцыйных прэзыдэнцкіх ідэолягаў і афіцыйнай прэсы.

*Зусім ня выключана, што і ў лягеры саюзьнікаў Фронту ўчынак Пазьняка і Навумчыка будзе ўспрыняты неадназначна. Мяркуючы зь некаторых ранейшых публікацыяў, знойдуцца ахвотнікі абвінаваціць іх у здрадзе альбо баязьлівасьці. Вось што думае на гэты конт старшыня Беларускага ПЭН-цэнтру, народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў:*

*В.Быкаў:* Я таксама чуў, як некаторыя далёка ня добразычліўцы Народнага Фронту цяпер раптам пачалі клапаціцца праблемамі аўтарытэту Беларускага Народнага Фронту, асабліва ў сувязі з эміграцыяй яго лідэраў. Але рэч тут, канечне, ня ў гэтым. Мы ж бачым, і ўвесь сьвет бачыць, які рэжым усталёўваецца ў Беларусі. І як ва ўмовах гэтага рэжыму весьці колькі-небудзь дэмакратычную працу і змагацца за ідэалы Беларускага Народнага Фронту? Навогул, за нацыянальныя ідэалы, за беларушчыну?
Я лічу, што Пазьняк і Навумчык свае магчымасьці ў гэтым сэнсе амаль што вычарпалі — для іх ужо не засталося легальнай магчымасьці барацьбы, і сапраўды паўстала пагроза менавіта фізычнага зьнішчэньня. Калі Ілюхін у Маскве агучыў пэўныя пляны, дык можна меркаваць з пэўнасьцю, што гэта ня пляны ЦРУ, гэта пляны беларускага кіраўніцтва. І пасьля гэтага існаваць у Беларусі можна было лідэрам Беларускага Народнага Фронту толькі пэўны час. Ім яшчэ пашчасьціла, што ўдалося вырвацца зь Беларусі. Дапамог, я лічу, выпадак — празрыстая мяжа з Расеяй, празь якую яны выйшлі жывыя на Захад. І ў дадзеным выпадку патрабаваць ад іх вярнуцца — гэта ўсё роўна што патрабаваць зьдзейсьніць учынак камікадзэ. Такога маральнага права ня мае ніхто. І ў дадзеным выпадку рашэньне могуць прыняць толькі яны — толькі Пазьняк і толькі Навумчык. І калі яны прынялі такое рашэньне, значыць, гэта было адзіна магчымае рашэньне. Апроч таго, я хацеў бы дадаць, ведаючы і Пазьняка, і Навумчыка, — там іх не чакае прыватнае жыцьцё, яны і там будуць рабіць усё, самаахвярна рабіць на карысьць Беларусі і беларушчыны.

## «СОЗДАЕТСЯ ТАКОЙ РЕЖИМ, КОГДА РЕЧЬ ИДЕТ НЕ ТОЛЬКО О СВОБОДЕ ЧЕЛОВЕКА, А О ЛИЧНОМ СУЩЕСТВОВАНИИ»

23 жніўня 1996

***Пётар Вайль, Прага***

Інтэрвію Васіля Быкава Расейскай службе Радыё Свабода.

*— Мы попросили прокомментировать предоставление политического убежища Зянону Пазьняку и Сергею Наумчику известного белорусского писателя Василя Быкова. С каким чувством вы восприняли известие из Вашингтона?*

— Прежде всего с чувством огромной благодарности правительству Соединенных Штатов за то, что оно, верное традициям демократии, дает убежище, дает возмож-

ность для физического существования тем демократам, которые не могут найти для себя гарантий такого существования в другом мире.

*— Есть распространенная точка зрения: бороться надо внутри режима, а не извне. Каково ваше мнение?*

— Они оказались в состоянии потенциальной жертвы, поэтому неужели же можно требовать, чтобы они пожертвовали собственными жизнями во имя каких-то политических раскладок? У нас создается такой режим, когда речь идет не только о свободе человека, а о личном существовании. Именно Пазьняк и Наумчик потеряли такую гарантию, оказались в ситуации преследуемых.

*— Политическое убежище лидерам белорусской оппозиции — косвенный, но несомненный знак того, что в глазах мирового сообщества в Беларуси — несвободный, авторитарный режим...*

— По-моему, это уже видно всему миру.

## «МЫ НЯ ЧУЛІ ПАКАЯНЬНЯ ЗЬ ІНШАГА БОКУ ЗА НЯ МЕНШЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ»

16 кастрычніка 1996

Мінула пяцьдзясят гадоў ад Нюрнбэрскага працэсу. Што Нюрнбэрг для нас цяпер — адзінкавая акцыя, якая карала за канкрэтныя злачынствы ў канкрэтнай вайне? Сымбаль непазьбежнасьці пакараньня за ўсялякае зло, учыненае супраць народу, свайго ці чужога? Слова Васілю Быкаву — пісьменьніку, які ацэньвае рэжым у сучаснай Беларусі як «камунафашызм».

— Паўстагодзьдзя таму ў нямецкім горадзе Нюрнбэргу





скончыўся міжнародны трыбунал над галоўнымі нямецкімі злачынцамі. Дванаццаць чалавек былі прысуджаныя да сьмяротнага пакараньня, сем — да працяглага турэмнага зьняволеньня. Гэтак была пастаўленая кропка ў доўгім ланцугу злачынстваў, што залілі паўсьвету крывёю, учынілі разбурэньне Эўропы. Амаль год сьвет сачыў за кашмарнымі пэрыпэтыямі «працэсу стагодзьдзя», быў сьведкам таго, як выкручваліся пад цяжарам неабвержных доказаў нядаўнія валадары чалавечых жыцьцяў, лёсаў цэлых народаў Эўропы. Надта кантрастны быў той іх пераход са статусу ненажэрных, амаль сакральных валадароў у ганебны статус крымінальнікаў з акрываўленымі рукамі, якія ўчынілі генацыд, руйнаваньне матэрыяльнай і духоўнай культуры. Той пераход быў няпросты і нязвыклы таксама і для мільёнаў іхных германскіх прыхільнікаў, што нядаўна яшчэ прастадушна раўлі на плошчах пры адным толькі зьяўленьні ўласных нацысцкіх багоў, якімі тады былі для іх Гітлер, Гёбэльс, Гёрынг ды іншыя малыя і вялікія фюрэры Трэцяга райху. Вядома, у справе ўлады ды іхнага абагаўленьня вырашальную ролю адыграла сіла — найперш сіла ўзброеных фармаваньняў, такіх як СС, СД, тайная паліцыя вэрмахту. Але ня толькі гэтая сіла. Нацысцкае кіраўніцтва Нямеччыны на поўную моц выкарыстоўвала таксама духоўна-мазгавы патэнцыял нацыі. Дзясяткі, калі ня сотні тысяч інтэлектуалаў, германскіх «яйкагаловых», выпрацоўвалі зброю — звыродлівую мараль і філязофію «звышчалавекаў», якая ўрэшце і запанавала ў духоўным жыцьці мо самай духоўнай нацыі Эўропы. Мільёны меней духоўных, простых абываталяў служылі пачварнай справе сваіх фюрэраў, справе крыві і зьнішчэньня, і ўсё — у імя дабрабыту і росквіту райху. У грамадзтве нацысцкай Нямеччыны быў выдатна ажыцьцёўлены клясычны падзел — на тых, хто загадвае, і тых, хто выконвае. Тыя, што прымалі пастановы, тэарэтычна іх абнародавалі, аддавалі загады, нікога не забівалі, нават нікога ня крыўдзілі —

бо ніяк не кантактавалі са сваімі ахвярамі. А тыя, што забівалі, ахоўвалі, палілі і пускалі рэкі крыві, рабілі гэта не са сваёй волі, а на загад вышэйшых. Такі звыродлівы падзел павінен быў забясьпечыць абсалютную непадсуднасьць тых і другіх. Усё паводле старажытнага рымскага права, якое традыцыйна паважалася ў Эўропе.

Але на той раз гэтак ня сталася. Надта вялізнае было злачынства, надта шмат каштаваў фашызм усяму чалавецтву, каб даравацьяму тыя яго злачынствы. У старажытным нямецкім Нюрнбэргу, гэтай калысцы нацызму, антыфашыстоўская супольнасьць сьвету прадэманстравала згоду і волю новага кшталту. Прысуд міжнароднага трыбуналу пачуцьцём справядлівасьці лёг на душу ўсяго чалавецтва. Асабліва калі ў судовым вэрдыкце прагучала катэгарычнае асуджэньне ўсёй нацыянал-сацыялісцкай ідэалёгіі, партыі, службы бясьпекі, СД, СС, гестапа. Агрэсія супраць народаў і нацыяў была прызнаная самым цяжкім злачынствам супраць чалавецтва.

Безумоўна, тады гэта сталася вялізнаю перамогай над сілаю зла, і шмат каму, асабліва на Захадзе, здавалася, што найбольшае, калі не апошняе зло, ужо выкаранёнае. Так меркаваў і наш спакутаваны за доўгую вайну народ, які столькі страціў, і набыў хіба што адно — маральную перамогу. Тады мы былі далёкія ад думкі, што ня менш страшнае зло засталося ня толькі не кранутае ні вайной, ні пэўным прысудам, але яшчэ і ўзмоцненае нашай крывёй і менавіта нашай перамогай над фашызмам. Нашая грамадзкая сьвядомасьць была далёкая ад разуменьня ўласнай віны, асабліва ў дачыненьні да народаў Усходняй Эўропы, якім на паўсотні гадоў мы прынесьлі новае заняволеньне, і якія трапілі, так бы мовіць, з нацысцкага агню ў бальшавіцкае полымя. Дорага каштавала Эўропе тое паўстагодзьдзе, наступствы яго не зьліквідаваныя і да сёньня.

Урокі Нюрнбэргу актуальныя і цяпер. Як ні парадаксальна, фашызм для нямецкага народу — ужо гісторыя. Немцы ўсё зразумелі правільна, і даўно, і прылюдна пакаяліся ў злачынствах ранейшых пакаленьняў. Але мы ня чулі пакаяньня зь іншага боку за ня меншыя злачынствы, учыненыя супраць эўрапейскіх народаў, у тым ліку і беларускага. У першыя гады пасьля вайны можна было пачуць меркаваньне аб тым, каб Нюрнбэрскаму трыбуналу надаць статус пастаянна дзейнага. Патрэба ў тым была відавочная, і, мабыць, відавочнаю застанецца доўга. Злачынствы супраць народаў і чалавецтва доўжацца — з таго і іншага боку, а бараніць бязьвінныя ахвяры чалавецтва ня надта сьпяшаецца. І пры канцы XX стагодзьдзя сям-там прадаўжае ліцца кроў, і няма судзьдзяў, каб асудзіць злачынцаў, хоць бы змусіць іх пакаяцца. Чалавецтву дужа патрэбны пастаянна дзейны суд справядлівасьці, правобразам якога зьяўляецца даўні міжнародны трыбунал у нямецкім горадзе Нюрнбэргу.

## ЗБОРНІК АПАВЯДАНЬНЯЎ ВАСІЛЯ БЫКАВА «СЬЦЯНА» ЗЬНЯТЫ З ПЛЯНУ ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»

12 студзеня 1997

***Віталь Тарас, Менск***

У публічных выступах прадстаўнікі беларускага кіраўніцтва ўсё часьцей сталі гаварыць, што клапоцяцца пра пашырэньне культурнай спадчыны беларускай нацыі. Але што гэта будзе за спадчына, калі зь яе скарбніцы выкрэсьліваюць творчасьць Васіля Быкава? Цяпер Васіль Быкаў вызначаны ўладамі як «невыгодны», а ягоны апошні зборнік апавяданьняў «Сьцяна» зьняты з пляну выдавецтва «Мастацкая літаратура».

*Пры канцы верасьня 1996 году на адрас дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура» Георгія Марчука паступіў ліст зь Дзяржкамдруку пад назвай «Аб уключэньні ў дзяржаўны заказ выданьняў». У дакумэнце гаворыцца:*
*«Пасьля дэталёвага вывучэньня плянаў усіх дзяржаўных выдавецтваў на 1996 год і аналізу магчымасьцяў бюджэтнага фінансаваньня выпуску літаратуры, паведамляем: 1. Зборнік твораў Ларысы Геніюш здымаецца зь пераліку фінансаваных з-за таго, што гэтая ж пазыцыя на гэты ж год заплянавана ў «Юнацтве» вялікім накладам, а таксама з-за неаб'ектыўнай прадмовы да зборніка Міхася Тычыны (ухваленьне супрацоўніцтва з фашыстамі ў час Вялікай Айчыннай вайны). 2. Навукова-папулярную кнігу Ўладзімера Арлова і Генадзя Сагановіча «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» не ўключаем у пералік фінансаваных зь дзяржбюджэту выданьняў з-за таго, па-першае, што яна амаль цалкам друкавалася ў часопісе «Беларуская мінуўшчына» і ўжо вядомая чытачам, а таксама з-за таго, што ў ёй маецца шмат факталягічных недакладнасьцяў, рэдакцыйных хібаў. Напісана тэндэнцыйна, у русафобскім кірунку, што парушае замацаванае законам права чытачоў на аб'ектыўную інфармацыю. 3. Кнігу Васіля Быкава «Сьцяна» ня можам уключыць у плян выданьня літаратуры для дзяржаўных патрэбаў на 1996 год, па-першае, з-за недахопу фінансавых сродкаў. Зь вялікай цяжкасьцю фінансуецца нават абавязковая для навучаньня літаратура сэрыі «Школьная бібліятэка». Дарэчы, выдавецтва «Мастацкая літаратура» зрывае плян і графік выпуску «ШБ». Па-другое, сабраны на гэтую кнігу вельмі малы тыраж — 1620 экзэмпляраў, што амаль палова ад заплянаванага. Па-трэцяе, у выдавецтве «Ўраджай» у гэтым годзе выходзіць двухтомнік Васіля Быкава вялікім накладам».*
*Пры канцы ліста зробленая цікавая прыпіска аб тым, што ўсё, пра што вядзецца вышэй, не забараняе выдаць*





*названыя кнігі за сродкі выдавецтва, безь дзяржаўных датацыяў. Зьмест гэтага службовага ліста стаў вядомы нядаўна. Здавалася б, праз некалькі месяцаў і ня варта было б зьвяртацца да яго. Але застаецца галоўнае пытаньне: які лёс напаткаў кнігі вядомых у Беларусі й за яе межамі аўтараў? Народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў паведаміў, што зборнік ягоных апавяданьняў «Сьцяна» быў летась выкінуты з плянаў «Мастацкай літаратуры». Ці прыводзіла выдавецтва матывы такога рашэньня?*

*В.Быкаў:* Ды абсалютна ніякай матывацыі. Як бачыце, матывы яны даюць начальству, а з аўтарам — чаго ім, урэшце, клапаціцца пра нейкія матывы? Проста я ня меў ніякіх дакумэнтальных падставаў, каб думаць, што яны выдадуць маю кніжку. Гады два таму (паколькі зборнік апавяданьняў не выходзіў апошніх гадоў дваццаць) у выдавецтве «Мастацкая літаратура» мне прапанавалі зборнік выдаць. Я склаў гэты зборнік. Пасьля, я ведаю, што ён быў набраны яшчэ ў 1995 годзе. Я вычытаў карэктуру. Вось і ўсё. І пасьля... Я, праўда, не турбаваўся, не пытаўся, не хадзіў, ня скардзіўся, і таму яны мяне таксама не турбавалі. Гэта такі мэтад работы. Таму што я разумею — рашэньне выдаваць ці не выдаваць залежыць не ад выдавецтва, не ад яго дырэктара, а ад тых, хто стаіць над ім, хто ім кіруе, як гэта было ў таталітарныя часы. Таму — што ж тут можна...

*Пра выхад двухтомніка ў выдавецтве «Ўраджай» пісьменьнік сказаў:*

*В.Быкаў:* Першы том выйшаў, наконт другога я пакуль ня маю зьвестак ніякіх на гэты конт.

*Цікава, што кніга празаіка ў сэрыі «Школьная бібліятэка» выйшла ў сьвет у 1995 годзе, але друкуе гэтую сэрыю выдавецтва «Юнацтва», а не «Мастацкая літаратура», на якую Дзяржкамдрук чамусьці ўсклаў адказнасьць за зрыў графіку выпуску «Школьнай бібліятэкі»*

*тэкі». Што да кнігі «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі», дык, паводле аднаго зь яе аўтараў Генадзя Сагановіча, Інстытут гісторыі Акадэміі Навук Беларусі падрыхтаваў аўтарытэтнае заключэньне, у якім цалкам абвяргаецца абвінавачаньне ў «тэндэнцыйнасьці» і «неаб'ектыўнасьці» гэтага выданьня. Аднак, хаця кніга была ўжо набраная і нават падрыхтаваны яе макет, у сьвет яна ня выйшла. У дадзеным выпадку аўтары хаця б пасьпелі атрымаць частку ганарару, а Васіль Быкаў не атрымаў ні ганарару, ні прабачэньняў.*

## «ДАГЭТУЛЬ МЫ НЕ ПЕРАСТАЕМ БЛЫТАЦЬ КОЛЕРАЎ — ДУМАЦЬ, ШТО КАРЫЧНЕВАЕ НАДТА АДРОЗЬНІВАЕЦЦА АД ЧЫРВОНАГА»

9 сакавіка 1997

***Аляксандар Лукашук, Прага***

Сёньня мы пачынаем знаёміць вас з кнігай Васіля Быкава. У гэтага зборніка дзьве адметнасьці. Гэта першая кніга апавяданьняў празаіка. Гэта першая нявыдадзеная кніга Быкава. Нявыдадзеная, нягледзячы на тое, што выдавецкі тэхналягічны працэс быў завершаны. Складаньне і аўтарскае рэдагаваньне, праца рэдактара, набор, першая, другая карэктура ў гранках, выраб друкарскіх стужак, мастацкае афармленьне, як і праца дапаможных выдавецкіх службаў — усе этапы былі пройдзеныя яшчэ ў 1995 годзе. Рукапіс завіс. Пра прычыны — крыху пазьней, а пакуль аўтарская прадмова да нявыдадзенай кнігі.

*В.Быкаў:* З часоў Шэксьпіра чалавецтву вядома, якая гэта выдатная справа — непарыўная повязь часоў, і як кепска, калі тая повязь ірвецца. Што тычыцца беларусаў, дык мы гэта спазналі на нашым шматвяковым гістарычным вопыце. Дзясяткі гадоў мы жылі, адрэзаныя ад нашага гістарычнага мінулага, ад нашага вопыту, ад нашай гісторыі. У тым ліку і нядаўняй — гісторыі мінулай крывавай вайны. З часам памяць пра яе актыўна замянялася на прапагандавыя схемы, яе кроў — на пасьміхушкі пра яе, яе вялікая праўда — на карысьлівую праўдзівасьць таталітарнай партыі. Тыя, хто перанёс на сваім гарбу яе крывавы цяжар, ня надта схільныя памятаць сябе пакутнікамі, лацьвей убачыць героямі на гарачых канях пад чырвонымі сьцягамі. Тым болей, што сэрвільная пасьляваенная гістарыяграфія, палкі цынічных навукоўцаў не перастаюць пераконваць: у тым ваша праўда. У вернасьці ідэалам, у нескаронасьці, вашым бесьсьмяротным гераізьме. Гераізьме — так, але ж...
Але ж поруч з гераізмам было на вайне і інакшае. Вартае суседнічала з подлым, добрае — з кепскім. Як і ў кожным жыцьці. Як і ў нашым сёньня, якое гэтак абрыдла большасьці. Большасьці, што апынулася ў дурнях, і ня можа зразумець — з чыёй віны. Зь віны ўсё тых жа, хто рэвалюцыю робіць чужымі рукамі, хто вынішчае іншых, непадобных, хто прывык жыць у абставінах лютай барацьбы, найперш — са сваімі, бо сваіх лёгка перамагчы. Хто ў бой пасылае іншых, а сам застаецца камандаваць. І з тае нагоды пры ўсялякіх крывуляках лёсу мае барыш. У форме ўлады, прывілеяў, ці як цяпер — даляравага рахунку ў банку.
Мы, беларусы, у гэтым сэнсе асабліва цёмныя людзі. Дагэтуль мы не перастаем блытаць колераў, думаць, што карычневае надта адрозьніваецца ад чырвонага. Быццам ня ведаем, што ў спэктры шмат іншых колераў, і ёсьць пэўная магчымасьць выбару. Найперш — выбару свайго колеру, не чужога, бо чужы ніколі ня стане нашым, ён ужо — нечы, кімсьці прысвоены, камусьці належыць. А інстынкт прыватнай уласнасьці, як вядома, магутны інстынкт, дадзены чалавеку ад Бога, нікому з жывых істотаў Бог ня даў гэтага інстынкту, апроч ча-

лавека. Людзі сьвету зразумелі гэта даўно, а мы толькі пачынаем разумець цяпер. Колькі ж мы нарабілі памылак на гістарычным шляху да таго разуменьня! Дык можа хоць пры канцы XX стагодзьдзя перастанем быць дурнямі? Убачым пра сябе праўду, нават і непрывабную. Праўда ў гісторыі — функцыя адназначная, зь яе робяць урокі. З хлусьні ніякіх урокаў ня зробіш, апроч новай хлусьні.
У гэтай кніжцы, як спадзяецца аўтар, дробненькія аскялёпкі нашай вялікай праўды, якія, можа, каму-небудзь спатрэбяцца. Для дабра, зразумела. Калі тое здарыцца, дык аўтар будзе ўдзячны выдаўцам, аднадумцам, слухачам Радыё Свабода таксама.

> Васіль Быкаў ня стаў мяняць нічога ў сваёй аўтарскай прадмове, хіба дадаў толькі зварот да вас, паважаныя слухачы Радыё Свабода. На радыё мы, на жаль, ня зможам прэзэнтаваць усяго зборніка. Мы будзем чытаць фрагмэнты апавяданьняў, якія дзеляцца на тры цыклі, тры вайны. Слуцкая вайна, ЧК (гэта 1918–20-я гады), затым сталінская вайна (1930-я, Курапаты) і гітлераўская вайна (1941–45 гады). Слова рэдактару нявыдадзенай кнігі, былому супрацоўніку выдавецтва «Мастацкая літаратура» паэту Рыгору Барадуліну.

*Р.Барадулін:* Калісьці, ствараючы савецкі ВААП (Усесаюзнае агенцтва аховы аўтарскіх правоў) спэцыялісты ў цывільным тлумачылі, якія творы могуць быць, кажучы па-сучаснаму, канвэртоўнымі: вострасюжэтныя, глыбока псыхалягічныя, ляканічна-ёмістыя. Карацей, як творы Васіля Быкава. І калі ўдалося ў адносна зацішны час, фактычна міжуладзьдзе, выдаць збор твораў Васіля Быкава, уключыўшы аповесьці, забароненыя і зьнявечаныя савецкай цэнзурай, прыйшла мне ў галаву шчасьлівая думка папрасіць пісьменьніка з усясьветным прызнаньнем сабраць пад адзін дах свае навэлы і прыпавесьці.





Васіль Быкаў пагадзіўся, і недзе ў 1994 годзе ад нараджэньня Хрыстовага прынёс рукапіс будучай кнігі з кароткім, але шматзначным зьместам і падтэкстам імем «Сьцяна». Меркавалася, што кніга выйдзе да 50-годзьдзя заканчэньня вайны 1941–45 гадоў. Але не ўлічыў ні я як рэдактар гэтай неабходнай кнігі, ні аўтар, што палітычнае надвор’е ў Беларусі зьмянілася. Яго можна было назваць так сама, як адну з балючых аповесьцяў Васіля Быкава — «Сьцюжа». Няўгоднага ізноў, як і пры саветах, крамольнага пісьменьніка пачалі баяцца, глыбока ненавідзячы. «Сьцяна» была набраная, была зробленая і падпісаная карэктура, і на гэтым — кропка.
Старое кіраўніцтва выдавецтва «Мастацкая літаратура» толькі паціскала плячыма, быццам ня ведаючы, што з адпаведных інстанцыяў ёсьць загад: «Ходу не даваць!» Як і пры камуністах, афіцыйных папераў не было, усё — вусна, па званках, па позірках на паседжаньнях. Былы міністар Анатоль Бутэвіч абяцаў «разабрацца», абяцаў «даць ход». Але атрымалася, як у беларускай паказцы: «Абяцаў пан футра, ягоныя словы цёплыя». Прыйшоў новы міністар кіраваць друкам, я да яго як рэдактар ня мог грукацца, ды і ведаў, што ўсё марна. Гэта быў нехта Бельскі, нават сам нешта пісаў у прозе. Новы дырэктар «Мастацкай літаратуры» Марчук абяцаў, але ўжо без бутэвіцкага аптымізму, ды адчувалася, што меў цьвёрдае ўказаньне — як у Салтыкова-Шчадрына, «тащить и не пущать». З калідораў мiністэрства ішлі чуткі-адгаворкі, што «няма тыражу», што «ня будзе датацыяў». З прыходам на пасаду міністра друку і інфармацыі палкоўніка з блізкага атачэньня прэзыдэнта пра выхад кнігі пісьменьніка і марыць не заставалася.
Навэлы і прыпавесьці з кнігі «Сьцяна» аднаўляюць праўду сучаснай гісторыі, паказваючы барацьбу беларускага народу за сваю незалежнасьць. Праўда фронту, праўда партызаншчыны, Слуцкае паўстаньне, Курапаты... «Датацыяў» на такую кнігу нэасавецкія пастухі ад

ідэалёгіі, вядома, не дадуць, азіраючыся ў даўніну — на царскі двор, а ў нас цяпер — на калгасны двор. Стопрацэнтавая датацыя будзе дазволеным клясыкам, асабліва тым, хто тлумачыў лукашэнкаўскую прасавецкую сымболіку. Іх, хто «талкаваў» сымболіку, завуць проста — «талкуі». Як і ў савецкі час, Васіль Быкаў небясьпечны для рэжыму, таму і выдаць яго нельга. З кнігай Васіля Быкава «Сьцяна» атрымалася амаль як у вершы Максіма Багдановіча, памятаеце:

Я хлеба ў багатых прасіў і маліў, —
Яны ж мне каменьні давалі;
І тыя каменьні між імі і мной
Сьцяною вялізнаю ўсталі.

Яна ўсё вышай і вышай расьце,
І шмат каго дужа лякае.
Што ж будзе, як дрогне, як рухне яна?
Каго пад сабой пахавае?

На хвалях «Свабоды» творы з кнігі «Сьцяна» гучалі чатыры месяцы — з сакавіка да чэрвеня 1997 году.

## РЫГОР БАРАДУЛІН: «АКУДЖАВА ПРАСЬПЯВАЎ ПЕСЬНЮ, ПРЫСЬВЕЧАНУЮ ВАСІЛЮ БЫКАВУ»

13 чэрвеня 1997

Учора ў Парыжы на 74-м годзе жыцьця памёр Булат Акуджава — бард, пісьменьнік, якога любілі і многія нашыя слухачы. Акуджава быў асабліва папулярны ў 1960–70-я гады, калі магнітны самвыдат разносіў яго голас разам з галасамі Галіча і Высоцкага па ўсёй савецкай імпэрыі. Са словам памяці пра Акуджаву — народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін.





*Р.Барадулін:* Для нас, так званых «шасьцідзясятнікаў», што прыйшлі ў літаратуру пасьля хрушчоўскай «адлігі», Булат Акуджава быў кумірам. Бо быў шчыры, сьмелы, ні на каго не падобны. Песьні ягоныя паўтаралі мы цьвярозыя і не зусім, і вясёлыя, і смутныя. Я дзякую лёсу, што зьвёў мяне з Булатам — і падарожжамі па былой імпэрыі, і сустрэчамі ў Маскве і ў Менску.

Асабліва апошняя сустрэча ў Менску не забываецца. Бо тут шмат сораму за тых, хто жыве ў сталіцы Беларусі. Булат пасьля цяжкое хваробы прыехаў, каб выступіць у філярмоніі, мы з Васілём Быкавым прыйшлі паслухаць сябра свайго. На ганку «славянасабораўцы» пад крывавымі савецкімі сьцягамі абражалі ледзь ня кожнага, улюлюкалі ў сьпіну ўсім, хто ішоў «на Булата». У часе выступу (дарэчы, заля была паўнюткая) на сцэну выскачыў «славянасаборавец» — тады яшчэ ўказам прэзыдэнта не народны артыст Рэспублікі Беларусь, а актор Гасьцюхін, які прыехаў у Беларусь «на лоўлю шчасьця і чыноў», — і паламаў пласьцінку Булата Акуджавы з вулічнай лаянкай і пагрозамі. Заля сагнала са сцэны ашаленца. Паэзія і любоў да паэта перамаглі.

Булат аб’явіў, што ён рады бачыць у залі франтавіка, вялікага пісьменьніка зямлі беларускае, і прасьпяваў песьню, прысьвечаную Васілю Быкаву. Пасьля канцэрту зайшліся мы з Васілём Быкавым у пакой за сцэнай да Булата. Булат пазнаёміў са сваёй жонкай, ураджэнкай Менску. Гэта яна яму, як пісаў мне Булат, чытала мае пераклады Булатавых вершаў. Булат Акуджава заўжды цікавіўся жыцьцём у Беларусі, жыцьцём духоўным, творчым. Часьцяком бываў у нас, асабліва ў маладыя гады. Ён быў першым, хто выступаў у абарону дэмакратыі ў Беларусі, у абарону Васіля Быкава. Пайшоў ад нас верны сябра, таленавіты майстра прыгожага пісьменства, пясьняр свабоды.

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ УКЛЮЧАНЫ Ў СЬПІС ПРЭТЭНДЭНТАЎ НА БУКЕРАЎСКУЮ ПРЭМІЮ ЗА 1997 ГОД

16 чэрвеня 1997

***Віталь Тарас, Менск***

Букераўская прэмія ў галіне літаратуры — адна з найбольш прэстыжных у сьвеце і прысуджаецца штогоду Брытанскім камітэтам Букера.

На прэмію «Букер-97» вылучаная аповесьць Васіля Быкава «Пакахай мяне, салдацік», якая была надрукаваная ў 6-м нумары часопіса «Нёман» за 1996 год у перакладзе на расейскую мову. Поўны сьпіс прэтэндэнтаў на расейскага Букера апублікаваў на мінулым тыдні маскоўскі часопіс «Итоги». Як паведамляе часопіс, гэты сьпіс быў атрыманы рэдакцыяй з крыніцы, зьвязанай з Брытанскім камітэтам Букера. Сярод прэтэндэнтаў (а іх больш за сорак) амаль усе — расейскія пісьменьнікі. Беларусь прадстаўленая толькі адным імем, але гэта імя, якое не патрабуе ніякіх дадатковых рэкамэндацыяў. Праўда, у Беларусі ніводнае выданьне пакуль аб вылучэньні Васіля Быкава на прэстыжную прэмію не паведаміла і ніяк гэтай навіны не пракамэнтавала.
Стаўленьне ўладаў да асобы пісьменьніка і ягонай творчасьці апошні час своеасаблівае. Як у свой час паведамляла Радыё Свабода, зборнік апавяданьняў Васіля Быкава «Сьцяна» летась быў выкінуты з плянаў выдавецтва «Мастацкая літаратура». Пры гэтым у якасьці апраўданьня рабілася спасылка на тое, быццам творы пісьменьніка досыць часта выдаваліся ды перавыдаваліся, і цікавасьць да іх масавага чытача нібыта паменшала. Некаторыя пісьменьнікі дазвалялі сабе на старонках афіцыйнага друку сумнявацца ў тым, што Быкаў застаецца ў добрай творчай форме. Маўляў, усё ў яго — у мінулым, таму і займаецца цяпер палітыкай.





На гэтым фоне спэктакль «Пакахай мяне, салдацік» паводле аповесьці Васіля Быкава ў віцебскім Тэатры імя Якуба Коласа, які паставіў рэжысэр Валер Масьлюк, стаў фактам ня толькі тэатральнага, але і грамадзкага жыцьця. Што да вылучэньня Васіля Быкава на Букераўскую прэмію, дык гэты факт, зразумела, здольны выклікаць у літаратурных і калялітаратурных колах Беларусі самыя розныя пачуцьці і меркаваньні. Вось думка паэта Рыгора Барадуліна:

*Р.Барадулін:* Савецкая прапагандысцкая машына працавала зладжана на тое, каб Васіль Быкаў не атрымаў Нобэлеўскай прэміі. Яму вешалі і зорку Героя сацыялістычнай працы, і Ленінскую прэмію далі, каб ураўнаць да табуну «герояў» кшталту Сафронава, Шамякіна, Маркава. І цяпер на радзіме Васіль Быкаў мае толькі камяні прэзыдэнцкае прэсы, вэтэранаў тылавікоў-сьмершаўцаў. Вылучэньне Васіля Быкава на расейскую Букераўскую прэмію за незвычайную сваёй ранішнасьцю пачуцьця аповесьць «Пакахай мяне, салдацік» — факт і прыемны, і сумны. Зноў-такі, цьвердзіць біблейская ісьціна, што няма прарока ў айчыне сваёй. Свае — ня бачаць, суседзі-сябры — цэняць, усё ж праўда перамагае. Хочацца бачыць Васіля Быкава ў ліку тых, хто атрымае Букераўскую прэмію. Гэта як бы прыступка да Нобэлеўскае.

## ГОРКАЯ МУЗА БЫКАВА ЗБЛІЖАЛА САМЫХ РОЗНЫХ ЛЮДЗЕЙ

19 чэрвеня 1997

***Аляксандар Лукашук, Прага***

Сёньня дзень нараджэньня Васіля Быкава. Ягоны голас добра знаёмы слухачам «Свабоды». Апошнія тры месяцы ў перадачы «Чытальная заля» мы перагорт-

валі старонкі нявыдадзенай кнігі апавяданьняў Быкава «Сьцяна». На нашых хвалях прагучала і новае неапублікаванае апавяданьне «Музыка» — апавяданьне «нечаканага» Быкава, у якім уласьцівая пісьменьніку прытчавасьць згусьцілася да адной мэтафары — жалобнай касьмічнай музыкі.

«У дзень нараджэньня Быкава чамусьці хочацца павіншаваць самога сябе», — сказаў аднойчы мой сябра. Думка зразумелая, але ня ведаю, ці спадабалася б такая трактоўка самому Васілю Ўладзімеравічу. Хаця Быкаў быў і застаецца нечаканым. Напрыклад, дзякуючы яму я ўведаў, як называецца выпуклая паверхня вадкасьці ў капіляры. Пра гэта — крыху пазьней, а пакуль — пра надвор'е.
Памятаю, неяк я спытаўся ў Быкава, ад чаго ён атрымлівае найбольшае задавальненьне ў наш тлумны час — ад літаратуры, музыкі, сустрэчаў? «Ад прыроды, — адказаў тады Быкаў, — толькі гэта яшчэ застаецца нам. Зіма, лета, вясна, восень...» З прыродай у Беларусі няпроста, калі згадаць Чарнобыль. І ў Менску сёньня з раніцы дождж, як і ўчора, і пазаўчора. Аднак у Менску Быкава няма. Васіль Быкаў сустракае свой дзень нараджэньня ў Нямеччыне, дзе знаходзіцца на запрашэньне сваіх даўніх сяброў з фонду акцыі «Выкупленьне». Мяркуючы з публікацыяў у беларускім афіцыйным друку апошняга часу, і сёньня, як трыццаць, дваццаць і дзесяць гадоў таму, Васіля Быкава лепш разумеюць і шануюць былыя ворагі, чым былыя аднапалчане.
Але ня варта гаварыць пра нявартых. Тым больш — у дзень нараджэньня. Горкая муза Быкава зблізіла самых розных людзей, ад папы Рымскага да акадэміка Андрэя Сахарава, і Венечкі Ерафеева, аўтара знакамітай алькагольнай паэмы «Москва-Петушки», які на пытаньне пра любімага пісьменьніка адказаў: «Вядома, Быкаў». Я пераказаў неяк Быкаву сваё зьдзіўленьне ад таго інтэрвію, Быкаў усьміхнуўся і згадаў інтэрвію Ерафеева ў штотыднёвіку «Литературная Россия», дзе на падобнае ж пытаньне Венечка сказаў: «Я б наліў па поўнай шклянцы гарэлкі двум пісьменьнікам: Быкаву і Алесю Адамовічу. Быкаву нават з мэніскам». «Ведаеце, што такое мэніск?» — спытаўся Быкаў. «Нешта ў калене футбалістаў?» — выказаў я здагадку. «Не. Гэта калі наліваеце поўную шклянку — і яшчэ крышку, так што вадкасьць стаіць горкай, вышэй за край», — з задавальненьнем патлумачыў Быкаў. Я потым паглядзеў у слоўніку «мэніск». Сапраўды, «выпуклая паверхня вадкасьці ў капіляры».
Добрага вам здароўя, Васіль Уладзімеравіч, плёну за пісьмовым сталом і, дай Бог, крыху больш падставаў для радасьці, калі тое магчыма. Сёньня ад імя ўсіх, хто вас любіць, мы тут, у Празе, нальём за вашае здароўе. З мэніскам, зразумела.

## «САМАЯ РАДЫКАЛЬНАЯ І САМАЯ ВЫНІКОВАЯ СПРОБА З УСІХ СПРОБАЎ»

27 ліпеня 1997

***Сяргей Навумчык, Прага***

Адразу пасьля прыняцьця ў ліпені 1990 году Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі газэта «Літаратура і мастацтва» надрукавала інтэрвію з Васілём Быкавым, у якім ён даў ацэнку Дэкларацыі: «Каб дакумэнты такога роду адпавядалі свайму наміналу, патрэбны адпаведны палітычны ўзровень народнай сьвядомасьці, выразная дэмакратычная воля яго кіраўніцтва. А якая тут воля, калі ў гэтай залі Вярхоўнага Савету, які прымаў Дэкларацыю, выразна панаваў хаўтурны настрой, бо ўсё гэта рабілася супраць волі большасьці».

*— Васіль Уладзімеравіч, як вы цяпер ацэньваеце падзеі 27 ліпеня 1990 году і ролю тагачаснай апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12 скліканьня?*

*В.Быкаў:* Кожная гістарычная зьява выразна разумеецца з часам. У маштабах гісторыі вельмі цяжка зблізку зразумець тое ці іншае, асабліва такую лёсавызначальную зьяву як сувэрэннасьць той ці іншай краіны. Або яе шлях да гэтай сувэрэннасьці. Што датычыць сувэрэннасьці Беларусі, дык можна ўжо сказаць пэўна, што тое, што адбылося, хаця і не прынесла плёну, але яго нельга перааацаніць у гістарычным маштабе. Гэта вельмі значная зьява, і хаця яна, можна сказаць, закончылася нічым, яна дала ўрок, яна каторы раз заклала падмурак. Урэшце, я думаю, што гэтыя падмуркі калі-небудзь спраўдзяцца і спатрэбяцца. Калі гэта будзе — цяжка сказаць.
Што ж датычыцца апазыцыі ў Вярхоўным Савеце, то я думаю, што ў тых умовах, у той час менавіта апазыцыя Беларускага Народнага Фронту зрабіла гераічны ўчынак з таго, што дамаглася менавіта гэтай сувэрэннасьці. Гэта яе заслуга. І чым далей, незалежна ад таго, чым гэта скончыцца, незалежна ад лёсу Беларусі навогул, у гістарычным вымярэньні гэта будзе вельмі значна, гэта будзе ацэнена празь вякі. І тут ня так важна, ці гэта скончылася вялікай удачай, хаця шанец быў, вельмі рэдкі. Відаць, грамадзтва найперш з пэўных прычынаў не магло пакарыстацца гэтым шанцам. Але, усё ж зробленая спроба — можа быць, самая радыкальная і самая выніковая спроба з усіх спробаў. А няўдача — яна часам бывае болей значная і болей красамоўная за якуюнебудзь удачу, асабліва за ўдачу напалову. Я думаю, што час — ацэніць.





## «НАШ ШЛЯХ ПРЫВЯДЗЕ НАС У ЭЎРОПУ»

17 лістапада 1997

***Алена Ціхановіч, Прага***

> Карэспандэнтка чэскай газэты «Lidové noviny» Яна Чарвянкова адмыслова прыяжджала ў Менск, зацікавіўшыся праграмай нядаўняга кангрэсу Беларускага ПЭН-цэнтру. Пасьля гэтага яна ўжо выступіла ў друку з артыкулам «Беларусы ў расейскім баршчы». 11 лістапада «Lidové noviny» далі цэлую паласу на яе інтэрвію з Васілём Быкавым.

Некалькі словаў пра само выданьне. «Lidové noviny» — адна з самых салідных і старых чэскіх газэтаў, якая выдаецца з 1893 году, праўда, зь некалькімі вымушанымі перапынкамі. Штодзённы выхад газэты аднавіўся пасьля мірнай рэвалюцыі 1991-га. Васіль Быкаў — імя, вядомае чэскаму чытачу. Ад сярэдзіны 1970-х тут выйшлі ў перакладах ягоныя «Абэліск», «Дажыць да сьвітаньня», «Пайсьці і не вярнуцца», «Знак бяды», «Круглянскі мост». Ці зьмянілася стаўленьне чытача і аўтара да тэмы вайны, калі маладое пакаленьне краіны ўжо зьведала сваю вайну, у Аўганістане? — пытаецца Яна Чарвянкова.
На думку Васіля Быкава, зацікаўленьне вайной згасае, бо літаратура перасыцілася гэтай тэмай. Аднак новы час прынёс новы клубок праблемаў, сярод якіх вайна — найбольш складаная. Але гэта, са словаў пісьменьніка, ужо тэма новай генэрацыі. Што да пытаньня пра згасаньне прозы як жанру, то, на думку Быкава, сапраўды, яе ранейшая папулярнасьць можа завяршыцца адміраньнем. Але, відавочна, бэлетрыстыку заменяць іншыя жанры — дакумэнтальная літаратура, дзёньнікі, эсэ, публіцыстыка. Зьмены ў выдавецкай палітыцы, мяркуе Быкаў, закранаюць ня толькі наклады кніг. Але наклад ягоных твораў зьменшыўся ў дзесяць разоў і складае

ўжо 6–7 тысяч. Аднак праблема ня толькі ў зьмяншэньні дзяржаўных датацыяў. Рэч у тым, што дзяржава па-ранейшаму зьяўляецца выдаўцом-манапалістам і вырашае, каго друкаваць, а каго — не. Становішча незалежных выдавецтваў нетрывалае. Пры тым, на думку пісьменьніка, у Беларусі існуе вялікі кніжны прагал, які слаба запаўняецца, гэта — гістарычная літаратура. І таму, напрыклад, Беларускі ПЭН-цэнтар вызначыў сваю прэмію імя Францішка Багушэвіча за найлепшы твор на гістарычную тэму.
Разважаючы аб крызісе культурнай і моўнай сытуацыі ў Беларусі, Васіль Быкаў адной з прычынаў бачыць тое, што кіроўныя кадры краіны самі ёсьць прадуктам масавай культуры. Пісьменьнік яшчэ раз згадвае пра тое, што прэзыдэнт з часу свайго абраньня так і не сустрэўся зь дзеячамі культуры, хаця нядаўна перад тэлевізійнай камэрай гутарыў з аўтарам «габэлену стагодзьдзя». Магчыма, падставай такой цікавасьці было зьяўленьне сярод іканастасу знаных людзей Беларусі і прэзыдэнцкага партрэту.
«Дык як жа сталася, што дэмакраты ў вас прайгралі?» — пытаецца чэская журналістка ў Быкава. «Я жадаў іхнага выйгрышу, — адказвае Быкаў. — І дапамагаў. Але наша няўдача не азначае, што мы павінны пасыпаць галаву попелам, адрачыся ад сваіх мэтаў або шукаць нейкай лягчэйшай дарогі. Дэмакратычны шлях — адзінае выйсьце для Беларусі. Іншыя народы ішлі да яго яшчэ больш цяжка. Кожны народ мусіць заплаціць за свае здабыткі, а беларусы, мабыць, заплацілі яшчэ недастаткова».





## «ІХНЫЯ ІМЁНЫ ЗАПІШУЦЬ У КНІГІ»

27 студзеня 1998

***Юрась Карманаў, Менск***

> Сяброў Маладога Фронту Аляксея Шыдлоўскага, Вадзіма Лабковіча і Вадзіма Кабанчука неўзабаве чакае суд. Шыдлоўскі і Лабковіч могуць атрымаць да пяці гадоў пазбаўленьня волі за зьяўленьне на будынках у Стоўпцах апазыцыйных лёзунгаў (графіці); ім інкрымінуецца таксама зьдзек з афіцыйнай сымболікі і зьдзек з помніка. Кабанчука судзяць за ўдзел у акцыях апазыцыі ў сакавіку 1997 году і супраціў міліцыі.

Вадзім Лабковіч пачаў скардзіцца на сэрца, таму адвакат Іван Дудараў напісаў хадайніцтва пра зьмяненьне для свайго падабароннага меры стрыманьня. Хадайніцтва не задаволенае. Сьледчы Васіль Папін у першыя тыдні не дапускаў да Вадзіма маці й праводзіў допыты без апекуна ці адваката, што зьяўляецца парушэньнем заканадаўства. Цяпер Папіна «за пасьпяховую працу» павысілі: са Стаўпцоўскай раённай пракуратуры яго перавялі ў Менскую абласную. «Гісторыя стане тым арбітрам, які расставіць усё на свае месцы», — сьцьвярджае народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў.

*В.Быкаў:* Здаецца, ужо добра стала вядомая ганебная гісторыя трох маладых беларусаў, якіх без суду па тры-чатыры месяцы трымаюць за кратамі. І ў чым іх віна? У тым, што ня маючы іншай, канстытуцыйнай магчымасьці, яны скарысталі, можа, не зусім прыстойныя формы пратэсту супраць драпежнага рэжыму. Але ўжо відаць, што справа — не ва ўчынках хлопцаў, справа ў антыдэмакратычным рэжыме, які на прыкладзе Шыдлоўскага, Лабковіча і Кабанчука хоча запалохаць бела-

рускую моладзь, а таксама вучнёўства, студэнцтва, падавіць у іх волю да супраціву. Таму тры хлопцы абраныя ў якасьці ахвяраў. Але гэта яны ды іхныя лёсы толькі цяпер — ахвяры, у вачах рэжыму — ахвяры. А прыйдзе час, і яны набудуць іншыя якасьці, стануць героямі нацыі, іхныя імёны запішуць у кнігі гісторыі Беларусі, яны ўвойдуць у пералік яе змагароў за волю і незалежнасьць. Урэшце, тыранія згіне і ў Беларусі, як яна згінула паўсюль у Эўропе, і ня толькі ў Эўропе. Праўда, таго трэба дамагчыся. У тым ліку, можа, і турэмным лёсам такіх людзей як Аляксей Шыдлоўскі, Вадзім Лабковіч і Вадзім Кабанчук. Дай Бог ім цьвёрдасьці духу і нязломнасьці іх маладых характараў.



# Швэцыя Фінляндыя

красавік — травень 1998
чэрвень 1998 — сьнежань 1999

На пачатку 1998 году Быкаў прымае запрашэньне Фінскага ПЭН-цэнтру. Некалькі тыдняў Васіль Уладзімеравіч разам з жонкай Ірынай Міхайлаўнай жывуць у Вісьбю на высьпе Готлянд (Швэцыя), затым пераяжджаюць у Фінляндыю.

У Хэльсынкі абмежаванае кола сумаўленьня — зь беларусаў перакладчык Якуб Лапатка ды яшчэ некалькі чалавек. «Сёньня першы за зіму вельмі лагодны сонечны дзень, хадзілі з І.М. у зімовы лес. Гэта блізка да хаты. Хораша ўжо тым, што неяк нагадала ўласнае дзяцінства і зімовую (штодзень) дарогу (сьцежку) праз лес у школу. Ну, а ў 18.00, як заўжды, транзыстар да вуха — і навіны з Прагі пра Беларусь. Тэлевізіі ў мяне, дзякаваць богу, няма», — піша Быкаў дырэктару Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандру Лукашуку ў лютым 1999 году.

У Фінляндыі Быкаў стварае аповесьць «Ваўчыная яма», апавяданьні, зьвяртаецца да новага для яго жанру — прыпавесьцяў. Свае новыя творы ён дасылае на «Свабоду», і яны гучаць у эфіры.

## «КОЖНЫ НОВЫ ТВОР — РЭАКЦЫЯ НА НЕЗАДАВОЛЕНАСЬЦЬ ПАПЯРЭДНІМ ТВОРАМ»

19 чэрвеня 1998

***Аляксандар Лукашук, Прага***

У Васіля Быкава сёньня дзень нараджэньня. Вядомы беларускі пісьменьнік сустракае яго ня дома, а на поўначы Эўропы, у Фінляндыі, дзе ён знаходзіцца на запрашэньне Фінскага ПЭН-цэнтру. Мы патэлефанавалі ў Хэльсынкі і пасьля віншаваньняў папрасілі Васіля Быкава, сталага аўтара і даўняга слухача «Свабоды», адказаць на некалькі пытаньняў.

*— Васіль Уладзімеравіч, заканчваецца XX стагодзьдзе. Як вы бачыце ягоныя вынікі і пэрспэктывы з вышыні свайго ўзросту?*

— Я думаю, што ёсьць нейкія вынікі, нейкія зрухі. Але калі гаварыць пра тое, чым вызначаецца самы канец, дык я сказаў бы, што для беларусаў, для мяне, вялікім расчараваньнем вызначаецца гэты канец. Тыя абяцанкі, якія мы атрымалі пасьля распаду расейскай імпэрыі, ня зьдзейсьніліся. Калі гаварыць пра эканоміку, дык вядома, куды яна ідзе, і чым усё гэта можа скончыцца. Нейкая надзея жыве, і хочацца спадзявацца, але я ўжо казаў, што гэта — ня ў межах жыцьця майго пакаленьня. Гэта наступныя пакаленьні дамогуцца, чагосьці лепшага дачакаюцца, але ўжо ў наступным стагодзьдзі.

*— Што вам сёньня найбліжэй з напісанага вамі?*

— Мне з усяго напісанага наўрад ці што падабаецца. Таму што ідзе час, і ў гэтым ёсьць пэўны стымул. Кожны новы твор — гэта рэакцыя на незадаволенасьць папярэднім творам, у мяне гэтак. Значыць, у папярэднім творы я нечага не сказаў, не даказаў, расказаў ня так, тады насьпявае новы твор, дзе я спрабую зьдзейсьніць





тое, чаго мне хочацца, і зноў жа, не дасягаю мэты... Ну, у гэтым ёсьць нейкі дыялектычны рух. Гэта добра, але ў той жа час тут драма творцы, мне так думаецца.

*— Як мяркуеце, што значаць для чалавека памылкі і паразы ў ягоным жыцьці?*

— Заўсёды вялікае значэньне маюць і памылкі, і паразы, але толькі ў тым выпадку, калі ён іх усьведамляе як памылкі і як паразы. Часта людзі ня здольныя іменна так асэнсоўваць і так успрымаць гэта, і тады ім здаецца, што параза — гэта дасягненьне, і памылкі — ніякія не памылкі. Але ўсё ж такі я думаю, што ў агульначалавечым жыцьці паразы больш значаць за дасягненьні. Таму што яны хоць мяркуюць нейкі рух, закладаюць нейкія спадзяваньні, а суцэльныя дасягненьні — гэта ўжо кропка.

*— А калі гаварыць больш канкрэтна, альбо пра Беларусь, альбо пра вас асабіста... Які можа быць прыклад?*

— Асабіста? Хто ведае, цяжка сказаць... У жыцьці так бывае, і вельмі часта, што тое, што сёньня зьяўляецца паразай, праз нейкі час пераўтвараецца ў адваротнае. І наадварот. Таму ў літаратуры, напрыклад, я не люблю займацца сучаснасьцю, адрозна ад многіх нашых літаратараў (да гэтага іх у савецкі час звычайна ўлады заклікалі) — пісаць на сучасныя тэмы, дасьледаваць сучаснасьць. Усё ж у мінулым больш бачыцца. І лепш разумеецца мінулае. І, зноў жа, таму зь яго, зь мінулага робяць нейкія высновы.

*— Васіль Уладзімеравіч, што вас радуе больш за ўсё?*

— Найбольш мяне радуе маладое пакаленьне, якое выходзіць усё болей настойліва, хаця з памылкамі, са шматлікімі няўдачамі, з расчараваньнямі — яно выходзіць на арэну палітычнага жыцьця. Канечне, на арэну палітычную — гэта добра, але тады будзе пэўны зрух, пэўная надзея, калі на ўсе арэны выйдзе моладзь, зой-

ме ўсе пазыцыі — эканамічныя, палітычныя, культурныя. Вось у гэтым будзе надзея і пэўная радасьць.

*— Вы цяпер знаходзіцеся за тысячу кілямэтраў ад дому. Ці вы ўзялі з сабой беларускія кнігі? Як вы падтрымліваеце сувязь зь Беларусьсю?*

— Сувязь зь Беларусьсю — гэта, па-першае, сувязь зь сябрамі. Па-другое, гэта друк беларускі дэмакратычны, нават недасяжны тут, але ёсьць радыё. І ў тым ліку (а можа, нават і ў першую чаргу) — Радыё Свабода.

## КАРЛАС ШЭРМАН: «ЯГОНЫЯ ДУМКІ — З НАМІ»

19 чэрвеня 1998

Зь віншавальным словам — старшыня Беларускага ПЭН-цэнтру пісьменьнік Карлас Шэрман.

*К.Шэрман:* Сёньня я б хацеў павіншаваць чытачоў выдатных кніг Васіля Ўладзімеравіча Быкава з днём ягонага нараджэньня. Ён піша, працуе над новай кнігай, і ўсе ягоныя думкі — з намі. Ён адчувае становішча ў нас. Ён хварэе за нас, ён хоча, каб у нас было як мага лепш. Але часова ён павінен знаходзіцца там. Кнігі Васіля Ўладзімеравіча будуць заўжды разам з намі, і неўзабаве, хутка мы атрымаем новую кнігу. І ўсё зробім, каб гэтая кніга дайшла да чытача. Нават такім выдатным чынам, як гэта зрабіў фонд «Наша Ніва», які літаральна на народныя грошы і надрукаваў «Сьцяну». Сьцяны адмоўчваньня Быкава ня будзе ніколі, бо ён — з намі, у нашых душах.





## НОБЭЛЬ — ЧАРНОБЫЛЬ НААДВАРОТ

5 ліпеня 1998

***Сяргей Дубавец, Вільня***

Беларуская інтэлігенцыя збалелася па Нобэлеўскай прэміі. Пра гэта гавораць, мараць, вераць у шчасьлівае ўзнагароджаньне, як у панацэю ад нацыянальнага выраджэньня. Усе гэтыя, на першы погляд, бясcэнсавыя летуценьні ўжо самі ёсьць жыцьцём культуры, якая намацвае сваю новую постсавецкую герархію.

На Нобэлеўскую прэмію вылучаюць, аб ёй хадайнічаюць, за яе спаборнічаюць. І ўсё гэта адбываецца пераважна таемна або й зусім таемна. Бо такія правілы дыктуе сам інстытут Нобэлеўскай прэміі, якая прызначаецца ў выніку складанай сыстэмы кулюарнага лабіяваньня. Сакрэтнасьць прыводзіць да таго, што ў розных асяродках беларускае эліты маюць на Нобэля свае «віды», пра якія па-за межамі асяродку ня ведае ніхто. Такім чынам, у Беларусі можа адначасова высьпельвацца некалькі кандыдатаў у розных намінацыях, а самое прызначэньне акажацца, як заўсёды, нечаканым. Момант мафіёзнасьці ў гэтыя закулісныя гульні прыўносіць аб'ём прэміі — больш за мільён даляраў. Можна ўявіць сабе, што для некага гэта ніштаваты бізнэс.
У нацыяналістычных асяродках Нобэля зьвязваюць найперш зь літаратурай і найчасьцей называюць імя Васіля Быкава. Але й тут, высьвятляецца, ня ўсё адназначна і «адзінагалосна». Скажам, я быў перакананы, што ўся наша эліта спадзяецца на прысуджэньне прэміі Быкаву і як можа лабіюе гэтую ідэю яшчэ з часоў Брэжнева (калі Быкаву, казалі, далі Ленінскую прэмію нібыта дзеля таго, каб ён не атрымаў Нобэля), а можа і раней.
І вось гады тры таму ў зімовай Варшаве я размаўляю з адным беларускім апазыцыйным прафэсарам і кажу

яму, што няблага было б, каб наша апазыцыя выкарыстала свае міжнародныя сувязі дзеля лабіяваньня Васіля Быкава на прэмію. Прафэсар задумаўся і адказаў, што Быкаў, вядома, добры пісьменьнік, але ён стары, а ў нас ёсьць маладзейшыя, якія пра вайну пішуць лепей за яго. Адказ прафэсара я расцаніў як недасьведчанасьць. Маўляў, ня ведае чалавек літаратуры, бо якія такія маладзейшыя ў нас пішуць лепш за Быкава і тым больш пра вайну? Тую гутарку з прафэсарам я ўвесь час згадваў для сябе амаль як анэкдот. Пакуль не зразумеў, што памыляўся тады не прафэсар, а я сам. І ў той час, калі мы гаворым пра кандыдатуру Васіля Быкава, у яго, аказваецца, ёсьць у Беларусі зусім рэальны канкурэнт. Зусім нядаўна я зразумеў, што прафэсар меў на ўвазе Сьвятлану Алексіевіч. Яна ж і маладзейшая, і таксама піша пра вайну. Яе творы шырока перакладаюцца ў сьвеце. Увагі з боку прэсы ёй не бракуе, ды й пра яе кандыдатуру на Нобэля ўжо даводзілася чуць ня раз. А калі ўлічыць, што прэмія, як правіла, бывае нечаканай... Выходзіць, бээнэфаўскі прафэсар ужо тры гады таму ведаў, каго яму трэба лабіяваць на швэдзкую прэмію.
Асабіста я нічога ня маю супраць Сьвятланы Алексіевіч. І калі б зоркі леглі для яе шчасьліва, варта было б шчыра парадавацца за пісьменьніцу, якая піша па-расейску. Але не за Беларусь. Бо, парадаксальным чынам, такая прэмія магла б стаць апошнім цьвіком у труну беларускае мовы, якая пасьля такога прызнаньня расейскамоўнае літаратуры ў Беларусі наўрад ці б ужо ачомалася да паўнавартаснага грамадзкага існаваньня. Магчыма, яна б атрымала статус ірляндзкае мовы, на якой яшчэ гавораць сяляне ў краіне, дзе сямёра ангельскамоўных пісьменьнікаў носяць званьне ляўрэатаў Нобэля. Справядліва было б, каб расейскамоўныя пісьменьнікі прадстаўляліся ў сьвеце як расейскія. На жаль, пакуль гэта ня так. І ў тым не віна пісьменьнікаў, а бяда тых краінаў, што падарваныя 200-гадовай расейскай акупацыяй.





Купалава апазыцыя «Белабог — Чарнабог» трансфармавалася ў алітэрацыю Аляксандра Лукашука «Нобэль — Чарнобыль». Самое слова «нобэль» з гэтага моманту стала беларускім. Ці стане яно для нашае культуры лёсавызначальным?

*Аляксандар Лукашук:* Нобэлеўская прэмія для Беларусі — як Чарнобыль наадварот. Ейнае выпраменьваньне прасякнула б жыцьцё нацыі на пакаленьні наперад і асьвяціла б на пакаленьні назад. У гэтым сьвятле адкрылася б — і так стала існай — уся Беларусь, мінулая і будучая, для сьвету і для сябе самой. Спраўдзілася б Купалава мэтафара пра пачэсны пасад між народамі. З Нобэлеўскага п’едэсталу загаварыла б уся нашая задушаная, закатаваная, расстраляная ў XX стагодзьдзі літаратура і мова. Яна б уваскросла як Хрыстос пасьля зьняцьця з крыжа. Тое, што я сказаў, — аргумэнты слабасьці. Вонкавае прызнаньне — пацьверджаньне істотнасьці існаваньня, яго вартаснасьці — патрэбнае тым, хто сумняецца ў сабе. Беларусы сумняюцца. Для мяне асабіста гэта быў бы самы шчасьлівы дзень у жыцьці. Толькі слабыя ведаюць, што такое перамога.

*Уладзімер Арлоў:* Я лічу, што найбольшую верагоднасьць атрымаць Нобэлеўскую прэмію ў сучаснай Беларусі мае пісьменьнік, і мы ведаем імя гэтага пісьменьніка. Калі прысуджэньне яму Нобэлеўскай прэміі адбудзецца, напрыклад, сёлета, то мой прагноз такі. Па-першае, нарэшце сярод багатых беларусаў зьявіцца пісьменьнік, які дасягнуў багацьця не праз гандаль, напрыклад, гарэлкай ці сумленьнем, а — літаратурнай працай. Па-другое, чалавек, які займае пасаду прэзыдэнта краіны, не павіншуе нобэлеўскага ляўрэата. Па-трэцяе, дзяржаўныя выдавецтвы Беларусі не закідаюць нобэлеўскага ляўрэата прапановамі пра новыя выданьні ягоных кніг. Па-чацьвертае, Міністэрства адукацыі не парэкамэндуе выкладчыкам роднай мовы й літаратуры абавязкова правесьці адмысловы ўрок, прысьвечаны нова-

му нобэлеўскаму ляўрэату. Па-пятае, калі чытачы захочуць сустрэцца зь ляўрэатам, высьветліцца, што дзеля гэтага патрэбны пісьмовы дазвол вэртыкалі або, напрыклад, БПСМ. Можна прагназаваць таксама пэўныя захады з боку падатковай інспэкцыі. Але ўрэшце гэткая рэакцыя будзе мець несумнеўны станоўчы эфэкт. Карацей, я мару, што ў XXI стагодзьдзе Беларусь саступіць са сваім першым нобэлеўскім ляўрэатам, бо на наступнае стагодзьдзе ў нас плянуюцца новыя.

*Зянон Пазьняк:* Нобэлеўская, як і ўсялякая прэмія, што адзначае талент і інтэлект, спрыяе фармаваньню разумнай эліты грамадзтва. А ў грамадзтве ўзровень разумнай эліты — гэта найважнейшае. Страта такой эліты ці яе перараджэньне, ці абніжэньне ўзроўню вядзе да грамадзкіх хваробаў, такіх як таталітарызм, самаразбурэньне, страта арыенціраў, што можа скончыцца нацыянальнай катастрофай. Наяўнасьць прэміі для эліты і для элітарных дасягненьняў трэба толькі вітаць. З другога боку, сытуацыя з прызначэньнем такіх прэміяў ня можа быць цалкам аб'ектыўная. Тут умешваюцца палітычныя, геаграфічныя і іншыя традыцыйныя чыньнікі. Акрамя таго, грамадзтва таксама павінна быць актыўнае. Інтэлектуальны ўзровень беларускай эліты — гуманітарнай, навуковай, тэхнічнай — вельмі высокі. Але грамадзтва ня ўмее яго скарыстаць, ня ўмее выявіць, прадставіць і нават шанаваць. Не знаходзіцца актыўных людзей, каб арганізаваць падрыхтоўку і прадставіць Васіля Быкава на Нобэлеўскую прэмію. Само па сабе такое ня робіцца, а пісьменьнік і ягоная творчасьць вартыя прэміі Нобэля. Грамадзтва ня здолела нават абараніць вялікага пісьменьніка ад лукашэнкаўскага акупацыйнага рэжыму. І гэта ў значнай ступені ўзяла на сябе міжнародная супольнасьць. Так што розум у грамадзтве павінен быць актыўны. Калі гэтага ня будзе, то не адбудзецца і яго поўнай рэалізацыі. Будуць страты. Можа быць, як і ў прыкладзе зь Беларусьсю, высокі інтэлектуальны ўзровень, але гэта прападае марна альбо выкарыстоўваецца іншымі, не на карысьць нацыі.





*Андранік Антанян:* Існуе стэрэатып, згодна зь якім Нобэлеўская прэмія ў літаратуры — гэта найвышэйшая ступень міжнароднага прызнаньня пісьменьніка. Доўгі час у гэта верыў і я, ажно да таго дня, пакуль на распродажы ў бібліятэцы за сьмешную суму не набыў кніжкі Эляны Балютавічуце «Пісьменьнікі-ляўрэаты Нобэлеўскай прэміі». І зьдзівіў мяне ў гэтай кніжцы ня столькі сам не па-эўрапейску мудрагелісты цырыманіял шанаваньня чарговых ляўрэатаў — ад Каралеўскага прыёму да дзяўчынак з запаленымі сьвечкамі ў галаўным уборы, якія 13 сьнежня пояць абраньнікаў Швэдзкай акадэміі каваю. Ня столькі фармулёўкі матываў прысуджэньня таму ці іншаму пісьменьніку, хоць значная частка зь іх поўная звычайных алягізмаў. Скажам, Габрыэлю Гарсія Маркесу прысудзілі прэмію «За раманы і навэлы, у якіх фантазія і рэчаіснасьць зьліваюцца ў адзін багаты паэтычны сьвет, які адлюстроўвае жыцьцё аднаго кантынэнту і яго канфлікты». Можна падумаць, што канфлікты знаходзяцца па-за межамі чалавечага жыцьця. Але гэта мяне не зьдзівіла. Зьдзівіла тое, што пра існаваньне добрай трацiны нобэлеўскіх ляўрэатаў я даведаўся з гэтай кніжкі. Мне неяк здавалася, што больш-менш арыентуюся ў гісторыі літаратуры XX стагодзьдзя. Але ў каго са знаёмых філёлягаў ні пытаўся, што ім гавораць прозьвішчы: Г'елеруп, Понтапідан, Ундсэт... Усе паціскалі плячыма і ў адзін голас казалі: «Скандынавы нейкія». Вось табе і ўсясьветная вядомасьць. Так што леташні нобэлеўскі сюжэт зь нікому не вядомым італьянскім блазнам і прапановаю Сяргея Шупы закрываць нобэлеўскую манапольку, відаць, ужо меў месца ў гісторыі літаратурнага працэсу. Некалькі гадоў сярод беларускіх літаратараў і журналістаў ходзяць чуткі, што калі ня сёлета, дык у наступным годзе Васіль Быкаў атрымае Нобэлеўскую прэмію. Для

мяне гэта толькі новая інкарнацыя старога слогану беларускага адраджэньня «Загляне сонца і ў наша ваконца». Аднак, як сьведчыць гісторыя, мудрае эўрапейскае сонца нешта ня надта любіць сьвяціць для нашага краю. Клімат у нас ня сонечны, ці што?
Уяўляю, што дзяды з Швэдзкае акадэміі ўсё ж прагаласуюць за сына беларускай вёскі Васіля Быкава і прызнаюць яго за аднаго з найвыбітнейшых літаратараў сучаснасьці. Што гэта зьменіць? Натуральна, колькі тыдняў усе эўрапейскія газэты будуць друкаваць партрэты Васіля Быкава. Пісаць пра яго як пра вялікага пісьменьніка і нязломнага барацьбіта, перакладаць на скорую руку ўрыўкі зь ягоных твораў. Колькі дзясяткаў тысяч чалавек даведаюцца, што існуе беларуская мова і літаратура. Натуральна, што не абыдзецца без кур'ёзаў. Бо журналістам пісаць даводзіцца пра тое, у чым яны ні на грам не разьбіраюцца. Ясна, што за гэтым хлыне хваля перакладаў. Перакладаць аповесьці Васіля Быкава будуць пераважна з расейскай мовы, і друкавацца яны будуць пераважна ў спэцыялізаваных выданьнях. А праз дваццаць гадоў які-небудзь дацкі філёляг знойдзе ў сьпісе нобэлеўскіх ляўрэатаў прозьвішча Быкава і з хітраватаю ўсьмешкай будзе пытацца ў сваіх знаёмых філёлягаў: «Хто такі Васіль Быкаў?» А яму ў адзін голас будуць адказваць: «Ня ведаю. Расеец нейкі...»
Што да Беларусі, то, баюся, калі сёлета Васіль Быкаў урачыста вып'е кавы з Карлам XVI Густавам, гэта нічога ня зьменіць. «Советская Белоруссия» будзе пісаць пра перафарбоўшчыка й каньюнктуршчыка Быкава, які на старасьці гадоў вырашыў напляваць на ідэалы «советской Родины», пра даўгія рукі амэрыканскай разьведкі і пра тое, што імпэрыялісты з НАТО суюць свой доўгі нос у справы «суверенной республики», і патасна пытацца, а чаму не далі такога ж мэдаля й такога ж чэка з шасьцю нулямі Івану Шамякіну, які нічым ня горшы. Народ збольшага будзе паблажліва казаць пра тое, што прэмію Быкаву далі за тое, што ён бээнэфавец, і выключна для таго, каб насаліць прэзыдэнту. Новых чытачоў беларускім кніжкам гэта не дадасьць. Як не ўплываюць на іх наклады розныя дзяржаўныя прэміі, што немаведама па якім прынцыпе штогод раздаюцца шчодраю рукою. Бо беларусы прызвычаіліся да пахмурнага надвор'я.

*Зьміцер Бартосік:* Апошнія дні ці, дакладней, ночы чэрвеня жыхарам менскага цэнтру ўжо другі год не прыносяць жаданага адпачынку пасьля працоўнага дня. На галоўным праспэкце ідзе рэпэтыцыя вайсковага параду да галоўнага сьвята нашай сёньняшняй дзяржавы. Наглуха зачыненыя вокны не вылатоўваюць ад выхлапнога смуроду вялізнае браняванае калёны. Гукі рухавікоў прасочваюцца скрозь капітальныя сьцены пасьляваенных дамоў, а стальныя гусяніцы пры сутыкненьні з асфальтам прымушаюць зьвінець кожную шыбіну.
Я вызірнуў на вуліцу не зь цікаўнасьці, а ад немагчымасьці заснуць. Але ўбачаная карціна не падалася мне сумнай. Хутчэй, заваражыла сваёю гарманічнасьцю. Па начным праспэкце, які ізноў зрабіўся Сталінскім, цёмнымі прывідамі праносіліся танкі, БТРы ды іншыя пачвары. Замыкалі калёну тры джыпы з прымацаванымі сьцягамі знаёмых колераў, што бравурна выпросталіся ветрам. Як тут усё адпавядала адно аднаму: архітэктура пераможнага трыюмфу, нафарбаваная дзеля параду тэхніка, колеры сьцягоў. Нават жоўтая літара «М» моднай амэрыканскай сталоўкі нейкім чынам упісвалася ў гэты «начны патруль». Цалкам лішнімі глядзеліся адно выпадковыя гледачы. Сваім разьняволеным, неўніфармаваным выглядам яны ўносілі дысгармонію ў агульную карцінку. Я зрабіў намаганьне ўявіць на гэтых машынах нашыя сьцягі. Але не ўявілася. Нашыя сьцягі не для начных спэктакляў...
Дзень усё верне на свае месцы. Дзённае сьвятло змые ўвесь начны містыцызм. Баявая тэхніка ўжо ня здасца такою непераможнаю, хутчэй недарэчнаю. Баі ў гэты

дзень будуцьісьці большай часткаю ў чэргах па піва. А галоўны камандзір зьдзейсьніць нязвыклы для сябе ўчынак — зачытае сьвяточную прамову на беларускай мове. Апатэозам сьвята стане канцэрт колішняй менскай дзяўчынкі, якая ўсё ж «прабілася ў Маскву». А пазаўтра ўсё ізноў пойдзе сваёй чарадой. Танкі схаваюцца да наступнага параду. Апазыцыйная прэса будзе з новай сілаю «разоблачать антибелорусский режим». А рэжым будзе надалей дасканаліць свой стыль і сваю мову. І спажыўцы дзяржаўнага беларускага слова знойдуцца. Мовы, на якой нельга мысьліць, але можна паслухаць «канцэрт па заяўках радыёслухачоў», можна даць аб'яву ў газэту «Звязда», ці нават самому напісаць які беларускі вершык для «Чырвонай змены». Не забываючыся на запаветную мару «пробиться». Што з гэтым тэлебачаньнем, з гэтай прэсаю, а значыць, і з гэтай моваю ніяк не асацыюецца. Чырвоная беларушчына застаецца прыручанай сінічкаю не для высокіх палётаў. Назаўсёды скаваная сваім адмысловам стылем. Хіба могуць словы прыпевак і вестак з палеткаў каштаваць дорага?

А сапраўды, хто-небудзь хоць аднойчы спрабаваў вылічыць кошт мовы? Можа, гэта пара тысяч за датаванае беларускамоўнае выданьне, ці, можа, усё, чым валодае сёньня рэальная Рэспубліка Беларусь? Разам з усімі сваімі танкамі ды камбайнамі. І які хаос мог бы ўнесьці ў мазгі лаўцоў маскоўскага жорава нобэлеўскі мільён, дадзены менавіта нашаму слову. Як першы лот у ацэнцы. Як указальнік кірунку, куды сапраўды варта прабівацца. Як гатовы сьцьвярджальны адказ на шмат якія пытаньні, што сёньня здаюцца недарэчнымі. Што можна, валодаючы гэтым словам, прачнуцца мільянэрам? На гэтай мове можна зьдзяйсьняць самыя дарагія маскультурныя праекты, кшталту свайго нацыянальнага «Плэйбою» ці мыльнаопэрнага сэрыялу? І менавіта на гэтай мове навучаць кіраваць танкам?.. Але наўрад ці такія пытаньні прыходзяць у галаву тым, хто пад





бразгат жалеза аб асфальт марна намагаецца заснуць. Каб назаўтра намагацца стварыць сабе «харошае настраеніе». Я ж ведаю адказы на тыя пытаньні і бяз Нобэлеўскай прэміі. А паколькі гэтыя танкі надаюцца выключна для параду, я маю надзею дачакацца ўтылізацыі іх і ўсяго таго, што яны быццам бы аберагаюць.

*Сяргей Харэўскі:* Аднаго разу польскае пасольства ў Менску наладзіла вечарыну, прысьвечаную прызначэньню Нобэлеўскае прэміі Віславе Шымборскай. Як і мае быць, было запрошана колькі літаратараў, перакладчыкаў, журналістаў з культурніцкіх выданьняў. На маё зьдзіўленьне, беларускія калегі, за выключэньнем вядомага перакладчыка спадара Сёмухі, ня здолелі ўцямна растлумачыць ролю Шымборскай ані ва ўсясьветным, ані ў польскім кантэксьце... Ці ня самым каларытным удзельнікам тае вечарыны быў стары прыяцель паэткі Янка Брыль. «Я знаёмы зь Віславаю, бадай, болей, чым хто з прысутных, ад 1952 году. Тады мы добра кантактавалі. Разам з польскімі раўналеткамі мы распрацоўвалі мэтад сацыялістычнага рэалізму», — казаў Брыль. Пасьля сьпеваў і дэклямацыяў пад раяльны акампанэмэнт, пані амбасадар Эльжбета Смулкова прапанавала па трэцяй чарцы. Прысеўшы ва ўтульны фатэль, спадар Брыль шчыраваў з суседзямі: «Але ж і пашанцавала ёй! Зрэшты, палякі заўсёды былі джэнтэльмэнамі. Ёсьць у іх тры нобэлеўскія ляўрэаты, нарэшце прапусьцілі наперад жанчыну».

У беларускай прэсе пра тое, што паэтка з суседняе краіны атрымала найвышэйшую ў сьвеце ўзнагароду ў галіне літаратуры, напісалі хто двума радкамі, хто ў два абзацы. Чамусьці некаторыя згадалі Бродзкага і Салжаніцына. А ўжо праз тыдзень беларуская публіка ізноў нічога ня ведала пра Віславу Шымборскую... У той самы час Польшча трыюмфавала. Здымкі, інтэрвію, камэнтары, І, бадай, самае істотнае — вершы Шымборскай запаланілі ўсю польскую прэсу. У любой кнігарні мож-

на было пабачыць дзясяткі featured рознафарматных выданьняў і пра Шымборскую, і пра яе паэзію. У Варшаве са мною ў гэты раз шчыраваў адзін кракаўскі выдавец: «Для нас гэта зорны час. Шымборская — цяпер гэткі тавар, які разыдзецца ўмомант. Але я табе скажу — гэта зорны час і для паэзіі. Большасьць тых, хто купляе сёньня яе кнігі, раней навогул не цікавіліся паэзіяй». Для Польшчы Шымборская стала адным з нацыянальных сымбаляў.

Для краіны факт прысуджэньня Нобэлеўскай прэміі яе грамадзяніну — ня толькі гонар, але і ўнікальная магчымасьць распавесьці пра сябе сьвету. Сапраўды, хто б ведаў краінку Сэнт-Люсія, каб не літаратар Дэрэк Уолкат, які таксама атрымаў Нобэля? Французы атрымалі дванаццаць прэміяў за літаратуру, улучна з самым першым ляўрэатам у сьвеце, Франсуа Сюлі-Прудомам. Натуральна, пра Францыю ведаюць у сьвеце і бяз Нобэля. Але тое, што французы маюць тых прэміяў больш за каго — сьведчаньне магутнасьці францускае культуры. І Францыя прымае гэта як належнае. Праўда, распавесьці пра пэўны край могуць і набэлісты іншых краёў. Сянкевіч і Мілаш прамаўлялі пра Беларусь, хоць і па-польску... Такім чынам, нешта ад інстытуту нобэлеўскага ляўрэацтва Беларусь ужо атрымала.

Раней раздача прэміяў Нобэля была густа замяшаная на палітыцы: які кантынэнт пара прадставіць, які колер скуры ў прэтэндэнта, і пытаньне, ці ня самае істотнае: ці рэпрэсавалі творцу на радзіме? Гэткім чынам у ляўрэаты трапілі два савецкія аўтары, якіх пазбавілі савецкага грамадзянства. Іх ужо добра запомнілі ўсе былыя жыхары СССР. Ня столькі за творы, колькі за зубадрабільныя камэнтары ў камуністычнай прэсе, кшталтам: «тунеядцу дают премию». Таму ў Менску часьцей за ўсё іх і прыгадваюць, двух расейскіх літаратараў зь нязьменным асацыятыўным шэрагам: нобэлеўскі ляўрэат — дысыдэнт, эмігрант, прарок і гэтак далей. Уявіць сабе, што прэміі могуць даваць і за чыстую эстэтыку... Не, не ўяўляецца. Таму Шымборская ня надта каго цікавіць тут, бо не кладзецца ў асацыятыўны шэраг...

Кім мусіць быць беларускі прэтэндэнт на Нобэля? Тым, чый маштаб ня выкліча сумневаў у аматараў літаратуры ў любой краіне... Калі прэтэндэнт мусіць пісаць, як Салжаніцын, палітычна-дакумэнтальную прозу, то ім мог бы быць Францішак Аляхновіч са сваім эўрапейскім бэстсэлерам «У кіпцюрох ГПУ». Мог бы, ды ня стаў... Не было Беларусі на мапе. Хоць кнігу Аляхновіча надзвычай апэратыўна, нават па сёньняшнім часе, пераклалі на адзінаццаць моваў. Бо Аляхновіч першы па-мастацку распавёў сьвету пра жахі сталінскага рэжыму. Калі б у тыя, 30-я гады, прэмію Нобэля ўручылі яму, з намі й нашай моваю лічыліся б і Захад, і Ўсход... Беларусь магла б зьявіцца на мапе сьвету раней.

Калі прэтэндэнт мусіць пісаць, як Бродзкі, паміж турэмнымі адседкамі, то ім мог бы стаць Славамір Адамовіч. Мог бы, ды ня стане, бо самым маладым ляўрэатам, ва ўзросьце 41 году, быў толькі Рэд'ярд Кіплінг і тое — у 1907 годзе. Кансэрватыўныя швэдзкія акадэмікі не даюць прэміі людзям, маладзейшым за сябе. А таму нават салідны літарацкі даробак Адамовіча ў Стакгольме важыць мала. А шкада, бо ў гэтым выпадку, зважаючы на ўзрост паэта, мы былі б упэўненыя ў будучыні мовы... Уявіць сабе свайго, беларускага ляўрэата цяжка. Зрэшты, не цяжэй, чым уявіць сабе, што ўсе навокал загавораць на сваёй, беларускай мове.

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ: «Я НЕ ЗЬБІРАЮ МУЗЭЮ, ЯК НЕКАТОРЫЯ. НАВАТ АРХІВУ»

23 жніўня 1998; прагучала 30 сьнежня 2003

***Аляксандар Лукашук, Прага***

Перад Калядамі 2003 году мы прыбіраліся на паліцах, і ў адной са скрынак патрапілася касэта з надпісам «Быкаў». На ёй аказаўся запіс гутаркі з Васілём Быкавым, датаваны жніўнем 1998 году. Пісьменьнік жыў тады ў Хэльсынкі, мы ліставаліся, ён прысылаў свае новыя прыпавесьці.

*Якраз тады выйшла кніга Быкава «Сьцяна», і міжнародны ангельскамоўны часопіс «Transitions» папрасіў мяне напісаць з гэтай нагоды агляд. Я напісаў, але рэдакцыя папрасіла павялічыць артыкул. Каб высьветліць некаторыя пытаньні, я і набраў са студыі «Свабоды» тэлефонны нумар Быкава ў Хэльсынкі і ўключыў запіс — каб пасьля дакладна цытаваць выказваньні суразмоўцы. Артыкул быў апублікаваны, часопіс я паслаў Быкаву, але вось запіс гутаркі тады ў эфіры не прагучаў. Такім чынам, 23 жніўня 1998 году, раніца, слухаўку ў Хэльсынкі ўзяў Быкаў:*

— Ага, слухаю.

*— Каторая ў вас цяпер гадзіна? Я вас не разбудзіў?*

— Не, не... У нас цяпер яшчэ рана. Яшчэ дзевяць гадзін толькі.

*— Ужо пачатак дзявятай?*

— Ага.

*— Дык гадзіна розьніцы ўсё ж ёсьць.*

— Ну, адна гадзіна, відаць.

*— Вы там навіны глядзіце?*





— Ды не глядзім, у мяне няма тэлевізара.

*— Дзьве гадзіны таму Ельцын звольніў урад Кірыенкі.*

— Ён запросіць скора аднаго каўдыльлё зь Беларусі.

*— Прызначыў Чарнамырдзіна. Я да вас з такой вось яшчэ справай... Мяне папрасілі для аднаго ангельскага часопіса міжнароднага, які займаецца якраз праблематыкай былога СССР і ўсёй сацыялістычнай Эўропы, прадставіць вашую кнігу «Сьцяна». Я артыкул напісаў, але я хацеў у вас пару пытаньняў удакладніць — з вашымі перакладамі на іншыя мовы. Можаце вы прыкінуць, што, колькі там было? Ці колькасьць моваў? Што вы можаце мне сказаць пра вашыя наклады?*

— Саша, памятаеце, вы мне неяк прывезьлі з нацыянальнай бібліятэкі амэрыканскай? Або Бібліятэкі нацыянальнай Кангрэсу, здаецца?..

*— Бібліятэка Кангрэсу ЗША.*

— Ага. Вы мне прывезьлі цэлы доўгі ліст, і там было шмат маіх твораў у перакладзе. Ну, гэта ня так важна. Я там лічыў, лічыў, але, так сказаць, зьбіўся.

*— Выбачайце, а што, вы толькі... А іншай інфармацыі ў вас няма?*

— Дык вось, іншая інфармацыя — у мяне ёсьць з нашай кніжнай палаты. Менская кніжная палата. Праўда, гэта яшчэ было ў савецкі час. Тады, па яе дадзеных, у мяне было перакладзена на пяцьдзясят дзьве мовы замежныя. Ну, я ня думаю, што пасьля прыбавілася, таму што якраз у савецкі час перавыдавалі, а пасьля ўжо яны пайшлі на нет. Вот, таму — ну, можна так прыблізна напісаць, божа мой...

*— А вы калі-небудзь ці Ірына Міхайлаўна лічылі колькасьць тыражой?*

— Не, гэтага я ня ведаю.

*— А Ірына Міхайлаўна ня ведае часам?*

— Ды не, яна таксама ня ведае. Я гэтага не падлічваў ніколі. Ні колькасьці ганарараў, ні колькасьці тыражоў. Ні колькасьці моваў. Рэч яшчэ ў тым, што тады ж якія былі парадкі? Выдавалі некаторыя выданьні, многія выданьні замежныя афармляліся дамовамі. Гэта правільна. Але выдавалі і без дамоваў. І выдаваліся, апроч таго, яшчэ пірацкім чынам. Вось я цяпер прыехаў, напрыклад, у Фінляндыю, мне паказваюць тут кніжку, якой я на фінскай мове ня бачыў. І ня ведаў, што яна перакладзеная тут. Пагэтаму ўсё гэта даволі цяжка. Ну, а ўрэшце, навошта гэта трэба? Навошта трэба забіваць сваю галаву яшчэ гэтымі падлікамі?

*— У мяне пара літаратурных пытаньняў. Я пагартаў — ёсьць такі выдадзены пра вас буклет, Адамовіч пісаў тэкст, гэта 1986 году, здаецца. Я быў уражаны — там, аказваецца, прыведзеная фабула «Ружовага туману» словамі Савіцкага. Савіцкі чамусьці пераказвае сюжэт вашага «Ружовага туману», што вы яму расказалі. Гэта колькі адлегласьць — гадоў дзесяць, як упершыню была фабула надрукаваная...*

— Міхась Савіцкі?

*— Так.*

— Ну, відаць, рэч у тым, што гэты выпадак сапраўды з жыцьця. Я ведаў гэтага чалавека, гэта быў глуханямы цынкограф у «Гродненскай праўдзе». І зь ім абсалютна такую штуку зрабілі. А дачыненьне да гэтага меў адзін... Яго прозьвішча было Рысь. А ўладкоўваў гэтую справу над ім адзін менскі карэспандэнт, я забыўся яго прозьвішча, ён, здаецца, ужо памёр. Але на той час ён яшчэ быў жывы. А ў гады вайны ён быў на Гарадзеншчыне ў партызанах. І вось ён расказаў, ужо пасьля вайны, як яны пажартавалі над гэтым Рысем, які стаў такім адданым, верным, сапраўды ўдзячным партызанам, камуністам, якія тады яго падтрымалі і ўсё такое. Я расказаў Савіцкаму, ён, відаць, расказаў. Ну, я ня ведаю... Я, праўда, ня памятаю, што там у Адамовіча напісана.

*— Гэта не ў Адамовіча, гэта нейкая цытата вынесеная — можа быць, гэта ўзялі складальнікі ў выдавецтве... Гэта да слова. Васіль Уладзімеравіч, ці правільна, гаворачы пра тое, што вы пішаце, згадваць традыцыі эўрапейскага экзыстэнцыялізму? Пра Камю? Гэмінгўэй, Рэмарк?..*

— Вядома, мне сябе атэставаць... Хаця, канечне, гэта натуральна, робіць вялікі гонар, так сказаць. Нават надта вялікі. Але я кажу, што мне сябе атэставаць у гэтым сэнсе проста ня надта прыстойна. Але гэта пайшло з маскоўскіх літаратурных колаў, і наколькі я ведаю, я прынамсі чуў таксама па радыё, па «Свабодзе», аб гэтым гаварыў гады можа два таму, апошнім часам, Лазар Лазараў.

*— Я ў дадзеным выпадку больш пра канкрэтных аўтараў, ня столькі пра ацэнку. Ці вы самі адчуваеце нейкую еднасьць з Рэмаркам, скажам, і з Гэмінгўэем?*

— Натуральна, я іх вельмі паважаю і люблю як літаратараў, напрыклад, таго ж Камю «Чума» — мне здаецца, гэта сапраўды вялікі твор. Ну, ня толькі гэта — некаторыя рэчы Сартра, ня кажучы ўжо пра Гэмінгўэя і Рэмарка. Некалі, што датычыць Рэмарка, дык яшчэ ў 1960-я гады, калі пачалі мяне лупіць у нашай крытыцы, беларускай, маскоўскай, тады заўсёды прапракалі «рэмаркізмам», быў такі тэрмін — канечне, у адмоўным значэньні, «рэмаркізм». І вот прадстаўнікі гэтага «рэмаркізму» ў Беларусі — ну, я ня ведаю тут больш у Беларусі — але, па крайняй меры, прылічвалі да гэтага ліку Бакланава з маскоўскіх, ну а зь Беларусі — мяне, вядома. Вот. Ну, зноў усё гэта, так сказаць, адносна — відаць, апасродкавана. Калі такое заўважаецца, то калі ласка.

*— Выглядае, што вы як бы ня тое што на крок далей, але ў канцы стагодзьдзя даводзіце іхныя праблемы, іх выбар да сытуацыі поўнай вычарпанасьці. Здаецца, у рэалізьме ўжо проста няма куды ісьці, бо ўсё абмяжоўваецца сьмерцю. У Гэмінгўэя ёсьць такое апавяданьне — «Пераможца не атрымлівае нічога». У вас, здаецца, і пераможцы няма.*

— Ну што ж. Такі час... Гісторыя, відаць, даводзіць сваё да лягічнага канца.

*— А наколькі вы б з гэтым папрокам ці заўвагай пагадзіліся б: што ў вас няма пераможцы і няма перамогі?*

— Ну, безумоўна. А гэта вельмі, гэта вельмі — ну, я нідзе гэтага не фармуляваў так прама, па крайняй меры, у прозе сваёй. Але ў публіцыстыцы, я ў артыкулах, асабліва пра вайну, я пісаў, і не адзін раз. Глядзіце, што атрымалася з нашай перамогай, з нашай перамогай над нямецкім фашызмам. Мы — пераможцы, і вось цяпер сустракаюцца... Я ня знаю, я падыходжу да гэтага, я яшчэ, калі дасьць Бог, нешта... Вельмі хацелася б, так сказаць, зьвесьці недзе лоб у лоб нашага салдата-пераможцу і салдата нямецкага вэрмахту, які быў пераможаны ў той вайне. Як яны цяпер выглядаюць адзін перад адным? Як такім чынам перамога — зьява адносная, такім чынам, відаць, якасьць адносная і пераможцы, і пераможанага.

*— У вашай апошняй аповесьці ўвогуле адсутнічае вораг як такі, але нічога няма, апроч паражэньня.*

— Так. Так... А гэта і ёсьць паражэньне. Гэта і ёсьць, Чарнобыль — гэта і ёсьць. Тут я абсалютна згодны, у некаторых рэчах я ня згодны з Алексіевіч, але тут я згодны, што Чарнобыль паказаў, наколькі эфэмэрнае ня толькі жыцьцё, але і прагрэс навогул. Ну, гэта ўсё яшчэ вельмі складана, апроч таго. Гэта доўга можна гаварыць і доўга





разважаць. Але кепска, што ў нас цяпер не адбываецца — ну, грамадзкая думка, і ў тым ліку і заходняя, так сказаць, не асэнсоўвае як сьлед вось тых зьменаў, якія адбыліся пры канцы стагодзьдзя. Па крайняй меры, я таго ня знаю, можа быць, на Захадзе ёсьць, але да мяне не даходзіць. Гэта асабліва назіраецца ў культуры. Тое, што парадыгма культуры мяняецца на сваю нейкую абсалютную дзікасьць і нейкую іншую якасьць, так будзем казаць — то гэта натуральна, гэта ўжо агульнапрызнаны факт. Але ці не мяняецца характар усёй цывілізацыі?

*— А што вы маеце на ўвазе, кажучы, што парадыгмы культуры мяняюцца на дзікасьць?*

— Ну як жа, ну як жа — ну, проста традыцыйная культура недзе памерла. Яна памірае, па крайняй меры. Дастаткова паслухаць Барыса Парамонава па «Свабодзе», ён гэта, так сказаць, даказвае вельмі красамоўна. Нават у тым выпадку, калі ён абараняе масавую культуру. Або даволі радыкальна пераглядае, прынамсі, некаторыя літаратурныя...

*— Ну, Парамонаў даволі спэцыфічны камэнтатар і аналітык. Яго вельмі цікава слухаць...*

— Цікава, цікава.

*— Ён, так сказаць, парадаксальны.*

— Так, ён парадаксальны, гэта праўда.

*— Але зь ягонымі высновамі, калі ведаць, пра што ён гаворыць (вельмі часта проста невядомы матэрыял, пра які ён гаворыць), але калі... Ён вельмі часта несправядлівы, у тым сэнсе, што ён захоплены ходам сваіх парадаксальных высноваў. І ў якасьці аб'ектыўнага судзьдзі яго цяжка ўспрыняць, хутчэй усё ж як бліскучага літаратара.*

— Так, учора я слухаў яго з Волгіным палеміку, наконт Дастаеўскага. Вы ня ведаеце?

*— Не, ня ведаю.*

— Учора якраз перадавалі. Ну, ён там даказвае, што ў Дастаеўскага некаторыя ключавыя моманты яго творчасьці насілі, па-фрэйдысцку, так сказаць, гомасэксуальны характар.

*— Абсалютны канёк Парамонава, ён усё пад гэта падводзіць.*

— Ну вот гэта, гэта, канечне... Я таксама з гэтым ня згодны, таму што гэта, відаць, ну ня так. Усё-такі гэта — ня так. Але некаторыя рэчы ў яго ўсё ж і маюць грунт, прынамсі, у адносінах да — ну хаця б, скажам, пра тое, што культурная парадыгма мяняецца, гэта ён даўно гаворыць, і гэта — правільна. Яна мяняецца, і маскульт — гэта ня проста нейкая галіна культуры, нейкая яе, можа быць, маргінальная частка, якой яна была яшчэ нядаўна.

*— Гэта безумоўна. Гэта ўжо ня зьява культуры нават.*

— Гэта становіцца (незалежна ад таго, як бы мы да яе ні адносіліся) дамінантай цывілізацыі. Але тады паўстае пытаньне: якой цывілізацыі? Ці не мяняецца і ўся цывілізацыя на нейкую іншую?

*— Ну, цывілізацыяў шмат, ёсьць і мусульманская, ёсьць і кітайская... Гэта пытаньне такое крыху па-за межамі. Ды, можа, гэта і навуковае. Справа яшчэ і фармулёвак. І ацэнак. А гэта вы мне так для сьмеху пра клетку сёньня казалі?*

— Пра што?

*— Пра клетку: што генэтычна ў клетцы закладзены пачатак сьветапогляду.*

— Ну чаму ж, чаму, абсалютна не — абсалютна сур'ёзна. Божа мой, гэта ж не маё адкрыцьцё, гэта яшчэ некалі я чытаў у Талстога, што ўжо само нараджэньне, як пачатак і абяцаньне радасьці, — ужо заключае ў сабе і элемэнт трагізму. Таму што ўсё тое, што мае пачатак — мае канец.

*— Абсалютна правільна.*

— А канец заўсёды трагічны. Хоць клеткі, хоць чалавека, хоць грамадзтва, хоць, ізноў жа, цывілізацыі.

*— Пытаньне хіба тады ў тым, на што болей зьвяртаць увагу. На пачатак працэсу, на сам працэс, ці на канец...*

— А гэта ўжо, калі гаварыць пра мастацтва, дык гэта ўжо — права мастака! Адпаведна, яго прыватная справа. Адзін зьвяртае ўвагу на нараджэньне, і ён правы, другі — на заканчэньне жыцьця. Экзыстэнцыялісты, як вядома, пісалі, што (я ня ведаю, у Камю гэта, здаецца, было) чалавек толькі тады пачынае шукаць сэнсу жыцьця, калі зьяўляецца пагроза жыцьцё страціць. Гэта значыць, у канцы жыцьця ён пачынае шукаць сэнсу жыцьця. Так і ў дадзеным выпадку мастак мае права, канечне. Але я ня бачу тут супярэчнасьці, бо сапраўды атрымліваецца, як у тым анэкдоце, як двое спрачаліся, што зімой — ноч даўжэйшая ці дзень карацейшы?

*— Сапраўды, тады спрэчкі няма. Як мяркуеце, хто з тых, што пра вас пісалі, больш слушна ўсё ж разгадваў, ці ўпісваў у кантэкст?*

— Ну, канечне, Дзядкоў пісаў і разумна, і хораша, і я згодны, так сказаць, але вот ён памёр... А Лазар Лазараў, па-першае, ён ведае ўсё, што я пісаў, ён усё чытаў. Па-другое, ён даўно ведае мяне, даўно мы зь ім сябруем. Ну а пасьля — ён належыць да аднаго пакаленьня, мы равесьнікі, і таму ёсьць некаторае ўзаемаразуменьне. Таму што я ня думаю, каб цяперашнія маладыя адэкватна мяне разумелі. Хаця я абсалютна не хачу сказаць, што яны, дапусьцім, памыляюцца, а я правы. Магчыма,

яны нават болей правы. Ну што зробіш... Вот Тычына, вот жонка падказвае, Ірына Міхайлаўна, Тычына яшчэ хараша пісаў... Ну, па крайняй меры, тое, што ён пісаў пра мяне, мне падабалася.

*— Ён і ўвогуле вельмі цікавы крытык, мне здаецца.*

— Так, так, і ён пісаў прадмову да майго збору твораў, і Бугаёў... Ну, многія...

*— Да якога, да «карычневага»?*

— Не, да апошняга, да «чорнага».

*— А тыя лісты, якія вы атрымлівалі?*

— Ну, некалі было вельмі многа пісьмаў, проста чамаданы пісьмаў. Але я скажу, што частку я на дачы папаліў, вот. Некаторыя з такіх больш-менш каштоўных я здаў у наш літаратурны музэй.

*— А куды ж Ірына Міхайлаўна глядзела, калі вы палілі?*

— А ну божа мой — ну, шмат пісьмаў, яны такія... Нічога ў іх асаблівага. Хаця і артыкулы былі, і ўсё такое. Ну, проста мне займалі месца. Я не зьбіраю музэю, як некаторыя. Нават архіву. Лішнія матэрыялы я часам аддаю ў літаратурны музэй, паколькі яны заўсёды просяць. Ну, была ў мяне перапіска з Твардоўскім ды зь Дзядковым. Некаторыя я адаслаў жа ім, яны выдавалі зборнікі. Ну, радня, пасьля сьмерці... Марыі Іларыёнаўне адправіў пісьмы. Хаця ў мяне копіі, здаецца, заставаліся. Дзядковай я адаслаў таксама Тамары. Вот такія вот справы, Саша...





## «Я ІНТЭГРАВАНЫ Ў БЕЛАРУСЬ, АЛЕ ТУТ Я МАЮ МАГЧЫМАСЬЦЬ ПІСАЦЬ»

6 верасьня 1998

***Алена Ціхановіч, Прага***

Аповесьць Васіля Быкава «Ваўчыная яма» мы атрымалі зь Фінляндыі. Нашыя слухачы маюць магчымасьць першыя пазнаёміцца з новым творам у эфіры. Але спачатку — інтэрвію зь пісьменьнікам.

*— Добры дзень, Васіль Уладзімеравіч! Упершыню, тэлефануючы вам, я набіраю ня код Беларусі, а код Фінляндыі. Удакладніце, калі ласка, для нашых слухачоў, зь якой нагоды зьмяніўся ваш адрас?*

— Ну, я існую тут за кошт стыпэндыі, якую выдзяліў Хэльсынскі, Фінскі ПЭН-клюб, як гэта яны робяць часам (ня толькі фіны робяць, але робяць і ў іншых свабодных краінах Захаду) для тых пісьменьнікаў, якія маюць патрэбу ў дапамозе для сваёй творчасьці. Таму тут мне далі пэўную стыпэндыю, як я ўжо сказаў, а таксама жыльлё — невялікую кватэру ў «спальным раёне». Вось такім чынам. І я выкарыстоўваю гэты час, гэты спрыяльны час і гэтыя ўмовы, канечне, для творчасьці, амаль без усялякай палітыкі і без усяго іншага. Тры месяцы, якія я тут правёў, вельмі былі спрыяльныя творча, я напісаў аповесьць і два апавяданьні. Я яшчэ нікуды ня езьдзіў і нідзе ня быў.

*— А як бы вы акрэсьлілі той лад, жыцьцё вакол вас? Якое галоўнае адрозьненьне ў вашым пачуваньні там?*

— Па-першае, гэта вольны сьвет, гэта дэмакратычны сьвет. Атмасфэра псыхалягічная вельмі спрыяльная майму творчаму стану. Па-другое, я хацеў бы сказаць, што я тут не адзін. Гэтая краіна, таксама як і іншыя скандынаўскія краіны, дае прытулак для шмат якіх уцека-

чоў, асабліва з таталітарна-дыктатарскіх краінаў, я маю на ўвазе, зь некаторых афрыканскіх, і тут такіх людзей даволі шмат. Усе яны нейкім чынам інтэгруюцца ў свабоднае фінскае грамадзтва. Я, канечне, такога намеру ня маю — інтэграваецца, я ўжо інтэграваны ў сваю радзіму — Беларусь. Але, па крайняй меры, для мяне важна, што тут я маю магчымасьць пісаць.

*— Вернемся да вашай новай аповесьці «Ваўчыная яма». Дзеяньне яе адбываецца ў зоне, відавочна — у зоне чарнобыльскай. З часу выбуху чарнобыльскага прайшло больш за дзесяць гадоў, і за гэты час Чарнобыль ужо стаў тэмай мастацкага асэнсаваньня. Чаму вам спатрэбіўся такі працяглы час, перш чым вы накіравалі свайго героя туды, у гэтую зону?*

— Я павінен сказаць, што няшмат, але штосьці ў публіцыстыцы пісаў і раней. Праўда, у Беларусі амаль не друкаваў, тут былі іншыя аўтары, можа быць, больш апэратыўныя ў гэтым сэнсе і дасьведчаныя. Я пісаў у італьянскім друку і ў ангельскім таксама. Відаць, такі склад майго характару, марудлівы і тугадумны, і вось толькі нешта высьпела ў маёй сьвядомасьці творчай у гэты час, у гэтую пару. Я думаю, што датычыць гэтай тэмы — Чарнобылю, дык будзе ня позна ніколі. Гэта памятная тэма, і яна будзе актуальная яшчэ і ў наступным стагодзьдзі. Бо яна далася ў знакі чалавецтву і яшчэ, я думаю, дасца.

Аповесьць «Ваўчыная яма» гучала на хвалях «Свабоды» ў верасьні і кастрычніку, яе чыталі Алена Ціхановіч і Сяржук Сокалаў-Воюш.





## «НА КРЫЖОВЫМ ШЛЯХУ ДА ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ»

7 верасьня 1998

***Галіна Прыгара, Нью-Ёрк***

23-я сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, што прайшла ў Нью-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі, была прысьвечаная 80-м угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі і называлася «Беларусь, БНР, дэмакратыя — у XXI стагодзьдзі».

Аб 11-й гадзіне ў «Гаят-гатэлі» ў Нью-Брансўіку афіцыйная частка сустрэчы распачалася дабраславеньнем Мітрапаліта Мікалая і сьпяваньнем амэрыканскага гімну. З прывітальнымі словамі да прысутных зьвярнуліся госьці зь Беларусі — прадстаўнік Маладога Фронту Аляксей Янукевіч, журналіст Аляксандар Старыкевіч, а таксама старшыня Згуртаваньня беларусаў Вялікабрытаніі Ларыса Міхалюк, старшыня БНФ Зянон Пазьняк, былы амбасадар ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц. Свае прывітаньні сустрэчы даслалі сэнатар ад штату Нью-Джэрзі Франк Лаўтэнбэрг, кангрэсмэн Франк Палонэ, губэрнатар штату Нью-Джэрзі Крыстына Ўітаман. Амэрыканскія палітыкі нэгатыўна ацанілі дзейнасьць прэзыдэнта Лукашэнкі і запэўнілі, што амэрыканскі ўрад будзе спрыяць аднаўленьню дэмакратыі ў Беларусі. Яны лічаць, што для Злучаных Штатаў вельмі істотна, каб Беларусь не была далучаная да Расеі.
Зачыталі і вершаванае прывітаньне народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, у якім ёсьць такія радкі:

Вядома, лепшы лекар — час.
Ды забыцьцё засекі смутку поўніць.
Вы — беларусы,
І павінны помніць,
Што на радзіме не хапае вас!

Дасылаючы віншаваньне ўдзельнікам сустрэчы, народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў назваў яе «выдатнай падзеяй нашай гісторыі і чарговым крокам на крыжовым шляху да незалежнай і вольнай Беларусі».

## «МЫ БОЛЕЙ НЯ ХОЧАМ НЯ ПАМЯТАЦЬ ЯК НАШАГА ГОНАРУ, ТАК І НАШЫХ АХВЯРАЎ»

19 кастрычніка 1998

***Сяргей Навумчык, Нью-Ёрк***

19 кастрычніка спаўняецца дзесяць гадоў з дня ўтварэньня Беларускага Народнага Фронту.

Я трымаю ў руцэ вузкую палоску паперы, на якой друкарскай машынкай, праз капірку, адбіта: «Арганізацыйная група па стварэньню Беларускага камітэту памяці ахвяраў сталінізму («Камітэт-58») запрашае вас прыняць удзел ва ўстаноўчым сходзе, які адбудзецца 19 кастрычніка ў 18-00 па адрасе Савецкая, 15 (Дом Кіно, Мінск). На сходзе «Камітэту-58» будзе прынятая праграма дзеяньняў, статут, выбраныя кіруючыя і рабочыя органы».

Гэтае запрашэньне перадалі мне раніцай, а ўжо ўвечары ў Доме кіно пабачыў дзясяткі знаёмых людзей — пісьменьнікаў, гісторыкаў, навукоўцаў. Шмат было моладзі, але ня меней і тых, хто правёў значную частку жыцьця ў сталінскім гулагу. Прыйшлі сюды «па разнарадцы» з гаркаму і вэтэраны са значкамі «50 гадоў у КПСС». На шчасьце, я прыхапіў з сабой дыктафон. Стужка захавалася, хаця якасьць запісу ня самая лепшая, бо часам перагаворваўся з Уладзем Арловым. І ўсё ж галасы таго гістарычнага дня захаваліся. Вёў сход пісьменьнік Міхась Дубянецкі, уступнае слова сказаў Васіль Быкаў:





*В.Быкаў:* На працягу стагодзьдзяў наш народ моўчкі цярпеў прыгнёт. Ліў сваю кроў, ахвяраваў мільёнамі жыцьцяў і — маўчаў. Маўчаў, бо ягоныя гісторыкі пазбавілі яго праўдзівай гістарыяграфіі, яго філёзафы ўнушалі яму фальшывую ідэю аб мудрай правільнасьці ягонага бязьмежнага цярпеньня. Ягоныя рыцары прыгожага пісьменства спаборнічалі між сабой у тым, хто найлепш апяе тое, што варта было выбуху гневу і абурэньня. Ягоныя палітыкі і дзяржаўныя дзеячы былі пазбаўленыя ўласнай палітыкі, магчымасьці дзейнічаць на карысьць народу, а шмат хто зь іх сам стаў ахвяраю тэрору, уласнае сьлепаты і аблуды.

Але мы болей ня хочам жыць так, каб ня памятаць як аб нашым гонары, так і аб нашых ахвярах, нашых пакутніках. Урэшце прыйшоў час сказаць людзям праўду і зрабіць зь яе пэўныя высновы. Найперш, праўду трэба сказаць пра мільёны безыменных людзей Беларусі, рабочых, калгасьнікаў, інтэлігентаў з народу, беларусаў, расейцаў, палякаў, габрэяў, людзей іншых нацыянальнасьцяў, панішчаных у гады сталіншчыны безь віны, бяз права, бязь сьледу ў народнай памяці. Сымбалем тых, панішчаных, сёньня сталі ўжо славутыя Курапаты. Але Курапаты — толькі адна кропля ў моры людзкой крыві. Мы павінны таксама назваць імёны катаў нашых ахвяраў. Хто былі гэтыя нелюдзі? Як даўно вядома, кат і ахвяра інфэрнальным чынам зьвязаныя між сабой, і чалавецтва павінна ведаць і памятаць абодвух. Гэта патрэбна ў імя справядлівасьці, у імя дэмакратыі, у імя нашай будучыні. У тым наш сьвяты абавязак перад гісторыяй, маральны абавязак перад наступнымі пакаленьнямі, каб ім не давялося дакараць нас за тое, што мы мелі магчымасьць і згубілі яе. Мабыць, ніхто з нашых папярэднікаў ня меў такой магчымасьці, якую лёс ці гісторыя далі нам, і было б найвялікшай гістарычнай несправядлівасьцю ня выкарыстаць яе.

Але зьдзейсьніць гэты абавязак будзе, мабыць, нялёгка. Сілы рэакцыі і сталіншчыны ня склалі сваёй выпра-

бабанай зброі і гатовыя ўзяць рэванш за іхнае паражэньне ў галоснасьці. Каб пераканацца ў тым, даволі хоць зрэдку браць у рукі газэту «Вячэрні Мінск», орган Менскага гаркаму і гарсавету народных дэпутатаў, і паглядзець, хто і супраць чаго там выступае. Сілы зла цяпер перажываюць невялікую паўзу ў сваёй антынароднай дзейнасьці, перабудова і галоснасьць блытае іх адпрацаваныя за гады карты. Але яны ўжо пачалі прыстасоўвацца і да атмасфэры перабудовы, а ў некаторых выпадках і браць яе пад сваё кіраўніцтва, кіраваць з такім разьлікам, каб хутка і бяз стратаў вярнуць так любы іхным лакейскім душам таталітарызм з падаўленьнем, рэпрэсіямі, п’яным і пакорным існаваньнем заняволенага народу. Таму ўсе, каму дарагія прынцыпы дэмакратыі і сацыялізму, лёс нацыі, павінны быць пільныя, ня даць сябе ашукаць ні крывадушнай бюракратыі, ні амаральнай навуковасьці, ні тым правакатарам ад перабудовы, якія маюць заданьне пусьціць яе на злом галавы, адвярнуўшы ад высакароднай мэты адраджэньня нацыі, растварыць ідэал дэмакратызацыі ў нацыянальных, рэгіянальных, ведамасных, амбіцыйных сварках і супярэчнасьцях.
Мы павінны скласьці велічны мартыралёг нашых стратаў і нашых пакутнікаў. Гэта ляжа вуглавым каменем у падмурку нацыянальнай сьвядомасьці, стане важным элемэнтам гістарычнай памяці і гарантам. Гарантам будучыні народу, які праз генацыд, кроў і зьнявагу з упартасьцю асуджанага рвецца да сонца, дабра і справядлівасьці.

На сходзе вырашылі стварыць Таварыства памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў «Мартыралёг Беларусі». Выступоўцы адзначалі, што без дэмакратызацыі грамадзтва немагчымыя ні вяртаньне гістарычнай памяці, ні стварэньне прыстойных умоваў жыцьця для арсуайчыньнікаў. Было зразумела, што мэты новай арганізацыі павінны быць шырэйшыя за аднаўленьне гістарычнай справядлівасьці. Меркавалася, што арганізацыя будзе палітычная. А, магчыма, будзе дзьве арганізацыі. Калі прыступілі да вылучэньня кандыдатуры старшыні «Мартыралёгу», Васіль Быкаў зазначыў, што старшыня павінен мець шмат якасьцяў, але галоўнае — мусіць не баяцца начальства.

*В.Быкаў:* Гэты чалавек павінен быць пазбаўлены таго вялізнага недахопу, які ёсьць ва ўсіх нас, які выхаваны ўсімі папярэднімі гадамі, — ён павінен быць пазбаўлены страху. Найперш страху перад начальствам. І такім чалавекам (я думаю, што вы мяне падтрымаеце) я назаву Зянона Станіслававіча Пазьняка.

Было зразумела: ад таго, хто стане на чале «Мартыралёгу», залежала, чым скончыцца гэты сход, ці будзе пастаўленая прапанова пра стварэньне Народнага Фронту. Аднак у залі Чырвонага касьцёлу прысутнічалі і тыя, каго менавіта з гэтае прычыны кандыдатура З.Пазьняка не задавальняла. Перашкодзіць галасаваньню спрабаваў намесьнік загадчыка аддзелу культуры ЦК КПБ Расьціслаў Бузук, які жадаў скіраваць сход у бок бясплённых дэбатаў. Але тады Васіль Быкаў рашуча ўзяў мікрафон і прапанаваў прагаласаваць:

*В.Быкаў:* Наступнае, што павінна быць: хто супраць кандыдатуры? Прашу падняць рукі! Хто ўстрымаўся? Няма! Усё!

У 22.15, падзякаваўшы за давер і зазначыўшы, што наперадзе — сур’ёзная справа, Зянон Пазьняк нагадаў, што ў залі ўжо гучалі прапановы пра стварэньне Народнага Фронту.

*З.Пазьняк:* Я выстаўляю на галасаваньне наступную прапанову: утварыць пры таварыстве «Мартыралёг» арганізацыйны камітэт па стварэньні Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне»!

Адразу ж быў і ўтвораны аргкамітэт Народнага Фронту, якому давядзецца стварыць першы за дзесяцігодзьдзі маўчаньня дэмакратычны рух за новую Беларусь.

## «САЛЖАНІЦЫН — АПОСТАЛ ДАБРА Й СПРАВЯДЛІВАСЬЦІ, ДА ЯКОГА ЗАЎСЁДЫ ІМКНУЦЦА ЛЮДЗІ»

11 сьнежня 1998

Слова Васіля Быкава на 80-я ўгодкі з дня нараджэньня Аляксандра Салжаніцына.

Шаную Аляксандра Салжаніцына найперш за тое, што ён у былой савецкай літаратуры гэтак адкрыта і самаадданa выступіў супраць камуністычнага таталітарызму і тым самым захапіў розум і сэрцы мільёнаў людзей ва ўсім сьвеце. Ягоныя аповесьці і раманы, асабліва «Архіпэляг ГУЛАГ», перад усім сьветам паказалі, чаго вартая ідэя камунізму і яе ўвасабленьне ў краіне саветаў. Ягоная грамадзянская пазыцыя змагара супраць гвалту, якая ў тых умовах здавалася слабой і бездапаможнай, паколькі належала аднаму чалавеку, урэшце перамагла сыстэму і дала надзею мільёнам. У гэтым сэнсе яго можна параўнаць зь легендарнымі постацямі мінулага, якія назаўсёды ўвайшлі ў сьвядомасьць чалавецтва.
Вядома, Салжаніцын шырэйшы за сваю літаратурную творчасьць: ён не зьмяшчаецца толькі ў літаратурныя рамкі. Салжаніцын — апостал дабра й справядлівасьці, да якога заўсёды імкнуцца людзі. Менавіта ў тым былыя ўладары Саюзу і ўбачылі небясьпеку рэжыму і анзьдзейсьнілі гвалт над творцам. І, так ці інакш, гэты гвалт закрануў і іншых, хто быў пад уладай камуністычных уладароў. А таталітарная ўлада, як вядома, шырыцца на мільёны, бо яна пазбаўленая маральных і этычных нормаў, яна бязьмежная ў сваім гвалце і сваёй хлусьні. Я маю на ўвазе тыя выступы «прадстаўнікоў савецкай інтэлігенцыі», што ў той час друкаваліся ў «Правде» і здабываліся спосабам гвалту й фальсыфікацыі.
Я асабіста заўсёды зь вялікай пашанай ставіўся да кожнага слова вялікага мастака, паважаю яго грамадзянскую пазыцыю, яго прынцыповы антыкамунізм, а таксама й ягоны патрыятызм, на які мае права кожны грамадзянін кожнай Богам створанай на Зямлі краіны. І ў гэты радасны дзень шчыра жадаю дарагому юбіляру найлепшага змагарнага здароўя і яшчэ доўгіх гадоў жыцьця.





## «ПРАБЛЕМА АНТЫСЭМІТЫЗМУ — ВЕЛЬМІ ВОСТРАЯ ПРАБЛЕМА»

17 сьнежня 1998

***Віталь Тарас, Менск***

Падчас свайго візыту ў Расею А.Лукашэнка даў інтэрвію радыёстанцыі «Маяк», у якім зрабіў заяву пра тое, што праблему антысэмітызму спарадзілі самі габрэі, якія працуюць у сродках масавай інфармацыі. Прэзыдэнт Беларусі адкрыта выступіў на баку найбольш рэакцыйных, скрайне шавіністычных сілаў Расеі.

Выступаючы ў студыі радыёстанцыі «Маяк», прэзыдэнт Беларусі на просьбу вядучага выказаўся і наконт апошніх публікацыяў у расейскай прэсе ў сувязі з антысэміцкімі выпадамі дэпутатаў Дзярждумы ад камуністычнай партыі Расейскае Фэдэрацыі. Аляксандар

Лукашэнка назваў гэтую тэму бязглуздай, яе нібыта навогул ня трэба было ўзьнімаць, бо «праблему антысэмітызму спарадзілі самі габрэі, якія працуюць у сродках масавай інфармацыі». Толькі яны самі, на думку Лукашэнкі, і вінаватыя ў тым, што расейскага чалавека нацкоўваюць на габрэя, а габрэя на расейца. Ды навогул «гэтыя праблемы ня новыя для Расеі, у кожным доме, у кожнай сям'і аб гэтым гавораць. Гэта факт. Разумееце, тое, што робяць маскоўскія каналы, гэта нагнятаньне праблемы... Трэба спыніць усялякую балбатню на тэму антысэмітызму ня толькі ў Расеі, але і ў Беларусі», — сказаў прэзыдэнт Беларусі.
Пры гэтым А.Лукашэнка заявіў, што ён не антысэміт, але найпраўдзівейшы інтэрнацыяналіст, бо расейцы, беларусы, палякі і габрэі жывуць у Беларусі мірна, без праблемаў. Але ён «не дазволіў бы ў сродках масавай інфармацыі размываць гэтых праблемаў».
Варта адзначыць, што Аляксандар Лукашэнка не ўпершыню закранае гэтую тэму. Можна прыгадаць ягонае даўняе інтэрвію нямецкай газэце «Handelsblatt», у якім ён казаў, што ня толькі дрэннае было ў Нямеччыне пры Гітлеры; альбо выказваньні А.Лукашэнкі з высокіх трыбунаў наконт ізраільскага грамадзяніна, карэспандэнта НТВ у Беларусі А.Ступнікава, дэпартаванага зь дзяржавы. Не ўпершыню Аляксандар Лукашэнка салідарызуецца з расейскімі камунапатрыётамі, але, бадай, упершыню выказаваньні прэзыдэнта ў габрэйскім пытаньні былі нагэтулькі шчырыя. Сваім меркаваньнем на гэты конт падзяліўся прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру пісьменьнік Васіль Быкаў:

*В.Быкаў:* Гэта ня новае слова. Я магу сказаць, што гэта пэўны стэрэатып, які заключаецца ў тым, што каб нейкую праблему задушыць, трэба пра яе нічога не гаварыць. Гэта цягнецца з даўніх часоў, можа быць, у нашай гісторыі яшчэ з царскіх часоў. А ў найноўшай гісторыі мы ведаем, што нават у фашысцкай Нямеччыне Гітлер



Быкаў на Свабодзе

з Гёбэльсам, хоць яны зьнішчылі мільёны габрэяў, рабілі выгляд — прынамсі, у сваіх выступах Гёбэльс заўсёды крычаў, што гэта нямецкі народ абараняецца, што ён вымушаны гэта рабіць, што ён тут не вінаваты, вінаватыя габрэі. Што можна сказаць пра Беларусь? А зноў жа з тых самых сродкаў масавай інфармацыі мы бачым, як абвастраецца антысэмітызм у нас, ідаць хоць бы па тым, колькі надмагільляў на могілках разбурана, якія надпісы зьяўляюцца, дзе і каму ставяць гэтыя фашысцкія сымбалі, тую самую фашысцкую свастыку. Прарываецца гэта і ва ўладных структурах. Ня толькі ў адносінах, але таксама і ў выступах.

*— Сёньня прадстаўнікам французскае амбасады дазволена ўпершыню наведаць Дразды, сваю рэзыдэнцыю. Нямецкія, францускія ды іншыя амбасадары краінаў Эўразьвязу гатовыя пайсьці на ўмовы ўладаў, ім дазволена наведаць свае рэзыдэнцыі, потым яны будуць жыць у новых. Гэта падаецца як значны посьпех беларускай дыпляматыі. Выказваньні Лукашэнкі наконт антысэмітызму — ці будуць яны ўлічвацца прадстаўнікамі Нямеччыны, Францыі ды іншых эўрапейскіх краінаў?*

*В.Быкаў:* Я думаю, абавязкова будуць улічвацца, таму што праблема антысэмітызму — вельмі вострая праблема. Я ўжо казаў, што час ад часу яна заганяецца, але пэрыядычна ўзьнікае і абвастраецца. Для заходняга грамадзтва гэтая праблема даволі вострая, і ў нас цяпер таксама. І таму ўсякія антысэміцкія выпады будуць улічвацца, і ў тым ліку дыпляматамі.

## У НЬЮ-ЁРКУ ЧАКАЮЦЬ НОВЫХ ТВОРАЎ БЫКАВА

11 студзеня 1999

***Галіна Прыгара, Нью-Ёрк***

Пра дзейнасьць Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва (БІНІМ) распавёў дырэктар інстытуту доктар Вітаўт Кіпель.

Вынікі дзейнасьці БІНІМу — гэта ня толькі навуковыя канфэрэнцыі, але і кнігі, якія з палітычных прычынаў не выдаваліся раней і ня могуць быць выдадзеныя цяпер у Беларусі. Адно з апошніх падобных выданьняў — зборнік дасьледаваньняў Юркі Віцьбіча «Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі».

У 1999 годзе, паводле словаў доктара Кіпеля, выйдуць у сьвет ня менш цікавыя кнігі. Ужо здадзены ў друкарню зборнік «Беларусізацыя пад №...» Лявона Крывічаніна, які на пачатку 1920-х гадоў працаваў фэльетаністам у газэце «Савецкая Беларусь». Да 90-х угодкаў вядомага дасьледчыка літаратуры Антона Адамовіча ўпершыню на беларускай мове выйдзе ягонае дасьледаваньне «Супраціў саветызацыі беларускай літаратуры». Рыхтуюцца да выданьня ў сэрыі беларускай мэмуарыстыкі і кнігі ўспамінаў Юрыя Сабалеўскага і Алеся Салаўя. А таксама эсэ Натальлі Арсеньневай «Сама пра сябе». Сёлета плянуецца выдаць двухтамовік матэрыялаў архіву БНР, якія ахопліваюць пэрыяд з 1918 да 1923 году. Іх падрыхтаваў да публікацыі Сяргей Шупа.

На завяршэньне нашай гаворкі доктар Вітаўт Кіпель выказаў спадзяваньне, што і Васіль Быкаў, які цяпер знаходзіцца ў Хэльсынкі, перадасьць выдавецтву БІНІМу свае новыя творы.





## «ВЕЛЬМІ ТРЫВОЖНА, КАЛІ КІРАЎНІК ДЗЯРЖАВЫ СТРАЧВАЕ ЎЛАСНУЮ ПАЛІТЫЧНУЮ ВОЛЮ І АДДАЕЦЦА НА ВОЛЮ ЗЛЫХ ІМПЭРСКІХ СІЛАЎ»

9 красавіка 1999

***Віталь Тарас, Менск***

Неўзабаве пасьля прыняцьця дэклярацыі аб аб'яднаньні Беларусі й Расеі ў адзіную дзяржаву з пратэстам выступіла рада Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Аўтары заявы разглядаюць гэты акт як «рэальную пагрозу незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. Стварэньне адзінай расейска-беларускай дзяржавы будзе значыць на практыцы далучэньне Беларусі да Расеі».

Празь некалькі месяцаў пасьля выхаду заявы рады ў «Народнай газеце» друкуецца заява ў адказ. У ёй гаворыцца, што «цяперашні крывавы разбой НАТО ў Югаславіі сьведчыць, што ваеннай агрэсіі ў Эўропе па-сапраўднаму супрацьстаяць можа толькі Расея ды народы, зьядналыя вакол яе. Дзе гарантыя, што пасьля Сэрбіі не наступіць чарга Беларусі?» У Беларусі ж, лічаць аўтары заявы, цяпер «робяцца актыўныя захады дзеля нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, захады дзеля кансалідацыі здаровых сілаў грамадзтва. Заява рады вядзе да расколу пісьменьніцкай грамады і аб'ектыўна садзейнічае тым, хто імкнецца любой цаной дэстабілізаваць абстаноўку ў рэспубліцы і ставіць за мэту не дапусьціць яднаньня Беларусі і Расеі».

Заяву падпісалі Іван Шамякін, Іван Навуменка, Таіса Бондар, Хведар Жычка, Георгі Марчук, Эдуард Скобелеў, Мікалай Чаргінец, Усевалад Якутаў ды іншыя — разам 63 подпісы. Адносна заявы рады намесьніца старшыні Саюзу пісьменьнікаў Вольга Іпатава нагадала:

*В.Іпатава:* Заява была прынятая большасьцю сяброў

рады. Як кіраўнік Саюзу, магу толькі сказаць, што я прымаю пад увагу ўсё тое, што кажа другая частка нашага Саюзу. Яна іншая, што і паказала галасаваньне падчас прыняцьця заявы. Але, мяркую, што ніякага расколу мы ня ўносілі. Нашая пазыцыя грунтавалася на Канстытуцыі, якая гаворыць аб незалежнасьці. Я па-чалавечы вельмі зьдзіўляюся пазыцыі некаторых пісьменьнікаў, якія цудоўна разумеюць, што адсутнасьць беларускай мовы зьнішчыць народ. Некаторыя людзі ўсё жыцьцё змагаліся за беларускую мову, яны ўсё жыцьцё пакутавалі за тое, што яны ў сваёй краіне былі для некаторых іх калегаў і супрацоўнікаў проста як белыя вароны — і раптам тут я бачу іхныя подпісы! Мне па чалавечы вельмі-вельмі горка.

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам Радыё Свабода Васіль Быкаў даў ацэнку апошнім ініцыятывам расейскага ды беларускага кіраўніцтва адносна далучэньня да беларуска-расейскага саюзу Югаславіі.

*В.Быкаў:* За ўсёй гэтай брутальнай акцыяй расейскага кіраўніцтва вельмі празрыста праглядаецца даволі непрыгожая спроба Барыса Мікалаевіча Ельцына ўратавацца ад імпічмэнту, які яму нарыхтавала камуністычная бальшыня расейскае Думы. І гэта вельмі трывожна. Трывожна, калі кіраўнік дзяржавы страчвае ўласную палітычную волю і аддаецца на волю злых імпэрскіх сілаў. Што ж да беларускага кіраўніка, дык тое зусім зразумела. Пад урачыстыя абяцанкі не дапусьціць, каб беларускія хлопцы ехалі гінуць у гарачыя кропкі, вельмі проста ўся Беларусь можа пераўтварыцца ў тое, чым стала сучасная Сэрбія. Тады наўрад ці яе абароняць энтузіясты імпэрскіх аб'яднаньняў, тым болей нашы калегі-пісьменьнікі, якія, падобна, за столькі гадоў міру зьнебыліся безь вялікай вайны. Вельмі гэта сумна. І горка.





## «ТОЛЬКІ СІЛА МАГЛА АБ'ЯДНАЦЬ НАРОДЫ Ў МЕЖАХ ТАТАЛІТАРНАЙ ДЗЯРЖАВЫ»

30 траўня 1999

***Сяргей Навумчык, Прага***

Васіль Быкаў ацэньвае Першы зьезд народных дэпутатаў СССР, які адбыўся ў траўні 1989 году.

*В.Быкаў:* Гэта была пара, калі ўпершыню пахіснулася ўсеўладная сіла партыі бальшавікоў, зьявілася надзея на паслабку рэжыму, на нейкія зрухі да лепшага ў занядбанай эканоміцы, яе вызваленьня з-пад гнятлівай імпэрскай палітыкі і ўлады звыродлівага ваенна-прамысловага комплексу. Мы бачылі, як імпэтна рванулася да праўды і справядлівасьці пэўная, хай сабе ня большая, частка дэпутатаў. Усё ж тады тое таксама здавалася сілай, якая пасьля з розных прычынаў распалася, выradзілася, капітулявала. А тады сапраўды яна здавалася пэўным гарантам лепшай будучыні.
Мы спадзяваліся, і з захапленьнем слухалі выступленьні акадэміка Сахарава, юрыста Сабчака, гісторыка Афанасьева, шмат якіх прыбалтыйскіх дэпутатаў, а таксама нашых, беларускіх — незабыўнага Алеся Адамовіча, сьціплага і заўсёды пераканаўчага Аляксандра Дабравольскага. У залі побач сядзелі аднадумцы — Шушкевіч, Габрусеў, Варонежцаў, Карніенка. Прабіцца на трыбуну было няпроста з розных прычынаў, найперш патрэбная была рэкамэндацыя-дазвол кіраўніцтва дэлегацыі, якім тады традыцыйна зьяўлялася партыйнае кіраўніцтва. Яно ж праводзіла пэўную працу з дэпутатамі ў перапынках, у кулюарах, каб усе галасавалі і выступалі строга «ў духу» і «не падводзілі рэспубліку».
Зрэшты, з бальшынёй ня трэба было і працаваць — іх намэнклятурна-бальшавіцкая сьвядомасьць ад нараджэньня была скіраваная на карысьць партыі, якой яны верай і праўдай служылі. Пра іншае яны і ня мысьлілі,

як і бальшыня ў залі. Дыскусію выклікалі хіба вядомыя падзеі ў Тбілісі ці ў Рызе, праблема пошуку сякеры пад лаўкай — вядомай змовы Рыбэнтропа-Молатава. Генэрал Радзівонаў, які ўчыніў вядомую крывавую лазьню ў Тбілісі, пасьля свайго выступу з трыбуны быў сустрэты грымотнымі воплескамі і ўставаньнем усёй шматтысячнай залі. Менавіта гэтая падзея ўжо на пачатку панішчыла ўва мне ўсе хілыя спадзяванкі на будучыню.

Ня толькі народ, нацыі Савецкага Саюзу не былі гатовыя да кардынальных пераменаў у жыцьці грамадзтва, але і палітычная эліта цьвёрда закасьнела ў сваіх старадаўніх імпэрскіх памкненьнях. Яно й зразумела: толькі сіла магла аб'яднаць народы ў межах таталітарнай дзяржавы. Той сілай, вядома ж, была імпэрская партыя і яе славуты «шосты артыкул» Канстытуцыі. Гарбачоў, можа, інстынктыўна адчуваў тое і дужа неахвотна ішоў на адмену таго артыкулу. Але можна было зразумець і Гарбачова, калі мець на ўвазе тое, што адбылося трохі пасьля. У тым зьвярынцы, да якога ён належаў, у якім пачаў перабудову, кожная хіба магла каштаваць жыцьця — ягонага асабістага, сям'і, усяго роду. Асабліва пасьля таго, як ён дамогся ядзернага раззбраеньня і прадухіліў атамную вайну на Зямлі. Камуністы з генэральскімі лямпасамі, навукоўцы-атамнікі ў штацкім дараваць такога яму не маглі.

Гарантам неімпэрскай будучыні тады здаваўся высокі шызаваласы гігант, адкрыты апазыцыянэр камуністычнага цемрашальства, перад якім усе расступаліся ў кулюарах. Аднадумцы сьпяшаліся паціснуць яго руку, ворагі сьціскалі кулакі ў кішэнях. На яго спадзяваліся. Але, як паказаў досьвед, спадзяванкі — таксама цацанкі. Як чалавеку, так сама і нацыі трэба мець сваю галаву на плячах. І гора тым, хто яе ня мае і пры канцы XX стагодзьдзя ўсё яшчэ шукае.





## «ШАКАЛЯД Я ПАКАШТАВАЎ УПЕРШЫНЮ НА ВАЙНЕ...»

19 чэрвеня 1999

***Аляксандар Лукашук, Прага***

Васілю Ўладзімеравічу Быкаву 75 гадоў. Гэта амаль біблейскі тэрмін у нашым месцы і ў наш час — я маю на ўвазе XX стагодзьдзе і Эўропу.

*— Васіль Уладзімеравіч, ці ў вас засталіся сябры-аднагодкі?*

— Вядома, ёсьць яшчэ пакуль што. Хаця, як вядома, тэрмін жыцьця або сярэдні ўзрост увесь час падае, асабліва ў Беларусі — ужо, здаецца, мужчына жыве менш за 60 гадоў. Але ўсё ж яшчэ з тых часоў засталіся нейкія рэлікты — найперш у літаратуры. Вось, скажам, нядаўна ў Расеі шырока сьвяткавалі 75-гадовы юбілей Віктара Астаф'ева, трошкі раней — вэтэрана і пісьменьніка Грыгорыя Бакланава. Паміж імі — майго сябра, расейскага літаратуразнаўцы і крытыка Лазара Лазарава. Ну, і ў Беларусі таксама ёсьць, хаця натуральна, што гэты ўзрост — ня толькі біблейскі тэрмін, але і біблейскі ўзрост.

*— Гэта якраз «франтавое пакаленьне» — тыя, хто нарадзіўся ў 1923–24 гады і вярнуліся з вайны толькі 3 адсоткі.*

— Так, тры з сотні. Таму яны цяпер жывуць ня толькі за сябе, але і за тых, каму ня выпала такой шчасьлівай долі.

*— Вы ўсё ж лічыце, што гэта шчасьце?*

— Жыцьцё — гэта самы вялікі Божы дар, гэта вялікае шчасьце, вышэй за яго нічога быць ня можа на Зямлі.

*— А што ў жыцьці вам самому падаецца найбольш істотным, што давала вам найбольшае адчуваньне шчасьця?*

— Я тут магу ўспомніць толькі адзін момант. Ён сапраўды памятаецца мне добра, і гэта незвычайнае адчуваньне, якога ні да таго, ні пасьля не было. Можа таму, што для мяне асабіста жыцьцё ўвогуле было маларадаснае. І гэта — Дзень Перамогі, як скончылася вайна, вось тыя нейкія два дні, 8 і 9 траўня 1945 году. Тады я раптам адчуў пераход ад вайны да міру. Гэта было незвычайнае, нязьведанае раней пачуцьцё ўзьнёсласьці, шчасьлівасьці, якой ужо пасьля перажываць не даводзілася.

*— Гэта было інтымнае пачуцьцё?*

— Амаль што інтымнае. Ну, хаця, вядома, яно стасавалася з пачуцьцём народаў Эўропы, Амэрыкі — гэта была ўсеагульная эўфарыя, якая захапляла і індывідуальна кожнага.

*— А такія гістарычна значныя падзеі, на якія таксама рэагавала ўсё грамадзтва, — сьмерць Сталіна або правал путчу 1991 году — наколькі яны былі эмацыйна важныя для вас?*

— Гэта таксама было важна, але параўнаць іх з Днём Перамогі немагчыма. Я памятаю, я тады быў у войску, на Далёкім Усходзе, калі памёр Сталін. Натуральна, я, даведаўшыся, у думках сказаў нешта накшталт: «Слава Табе, Божа. Можа, цяпер што зьменіцца». Але побач каля мяне былі мае сябры, якія зрабіліся вельмі пахмурныя, а некаторыя нават плакалі. Так што тут радасьць адносная — унутры я прынамсі ведаў, што гэта так павінна быць і гэта да лепшага, я быў у гэтым упэўнены, але паколькі навакол не былі ў гэтым упэўненыя, то і мая радасьць была няпоўная.





*— Якія былі вашыя «дачыненьні» са Сталіным падчас вайны?*

— Я думаю, што ніякіх. Абсалютна. Таму што я быў надта маленькі чалавек, каб ягоныя ўчынкі, жыцьцё нейкім чынам уплывалі на мяне. На мяне ўплывалі больш празаічныя людзі — блізкія да мяне начальнікі і вораг. Ад іх залежаў мой лёс і маё жыцьцё кожную сэкунду, кожны дзень. А што там Сталін... Я скажу, што (я пра гэта пісаў) ягонае значэньне разьдзьмулі пасьля вайны, у рамках эўфарыі перамогі. А ў часе вайны — ну, былі, безумоўна, загады Сталіна, узнагароды, усё такое, а як ён камандаваў там — пра гэта мы на фронце мала што ведалі й мала адчувалі. У мяне дагэтуль ёсьць такое адчуваньне, што ў вайсковых справах ён быў абсалютны прафан, хоць і стараўся вучыцца і чаму-нічаму навучыўся ад генэралаў, што стаялі бліжэй да яго.

*— Васіль Уладзімеравіч, вам ужо на год болей, чым пратрываў СССР. Ці вы спадзяваліся калі-небудзь, каб так магло стацца — што ня вы будзеце часткай савецкай гісторыі, а сама савецкая дзяржава будзе толькі часткай вашай асабістай біяграфіі?*

— Прызнацца шчыра, я ніколі на гэта не спадзяваўся. Я лічыў, што гэтая імпэрыя пабудаваная на многія дзесяцігодзьдзі, хаця я й не жадаў ёй удачы, шчасьця і доўгіх гадоў, але мяркуючы з таго, што мы перажывалі, чаму былі сьведкамі — нельга было прадбачыць яе такога хуткага развалу. Але, відаць, нейкія працэсы, незаўважныя для простага чалавечага вока, чалавечага розуму, адбываліся ўсярэдзіне, працэсы, якія раптам выбухнулі як брызантная граната — усё разьнесла на кавалкі. Значыць, гэтае ўнутранае, спантаннае напружаньне было вельмі вялікае, але зьнешне яно не выяўлялася.

*— Вы кажаце, што не жадалі дабра гэтай сыстэме. А*

*калі асабіста вам стала ясная прырода гэтай зьявы, яе нялюдзкасьць?*

— Як ні дзіўна, гэта для мяне стала ясна вельмі й вельмі рана, яшчэ ў школьным, дзіцячым узросьце. Я жыў ва Ўсходняй Беларусі, каля Вушачы, за два кілямэтры ад мяжы з Польшчай. У нас там гэты ўціск быў падвойны — калектывізацыя, раскулачваньне, рэпрэсіі праводзіліся як органамі НКВД, так і памежнымі войскамі. І таму я ў гадоў дзесяць-дванаццаць ужо чуў чалавечы плач, стогн, размовы мужыкоў — і тады ўжо адчуваў, што гэтая ўлада нялюдзкая. Я, канечне, быў далёкі ад палітыкі і нічога ня ведаў пра беларускую інтэлігенцыю — гэта адбывалася ў вялікіх гарадах. І ўсё ж да мяне, да маіх эмоцыяў, да майго розуму даходзіла перш за ўсё тое, што адбывалася ў маёй вёсцы, а таксама ў мястэчку, у маёй школе, калі арыштоўвалі маіх настаўнікаў і зьнішчалі. Дырэктара, памятаю, пасадзілі, які мне некалі яшчэ гамашы купіў, бо я быў босы... Ну і калектывізацыя. Але больш за ўсё — гэта галеча і голад, таму што як толькі адбылася калектывізацыя, пачаўся голад...

*— А вы галадалі?*

— Натуральна, кожны год.

*— А што ў вас было дома?*

— Што дома было? Была карова, яна ратавала. Але, зноў жа, трэба было здаць — і малако, і мяса, і масла, і яйкі, і яшчэ пазыкі розныя. Таму, скажам, было цяжка вучыцца, бо, напрыклад, недзе ў канцы 1930-х гадоў перасталі даваць падручнікі, трэба было купляць, а на падручнікі грошай не было — бо апроч падаткаў, страхоўкі, яшчэ былі пазыкі.

*— А што было самым смачным пачастункам у дзяцінстве?*





— Ну, тыя прысмакі, якія звычайна бываюць у сялянскай хаце — малако, тварог, сьмятана.

*— А з крамы было што-небудзь у хаце?*

— Нічога абсалютна, што магло быць з крамы... Гэта цяпер сяляне ідуць у краму па хлеб там, ці што яшчэ. А ў той час у крамах нічога не было, сялянства было на самазабесьпячэньні. А яшчэ гэтае сялянства забясьпечвала горад.

*— А калі вы ўпершыню пакаштавалі цукеркі ці шакаляд?*

— Шакаляд я пакаштаваў упершыню на вайне. Гэта быў трафэйны шакаляд, нямецкі. А цукеркі былі ў сяльмагу — «падушачкі», 40 капеек сто грамаў. Але ж 40 капеек...

*— Пытаньне пра літаратуру. Што такое ўвогуле літаратура, у чым для вас яе сэнс?*

— Некалі (яшчэ гадоў, можа, дзесяць таму) я сказаў бы вельмі проста: у літаратуры вялікая і вельмі важная місія. Але цяпер, як вядома, нашыя «грамацеі» — ня толькі нашыя, але й заходнія — дайшлі да той думкі, што як у жыцьці няма ніякага сэнсу, так сама няма сэнсу і ў літаратуры. Літаратура гэта проста, кажучы парасейску, «досужее времяпрепровождение», забава на ўікэнд і ня больш за тое. Я ўсё ж думаю, што гэта ня так. Можа, літаратура цяпер і сапраўды страчвае свой сэнс і сваё значэньне, але некалі яна значыла вельмі шмат — недзе з часоў Асьветніцтва, з XVIII стагодзьдзя, а можа і яшчэ раней — з часу, калі менавіта літаратура была сродкам пашырэньня хрысьціянства. Я думаю, што літаратура ў той час значыла вельмі шмат, найперш у сэнсе выхаваньня хрысьціянскай маральнасьці. Пасьля яе значэньне зьмянілася, ня ўся яна існавала пад нейкім дадатным знакам. Выкарыстоўвалі яе і злыя антычалавечыя сілы.

*— А калі вы самі ўпершыню адкрылі Біблію, і якое месца ў вашым жыцьці займала і займае гэтая кніга?*

— Я не скажу, што яна займае ў маім жыцьці вялікае месца, таму, відаць, што я ўсё ж яе адкрыў позна. Мы адкрылі яе недзе на пачатку 1960-х гадоў, калі былі ў Рыме. Мы пайшлі там зь сябрамі ў бок плошчы Сьвятога Пятра і зайшлі там у адну крамку з рэлігійнымі таварамі. Мы спыталіся: ці можна ў іх купіць Біблію? Натуральна, Бібліі ў іх былі, але па-лацінску, на нейкіх іншых мовах, а нам трэба было хоць бы па-расейску. І вось адзін служка пайшоў, недзе пашукаў і нарэшце прынёс Біблію на ўкраінскай мове. Вось гэтая Біблія на ўкраінскай мове была першая, якую я прачытаў.

*— Раней у вас нават не было магчымасьці здабыць гэтую кнігу?*

— Натуральна, не было магчымасьці. Праўда, пасьля мне падаравалі (ужо ў Менску) Біблію на расейскай мове, але, як я зразумеў, гэта была кніга з таго «біблейскага запасу», які наша мытня рэгулярна выгружала ў турыстаў, якія ехалі з Захаду і везьлі з сабою Бібліі. І вось так яны часам траплялі замест вогнішча ці макулятуры «ў людзі», і гэткім чынам сябры мне падаравалі Біблію.

*— А што вы разгортваеце часьцей — Новы ці Стары Запавет?*

— Усё ж Новы Запавет — там шмат важнага, і трэба гэта ведаць. Іншая справа, калі мы ўжо закранулі гэтую тэму, усё ж калі ўжо стала магчымым далучыцца да гэтага багацьця, працэс гэты запазьніўся. Як заўсёды, мы спазьняемся. Быў нейкі перапынак, калі рэлігійная традыцыя разарвалася, і цяпер робяцца намаганьні аднавіць, рэстаўраваць рэлігію ў жыцьці нашага грамадзтва, але я думаю, што гэта вельмі складана і незваротна. Відаць, рэлігія — такая справа, якая ня церпіць





нейкага разрыву. А ў нашай гісторыі разрыў быў даволі вялікі, і наступнае пакаленьне ўжо ня мае традыцыі рэлігійнага выхаваньня, як бы іх ні прымушалі або ні заахвочвалі да царквы ці да касьцёлу — наўрад ці яны туды пойдуць, я маю на ўвазе моладзь.

*— Васіль Уладзімеравіч, часам пра літаратараў гавораць (і шмат хто з гэтым пагаджаецца), што пісьменьнік усё жыцьцё піша адну кнігу. Ці вы пагаджаецеся з гэтым поглядам?*

— Я думаю, што гэты пастулят вельмі адносны. Калі пісьменьнік сапраўды доўга працуе, шмат піша, то ён ня можа пісаць адной кнігі. Ён проста фізычна ня можа — і ў эстэтычным пляне таксама, і ў ідэйным. Бо, як вядома, чалавек мяняецца, ягоныя пераканаsuccнi зьменлівыя, час дзейнічае па-рознаму. Таму было б нават жахліва, калі б ён быў такі ўпарты і трымаўся нечага аднаго як сьляпы за плот.

*— Вы — прыклад таго, што за адно не трымаецеся. Сёньня гавораць пра новага Быкава, згадаем тут хоць бы прыпавесьці — «Сьцяна», «Музыка», «Тры словы нямых» ды іншыя, што гучалі на Радыё Свабода. Чым вас вабіць даволі нямодны, пайзабыты жанр прыпавесьці? Ці не кампраміс гэта паміж мастацтвам і публіцыстыкай?*

— Можа быць, гэты жанр і нямодны, але мне здаецца, што ён вельмі ёмісты. Я ня ведаю, якім чынам — я нават не стараўся ўсьвядоміць ягонай тэхналёгіі, проста некаторыя рэчы, якія мне здаюцца цікавымі або неапрацаванымі ў літаратуры, яны найлепшым чынам выкладаюцца менавіта ў гэтым жанры. Бо жанр гэты лякнічны і вельмі ёмісты. Можа, гэтыя лякнічнасьць і ёмістасьць характэрныя і пэўнаму ўзросту. Малады чалавек больш схільны да эпікі, а ў маім узросьце хочацца нечага канкрэтнага, ёмістага і паглыбленага. Я не

хачу тут праводзіць якіх-небудзь паралеляў, але ўспомнім хоць бы Талстога, які пры канцы жыцьця быў ня супраць казкі і прыпавесьці — ляканічных і ёмістых жанраў і ляканічнага стылю.

*— А што з напісанага найбольш дарагое сёньня? Ці гэта кожнага разу нешта рознае?*

— Такое пытаньне задаюць звычайна і даволі часта. Я скажу, што я проста пра гэта ня думаў. Нейкую няўдалую рэч я мог бы назваць, але з эгаістычных меркаваньняў ня буду гэтага рабіць. А што самае дарагое — я ня ведаю. Звычайна, калі пішаш — дык тое, што пішаш, і ёсьць самае дарагое. Але калі напішаш, вельмі хутка прыходзіць ацьвеcaзеньне, і бачыш хібы новага твору.

*— Вы кажаце: «прыходзіць ацьверазеньне». Ці азначае гэта, што ў працэсе пісаньня чалавек знаходзіцца ў іншым стане, крыху апантаным?*

— Я не скажу, што я пішу ў апантаным стане, але ўсё ж і галава занятая праблематыкай, вобразнай сыстэмай — тым, над чым працуеш.

*— Цяпер пытаньне пра тэхналёгію, пра сакрэты пісаньня. Калі вы пішаце, ці для вас важны гук, повязь паміж словамі, рытм фразы — ці вы больш задумляецеся над іншымі катэгорыямі?*

— Рытм фразы — важная справа, ня толькі для паэзіі, але й для прозы. Ёсьць пэўны рытм, які вымагае свайго стаўленьня да слова.

*— Ён дыктуе сэнс?*

— Сэнс?

*— Так, нават разьвіцьцё сюжэту — з тых фразаў, што вы пішаце, з тых сытуацыяў ці вынікае для вас нешта нечаканае? Яны дыктуюць?*





— Ну, я не сказаў бы. Рытм дыктуе вобразную сыстэму ў межах абзацу. Вось абзац мае нейкую сваю заканамернасьць, прадвызначанасьць, і калі, скажам, абзац пачаўся зь нейкай думкі, дык на нейкай працілегласьці ён павінен і закончыцца. Звычайна гэта ідзе паводле схемы «так — так, але — але». Хаця тут могуць быць розныя варыянты.

*— У вас шмат якія творы пачынаюцца, я б сказаў, з музычнай фразы, якая задае танальнасьць твору. Першая фраза вашых твораў бывае вельмі складаная і вельмі невыпадковая.*

— Так, першая фраза вельмі важная. Ну, гэта звычайна. Пра гэта, памятаю, некалі пісаў і Бунін, і іншыя пісьменьнікі. Яна настройвае, таму вельмі важна выбраць танальнасьць першай фразы ў адпаведнасьці з ідэяй усяго твору.

*— А першая фраза сапраўды пішацца першаю, ці яна часам зьяўляецца пазьней?*

— Не, звычайна я над ёй думаю даўжэй, чым над іншымі, і яна павінна зьявіцца першай. Калі яна няўдала зьявіцца, то прыходзіцца пасьля перарабляць. Бо ж яна вызначае ўсё наступнае.

*— Пытаньне пра мову. Ваш блізкі сябар Алесь Адамовіч пісаў і па-беларуску, і па-расейску; ваш знаёмы Чынгіз Айтматаў — толькі па-расейску; вы — толькі па-беларуску. Чаму?*

— Толькі па-беларуску я пішу прозу. Публіцыстыку, артыкулы — я многа напісаў і на расейскай мове. Чаму так? Гэта элемэнтарна проста. Па-першае — я беларус, мая родная мова — беларуская. І хоць я ў юнацтве, у маладыя гады ня жыў у Беларусі і ня чуў беларускага слова — 15 гадоў, у вайну і пасьля вайны, калі я пачаў займацца літаратурай, была пэўная праблема — на якой

мове пісаць. Але гэтая праблема вельмі хутка вырашылася. Я зразумеў (і я думаю, што, дай Бог, гэта было правільна, і, на шчасьце, я зразумеў гэта рана), што толькі родная мова можа найлепшым чынам паслужыць у гэтым сэнсе ў літаратуры.
Расейская мова — яна, вядома, багатая, выдатным чынам распрацаваная ў літаратуры, але ўсё ж беларусу яна не такая паслухмяная, як родная. Гэта зразумела і натуральна. Таму, калі я пачынаў у літаратуры, мне нават не давялося перавучвацца. Нейкім чынам гэтая родная мая беларуская мова паклалася вельмі лёгка на маю душу, хаця я шмат гадоў ёю не карыстаўся, і ўсё пайшло натуральным чынам.

*— Вы самі перакладаеце свае тэксты. Чаму? Вы ня можаце знайсьці добрага перакладчыка?*

— Так, менавіта так. Як ні дзіўна, расейскія людзі — ня толькі літаратары — кажуць, што яны выдатна разумеюць беларускую мову, і гэта ўвогуле правільна, зразумець яе лёгка. Але вось расейскіх перакладчыкаў (ня толькі ў мяне, я ня ведаю, у каго яны яшчэ ёсьць у беларускіх літаратараў) — няма... Некалі я карыстаўся чужымі паслугамі — звычайна гэта былі беларусы, якія жылі ў Маскве і ведалі абедзьве мовы, напрыклад, Міхаіл Васільевіч Гарбачоў, мой першы перакладчык. І тым ня менш, гэтыя пераклады былі, мякка кажучы, недастатковыя, і я быў вымушаны ўзяцца за гэтую справу сам, бо проста тыя перакладчыкі, да каго я яшчэ зьвяртаўся, не скажу, што яны рабілі дрэнныя пераклады, але іхныя пераклады мяне не задавальнялі. Хоць я мо і сам раблю іх недасканалымі — гэта напэўна так, я гэта адчуваю. Але я перакананы, што ў мяне гэта атрымліваецца лепш.

*— Тое, што вы гаворыце, пацьвярджаецца практыкай. Пераклады ў 1930-я гады былі вельмі папулярным спосабам выжываньня для вядомых расейскіх паэтаў. І вось зь беларускай яны ўзяліся перакладаць літаральна па адным вершы — ёсьць адзін верш у перакладзе Ахматавай, адзін верш у перакладзе Цьвятаевай, адзін у перакладзе Пастэрнака, адзін — Таркоўскага. І ўсё. Паспрабавалі й далей не пайшлі, нешта ім беларуская мова не давалася.*

— Яна і ня можа давацца. Гэта яшчэ Бунін некалі пісаў, што перакладаць з блізкіх моваў вельмі цяжка, амаль немагчыма. Гэтая лёгкасьць ілюзорная. Здаецца так, што ўсё зразумела, а на справе тут ёсьць нейкі эзатэрычны сэнс, нейкія таемныя праблемы, якія пры такой зьнешняй блізкасьці робяць дзьве мовы несумяшчальнымі.

*— Вы амаль дзесяць гадоў устрымваліся ад публічнага абмеркаваньня праблемы беларускага правапісу, дыскусіяў на тэму тарашкевіцы і наркамаўкі. Ваш зборнік «Сьцяна» выйшаў на тарашкевіцы, і свае новыя тэксты, наколькі я ведаю, вы таксама адразу пішаце на тарашкевіцы. Гэта ваш адказ?*

— Я пішу на тарашкевіцы, бо мае творы чытаюцца на «Свабодзе» ў гэтым правапісе. Хаця я скажу, што ўнутрана, як аўтар, я ўсёй душою за гэта: тарашкевіца — правапіс болей беларускі, ён адпавядае беларускаму моўнаму мэнталітэту больш за наркамаўку, гэта безумоўна. І ўсё ж я лічу, што зь пераходам на тарашкевіцу ў нас пасьпяшаліся. Цяпер ня той час, бо ёсьць вельмі вялікая небясьпека таго, што мы, беларусы, можам навогул застацца без нармальнай агульнапрынятай граматыкі.

*— Вам належыць фраза-прысуд: «Беларусы спазьніліся на свой цягнік». Гэта вы сказалі ўжо даволі даўно. Як вы глядзіце на сытуацыю сёньня?*

— Ну, я гляджу, што так яно і ёсьць. Жыцьцё, на жаль, пацьвярджае, што спазьненьне гэтае — ня толькі факт, які адбыўся, гэтае спазьненьне ўсё замацоўваецца гісторыяй.

*— Вяртаючыся да літаратуры: калі гаварыць пра ваш сьпіс для чытаньня, хто зь пісьменьнікаў мае для вас большае значэньне? Чым вызначаецца вашае кола чытаньня?*

— Сёньня нават цяжка сказаць. Сёньня я чытаю выпадкова, галоўным чынам часопісную літаратуру — беларускія і расейскія часопісы, тут ёсьць такая магчымасьць, у Фінляндыі. У Беларусі не было. Як вядома, там цяпер поўны ералаш, асабліва ў расейскай літаратуры — там ёсьць усё, і добрыя творы, і постмадэрнізм, якога я не магу прыняць, хаця ў пэўных адносінах, што да майстэрства — нічога ня скажаш, сучасныя пісьменьнікі пішуць проста выдатна. Тут у Фінляндыі я хачу трошкі пазнаёміцца і зь фінскай літаратурай, якая ў нас абсалютна невядомая. Натуральна, што гэта можна зрабіць толькі ў перакладах — з таго нямногага, што перакладзена на расейскую мову, а таксама і на беларускую. Напрыклад, наш перакладчык Якуб Лапатка пераклаў два раманы Пэнтці Хаанпяя, яны выйшлі свайго часу ў «Мастацкай літаратуры». Таксама я нядаўна прачытаў вялікі раман пра мінулую вайну Вяйнэ Ліны «Невядомы салдат». Яшчэ што-нішто Юхана Рунэбэрга, аўтара іхнага нацыянальнага гімну. Зьбіраюся прачытаць ляўрэата Нобэлеўскай прэміі 1939 году празаіка Франса Сылянпяя пра грамадзянскую вайну.

*— Васіль Уладзімеравіч, вы ўжо год пражылі за мяжой. Як вы ацэньваеце творчыя вынікі гэтага году?*

— Трэба лепш і больш. Я вельмі напружана папрацаваў лета, восень і зіму, а вясной трошкі мой імпэт зьнізіўся — зь некаторых прычынаў, якія маюць дачыненьне не да літаратуры, а хутчэй да палітыкі.

*— Дык, нягледзячы на тое, што «ўзяты» вы былі «ад роднай хаты», гэта не паўплывала на вашую працаздольнасьць?*





— Не, наадварот! Пісьменьніку што патрэбна — чысты аркуш паперы і ціхі куток. Якраз папера тут ёсьць, нават кампутар зьявіўся, і ціхі куцік забясьпечаны, хаця мая кватэра над піўным барам — літаральна пада мной, пад маёй лёджыяй піўны бар. Але — што значыць фінская нацыянальнасьць! — ціха. У гэтым бары на тратуары стаяць столікі, там заўсёды сядзяць людзі зь півам і п’юць, але я ніякага гоману не адчуваю. Ну, нешта яны паціху размаўляюць, а то звычайна сядзяць моўчкі і цягнуць сваё піва.

*— І як фінскае піва?*

— Піва фінскае, канечне, саступае чэскаму і нямецкаму і эўрапейскаму навогул. Горшае піва. Але лепшае за беларускае. А самае галоўнае, што там ня ведаюць гэтых самых піўных катастрофаў, якія здараюцца ў постсавецкіх краінах.

*— Ці зьмяніліся вашыя погляды на зьяву эміграцыі — і эміграцыі для пісьменьніка? Наколькі гэты стан катастрафічны, ці, можа, гэта не ўплывае на творчасьць?*

— Я б сказаў, што гэты стан не катастрафічны, хоць у кожнага свой канкрэтны выпадак. Але ўсё ж я скажу, што паводле закону Божага і чалавечага трэба жыць дома. Шкада, што не заўсёды і ня ўсім выпадае такое шчасьце — у залежнасьці ад таго, які дом. Бывае так, што эміграцыя — гэта шчасьце, паратунак. Хоць у ідэале паратункам і шчасьцем павінен быць дом, радзіма, бацькаўшчына.

## СЛОВЫ ВАСІЛЮ БЫКАВУ НА ЮБІЛЕЙ

19 чэрвеня 1999

*Рыгор Барадулін, Менск*

**На 19 чэрвеня**

Ратай, бацькам тваім зямны паклон,
Што ўзгадавалі сына Беларусі,
Усім тваім крыўдзіцелям — праклён,
Хто не з табой — той з д'яблам у хаўрусе.
Са дна вазёраў памяці званы
Зьвіняць, каб разбудзіць былую славу.
Бог выбавіў цябе з агню вайны,
Каб ты штодня змагаўся за дзяржаву.
Дзяржава беларуская ў вяках
Закратаваная балючым крацьцем.
Насіць бы кожны сказ твой на руках —
А мы цябе, як скарб, бяздумна трацім.
Хай ходзіць на шалёнай галаве
Лапцюжнік, што дарос да чаравікаў.
Ёсьць беларусы, Беларусь жыве,
Пакуль жыве у кожным сэрцы Быкаў!

*Сяржук Сокалаў Воюш, Прага*

Асьцё сабраўшы у сувой,
Ачысьціць ніву час-дажынец,
І вернецца з чужыны свой,
І сыдзе з дому прэч чужынец.
Не пад ярмом, не пад рызьзём,
Да зорак дойдзем цераз церні,
І ні асфальт, ні сухазём
Ня зьнішчаць кінутага зерня.





## УЛАДЫ БЕЛАРУСІ ПРАІГНАРАВАЛІ 75-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ НАРОДНАГА ПІСЬМЕНЬНІКА ВАСІЛЯ БЫКАВА

24 чэрвеня 1999

*Альгерд Невяроўскі, Менск*

Ніводзін дзяржаўны чыноўнік не прыйшоў учора ў менскі Дом літаратара, дзе пісьменнікі і чытачы арганізавалі вечарыну з нагоды юбілею.

Плянавалася, што ўдзел у гэтым мерапрыемстве возьме сам пісьменьнік, які ўжо больш за год жыве і працуе ў Фінляндыі. Аднак пазьней высьветлілася, што гэта не зусім так. Як паведаміў вядучы вечарыны, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Сяргей Законьнікаў, які нядаўна сустракаўся з Васілём Быкавым у Бэрліне, магчыма, што Васіль Уладзімеравіч прыедзе ў Беларусь трохі пазьней. Цяпер ён езьдзіць па Фінляндыі і праводзіць творчыя сустрэчы зь фінскімі чытачамі — творчасьць пісьменьніка добра вядомая ў гэтай краіне. Паводле словаў Сяргея Законьнікава, Васіль Быкаў адчувае сябе значна лепей, ён шле вітаньне ўсім сябрам, знаёмым і проста прыхільнікам.
На вечарыне ў менскім Доме літаратара гаварылася шмат цёплых словаў пра пісьменьніка. Але, як падкрэсьлівалі шмат якія выступоўцы, казаць нешта новае пра Быкава цяжка. Усё самае добрае пра яго ўжо сказана, галоўным чынам — чытачамі як у Беларусі, так і ва ўсім сьвеце. Выступоўцы больш падкрэсьлівалі іншую акалічнасьць: Васіль Быкаў, можа, таму і зьехаў у працяглую камандзіроўку за мяжу, што ня мог цалкам зрэалізаваць свайго творчага патэнцыялу на радзіме.
Найбольш дакладна ахарактарызаваў стаўленьне ўладаў да Быкава ягоны сябра паэт Генадзь Бураўкін. Паводле ягоных словаў, хамская, неадукаваная і нахабная

ўлада можа займацца чым заўгодна — інтэграцыяй, дапамогай праваслаўным сэрбам, спартовымі шоў ды іншымі прапагандавымі акцыямі, але дачакацца ад яе хаця б некалькіх словаў павагі і ўдзячнасьці на адрас Быкава ці Янкі Брыля, які нядаўна адзначаў сваё 80-годзьдзе, немагчыма. Быкаў і Брыль — прыхільнікі цывілізаванай, эўрапейскай, дэмакратычнай Беларусі. А ў прэзыдэнта Лукашэнкі і ў ягоных чыноўнікаў зусім іншыя пляны адносна нашай бацькаўшчыны, — дадаў Генадзь Бураўкін.

Таму, паводле словаў Бураўкіна, А.Лукашэнка лічыць больш важным павіншаваць калектыў расейскай парлямэнцкай газэты зь першай гадавінай з дня выхаду, чым згадваць пра Васіля Быкава. На думку Бураўкіна, галоўнаму рэдактару гэтага друкаванага органу Дзярждумы, былому літаратурнаму паплечніку Быкава, пісьменьніку Юрыю Бондараву павінна быць сорамна за такое віншаваньне ад А.Лукашэнкі.

Адзіная дзяржаўная структура, якая павіншавала Васіля Ўладзімеравіча зь юбілеем — выдавецтва «Мастацкая літаратура». Шэф выдавецтва Георгі Марчук — той самы, які два гады таму адмовіўся рыхтаваць да друку зборнік апавяданьняў Васіля Быкава «Сьцяна», на імпрэзу не прыйшоў. Замест яго выступаў супрацоўнік выдавецтва і лідэр беларускіх курдаў Г.Чарказян, які паведаміў прысутным, што да юбілею Быкава «Мастацкая літаратура» выдала зборнік ягоных апавесьцяў пад назвай «Знак бяды». Выказаў Г.Чарказян і сваё меркаваньне адносна стаўленьня ўладаў да асобы Васіля Быкава. На ягоную думку, беларускія чыноўнікі яшчэ проста не дарасьлі да таго ўзроўню, каб ацаніць такіх творцаў як Быкаў.





## «СЬВЕТЛЫ І НАДТА ЧАЛАВЕЧЫ ГЕНІЙ»

17 ліпеня 1999

***Аляксандар Лукашук, Прага***

Да 100-годзьдзя Эрнэста Гэмінгўэя.

*Для вялікай літаратуры межаў не існуе: Эрнэст Гэмінгўэй пры канцы XX стагодзьдзя застаецца актуальным для Беларусі.*

Гаворыць Васіль Быкаў:

*В.Быкаў:* Даўно вядома: у мастацкім творы кожны бачыць тое, што хоча бачыць, прачытвае тое, што хоча прачытаць. А таксама, мабыць, што можа, умее, на што здольны, чаго не хапае яму ў ягоным палітычным, эстэтычным, паўсядзённым бытаваньні. Паваеннаму пакаленьню маладых творцаў тады не хапала праўды пра нашу крывавую вайну, і мы шукалі яе — дзе толькі маглі знайсьці. Ведама ж, у нашай літаратуры, зьменшанай сацрэалізмам, тае праўды было няшмат, куды болей яе вынікала з замежнай, найперш эўрапейскай літаратуры. І як ні дзіўна, неабавязкова той, што грунтавалася на досьведзе другой усясьветнай вайны, але і на досьведзе першай, знайшліся агульныя — так бы мовіць, унівэрсальныя моманты, найперш у Рэмарка і Гэмінгўэя, якія напачатку нават зьбянтэжылі нас пранізьлівай аголенасьцю сваёй ваеннае праўды. Але яны не зьбянтэжылі савецкіх ідэалягічных наглядчыкаў, якія адразу ж згледзелі немалую небясьпеку іхных мастацкіх пазыцыяў і забілі ў званы ідэалягічнай трывогі. Аднак было позна: яны штось прамінулі — у сьвеце ўжо гучалі іншыя званы, у тым ліку і вядомы раман вялікага амэрыканца, які мы чыталі ў самвыдаце, яшчэ да таго, як ён, зьнявечаны і скарочаны, выйшаў з бальшавіцкай друкарні ў Маскве.

Разумны чытач мог там заўважыць многае з таго, што

ўвогуле было нам знаёма, але як сьлед не засвоена нашай літаратурай, нашай грамадзкай сьвядомасьцю. Найперш, бадай, гэта мэтафізычная еднасьць чырвонага з карычневым, іхная прагматычная паяднанасьць у бязьлітасным супрацьстаяньні і зацятай барацьбе за ўсясьветнае панаваньне. Выдатныя былі й іншыя творы вялікага амэрыканца — антываенны раман «Бывай, зброя!», элегічнае «Сьвята, якое заўжды з табой», «За ракой, у зацені дрэваў», мэтафарычны «Стары і мора». Але «Па кім звоніць звон» — быў як сьветлы падарунак нашай замшэлай сацыялістычнай сьвядомасьці ў яе нечаканым прасьвятленьні на сярэдзіне XX стагодзьдзя. Так ці інакш, тое не магло не адбіцца на нашай вайсковай, так званай «лэйтэнанцкай» літаратуры, пэўнай частцы беларускай прозы, за што шэраг гадоў яна наслухалася папрокаў у «рэмаркізьме», «гэмінгўэеўшчыне» ды іншых «тлятворных уплывах буржуазнай літаратуры». А на маю думку, дык то былі дабратворныя і вельмі гуманістычныя ўплывы, якія пэўным ідэйным водгульлем ратавалі гонар нашай змарнаванай літаратуры. І дзякуй за тое вялікаму Гэму, за яго сьветлы і надта чалавечы геній, які дапамагаў жыць, сьведчыў, вучыў і натхняў, якасьцяў якіх усё менее ў сучаснай постмадэрнісцкай камэрцыйнай літаратуры, і безь якіх сучасная літаратура пераўтвараецца ў пустую забаўку. У Гэмінгўэя хапала і забавак, але былі і боль, і розум, а галоўнае — у кожным творы білася добрае і вялікае сэрца гуманіста.





## «ПАДПІСАНЬНЕ САЮЗНАЙ ДАМОВЫ — ГЭТА ГЕНАЦЫД БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ»

8 сьнежня 1999

***Сяргей Навумчык, Прага***

Падпісаньне новай саюзнай дамовы адбылося ў Крамлі. Барыс Ельцын назваў гэта гістарычнай падзеяй. А Аляксандар Лукашэнка заявіў, што гэта толькі чарговы этап інтэграцыі і налета распрацаваная яшчэ адна саюзная дамова. Каля дваццаці актывістаў Беларускага Народнага Фронту перакрылі менскі праспэкт Скарыны на знак пратэсту супраць падпісаньня ў Маскве беларуска-расейскае дамовы. Мы зьвярнуліся па камэнтар да Васіля Быкава.

*— Васіль Уладзімеравіч, ад імя нашых слухачоў віншую вас з прысуджэньнем прэміі «Трыюмф», з тым, што чарговы раз і вашыя заслугі літаратурныя, і вашыя маральныя якасьці прызнаныя. На гэты раз у Маскве, у Расеі.*

— Дзякуй, вядома. Прэмія — яна прыемная для мастака, для літаратара. Тым больш, у наш час, калі літаратурная праца ўзнагароджваецца вельмі сьціпла, гэта вядома. Але тут прэмія выклікае розныя асацыяцыі — і галоўныя, і пабочныя. Тым ня менш, я думаю, што цяпер проста не выпадае гаварыць пра гэта. Што ж, я ўвогуле ўдзячны за тое, што літаратурныя слаі Расеі прызналі маю творчасьць пэўным чынам, вельмі канкрэтным чынам. Дзякую ім.

*— Ці вы ведаеце, што сёньня адбылося падпісаньне саюзнай дамовы?*

— Так, ведаю. Я ўжо шмат разоў гаварыў пра маю пазыцыю на гэты конт. Канечне, гэта ня толькі сумная справа, гэта ўвогуле злачынства стагодзьдзя. Гэта, безумоўна, генацыд беларускай нацыі — канец яе гісторыі.

Інакш да гэтага паставіцца нельга. Беларусаў і так гісторыя крыўдзіла на працягу многіх стагодзьдзяў. З XVII стагодзьдзя як страціла незалежнасьць нашая дзяржава, так яна гэтую дзяржаўнасьць толькі пад канец XX стагодзьдзя набыла, выпадкам. І гэтага шанцу не ўдаецца выкарыстаць.
Я думаю, што цяпер, калі многія і заходнія розумы, і нашыя таксама знаходзяцца ў нейкай прастрацыі з прычыны гэтага аб'яднаньня, аншлюсу, дык празь нейкі час прыйдзе ацьверазеньне, і ўсё гэта будзе ацэнена вельмі выразна. Гэтая выразнасьць заключаецца ў тым, што канчаецца — прынамсі, калі ня гвалтам, дык іншым спосабам — канчаецца беларуская гісторыя. Беларусы не змаглі ў XX стагодзьдзі скарыстаць свайго гістарычнага шанцу. З пэўных прычынаў, канечне. Што тут зробіш...
Трэба было б недзе набрацца аптымізму. Пра гэта цяпер мы ўсе думаем і гаворым, але рэч у тым, дзе яго ўзяць, адкуль ён можа зьявіцца, гэты аптымізм? Гістарычны аптымізм — ён існуе. Але паколькі кожная асоба разважае ў межах свайго псыхалягізму, уласнага сьвету, дык тут якраз гэтага аптымізму няма.



# Нямеччына

люты 2000 — сьнежань 2002

Вяртаньне Быкава ў Менск у студзені 2000 году ўлады адзначылі абразьлівымі камэнтарамі на дзяржаўным тэлебачаньні. Некалькі дзён Быкаў праводзіць у Маскве, дзе прадстаўнікі расейскай інтэлектуальнай эліты ганаруюць яго прэміяй «Трыюмф», а затым на запрашэньне Міжнароднага пісьменьніцкага парлямэнту едзе ў Нямеччыну.

«Я цяпер у Бэрліне, на яго ўсходняй ускраіне. Месца зусім буржуазнае — ціхая зялёная вуліца, на якой, праўда, час ад часу грукае трамвай... Увогуле спакойна, прасторна, за вокнамі скрозь зелена. Праўда, статус наш цалкам неўладкаваны, шмат няпэўнасьці, у тым ліку і фінансавай», — піша Быкаў у Менск паэту Генадзю Бураўкіну ў жніўні 2000 году. Пасьля Бэрліна быў пансіянат Віпэрсдорф («Дваццаць кілямэтраў да найбліжэйшага гарадку»), затым Франкфурт-на-Майне, потым — ізноў Віпэрсдорф.

Быкаў наведвае Францыю і Італію, дзе выходзіць ягоная кніга; прыяжджае і ў Беларусь, на родную Вушаччыну. У Празе ў сакавіку 2000 году Быкаў запісвае для аўдыёархіву «Свабоды» выбраныя ім фрагмэнты з аповесьцяў. У верасьні 2001 году Быкаў сустракаецца ў Празе з прэзыдэнтам Чэхіі Вацлавам Гаўлам.

У Нямеччыне ствараюцца апавяданьні «На балотнай сьцяжыне», «Кароткая песьня», «Велікоднае яйка» і іншыя, якія гучаць па «Свабодзе». Быкаў піша прадмову да выдадзенага ў часопісе «ARCHE» «Слоўніка Свабоды» — зборніка радыёэсэ, якія штодня гучалі ў эфіры ў 1999 годзе. Супрацоўнікі «Свабоды» просяць Быкава напісаць свае ўспаміны. Урыўкі з кнігі «Доўгая дарога дадому» ён начытвае ў Празе ўлетку 2002 году.

## «Я НІКОЛІ НЯ БЫЎ ПРЫХІЛЬНІКАМ АДЗІНАЕ ДЗЯРЖАВЫ»

10 студзеня 2000

***Вольга Караткевіч, Прага***

«Не праз гады, а празь месяцы Расеі будзе сорамна за тое, што яна робіць у Чачэніі». Гэтыя словы прамовіў учора ў інтэрвію расейскаму тэлеканалу НТВ Васіль Быкаў. Народны пісьменьнік Беларусі знаходзіцца ў Маскве, дзе яму ўчора ўручылі грамадзкую прэмію «Трыюмф» за ўнёсак у разьвіцьцё культуры. Мы зьвязаліся з Масквой і ўзялі інтэрвію ў Васіля Быкава.

*— Спадар Васіль, якія ў вас былі пачуцьці, калі вы атрымлівалі гэтую прэмію? Чаму ў сваім інтэрвію вы згадалі Чачэнію?*

— Ня толькі творцу, але й кожнаму чалавеку прыемна, калі яго праца нейкім чынам ацэньваецца. Тым больш што мы, літаратары, цяпер ня надта расьпешчаныя такога роду матэрыяльнай увагай грамадзтва. Чаму я Чачэнію ўспомніў? Пра Чачэнію ўсе гавораць. Рэч у тым, што гавораць — тое, што гавораць тут, мне надта не падабаецца. І тое, што я слухаю па тэлевізійных каналах расейскіх — у мяне на гэты конт іншае перакананьне. Я лічу, што гэта вялікае злачынства стагодзьдзя, што так нельга абыходзіцца з народам. Нейкае ачмурэньне найшло найперш на сродкі масавае інфармацыі, якія падтрымліваюць вайну, — ну, а пасьля, відаць, і на грамадзтва. Я тут пабыў і пагаварыў зь некаторымі інтэлігентамі, і далёка ня ўсе падтрымліваюць тое, што там адбываецца. Але яны маўчаць. Ну, а я, карыстаючыся тым, што я ўсё ж грамадзянін іншай краіны, вольнай Беларусі, дзе танкі яшчэ не гуляюць па вуліцах гарадоў, выказаў сваю думку.





*— Вы сказалі, што Расеі не праз гады, а празь месяцы будзе сорамна за гэтую апэрацыю ў Чачэніі. Адкуль такі аптымізм? Так, сярод інтэлігенцыі ня ўсе адназначна да гэтага ставяцца, але народ маўчыць.*

— Народ заўсёды маўчыць, але інтэлігенцыя першая павінна апамятацца ад гэтага кашмару. Стаўленьне інтэлігенцыі і народу — гэта клініка, гэта загадка для псыхолягаў будзе некалі. Я хачу тут спаслацца на нядаўнюю перадачу, якую я бачыў па расейскім канале, ня памятаю, па якім. Калі афіцэры расейскага спэцназу, палкоўнікі расказвалі пра Аўганістан, пра Тбілісі, пра Баку і Вільню, яны гаварылі, што ім сорамна цяпер. Гэты сьпіс сораму будзе вельмі хутка павялічаны і Чачэніяй, і Грозным.

*— Якую інфармацыю, зь якіх каналаў наконт сытуацыі ў Чачэніі вы атрымлівалі ў Фінляндыі?*

— У Фінляндыі інфармацыя ў мяне была абмежаваная, таму што ў мяне тэлевізара не было там, і я лічыў гэта недахопам, а цяпер, калі я пазнаёміўся з расейскім тэлебачаньнем, бачу, што гэта была вялікая ўдача — я гэты бруд прамінуў неяк. Інфармацыя была з Радыё Свабода, Бі-Бі-Сі, Нямецкай хвалі, Голасу Амэрыкі. Фінскамоўны друк таксама інфармаваў даволі аб'ектыўна.

*— Вы сказалі, што расейская інтэлігенцыя павінна выступіць, павінна выказацца. А ці выкажацца яна?*

— Паверце, я ня ведаю. Ці адважацца яны на гэта, я ня ведаю. Але прыйдзе час — выкажуцца. Вядома ж, славяне тугадумы, у тым ліку і расейцы, і беларусы таксама. Трэба час, каб асэнсаваць, каб са сьпіннога мозгу перайшло ў галаўны мозг. Я думаю, што гэта будзе — і хутчэй, чым некаму здаецца.

*— Гэтая прэмія — знакавы момант, бо ў Беларусі вы даўно ўжо не атрымлівалі ніякіх прэміяў, зь цяжкасьцю*

*друкуюцца вашыя кніжкі. Як вы ацэньваеце гэтыю сытуацыю: прызнаньне расейскім бокам і замоўчваньне афіцыйным Менскам?*

— Што датычыць гэтага «Трыюмфу», то ўсё ж гэта лічыцца незалежнай прэміяй, і распараджаюцца там дэмакраты зь ліку расейскай творчай інтэлігенцыі. Там амаль што ўсе харошыя людзі. Можа быць, пазыцыі іх у некаторых пытаньнях ня ўсе супадаюць, але прынамсі да мяне, да маёй творчасьці яны ставяцца, як бачыце, добра. Я гэта і мушу расцэньваць як знак прыязнасьці. Я ім удзячны за гэта. Я кажу, мы не настолькі расьпешчаныя, каб выбіраць у гэтым сэнсе.

*— Заўтра вы будзеце ўжо ў Беларусі. Якія вашыя пляны, якія першыя крокі творчыя? Ці зьбіраецеся вы сустрэцца з грамадзкасьцю?*

— Не, крый божа, з грамадзкасьцю я не хачу сустракацца. Я многа сустракаўся з грамадзкасьцю, і апроч маральных сінякоў, мне гэта ніколі нічога не прыносіла. Або гэта былі ілюзіі, якія вельмі хутка разьвейваліся. Або гэта былі проста непрыемныя сутычкі. Я нешта яшчэ хачу напісаць — проста напісаць. І нічога больш. Бо мой век ужо канчаецца, а здароўе такое, што не дае магчымасьці будаваць нейкіх плянаў. Той стары габрэй свае пляны мяркуе толькі да суботы.

*— У інтэрвію нашаму радыё ў дзень падпісаньня беларуска-расейскай дамовы вы сказалі, што гэта канец гісторыі Беларусі. Вось за гэты час, які прайшоў, за які стала відавочна, што да стварэньня адзінай дзяржавы яшчэ як далёка, ці памянялася вашая такая пэсымістычная ацэнка гэтых працэсаў?*

— Я ніколі ня быў староньнікам адзінае дзяржавы. Як можна будаваць нейкія адзіныя дзяржавы цяпер, пры канцы XX стагодзьдзя або на рубяжы трэцяга тысячагодзьдзя ад Нараджэньня Хрыстовага? Нацыі самавызначыліся, і дзяржавы (па крайняй меры, у Эўропе) даўно ўжо вызначыліся — найперш паводле нацыянальнага прызнаку. І я ўпэўнены, што так ня будзе, таму што тут сусьветны розум гэтаму супраціўляецца. Нездарма, нягледзячы на гэтыя высілкі, тытанічныя высілкі, зруху ніякага няма.

*— Вы сказалі, што вы хацелі б нешта напісаць. Спадар Васіль, што б вы хацелі напісаць — пра Беларусь, ці пра людзей?*

— Я бачу, што стыль, ня толькі культурная парадыгма, але і ўсё вакол мяняецца таксама. Я, канечне, не староньнік постмадэрнізму, гэта ўжо стыль новых пакаленьняў, але я ўсё ж хачу заставацца верным двум пачаткам. Гэта пачатак нацыянальны і пачатак гуманістычны.

## ЛИЦОМ К ЛИЦУ: ВАСИЛЬ БЫКОВ

16 студзеня 2000

***Уладзімер Бабурын, Масква***

Інтэрвію Васіля Быкава Расейскай службе Радыё Свабода.

*В.Бабурин:* Наш гость — белорусский писатель, лауреат премии «Триумф» Василь Быков. Василь Владимирович, как вы оцениваете перспективы российско-белорусского союза?

*В.Быков:* Беларусь — это авторитарная страна. Как они могут объединиться? Кроме того — экономика. Экономика Беларуси — целиком социалистическая, все предприятия там принадлежат государству. Разве что российские финансово-промышленные группы, в случае

интеграции, завладеют этими советскими предприятиями бывшими, это вполне возможно. Поэтому мое (и не только мое) отношение к этому — отрицательное. Я полагаю, что отношения между Беларусью и Россией — самые тесные, самые дружеские, самые, так сказать, экономически взаимовыгодные — могут быть построены на других основах, совершенно не так, как это делается теперь.

*В.Бабурин:* Наш сегодняшний гость — писатель Василь Быков. Вопросы ему будут задавать Елена Дьякова, «Новая газета», и мой коллега Илья Дадашидзе. Ведет программу Владимир Бабурин. И начну я, как всегда, с краткой биографии нашего сегодняшнего гостя.

> Василь Быков родился в 1924 году в крестьянской семье под Полоцком. Учился в художественном училище в Витебске, основанном Марком Шагалом. Участник Великой Отечественной войны, военную службу завершил в 1955 году майором-артиллеристом. Первая книга — сатирических рассказов — «Ход конем». В начале шестидесятых — первые рассказы и повести на военную тему: «Третья ракета», «Мертвым не больно», «Атака сходу». Наибольший читательский интерес вызвали книги Василя Быкова «Круглянский мост», «Сотников», «Знак беды» и «Волчья яма». За последнюю книгу о Чернобыле Василь Быков был удостоен премии «Триумф». Василь Быков также лауреат Ленинской и Государственной премий и Герой социалистического труда. А премия «Триумф» Василю Быкову была вручена в минувшее воскресенье, и именно по этому поводу Василь Быков сегодня в московской студии Радио Свобода.

*В.Бабурин:* Василь Владимирович, вы удостоены многих наград. И высших государственных наград Советского Союза, и сейчас получили самую престижную премию в области культуры, к которой, тем не менее, у





деятелей культуры отношение двоякое, в связи с тем, что одним из учредителей этой премии является Борис Березовский. У вас есть какое-то особое отношение по этому поводу к этой премии?

*В.Быков:* У меня нет особого отношения к этой премии. По той причине, что я полагаю, что в том положении, в котором оказалась сейчас наша культура — не только литература, но литература, может быть, особенно, и именно — литература реалистическая, социально ангажированная... Она не может существовать, не только развиваться, но и сколько-нибудь существовать без посторонней помощи, какой-то спонсорской помощи. Потому что государство, как известно, оказалось не в состоянии поддерживать литературу. С одной стороны, это, может быть, хорошо, потому что не дай бог той поддержки, которую литература переживала в годы советской власти. Но в то же время, в это переломное время, при этом крахе экономическом, литература за счет собственных ресурсов тоже не может выжить. Поэтому — что же остается литераторам, которые не пишут детективов? Или — которые все-таки пытаются остаться на позициях реализма, тем более — гуманизма, которые — не постмодернисты? Что же им остается, кроме того, как изыскивать какие-то посторонние средства и на них существовать и творить?

*Е.Дьякова:* «Волчья яма». Название ее перекликается с названием давней вашей повести — «Волчья стая». И та повесть — замечательная вещь о том, как партизан выносит ребенка, жертвуя всем, в ужасных условиях. А ваша проза так прекрасна, так подробна, что все страдания человека на войне, в каждой кочке, в каждом заснеженном болоте, которое он преодолевает, чувствуются особенно остро. Партизан выносит младенца, они расстаются, и через тридцать лет постаревший герой ждет этого выросшего ребенка у его дома на лавочке, и при этом абсолютно не сомневается, что этот ребенок,

вынесенный им из ада, вырос нормальным, приличным человеком, и встретятся они, как люди. На этом заканчивается повесть. И мощное ощущение... смысла, и целеполагания жизни, и страдания, перенесенного людьми, там очень сильно. В «Волчьей яме» — наоборот. Кажется, случайное, безумное сцепление наших теперешних обстоятельств гонит людей в чернобыльскую зону и сводит их существование к полной тщете. Ваш юный герой, солдат, бежавший из части, смутно вспоминает прочитанную в детстве книгу «Борьба за огонь», и думает: «Вот мы пришли к тем же заботам», — соображая, где бы добыть спички. Это сопоставление случайно, выстроенное мною, или оно отвечает вашим сегодняшним мыслям?

*В.Быков:* События последних лет, особенно чернобыльская катастрофа, показали, что это безумное развитие нашей цивилизации, множество техногенных и прочих факторов, при определенных политических условиях, может привести, так сказать, к изначальному человеческому существованию, именно — к тому, что когда-то писал Рони-старший в «Борьбе за огонь». Ну, это, конечно, деталь. И она многого на себя, я думаю, не берет, но, по крайней мере — напоминает. А то, что происходит вокруг Чернобыля и в самом Чернобыле, в общем, чревато многими аллюзиями на этот счет.

*И. Дадашидзе:* Вы начинали как сатирик и выпустили книгу «Ход конем», это была ваша первая книга, и вдруг от сатиры перешли к военной тематике. Чем это было вызвано?

*В.Быков:* Надо иметь в виду обстоятельства, которые сложились в стране после двадцатого и двадцать второго съезда, когда наступила определенная — в идеологии, в жизни, в искусстве — оттепель. И когда стало возможным покопаться, так сказать, и представить на обозрение наши советские язвы. Что и сделал не только я, а и многие другие. То есть, нам казалось, что самое жгучее, самое необходимое, злободневное — это сатира.

Но очень скоро оттепель была придавлена, подморожена. И я после этого пытался написать несколько вещей на темы действительности, но оказалось, что они все, предметы такого толка, непроходимы. А военные рассказы (по крайней мере, которые я писал), а потом повести — они прошли. Это во всей советской литературе. Помните, с появлением первых военных повестей Бакланова и Бондарева появилась лейтенантская проза. Вспомнили и традиции Виктора Некрасова, ну, отчасти — еще некоторых военных литераторов, и это стало возможным. И вот, таким образом, я переключился на военную тему. Вовсе не потому, что меня так увлекала война или армия, я как раз всю жизнь ее ненавидел — и ту, и другую. Но я и видел там возможность некоторой реализации моих идей, в том числе, и главным образом, идей отрицающих.

*В.Бабурин:* Василь Владимирович, в России (я имею в виду не границы нынешней Российской Федерации, а бывшего Советского Союза, Российской империи, как угодно) слово писателя всегда имело особый смысл. Наверное, это была единственная страна в мире, где поэты могли собрать стадионы.

Вот неделю назад в этой студии был замечательный поэт Юрий Ряшенцев. Он сказал, что когда подходы к стадиону, на котором будет выступать поэт, охраняет конная милиция, это ненормально, это — ненормальное отношение к слову, потому что люди ждут от писателя, от поэта чего-то такого, что он никогда не может услышать ни по радио, ни по телевидению, ни прочитать в газете. И Юрий Ряшенцев считал это ненормальным. Тем не менее, это было. Сейчас ситуация поменялась кардинально. Говорит Солженицын — не слушают, говорит Виктор Астафьев — не слушают. Вы вооб-

ще живете вот в тихом Хельсинки. Ощущаете ли вы сейчас себя невостребованным, и есть ли у вас необходимость высказаться, и что вы хотите сказать, в таком случае?

*В.Быков:* Когда не слушают — это еще не трагедия. Хуже, когда слушают не те. А вот по этой части, я бы сказал, у нас ничего не меняется. Те органы, которые «приставлены» к литературе, они всегда слушают. Ну, я не знаю, как теперь в России. Я все-таки здесь давно не был. А у нас, например, в Беларуси, это продолжается — не знаю, наверное, с октябрьской революции.
Конечно, тут двоякое может быть отношение к этому факту. Где-то в начале шестидесятых годов приезжал в Москву великолепный Джон Стейнбек, он встречался с московскими молодыми писателями, и как я помню с тех пор, он говорил, что «у вас за свободное слово сажают, дают срок — это же прекрасно! Это прекрасно, это говорит о цене этого слова. На Западе, например, оно не имеет никакого значения. Что бы вы ни говорили, на любой площади, это все будет впустую». Так вот, мы сейчас пришли вот к такому состоянию, когда слово писателя ровным счетом ничего не стоит. Отношение к этому может быть решено в духе Камю. Помните, его «Чума», эта великолепная вещь, которую когда-то Твардовский называл «евангелием двадцатого века». Может быть, и Толстого — то же самое, вот его известное изречение: «Делай, что должен, а там пусть будет, что будет». Поэтому я думаю, что не стоит драматизировать эту ситуацию. Писатель просто должен делать свое дело, и писать так, как он считает нужным. А уж реакция — зрителей, начальства, там КГБ, я не знаю, еще кого — это не его дело, от него это не зависит.

*В.Бабурин:* И все равно, где писать: в Москве, в Минске, в Хельсинки, в Вермонте?

*В.Быков:* Нет, не все равно. Потому что, например, я в





Минске не могу писать. Во-первых, у меня холодная квартира. Я там с моими больными легкими очень быстро загнусь, потому что в Минске указом президента введен максимум температуры — двенадцать градусов. Квартирной температуры. На подъем выше — нет средств. Государство находится на таком «высоком» уровне развития, что оно не может обогреть свои города.
В Финляндии я прожил полтора года. Я там написал, считаю, очень много. По крайней мере, я там писал вот эту повесть небольшую и еще две книги. Я там работал ежедневно, меня там ничто не отвлекало, условия были замечательные. Маленькая теплая квартира, уютная лоджия... Ну, в моем представлении — над баром, над пивным баром. Это была квартира на втором этаже, на первом этаже — пивной бар. Но вы не улыбайтесь, там финны пьют тихо и молча, так что они мне своей воркотней семейной по воскресеньям за пивными кружками не мешали нисколько. Наоборот, это очень даже хорошо. Я чувствовал там себя в человеческом коллективе, если можно так сказать. Поэтому — не все равно, где писать. Но писателю много не нужно ведь. Нужно тихий угол и чистый лист бумаги, больше ничего.

*В.Бабурин:* То есть никаких политических мотивов вашего отъезда нет, только вот...

*В.Быков:* Ну, есть, конечно, и политические мотивы, и их достаточно. Мне не хотелось бы о них говорить, потому что очень большая куча этих мотивов, чтобы их ворошить. Но именно это политические мотивы.

*Е.Дьякова:* Если позволите, двенадцать градусов тепла в доме — уже политический мотив, и мощный, в своем роде. Василь Владимирович, вчера на вручении «Триумфа» в Большом театре говорили о том, что перед Новым годом вы вернулись в Минск.

## «ПРЫ ГЭТЫМ РЭЖЫМЕ Я НЯ МАЮ МАГЧЫМАСЬЦІ ЖЫЦЬ У БЕЛАРУСІ»

29 сакавіка 2000

***Сяргей Навумчык, Прага***

Пасьля цырымоніі пасадкі Дрэва дэмакратыі Івонка Сурвілла і Васіль Быкаў сустракаліся са студэнтамі Карлавага ўнівэрсытэту і з чэскімі палітыкамі.

Івонка Сурвілла і Васіль Быкаў сустрэліся са студэнтамі, якія займаюцца на катэдры славістыкі. Як ні дзіўна, пра літаратуру было толькі адно пытаньне — Васіля Быкава папрасілі выказацца адносна стану літаратуры. Ён адказаў, што ў цяперашняй Беларусі літаратура, як і культура наогул, знаходзіцца пад пагрозай зьнішчэньня. Студэнтаў і выкладчыкаў цікавілі ўмовы жыцьця вядомага пісьменьніка, ягонае стаўленьне да палітычнай сытуацыі.
Вось некалькі выказваньняў Васіля Быкава падчас гэтай сустрэчы. Наконт эміграцыі: «Пры цяперашнім рэжыме я ня маю магчымасьці жыць у Беларусі. Хаця я глыбока перакананы, што жыць трэба дома, дзе ты нарадзіўся». Пра пэрспэктывы Рады БНР: «Можа здарыцца, што Рада, якая цяпер зьяўляецца сымбалем дзяржаўнасьці, адыграе ключавую ролю ў рэальных палітычных працэсах. І наогул, я ня стаўлюся б іранічна да паняцьця сымбаляў: любая рэлігія пабудаваная на сымбалях, але ніхто не асьмеліцца сьцьвярджаць, што рэлігія ня мае вялікага ўплыву». Пра вынікі прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі: «Пуцін — малодшы брат Лукашэнкі. Расея можа пайсьці цяперашнім шляхам Беларусі».
Увечары Сурвілла і Быкаў сустрэліся з сэнатарамі. Гэта было ўжо трэцяе спатканьне з чэскімі парлямэнтарамі падчас візыту ў Прагу. У сустрэчы бралі ўдзел адказныя супрацоўнікі адміністрацыі прэзыдэнта і чэскага





МЗС. Івонка Сурвілла, якую тут прымаюць менавіта як кіраўніка ўраду на выгнаньні, зазначыла, што яна лічыць неабходным супрацоўнічаць з усімі нацыянальна арыентаванымі апазыцыйнымі сіламі Беларусі. Асноўнай тэмай гутаркі з чэскімі палітыкамі было стаўленьне кіраўніцтва Чэхіі да магчымых парлямэнцкіх выбараў у Беларусі. Старшыня Рады БНР адзначыла, што пры адсутнасьці доступу апазыцыі да СМІ выбары ня могуць быць легітымнымі. Васіль Быкаў дадаў, што ўдзел міжнародных назіральнікаў у такіх выбарах выглядае непажаданым.
Абмяркоўвалі таксама навучаньне ў чэскіх унівэрсытэтах тых беларускіх студэнтаў, якіх выключылі з ВНУ за палітычную дзейнасьць. Дарэчы, Васіль Быкаў паўтарыў тое, што ён заявіў у простым эфіры чэскага тэлебачаньня: увядзеньне візаў для грамадзянаў Беларусі ня будзе спрыяць дэмакратызацыі беларускага грамадзтва, яно фактычна зачыніць тысячам людзей дзьверы ў вольны сьвет.
Сёньня Івонка Сурвілла і Васіль Быкаў мелі афіцыйныя сустрэчы ў канцылярыі прэзыдэнта Чэскай Рэспублікі і ў Міністэрстве замежных справаў.

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ: «ЭЎРОПА ЗЬМЯНІЛАСЯ, І НАМ ТРЭБА ЗЬМЯНЯЦЦА»

17 чэрвеня 2000

***Міхась Скобла, Менск***

Зь перадачы «Вольная студыя».

Нядаўна пабачыла сьвет незвычайная кніга — паэтычныя «Лісты ў Хэльсынкі» Рыгора Барадуліна. Паўтара году паэт то з Вушачаў, то зь Менску пісаў свае вершылісты ў Фінляндыю, да Васіля Быкава. Быкаў у адказ

дасылаў свае фінскія ўражаньні ў выглядзе малюнкаў. І вось сорак чатыры лісты-вершы і дваццаць пяць лістоў-малюнкаў сабраныя пад адной вокладкай і выйшлі ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор». Абодва аўтары пагадзіліся адказаць на мае пытаньні.

*— І найперш я зьвяртаюся да Васіля Быкава, які з намі на тэлефоне зь Нямеччыны. Спадар Васіль, у лістах у Хэльсынкі няма навінаў, няма апісаньня падзеяў, якія мы звычайна знаходзім у сяброўскіх лістах. Ці зьдзівіліся вы, калі ў ліпені 1998 году асталі з капэрты першы ліст, які пачынаўся нязвыкла — «Дажджы й дажджы, і хмары, і самота...»?*

*В.Быкаў:* Дзівіцца асабліва не было чаму, таму што хаця я быў у той час далёка ад Беларусі, але ўсё-такі стан яе палітычны і прыродны даходзіў да мяне. І тым больш, усё было дэталявана вершамі Рыгора Барадуліна, напоўнена яго інтымнасьцю. Таму ўсё гэта вельмі важна і цікава было, найперш для майго асабістага жыцьця.

*— Спадар Рыгор, вашая паэзія заўсёды нечаканая, раптоўная. Але, думаю, вы пагодзіцеся, што сапраўднай нечаканкай у гэтай кнізе для беларускага чытача сталіся ўсё ж малюнкі Васіля Быкава. Вы даўно сябруеце з Васілём Уладзімеравічам. Як яму да гэтай пары ўдавалася хаваць у сабе мастака?*

*Р.Барадулін:* Я ўсё сьвядомае жыцьцё ведаў, што Васіль, Уладзімераў сын, — Мастак. Мастак зь вялікай літары. Ён мастак і слова, і пэндзля. І я, дарэчы, бачыў Васілёвы працы алеем. І ў час нашых паезьдзінаў па Беларусі і далей часам прасіў Васіля ў блякнот нешта намаляваць. І як вялікую рэліквію, захоўваю ў блякнотах накіды Васілёвы. Таму й цяпер малюнкі яго для мяне нечаканымі не былі. Хутчэй былі шчымлівай радасьцю, як адказ на мае лісты, і дужа прыемна, што яны сабраныя пад кніжнай стрэшкай.





*— Спадар Васіль, у прадмоўным слове да кнігі вы кажаце, што празаік, ня могучы спаборнічаць з паэтам звыклымі сродкамі, абраў выяўленчы спосаб дыялёгу. Я разумею вашую асьцярогу быць спаборнікам такога паэта як Рыгор Барадулін. І ўсё ж некаторыя вашыя малюнкі ў спалучэньні з аўтарскімі подпісамі ўспрымаюцца як візуальная паэзія. Скажам, малюнак з подпісам «Збоч вуліцы камяні, як боханы» і адпаведная выява гэтых самых камянёў. Але ёсьць малюнкі, якія патрабуюць, як мне здаецца, больш падрабязнага тлумачэньня. За імі ўгадваюцца пэўныя сюжэты. Напрыклад, што папярэднічала малюнку «Сустрэча з антыкамуністам»?*

*В.Быкаў:* Ну, справа ў тым, што гэта — жанравая сцэнка, якая адбылася аднойчы ва ўнівэрсаме ў Хэльсынкі. Увогуле, фіны, як вядома, вельмі стрыманыя, як і ўсе паўночныя людзі. Халодныя людзі, студзёныя. Але часам пад градусам у іх прарываецца нешта, што можна назваць мэтафізычным, што прысутнічае ў мэнтальнасьці народу. Ну, і вядома, сярод гэтага антыкамунізм таксама прысутнічае. І вось аднойчы так сталася, што я спаткаўся з адным чалавекам, які ўбачыў ува мне перш за ўсё чалавека, прышлага з Усходу. Ну, і адбылася гутарка, вельмі рэзкая зь яго боку. Як я ні стараўся яго ўтаймаваць, яго жарсьці, тым ня менш, былі выяўленыя, я думаю, спаўна. Гэта быў, аднак жа, рэдкі выпадак. Вельмі рэдкі. Можа быць, адзіны за паўтара году. Закончылася ўвогуле добра, бо ён чакаў, што мы з жонкай будзем яму апаніраваць, але атрымалася так, што мы абодва (асабліва жонка, я больш маўчаў) падтрымалі яго катэгарычнасьць. І таму разышліся даволі мірна.

*— Да трох біблейскіх выпрабаваньняў — прайсьці праз агонь, ваду й медныя трубы, калісьці Максім Танк дадаў яшчэ адно — прайсьці праз вернасьць. Вы, спадар Ры-*

*гор, у адным зь лістоў у Хэльсынкі сьцьвярджаецe, што самае найцяжэйшае — пакараньне радзімай...*

*Р.Барадулін:* Пакараньне радзімай, як ні парадаксальна гучыць, гэта якраз любоў да радзімы. І гэтая любоў — як пакараньне, хоць гучыць не зусім звычайна, таму што для таго, хто дужа-дужа любіць радзіму, любоў гэтая — адначасова і кара, калі радзіму ён у душы бачыць іншай, чым тая, якая ёсьць. Я дазволю сабе пачытаць «Ліст трынаццаты» з Вушачаў, з нашай радзімы, зь цёплай радзімы Васіля, Уладзімеравага сына, і маёй:

І радзіма можа
Стаць чужынай,
Мачыхай,
Што пасынкаў сваіх
Любіць падбадзёрыць
Лютай кпінай,
Покуль іхны голас
Не заціх.

А вініць радзіму
Ці дарэчы?
Сядзе сум
У сэрца на куце.
Гэта на радзіме
Для сустрэчы
Ціха маці-й-мачыха
Цьвіце.

І выгнанец
Хоча на радзіму,
Хоць счужэлую,
Але сваю.
Зябка ў сьцюжу
Коміну бяз дыму,
Без гнязда
Самотна салаўю...





*— Спадар Васіль, ваш змушаны вырай (тут я з дазволу Рыгора Іванавіча ўжыў яго трапны выраз) перамясьціўся зь Фінляндыі ў Нямеччыну. 55 гадоў таму вы ваявалі супраць немцаў на франтах другой усясьветнай. Ці не паўплывала гэтая акалічнасьць на ваш побыт у Нямеччыне, на стаўленьне да вас тамтэйшых людзей?*

*В.Быкаў:* Трэба сказаць, што, канечне, гісторыя заўсёды прысутнічае ў жыцьці, у побыце, тут нічога ня зробіш. За пасьляваенны час, як вядома, сьвет навогул, Эўропа дый Нямеччына шмат у чым зьмяніліся. Зьмянілася найперш сьвядомасьць нямецкага народу. І таго, што было ў гады вайны, цяпер і рэштак знайсьці нават цяжка. Ну, хіба нейкія маргінальныя праявы сярод моладзі часам здараюцца. Дык вось, гэта вельмі важна, і адкрылася гэта мне ў Нямеччыне ня толькі цяпер, а яшчэ раней, і ў гэтым сьвятле я думаў, што й мы таксама абавязаныя зьмяніцца ў сваіх адносінах да Нямеччыны, і ня толькі да Нямеччыны, а найперш і да саміх сябе. Дык вось, гэтых правамерных зьменаў у нашым народзе я заўважаю куды менш. Іх куды менш, чым хацелася б таго.

*— На вокладцы кнігі «Лісты ў Хэльсынкі» зьмешчаны даўні фатаздымак, на якім вы з Рыгорам Барадуліным седзіцё на парозе сваёй роднай хаты ў Бычках на Вушаччыне. Калі вы апошні раз там былі, і ці застаўся там хто з вашай радні?*

*В.Быкаў:* Я быў якраз летась, ня так даўно. Там жыве мой брат, у Вушачы жыве мая сястра. Я, праўда, ня ведаю, які там здымак, я яшчэ ня бачыў гэтай кніжкі.

*— Спадар Рыгор, мне падалося, што ў вашых лістах у Хэльсынкі ёсьць усе перажываньні, усе адценьні й колеры чалавечага настрою, апрача хіба што пэсымізму. Што дае сілы, што трываліць вашую душу?*

*Р.Барадулін:* Душу маю трываліць, як заўсёды, мова і матчына песьня. Матчына песьня і мова. Я дазволю сабе

прасьпяваць некалькі вушацкіх песьняў, і я хачу, каб паслухаў мой высокі сябра, мой родны Васілю. Гэта песьні, якія ён, відаць, помніць, якія, мажліва, яму сьпявала ягоная мама. На вялікае шчасьце, я застаў яго маму, слухаў яе. І вось я зараз пачну, Васіль, дарагі, з калыханкі. Відаць, ты помніш яе.

*В.Быкаў:* Ну, добра...

*Р.Барадулін:*

Люлі-люлі-люлі,
Пайшоў кот у гулі,
Памарозіў лапкі,
Скочыў на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Дзе катку падзецца?
Сталі лапкі сохнуць,
Трэба катку здохнуць...
Будзем лазьню паліць,
Катку лапкі парыць,
Катку лапкі парыць,
Катку хвосьцік правіць.

Відаць, мама табе гаварыла: «Сьпі, Васілёк, сьпі, Васілёк...»

*В.Быкаў:* Мабыць... Мабыць, так...

*Р.Барадулін:* Я табе яшчэ жніўную песьню прапяю, мая мама любіла яе, і я думаю, твая таксама:

Перапёлка, ты ня ві гнязьдзечка
Блізка ля дарожкі, перапёлка.
Пастушочкі каровак пагоняць,
Яечкі заберуць.
Пастушочкі, канюшочкі
На начлег паедуць,
Гнязьдзечка распоруць.
Перапёлка, ты ня ві гнязьдзечка
Блізка ля дарожкі, перапёлка...





*В.Быкаў:* Дзякуй, даражэнькі Рыгор, за твае дадаткі фальклёрныя.

*— А ці бываюць такія хвіліны, што й на чужыне песьня да душы прытуліцца, спадар Васіль?*

*В.Быкаў:* Ну як жа, на чужыне ўсё роднае да душы добра кладзецца. Тым больш, што тут ня так шмат этнаграфіі чужой. Тут усё-такі культура надта цывілізаваны характар мае.

*— Здаецца, калісьці Барыс Пастэрнак параўнаў паэта з дрэвам, якое шуміць, але весьці за сабой ня можа. Відавочна, што беларуская сытуацыя вымагае іншага — у абароне краіны, людзкасьці, у абароне мовы. Але вось ужо зьявіліся беспрэцэдэнтныя факты, калі ў страху перад мастацкім словам улады проста ў друкарні пачалі зьнішчаць кнігі. У мінулай перадачы мы расказалі пра такі выпадак (Маецца на ўвазе зьнішчэньне кнігі Э.Акуліна «Радно». — Рэд.), хутчэй за ўсё, на вялікі жаль, далёка не апошні. Што застаецца паэту — цішком пісаць у стол? Але вершам у шуфлядзе, як мне здаецца, жыць вельмі няўтульна...*

*Р.Барадулін:* Я б дадаў да выслоўя Пастэрнака: так, паэт падобны на дрэва, якое шуміць, і — якое дужа лёгка сьпілаваць. Ну, але ўсё роўна паэт павінен пісаць. Павінен пісаць, і мы можам прыгадаць такі гістарычны факт: Кастусь Каліноўскі з-пад шыбеніцы пісаў лісты, і пісаў разьвітальны верш свой «Бывай, Марыська, чарнаброва галубка мая...» Я дазволю сабе пачытаць «Ліст трэці» зь Менску да майго высокага сябра:

Спартанцы зьбіраліся на вайну —
Вайстрылі мячы,
Прымервалі латы.
З усімі стаў у шарэнгу адну
Спартанец нягеглы,
Падсьлепаваты.

— Куды ты, нашто ты
Такі на вайне? —
Спытаўся нехта.
Нябога прызнаўся:
— Як іншай карысьці няма —
Аб мяне
Варожы затупіцца меч
Прынамсі...
І ў дні,
Калі душы падпальвае змрок,
Калі цяжарнее
Жахам калосьсе,
Прымаюць сьмерць
І паэт, і прарок,
Каб меней
У ворага куль засталося!

Відаць, гэта толькі адзіная наша магчымасьць...

*— Наўздагон вашаму вершу мне захацелася перафразаваць радок Уладзімера Караткевіча: «Ня кожны меч варты, каб тупіць яго аб шыю». Спадар Васіль, у Менску пры канцы ліпеня мае адбыцца Ўсебеларускі зьезд дэмакратычных сілаў. Чаго вы чакаеце ад яго?*

*В.Быкаў:* Хацелася б, каб перш за ўсё адбылося згуртаваньне дэмакратычных сілаў. Гэта пытаньне нібы працэдурнае, але яно лёсавызначальнае для Беларусі. Калі згуртаваньне будзе ажыцьцёўленае, калі гэтая праблема будзе вырашаная, тады можна чакаць і вырашэньня самай вялікай праблемы, а менавіта — каб незалежнасьць Беларусі не была пад пагрозай. Але, канечне, тут вельмі шмат пытаньняў. Паглядзім, што будзе.

*Р.Барадулін:* На адвітаньне я хачу пачытаць «Ліст чацьверты»:

Сум — нацыяналіст.
Душа — касмапалітка.
Радзіма — незачыненая хата.





Шпачыны шчыры сьвіст
І туманкова сьвітка
Блуканцу нагадаецца зацята.
З усіх дарог адна
Жаданая — дадому —
І ў багацея, і ў нябогі-старца.
Чакае ўсіх яна.
Ня дай, Гасподзь, нікому
Без дарагой дарогі той застацца...

Дарагі Васіль, радзіма чакае цябе, радзіма любіць цябе, верыць табе. Да сустрэчы!

*В.Быкаў:* Дзякуй вялікі!

## «ДУЖА ГАРАВАЎ, ШТО НЕ ПАСЬПЕЮ СА ЗБРОЯЙ У РУКАХ АБАРАНІЦЬ РАДЗІМУ»

22 чэрвеня 2000

Зь перадачы «Галасы стагодзьдзя. Мінулае ў памяці сучасьнікаў».

Васіль Быкаў распавядае:

— 22 чэрвеня — канечне, вельмі знакамітая дата для ўсёй найноўшай гісторыі. Можна сказаць, сакральная дата. Хаця, як вядома, другая ўсясьветная вайна пачалася амаль на два гады раней. Але гэта для эўрапейцаў, для сусьвету. Наша вайна пачалася 22 чэрвеня 1941 году. Вестка пра гэтую вайну застала мяне далёка ад дому — на ўкраінскай Чарнігаўшчыне. І, вядома ж, першай думкай было: трэба дамоў. Але дамоў не пусьцілі: моладзь змабілізавалі на абарончыя работы, і я з маімі аднагодкамі два месяцы капаў глыбачэзныя супрацьтанкавыя равы за Гомлем. І дужа гараваў, што не пасьпею са зброяй у руках абараніць радзіму. Бо, як заўжды, паліторга-

ны вялі інтэнсіўную прапаганду, якая ўводзіла ў маладыя душы, можа, самую вялікую на той час няпраўду — што вайна не задоўжыцца. Нямецкая рабочая кляса з клясавай салідарнасьці вось-вось паўстане супраць Гітлера, і паратуе братнюю рабочую клясу ў СССР.
На тое была ўся надзея. Бо вельмі хутка выявілася, што Чырвоная армія ці ня ўся адступае, або здалася ў палон і ня можа нікога бараніць. Абараняць СССР давялося нам — каму на той час было па якіх сямнаццаць гадоў. Разам з арміяй я адступаў да Харкава, затым да Варонежу, затым быў запасны полк, паскораная Саратаўская пяхотная вучэльня, зь якой зноў вярнуўся ва Ўкраіну. Вайны хапіла на ўсіх аж занадта. А радзіму-Беларусь давялося пабачыць толькі празь сем гадоў, і я не пазнаў яе. Усё было пабурана, раскідана, зьнявечана. Хіба што засталася душа пакуль што. Мабыць, тое апошняе ў беларуса.

## «МОЖА СТАЦЦА, ШТО ВЕЛЬМІ ХУТКА АПРОЧ ВАС НІКОГА Ў СЬВЕЦЕ НЕ ЗАСТАНЕЦЦА, ХТО МОГ БЫ ВЫМАВІЦЬ БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА»

9 верасьня 2000

***Галіна Прыгара, Кліўлэнд***

> У Кліўлэндзе, штат Агаё, прайшоў 24-ты зьезд Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

Прывітаньне ўдзельнікам зьезду даслаў Васіль Быкаў: «Дазвольце горача і сардэчна павіншаваць удзельнікаў і гасьцей Зьезду Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, пажадаць усім добрага здароўя і посьпехаў у высакароднай справе на карысьць Беларусі. Не забывайце яе, не цурайцеся яе мовы, якая перажывае самы катастрафічны пэрыяд сваёй гісторыі. Можа так стацца, што вельмі хутка апроч вас нікога ў сьвеце не застанецца, хто мог бы вымавіць беларускае слова. Ня дай Бог нікому апынуцца апошнім... Шчасьця вам! Беларус з Эўропы Васіль Быкаў».





## БЕЛАРУСКІЯ ДНІ Ў ШВЭЦЫІ

14 верасьня 2000

***Вольга Караткевіч, Гётэборг***

> У швэдзкім горадзе Гётэборгу пачаўся буйны кірмаш кніжнай і друкаванай прадукцыі. Спэцыяльны пункт праграмы — канфэрэнцыя, прысьвечаная Беларусі. У Швэцыю прыехалі Васіль Быкаў, Віктар Дашук, Вінцук Вячорка, сябры няўрадавых арганізацыяў і прадстаўнікі альтэрнатыўнага мастацтва.

Мы — візытоўка Швэцыі, супрацьлегласьць Стакгольму, — гавораць жыхары Гётэборгу, бо горад ёсьць браю на Захад, і гістарычна склалася так, што менавіта Гётэборг злучаў Швэцыю са сьветам.
700 прадстаўнікоў з 23 краінаў сьвету сабраліся на швэдзкім кніжным кірмашы. За чатыры дні будзе праведзена 600 сэмінараў, і арганізатары падлічылі, што імпрэзу наведае каля 100 тысяч чалавек. Бусел на ўзьлёце — такая выява на інфармацыйнай і рэклямнай прадукцыі беларускага прадстаўніцтва. У адмыслова выдадзеным каляровым буклеце на швэдзкай мове ёсьць інфармацыя пра Беларусь (якая па-швэдзку завецца «Vitryssland») і яе асноўныя праблемы: свабоду, незалежнасьць, Курапаты і Чарнобыль.
Швэду, які разгорне гэты буклет, сьвет Беларусі адкрые інтэрвію з Васілём Быкавым; журналіст Мікаэль Вінярскі назваў гэтае інтэрвію «Перакананы пэсыміст». Фатаздымкі Курапатаў, дзяцей з чарнобыльскай зоны,

акцыяў пратэсту апазыцыі расказваюць, якая Беларусь, а інтэрвію зь міністрам замежнага гандлю Швэцыі Лейфам Пагроцкім мае загаловак «Адчыні дзьверы, Беларусь». Швэдзкі міністар піша: «У эўрапейскім доме ёсьць зачыненае акно, якое трэба адчыніць, каб даць Беларусі сьвежага паветра». Беларускі павільён распачаў працу з 11 гадзінаў выступам літаратара зь Беларусі Дзьмітрыя Плакса. Пасьля Надзея Аўсіевіч зь Пінску расказвала пра беларускі фэмінізм. Гэтая тэма вельмі зацікавіла швэдаў; адна швэдка запыталася: які ж фэмінізм пры амаль поўнай адсутнасьці пральных машынаў?

Сёньня ў праграме беларускага павільёну дэбаты з маладой паэткай Ірынай Туровіч, сустрэча зь перакладніцай Сьвятланы Алексіевіч Сілай Наўман. Цяпер у беларускім павільёне наведнікі кірмашу сустракаюцца з Васілём Быкавым. Удзел беларусаў у імпрэзе эўрапейскага маштабу ініцыявала швэдзкая фотамастачка Марыя Сэдэрбэрг. У чатырохдзённай праграме — выступ рэжысэра Віктара Дашука, мастака Дзяніса Раманоўскага, фотавыстава Галіны Маскалёвай «Здымкі з чарнобыльскай зоны», прэзэнтацыя праекту «Стоп Лука» і прамова Вінцука Вячоркі «Назад, у Савецкі Саюз».

## «ДЭМАКРАТЫЯ БЯСЬСІЛЬНАЯ ПЕРАД ДЫКТАТУРАЙ»

14 верасьня 2000

***Вольга Караткевіч, Гётэборг***

У Гётэборгу на Швэдзкім кірмашы кнігі адбылася сустрэча Васіля Быкава з журналістамі й наведнікамі беларускага павільёну.





Вёў імпрэзу слынны культурны дзеяч Швэцыі Арні Роўт, які адзначыў, што перад аўдыторыяй асоба, якая стала сумленьнем нацыі. У В.Быкава пыталіся пра тое, як яму ўдалося сказаць праўду пра вайну; ці мяняўся сьветагляд пісьменьніка пасьля ад'езду зь Беларусі. Пісьменьнік сказаў, што ўсёй праўды пра вайну ён не сказаў — і не таму, што было зашмат чытачоў у пагонах, а таму, што ў рэалістычнай літаратуры цяжка выказаць праўду, і на вялікую праўду патрэбны вялікі талент. Швэды цікавіліся, якой бачыць пэрспэктыву сваёй краіны Васіль Быкаў. Той прыгадаў час, калі пісаў свой твор «Сьцяна» — пра чалавека, які вырываецца з турмы і трапляе ў наступную вязьніцу. Гэтая кніга створаная яшчэ да прыходу Аляксандра Лукашэнкі да ўлады, тады нацыянальная беларуская дэмакратыя зрабіла вельмі шмат для абуджэньня нацыі, але Быкаў прадчуваў нашэсьце новай сьцяны. «Сьцяну» Быкаў прысьвяціў свайму сябру, паэту Рыгору Барадуліну.

В.Быкаў заўважыў, што савецкія настаўнікі пераконвалі ў станоўчай выхаваўчай ролі літаратуры. Аднак пры канцы XX стагодзьдзя, калі людзі забіваюць адно аднаго зь ня меншым імпэтам, чым раней, сур'ёзны літаратар ставіць пытаньне: дзеля чаго літаратура? Быкаў мяркуе, што літаратура цяпер патрэбная на тое, каб бавіць час у вандроўках ці на ўікэндах.«Перакананы пэсыміст» — паказаў мне надпіс па-швэдзку Мікаэль Вінярскі, які гэтак назваў сваё інтэрвію з Быкавым. Пасьля ізноў было пытаньне пра Беларусь, і народны пісьменьнік, твораў якога дома не друкуюць, працытаваў расейскага палітыка, прэзыдэнта Чувашыі Мікалая Фёдарава: «Чорная дзірка на мапе Эўропы».

Швэды глыбока перакананыя, што адказваюць за дэмакратыю ва ўсёй Эўропе, і яны пыталіся, што Эўропа можа зрабіць для зьменаў у Беларусі. Васіль Быкаў адзначыў, што, паводле ягонага перакананьня, дэмакратыя бясьсільная перад дыктатурай — гэта розныя субстанцыі, рознага паходжаньня. Дыктатар можа пры-

знаваць Дэклярацыю правоў чалавека, але ўсе яе пункты разам нічога ня значаць перад 15-тысячным узброеным аддзелам унутраных войскаў, якія дыктатар кідае на вуліцы гораду, калі туды выходзяць тыя, хто прагне свабоды.

## «БЫЛІ ШАНЦЫ, ЯКІХ НАЦЫЯ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЭЛІТА НЯ ВЫКАРЫСТАЛІ»

16 верасьня 2000

***Вольга Караткевіч, Гётэборг***

У Гётэборгу працягваецца Швэдзкі кірмаш кнігі, яго наведалі больш за 100 тысяч чалавек. На выставе працуе ўнікальная беларуская экспазыцыя. Сёньня перад швэдзкай аўдыторыяй выступілі Васіль Быкаў, Вінцук Вячорка, адзін зь лідэраў кіроўнай швэдзкай сацыял-дэмакратычнай партыі Урбан Алін.

Васіля Быкава швэды чакалі, маючы ў руках брашуры зь біяграфіяй пісьменьніка. В.Быкаў прамаўляў пра сытуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. «Краіна, у якой не выконваюцца ўсе трыццаць пунктаў Усеагульнай дэклярацыі правоў чалавека», — гэтак Быкаў прэзэнтаваў Беларусь, якая, паводле пісьменьніка, нагадвае аўтарытарную лацінскаамэрыканскую дзяржаву. І аптымізму ў Быкава мала. Я запыталася ў яго, якія рэсурсы мае нацыя на тое, каб зьмяніць сытуацыю ў агляднай будучыні.

*В.Быкаў:* Я ня ведаю, якія рэсурсы. Я вельмі сумняюся ў гэтым. Я магу сказаць толькі, што былі магчымасьці... У вельмі нядаўнім мінулым былі магчымасьці. Былі нейкія шанцы, якіх нацыя і нацыянальная эліта ня выкарысталі належным чынам. І цяпер я не магу сказаць, калі чакаць нейкіх спрыяльных умоваў у будучыні. Мне думаецца, што гэта вельмі цяжка. Гэтага ніхто ня ведае.

Васіль Быкаў даў інтэрвію нарвэскай газэце «Dag och Tid» («Сёньня і час»), дзе канстатаваў, што мяняць сытуацыю ў Беларусі можна толькі дэмакратычным шляхам. І ў гэтым, паводле Быкава, слабасьць беларускай дэмакратыі і сіла беларускай дыктатуры.

## «НАЙЛЕПШЫ ПРАДСТАЎНІК БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ НА ЗАХАДЗЕ — ГЭТА ВАСІЛЬ БЫКАЎ»

21 верасьня 2000

***Вольга Караткевіч, Прага***

Гэтак мяркуе швэдзкі літаратар і перакладчык Стэфан Скот. Каля дзесяці гадоў таму ён пераклаў на швэдзкую мову быкаўскі «Кар'ер» і цяпер спрабуе знайсьці выдаўца, які дапаможа ў выданьні іншых перакладаў. На думку Скота, Васіль Быкаў — абсалютны кандыдат на атрыманьне Нобэлеўскай прэміі ў галіне літаратуры.

Мы пазнаёміліся са Стэфанам Скотам у Гётэборгу падчас Швэдзкага кірмашу кнігі. Стэфан Скот пераклаў 45 твораў розных славянскіх аўтараў, сярод іх і Аляксандра Салжаніцына; разам апублікаваў каля 40 кніг. У Швэцыі выдадзена 13 кніг арыгінальнай творчасьці Скота, апошняя называецца «Каханка Леніна ды іншыя расейскія лёсы». Скот прыехаў у Швэцыю з Каліфорніі, дзе цяпер працуе. У Гётэборгу пісьменьнік меў два інтарэсы — прэзэнтаваць сваю кнігу «Больш ніколі» (пра генацыд у XX стагодзьдзі) і сустрэцца з Васілём Быкавым, які таксама наведаў Гётэборг.
Швэды ведаюць, што Васіль Быкаў вялікі пісьменьнік,

але яны больш начутыя пра Быкава як пра змагара за дэмакратыю, — сказаў Стэфан Скот. На швэдзкую мову перакладзены толькі «Кар'ер», але філязофія быкаўскай творчасьці — «вялікая праўда» — блізкая швэдзкаму чытачу. Спадар Скот сказаў, што шлях беларускага клясыка да швэдзкага чытача быў няпросты. Было цяжка паверыць, што савецкі пісьменьнік піша пра вайну праўду — і гэта друкуецца. Упершыню прозьвішча Быкава славіст Скот пачуў гадоў дваццаць таму: ён выпадкова прачытаў «Дажыць да сьвітаньня», і кніга так яго ўразіла, што ён вырашыў перакласьці нешта з Быкава на швэдзкую мову. Швэд кажа, што Быкаў піша праўду «геніяльнай мовай з геніяльнай канстатацыяй дэталяў і геніяльнай псыхалягічнай афарбоўкай».

*Я запыталася Стэфана Скота, як яму патрапіла ў рукі кніга з творамі Васіля Быкава.*

*С.Скот:* У тыя гады ў Савецкім Саюзе былі вельмі цікавыя ўстановы. Савецкі Саюз вельмі хацеў здабыць як мага больш замежнай валюты. Побач з крамамі, дзе за валюту прадавалі ікру ці алькаголь, зьявіліся ў Маскве крамы з кнігамі, якія можна было купіць за валюту. Я проста ўбачыў гэтую кнігу. Было напісана «Быкаў». Я прачытаў маленькае апавяданьне, і пасьля я прачытаў усё, што можна было дастаць.

*Дамовіцца пра выданьне кнігі Быкава ў Швэцыі было няпроста. Скот гаварыў доўга і са шматлікімі выдаўцамі, але яны не хацелі друкаваць кнігі пра вайну, напісанай савецкім пісьменьнікам. У Швэцыі ведалі, што падчас другой усясьветнай вайны быў ня толькі ўсеагульны самаахвярны савецкі гераізм, але перадусім трагедыя канкрэтнай асобы, канкрэтнай сям'і, канкрэтнай вёскі. Тое, што ведаў і пра што пісаў Васіль Быкаў.*

*С.Скот:* Было цяжка патлумачыць швэдзкім выдаўцам, што гэта — праўда, што Быкаву цудам удалося гэта надрукаваць у Савецкім Саюзе. Абсалютна непадрыхтаваныя швэдзкія рэцэнзэнты вельмі хвалілі кнігу. Яны адразу гэта зразумелі.





*Стэфан Скот яшчэ да знаёмства з Васілём Быкавым прачытаў усё, што было перакладзена на расейскую мову. У 1989 годзе Стэфан Скот атрымаў стыпэндыю і паехаў на ўласнай машыне вандраваць па Савецкім Саюзе. Ён адмыслова наведаў Менск, каб пазнаёміцца з В.Быкавым. Пасьля ён быў на Першым кангрэсе Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Васіль Быкаў заўсёды дыстанцыяваўся ад палітычных сілаў. У 1988 годзе ён напісаў прадмову да артыкулу Зянона Пазьняка «Курапаты — дарога сьмерці». Артыкул, які апублікавала газэта «Літаратура і мастацтва», узрушыў Беларусь. З боку Быкава гэты крок фактычна стаў праявай палітычнай пазыцыі.*

*С.Скот:* Мушу сказаць, што я зусім не зьдзівіўся, бо ягоная маральная пазыцыя — надзвычай рэдкая, шляхетная, маральная і чыстая. Іншага я і не чакаў. Ён шмат з кім мяне пазнаёміў. Гэта былі апошнія месяцы савецкай дзяржавы. Быкаў паказваў мне змагароў за дэмакратыю і гаварыў, што, магчыма, нехта з гэтых асобаў стане прэм'ерам. Так ня стала. Гэта проста ўваходзіць у ягоны вобраз, што ён будзе змагаром. Ён вельмі сьмелы, ён спакойны, ён разважае вельмі цьвяроза і добра. Ён вельмі перажывае за лёс роднай мовы, роднага народу — гэта проста частка ягонай душы. Я таксама заўважыў адразу ў гэтых кнігах, асабліва ў «Кар'еры», што ён свабодны ад таго, што называецца шавінізмам, які нярэдка сустрэнеш у расейцаў, нават вельмі інтэлектуальных людзей.

*У гутарцы са Стэфанам Скотам я згадала тэзу Васіля Быкава, якую той выказаў падчас выступу перад швэдзкімі чытачамі: літаратура, на вялікі жаль, ня выканала гуманістычнай функцыі. Пры канцы другога ты-*

*сячагодзьдзя літаратары і мысьляры ставяць пытаньне пра ролю мастацкага слова.*

*С.Скот:* Пра гэта пачалі зноўку гаварыць. Я хацеў бы тут прывесьці нямецкую цытату: у злых людзей няма песень. Гэта вельмі прыгожа — і абсалютная хлусьня. І ў нацыстаў былі цудоўныя песьні, і ў сталіністаў была цудоўная музыка — на жаль, з фальшывымі тэкстамі. Літаратура можа толькі апасродкавана гэта рабіць. Літаратура можа дапамагчы нам шырэй і разнастайней адчуваць жыцьцё. Яна дапамагае нам жыць шматлікімі жыцьцямі, якімі ў рэальнасьці мы ня можам жыць. І каб высакародная кніга сама зрабіла чалавека высакародным — гэтага няма, і мы гэта даўно ведаем. Нярэдка добрая кніга проста замацоўвае пераканаьне пашляка, што ён высакародны. Ці ня так?

*Васіль Быкаў заўжды падкрэсьлівае, што камуністычная сыстэма дэфармавала беларускую нацыю, надламіла яе псыхалягічна, калі зьнішчала інтэлігенцыю, мову, нацыянальныя каштоўнасьці беларусаў. Сярод прадстаўлянага ў Гётэборгу Стэфанам Скотам была і кніга, якая выкрывала двурушніцтва швэдзкага камунізму.*

*С.Скот:* Я сам сацыял-дэмакрат, і таму мне вельмі сумна, што сацыялізм праз таталітарныя рэжымы ва Ўсходняй Эўропе — немагчымы. Ёсьць два віды сацыялізму — таталітарызм, гэта камуністычныя, генацыдныя рэжымы, якіх, дзякуй богу, ужо няма, застаўся толькі ў Паўночнай Карэі. А ёсьць дэмакратычны сацыялізм, што мы ў многіх краінах называем сацыял-дэмакратыяй. І я, як і мой бацька, як і мой дзядуля, сацыял-дэмакрат.

*У Беларусі ёсьць людзі, якія хочуць свабоды, якія ўсьведамляюць, што можна хацець свабоды і адчуваць яе. Гэтых людзей няшмат — недастаткова, каб не дазволіць трымаць у несвабодзе нацыю. Я пацікавілася ў Стэфана Скота: зь якімі фактарамі ён, заходні чалавек, зьвязаў бы адраджэньне Беларусі?*

*С.Скот:* У такой краіне як Беларусь, дзе зараджалася свая нацыянальная беларуская культура ў 1920–30-я гады, дзе яна ўся пасьля была зьнішчаная, гэта вельмі цяжка разьвіць нанова. Але значэньне беларускай мовы для дэмакратыі значна важнейшае, чым мяркуюць некаторыя недалёкія шавіністы.

*Стэфан Скот сказаў, што творчасьць і асоба Васіля Быкава настолькі ўражваюць яго, што ён адчуў блізкасьць зь Беларусяй і часта думае пра лёс гэтай краіны. Многія швэды, якія дазналіся пра Беларусь, пра яе праблемы — палітычныя, сацыяльныя, экалягічныя — успрымаюць іх вельмі асабіста. Яны адчуваюць геаграфічную і нават гістарычную блізкасьць і балюча рэагуюць на вялікую розначасьць у разьвіцьці Швэцыі й Беларусі.*

*С.Скот:* Па-першае, мяне хвалюе лёс Беларусі, таму што гэта краіна прыкладна нашых, швэдзкіх памераў. З такой жа флёрай, такой жа фаўнай. Драўляная архітэктура сялянаў вельмі падобная на нашую швэдзкую, там шмат каранёў агульных.

*У інтэрвію нарвэскай газэце «Dag och Tid» («Сёньня і час») Васіль Быкаў адзначыў, што менавіта з прыходам да ўлады ў Беларусі Аляксандра Лукашэнкі перасталі публікаваць многіх беларускіх пісьменьнікаў, якія фактычна зрабіліся культурнымі дысыдэнтамі. Знакамітую «Сьцяну» Быкаў пісаў у час, калі быў яшчэ вялікі спадзеў на калі ня хуткае, дык недалёкае нацыянальнае адраджэньне. Быкаў гаворыць, што ён прадчуваў чарговы змрочны для Беларусі час, калі пісаў «Сьцяну». Васіль Уладзімеравіч падкрэсьлівае, што вобраз сьцяны — гэта ня толькі вобраз беларускіх рэаліяў. Гэта чалавечае жыцьцё, сэнс якога, магчыма, у пераадоленьні сьценаў — і пераадоленьні апошняй сьцяны. Калі Бела-*

*русь уздыхне свабодна? На гэта пісьменьнік глядзіць даволі пэсымістычна. А як яна можа ўздыхнуць, калі Васіль Быкаў ня можа пачувацца камфортна ў сябе на радзіме, дзе кіруе чалавек, які дазваляў сабе гаварыць пра памылковы шлях Васіля Быкава?*

*С.Скот:* Лукашэнка на Захадзе стаў проста сымбалем — блазен, клоўн. Бо гэта цікава — апісваць яго сьмешным, дурнаватым чалавекам. Ён, натуральна, не дурны — ён хітры. Гэта небясьпечны чалавек, ён губіць лёс беларускага народу на доўгія гады, і людзі на Захадзе гэтага не разумеюць. Але калі ён злавесны блазен, дык Быкаў паўсюль сваім спакойнымі, высакароднымі паводзінамі выклікае павагу. І лепшага прадстаўніка беларускага народу на Захадзе я не магу сабе ўявіць. Якая гэта выключная асоба сёньня ў Эўропе!

## «ПАПРОСІМ БЫКАВА БАЛЯТАВАЦЦА НА ПАСАДУ ПРЭЗЫДЭНТА!»

16 лістапада 2000

***Валянцін Жданко, Менск***

Зь перадачы «Паштовая скрынка 111. Агляд лістоў на «Свабоду».

«Сярод апазыцыйных палітыкаў шмат кампэтэнтных і высокаадукаваных асобаў. Але бяда ў тым, што дзяржаўныя СМІ ў Беларусі падпарадкаваныя вэртыкальнікам, якія няспынна паліваюць брудам апазыцыю, і многія людзі гэтай хлусьні вераць. Так што са старое гвардыі апазыцыйных лідэраў нікога ня знойдзеш, а з маладых нікога ні ў эфір, ні на газэтныя палосы ня пусьцяць. Лічу, што толькі адзін чалавек у Беларусі чысьцінёй душы і веліччу духу недасягальны для лаянкі і ўладнага бруду, якім спрабуюць яго запэцкаць. Гэта гонар і годнасьць нашае нацыі — Васіль Уладзімеравіч Быкаў. Беларусы! Папросім яго балятавацца на пасаду прэзыдэнта!» — напісаў нам у лісьце пэнсіянэр Віктар Скараход зь Менску.
Думаю, што да гэтага заклiку далучыліся б вельмі й вельмі многія, для каго Васіль Быкаў — неаспрэчны маральны аўтарытэт. Хоць у прэзыдэнцкую бойку Васіль Уладзімеравіч наўрад ці захоча ўблытвацца.





## «ТОЛЬКО И ОСТАЕТСЯ АПЕЛЛИРОВАТЬ К ЧИТАТЕЛЮ-СЛУШАТЕЛЮ В НАИВНОМ РАСЧЕТЕ НА ЕГО РАЗУМЕНИЕ И ЕГО ВЫСШИЙ И СПРАВЕДЛИВЫЙ СУД»

7 сьнежня 2000

***Сяргей Юр'енен, Прага***

Зь літаратурнай перадачы «Экслибрис» Расейскай службы Радыё Свабода.

*Сергей Юрьенен:* В первом году нового тысячелетия ему исполнится 77, у него нездоровые легкие, а в Минске указом президента введен максимум квартирной температуры — двенадцать градусов. «Его никто из страны не выгонял», — заявил Александр Лукашенко. Тем не менее: сначала Финляндия, теперь Германия — вот уже третий год народный писатель Беларуси Василь Быков живет и работает вне родины, где печататься ему труднее, чем в советские времена. «Вот такая судьба при дороге, — сказано в повести «Труба». — При пороге тоже. Как у Беларуси. Угораздило же ее оказаться при самом пороге между Востоком и Западом. Нет, лучше жить в углу. В своем, Богом определенном углу, где ве-

шают иконы. Где только у нас этот угол?» По телефону из Берлина Василь Быков.

*Василь Быков:* Как давно и хорошо известно, у нас плохие дороги и много дураков. Но дураки — это проблема генетическая, так сказать, на всю оставшуюся жизнь. Вопрос о дорогах вполне решаемый. Если обойтись скромным ямочно-заплаточным ремонтом, не пускать на них чужаков, а вывоз основного стратегического сырья осуществлять трубой. И вот именно труба для некоторых государств стала во многих отношениях содержанием политики, важнейшим элементом экономики, финансов, и, может быть, даже в определенном смысле этики и морали. Убивать людей за деньги или за догмы религии считается предосудительной банальностью. Другое дело за трубу. Убивать за трубу не только не возбраняется, но и поощряется, в том числе и на высоком государственном уровне. Вот такие парадоксы истории, характерные по крайней мере для Восточной Европы. Но, возможно, также и для Западной, не стану спорить. В общем, труба — это понятно, труба становится, если уже не стала, главным смыслом нашего бессмысленного существования. Во всяком случае, смыслом функционирования властей, это определенно.
Ну а как же человек, коренной житель трубных мест, тех, откуда начинаются и где под толщей земли качают свое бесценное содержимое трубы? Что такое при них человек? Тут мне могут возразить — смотря какой человек. Иные из этих трубмейкеров ого как вознеслись высоко, какого могущества накачали им трубы. Это верно. Но для искусства, по-моему, это чересчур банально и малоинтересно. Искусство литературы, реалистической, по крайней мере, традиционно больше интересует обычный, как прежде сказали бы, маленький человек. Тем более представителей современной культуры, законной наследницы приснопамятной советской культуры, как известно, национальной по форме и социалистической по содержанию. Что он такое теперь, где его место в околотрубном пространстве? Похоже, однако, что нелегкие обстоятельства загнали его в трубу, оба конца которой временно или навсегда заварены мощными стальными заслонками. Как ему выбраться на божий свет, он, похоже, не знает. Впрочем, как не знает того и автор. По этой причине последнему только и остается апеллировать к читателю-слушателю в наивном расчете на его разумение и его высший и справедливый суд. Возможно, в наступающем тысячелетии и будет вынесен его главный безапелляционный вердикт, которого заждались люди — те, что в трубе, над трубой и напрасно промаявшиеся, ничего не дождавшись, ушли под трубу. Что ж, с новыми надеждами и новым годом, господа слушатели Радио Свобода!

*С.Юрьенен:* Повесть «Труба» и другие повести, которые печатались в московском журнале «Дружба народов», перевела на итальянский Элена Корти.

*Элена Корти:* Вдруг мне становится неловко: я не знаю, как его по батюшке. Хотя я западный человек, которому подобное незнание может как-то проститься, все же приходится спросить.
— Отчество? — отвечает усмешливо Быков. — Это не важно. Я просто Василь.
Хельсинки — начало декабря 1999-го. Электричка везет нас с итальянским журналистом из «Corriere della Sera» на окраину города — на встречу с возможно самым значительным представителем современных славянских литератур. Василь Быков живет в Финляндии, приглашенный на год Финским ПЕН-Клубом. Журналист собирается с моей помощью взять у него интервью, а я по поручению итальянского издательства надеюсь получить у Василя Быкова права на перевод его последних произведений. За окнами электрички лес, нежные, белые стволы берез, над их вершинами сияет

бледно-синее небо Севера. Как в России — думается мне. Да и сама природа напоминает недалекую отсюда Россию, по которой, с тех пор как я ее покинула, я все время скучаю.
Наша станция. Современный жилой квартал, все дома одинаковые. С трудом находим квартиру, на двери никакой таблички. Открывает человек, немолодой и стройный. Глаза благожелательные, голос спокойный и приветливый.
— Проходите.
Квартира крохотная, но уютная. На столе уже сухарики, печенья, сыр, конфеты, бутылка красного вина, водка. У меня с собой, по совету общих друзей, итальянская граппа. Кажется, мой маленький подарок ему приятен. Он извиняется за скромный стол. Жены нет, она в Минске, но скоро вернется. Как там?
— Тяжело там. Не топят, холод собачий, продовольствия не хватает...
Сначала он дает очень интересное интервью, которое через несколько недель появится на страницах «Corriere della Sera», затем мы с ним говорим о проекте итальянской книжки, отбираем для перевода повести: «На черных лядах», «Волчья яма», «Бедные люди», «Труба».
После, так сказать, бизнеса, можно беседовать душевно и свободно. Он рассказывает про себя, свою семью, жизнь, работу, про свою любимую Беларусь, которой он так глубоко предан. Я — тронута, чувствую, что передо мною не только и не просто великий писатель, но и чувствительный, честный и мудрый человек. В тот прекрасный декабрьский день мы с Василем становимся друзьями. Надеюсь, такими и останемся на всю жизнь.
Привожу из Финляндии домой четыре новых повести Быкова. Перевод — сложная работа. Как всегда, сначала надо войти в атмосферу, прочувствовать текст, эмоционально отождествиться с автором. Когда подходящее слово в голову не приходит, расхаживаю в ярости





по коридору, говорю с собой вслух, ругаю себя. В поисках вдохновения беру Данте, «Божественную комедию»:

Я увожу к отверженным селеньям,
Я увожу сквозь вековечный стон,
Я увожу к погибшим поколеньям...
Древней меня лишь вечные созданья,
И с вечностью пребуду наравне.
Входящие, оставьте упованья...
Я обещал, что мы придем туда,
Где ты увидишь, как томятся тени,
Свет разума утратив навсегда.

На самом деле — нет более точного описания трагического мировоззрения Василя Быкова, мир которого превращается в ад. В этом мире нет никакой надежды, в этом мире даже природа не мать, а мачеха, в этом мире человек никогда не победитель, а всегда побежденный, который, по слову Данте, свет разума утратил навсегда: только смерть ему несет свободу.
Весной 2000 года он приехал в Италию на выход своей, мною переведенной книги, которая получила много хороших отзывов в прессе. С ним Ирина, его жизнерадостная жена. Вместе мы бродим по Риму, по Милану. Понятны чувства перед Колизеем, но я до сих пор вспоминаю их восхищение перед миланским собором, дворцом Сфорца, храмом святого Амвросия, перед неожиданным для них величием Милана. Ирина, как неутомимый любопытный ребенок, постоянно в движении, ей все хочется увидеть, узнать, ощупать, открыть. Он терпеливо исполняет ее желания, в его глазах угадывается улыбка. В который раз я убеждаюсь в том, что встреча двух диаметрально противоположных характеров в браке всегда работает: между ними и взаимопонимание и взаимоуважение. Одним словом, любовь — и видеть это всегда приятно и утешительно.

*С.Юрьенен:* Выпуск завершает директор Белорусской службы Радио Свобода Александр Лукашук.

*Александр Лукашук:* «Нобелевский лауреат» — так на этой неделе чешская газета «Respekt» представила Быкова. Это пока несбывшаяся мечта читателей Быкова не только в Беларуси. В Испании ему посвящают докторские диссертации. В Библиотеке Конгресса США Быков самый читаемый белорусский автор. В Беларуси его книги невозможно купить, потому что практически невозможно напечатать. Писатели обычно исчезают в паузах между выходом своих новых текстов. Молчание Быкова наполнено смыслом такого напряжения, что к нему прислушиваются и власть, и оппозиция, и друзья, и недруги.

Венедикт Ерофеев как-то классифицировал Союз писателей по тому, сколько кому налил бы. Кому десять грамм, кому пятьдесят, только двум современникам по полной — Алесю Адамовичу и Василю Быкову. Быкову, уточнил автор бессмертной поэмы, полную с мениском. Я думал, что это у футболистов что-то в колене, а оказалось — с горкой, так по-научному называется поверхностное натяжение жидкостей.

Глубинное натяжение жизни перед богатством смерти. XX столетие, Беларусь, Быков Василь Владимирович...

## «СВАБОДЫ БЕЗЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ АЛЬБО НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЗ СВАБОДЫ — НЕ БЫВАЕ»

30 сьнежня 2000

***Алена Радкевіч, Прага***

Народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў віншуе беларусаў з новым годам, новым стагодзьдзем і новым тысячагодзьдзем.





— Так, час бяжыць — новы год, новае стагодзьдзе, новае тысячагодзьдзе. Ня часта ў гісторыі так выпадае — такі зьбег часавай трыяды. Сумна, аднак, тое, што час новы, а нашыя клопаты ўсе старыя; усё тыя ж, што і сто, і дзьвесьце гадоў таму. Гэтыя клопаты для нацыі, мусіць, найпершыя, першачарговыя, таму яны і ўвасобіліся ў плён для ўсіх без выключэньня эўрапейскіх нацыяў, апроч беларусаў. Я маю на ўвазе нашую свабоду і незалежнасьць. Зрэшты, калі б было штосьці адно — свабода безь незалежнасьці альбо незалежнасьць без свабоды... Але так не бывае. Сумна ўсё гэта, балюча і турботна. Але без таго не абысьціся, калі хочаш жыць, а ня добраахвотна класьціся ў дамавіну. Дык вось найпершае маё пытаньне: чаго нашая нацыя хоча? Вельмі пажадана мець на яго пэўны адказ. На жаль, такога адказу няма. Менавіта з гэтым зьвязаныя ўсе мае сумненьні, спадзяванкі й пажаданкі на новы год, новае стагодзьдзе і новае тысячагодзьдзе. А што тычыцца асабістага... Пішу, бо што ж яшчэ мусіць рабіць пісьменьнік? Тым болей, у маім паўэміграцыйным становішчы. Пішу з надзеяй, што гэта каму-небудзь і калінебудзь можа спатрэбіцца, ці хаця б будзе цікава. З Новым годам вас, мае дарагія землякі!

## «НЕ ЭМІГРАВАЎ, А ПРОСТА ПРЫЕХАЎ НА ЗАПРАШЭНЬНЕ»

22 студзеня 2001

***Сяргей Шупа, Прага***

Пераезду Васіля Быкава ў Франкфурт прысьвечаны артыкул Крыстофа Шрэдэра ў «Frankfurter Rundschau» «Не-эміграцыя», які мае падзагаловак «Прытулак для беларускага пісьменьніка Васіля Быкава».

Публікацыя сьцьвярджае, што пісьменьнік «не эміграваў, а проста прыехаў на запрашэньне». Беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў пасьля іранскага публіцыста Фараджа Саркухі — другі аўтар, які жыве і працуе ў Франкфурце ў рамках праекту «Гарады прытулку», атрымаўшы запрашэньне ад Ведамства мультыкультурных справаў і Франкфурцкага кніжнага кірмашу.
Горад Франкфурт у 1998 годзе далучыўся да заснаванай Міжнародным пісьменьніцкім парлямэнтам сеткі гарадоў, што дагэтуль далі прытулак ужо пяцідзесяці аднаму пісьменьніку, якім у іхных краінах пагражае палітычны перасьлед. Апрача Франкфурту сярод нямецкіх гарадоў у гэтым праекце ўдзельнічаюць таксама Гановэр, Бэрлін і Ваймар.
Васіль Быкаў, народжаны ў 1924 годзе, пайшоў у 1941-м добраахвотнікам на фронт і ваяваў супраць нямецкіх акупантаў. Вайна — самы значны матыў яго шматлікіх апавяданьняў і раманаў, за якія летась ён быў намінаваны на атрыманьне Нобэлеўскай літаратурнай прэміі. Пэрсанажы Быкава — «ня нейкія надпрыродныя героі, а звычайныя людзі», — сказаў падчас прэзэнтацыі Андрэас Кшыван, прадстаўнік «Палацу Ялта».
Быкаў свайго часу рашуча падтрымаў рэформы Гарбачова і ў 1986 годзе быў абраны сябрам сакратарыяту Саюзу пісьменьнікаў СССР. Пасьля захопу ўлады ў Беларусі дыктатарам Аляксандрам Лукашэнкам, В.Быкаў удзельнічаў у апазыцыйным руху, аж пакуль для яго ня стала «фізычна і псыхічна» немагчыма заставацца ў краіне: «У Беларусі ўсталяваўся паліцыйны рэжым, які адмаўляе ўсе правы чалавека». Перш чым прыехаць у Франкфурт, Быкаў пражыў два гады ў Хэльсынкі, дзе быў госьцем Фінскага ПЭН-цэнтру, а пасьля правёў год у замку Віпэрсдорф пад Бэрлінам. Прыехаўшы 15 студзеня ў Франкфурт, Быкаў найперш зьбіраецца скончыць тут распачаты ў Бэрліне аўтабіяграфічны раман. Не выключае аўтар і магчымасьці літаратурнага апісаньня свайго побыту ў Франкфурце.





## «ТОЛЬКІ ПРЫ СВАБОДЗЕ І НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ МАГЧЫМЫ ПРАЦЯГ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ»

7 лютага 2001

***Віталь Тарас, Прага***

Зь перадачы «Беларусь на тле глябальных зьменаў у гісторыі чалавецтва і вяршэнства права».

Амэрыканскі навуковец Фрэнсіс Фукуяма вызначыў крах камуністычных рэжымаў пры канцы 1980-х як «канец гісторыі». Так называлася і ягоная кніга, якая некалі мела вялікі розгалас. Пісьменьнік Васіль Быкаў лічыць, што ў нечым гэтая праца ня страціла сваёй актуальнасьці й цяпер, у тым ліку для Беларусі.

*В.Быкаў:* Прыклад Фукуямы вельмі паказальны. Хаця сама кніга «Канец гісторыі» вельмі цікавая, як і яго пазыцыя адносна антыкамуністычных працэсаў у сьвеце. Ён правільна зразумеў асноўны кірунак сучаснага постсавецкага нацыяналізму, за што ад сваіх апанэнтаў атрымаў азначэньне «апошняга адваката нацыяналізму». Але ягоная спроба прадказаць канец гісторыі — найперш у сацыяльна-культурніцкім сэнсе, вельмі хутка аказалася памылковая, што, да гонару аўтара, ён прызнаў. Гісторыя працягваецца, і гэта каторы раз сьведчыць пра элемэнтарныя ісьціны: у наш час нічога прадказаць немагчыма. Мабыць, прышласьць, як і гісторыя, няўлоўная і непрадказальная — найперш таму, што яна, так бы мовіць, мэтафізычна парадаксальная. Што ж да Беларусі, дык у ёй усё зацыклілася на палітычным аспэкце, які зьмярцьвіў усялякі эканамічны рух. Беларусь бязглузда адасобілася ад нармальных эканамічных працэсаў, апынулася ў нейкай посткамуністычнай рэзэрвацыі, бы тая Куба ці Паўночная Карэя.

*Вось погляд Васіля Быкава на глябалізацыю:*

*В.Быкаў:* Глябалізацыя — гэта зьява ўсё ж вельмі складаная і непрадказальная. Некаторыя параўноўваюць нашу інтэграцыю зь іх глябалізацыяй, даводзяць, быццам гэта дзьве зьявы аднаго кірунку. А я сказаў бы, што гэтыя зьявы абсалютна непараўнальныя. Бо ўсё ж іхная глябалізацыя — ад празьмернасьці, ад лішку. А наша так званая інтэграцыя — ад беднасьці, ад нэндзы. Каб нешта аб'яднаць, трэба яго мець, бо дзьве антыдэмакратыі ці тыраніі, складзеныя ў адно, ня здольныя ў выніку дэмакратызаваць што-небудзь. А вось падвоіць людзкое бясспраўе і дыктатуру яны здольныя. Гэта бясспрэчна.

*Глябалізацыя, адрозна ад інтэграцыі, пакуль не выглядае першачарговай праблемай сучаснай Беларусі. Прынамсі, беларускія палітыкі надаюць гэтай зьяве ня шмат увагі (калі не лічыць прапагандысцкіх антызаходніх выпадаў прыхільнікаў Аляксандра Лукашэнкі). Пакуль мала хто ўсьведамляе тое, пра што гаворыць расейскі праваабаронца Сяргей Кавалёў. Падчас выступу на міжнароднай канфэрэнцыі ў Празе ён казаў:*

*С.Кавалёў:* Права — гэта тое ўвасабленьне маралі, якая толькі і можа існаваць на зямлі. Найперш таму, што права — гэта роўнасьць усіх перад законам, а таксама і таму, што права — гэта поўная свабода, абмежаваная толькі замахам на свабоду з боку нашых суседзяў, іншых людзей. Але, між іншым, адзінае цывілізаванае права — гэта таксама фактар, які забясьпечвае разнастайнасьць культураў і духоўных праяваў. Зь вельмі простай лягічнай прычыны: права прасякнутае ідэяй свабоды, а свабода ёсьць абавязковай умовай творчасьці.

*А цяпер думка Васіля Быкава:*

*В.Быкаў:* Ня першы дзень і ня толькі для Беларусі робіцца неабвержнай ісьціна: толькі пры наяўнасьці свабоды і незалежнасьці магчымы працяг беларускай гісторыі. Калі ж незалежнасьці ня будзе, дык і скончыцца нашая гісторыя. У ранейшым вялацечным стане гісторыя працягвацца ня зможа. Такі мой дылетанцкі прагноз. Але як і ўсе прагнозы, гэткі прагноз наўрад ці спраўдзіцца, і тое дае надзею. Надзею на ратавальную парадаксальнасьць гісторыі. Як пісала калісьці Леся Ўкраінка, «без надзеі такі спадзяваюся». Што ж яшчэ застаецца рахманаму беларусу? Мабыць, здольнасьць спадзявацца, як і патрэба спадзявацца, дадзеная чалавеку ад Бога — і далёка не заўсёды падмацаваная доказнай базай.

Магчыма, словы пісьменьніка гучаць ня надта аптымістычна. Але яны падкрэсьліваюць важнасьць маральнага выбару, які можна зрабіць толькі тады, калі чалавек мае рэальнае ўяўленьне пра тое, што адбываецца зь ягоным уласным жыцьцём і навакольным сьветам.

## «ЗАСЛУГІ МІХАІЛА ГАРБАЧОВА БЯССПРЭЧНЫЯ, ЯК, ЗРЭШТЫ, БЯССПРЭЧНЫЯ І ХІБЫ ЯГОНАЙ ПЕРАБУДОВЫ»

1 сакавіка 2001

***Сяргей Навумчык, Прага***

Зь перадачы «Ці спрычыніўся Міхаіл Гарбачоў да аднаўленьня беларускай дзяржаўнасьці?»

Калі ў 1985 годзе Міхаіл Гарбачоў заняў пасаду генэральнага сакратара ЦК КПСС, ён быў больш як на дваццаць гадоў маладзейшы за свайго папярэдніка К.Чарненку. Гэта быў час, калі на чале Савецкага Саюзу былі асобы, чыя палітычная кар'ера фармавалася яшчэ за Сталіным. Прыход новага лідэра з надзеяй успрыняла як партыйная эліта, так і народ.

*В.Быкаў:* Да Беларусі ў Міхаіла Гарбачова было асаб-

лівае стаўленьне. Яно пачалося з чарнобыльскай катастрофы ды імкненьня беларускага кіраўніцтва «замазаць» перад сьветам наступствы тае бяды. Памятаю, як незабыўны Алесь Адамовіч паехаў у Маскву давесьці Гарбачову праўду пра тое, што сапраўды здарылася ў Беларусі, пятая частка якой апынулася пад радыенуклідамі. Вядома ж, пра тое яму не дакладвалі ні навукоўцы, ні беларускае кіраўніцтва, якое поўнілася аптымізмам кшталту таго, што «савецкаму чалавеку атам нястрашны». У бясьпецы атаму ўсё ж давялося ўсумніцца генсэку Гарбачову і пераканаць у тым беларускіх гаўляйтэраў, якія ўзьненавідзелі разам з Гарбачовым таксама і Адамовіча. Першага — за тое, што парушыў партыйную субардынацыю і паверыў беспартыйнаму, а другога — за тое, што выскачыў наперад тагачаснага беларускага «бацькі» Яфрэма Сакалова.

На мяжы 1980–90-х гадоў Яфрэм Сакалоў быў першым сакратаром ЦК КПБ. У 1988 годзе, калі артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці» распачаў працэс нацыянальнага абуджэньня, калі ўтварыўся Народны Фронт, а мітынг на Дзяды ля менскіх Усходніх могілак быў разагнаны міліцэйскімі дубінкамі, кіраўніцтва ЦК КПБ пастанавіла захаваць Беларусь як запаведнік сацыялізму і вельмі спадзявалася ў гэтым на падтрымку генэральнага сакратара.

Прыгадвае Васіль Быкаў:

*В.Быкаў:* Другі раз Міхаіл Гарбачоў заступіўся за зьняважаны і абылганы беларускі народ, калі Міхаіл Гарбачоў на нарадзе з творчай інтэлігенцыяй у ЦК КПСС запатрабаваў распавесьці, што на справе адбылося ў Менску на славутыя Дзяды? Яго паінфармавалі беларускія босы, што была спроба антыдзяржаўнага перавароту, наладжанага Беларускім Народным Фронтам, і тая спроба была пасьпяхова сарваная аб'яднанымі высілкамі КГБ, МУС, частак савецкай арміі пад кі-





раўніцтвам ЦК. Выслухаўшы мой аповед, Гарбачоў выказаў недавер і зьдзіўленьне пазыцыяй Яфрэма Сакалова, які ўжо рыхтаваўся атрымаць чарговую зорку «Героя» за надта пасьпяховую апэрацыю падаўленьня прошукаў нацыяналістаў і ЦРУ.
Мабыць, тут дарэчы будзе ўспомніць, што менавіта Міхаіл Гарбачоў тады ж вельмі ўважліва і спачувальна выслухаў другога беспартыйнага — выдатнага расейскага пісьменьніка Віктара Астаф'ева, прамова якога была прасякнутая абурэньнем супраць беларускага кіраўніцтва ў ягоным стаўленьні да свайго народу. У нарадзе ўдзельнічала, можна сказаць, усё Палітбюро, зь беларускім кіраўніцтвам таксама. Але рэч у тым, што яны ўсе сядзелі і стваралі як бы маўклівы фон Гарбачову, Гарбачоў адзін толькі трымаў дыялёг зь пісьменьнікамі і мастакамі, а ўсе астатнія маўчалі. Пасьля ў мяне было яшчэ некалькі сустрэчаў і канфідэнцыйных гутарак з Гарбачовым на гэтую ж тэму. Гутарак, дзе ён, у прынцыпе, падтрымліваў беларускую дэмакратыю супраць жорсткага рэакцыйнага дубаломнага партыйнага кіраўніцтва Беларусі.

Той давер, які мелі ў Гарбачова Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч, нэрваваў менскую партыйную эліту і прымушаў яе шукаць падтрымкі ў кансэрватыўных асобаў, якіх у гарбачоўскім Палітбюро хапала.

*В.Быкаў:* Калі на зьезьдзе народных дэпутатаў СССР ствараўся Вярхоўны Савет, якраз ад Беларусі выбралі мяне таксама ў гэты Вярхоўны Савет, але я на першым жа паседжаньні старэйшынаў зрабіў самаадвод, і тады на перапынку да мяне падышоў Гарбачоў і пытаўся, чаму я не хачу быць дэпутатам Вярхоўнага Савету СССР. Таксама зайшла гаворка пра тое, што адбываецца ў Беларусі. Але, на жаль, у гэтым антракце не давялося нам паразмаўляць, бо адразу насунуліся на нас чужыя непатрэбныя вушы, і ён спыніў сваю размову.

Хаця гэтая гутарка, я думаю, была б вельмі карысная і для яго, і для мяне таксама.

Васіль Быкаў прыгадаў пра падтрымку М.Гарбачовым дэмакратычнага працэсу ў Беларусі. Аднак наўрад ці генэральны сакратар ЦК і прэзыдэнт СССР мог пагадзіцца з тым, што дэмакратыя гэтая будзе стымуляваць сувэрэнізацыю самай, здавалася б, прарасейскай савецкай рэспублікі. Станіслаў Шушкевіч, які як старшыня Вярхоўнага Савету навастворанай Рэспублікі Беларусь падпісаў гістарычныя Белавескія пагадненьні, мае адказ на пытаньне: дзякуючы ці насуперак жаданьню Гарбачова Беларусь атрымала незалежнасьць.

*С.Шушкевіч:* Я мяркую, што катэгарычна насуперак! Ён пасьля вельмі шкадаваў, што Савецкі Саюз разваліўся. Хаця разваліў, у значнай ступені, яго ён, таму што ён фактычна нічога не рабіў, каб існавала такая дзяржава на новых прынцыпах аб'яднаньня — на новых, на дэмакратычных. А ён хацеў зрабіць «сацыялізм з чалавечым тварам», як ён тады казаў, гэта замяніць сабой Палітбюро і праводзіць нейкую больш лагодную палітыку. А дэмакратыя — гэта зусім ня тое, там трэба ўлічваць іншыя думкі, іншыя падыходы.

М.Гарбачоў і цяпер часта выказвае настальгію па Савецкім Саюзе. Псыхалягічна і палітычна зразумела, чаму былы прэзыдэнт СССР падтрымлівае Аляксандра Лукашэнку менавіта як прыхільніка інтэграцыі. Цяжэй патлумачыць, чаму ляўрэат Нобэлеўскай прэміі міру падтрымлівае дыктатара, які апазыцыю судзіць, кідае ў турмы і запалохвае. Тым ня менш, на Захадзе Горбі мае аўтарытэт і папулярнасьць, зь якой могуць канкураваць хіба толькі галівудзкія зоркі. Апошні раз я бачыў М.Гарбачова ў Нью-Ёрку, у першы год эміграцыі — на Пятай авэню ў кнігарні «Barnes & Noble» ён падпісваў толькі што выдадзеную кнігу мэмуараў. Чарга за аўтографам расьцягнулася на пяць кварталаў.





*В.Быкаў:* Ён разумеў творчасьць і палітычную пазыцыю Алеся Адамовіча, асабліва ў ягоным змаганьні супраць ядзернага шаленства, ды рэальнай ужо на той час пагрозы мілітарызацыі партыі і краіны. Памятаю, як з трыбуны зьезду народных дэпутатаў Алесь паказваў на небясьпеку з боку савецкага генэралітэту, які ўсё шчыльней акружаў свайго прэзыдэнта і рабіў тое з даволі празрыстымі мэтамі. Ня ведаю, ці паслухаўся тады Гарбачоў Адамовіча, але папярэджаньне апошняга вельмі хутка спраўдзілася. Фарос стаў закатам гарбачоўскай эпохі, якая спарадзіла вялікія спадзяваньні, хоць і ня шмат спраўдзіла зь іх.
Тым ня менш, заслугі Міхаіла Гарбачова бясспрэчныя, як, зрэшты, бясспрэчныя і хібы ягонай перабудовы. На дэмакратычным Захадзе Гарбачова любяць нязьмерна больш, чым на постсавецкім Усходзе. І гэта зразумела. Там наступствы гарбачоўскай палітыкі выніковыя і адназначныя. Міхаіл Гарбачоў — чалавек Захаду, гэта значыць — будучыні. Хоць, як гэта нярэдка здараецца ў гісторыі, ягоная дзейнасьць ужо цалкам адышла ў мінулае. Што ж, мабыць, ён не пасьпеў за часам, даганяць які дадзена ягоным наступнікам, якія павінныя быць шчасьлівейшыя, а галоўнае — болей удачлівыя за свайго ініцыятыўнага папярэдніка.

Можна шмат казаць пра тое, якіх магчымасьцяў не скарыстаў М.Гарбачоў. Паспрабуем уявіць, што прыйшоўшы да ўлады ў 1985 годзе, Гарбачоў пажадаў бы абмежавацца мінімальнымі зьменамі. Да паслугаў генсэка былі апарат КГБ і адно з самых магутных войскаў сьвету. Магчыма, савецкая імпэрыя існавала б да гэтага часу, падобная на сучасны Кітай, дзе эканамічныя рэформы не скасавалі камуністычнай ідэалёгіі, а партыйныя ідэолягі зацьвярджаюць Далай-ламаў на пасаду ў Тыбэце, дзе забароненае само слова «сувэрэнітэт». У гісторыі XX стагодзьдзя Міхаіл Гарбачоў застаецца тым, кім ён і быў: адда-

ным камуністычнай ідэалёгіі партыйным функцыянэрам, які здолеў узьняцца на вяршыню таталітарнай улады, і рэфарматарам, пры якім гэты таталітарызм сканаў.

## «ДЛЯ МЯНЕ МАРАЛЬНЫ ЧАЛАВЕК — ВАСІЛЬ БЫКАЎ»

18 сакавіка 2001

***Сяргей Дубавец, Вільня***

Зь перадачы «Маральныя аўтарытэты: у беларусаў і ў суседзяў, раней і сёньня».

Апытаньне на менскім праспэкце праводзіў Зьміцер Бартосік:
— Хто для вас маральны аўтарытэт?
— Асабіста для мяне — мая мама, мой бацька.
— У Беларусі ў мяне няма маральнага прыкладу.
— А па-за Беларусяй?
— Ой, трэба падумаць. Ну, дапусьцім, тыя ж штатаўскія кіраўнікі. Потым — японскі прэм'ер, які, калі гуляў у гольф і яму паведамілі, што карабель бамбанула амэрыканская падлодка, зараз жа пайшоў у адстаўку. Гэта для мяне прыклад.
— «Бітлз».
— Маральны? Здаецца, адзін толькі чалавек для мяне ёсьць маральным, гэта Пазьняк Зянон. Гэта найвышэйшай катэгорыі чалавек. Кастусь Каліноўскі, змагаўся за нашую волю... Маральны для мяне чалавек вельмі высокага кшталту — гэта Васіль Быкаў.
— Напэўна, людзі спорту, як мне здаецца. У іх яшчэ з мараллю больш-менш нармальна.
— Для мяне маральны аўтарытэт Зянон Пазьняк. Прынцыповы, адстойвае сваю думку.





— Толькі мае блізкія.
— Для мяне заўсёды сымбалем былі і ёсьць бацька і маці. Родная зямля. Я сама з Палесься, з Гомельскай вобласьці, Хойніцкі раён, вёска Глінішчы. Можа, чулі? Радзіма пісьменьніка Івана Мележа. А я ягоная родная сястра, малодшая. А бацькі ў нас цудоўныя былі...
— Вы ведаеце, напэўна, мой бацька — маральны аўтарытэт. Але ён, на жаль, не зьяўляецца ні палітыкам, ні пісьменьнікам, ні кім вы там яшчэ называлі...
— Васіль Быкаў. Уладзімер Арлоў. Ісус Хрыстос.
— А вы што можаце сказаць?
— Я далучаюся да думкі майго сябра. Для мяне таксама маральным аўтарытэтам зьяўляецца Васіль Быкаў. Зь беларусаў. А зь небеларусаў я б адзначыў, напрыклад, Маці Тэрэзу. Ці папу Рымскага Яна Паўла II. Таксама чэскага прэзыдэнта. Але і ў Беларусі ёсьць — напрыклад, Ларыса Геніюш.
— Спартак. І Жана д'Арк. Яна казала: «Калі ня я, то хто?»
— Бацькі нашыя. На жаль, іх ужо няма.
— Джон Стэйнбэк.
— Марк Нопфлер, лідэр групы «Dire Straits». Шукаць маральных аўтарытэтаў у палітыцы — справа, якая ні да чаго ўсё роўна не прывядзе. Бо ў палітыцы маралі няма. А ў музыцы ўсе маюць роўныя шанцы.
— Э-э-э-э-э... Талстой Леў Мікалаевіч. Ой, пачакайце! Хто напісаў «Вайну і мір»?
— Талстой.
— Леў ці Аляксей?.. Вось, Леў Мікалаевіч.
— Перадусім Рэмарк. І яшчэ Булгакаў. Сярод беларусаў гэта Быкаў. Мне вельмі спадабаўся ягоны твор «Знак бяды». Калі я чытала гэты твор, я плакала. Быкаў, мне здаецца, самы моцны пісьменьнік сярод беларусаў.
— Бацька. Мой бацька.
— Падумаць трэба. Дарэчы, маральны аўтарытэт пабег — спадар Шчукін. На гэтым пятаку ўсё можна ўбачыць.

Адзін з маральных аўтарытэтаў... У розных сфэрах ёсьць розныя маральныя аўтарытэты. Таму што кожная прафэсія патрабуе сваёй маралі.
— Ісус Хрыстос. Мая жонка так гаворыць: «Будзь падобны, старайся быць падобным на яго, і тады ў нас дома будзе ўсё вельмі добра».

## «25 САКАВІКА — САМАЯ ЗНАЧНАЯ ПАДЗЕЯ Ў НАШАЙ ГІСТОРЫІ»

25 сакавіка 2001

Сьвяточны зварот Васіля Быкава да суайчыньнікаў.

У вялікім гістарычным часе воляй скрушнага лёсу сталася так, што беларусы больш страцілі, чым набылі. Нават і ў сучасным постіндустрыяльным сьвеце, у якім многія постіндустрыяльныя нацыі адно расквітнелі, набылі незалежнасьць, дамагліся дэмакратычнага ладу і эканамічных дабротаў, мы ж і ў пачатку трэцяга тысячагодзьдзя ад Нараджэньня Хрыстовага ня можам нават ажыцьцявіць сваёй паўнавартаснай самаідэнтыфікацыі.
Знакаміты Акт 25 Сакавіка 1918 году — самая значная падзея ў нашай гісторыі, у якой засяродзілася ці ня ўся сутнасьць нашай нацыянальнай ідэі. З вышыні мінулага добра ўжо відаць, што нават малаважнае тое, ці дасягнутая заяўленая мэта. Для нас ня меней важна, што яна была заяўленая — рашуча, па-дзяржаўнаму, на ўсю Беларусь і на ўвесь сьвет. Тыя, што вартыя яе былі пачуць, пачулі, для іншых жа яна засталася без карысьці. З тае пары стала зразумела, што менавіта гэтая мэта ёсьць ключом да нацыянальнага шчасьця і дабрабыту, што асабліва важнае ў наш лібэральны век. Колькі будзе жыць нацыя, столькі будзе памятаць герояў 25 Сакавіка, яго шараговых творцаў — і незалежна ад таго, ці





хутка мы даможамся тагачасных мэтаў. А калі і не даможамся нават, дык мець тое на мэце тым болей важна заўсёды. Таму: жыве Беларусь! — гукаю я сёньня разам з тымі, хто пад бел-чырвона-белым сьцягам абараняе на беларускай зямлі галоўнае — права свабоды і незалежнасьці. Вам, дарагія мае землякі, гонар і слава!

## БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕНЬНІКІ НАПІСАЛІ ЛІСТ У АБАРОНУ ВАСІЛЯ БЫКАВА

9 красавіка 2001

***Валянціна Аксак, Менск***

Група беларускіх літаратараў выступіла з заявай, якая патрабуе ад уладаў Беларусі спыніць шальмаваньне ў дзяржаўных мэдыях імя вядомага ва ўсім сьвеце беларускага пісьменьніка Васіля Быкава.

«Такога шалёнага і беспадстаўнага гвалту, паклёпу ў Беларусі не было з 1930-х гадоў, калі зьнішчаліся сотні беларускіх пісьменьнікаў, навукоўцаў, палітыкаў. Сёньня, нібы пераняўшы злачынныя і звыродныя сталінска-берыеўскія мэтады, Беларускае тэлебачаньне, выконваючы волю сваіх гаспадароў, дагаварылася да таго, што змагар з фашызмам, вэтэран-франтавік, чалавек, які ўсё сваё жыцьцё намагаўся паказваць у сваіх творах праўду, хоць і горкую, Васіль Быкаў — «литературный полицай» і «Василий, не помнящий родства»... Мы, сябры Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, патрабуем ад уладаў Рэспублікі Беларусь спыніць ганебнае шальмаваньне ў дзяржаўных сродках масавае інфармацыі вядомага ва ўсім сьвеце пісьменьніка, вэтэрана Вялікай Айчыннай вайны Васіля Ўладзімеравіча Быкава», — гаворыцца ў заяве.
Заяву падпісалі народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, ляўрэаты дзяржаўных прэміяў Генадзь Бураўкін,

Генрых Далідовіч, Анатоль Кудравец, Алег Лойка, Васіль Сёмуха, выканаўца абавязкаў старшыні Саюзу пісьменьнікаў Вольга Іпатава, віцэ-прэзыдэнт ПЭН-цэнтру Карлас Шэрман ды іншыя вядомыя літаратары. Сярод іх паэт Анатоль Вярцінскі. Ці верыць ён, што голас падпісантаў пачуюць адрасаты?

*А.Вярцінскі:* Не. Надзеі такой у мяне няма. Тыя, хто бэсьціць сёньня Быкава і ўсё беларускае, не прыслухоўваюцца да падобных заяваў. І не прыслухаюцца, пакуль ня зьменіцца ўлада. Таму я ня бачу сэнсу заявы. Але я яе падпісаў, таму што мушу выказаць свой голас на баку праўды і справядлівасьці. Гэта мой сьвядомы выбар і выбар усіх тых, хто паставіў свой подпіс пад заяваю.

Заява рыхтавалася да друку больш за два тыдні. Адразу пасьля выхаду па Беларускім тэлебачаньні 17 сакавіка паклёпніцкае праграмы «Тайные пружины политики» ініцыятар заявы малады паэт і літаратуразнаўца Алесь Пашкевіч пачаў зьбіраць подпісы пісьменьнікаў, і ён сутыкнуўся зь нежаданьнем многіх падпісваць ліст. Найперш адмовіліся тыя, хто мае дзяржаўную пасаду ці разьлічвае нешта атрымаць ад уладаў на пісьменьніцкім зьезьдзе. У 1960-я гады таксама напярэдадні чарговага пісьменьніцкага зьезду група беларускіх літаратараў абараняла імя Васіля Быкава ад шальмаваньня ў друку. Пра гэта нам сёньня нагадаў Анатоль Вярцінскі:

*А.Вярцінскі:* Праходзіць вось столькі гадоў, і мы зноў на нейкім крузе чарговым, і зноў мусім выступаць з падобнымі заявамі. Нешта, сапраўды, ня так на нашай ніве тут.

Тэкст пісьменьніцкай заявы заканчваецца аптымістычна: «Мы перакананыя, што ўсё мінецца, а праўда застанецца, і аддадзена будзе кожнаму паводле ўчынкаў яго».





## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ТАМ, ДЗЕ БЫКАЎ

9 красавіка 2001

***Аляксандар Лукашук, Прага***

> Апошні твор Васіля Быкава, які ён даслаў на «Свабоду», называецца «Труп». «Забойца быў звычайны, затурканы жыцьцём чалавек. Тое ж самае можна сказаць і пра забітага. Зрэшты, і адносіны між імі двума зьнешне былі амаль нармальныя, калі не лічыць даўняй, зацятай, чорнай нянавісьці. Нянавісьці забойцы да ягонай ахвяры. Што стала прычынай таго пачуцьця, цяжка сказаць. Пэўна на тое не адказаў бы і сам забойца».

Прычына нянавісьці цяперашняй улады да Быкава надзвычай празрыстая — гэта нянавісьць бяздарнасьці да таленту, злодзея да таго, хто ня крадзе, зла да дабра. Заява беларускіх пісьменьнікаў у абарону Васіля Быкава самому Быкаву не патрэбная — ён ведае цану беларускай уладзе. Ці патрэбная заява тым, хто яе падпісаў? Можна меркаваць, што ні Васіль Быкаў, ні чытачы, ні ўлады не сумняваліся ніколі ў пазыцыі менавіта гэтых васямнаццаці чалавек, многія зь якіх даўнія сябры, паплечнікі пісьменьніка. Інакш кажучы, гэтыя людзі маглі й не падпісваць. Больш цікавыя тыя амаль паўтысячы сяброў Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, што адмовіліся падпісаць.
Нядаўна ў адной менскай незалежнай газэце быў прадстаўлены такі літаратар — дырэктар выдавецтва, які праславіўся тым, што адмовіўся друкаваць кнігу Быкава «Сьцяна». З газэты чытач мог даведацца, што гэты сябра Саюзу пісьменьнікаў адкрыў у беларускай літаратуры жанр афарызмаў, а ягоная кандыдатура вылучаная на Нобэлеўскую прэмію. Члены Саюзу — звычайныя савецкія людзі, хочуць жыць і карміцца далей у меру свайго апэтыту і велічыні страўнікаў. Выстаў-

ляць ім нейкія маральныя патрабаваньні — усё роўна што патрабаваць, каб усе яны пісалі шэдэўры.
Сябры Саюзу беларускіх пісьменьнікаў падобныя сёньня да зэкаў у сталінскім лягеры, якіх на зоне пасе шайка крымінальнікаў — пайка перападае толькі тым, хто можа «цiскаць раманы» — насалоджваць слых блатных аўтарытэтаў сваімі показкамі. Астатнія вылізваюць місы. Некаторыя зь іх маюць уласнае апраўданьне — некаму ж трэба клапаціцца пра беларускую літаратуру, рабіць чарнавую працу. Дарэмныя намаганьні. Нобэлеўскі ляўрэат Томас Ман, які мусіў пакінуць радзіму падчас улады Гітлера, на пытаньне, ці можа разьвівацца нямецкая літаратура за межамі Нямеччыны, некалі адказаў: «Нямецкая літаратура там, дзе я». Беларуская літаратура сёньня там, дзе Быкаў.

## «ЗДАБЫЎШЫ ПЕРАМОГУ, МЫ НЕ ЗДАБЫЛІ СВАБОДЫ»

9 траўня 2001

Слова Васіля Быкава да Дня Перамогі.

— Існуе думка, што фэнамэнальнае, узьнёслае стаўленьне старэйшай часткі грамадзтва да мінулай вайны вызначаецца тым, што ў нашым жыцьці гэтая перамога сталася подзьвігам. Пазьней не было нічога болей справядлівага, высокага па ідэі і выразнага па выніку, чым можна было б задаволіцца, ня тое што ганарыцца. Што б не было ўрэшце так абясцэнена, зьняважана, дыскрэдытавана людзьмі або часам — хоць пяцігодкі, хоць барацьба за мір, хоць шалёная ядзерная гонка ці той жа космас, усё ў нашай гісторыі блеф, калі не злачынства. Адзінае добрае, што зьдзейсьнілі старэйшыя пакаленьні ў XX стагодзьдзі, сапраўды была гэтая перамога над нямецкім нацызмам.





Але ўзьнікаюць сумненьні і ў перамозе — найперш у яе імпэратыўнай адназначнасьці. Ад чаго яна пазбавіла чалавецтва — мы ведаем. І тое, можа быць, не падлягае сумневу. Але што зь ёю мы набылі? Усё ж кожная перамога павінная ня толькі ўзяць, але і даць. Краіны пераможаныя — Нямеччына, Італія, Японія — стрывалі паразу і менавіта праз тое атрымалі магчымасьць для нябывалага росквіту эканомікі, свабоды і дэмакратыі. А мы, пераможцы, дагэтуль ня можам дамагчыся элемэнтарнай свабоды, ня можам накарміць сябе. Можна сказаць, што здабыўшы перамогу, мы не здабылі свабоды. Але без свабоды чаго вартая кожная бліскучая перамога кожнага грамадзтва?
А што да расейцаў, дык тыя і дагэтуль ня могуць перастаць ваяваць. І за якія ідэалы? За звыродлівыя, спарахнелыя імпэрскія ідэалы, як і сто, і тысячу гадоў таму. У пераможнай эўфарыі зашмат ад эмоцыяў і дужа мала ад розуму. Бо разумны, рацыянальны падыход да вайны ня выгадны рэжымам, якія і тую даўнюю, вялікую перамогу прызвычаіліся выкарыстоўваць ва ўласных інтарэсах — інтарэсах антычалавечых і антыдэмакратычных. Тое ім удаецца выдатна: хоць у Расеі, хоць у Беларусі. Як доўга тое будзе адбывацца, хто ведае. Мусіць, у пэўных варунках доўга, але, напэўна ж, ня вечна.

## «ЧАС ПАЗЬНЯКА ЯШЧЭ НЕ НАСТАЎ»

12 траўня 2001

***Віталь Тарас, Прага***

У перадачы «Крок да свабоды» досьведам пераадоленьня несвабоды дзеляцца розныя людзі зь Беларусі й замежжа. Герой выпуску — лідэр Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк.

Пра Зянона Пазьняка, палітыка і чалавека, гаворыць Васіль Быкаў.

— Цяпер ужо відавочна, што Зянон Пазьняк мае якасьці, якія ў іншых умовах маглі б скласьці выдатны грунт асобы, але ў нашых умовах разглядаюцца як недахоп. Сучаснае грамадзтва патрабуе ад уласнага лідэра такой маральнасьці, якая мяжуе з амаральнасьцю: замест празрыстасьці палітыкі аддае перавагу таемнаму махлярству, што апраўдваецца крызісным становішчам эканомікі дый маралі таксама. Дэмагогія зрабілася найпершай вартасьцю палітыка, крытэрам посьпеху ў электарату. Вось таму Зянон Пазьняк не прэзыдэнт і не дэпутат нават. Незважаючы на яго несумненны трыбунны талент, ён не апусьціўся да дэмагагічнага ўзроўню, ня стаў «чалавекам масы». Ён, па сутнасьці, занадта высокі для масаў. Праблема Пазьняка ў гэтым сэнсе — праблема адэкватнасьці палітыка й грамадзтва.
Так, выдатна разумеючы ўвесь цяжар палітыкі люстрацыі, Пазьняк ня мог адмовіцца ад яе, бо ведаў, што толькі такая палітыка магла папрaвіць маральнае здароўе амаральнага, згвалтаванага карнікамі грамадзтва. Пазьняк не папуліст — у тым яго хіба, але й вартасьць. Гэта як паглядзець — нават у адпаведнасьці з нормамі хрысьціянскай маралі тое, несумненна, амбівалентна. Але, па вялікім рахунку, тое можа быць і безадноснай чалавечай каштоўнасьцю. Зноў жа, шмат тут залежыць ня толькі ад асобы лідэра, якім несумненна застаецца Пазьняк, не зважаючы на ягоную сучасную грамадзкую ролю, але і ад маральнага ўзроўню грамадзтва. А грамадзтва, як вядома, стыхія зьменлівая. Тое, што сёньня адмаўляецца, заўтра можа быць прынятае. І наадварот. Мабыць, трэба ўмець ня толькі змагацца, але й чакаць. Пасьпешлівасьць — не рацыянальная якасьць, як і прамаруджваньне. Падобна, час Пазьняка яшчэ не настаў, хоць можа падацца, што ён мінуў. Гістарычным гадзіньнікам у гэтай справе ёсьць электарат. Звычайна электарат рэагуе на прымітыўныя ісьціны і практычныя мэты. Нацыянальная ж ідэя для яго, электарату, апынулася празьмерна экзатычнай, малазразумелай. А галоўнае, яна запатрабавала пэўных, і немалых, ахвяраў, да якіх электарат, калі не сказаць нацыя, не былі падрыхтаваныя — не зважаючы на тое, што да тых ахвяраў быў гатовы Зянон Пазьняк. І гэта давала надзею. Ня кожная нацыя мае такіх лідэраў, хоць, як вядома, лёс іх заўсёды трагічны. Што ж да Беларусі, дык увесь яе гістарычны лёс трагічны, і ў гэтым сэнсе мне бачыцца пэўная адэкватнасьць лёсаў краіны і Зянона Пазьняка.





## «КРОК ДА СВАБОДЫ» ВАСІЛЯ БЫКАВА

31 траўня 2001

***Віталь Тарас, Прага***

У перадачы «Крок да свабоды» пра сваё разуменьне свабоды распавядае Васіль Быкаў.

Паводле традыцыі, першае слова — герою перадачы.

*В.Быкаў:* Бяз хлеба немагчымая свабода, якой перш-наперш патрэбная праўда. Але праўда заўсёды прадукт свабоды. Падобна — зачараванае кола. Я добра памятаю той дзень і час, калі ня толькі я, але, я так лічу, і народ страціў свабоду. Гэта, канечне, была для майго пакаленьня на пачатку 1930-х гадоў суцэльная калектывізацыя краіны. Ня толькі свабода — было страчанае ўсё, зьвязанае зь ёй. Адбылася ўвогуле клясычная зьява — зьнікла свабода, і як вынік, зьнік хлеб. Народ на доўгія дзесяцігодзьдзі ўпаў у паласу хранічнае галадоўкі. Але рэч яшчэ ў тым — ці адчуваў ён узаемазалежнасьць свабоды й хлеба? Наўрад ці. Хаця тое выдатна разумелі бальшавіцкія кіраўнікі, якія ўпарта

цьвердзілі пра «новую клясавую свабоду», якой яны ў 1917 годзе дамагліся дзеля народу. Тое, вядома, была мана, і яны ведалі гэта. Мабыць, гэта разумеў і адчуваў народ, але не хацеў верыць самому сабе. Бо мана была прыгажэйшая за рэчаіснасьць, прыгажэйшая за свабоду. А можа, і за хлеб таксама.

Гэтая тэма стала адной з галоўных у творчасьці Васіля Быкава пасьля тэмы вайны. Фрагмэнт аповесьці Быкава «Аблава»:

> «Заўжды дзелавы, рухавы Наэм брыў па вуліцы, бы нічога не заўважаючы вакол. Усё ж Хведар павітаўся, і яны разгаварыліся трохі, і тады Хведар дазнаўся, што і ў Наэма таксама нелады з уладай. Як Хведар паскардзіўся на сваю бяду, стары габрэй узяў яго за гузік і дужа пацягнуў да сябе. «Я табе скажу: кідай усё, бяры дзяцей у ахапку і ўцякай. Куды? Няважна куды, — куды вочы глядзяць. Пасьля позна будзе... Гэта табе кажа Наэм! Я ўсё кінуў і во з гэтым вандзэлкам іду на станцыю. Я тут не жыхар болей! Я — бежанец! Ты мяне паслухай, Хведар!»
> Не, тады Хведар яго не паслухаў: як гэта ўсё кінуць? А зямля, гаспадарка? І куды падацца? Тут усе яго карані, вяскоўцы, радня — як ён можа зьехаць куды ў непрытульны, нязнаны сьвет?
> Ён пражыў у Нядолішчы яшчэ месяцаў дзесяць. Нярадаснае было тае жыцьцё, бясхлеб'е і пасьніца надоўга пасяліліся ў ягонай хаце».

Дарэчы, аповесьць «Аблава» гучыць цяпер па-беларуску на хвалях пятага каналу Польскага радыё. Вядомы польскі пісьменьнік і перакладчык Чэслаў Сэнюх пераклаў на польскую мову многія творы Васіля Быкава. Ён — адзін з аўтараў перакладу кнігі Быкава «Сьцяна», якая выйшла нядаўна ў Беластоку. Паводле Чэслава Сэнюха, у фондах Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве трынаццаць розных выданьняў твораў Быкава. Сярод перакладчыкаў Быкава былі такія выдатныя майстры слова як Анджэй Дравіч і Віктар Варашыльскі. І гэта толькі ў адной Польшчы! Кнігі Быкава выдаюцца і перавыдаюцца ў многіх краінах сьвету, у тым ліку ў Нямеччыне. Сярод першых, хто ацаніў маштаб ягонага таленту, быў знакаміты Гайнрых Бёль.
У Беларусі ж партыйныя органы некалі цкавалі Быкава за ягоныя аповесьці «Мёртвым не баліць» і «Круглянскі мост», апублікаваныя ў часопісе «Новый мир», абвінавачвалі ў «ачарніцельстве». Ужо ў нашыя дні беларускае выдавецтва «Мастацкая літаратура» выкінула з плянаў зборнік пісьменьніка «Сьцяна». Тыя, хто настальгуе па Савецкім Саюзе і ненавідзіць Быкава, ня могуць дараваць яму званьня народнага пісьменьніка БССР, Ленінскай прэміі за «Знак бяды» і асабліва званьня Героя сацыялістычнай працы. Званьне тройчы Героя не перашкодзіла ўладам у свой час адправіць у высылку акадэміка Андрэя Сахарава. Потым Васіль Быкаў, абраны народным дэпутатам СССР ад Саюзу пісьменьнікаў, апынецца зь ім у міжрэгіянальнай дэпутацкай групе — разам з Адамовічам, Каракіным, Ельцыным.
Што такое свабода ва ўяўленьні Быкава?

*В.Быкаў:* Зманліва кажа Зянон Пазьняк, што каб адчуць сябе свабодным, трэба пачаць за свабоду змагацца. «Чалавек свабодны, калі яму ня трэба выбіраць», — пісаў расейскі філёзаф Мікалай Бярдзяеў. Але маецца на ўвазе свабода індывідуальная, а не калектыўная. Падобна, калектывы, масы, народы існуюць паводле іншых законаў — законаў масаў. Як цяпер бы сказалі, паводле законаў калектыўнага несьвядомага. Во ў чым праблема! Тое выдатна разумеюць тыраны-авантурнікі, але, на мой погляд, зь цяжкасьцю спасьцігаюць сумленныя дэмакраты. Усё ж свабода, мабыць, велічыня абсалютная і не падлягае адмысловаму вымярэньню. Там, дзе яна ёсьць, няма пра яе і гаворкі. Гаворкі й дыскусіі ідуць

звычайна пра меру свабоды — гэта значыць, па сутнасьці, пра несвабоду.

Васіль Быкаў у адным з інтэрвію для газэты «Літаратура і мастацтва» (гэта было пры канцы 1980-х) з павагай згадаў францускага пісьменьніка Альбэра Камю. Біяграфіі пісьменьнікаў нечым падобныя. Камю быў удзельнікам антыфашысцкага супраціву — Быкаў ваяваў на фронце, быў двойчы паранены. Абодвух можна назваць пасьлядоўнымі ворагамі фашызму ва ўсіх яго праявах. Прыхільнік экзыстэнцыялізму Альбэр Камю пісаў у творы «Падзеньне»:

> «Я ня ведаў, што свабоды не ўраўнаеш з узнагародай ці знакам адрозьненьня, у гонар якіх п'юць шампанскае. Гэта і не прыцягальны падарунак кшталту кардонкі з цукеркамі. О, не! Зусім наадварот — гэта адчайны бег, наколькі хопіць сілаў, і пры гэтым — у самоце... Ты адзін у змрочнай залі, адзін на лаве падсудных перад судзьдзямі і сам павінен адказваць перад сабой альбо судом людзкім. Напрыканцы ўсялякай свабоды нас чакае кара; вось чаму свабода — цяжкая ноша».

Васіль Быкаў нідзе не дэкляруе наўпрост сваёй прыхільнасьці да экзыстэнцыялізму. Але ўспомнім яго герояў — Сотнікава, Петрака, Сьцепаніду, для кожнага зь іх свабода — цяжкая ноша, ад якой ніяк, нізавошта ў сьвеце нельга адмовіцца. Дык што ж ёсьць свабодай паводле Васіля Быкава?

*В.Быкаў:* Калі тае свабоды занадта мала — няма й дыскусіі; зрэшты, няма й барацьбы. Барацьба за свабоду безвыніковая ў несвабодным, спрэс таталітарным грамадзтве. Тая барацьба хіба дае плён у часткова несвабодных грамадзтвах або ў часткова свабодных. Людзі ж несвабодныя цалкам ня здольныя для барацьбы за яе, бо знаходзяцца ў палоне сваёй несвабоды. Тую несвабоду яны звыкла ўважаюць за свабоду. Во ў чым парадокс тае д'ябальскай падмены!
Так гэта было ў старажытных нявольніцкіх грамадзтвах, у бальшавіцкім СССР, у гітлераўскай Нямеччыне, шмат дзе ў сьвеце застаецца і дагэтуль. Тыя грамадзтвы з часам страчваюць усялякі інстынкт свабоды й дужа зьдзіўляюцца, калі ім з вольнага сьвету заўважаюць пра іх несвабоду. Свабодай для іх зрабілася несвабода, як у геніяльнага Оруэла. І гора ім, калі лёс ці гісторыя змушаюць іх перайначыцца ў іх спрадвечнай нявольніцкай прыхільнасьці і ступаць на свабодны дэмакратычны лад, якога яны шчыра і ўстойліва ня любяць. Бо не народжаныя дзеля таго ладу, народжаныя для іншага — звыклага, простага, жывёльнага, па сутнасьці.
Але рэч у тым, што тое існаваньне дае ім хлеб. А свабода ў іхнай сьвядомасьці ўжо не атаясамляецца з хлебам, хутчэй — з голадам. Уся праблема ў тым, што той пагляд мае нямала рацыі. Несвабода — не заўсёды голад, часам бывае і наадварот. У фашыстоўскай Нямеччыне не было свабоды, але быў хлеб. У цяперашнім Кітаі няма свабоды, але ёсьць хлеб — прынамсі, больш, чым у нас, дзе ва ўсе часы не было ні свабоды, ні хлеба. Таксама ўнікальная зьява, вартая Оруэла. Зрэшты, ва ўмовах несвабоды оруэлы не зьяўляюцца, такога кшталту таленты — прадукт свабоды. Несвабода спараджае творчасьць іншага кшталту — высокакваліфікаваных майстроў масавых забойстваў, шпіёнскага заваяваньня космасу ды віртуёзных філёзафаў, здольных па-навуковаму абгрунтаваць усё, што выгодна рэжыму.

Пяць гадоў таму на кангрэсе Беларускага ПЭН-цэнтру Васіль Быкаў з горкай іроніяй цытаваў аднаго з заснавальнікаў экзыстэнцыялізму С.К'еркегора: «Людзі маюць свабоду думкі, а ім падавай свабоду слова...» Аднак, на думку Быкава, «нявыказаная, задушаная ў несвабодзе сьвядомасьці» думка ня можа быць ісьцінай. Вымаўляючы яе, «чалавек рэалізуе адно з найвялікшых

уласных адрозьненьняў ад усяго існага — сваё Боскае наканаваньне ў сьвеце». Слова, казаў пісьменьнік, «апошні, мабыць, самы нескароны чыньнік, які ўлада пасьлядоўна імкнецца адабраць у прыгнечаных». А што ж народ? Ці можа ён стаць свабодным? Васіль Быкаў мяркуе гэтак:

*В.Быкаў:* А народ, як і сто гадоў таму, ва ўмовах несвабоды «цёмны і сьляпы, нібы крот». Але той факт усяляк хаваецца ад сьвету, у тым ліку і ад народу, бо той факт — складнік сьвятое праўды. А праўда, тым болей сьвятая, ёсьць набыткам свабоды і свабоднага грамадзтва. Іншым яна не патрэбная. І вось сытуацыя: без свабоды няма хлеба. Бяз хлеба немагчымая свабода, якой перш-наперш патрэбная праўда. Але праўда заўсёды прадукт свабоды. Падобна — зачараванае кола. Я ня ведаю, як і калі здолее разарваць яго Беларусь.

Васіль Быкаў разарваў тое зачараванае кола. У адным са сваіх даўнейшых інтэрвію пісьменьнік прыгадаў маральны прынцып Льва Талстога — «каб пераправіцца цераз раку ў прызначанае месца, трэба браць вышэй па цячэньні, бо калі прыцэльвацца на тое ж месца, куды трэба патрапіць, цячэньне зьнясе ніжэй». Гэтак жыве і піша Васіль Быкаў.

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ ПРАЧЫТАЎ АПОВЕСЬЦЬ «АБЛАВА» Ў ГАНОВЭРЫ

7 ліпеня 2001

***Юрась Барысевіч, Менск***

У Ганоўэры ў Доме мастацтва прайшла двухдзённая імпрэза, якая звалася «Літаратурнае падарожжа ў Беларусь».





Васіль Быкаў, які адмыслова прыехаў з Франкфурту, прачытаў слухачам аповесьць «Аблава», Алесь Разанаў дэклямаваў свае вэрсэты, бэрлінскі беларусіст Норбэрт Рандаў распавёў пра новыя тэндэнцыі ў беларускай літаратуры. Сярод слухачоў былі студэнты і выкладчыкі ўнівэрсытэту, дэпутаты ляндтагу, беларускія эмігранты.

## ШТО ЧАКАЕ БЕЛАРУСЬ НА НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ ПАСЬЛЯ ВЫБАРАЎ?

8 верасьня 2001

***Вячаслаў Ракіцкі, Прага***

«На прасторы паміж Польшчай і Расеяй будзе адбывацца палітычная клаўнада зь пераапрананьнем у камуфляж, мундуры з залатым шытвом і хакейную форму, — піша маскоўская газэта «Время МН». — Праўда, як гэта звычайна бывае, клаўнада будзе суправаджацца зьнікненьнем людзей».

«Аплаціць жа гэты спэктакль Расея. І грашыма, і сімтым больш сур'ёзным. З грашыма ўсё больш ці менш зразумела — рэспубліка як была, так і будзе чорнай дзіркай. Палітычнай жа платай за падтрымку Лукашэнкі ці — крый божа! — за аб'яднаньне зь Беларусьсю будуць вельмі напружаныя дачыненьні з будучымі нацыянальнымі рэжымамі ў гэтай краіне».
Такі погляд на наступствы магчымай перамогі на выбарах Лукашэнкі выказвае расейская газэта «Время МН» і дадае: «Што да Лукашэнкі, дык ён у гісторыю ўвайшоў адным: за гады ягонага кіраваньня Беларусь быў вымушаны пакінуць Васіль Быкаў».

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ ПРА ПАДЗЕІ Ў ЗША: «ГЭТА ЗЛО ВА ЎСЁЙ ЯГО СІЛЕ, ЯКОЕ МНОЖЫЦЬ І МАЦУЕ СУЧАСНАЯ ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ»

11 верасьня 2001

***Аляксандар Лукашук, Прага***

Раніцай быў атакаваны Ўсясьветны гандлёвы цэнтар у Нью-Ёрку.

— Гэта выклікае шок. Я думаю, ва ўсяго чалавецтва. Гэта жахліва, але тут трэба мець на ўвазе, што цывілізацыя рыхтуе або, можна сказаць, у сваёй патэнцыі мае такія жахлівыя рэчы. Гэтыя жахлівыя рэчы будуць, відаць, яшчэ больш жахлівыя ў сувязі з разьвіцьцём гэтай бяздумнай цывілізацыі. У такіх выпадках кажуць, што ў нашым жыцьці шмат зла ад бездухоўнасьці грамадзтва. Але мы бачым іншы бок справы — высокую духоўнасьць, пэўную духоўнасьць сілаў зла. Аказваецца, духоўнасьць можа служыць ня толькі дабру, але і злу. Тое, што мы бачым, гэта і духоўнасьць рэлігійная, духоўнасьць фанатыкаў. Яны не прызнаюць нашых сучасных цывілізаваных маральных каштоўнасьцяў. У гэтым вялікая хіба сучаснай цывілізацыі, якая не пераадолела яшчэ, відаць, наступстваў, цяжкіх наступстваў зла. Як мы ведаем, дабро абмежаванае ў сваіх якасьцях, сваіх магчымасьцях, а зло, як і дурната чалавека, бязьмежнае. Я ў гэты час думаю пра адэкватнасьць мераў. І не знаходжу гэтай адэкватнасьці. Я ня ведаю, што аб'яднаная супольнасьць можа прыдумаць у гэтым сэнсе. Па сутнасьці, гэта зло ва ўсёй яго сіле, якое множыць і мацуе сучасная цывілізацыя.

*— Васіль Уладзімеравіч, ці ня думаеце вы, што тут канфлікт цывілізацыяў? Цяпер ёсьць некалькі цывілізацыяў: адна — хрысьціянская, другая — мусульманская... Цывілізацыі Кітаю і Расеі...*





— Калі я гавару пра цывілізацыю, я маю на ўвазе нашую сучасную эўрапейскую цывілізацыю, да якой належыць, я думаю, Амэрыка. Ну, а больш абагульнена — хрысьціянскую цывілізацыю. Аказваецца, праўда ня толькі ў ёй. Кожная з цывілізацыяў мае сваю праўду. І гэтыя праўды не стыкуюцца — у гэтым канфлікт, сьмяротэльны канфлікт, які ўрэшце можа панішчыць жыцьцё на Зямлі.

*— Прыкладна такі цывілізацыйны канфлікт быў у аснове супрацьстаяньня падчас халоднай вайны, але яго ўдалося разьвязаць. Ці думаеце вы, што ўдасца разьвязаць і гэты канфлікт?*

— Канечне, калі чалавецтва захоча жыць, яно намовіцца на гэта, але я, напрыклад, ня бачу цяпер такіх магчымасьцяў. Я думаю, што ў гэтым годзе і ў гэты час такіх магчымасьцяў няма. Іх трэба шукаць — шукаць аб'яднанымі намаганьнямі ўсіх цывілізацыяў, а не скіроўваць змаганьне, як у нас і цяпер часта адбываецца, усярэдзіну кожнай цывілізацыі.

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ СУСТРЭЎСЯ З ВАЦЛАВАМ ГАЎЛАМ

12 верасьня 2001

***Вольга Караткевіч, Прага***

У Празе адбылася сустрэча Васіля Быкава з прэзыдэнтам Чэхіі Вацлавам Гаўлам; у сустрэчы браў удзел Сяргей Навумчык. Васіль Быкаў распавёў «Свабодзе» пра гутарку з чэскім прэзыдэнтам.

*С.Навумчык:* Сустрэча адбылася ў Прэзыдэнцкім палацы, прычым нас правялі праз працоўныя кабінэты Гаўла. Гэткае рэдка бывае — і, безумоўна, гэта пэўны знак павагі да Васіля Быкава. Паўгадзіны доўжылася

сустрэча, яна ня мела пратакольнага характару, гэта была размова двух пісьменьнікаў, двух палітыкаў і двух духоўных лідэраў. Спадар Гавэл заявіў, што ў Беларусі ўмацоўваецца вельмі аўтарытарны рэжым, які пагарджае ўсімі грамадзянскімі правамі. Гавэл сказаў, што ў мінулыя дзесяцігодзьдзі, за камуністамі, у Чэхіі таксама было нешта падобнае, але час мяняецца. Цяпер няма Варшаўскага блёку, цяпер няма Савецкага Саюзу, і ён спадзяецца, што сытуацыя ў Беларусі зьменіцца, хаця, — сказаў Гавэл, — Беларусь чакае доўгі этап грамадзянскага змаганьня. Я перадаю слова Васілю Ўладзімеравічу.

*В.Быкаў:* З усёй гэтай сустрэчы, можа быць, самае важнае было тое, што прэзыдэнт Чэхіі Гавэл знайшоў магчымасьць у гэты час, калі ўвага ўсяго сьвету прыкаваная вядома да чаго, — ён знайшоў час, каб пацікавіцца: што ж адбываецца ў Беларусі? Ці мае гэта нейкае значэньне ва ўсясьветным маштабе, прынамсі, у эўрапейскім маштабе і для Чэхіі? Адбылася гутарка. Гаворка была неафіцыйная, цёплая. Таму можна зразумець, што Гавэл цікавіцца найперш як прэзыдэнт эўрапейскай дзяржавы, а па-другое, як дэмакрат — што таксама вельмі важна. І для яго гэта, мабыць, важнае пытаньне — ці будзе ў Беларусі разьвівацца дэмакратыя, ці яна так і застанецца аўтакратычнай, дэспатычнай дзяржавай.

*В.Караткевіч:* Ці абмяркоўвалі вы са спадаром Гаўлам трагедыю, якая адбылася ў Амэрыцы?

*В.Быкаў:* Не, гэтай трагедыі мы не абмяркоўвалі. Гэтае абмеркаваньне мелася быць пазьней, там якраз сабраліся ў гэты час журналісты, даволі шмат. Мы гаварылі толькі пра Беларусь і пра стаўленьне да Беларусі з боку эўрапейскіх дзяржаўных і грамадзкіх структураў.

*В.Караткевіч:* Цяпер у эфіры мы абмяркоўваем падзеі





ў Амэрыцы. Як вы даведаліся, што там адбылося? Як вы ставіцеся да гэтага?

*В.Быкаў:* Мне яшчэ ў аэрапорце ўчора паведамілі людзі, што мяне сустракалі. Спачатку я думаў, што гэта нейкі выбух, а калі ўрэшце ўключыў тэлевізар, дык убачыў, што гэта сапраўды нешта жахлівае. Гэта нават не тэракт. Як амэрыканцы гэта кваліфікуюць — гэта атака на Амэрыку ў вельмі шырокім сэнсе. Важна высьветліць, адкуль гэтая атака, зь якога боку, хто вінаваты. Гэта першае, што прыходзіць у галаву кожнаму, хто знаёміцца з гэтымі падзеямі.

*С.Навумчык:* Я хацеў бы яшчэ дадаць, што сёньня ўвесь дзень Гаўла быў перакроены (ён таксама галоўнакамандуючы), але ён знайшоў час і не адмяніў сустрэчы з Васілём Быкавым.

## «БЕЛАРУСЬ — ГЭТА АНАМАЛІЯ»

14 верасьня 2001

***Аляксандар Лукашук і Сяргей Навумчык, Прага***

Гутарка з Васілём Быкавым па сустрэчы з Вацлавам Гаўлам.

*А.Лукашук:* Васіль Уладзімеравіч, гэта ня першы ваш прыезд у Прагу, але першы раз ён пачынаецца з сустрэчы з прэзыдэнтам Чэхіі. Калі ласка, колькі словаў пра сустрэчу.

*В.Быкаў:* Вядома, у часе сустрэчы прысутнічаў і чыста чалавечы элемэнт, але больш за ўсё прэзыдэнта цікавілі палітычныя праблемы.

*А.Лукашук:* Ці чыталі вы што-небудзь драматурга і публіцыста Вацлава Гаўла?

*В.Быкаў:* Пра літаратуру гаворкі не было. Я чытаў яго — канечне, вельмі няшмат, тое, што было перакладзена некалі на расейскую мову, і гэтага мала. Я ведаю Гаўла як дэмакрата, як дысыдэнта, як драматурга. І што для мяне таксама важна, ён цяпер уваходзіць у склад Эўрапейскай Рады ўсясьветнай арганізацыі пісьменьнікаў — называецца Міжнародны пісьменьніцкі парлямэнт, са штаб-кватэрай у Страсбуры. Так што нейкім чынам мы калегі — і так, здаецца, прэзыдэнт Гавэл пайменаваў мяне ў самым пачатку.

*А.Лукашук:* У Беларусі шмат людзей жадалі б мець магчымасьць таксама пайменаваць вас калегам ня толькі пісьменьніка Гаўла, але й прэзыдэнта Гаўла. Бо жаданьне бачыць Быкава прэзыдэнтам Беларусі неаднаразова выказваецца ў тых лістах, якія атрымлівае Радыё Свабода. Васіля Быкава падчас візыту ў Праскі Град суправаджаў Сяргей Навумчык. Сяргей, маеш даволі вялікі досьвед палітычных сустрэчаў на высокім узроўні. Чым адметная была гэтая сустрэча?

*С.Навумчык:* Тым, што яна адбылася. Падзеі ў ЗША скарэктавалі пляны кіраўнікоў усіх эўрапейскіх краінаў. Раніцай нам сказалі, што практычна ўвесь дзень Гаўла «паламаўся». Хаця прэзыдэнцкія паўнамоцтвы Вацлава Гаўла часам вызначаюць як прадстаўнічыя, але ён, паводле Канстытуцыі, зьяўляецца вярхоўным галоўнакамандуючым войскаў краіны, якая ўваходзіць у НАТО. Магчыма, якраз сёньня ён павінен быў выконваць гэтыя функцыі ў максымальным аб'ёме. І ўсё ж Гавэл сустрэчы не скасаваў, яна адбылася ў той час, як і было заплянавана, і цягнулася больш за паўгадзіны.
Нас правялі праз працоўныя апартамэнты прэзыдэнта — гэта рэдка бывае, звычайна сустрэчы з замежнымі гасьцямі адбываюцца ў нейкіх прадстаўнічых пакоях, і гэта, бясспрэчна, сьведчыць пра стаўленьне да Васіля Быкава. Мне падалося, што гэта была ня толькі гутарка двух калегаў-пісьменьнікаў ці двух палітыкаў, але і дзьвюх асобаў, чый духоўны ўплыў вельмі вялікі. Што значыць Быкаў для Беларусі — вядома; нагадаю, што Гавэл — маральны аўтарытэт ня толькі ў Чэхіі, але і Эўропе, і ў гэтым сэнсе мала хто з палітыкаў можа стаць побач зь ім.





*А.Лукашук:* Васіль Уладзімеравіч, што для вас было найбольш істотнае ў гутарцы з Гаўлам?

*В.Быкаў:* Прэзыдэнт Гавэл найбольш цікавіўся вынікамі нядаўніх прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі. Яго вынікі гэтыя, напэўна, зьдзівілі — як зьдзівілі яны і дэмакратыю ўсяго сьвету. І ён жадаў удакладніць, наколькі гэтыя лічбы адпавядаюць сапраўднасьці. Я, канечне, ня мог задаволіць гэтай цікавасьці прэзыдэнта, таму што я ня ведаю сапраўднай цаны гэтых лічбаў, як яны здабываліся. Ды, відаць, гэтага ня ведае ніхто — таму што жульніцкія і шулерскія прыёмы не раскрываюцца. А яны, безумоўна, мелі месца ў беларускіх выбарах, і гэтым вельмі занепакоеная і Чэхія, і навогул Эўропа. Былі таксама і іншыя пытаньні, галоўным чынам пра палітыку і эканамічнае разьвіцьцё Беларусі.

*А.Лукашук:* Калі казаць пра нейкае будучае супрацоўніцтва Беларусі з Чэхіяй, то ў якіх галінах, якія сэктары грамадзтва маглі б супрацоўнічаць?

*В.Быкаў:* Маглі б супрацоўнічаць пры добрай волі двух бакоў усе сэктары грамадзтва, якія толькі ёсьць у Беларусі і ў Чэхіі. З боку Чэхіі гэтыя воля і жаданьне ёсьць. Чэхі памятаюць сваё нядаўняе мінулае, як яны гэтулькі гадоў былі, па сутнасьці, пад акупацыяй адной вялікай звышдзяржавы, і таму яны вельмі адчуваюць патрэбу Беларусі ў дэмакратычным разьвіцьці. Але ёсьць рэчы, якія не даюць рэалізавацца такой магчымасьці. І гэта непакоіць Чэхію.

*С.Навумчык:* Безумоўным фактам ёсьць падтрымка беларускай апазыцыі чэскімі палітыкамі. За апошнія пяць

гадоў Чэхію наведалі і спатокаліся з кіраўніцтвам краіны і Зянон Пазьняк, і Генадзь Карпенка, і Станіслаў Шушкевіч, і Анатоль Лябедзька, і Вінцук Вячорка, і старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла. Калі сустрэча закончылася, Гавэл сказаў, што ён вельмі ўважліва сочыць за падзеямі ў Беларусі, нядаўна ён сустракаўся зь беларускімі студэнтамі; сказаў таксама, што многія беларусы знайшлі сабе ў Празе другі дом, маючы на ўвазе некалькі дзясяткаў чалавек, якія атрымалі ў Чэхіі палітычны прытулак.

*А.Лукашук:* Я хацеў бы вярнуцца да тэмы беларускіх выбараў. Вацлаву Гаўлу належыць выказваньне, якое зрабілася назвай ягонай кнігі — «Сіла бясьсільных». Вы, Васіль Уладзімеравіч, камэнтуючы тэрарыстычную атаку на ЗША, сказалі пра «абмежаванасьць дабра і ўсемагутнасьць зла». Іншымі словамі, вы з Гаўлам маеце супрацьлеглыя погляды на гэтую праблему. Ці не падаецца вам, што той лік, якім закончылася XX стагодзьдзе, усё ж на карысьць дабра і бясьсільных? Двойчы пацярпелі паразу ва ўсясьветных войнах агрэсары, якія пачыналі гэтыя войны. А пры канцы стагодзьдзя ў халоднай вайне пацярпела паразу і камуністычная Імпэрыя Зла. Ці не дае гэта падставаў для глябальнага аптымізму? Я пытаюся пра гэта ў дзень, калі Амэрыка толькі яшчэ разграбае руіны, пад якімі ляжаць ахвяры...

*В.Быкаў:* Я думаю, што ўсё ж такі для глябальнага аптымізму час яшчэ не надышоў. Яшчэ рана радавацца з нагоды таго, што XX стагодзьдзе скончылася безь вялікіх войнаў. Зло — яно перамяшчаецца, відаць, ва ўсясьветнай сфэры з аднаго полюсу на другі полюс. І калі выглядае, што яно пераможанае на адным полюсе, дык гэта ня значыць, што сапраўды яно зьнікла. Яно існуе, і яно будзе існаваць, відаць, пакуль будзе існаваць чалавецтва. Яно перасоўваецца, яно прымае іншую форму, іншае аблічча. Вы вось глядзіце: скажам, безумоўны набытак нашай цывілізацыі, хрысьціянскай





цывілізацыі — гэта дэмакратыя. І як гэтую дэмакратыю навучыліся выкарыстоўваць зусім іншыя сілы, сілы антыдэмакратыі! Здабылі такую магчымасьць апранацца ў мантыю дэмакратыі і праводзіць сваю антыдэмакратычную палітыку. А цяпер мы бачым, як з дэмакратычнага Захаду зло, дзе яно, можа быць, не знаходзіць ужо дастатковых сродкаў і спосабаў для сваіх справаў, яно перамясьцілася на арабскі Ўсход, у «трэці сьвет». Але яно ня зьнікла. І, я думаю, яно й ня зьнікне, бо гэтае зло, як, дарэчы, і дабро — яно проста ў прыродзе чалавека.

*А.Лукашук:* Упершыню у часе выбарчай кампаніі прэзыдэнта беларуская дэмакратычная апазыцыя паспрабавала выкарыстаць рэсурс намэнклятуры, паспрабавала аб'яднацца і пайсьці супраць рэжыму з прадстаўнікамі былога камуністычнага чыноўніцтва. Як вы ацэньваеце новую тактыку апазыцыі? Ці апраўданая была гэткая спроба?

*В.Быкаў:* Я думаю, што гэтая спроба ў дадзеных гістарычных умовах была ня тое што апраўданая, яна была адзіна магчымая. Таму што на каго ж яшчэ абаперціся апазыцыі? Нацыянальныя яе сілы аслабленыя, яны ня могуць быць апірышчам для апазыцыі, для дэмакратычнай апазыцыі. Таму было б разумна ўзяць і намэнклятуру, пэўную яе частку, якую можна было б выкарыстаць для дэмакратычных, нацыянальных мэтаў. Але трэба мець на ўвазе, што Беларусь выпала з нармальнага, натуральнага гістарычнага эўрапейскага працэсу. Беларусь — гэта анамалія. І таму звычайныя меркі, якія сталі стандартамі для эўрапейскай дэмакратыі, альбо нават для эўрапейскай гісторыі, — яны ня дзейнічаюць у Беларусі. Таму што хада беларускай гісторыі звыродлівая, і невядома, як яе вярнуць на натуральны шлях. Мне думаецца, што толькі ў сям'і эўрапейскіх народаў — будучыня Беларусі. Але вось менавіта шлях

туды — цяжкі і амаль што немагчымы, ва ўсялякім разе, у агляднай будучыні.

*С.Навумчык:* На сустрэчы з Гаўлам, кажучы пра вынікі выбараў у Беларусі, вы сказалі, што Лукашэнка апусьціў грамадзтва яшчэ на пяць гадоў у стан агульнай дэпрэсіі. Ці ёсьць нейкае выйсьце з гэтага стану? Дэпрэсія — ня самы лепшы стан для грамадзтва, якое жадае неяк разьвівацца. Для палітыкаў гэта навогул недапушчальны стан, бо тады няма дзеяньняў, няма пэрспэктывы. Што магло б даць выйсьце з грамадзкай дэпрэсіі?

*В.Быкаў:* Выхад мог бы быць дасягнуты вось менавіта толькі працэсам выхаду. Калі б адбываліся нейкія дзеяньні ў кірунку да выйсьця. Але ў Беларусі так не атрымліваецца. Рэч у тым, што гэта толькі некаторым павярхоўным назіральнікам здаецца, што можна гістарычны працэс перапыніць і перачакаць нейкі час, а пасьля — дагнаць. У прыродзе няма такой стабільнасьці. Нават калі мы будзем мець пэрыяд застою, дык гэта ня значыць, што беларуская гісторыя спынілася. Яна ў гэты час каціцца назад. Выйсьце для яе — наперадзе, а яна каціцца назад. Таму інакш як самагубства я не магу гэта расцаніць.

*А.Лукашук:* Цяжка казаць пра паводзіны выбарцаў ці ўжываць такія неакрэсьленыя, ня вельмі навуковыя тэрміны як «народ». Але можна казаць пра сэгмэнты грамадзтва. У інтэрвію нашаму радыё на раніцу пасьля выбараў Анатоль Лябедзька назваў адну рэч, якая яго найбольш уразіла ў часе гэтых выбараў. Яго не зьдзівілі ні паводзіны Лукашэнкі, ні сілавых міністраў, ні людзей, якія падлічвалі галасы, але яго зьдзівілі паводзіны інтэлігенцыі. Рэктары ўнівэрсытэтаў, якія не далі студэнтам выявіць волі, фактычна ўдзельнічалі ў фальсыфікацыі гэтага галасаваньня. Яны проста не далі студэнтам галасаваць у той дзень. Роля і адказнасьць





інтэлігенцыі — што ад яе засталося ў Беларусі, на ваш погляд?

*В.Быкаў:* Пра інтэлігенцыю шмат напісана і сказана, у тым ліку і пра беларускую інтэлігенцыю. Я думаю, што ў цяперашніх умовах нават няма падставаў ужываць гэты тэрмін. Калі ж казаць пра ВНУ, пра рэктараў нашых унівэрсытэтаў, дык гэта парадокс — людзі не садзейнічаюць разьвіцьцю грамадзтва, не спрыяюць адукацыі, гэта проста «люди охранки». І ўся іх дзейнасьць, ва ўсялякім разе, вельмі шмат каго зь іх, скіраваная на ўмацаваньне дыктатуры. Тое самае можна сказаць (хаця гэта і ня тэма нашай размовы) пра праваслаўную царкву. У наш час вельмі многія інстытуцыі набылі адваротныя якасьці. Яны зьмянілі «плюс» на «мінус». Яны з дабра (якім былі ў нашай гісторыі) пераўтварыліся ў зло. Хаця, грамадзкасьць гэтага не разумее, і гэта вельмі крыўдна.

*С.Навумчык:* Пасьля выбараў моладзь, якая вучыцца ва ўнівэрсытэтах, іншыя маладыя заяўляюць, што давучацца і потым зьедуць з «гэтай краіны». Ужо некалькі гадоў вялікі конкурс у Інстытут замежных моваў — і не таму, каб як ува ўсіх цывілізаваных краінах, ведаць замежныя мовы, а каб проста знайсьці сабе месца ў той жа Амэрыцы ці ў Эўропе. Мы пакуль што ня можам казаць пра паток эміграцыі пасьля выбараў, але можна меркаваць, што эміграцыя павялічыцца. Як вы ставіцеся да гэтага працэсу?

*В.Быкаў:* Якраз у размове з Гаўлам закранаіася і гэтая праблема. Будзе масавы сыход зь Беларусі на Захад — як у свой час адбываўся сыход інтэлектуалаў з Расеі ў Амэрыку. Што ж, я лічу, што гэта ўвогуле іх права. І нельга патрабаваць ад моладзі, каб яна ахвяравала сваім жыцьцём ці, скажам, кар’ерай дзеля звыродлівых мэтаў рэжыму. Я яшчэ ў пачатку нашай беларускай дыктатуры зьвяртаўся зь лістом да прэзыдэнта Гаўла, прасіў

яго прыгадаць традыцыі буржуазнай Чэхіі, рэспубліку Масарыка, калі шмат якія беларусы, асабліва з Заходняй Беларусі, ехалі сюды, у Чэхію, дзе знаходзілі адукацыю. Карлаў унівэрсытэт стаў філіяй беларускай вышэйшай школы. І таму вельмі разумна і вельмі хораша робіць Чэхія, яе прэзыдэнт, яе кіраўніцтва, калі дае прытулак і магчымасьць набыць адукацыю нашай няшчаснай беларускай моладзі, лёс якой складаецца гэткім антычалавечым чынам на радзіме.

*А.Лукашук:* Ня толькі Чэхія, але і Польшча дае магчымасьць беларускай моладзі вучыцца. Днямі ў інтэрвію выданьню «Gazeta Wyborcza» Марэк Карп, дырэктар польскага Цэнтру ўсходніх дасьледаваньняў, зьвязаў будучыню Беларусі менавіта з моладзьдзю, якая, зь ягонага гледзішча, прынцыпова розьніцца ад пакаленьняў, выхаваных у СССР. Але вось калі яго запыталіся, што адбудзецца зь беларускай культурай і мовай, ці ёсьць шанец стрымаць русіфікацыю Беларусі, ён адказаў: «На гэты момант — ужо не. Калі б першым прэзыдэнтам стаў Зянон Пазьняк і ён меў бы грошы на школьніцтва, магчыма, і ўдалося б стрымаць русіфікацыю. Але і тое толькі ў тым выпадку, калі б Пазьняк прымусіў людзей вывучаць беларускую мову, так, як Сталін прымусіў беларускіх сялянаў, якія валодалі толькі беларускай мовай, пасылаць іх на вучобу ў расейскамоўныя школы. Але цяпер ніводзін урад у Менску ня пойдзе на прымусовую беларусізацыю. Беларусам прасьцей быць у абшарах расейскай мовы, мастацкай ці тэхнічнай літаратуры, чым ствараць усё ад пачатку да канца». Што вы можаце сказаць з нагоды ацэнкі польскага дасьледніка Марэка Карпа?

*В.Быкаў:* Для мяне (ды мяркую, што ня толькі для мяне, а і для многіх беларусаў) абсалютна выразнай робіцца адна аксіёма. Яна заключаецца ў тым, што моўная праблема беларусаў можа быць вырашаная толькі ва ўмовах сувэрэнітэту дзяржавы. Калі будзе ў нас дзяржава





— ня трэба будзе ніякай прымусовасьці. Уся культура сама пяройдзе на беларускую мову. Тое самае і моладзь — гэта ўсё пакладзецца ў абсалютна натуральнае рэчышча гістарычнага разьвіцьця. Мова ў сувэрэннай дзяржаве будзе запатрабаваная — яе ня трэба будзе навязваць, яна будзе патрэбная ўсім, патрэбная нацыі. А калі ж гэтага ня будзе, калі Беларусь стане Паўночна-Заходнім краем Расейскай імпэрыі, дык я думаю, што менавіта ў гэты час беларуская мова скане канчаткова. Кажуць, што праз стагодзьдзі яна захавалася; гэта праўда, але раней быў генэратар нацыянальнай мовы — сялянства, якое карысталася сваёй нацыянальнай мовай. Цяпер сялянства зьнікла, у Беларусі няма сялянства. Нацыянальная інтэлігенцыя таксама зьнікае. Ну, а горад заўсёды быў носьбітам імпэрскай мовы. Імпэрскай мовай у нас зьяўляецца расейская мова.

*С.Навумчык:* Васіль Уладзімеравіч, вы прыляцелі ў Прагу з Франкфурту-на-Майне, дзе другі год жывяце, і нашым слухачам будзе цікава даведацца — як вам там жывецца, як вы пачуваецеся?

*В.Быкаў:* Жывецца ў параўнаньні з маёй радзімай, канечне, добра — у матэрыяльным сэнсе. І палітычная атмасфэра Нямеччыны вельмі адрозьніваецца ад таго, што мы маем на радзіме. Некаторыя засьцярогі маіх землякоў зыходзяць, відаць, з таго меркаваньня, што Нямеччына нядаўна была фашыстоўскай краінай, і што там фашыстоўская ідэалёгія мае нейкае значэньне ў масавай сьвядомасьці. Я скажу, што Нямеччына свой фашызм дарэшты зьнішчыла, яна яго выжыла. І калі ёсьць нейкія рэцыдывы, яны не застаюцца без увагі. Калі летась у Нямеччыне быў забіты адзін арабскі студэнт, дык увечары, у выходны дзень, на вуліцы Бэрліна ў цэнтры прыйшло 200 тысяч дэманстрантаў супраць фашызму. Гэта, канечне, непрапарцыйны маштаб пратэсту, але можна сабе ўявіць, як рэагуе на сваё нядаўняе мінулае нямецкае грамадзтва. У нас, безумоўна, такое проста

немагчыма. Таму што ў нас дагэтуль камуністы ходзяць пад чырвонымі сьцягамі з партрэтамі Леніна-Сталіна, а наперадзе іх ідзе прэзыдэнт Лукашэнка.

## «СЬЦЯГ І ГЕРБ НЕ СТВАРАЮЦЦА ПАД КОЖНЫ ПАЛІТЫЧНЫ МОМАНТ»

19 верасьня 2001

Дзесяць гадоў таму, 19 верасьня 1991 году, Вярхоўны Савет Беларусі прыняў тры важныя законы: пра дзяржаўны герб, сьцяг і зьмену назвы дзяржавы. Нацыянальным гербам была абвешчаная гістарычная «Пагоня», нацыянальным сьцягам стаў бел-чырвона-белы сьцяг, а БССР была перайменаваная ў Рэспубліку Беларусь.

*В.Быкаў:* Вядома, што нацыянальная сымболіка — атрыбут нацыі. Сьцяг і герб не ствараюцца пад кожны палітычны момант, ці пад пэўнага ўладатрымальніка — яны вечныя і спрадвечныя. Калі ж на пачатку трэцяга тысячагодзьдзя ад Нараджэньня Хрыстовага ў якой нацыі няма гэтай сымболікі, дык няма і нацыі, і наўрад ці ўжо будзе. Шчасьце беларусаў у тым, што гэткая сымболіка ў нас ёсьць, яна дайшла да нас ад сівой даўніны. Але яе ў нас скралі, нахабна абрабавалі нацыю, што страшней за эканамічны рабунак і аналягічна нацыянальнаму генацыду. Ужо адно тое, ня кажучы пра рабунак свабоды, робіць рабаўнікоў злачынцамі — злачынцамі перад нацыяй. Нават калі яны спрабуюць падмяніць, падкласьці замест сьвятыні фальшыўку і патрабаваць да яе павагі, як да сьвятыні. Гэта ўжо падвойнае злачынства — перад нацыяй, перад гісторыяй, перад хрысьціянскай маральлю, таксама абрабаванай рабаўнікамі.





Цяпер, калі вялікае няшчасьце спасьцігла амэрыканскі народ, сьвет убачыў, як кінуліся амэрыканцы да свайго зорна-паласатага сьцягу. Сымбалічна, што менавіта ў тым сьцягу пазнаюць і знаёмыя элемэнты гнанай беларускай сьвятыні. У тым і наша спадзеўка, наша няхай сабе і яшчэ ня надта ўсьвядомленая нацыяй надзея.

## «НА БЕЛАРУСКІМ СТЭНДЗЕ КНІЖНАГА КІРМАШУ Ў ФРАНКФУРЦЕ ЗДАЛЁК ВІДАЦЬ ПАРТРЭТ АДНАГО ВЕЛЬМІ ЗНАЁМАГА ЧАЛАВЕКА»

12 кастрычніка 2001

***Вольга Караткевіч, Прага***

У Франкфурце адкрыўся штогадовы кніжны кірмаш. 11 кастрычніка прачытаць перад публікай свае творы быў запрошаны Васіль Быкаў.

*В.Быкаў:* Сёлета гэтая дзея адбываецца пры надзвычайных захадах бясьпекі. Па-першае, прапускаюць туды праз аўтаматыку з магнітнымі карткамі. Абавязкова даглядаюць увесь багаж.
Кірмаш адбываецца пад эгідай Грэцыі, найпаўней прадстаўленыя грэцкія выдавецтвы і грэцкая літаратура — натуральна, на розных мовах, але выробленая ў Грэцыі. У наступным годзе будзе дамінаваць Латвія, а ў 2003 годзе — Расея. Ну, а беларускі год яшчэ ня вызначаны. Шмат розных фірмаў прадстаўленыя ў вялізным, бы аэрапорт, павільёне, сярод якіх вылучаюцца памерамі стэндаў чэскія выдаўцы, вугорскія і, натуральна, грэцкія. Расейскія таксама добра прадстаўленыя. Беларускі аддзел, можа быць, самы сьціплы — на ўзроўні Альбаніі: невялічкі закуток, дзе на палічках стаіць некалькі кніжак мастацкай літаратуры, але найбольш прадстаўленая дзіцячая літаратура. Самая вялікая адмет-

насьць у тым, што на гэтым стэндзе здалёк відаць партрэт аднаго вельмі знаёмага чалавека — прэзыдэнта Беларусі. Нідзе, на ніводным стэндзе (а я абышоў увесь кірмаш) няма такой экспазыцыі з партрэтам, як у Беларусі. Можна падумаць, што ён адзіны на ўсю Эўропу. Наведнікаў вельмі мала. Па вузкіх праходах-калідорах праходзяць толькі дзе-нідзе. Гэта зразумела, чалавечая сьвядомасьць сёлета захопленая іншым. Учора ў павільёне, дзе раней было вар'етэ, былі літаратурныя чытаньні. І я чытаў зь перакладнікам мае прыпавесьці і таксама ўрывак з аповесьці «Абэліск». Пасьля чытаньня мне задавалі пытаньні.

*— А якія былі пытаньні пра Беларусь? Ці прысутная на чытаньнях публіка паінфармаваная пра тое, што адбываецца? Нямецкі друк цяпер шмат піша пра Беларусь.*

*В.Быкаў:* Я адчуў, што публіка мала інфармаваная. Я заўважыў, што прыкладна траціна з прысутных была расейскамоўная — гэта людзі, якія прыехалі пераважна з Расеі. Яны, канечне, выдатна разумелі становішча, ну і часта, як гэта бывае на такіх імпрэзах, яны спрабавалі вызначыць стаўленьне аўтара да тых ці іншых палітычных асобаў або тых ці іншых рэжымаў. Там удзельнічалі некаторыя маскоўскія літаратары, яны цікавіліся нейкімі чыста літаратурнымі пытаньнямі — скажам, маім стаўленьнем да нямецкай літаратуры або станам нямецкай мастацкай літаратуры цяпер. Многіх цікавіла, чаму я, беларускі пісьменьнік, знаходжуся ў Нямеччыне, чаму я тут ужо другі год.





## КУРАПАТЫ: НАШЧАДКІ КАТАЎ СУПРАЦЬ НАШЧАДКАЎ АХВЯРАЎ

13 кастрычніка 2001

***Аляксандар Лукашук, Прага***

Улетку 1988 году ў газэце «Літаратура і мастацтва» зьявілася адна з самых значных публікацыяў беларускай гісторыі XX стагодзьдзя — артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці». Ужо 13 гадоў ідзе барацьба за Курапаты. З аднаго боку — нашчадкі тых, хто расстрэльваў, з другога — нашчадкі тых, каго расстрэльвалі. У публікацыі, якую мужна зьмясьцілі ў сваім выданьні кіраўнікі рэдакцыі Мікола Гіль і Анатоль Вярцінскі, быў яшчэ адзін аўтар — Васіль Быкаў, які напісаў прадмову.

*Аўтарытэт і вядомасьць Быкава праломвалі сьцяну страху, баранілі аўтараў і газэту і адначасна надавалі публікацыі ўсясьветную значнасьць. Я пазваніў у Франкфурт-на-Майне і папрасіў аўтара прадмовы згадаць, што яго тады ўразіла найбольш у старонках рукапісу, якія перадаў яму Пазьняк. Гаворыць Васіль Быкаў:*

— Канечне, уразіла ня тое, што ў той час — 1930-я гады — адбываліся рэпрэсіі й вынішчэньне людзей, бо гэта было агульнавядома. Я якраз у той час на ўласную ініцыятыву займаўся рэабілітацыяй шмат якіх рэпрэсаваных пісьменьнікаў, дзеячоў культуры, меў справу зь Вярхоўным Саветам. Усё гэта было вядома. Невядома было толькі тое (і гэта было адкрыцьцём Пазьняка і Шмыгалёва), што ў такіх маштабах рэпрэсіі, па сутнасьці — вынішчэньне, адбывалася ў ваколіцах Менску, што ўсё гэта пахавана зусім блізка, за кальцавой дарогай. Вось гэтага ніхто ня ведаў. І вось праз некалькі дзесяцігодзьдзяў тое ўпершыню адкрылася, стала вядома грамадзкасьці.

*— Васіль Уладзімеравіч, неўзабаве пасьля публікацыі была створаная дзяржаўная камісія ў справе Курапатаў, і ў яе складзе былі прадстаўнікі тагачаснага кіраўніцтва Беларусі, у першую чаргу партыйнага кіраўніцтва Беларусі, але таксама і ўрадавага. Былі ў яе складзе і вы. Скажыце, як прадстаўнікі тагачаснай намэнклятуры ўспрымалі сваю працу ў камісіі?*

— Старшынёй камісіі, наколькі я памятаю, была спадарыня Мазай. Яна тады была віцэ-старшынёй ураду. Адносіны былі ўвогуле насьцярожаныя, бо ўсё ж розныя людзі і па-рознаму да гэтага адносіліся. Я памятаю, што ў гэтую камісію ўваходзілі і генпракурор Тарнаўскі, і таксама старшыня КГБ. Памятаю, аднойчы мы засядалі нават у памяшканьні КГБ, у кабінэце менавіта старшыні КГБ, які нам даказваў, што дакумэнтаў ніякіх няма, усё зьнішчана, і таму нічога, што прасьвятліла б тыя факты, знайсьці немагчыма. Тым ня менш, большасьць камісіі тады прыняла рашэньне пачаць раскопкі, якія і былі распачатыя пад кіраўніцтвам археоляга (як тады гаварылі) Зянона Пазьняка.

*— Неўзабаве пасьля таго, як праўда пра Курапаты была пацьверджаная, была створаная камісія ў справе ўвекавечаньня памяці ахвяраў рэпрэсіяў, і вы таксама бралі ўдзел у той камісіі. Маё пытаньне такое — чаму не ўдалося паставіць помніка ў Курапатах?*

— Вельмі проста. Па-першае, мяняўся час. Пасьля першага вялікага спалоху камуністы апамяталіся і зразумелі, што яны ня толькі могуць захавацца, але і ўзяць рэванш. Сапраўды, тады была створаная камісія пераважна зь дзеячоў мастацтва. Яе ўзначальваў мастак Васіль Шаранговіч. У якасьці прапановы было прадстаўлена ці не 15 праектаў помніка, якія разглядаліся, абмяркоўваліся. Яны былі розныя па мастацкіх якасьцях, але нешта там адабраць можна было. Аднак жа я вельмі хутка зразумеў, што гэты помнік з удзелам прынамсі гэтай камісіі пастаўлены ня будзе. Таму што сама камісія, і асабліва яе старшыня — хоць ён аб гэтым не гаварыў — адчулі на сабе прэсінг партыйнага кіраўніцтва, якое сабатавала гэтае ўвекавечаньне. Для гэтага выкарыстоўваліся розныя сродкі. Найперш сьцьвярджалася, што мастацкія якасьці праектаў недасканалыя, што трэба ўдасканальваць, перарабляць, трэба, маўляў, адкласьці на наступны раз, прычым гэтыя адкладаньні рабіліся ўсё больш доўгімі. І ўрэшце ўсё і пайшло як вада ў пясок.

*— Апроч камісіяў, пра якія расказвае Васіль Быкаў, існавала яшчэ адна — камісія Вярхоўнага Савету, куды таксама быў абраны і я, як прадстаўнік «Мартыралёгу Беларусі». У асноўным мы займаліся справамі рэабілітацыі, кампэнсацыяў, ініцыявалі перагляд справаў. Але аднойчы зайшла гаворка пра Курапаты. Напярэдадні я быў у курапацкім лесе і бачыў сьвежыя кастрышчы, пустыя бутэлькі, бляшанкі і выступіў з прапановай як найхутчэй паставіць агароджу вакол Курапатаў, як гэта звычайна робіцца на вясковых могілках. Ніхто ня быў супраць, пачалі абмяркоўваць дэталі, вырашылі даручыць гэтую справу Васілю Шаранговічу, які таксама быў у той камісіі Вярхоўнага Савету. Тады ён выступіў і сказаў, што спатрэбіцца недзе паўгоду — як мінімум месяцы тры, каб распрацаваць праект агароджы. Для мяне гэта быў сапраўдны шок — тры месяцы на тое, што любы вясковы дзядзька зробіць за паўдня!.. Тыя тры месяцы цягнуцца ўжо дзясятак гадоў. Як сёньня Васілю Быкаву бачыцца адказ на пытаньне — хто вінаваты ў тым, што сёньня робіцца з Курапатамі?*

— Найперш, канечне, вінаватая ўлада. Таму што ўлада па сутнасьці сваёй была камуністычная з самага пачатку адкрыцьця Курапатаў і працягвае цяпер быць — яна ня можа пайсьці на прызнаньне злачынстваў камуністычнай улады ў 1930-я гады. І гэта нягледзячы на тое, што прадстаўнікі той улады, якія былі ў камісіі

афіцыйна, пацьвердзілі факт гэтага ўдзелу ў вынішчэньні людзей. Вядома, напрыклад, што генэральны пракурор Беларусі Тарнаўскі са сьледчымі выдаў у Маскве кніжку пра Курапаты, дзе вельмі дакладна, выкарыстоўваючы вялізны фактычны матэрыял, у тым ліку і вынікі раскопак, і сьведчаньні сьведкаў (нават тых сьведкаў, якія ўдзельнічалі ў расстрэлах — былі і такія!) — гэта ўсё там прыводзілася, — паказаў праўду пра Курапаты. Ну, і пасьля ўлады зрабілі выгляд, што нічога гэтага няма, пачалі аспрэчваць сам факт адкрыцьця гэтага злачынства. Тады стала зразумела, што яны ня хочуць прызнаць, прынамсі, узяць на сябе адказнасьць, бо прыйшлося б адказваць, калі не пэрсанальна, дык камуністычнай партыі, якая тады кіравала, а таксама органам дзяржаўнай бясьпекі — яны адчувалі адказнасьць за свой удзел у гэтым генацыдзе. Таму яны не маглі пагадзіцца, каб прызнаць гэта ўсё. Я ведаю, што тады некаторыя зь сяброў гэтай камісіі выйшлі афіцыйна са складу камісіі, надрукавалі свае асобныя меркаваньні, як напрыклад «гераіня» беларускага народу Восіпава, якая першая пачала гуляць у інтарэсах органаў бясьпекі 1930-х гадоў і цяперашніх. Ну і некаторыя іншыя... І вось пачалі ствараць новыя камісіі, ініцыяваць новыя раскопкі... Гэта было зроблена для таго, каб праўду пра Курапаты схаваць назаўсёды. Ну а цяпер, як бачым, яе канчаткова закопваюць пад асфальт.

*— Васіль Уладзімеравіч, хіба нас ня можа зьдзівіць пазыцыя беларускіх уладаў — ні мінулых, камуністычных, ні цяперашніх іх спадкаемцаў... Але вось пазыцыя грамадзкасьці — ці ёсьць падставы для папрокаў на адрас беларускай грамадзкасьці?*

— Ну, грамадзкасьць можна папракаць, канечне. Але гэтыя папрокі, як заўсёды, будуць павісаць у паветры. Бо што такое грамадзкасьць? Гэта нешта вельмі няпэўнае... Апроч таго, тут справа яшчэ ў адным моманце, а менавіта ў адносінах грамадзкасьці да Беларускага Народнага Фронту і, у прыватнасьці, да яго лідэра Зянона Пазьняка. Паколькі менавіта ён быў ініцыятарам адкрыцьця Курапатаў, то яго праціўнікі і палітычныя апанэнты не маглі пагадзіцца на яго авангардную ролю ў гэтай справе. Магчыма, яны хацелі самі ўдзельнічаць у гэтым, або наадварот — замаўчаць.





*— Што можа азначаць для беларускай нацыі страта Курапатаў?*

— У маральным сэнсе страты ня будзе. Таму што незалежна ад таго, ці будзе ў Курапатах пампэзны ці шыкоўны мэмарыял, ці яны будуць закатаныя пад асфальт, усё-ткі праўда ўжо выйшла з падзямельля, яна жыве, і ў гісторыі Беларусі яна ўжо прапісаная навек. Але было б вельмі добра, каб гэтая праўда знайшла нейкае матэрыяльнае ўвасабленьне, каб людзі бачылі нейкі знак, сымбаль таго, што там адбывалася ў 1930-я гады, і задавалі сабе пытаньне — хто вінаваты? Але, відаць, гэтага ня будзе, і ў тым страта для грамадзтва. Але для гісторыі Беларусі яны знойдзеныя і ўпісаныя ў яе, я думаю, навек.

*— Кожны сам стварае сабе помнік — будаўніцтва дарогі праз Курапаты стане помнікам і ўладам Беларусі на мяжы стагодзьдзяў. Чым лепшую дарогу яны пабудуюць, тым даўжэй яна будзе нагадваць пра вечную спрэчку ахвяраў і катаў.*

## «НА ДЗЯДЫ Я ХАЦЕЎ БЫ ДАЛУЧЫЦЦА ДА ТЫХ, ХТО ПАСТАВІЦЬ СЬВЕЧКІ Ў КУРАПАТАХ»

2 лістапада 2001

На тэлефоннай сувязі ў Франкфурце-на-Майне — народны пісьменьнік Васіль Быкаў.

— Старасьць — гэта, канечне, стан адзіноты. Як казаў адзін вельмі добры расейскі пісьменьнік: «Застаўся адзін, бо сябры разышліся па магілах». Гэта сапраўды так — у жыцьці застаецца ўсё менш, затое ў магілах усё большае. Але большае таксама і ў памяці. Што да мяне, дык памяць мая шмат дзе: і ў ваенных магілах, і ў пасьляваенных. Нядаўна я наведаў пратэстанцкі храм у Франкфурце — царкву Сьвятога Мікалая, дзе паставіў сьвечкі па двух Мікалаях, памерлых у Беларусі. Гэта па памерлым у мінулым годзе маім брату Мікалаю, а таксама па нядаўнім нябожчыку Мікалаю Матукоўскім. Я хацеў бы сказаць, што апрача дарагіх магілаў блізкіх, для беларусаў ёсьць яшчэ ўсеагульны нацыянальны сакральны сымбаль — Курапаты. Хаця сымбалі ў нас не ў пашане, яны традыцыйна бурацца кожнага часу, кожнае стагодзьдзе — і касьцёлы, і цэрквы, і могілкі, але затое ёсьць літаратура, ёсьць пісьменнасьць, гістарыяграфія, дзе ўсё гэта надзейна захоўваецца. І нават у гэтым сэнсе я хацеў бы сказаць, што і Курапаты, незалежна ад таго, ці будуць яны нейкім чынам ушанаваныя ўладамі — што, канечне, вельмі сумнеўна — тым ня менш, яны ўжо ёсьць. Ёсьць сакральны вялікі сымбаль нацыянальнай гісторыі Беларусі. Таму сёньня я хацеў бы далучыцца да тых, хто паставіць сьвечкі ў Курапатах.





## «УСПАМІНЫ САВЕЦКІХ ГЕНЭРАЛАЎ — ФАЛЬСЫФІКАЦЫЯ ВАЙНЫ»

3 студзеня 2002

***Аляксандар Лукашук, Прага***

Гутарка з Васілём Быкавым пра мэмуарную літаратуру.

*— Васіль Уладзімеравіч, падчас сустрэчаў з чытачамі, падчас інтэрвію з журналістамі вы заўжды адмаўляліся ад напісаньня сваіх мэмуараў, заўсёды даволі неахвотна на гэтую тэму гаварылі. Што ў гэтым жанры вас не задавальняе, што вы думаеце пра гэты жанр у беларускай літаратуры?*

— Я даволі высокай думкі пра гэты жанр. Асабліва ў наш час гэты жанр літаратуры зрабіўся самы папулярны і самы распаўсюджаны: друкуюць мэмуары і выдатных людзей, і мастакоў, і літаратараў, і ня толькі. Гэтая тэндэнцыя была заўважная ў савецкай літаратуры даўно. Памятаеце, колькі пасьля вайны выходзіла мэмуараў военачальнікаў, генэралаў, маршалаў? Іх мэмуары пісалі вайсковыя журналісты. Гэта значыць, пісалі за іх брыгады спэцыялістаў ад літаратуры, ад журналістыкі — і там, канечне, апроч казёншчыны, цяжка было што-небудзь знайсьці. У тым ліку ў такіх аўтараў, як, скажам, Жукаў або нават Грамыка. Я некалі перачытаў два тамы мэмуараў Грамыкі, якія адносяцца да 1930-х гадоў. І што вы думаеце — там я не знайшоў ніводнага слова пра тое, што адбывалася ў краіне: пра гэтыя рэпрэсіі, пра пасадкі — нічога гэтага няма, вось такія былі мэмуары. Вядома, гэта не мэмуары, не літаратура.

*— А што гэта? Як бы вы вызначылі гэты фэномэн: што, якая задача і мэты?*

— Гэта фальсыфікацыя гісторыі. Інакш да гэтага ставіцца нельга. Менавіта фальсыфікат, які выдаецца, як у таго Оруэла, каб заднім чыслом выправіць былое, выправіць гісторыю.

*— Гэтыя людзі, той жа Грамыка ці Жукаў — яны выконвалі нейкую ідэалягічную звышзадачу? Ці яны проста нічога сабой не ўяўлялі і не маглі гэтага запомніць? Якая тут роля індывідуальнасьці? Гэта ж індывідуальная справа — мэмуары, ці ня так?*

— Гэтак здаецца, і ўвогуле павінна быць у ідэале, што мэмуары — індывідуальная справа. Але ў той час, пры савецкай уладзе, у савецкай краіне, відаць, улада не разглядала мэмуарыстыкі як індывідуальнай, прыватнай справы. Гэта была справа калектыўная, дзяржаўная, і гэта відаць хоць бы з таго, як выдавецтвы да іх ставіліся, як іх рэдагавалі, як выпраўлялі ў сьвет. Я чытаў мэмуары многіх военачальнікаў, і калі я параўноўваў свой уласны вопыт, я бачыў, што там столькі няпраўды — за выключэньнем, можа, аднаго генэрала Стучэнкі, яго ўспаміны я прачытаў і знайшоў там шмат праўды пра вайну, але і сам Стучэнка, і яго мэмуары некуды сышлі — не заўважныя ні ў літаратуры, ні ў нашай гісторыі.

*— Васіль Уладзімеравіч, вядома з гісторыі літаратуры, што дакладныя прыватныя ўспаміны становяцца вельмі часта грунтам для стварэньня літаратурных твораў. Клясычны прыклад — «Вайна і мір» Талстога, які ў значнай ступені пабудаваны на дзёньнікавых мэмуарных запісах ягоных сваякоў ды іншых удзельнікаў вайны 1812 году. Вы ня ўдзельнічалі ў партызанскім руху ў Беларусі. Ці карысталіся вы велізарнай партызанскай мэмуарнай літаратурай, якая выдавалася ў Беларусі дзяржаўнымі выдавецтвамі? Што вы пра гэтую літаратуру, пра гэтыя ўспаміны думаеце?*

— Так, я што-нішто чытаў з партызанскай мэмуарыстыкі, але я скажу — зь яе я амаль нічым не пакарыстаўся, абсалютна. Таму што мяне ўсе гэтыя апэратыўныя справаздачы военачальнікаў партызанскіх не цікавілі. Мяне цікавіла зусім іншае — галоўным чынам гэта псыхалёгія вайны, таго часу, псыхалёгія партызанкі. А вось гэтага якраз не было. Некаторыя дэталі, падрабязнасьці, якіх я ня ведаў з уласнага вопыту, я браў дзе было магчыма, з нагоды: з размоваў зь некаторымі партызанамі, радавымі найбольш, зь якімі я спатыкаўся і ў сябе на радзіме на Вушаччыне, і на Гарадзеншчыне. Я ўбачыў, што партызанская вайна ў іх зусім не такая, як афіцыйна. Яскравы прыклад — я прывяду старонку вушацкага прарыву, зь якога зрабілі вялікую перамогу ў партызанцы ў Вялікай Айчыннай вайне.

*— І там жа ж помнік стаіць, «Прарыў?»*

— Помнік грандыёзны, дарэчы, даволі бяздарны, яго зрабіў беларускі скульптар Анатоль Анікейчык. А я ведаю, як гэта ўсё там адбылося, я сам з тых мясьцінаў. І калі я туды прыяжджаў, мне паказвалі, мне расказваў не адзін чалавек, а многія. Расказвалі, як усё гэта адбылося, які гэта быў жахлівы разгром. Дык вось, як разгром — ён абсалютна закрэсьлены, гэта яшчэ невядома, застаўся толькі трыюмф прарыву, якога не было.

*— Васіль Уладзімеравіч, я разумею што тыя мэмуары не адпавядаюць крытэру праўды, але крытэры праўды і дакладнасьці можна прыкласьці й да навуковых дасьледаваньняў. Што ў жанры мэмуараў родніць яго зь літаратурнай зьявай, па-вашаму?*

— Усё ж такі для таго, каб напісаць добрыя мэмуары, трэба мець аўтару нейкі літаратурны дар. Я не скажу, што талент, — таленту, можа, і ня трэба вялікага. Я магу прывесьці адзін прыклад: недзе ў 1960-я гады, калі я жыў у Горадні, я пазнаёміўся з адным вэтэранам — Іванам Ушчапоўскім. Гэта вэтэран вайны, артылерыст, які перажыў сваю вайну ў Падмаскоўі, якраз у гэтых мясьцінах, дзе адбываліся жахлівыя баі пасьля мас-

коўскага наступленьня ў 1942 годзе. Гэта таксама разгром некалькіх савецкіх арміяў. І вось ён усё гэта апісаў, прычым ён, канечне, не валодаў літаратурнай мовай, але ён, па-першае, памятаў усё гэта ў драбніцах і не адышоўся ад сваёй памяці, ад праўды. Ён апісаў усё падрабязна і вельмі многа, гэта быў фаліянт рукапісны больш за тысячу старонак. Я хацеў яго надрукаваць, для гэтага я зрабіў яму літаратурны запіс, я сядзеў цэлую зіму і пісаў усё, нічога не папраўляючы з фактычнага боку, але проста апрацаваў у літаратурным сэнсе. І пасьля я, канечне, спрабаваў яго надрукаваць у Маскве, а таксама ў Менску. З гэтага нічога не атрымалася — так давялося адмовіцца ад гэтага твору, а гэта сапраўды быў бы літаратурны твор, бо гэта была праўда, трагічная праўда вайны, якая ня так часта зьяўлялася ў літаратуры мастацкай і мэмуарнай таго часу.

*— Выходзіць, мэмуары сапраўды павінны быць літаратурай. Апошні час з прычыны свабоды кнігадрукаваньня выйшла шмат успамінаў, і відаць, што да іх не набліжалася рука рэдактара, рука карэктара, проста нейкая плынь сьвядомасьці, зь якой вельмі цяжка важдаціца, цяжка чытаць, цяжка знайсьці нейкую агульную ідэю. І дробнае, і важнае, і няважнае разам. Мяне вельмі ўразіла, што вы сказалі — вы аддалі частку свайго жыцьця на перапісваньне нечых успамінаў. Чаму вы заняліся гэтай справай, ці не было гэта марнаваньнем вашага літаратурнага часу?*

— Можа быць — так, але мне проста было шкада, што марна прападае такая вельмі значная праўда жыцьця. Я ведаў, што калі я гэтага не зраблю, або яшчэ хто ня зробіць, то гэта ўсё і прападзе. Тым самым проста сыдзе ў нябыт кавалак народнай гісторыі. Мне было гэтага шкада, і я, канечне, без усялякай карысьці, без усялякай дамоўленасьці на якую-небудзь плату ўзяўся, проста са спартыўнага інтарэсу, як кажуць. З гэтага мала што атрымалася.





І цяпер я ўзяўся за ўспаміны Барыса Кіта. Я сам яму прапанаваў зрабіць такія ўспаміны, я запісаў іх на магнітафон, пасьля ішла мая праца — вывядзеньне на паперу. Як вядома, пра Кіта напісана ўжо некалькі кніжак, у тым ліку і на беларускай мове, і ў Беларусі яны выдадзеныя. Але ўсё ж быў вельмі важны яго суб'ектыўны погляд на многія рэчы. І каб найбольш наблізіцца да гэтай ісьціны яго жыцьця, я падумаў, што патрэбна, каб загучаў яго голас — менавіта зь яго інтанацыямі, зь яго ацэнкамі, асабліва што датычыць іншых людзей, гістарычных постацяў, якія не знайшлі справядлівай ацэнкі ў гісторыі Беларусі, у мінулым Беларусі. А Кіт быў апошні або ёсьць апошнім, хто можа засьведчыць праўду на гэты конт. І вось, калі вы чыталі яго ўспаміны, там ёсьць шмат пэрсанажаў, і ацэнка, якая даецца ім, яна абсалютна іншая, чым ужо ўсталяваная ў беларускай нацыянальнай гісторыі.

*— Беларуская служба Радыё Свабода мае гэты запіс успамінаў Барыса Кіта, які вы зрабілі. Гэта ўнікальны літаратурны дакумэнт, плён супрацоўніцтва дзьвюх надзвычайных асобаў. Ці працуеце вы над аўтарскімі мэмуарамі, над сваім цэласным поглядам на XX стагодзьдзе?*

— Калі ўжо зачапілася гэтае, я мушу прадоўжыць, наколькі гэта мне будзе дадзена. І я хачу напісаць, можа быць, не пра ўсё стагодзьдзе, не пра ўсё жыцьцё, а хоць бы пра ўласны вопыт пры канцы XX стагодзьдзя.

## «МНЕ ЦЯЖКА ПРАЦАВАЦЬ ТАМ, ДЗЕ НЯМА СВАБОДЫ»

12 лютага 2002

***Алена Панкратава, Менск***

Пасьля трох гадоў жыцьця і працы за мяжой Васіль Быкаў, «вялікі стары беларускай літаратуры», як называюць яго нямецкія крытыкі, думае пра вяртаньне ў Беларусь, — паведаміла газэта «Frankfurter Rundschau».

Паводле журналіста Міхаэля Тэтцляфа, Васіль Быкаў прабудзе ў Нямеччыне да сярэдзіны красавіка. Сёньня 77-гадовы пісьменьнік выглядае як адлучанае ад маці дзіця. Магчыма, гэта мэлянхолія, сум ці тое, што называецца «загадкавай славянскай душой». У сыстэме каардынатаў Васіля Быкава нібыта ўсё парушылася. Ён рады, што цяпер у Нямеччыне. Зь іншага боку — зьбіраецца дадому. Газэта «Frankfurter Rundschau» піша, што пісьменьнік Васіль Быкаў пакінуў Беларусь у 1998 годзе, бо рэжым прэзыдэнта А.Лукашэнкі ператварыў жыцьцё пісьменьніка ў сапраўднае пекла. Беларускія дзяржаўныя СМІ цкавалі Быкава і як пісьменьніка, і як грамадзяніна. Сам беларускі кіраўнік бачыў у літаратары ня толькі асабістага ворага, але і ворага дзяржавы.

Як распавядае журналісту «Frankfurter Rundschau» Васіль Быкаў, фізычна ён зусім не баяўся рэжыму. Затое псыхічны ціск быў гэткі вялікі, што ён ня бачыў іншага выйсьця — адно пакінуць радзіму. Спачатку была Фінляндыя, потым Нямеччына, Франкфурт-на-Майне. «Мне вельмі цяжка завершыць сваю працу там, дзе няма ніякай свабоды», — кажа Быкаў. З таго часу, як Быкаў у Нямеччыне, ён здолеў зноў пісаць. Андрэас Кшыван з Эўрапейскага цэнтру навучаньня ў нарысе пра В.Быкава напісаў: «Гэты беларускі пісьменьнік з





1955 году прысьвяціў сваю творчасьць Вялікай Айчыннай вайне». Сёньня Андрэас Кшыван мяркуе, што азначэньне «ваенны літаратар» у дачыненьні да Быкава не зусім дакладнае. Быкаў піша найперш пра лёс людзей, пра тое, што ў псыхалёгіі завецца «памежным станам чалавека».

Апошняя праца пісьменьніка, якую ён хутка завершыць, — мэмуары. У гэтым творы знойдзе адлюстраваньне і ягоная барацьба супраць Лукашэнкавага рэжыму. Барацьба, якая, паводле ягоных словаў, яго амаль перамалола. Многія палітычныя аднадумцы пісьменьніка цяпер жывуць на эміграцыі, а некаторыя ўвогуле зьніклі. Пошукі зьніклых беспасьпяховыя. Пра гэта маўчыць Лукашэнка, маўчыць і расейскі прэзыдэнт Пуцін. «Гэтыя людзі даўно забітыя», — кажа Быкаў, і ў ягоным голасе можна пачуць смутак, жах і лютасьць.

Васіль Быкаў прабудзе ў Франкфурце-на-Майне да 15 красавіка. Ягонае знаходжаньне тут арганізаванае Міжнародным ПЭН-цэнтрам і эўрапейскім праектам «Гарады прытулку», паведамляе «Frankfurter Rundschau».

## «ПАКУЛЬ ВЯРТАЦЦА НЯ ПРЫЙДЗЕЦЦА»

12 лютага 2002

***Сяргей Абламейка, Прага***

Газэта «Frankfurter Rundschau» напісала, што Васіль Быкаў 15 красавіка вяртаецца ў Беларусь. Ці так гэта? Наш карэспандэнт затэлефанаваў у Франкфурт.

*— Васіль Уладзімеравіч, газэта «Frankfurter Rundschau» паведаміла, што вы 15 красавіка вяртаецеся ў Беларусь. Ці праўда? Калі не, то якія вашыя пляны?*

— Карэспандэнт той газэты трохі спрасьціў маю праблему. Я хацеў бы вярнуцца, канечне, але не цяпер і не пры гэтых умовах. 15 красавіка заканчваецца тэрмін маёй візы ў Нямеччыне, натуральна, я думаю, як быць далей. Я ня мог у той гутарцы з карэспандэнтам распавядаць пра ўсе мае меркаваньні на гэты конт, тым больш, яны даволі няпэўныя. Некаторыя рэчы залежаць ня толькі ад мяне. Таму адказаў так проста — калі ня будзе тут альтэрнатывы, то я мушу вярнуцца. Але альтэрнатывы ёсьць, хоць яшчэ даволі няпэўныя. Я проста не магу нічога пра іх сказаць. Тым ня менш, ёсьць некалькі магчымасьцяў, якія высьветляцца ўвесну, і я прыму канчатковае рашэньне. Усё ж маім лёсам тут апякуецца Міжнародны пісьменьніцкі парлямэнт і яшчэ некалькі арганізацыяў. Я думаю, што 15 красавіка вяртацца ў Беларусь мне ня прыйдзецца.

*— Над чым вы цяпер працуеце?*

— Я працую над аўтабіяграфічнай кнігай. Гэта, канечне, мэмуарны жанр; я хачу распрацаваць некаторыя моманты маёй аўтабіяграфіі — магчыма, асэнсаваць сябе самога. Можа, што-небудзь з гэтага будзе надрукаванае — зь цягам часу, не цяпер, дык пасьля.

## «НЯ ВЕДАЮ, ЦІ ДАЧАКАЮСЯ ЗЬВЯРЖЭНЬНЯ ДЫКТАТАРА ЛУКАШЭНКІ»

25 сакавіка 2002

***Алена Панкратава, Менск***

«Беларускія паліцыянты змагаюцца з апазыцыяй» — такую публікацыю зьмясьціла нямецкая газэта «Frankfurter Rundschau». Выданьні Нямеччыны паведамляюць пра сьвяткаваньне 84-х угодкаў БНР, а таксама пра сытуацыю з правамі чалавека ў Беларусі.





Як піша «Frankfurter Rundschau», паліцыянты зноў ужылі сілу супраць апазыцыі. Паводле публікацыі, затрыманьне некалькіх дзясяткаў дэманстрантаў ёсьць чарговым сьведчаньнем таго, што ў Беларусі парушаюцца асноўныя правы і свабоды чалавека. «У гэтай краіне, — гаворыцца ў паведамленьні «Agence France-Presse», — любая крытыка прэзыдэнта сустракае надзвычай жорсткую цэнзуру. Апанэнтаў улады чакае сапраўдны перасьлед, дыскрымінацыя з боку рэжыму. Некаторыя крытыкі ўлады нават бясьсьледна зьнікаюць». «Усе, хто ў гэтай краіне выступаюць за дэмакратыю і незалежнасьць, нават тыя, хто проста гавораць па-беларуску, становяцца падазронымі. Мова беларускіх уладаў — выключна расейская», — цытуе словы Васіля Быкава журналістка «Frankfurter Allgemeine». В.Быкаў патрабуе ад палітычнай сыстэмы сваёй радзімы талерантнасьці й празрыстасьці. Ён хоча, каб ягоны голас, голас кожнага ягонага суайчыньніка быў пачуты. Аднак, як піша «Frankfurter Allgemeine», праўду пры сытуацыю ў Беларусі гэты прызнаны нават у савецкі час (і не ў апошнюю чаргу за мастацкую праўдзівасьць) пісьменьнік цяпер можа пісаць толькі за межамі радзімы. «Невялікі спакойны кут, пісьмовы стол, белая папера — гэтага хапае мне, — распавядае Васіль Быкаў пра сваё франкфурцкае жыцьцё. Ён дадае: — Ня менш важная і ўпэўненасьць у тым, што мяне сярод дня ня схопяць на вуліцы незнаёмыя людзі, якім за гэта заплацілі».
77-гадовы пісьменьнік ужо напісаў у Нямеччыне дзьве кнігі. Хутка будуць гатовыя і ягоныя мэмуары. «Гэта надзвычай праўдзівая літаратура», — піша франкфурцкая журналістка. За сваё жыцьцё вядомы пісьменьнік перажыў нямала дыктатараў: Сталіна, Хрушчова, Брэжнева, Андропава, Чарненку. «Яны прыходзілі і сыходзілі, — гаворыць Быкаў, — але ў той час я быў маладзейшы і ведаў, што перажыву іх. Цяпер мне сумна, бо я стары і ня ведаю, ці дачакаюся зьвяржэньня дыктатара Лукашэнкі».

## СЯРГЕЙ КАСЬЦЯН ПРЫЗНАЧАНЫ НА КІРАЎНІКА ХОЛДЫНГУ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІХ ЧАСОПІСАЎ

16 красавіка 2002

***Валянціна Аксак, Менск***

15 красавіка міністар інфармацыі Міхаіл Падгайны прадставіў галоўным рэдактарам пяці літаратурна-мастацкіх часопісаў і газэты «Літаратура і мастацтва» кіраўніка холдынгу, у які гэтыя выданьні аб'ядноўваюцца. Кіраваць беларускім літаратурным працэсам прызначаны дэпутат Палаты прадстаўнікоў Сяргей Касьцян.

Сяргей Касьцян да беларускае літаратуры ня мае ніякага дачыненьня. 61-гадовы ўраджэнец Клічаўскага раёну Магілёўшчыны сваю кар'еру пачаў сакратаром камітэту камсамолу саўгасу «Каменка», затым кіраваў камсамолам Мазыршчыны і аддзелам Мазырскага райкаму КПБ. «Удзел камсамолу Беларусі ў мэліярацыі беларускага Палесься» — тэма кандыдацкае дысэртацыі Сяргея Касьцяна, пасьля абароны якой ён выкладаў марксісцка-ленінскую навуку ў Мазырскім пэдагагічным інстытуце. У 1995 годзе ён быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савету Беларусі. У часе канстытуцыйнага крызісу 1996 году актыўна падтрымаў Аляксандра Лукашэнку, за што, перайшоўшы ў Палату прадстаўнікоў, атрымаў пасаду намесьніка старшыні камісіі ў міжнародных справах і сувязях з СНД. Стваральнік блёку «Анты-НАТО», старшыня Беларускага славянскага камітэту, сакратар ЦК кампартыі Беларусі. Зь нешматлікіх узнагародаў мае адметную — мэдаль «120 гадоў з дня народзінаў І.В.Сталіна».





## «НЭАСАВЕЦКАЕ КІРАЎНІЦТВА ЦЯГНЕ Ў КАМЕННЫ ВЕК»

16 красавіка 2002

***Сяргей Навумчык, Прага***

Мы патэлефанавалі ў Франкфурт-на-Майне і папрасілі Васіля Быкава выказаць стаўленьне да спробы аб'яднаць літаратурна-мастацкія часопісы ў голдынг, а фактычна — зьліквідаваць гэтыя часопісы.

— Я думаю, гэтая падзея ў беларускай гісторыі — не навіна. Яна цалкам кладзецца ў рэчышча апошніх палітычна-эканамічных падзеяў. Ліквідуюцца нацыянальная культура, мастацтва, літаратура. Ліквідуецца сувэрэнітэт краіны. Чаму павінны заставацца незалежныя бедныя літаратурныя выданьні? Зрэшты, тое ў нас адбывалася заўжды, пад маскай барацьбы з нацыяналізмам вынішчалася нацыя, дзеячоў нацыяльнай культуры высылалі ў Сібір, саджалі на 10 гадоў бяз права перапіскі. У славутыя гады сотнямі вазілі ў Курапаты, дзе іх непрызнаныя косьці тлеюць і дагэтуль. Цяпер беларускую культуру пазбаўляюць яе нацыянальнага слова. Як некалі беларускае сялянства вынішчалі мэтадам калектывізацыі, так і цяпер нацыянальную культуру — новым мэтадам «холдынгізацыі». Усё мэтанакіравана, з ранейшымі мэтамі — хіба навамоднымі спосабамі.

*— Калі краінай пачаў кіраваць Лукашэнка, стаўленьне да вас зьмянілася; варта сказаць, што вас фактычна прымусілі пакінуць бацькаўшчыну. У рэчышчы гэтай палітыкі і дзяржаўныя выданьні ня надта цікавіліся вашай творчасьцю (хаця «Полымя» падчас рэдактарства Сяргея Законьнікава штогоду ў студзеньскім нумары друкавала вашую прозу). Ці гэтая рэарганізацыя паўплывае на вашую творчасьць?*

— Найперш мне хацелася б менш за ўсё гаварыць пра свае асабістыя справы ў гэтым сэнсе. Я даўно страціў веру ў камунапазытывізм і думаю, што камунарэванш рэальнейшы за дзіцячыя спадзевы на лепшую будучыню. Разумныя людзі зь ліку пісьменьнікаў тое зразумелі даўно — і даўно кінулі пісаць, што вельмі лягічна. Мабыць, цяпер застаецца адзінае — зьберагчы тое найлепшае, што напрацавана нацыянальнай культурай у XX стагодзьдзі. Але й гэта праблема — як яе выратаваць бяз грошай? Хіба ў фальклёры? — значыць, назад у каменны век, куды нас сілай гоніць наша нэасавецкае кіраўніцтва і куды сьлепа пнецца наша ачмурэлае грамадзтва.

*— І яшчэ адно пытаньне, якое папулярнае ў Беларусі пасьля тэлеэфіру расейскай кампаніі НТВ з удзелам Лукашэнкі. Лукашэнка сказаў пра вас: «Я на ягоных вершах і творах вучыўся. Ну, вы мне распавядзіце пра Быкава, якога я ў школе вучыў, і нядрэнна вучыў. Прозы ў яго болей». Васіль Уладзімеравіч, прозу вашую ведае ўся Эўропа, увесь сьвет, але дзе можна было б пачытаць вашыя вершы?*

— Наконт вершаў мне няёмка нават гаварыць, бо я іх ніколі не пісаў. І пра маю, так сказаць, непрыхільнасьць да паэзіі я неаднойчы пісаў у сваёй публіцыстыцы. Хаця гэта ня значыць, што я ўвогуле не прызнаю права на паэзію — асабліва для тых, хто хоча ў ёй нешта знайсьці. Калі ласка! Толькі я вершаў не пісаў.





## ВІКТАР КАЗЬКО: «БЫКАЎ ПАКАЗАЎ ХАРАКТАР БЕЛАРУСА, ДУШУ БЕЛАРУСА Ў ЭКСТРЭМАЛЬНЫХ УМОВАХ»

28 красавіка 2002

***Міхась Скобла, Менск***

Зь перадачы «Вольная студыя» — гутарка зь пісьменьнікам Віктарам Казьком.

*— Прэзыдэнцкі клопат пра культуру выявіўся ў падзеі гэтага тыдня. Начальнік усіх беларускіх літаратурна-мастацкіх часопісаў С.Касьцян пачаў-такі мяняць рэдактараў, звальняць неляяльных і прызначаць «сваіх». У «Полымі» на месца Сяргея Законьнікава сеў Мікола Мятліцкі. Чаго чакаць ад такіх кадравыхператрусаў?*

*В.Казько:* Улада пайшла на парушэньне ўсяго, і юрыдычных, і чалавечых законаў. Аддалі часопісы невядома каму. Тых людзей, якія прыйшлі пры жывых рэдактарах кіраваць часопісамі, я б назваў штрэйкбрэхерамі нашага часу. Такога культурнага штрэйкбрэхерства яшчэ не было — нават за сталінскім часам. Калісьці мянялі А.Твардоўскага, дык аднаго мянялі. Але каб адным махам узяць і пазбавіцца ад усіх... С.Касьцян у інтэрвію «Белорусской деловой газете» назваў творчасьць Васіля Быкава састарэлай. А таго не разумее, што Быкаў навечна ўпісаны ў літаратуру, яго ва ўнівэрсытэтах ва ўсім сьвеце вывучаюць. Ён паказаў характар беларуса, душу беларуса ў экстрэмальных умовах. Быкаў вельмі сьціплы чалавек, яму многага ня трэба — дайце спакойна жыць на радзіме. Не даюць.

## ЯНКА БРЫЛЬ: «БУДЗЕ ЛЕПШ, БЕЗУМОЎНА»

6 траўня 2002

***Вольга Караткевіч, Карэліцкі раён***

Пісьменьнік Янка Брыль разважае пра публікаваньне твораў беларускіх пісьменьнікаў пасьля зьмены рэдактараў у часопісах.

— Дзе друкавацца будзем? Я не хачу друкавацца ў гэтых часопісах, якія будуць рэдагаваць гэтыя людзі. Я зь «Нёману» забраў вялікую публікацыю мініятураў сваіх, падрыхтаваную да сёмага нумару, яны меліся выдаць у зьвязку з маім 85-годзьдзем, але я пайшоў і забраў гэта, бо я не хачу, каб там хадзіў той зьненавіджаны намі чырвоны аловак цэнзара. Цэнзары былі, але яны не былі такія дурныя, якімі яны могуць быць цяпер, гэтыя цэнзары. Гэта калі прыходзіць замест выдатнага пісьменьніка Алеся Жука — у самы цяжкі пэрыяд ягонага жыцьця, ён перанёс сур'ёзную апэрацыю на сэрцы — прыходзіць крыклівая, віскlівая баба і крычыць, што яна ўжо рэдактар замест яго. Уяўляеце, што гэта такое?

Цяпер, скажам, такі самаадданы, такі культурны, такі шчыры чалавек як Сяргей Законьнікаў — і яго прыходзіць замяніць чалавек, якому ня сорамна. Вось што мне страшна. Калі б мяне калісьці паслалі замяніць, дапусьцім, Танка ці Лынькова, старэйшых за мяне, дык я ж саромеўся б увайсьці ў гэты пакой, ня тое каб замяніць. Я вось думаю: што за людзі прыйшлі, якія людзі? Графаманы, нікчэмнасьці ў літаратурным сэнсе. Я ня ведаю іх як людзей, але я ведаю іх як нелітаратараў — і яны будуць там кіраваць. Цяпер там пратэстуюць. Гілевіч заявіў аб сваім выхадзе з рэдкалегіі «Полымя» і «Маладосці». Мала хто застанецца, я не ўяўляю сабе, хто можа застацца ў рэдакцыях працаваць далей — і ў «Полымі», і ў «Маладосці».





Вы ўяўляеце сабе, што такое пяцьсот чалавек, пяцьсот чальцоў Саюзу пісьменьнікаў? Гэты Саюз даволі марудна рос, я з Іванам Мележам быў прыняты ў гэты Саюз у першы дзень міру, 10 траўня 1945 году. Мележ быў сорак трэці, я быў сорак чацьверты ў Саюзе. А цяпер пяцьсот восем ці пяцьсот дзесяць чалавек, і часам бралі без асаблівага разбору, ня так, як раней. Раней было больш строга, скажам, два-тры чалавекі ў адзін прыём. А цяпер вось апошнімі гадамі ў нас было па 15 чалавек адразу, скопам, паўзводна. І ў гэтым Саюзе пісьменьнікаў ня толькі геніяў не пяцьсот (цяпер жа любяць слова «геніяльнасьць»), самі маладыя, на ногі не пасьпелі ўстаць, а ўжо называюць адзін аднаго геніямі. Там розныя людзі, там многа выпадковых людзей. Васіль Быкаў не аднойчы адкрыта пра гэта казаў, што там усялякія людзі ў ідэйным пляне. У найменшай ступені загадкавыя. Мы ўжо гаварылі пра Жука і пра Чайку. Тое самае можна сказаць пра Законьнікава і пра Мятліцкага, які замяняе старэйшага таварыша, не саромеючыся гэтага.

*У гутарцы мы неаднаразова згадвалі пэсымізм Васіля Быкава адносна падзеяў у Беларусі і пэрспэктываў краіны. А вось думка Янкі Брыля:*

— Я гэтага не падзяляю. Тут, можа, розьніца і ў характарах. І ў творчасьці Васіля ёсьць такія ноты, якія для мяне арганічна непрымальныя. Мой аптымізм ідзе ад народу, ад народнага: выжывем усё ж такі, дачакаемся нечага. Не чакаючы, ня седзячы. Будзе лепш, безумоўна. Нешта будзе.

## РАСПАЧАЛАСЯ НОВАЯ ХВАЛЯ ШАЛЬМАВАНЬНЯ ВАСІЛЯ БЫКАВА

16 траўня 2002

***Ігар Карней, Менск***

Пісьменьнік Эдуард Скобелеў заклікаў нядаўна прызначаных рэдактараў літаратурна-мастацкіх часопісаў, якія ўваходзяць у падкантрольны ўладам холдынг «Літаратура і мастацтва», байкатаваць пэўных майстроў сучаснай беларускай літаратуры — Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча, Сяргея Законьнікава ды некаторых іншых. Паводле Э.Скобелева, усе яны на цяперашнім этапе разьвіцьця дзяржавы і літаратуры — «палітычна адсталыя фігуры».

Рэакцыя фактычна забароненых для друку ў дзяржаўных выданьнях творцаў была лёгка прадказальная: яны згадваюць пра вяртаньне цэнзуры ды падзел на «палітычна надзейных» і пэрсонаў «нон грата». У чорны сьпіс трапіў і народны паэт Рыгор Барадулін. Ён гэтак паставіўся да пазбаўленьня яго магчымасьці друкавацца ў літаратурных часопісах:

*Р.Барадулін:* Быў цікавы паэт, Васіль Вітка. Ён напісаў верш «Жаўранак» і панёс у рэдакцыю. А канцоўку зрабіў такую: «А што, калі не надрукуюць? Ат, жаўранка і так пачуюць!» А што да Скобелева... Мне 66 гадоў, я перажыў мноства рэформаў. Ніхто нікому не забароніць пісаць. Той, хто пісаў, пісаць будзе надалей. Іншая справа, што ўся гэтая рэарганізацыя — дзеля таго, каб зачыніць беларускія выданьні. Але я думаю, што ўзьнікнуць новыя. А ўсе гэтыя «пастаўленыя» — яны як мётлы, іх выкарыстоўваюць паводле прызначэньня. Ці нават венікі: венік калі зьмятаецца, робіцца гальлём. А гальлё выкідаюць.





У тэлефоннай размове галоўны рэдактар «Інфармацыйнага весьніка адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь» Эдуард Скобелеў так патлумачыў свае радыкальныя прапановы прызначаным уладай кіраўнікам часопісаў «Полымя», «Нёман», «Маладосць» і «Крыніца»:

*Э.Скобелеў:* Пісьменьнікі, беручы ўдзел у палітычнай барацьбе, прычым на пазыцыях не нацыянальных, а інтэрнацыянальных, шкодзяць сабе, выглядаюць сьмешна. Я ў гэтай сувязі называў і Бураўкіна, і Гілевіча, і, на жаль, нашага любімага Быкава. Калі творчасьць пранізаная палітыканствам — натуральна, яна губляе сэнс. Мне распавядалі сюжэт апошняга апавяданьня Быкава: заварылі чалавека ў трубе. Ну, навошта такія жарсьці? Усім гэтым таварышам трэба даць час апамятацца, прыстасавацца. І калі будуць напісаныя таленавітыя рэчы, няхай нясуць. Але рэч у тым, што на базе таго ідэйнага багажу, якім яны валодаюць, яны проста бясплодныя. Як можна папракаць таго ж Лукашэнку, што ён не працуе на карысьць беларускай нацыі? Сьмешна. Мы ўвесь час кажам, якія нашыя клясыкі вялікія. Але ніколі ня кажам пра іхную творчасьць. А твораў няма — другараднасьць, запазычанасьць. Можа, якраз цяпер надыдзе момант, калі іх крыху зь нябёсаў за ногі сьцягнуць.

Адказваючы на пытаньне, ці здольны дэпутат Палаты прадстаўнікоў Сяргей Касьцян — чалавек, які ня мае ніякага дачыненьня да літаратуры, зрабіць літаратурныя пераўтварэньні, спадар Скобелеў сказаў:

*Э.Скобелеў:* Ня толькі ж Касьцян. Яго ж падтрымліваюць вопытны літаратар Бондар і чэсны, прыстойны чалавек Новікаў. Настрой на карысьць кансэнсусу — нацыянальнага, сумеснай працы на незалежнасьць, на сувэрэнітэт дзяржавы. Як жа бяз гэтых ідэяў?

Гарадзенская паэтка Данута Бічэль памятае і мінулыя

хвалі шальмаваньня беларускіх літаратараў. У прыватнасьці, гэтак было ў «гарадзенскі пэрыяд» Васіля Быкава:

*Д.Бічэль:* Такіх паралеляў у жыцьці Быкава было некалькі: першы раз пасьля «Круглянскага моста», «Мёртвым не баліць», недзе пры канцы 1960-х. Ну, што зробіш? Усё вяртаецца, зрэшты, нічога асабліва тут не мянялася. Так што чакаць, што Скобелеў будзе заклікаць, каб Быкава друкавалі, не прыходзіцца. Апанэнты такога кшталту заўсёды будуць вярзьці нешта падобнае. Бяда, што ў іншых няма магчымасьці выказацца на тым самым радыё, дзе гаворыць Скобелеў. Я яго асуджаю. А Быкаў — гэта нашая вышыня, столь. Апостал, не апостал — ня варта кідацца словамі. Ён нават ня Янка Купала, але лёс ягоны прыблізна такі ж, як і Купалы: трагічны. Нашчадкі, сучасьнікі, мы ўсе павінны яго абараняць як можам, колькі хапае моцы — хоць бы выказвацца, каб яго пакінулі ў спакоі там, дзе ён ёсьць цяпер.

Пасьля апошніх захадаў дзяржаўных ідэолягаў стварэньне незалежнага літаратурнага часопіса, пра які распавядаў былы рэдактар «Полымя» Сяргей Законьнікаў, многія пісьменьнікі называюць адзіным выхадам з сытуацыі.

## ЧАМУ БЫКАЎ НЕ ЛЮБІЎ НАТАТНІКАЎ, ПАЛІЎ СВАЕ ЧАРНАВІКІ І АРХІВЫ

Чэрвень 2002; прагучала ў чэрвені 2003

***Алена Ціхановіч, Прага***

На просьбу Радыё Свабода падчас побыту ў Нямеччыне Васіль Быкаў пачаў пісаць успаміны. Калі мы атрымалі тэкст, ён называўся вельмі проста — «Мае ўспаміны». Тэлефаную яму: «Васіль Уладзімеравіч,





гэта першыя ў вашым жыцьці мэмуары, прыдумайце нейкую больш выразную назву, хаця б дзеля перадачы на радыё». Ён папрасіў часу. Пазьней, у наступнай размове па тэлефоне, сказаў: «Так, пішыце. Назва будзе такая — «Доўгая Дарога Дадому», — ён прачытаў менавіта так, апіраючыся на кожнае «д», даючы асобны сэнс кожнаму з гэтых словаў. Тады ён яшчэ ня ведаў (а можа, і ведаў?), што падсумуе свой жыцьцёвы шлях у гэтым прарочым загалоўку.

Улетку 2002 году Быкаў прыехаў у Прагу, каб начытаць успаміны для радыёпрэм'еры. Мы запісвалі некалькі перадачаў штодня, і гэта была нялёгкая праца нават для дасьведчанага дыктара. Таму я старалася расьцягнуць перадышкі, заводзячы размову пра нейкія дэталі, драбніцы — на шчасьце, не выключаючы мікрафону. Потым з такіх перадышак і склалася вось гэтае інтэрвію.

*— Васіль Уладзімеравіч, ці прызвычаіліся вы пісаць на кампутары?*

— Кампутар усё ж, апроч усяго іншага, гэта тэхніка, і валоданьне ёй патрабуе пэўных намаганьняў, якіх не патрэбна для звыклай справы, калі пішаш ручкай. Апрача таго — тэмп; тэмп майго мысьленьня дастасаваўся да тэмпу маіх пальцаў, і даволі гарманічна гэта адбываецца. А на кампутары перажываеш нейкую дысгармонію. Таму найлепш, калі нават звычайныя фразы, якую-небудзь устаўку, ці што, напішаш сьпярша на паперы, хоць бы маларазборліва, беглым почыркам, а пасьля ўжо перадрукуеш на кампутары.

*— Якія ручкі вы любіце?*

— Люблю ручку, каб яна была з тонкай лініяй, і пераважна або сіняя, або чорная. Ну, магу пісаць і алоўкам — па сутнасьці, няважна. Вось некалі Валодзя Караткевіч у гэтым сэнсе меў адно патрабаваньне — гэта добрая папера.

*— Белая папера і чыстая сарочка, здаецца, ён казаў.*

— Так, і чыстая сарочка, як ён казаў. Вось добрая папера мне таксама падабаецца. Хаця ўсё жыццё у нас жа яе не было, цяпер дык зьявілася такая папера, а то ўсё была такая газэтная. Ну а ўвогуле — ня ў тым справа: калі ёсьць у галаве, дык напішацца дзе хочаш, нават на цыгарэтным пачку. У мяне, напрыклад, няма запісных кніжак, я іх не вяду. Хаця многія, вельмі многія зь імі не расстаюцца. Я не магу сябе так дысцыплінаваць. І калі нават трэба нешта запісаць, у мяне звычайна то ручкі няма, то паперы няма. Вось так атрымліваецца.

*— Значыць, гэтыя ўспаміны пісаліся толькі з памяці?*

— Так, толькі з памяці. Гэта, канечне, дрэнна, бо там нейкі архіў, нейкія матэрыялы — у мяне ж з сабой іх не было, яны засталіся ў Менску. Таму калі я ўзяўся пісаць, у мяне нічога не было, апрача маёй галавы. І таму я пісаў толькі тое, што я памятаў. Тое, што я забыўся або памятаў няцьвёрда, гэта ў асноўным адносіцца да лічбаў, да храналёгіі. Тут, вядома, мае ўспаміны вельмі безабаронныя.

*— Як упарадкаваны ваш архіў? Дзе захоўваюцца чарнавікі, ліставаньне?*

— Ніякага парадку. Лістоў у мяне было вельмі шмат, некалькі чамаданаў. Але, як гэта ўсё пачалося, я іх на дачы пачаў паліць. І я спаліў усё, за выключэньнем аднаго чамадану, таму што я заўважыў, што мае кватэра і дача прыцягваюць да сябе ўвагу. Прыходзяць людзі, нечага шукаюць, усялякія вобыскі ідуць... У маю адсутнасьць, канечне. Ну, і я падумаў — на чорта мне трэба, каб гэта ўсё прыцягвала? І я аднойчы ўзяў, папаліў шмат чаго. І яшчэ засталося — трэба паліць. Тым больш, што чарнавікоў сваіх я даўно не хаваю, я іх палю звычайна. Як перадрукую — я іх проста палю, зьнішчаю, каб іх не было і знаку, каб не было ў чым разьбірацца. Я памятаю, як Караткевіч перад сьмерцю незадоўга, я быў у яго, ён казаў: «Вот узяўся разьбіраць свой архіў, і не магу, баліць жывот, злуюся на сябе, трэба было зрабіць гэта раней». Такі быў клопат. Ну, я падумаў — на чорта мне гэты клопат? І таму пасьля мяне мала што застанецца. І гэта добра.

*— Васіль Уладзімеравіч, калі б цяпер была магчымасьць выдаць нешта з найбольш цэнзураваных вашых твораў у арыгінале — ці ўдалося б аднавіць першапачатковы тэкст? Ці хацелі б вярнуцца да таго, што вам, аўтару, было дарагое?*

— Гэта немагчыма. Вось «Мёртвым не баліць» — ужо столькі варыянтаў прайшло ва ўсіх гэтых рэдагаваньнях, што першапачатковы варыянт ужо і не захаваўся. Навогул, я ўжо і заблытаўся ў гэтых варыянтах. І хаця апошні мяне не задавальняе, але я ня маю магчымасьці што-небудзь аднавіць у ім, настолькі ўсё там заблыталася. Ну а пасьля... Божа мой. Мы не разумеем адной рэчы — гэтая культура скончылася. Тое, што пачынаецца цяпер у галіне культуры — не працяг, не разьвіцьцё культуры навогул. Гэта контаркультура. Таму ўсе ранейшыя звычкі, у літаратуразнаўстве ацэнкі, падыходы — усё гэта засталося ў мінулым. Цяпер, у гэтым стагодзьдзі, усё будзе іншае. І ў гэтым іншым для ранейшага — няма месца. Таму і літаратуры ранейшай ня будзе, яна застанецца там, і будзе хіба што для аматараў, для навукоўцаў, якія будуць пісаць дысэртацыі. І тое — ня будуць пісаць дысэртацыяў нават. Дысэртацыі будуць пісаць пра бітнікаў. Таму — пра што клапаціцца, божа мой...

## «КАЛІ Б БЕЛАРУСЬ БЫЛА НЕЗАЛЕЖНАЯ, НЯХАЙ БЫ ЯНА БЫЛА БЕДНАЯ, НЕРАЗЬВІТАЯ, АДСТАЛАЯ — УСЁ АСТАТНЯЕ ПРЫКЛАЛАСЯ Б»

9 чэрвеня 2002

***Сяргей Навумчык, Прага***

Перадача «Праскі акцэнт». Удзельнікі: з праскай студыі «Свабоды» — пісьменьнік Васіль Быкаў і дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандар Лукашук, па тэлефоне зь Менску — рэдактар газэты «Наша Ніва» Андрэй Дынько.

*С.Навумчык:* Памятаю, восеньню 1991 году вы, Васіль Уладзімеравіч, і Рыгор Барадулін напісалі ліст у Вярхоўны Савет Беларусі, дзе патлумачылі, што з прыняцьцём незалежнасьці Беларусі павінен быць прыняты і новы гімн адноўленай дзяржавы. Памятаю, вы тады прапанавалі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». І вось цяпер Беларускае радыё распачынае знаёмства слухачоў з праектамі новых гімнаў. Як вы да гэтага ставіцеся? Ці выклікае гэта аптымізм, ці гэта простая фармальнасьць?

*В.Быкаў:* Я думаю, што гэта проста запазьнелая фармальнасьць. Падыходы да такой важнай для кожнай незалежнай дзяржавы справы як гімн — тут надта няпэўныя. Ці, можна сказаць, цяпер яны сталі пэўныя, раней яны былі няпэўныя. Раней кіраўніцтва не магло пагадзіцца, канечне, на такі праект гімну як «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», таму што хто такія «мы» — гэта не было вызначана і нават ня мелася на ўвазе. Ну, а цяпер, здаецца, яны ўжо вызначыліся: мы — гэта тыя сілы, для якіх гэты тэкст, тэкст гэтага гімну ніяк не падыходзіць, і яны вырашылі знайсьці іншы, які б адпавядаў іхным мэтам, найперш палітычным мэтам, канечне.





*С.Навумчык:* Пытаньне да галоўнага рэдактара газэты «Наша Ніва» Андрэя Дынька. Андрэй, у вашай газэце была дыскусія, прысьвечаная гімну...

*А.Дынько:* Большасьць аўтараў нашай газэты падкрэсьлівала, што новы дзяржаўны гімн мусіў бы аб'яднаць нацыю. Гэта павінна была б быць такая песьня, такая мэлёдыя, такі тэкст, пад якім маглі б падпісацца ўсе беларусы. Гэта мусіла б быць аб'яднаўчая мэлёдыя. Вельмі прыкра будзе, калі новым гімнам будзе пасьпешліва зацьверджаны тэкст і мэлёдыя, якія будуць чужыя для многіх беларусаў. Гэта будзе значыць толькі адно: што гэты гімн зноў стане часовым і праз нядоўгі час зноў прыйдзецца яго зьмяняць.

*С.Навумчык:* Пытаньне да Аляксандра Лукашука, дырэктара Беларускай службы Радыё Свабода. Аляксандар, як бы ты параўнаў гэтую сытуацыю з гімнам у Рэспубліцы Беларусь з усясьветнай і эўрапейскай практыкай?

*А.Лукашук:* Я б параўнаў зь ціхаакіянскай. Нядаўняя новая краіна, якая зьявілася на мапе сьвету — Усходні Тымор — свой першы дзень незалежнасьці сустрэла з нацыянальным гімнам. Гэта безумоўная адзнака прысутнасьці дзяржавы ў сьвеце. Мяне ў гэтай сытуацыі крыху дзівіць такая акалічнасьць, што ўжо з 1991 году, адзінаццаць гадоў, краіна мае музыку, якая выконваецца як гімн, і ня мае словаў. Гэта ўнікальны паказьнік — нацыя ня мае мовы, ня мае чаго сказаць — анямела. У пэўным сэнсе гэта сапраўды так.

Тады, калі гімн можна было прыняць (я думаю, што ўсё ж можна было прыняць у першыя тры гады незалежнасьці) — перашкодзілі недастаткова ўмелыя дзеяньні тых, хто разумеў важнасьць гэтай праблемы, не ставала перакананьня большасьці дэпутатаў у тым, каб гімн прынялі. Было зашмат унутраных спрэчак, хацелі нечага лепшага — у выніку не атрымалі нічога. Што да

новых варыянтаў, якія прапануюцца... Што ж, я думаю, што ёсьць вельмі малы шанец, што гэта можна неяк выкарыстаць у станоўчым пляне, для замацаваньня ідэяў і ідэалаў сувэрэнітэту, незалежнасьці і дэмакратыі. Хіба што гэты гімн доўга не пратрывае.

*С.Навумчык:* Пэўна, гэты гімн будзе прыняты, адзін з тых варыянтаў, якія цяпер гучаць па Беларускім радыё, і кожную раніцу вяшчаньне афіцыйнага радыё будзе пачынацца гэтым гімнам. Пры яго выкананьні на афіцыйных мерапрыемствах будуць уставаць (тых, хто пры ім ня ўзьняўся, у цяперашняй Беларусі на афіцыйныя мерапрыемствы звычайна не запрашаюць). Але будуць і беларусы, якія ня будуць слухаць гэтага гімну — проста таму, што яны ня будуць яго чуць, бо будуць жыць за межамі бацькаўшчыны. Паводле апошніх сацыялягічных апытаньняў, каля трох мільёнаў грамадзянаў Беларусі (фактычна палова дарослага насельніцтва) хацелі б зьехаць зь Беларусі.
Пытаньне да Андрэя Дынька. Андрэй, вы адносна малады чалавек. Вось гэтая хваля эміграцыі, якая ўжо пачалася, яна адметная тым, што зь Беларусі зьяжджаюць найперш маладыя людзі, маладыя прафэсіяналы, і што прыкметна — яны даволі добра ўладкоўваюцца на Захадзе. Іхныя прафэсійныя і асабістыя здольнасьці дазваляюць ім праз даволі хуткі час быць нароўні з грамадзянамі тых краінаў, куды яны трапляюць. Ці назіраеце вы тэндэнцыю жаданьня ад'езду ў асяродку сваіх знаёмых?

*А.Дынько:* Беларусь — гэта частка сьвету, неад'емная частка сьвету, і ўсё, што робіцца зь іншымі краінамі Эўропы, робіцца і з намі. Сьвет робіцца ўсё больш адзіным, падарожнічаць усё прасьцей, межы зьнікаюць, ад'яжджаюць беларусы, але прыяжджаюць іншыя людзі ў Беларусь. Статыстыка сьведчыць, што ўсе апошнія гады ў Беларусь усё ж больш прыяжджае людзей, чым ад'яжджае. Іншая рэч, што сярод тых, хто ад'яжджаюць — нашая эліта, нашыя інтэлектуалы, самая адукаваная частка насельніцтва. І гэта значыць, што ня ўсё ў парадку ў нас у дзяржаве. Гэта значыць, што мала быць незалежнымі — Беларусь ужо адзінаццаць гадоў незалежная, але гэта не ўратоўвае яе ад інтэлектуальнага зьнясіленьня, ад духоўнага зьнясіленьня, якое працягваецца ўжо некалькі гадоў, а канца якому, на жаль, пакуль не відаць. Бо мала незалежнасьці, патрэбная яшчэ дэмакратыя, патрэбная рынкавая эканоміка, а гэтыя мэты застаюцца яшчэ недасягнутымі, незрэалізаванымі, пра гэта мараць мільёны беларусаў. Я думаю, што як толькі Беларусь стане дэмакратычнай краінай, як толькі беларуская эканоміка пяройдзе на прыватніцкія пачаткі, адразу мільёны людзей, якія цяпер не знаходзяць сябе ў нашай краіне, знойдуць сябе і змогуць сябе зрэалізаваць тут, і я думаю, што таксама тысячы людзей, якія выехалі зь Беларусі за апошнія дзесяць гадоў, вернуцца ў Беларусь.

*С.Навумчык:* А пакуль што мы жывём у сёньняшнім дні. Эміграцыя, канечне, зьява ня новая. Усё часьцей мы гаворым пра беларускую эмігранцкую літаратуру, тую частку літаратуры, якая для нашага пакаленьня, цяперашніх трыццаці-саракагадовых, у свой час была проста закрытая. Васіль Уладзімеравіч, вы больш за тры гады знаходзіцеся за межамі Беларусі, жылі ў Фінляндыі, цяпер доўгі час у Нямеччыне. Я ня ўпэўнены, ці можна назваць гэты ваш статус эміграцыяй — але як вы пачуваецеся? Гэта нешта адымае ад творцы ці нешта яму надае?

*В.Быкаў:* Тут трэба меркаваць у залежнасьці ад канкрэтных умоваў: па-першае, на радзіме, па-другое, у краіне, куды зьехаў творца. Што да мяне, дык гэта ўсё ж нетыповая зьява. Я зьехаў у пэўных умовах, калі там, дзе я нарадзіўся, у маёй краіне, працаваць было амаль немагчыма. У той жа час на Захадзе былі створаныя ўсе ўмовы для творчасьці. Вядома, што пісьменьніку для твор-

часьці няшмат трэба: ціхі куток і кавалак чыстай паперы. Але ўвогуле маё перакананьне, даўняе і глыбокае, заснаванае ў тым ліку і на ўласным вопыце: кожны чалавек павінен жыць дома, бо ўсякае расстаньне з радзімай непазьбежна выклікае канфлікты псыхалягічныя, сацыяльныя, самыя розныя — у кожнай асобы.

Таму, калі людзі зьяжджаюць — ня толькі пісьменьнікі, іх у нас якраз мала зьехала, а і ўсе іншыя, дык толькі з тае прычыны, што жыць на радзіме, тым больш нешта ствараць, ім проста стала немагчыма. Такіх людзей можна пашкадаваць. Добра сказаў Дынько, што калі зьменіцца сытуацыя ў Беларусі, адбудуцца рэформы, дык многія, ці ўсе, можа быць, эміграны вернуцца на радзіму. Я баюся, што такія ўмовы будуць вельмі няхутка, і тыя людзі, якія зьехалі, яны ў сваім пакаленьні, мабыць, застануцца ў эміграцыі, так, як засталіся эмігранты пасьляваеннага часу, якія там пражылі жыцьцё, — і зьявілася новае пакаленьне, іх дзеці, якія ня думаюць вяртацца на радзіму, бо яны ўжо перасталі быць беларусамі, і вось у гэтым вялікае злачынства рэжыму перад беларускай нацыяй.

*С.Навумчык:* Як можна захаваць беларусаў у арбіце беларускага жыцьця, тых беларусаў, якія зьехалі?

*А.Лукашук:* На гэтае пытаньне лепш мог бы адказаць чалавек з інстытуту, разьмешчанага ў Ерусаліме. Вось выдатны прыклад таго, як габрэйская эміграцыя і вяртаньне ў Ізраіль габрэйскай дыяспары становіць фактычна фантастычны працэс, які адбываўся ў другой палове XX стагодзьдзя, стварэньне дзяржавы і нацыі з дыяспары. Што да беларусаў, то яны трапляюць звычайна ў эміграцкія асяродкі, якія карыстаюцца пераважна расейскай мовай. У іх няма ні практыкі, ні неабходнасьці атрымліваць інфармацыю па-беларуску, няма прагматычнага інтарэсу. XXI стагодзьдзе дало новы сродак, якога проста не існавала раней, новы сродак, які





дазваляе ўсталёўваць лучнасьць і падтрымліваць нейкія інтарэсы нацыянальныя, культурніцкія, палітычныя паміж людзьмі, расьсеянымі ў сьвеце. Гэта Інтэрнэт. І беларусізацыя Інтэрнэту, беларуская прысутнасьць у Інтэрнэце, калі гаварыць пра канкрэтныя рэчы, на фоне таго, што мы ўжо маем, — як Рада БНР, сталыя эміграцкія арганізацыі шмат у якіх краінах — гэта тое, што можа лучыць беларусаў у сьвеце.

*С.Навумчык:* Васіль Уладзімеравіч, ці карыстаецеся вы Інтэрнэтам?

В.Быкаў: Увогуле я карыстаюся Інтэрнэтам апошнія два гады; праўда, зь некаторымі эксцэсамі, бо мой Інтэрнэт, відаць, ня быў абаронены ад гакераў, і так сталася, што ў часе аднаго сэансу ў мяне згарэў кампутар і ўся інфармацыя ў ім. Я думаю, што гэта ўсё ж выпадак. Гэта ня значыць, што Інтэрнэтам карыстацца нельга — наадварот, трэба, і як мага шырэй, бо Інтэрнэт дае незвычайныя, фэнамэнальныя магчымасьці для кожнага грамадзяніна кожнай краіны.

*С.Навумчык:* Спадзяёмся, што надалей вас не напаткаюць непрыемныя кампутарныя эксцэсы, ад якіх, на жаль, мала хто застрахаваны. Васіль Уладзімеравіч, вы цяпер у Празе, а тыдзень таму вы правялі некалькі дзён у Менску. Якія ўражаньні ад Менску? Напэўна, вы глядзелі Беларускае тэлебачаньне, гарталі афіцыйныя і незалежныя газэты — вашыя ўражаньні ад паездкі на радзіму?

*В.Быкаў:* Найвялікшае ўражаньне склалася не ад газэтаў і не ад тэлебачаньня, а найперш ад тых працэсаў, якія адбываюцца цяпер у творчых саюзах. Я маю на ўвазе Саюз пісьменьнікаў і друкаваныя выданьні, якія так ці інакш залежалі ад Саюзу пісьменьнікаў, ну і часткова ад ПЭН-цэнтру, які я маю гонар узначальваць. Я скажу, што на ўсіх гэтых кірунках нашая культура, нашая літаратура цяпер атрымлівае толькі паразы. Па-

разы ад рэакцыйных сілаў, супрацьстаяць якім нашая культура ня ў стане.
Мы ведаем, што адбываецца ў Саюзе пісьменьнікаў, які там разброд. Гэты разброд ня так сабе, як гэта хочуць некаторыя разумець, ня ў выніку нейкіх унутраных праблемаў — а таму, што магутныя сілы дзяржавы паставілі сабе задачу ліквідаваць беларускую літаратуру, прынамсі, Саюз пісьменьнікаў. Тое самае мы бачым у галіне беларускай журналістыкі, калі фактычна валявымі актамі дзяржавы была зьліквідаваная ўся беларуская літаратурная журналістыка. Цяпер настала чарга ПЭН-цэнтру, там таксама адбываецца нешта незразумелае. Крыніцы гэтай незразумеласьці, зноў жа, вядуць наверх, да ўладаў. Я ня ведаю, як гэта ўсё ўрэшце вырашыцца, але ружовых нейкіх спадзяваньняў я адтуль не прынёс.

*С.Навумчык:* Дзякуй, Васіль Уладзімеравіч. У нашай студыі яшчэ адзін чалавек, які нядаўна быў у Менску — Аляксандар Лукашук, ён прэзэнтаваў там новае выданьне «Верш на Свабоду», кнігу вершаў, якія гучалі штодня ў нашым эфіры. Аляксандар, гэты тонус беларускасьці, ён стаў вышэйшы ці ніжэйшы?

*А.Лукашук:* На прэзэнтацыі кнігі «Верш на Свабоду», якая адбывалася ў Менску ў Палацы мастацтваў, прысутнічала пара соцень чалавек. Што мяне ўразіла — сапраўднасьць усіх пачуцьцяў і напружанасьць. І вельмі пазытыўна, і часам сьмешна. Адзін вядомы філёзаф выступіў з прамовай, якая спалучала рысы Лукаша Бэнды, «Бум-Бам-Літу» і філёзафа Фукуямы. Але я б ня стаў гаварыць пра вялікі пэсымізм. Мне здаецца, што ўсе працэсы ў Беларусі даволі інэрцыйныя, даволі запаволеныя. Восем гадоў, якія існуе апошні рэжым — не такі вялікі гістарычны адрэзак часу, каб гаварыць пра кардынальныя зьмены.
Я адведваў сваіх сваякоў у вёсцы, і суседка пабачыла, што я зайшоў на панадворак, прыйшла, пастукала ў раму, папрасіла, каб я выйшаў зь ёй пагаварыць. І сказала: «Вы, відаць, прыехалі адкуль, можа, нават зь Менску. Скажэце, ці ня можаце вы каго-небудзь параіць, хто б мог дапамагчы супраць ведзьмы?» «Супраць каго?» — спытаўся я. «Супраць ведзьмы. Вось у нас у вёсцы ёсьць ведзьма, і ніяк не магу справіцца, вось езьдзіла ўжо да розных людзей...» Ну, я параіў ёй пайсьці ў найбліжэйшую царкву. Вярнуўся ў хату, расказваю пра гэтую гутарку, а гаспадыня кажа: «Не, у суседнюю царкву ня варта ісьці, а трэба ісьці ў суседнюю вёску. Вось там бацюшка дык бацюшка. У нас не было дажджу два месяцы, дык старшыня калгасу і старшыня сельсавету, а таксама члены праўленьня калгасу пайшлі да яго папрасілі, пайшлі разам памаліліся, і ў той дзень увечары прайшоў дождж». Вось і вынік прымусовага навуковага атэізму. Інэрцыйныя працэсы працягваюць дзейнічаць, і ў духоўным стане людзей, і ў культуры ў цэлым, і я б сказаў, што яны ня страчаныя.

*С.Навумчык:* Зьвяртаюся да спадара Дынька: якое вашае меркаваньне наконт пэрспэктываў?

*А.Дынько:* Я гляджу на сёньняшнюю Беларусь зь вялікай доляю аптымізму, з большым аптымізмам, чым я глядзеў на яе пару гадоў таму. На сёньня мы маем сваю дзяржаву, маем тое, што можа гарантаваць існаваньне і выжываньне нашай нацыі ў гадах і стагодзьдзях. У большасьці эўрапейскіх моваў словы «нацыя» і «дзяржава» — сынонімы. Ня тое ў Беларусі, дзе нашая нацыя доўгі час ня мела дзяржавы. Цяпер мы яе маем, і адзінаццаць гадоў незалежнасьці калі да чаго й прывялі, дык найперш да таго, што мы маем таксама ў краіне палітычную эліту, якая разумее вартасьць незалежнасьці.
Незалежнасьць стае тою каштоўнасьцю, якая будзе здольная аб'яднаць усю нацыю, прычым аб'яднаць ня толькі тых беларусаў, якія жывуць у Беларусі, але і тых беларусаў, якія апынуліся па-за яе межамі. Я спадзяю-

ся, што дзякуючы існаваньню гэтае дзяржавы, неўзабаве зьявяцца і дэмакратыя, і рынкавая эканоміка, бо хто як не свая дзяржава зможа іх тут увесьці і абараніць. І я думаю, што яшчэ нядоўга нам засталося чакаць да таго, калі ў справе прыняцьця дзяржаўнага гімну дзяржава будзе раіцца ня толькі са сваёй прызначанай урадам камісіяй, але і зь беларусамі дыяспары, зь беларускімі эмігрантамі, якія несьлі беларускую ідэю праз дзесяцігодзьдзі, калі яна была забароненая на бацькаўшчыне. Гэтае існаваньне беларускае дзяржавы — яно ня можа не надаваць аптымізму. Я думаю, што ўсё будзе лепшаць. Я не пагаджуся з Васілём Уладзімеравічам Быкавым, я думаю, што гэтае паляпшэньне ўжо не за гарамі.

*С.Навумчык:* Спадар Андрэй, падобна, што вашага аптымізму не падзяліў бы аглядальнік уплывовага брытанскага часопіса «Economist», які прагназуе, што Лукашэнка будзе дамагацца захаваньня сваіх паўнамоцтваў да 2015 году, і адзначае слабасьць апазыцыі. Дзеля справядлівасьці трэба сказаць, што прагнозы адносна пэрспэктываў дэмакратыі ў Беларусі на Захадзе розныя. Мы ўжо знаёмілі нашых слухачоў зь меркаваньнем міністра замежных справаў Швэцыі Анны Лінд, якая сказала, што ніколі ўлада ня можа ўтрымацца на гвалце і рэпрэсіях, на судах над палітыкамі й журналістамі. На жаль, гэтая канстатацыя абвяргаецца вопытам Кубы ды Паўночнай Карэі, дзе рэжымы трываюць дзесяцігодзьдзі. Васіль Уладзімеравіч, як вы ацэньваеце пэрспэктыву?

*В.Быкаў:* Я толькі магу выказаць маю зайздрасьць спадару Дыньку, які так аптымістычна ацэньвае нашую будучыню. На жаль, я ня бачу падставаў для такога роду спадзяваньняў. Пра якую можна гаварыць незалежнасьць, калі яе ўжо няма, калі яна ўжо здадзеная? Як можа, дапусьцім, прэзыдэнт Лукашэнка гарантаваць у будучыні незалежнасьць, калі ўся ягоная палітыка





скіраваная на ліквідацыю рэштак, эфэмэрных, папяровых рэштак гэтай незалежнасьці? Да чаго гэта прывяло, мы ведаем.
Пасьля таго, як на пачатку 1990-х гадоў была прынятая хоць нейкая, зноў жа, папяровая незалежнасьць, сьвет пачуў пра Беларусь. Цяпер, я думаю, эўрапейскія краіны ўжо забыліся, што яна існуе, апроч некаторых палітыкаў з АБСЭ, якія ўвайшлі ў канфлікт зь беларускім рэжымам. І чым далей ідзе час, чым далей Беларусь будзе ў такім няпэўным становішчы, тым менш ад яе захаваецца памяці ў сьвядомасьці Эўропы, і ня толькі Эўропы. Таму я баюся, што праз якіх-небудзь некалькі гадоў, калі будзе так прадаўжацца (а яно будзе так прадаўжацца, бо для зьменаў няма абсалютна ніякіх матываў і ніякіх умоваў), тэма Беларусі будзе ў сьвеце проста закрытая.

*С.Навумчык:* Што, на ваш погляд, магло б зьмяніць такое разьвіцьцё падзеяў?

*В.Быкаў:* Магло б спыніць толькі рэальнае дасягненьне незалежнасьці Беларусі. Калі б Беларусь была менавіта незалежная, няхай бы яна была бедная, неразьвітая, адсталая ці слаба разьвітая — але калі б яна мела незалежнасьць, усё астатняе прыклалася б. І сьвет, і Аб'яднаныя Нацыі, і Эўрапейскі Зьвяз павярнуліся б тварам да Беларусі, і ёй бы аказалі патрэбную дапамогу, ува ўсіх сэнсах. Тады Беларусь стала б Беларусьсю. А пакуль што яна не Беларусь, а яна проста ператвараецца ў чарговую губэрню Расеі. Хіба не пра гэта сьведчыць уся палітыка сучаснага беларускага рэжыму?

*С.Навумчык:* Васіль Уладзімеравіч прыгадаў эўрапейскі кантэкст. Дзе сёньня Беларусь у параўнаньні з суседзямі?

*А.Лукашук:* Дзевяць гадоў таму Польшча, Літва, Украіна, Латвія, Беларусь мелі эканамічны ўзровень аднолькавы, магчыма, у Беларусі быў і лепшы. Разьвіцьцё

інфраструктуры, узровень дэмакратыі ў краінах фактычна аднолькавыя. Адзінае адрозьненьне: узровень нацыянальнай самасьвядомасьці, узровень беларускасьці ў Беларусі. Як вынік, празь дзесяць гадоў аказалася, што гэты адзіны чыньнік вызначыў цяперашні проста велізарны разрыў паміж гэтымі краінамі, у першую чаргу адрыў ад Беларусі краінаў Прыбалтыкі, Польшчы, але таксама і Ўкраіны, якая зусім нядаўна заявіла пра зьмену сваёй замежнай палітыкі і намер далучыцца да НАТО — яна цьвёрда становіцца эўрапейскай краінай, выходзіць з эўразійскага кантэксту. Адзінае, у чым палягае розьніца, — ступень актыўнасьці і разьвітасьці беларускасьці. Іншымі словамі, уратаваньне Беларусі і ў справе незалежнасьці, і ў справе эканомікі, і ў справе дэмакратыі базуецца, як ні дзіўна, вось толькі на гэтым фактары.

Гэта даволі добра і востра адчувалі на самым пачатку незалежнасьці кіраўнікі апазыцыі. Зянон Пазьняк, Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» беларускасьць зрабілі сьцягам. Гэта не было зразумета грамадзтвам, гэта часам выклікала адваротныя эфэкты, з чаго скарыстаўся Лукашэнка. Але Лукашэнка — пры ўсім ягоным мястэчковым успрыняцьці сьвету, неразуменьні міжнароднай палітыкі, неадукаванасьці — мае інстынкт да ўлады, і ён ведае, што пагроза яму зыходзіць з аднаго толькі кірунку, не з Расеі, не з Эўропы, а зь беларускага так званага нацыяналізму — які можна назваць патрыятызмам. Адсюль гэты жорсткі, здавалася б, неапраўданы перасьлед беларускай мовы, беларускай літаратуры, беларускіх выдавецтваў, культуры ў цэлым. Бо вось гэтая беларускасьць — галоўная надзея для Беларусі і галоўная небясьпека для яе праціўнікаў.





## СЁНЬНЯ ВАСІЛЮ БЫКАВУ СПАЎНЯЕЦЦА 78 ГАДОЎ

19 чэрвеня 2002

***Сяргей Навумчык, Прага***

> Больш за тры гады пісьменьнік вымушаны жыць за мяжой. Творы Быкава, якія зрабілі б гонар любой эўрапейскай літаратуры, улады Беларусі лічаць «непажаданымі». Мы патэлефанавалі Васілю Быкаву ў Нямеччыну.

*— Васіль Уладзімеравіч, ваш лёс у вялікай літаратуры пачаўся з цкаваньня. Пасьля публікацыі ў 1966 годзе ў «Новым мире» А.Твардоўскага аповесьці «Мёртвым не баліць» у органе ЦК КПСС газэце «Правда» зьявіўся разгромны артыкул Уладзімера Сеўрука, а затым — дзясяткі падобных артыкулаў у газэтах рангам ніжэйшых. Вам білі вокны, за вамі сачыў КГБ. Але тады частка Саюзу пісьменьнікаў Беларусі ўпершыню выступіла супраць тагачасных ідэалягічных схемаў, уступіўшы ў канфлікт з уладамі — яны падпісалі калектыўны ліст у вашую падтрымку. Чаго ня здолелі ўлады зрабіць сорак гадоў таму, зроблена сёньня. Сеўрук — адзін з ідэолягаў, а беларускія пісьменьнікі пастаўленыя ў крытычныя ўмовы, калі гаворка ідзе ўжо не пра магчымасьць выдавацца, а пра магчымасьць выжыць. Ці засталася магчымасьць ствараць? Бо можна пісаць у стол... Дык ці можа пісьменьнік пісаць у стол?*

— Пісьменьнік можа ўсё што трэба і чаго ён захоча. Усё ж пакуль літаратурная творчасьць ня мае адзнакаў прамысловай творчасьці, гэта індывідуальны працэс, натуральна, што ў гэтым сэнсе пісьменьнікі вольныя выбіраць. Але — якая пэрспэктыва? Я думаю, што той працэс, які цяпер адбываецца навогул ва ўсясьветнай культуры, ён нейкім чынам гіпэртрафаваўся ў нашай

нацыянальнай культуры, бо нашая нацыянальная культура нішчыцца яшчэ і палітычнымі мэтадамі. Я ня думаю, што пад татальным націскам масавай культуры, аб'яднаным зь дзяржаўніцкім дэспатызмам, можна было нейкім чынам выстаяць.
Якая тут можа быць пазыцыя нацыянальнай культуры і яе дзеячоў? Найперш, я думаю, ня даць паншчыць нашага клясычнага нацыянальнага плёну, здабытага ў ранейшыя часы, у тым ліку і савецкія. Захаваць яго ад панявечаньня, дыскрымінацыі, а тое і фізычнага вынішчэньня, спадзеючыся на віртуальнае адраджэньне, што, аднак, дужа сумнеўна. Але ўсё роўна — не састу́піць з пазыцыяў праўды і справядлівасьці, нават калі ўсе абставіны будуць супраць, памятаючы, што ісьціна за намі. За імі перамога, можа быць. Але за намі ісьціна, якая, як пісаў разумны і сумленны сучасны філёзаф, вышэйшая за ўсё, нават за ачмурэлы народ.

*— У сучасным сьвеце зьмяніліся сродкі камунікацыі пісьменьніка і чытача — можна абысьціся і без выдавецтва, нават бяз кнігі ў яе клясычным гутэнбэргаўскім разуменьні — ёсьць Інтэрнэт, куды можна выставіць любы тэкст і атрымаць тысячы чытачоў. Альбо — не атрымаць. Ці ўплываюць сучасныя тэхналёгіі нейкім чынам на творчы працэс? Ці вам цяпер прасьцей пісаць?*

— Я думаю, што тэхнічныя сродкі, у тым ліку і ўсясьветнае сеціва, кепска дастасуюцца да характару традыцыйнай культуры. Мабыць, сеціва — добрая рэч у справе інфарматыкі, але «Дон Кіхот» і «Новая зямля» створаныя прымітыўнымі сродкамі. Лазэрныя, кампутарныя ды іншыя сродкі выяўленьня не стварылі пакуль нічога, што магло б канкураваць з клясычнымі мадоннамі і антычнымі статуямі, якія ствараліся адно душамі й чуйнымі рукамі мастакоў. Каб у гэтым сэнсе спадзявацца на нейкія посьпехі, патрэбная, відаць, вялікая практыка, гістарычны час, а таго часу пакуль што прайшло вельмі няшмат. І таму я зусім не захапляюся гэтымі тэхнічнымі сродкамі, у тым ліку Інтэрнэтам. Мой асабісты вопыт адзін: нейкі момант — і ўсё гэта можа быць паншчанае. Такога ня можа быць, не магло быць (амаль што не магло быць) у ранейшыя часы, калі ўсё гэта мела індывідуальны характар і не залежала ад масавай культуры або нават масавай цывілізацыі.

*— Нехта з празаікаў, здаецца, Валянцін Катаеў, заўважыў, што мэта літаратуры і навогул мастацтва — «служыць зьмякчэньню норваў». Мо і сапраўды, каб не было Леанарда, Сэрвантэса, Моцарта, чалавецтва засталося б у скалах. Аднак цяпер інфармацыйныя агенцыі штодня даносяць зьвесткі пра такія чалавечыя ўчынкі, на якія нэандэрталец мо быў бы і няздольны. Дык выглядае, што мастацтва, увесь гэты шматтысячагадовы пласт мастацтва — бездапаможны. Што вас прымушае амаль штодня сядаць за пісьмовы стол? Якія ў вас яшчэ засталіся спадзяваньні — што нехта пачуе і нешта зьменіць?*

— Я думаю, што пачуюць, усё ж яшчэ пакуль што можна чуць, што пішуць мастакі й ствараюць мастакі. Але рэч нават ня ў гэтым. Нават калі нічога ніхто не пачуе, усё роўна наш абавязак, абавязак творцаў — тварыць, памятаючы, што ісьціна за намі. За імі, тымі, хто выступае супраць, — перамога, а за намі — ісьціна. У гэтым сэнсе, я думаю, вельмі важнае даўняе выслоўе расейца Талстога: «Рабіце, што трэба, і хай будзе, што будзе». Вось у гэтым і ёсьць абавязак і, можа быць, апошняе спадзяваньне мастака ў наш час.

## НОВАЕ КІРАЎНІЦТВА ЧАСОПІСАЎ ВЫКІДАЕ БЫКАВА, БУРАЎКІНА, ТАРАСА, РАЗАНАВА

19 чэрвеня 2002

***Валянціна Аксак, Менск***

Вячаслаў Дашкевіч у часопісе «Крыніца», які ён толькі што ўзначаліў, будзе друкаваць вершы Алеся Разанава, а Ніна Чайка, новая рэдактарка «Нёману», зьняла іх з чарговага нумару. Усе супрацоўнікі тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» хочуць працаваць у сваёй, далучанай да дзяржаўнага холдынгу, газэце, хоць для дзевяці зь іх месцы там ужо не прадугледжаныя.

Вядомая з адыёзнай перадачы «Разговор по существу» журналістка Ніна Чайка зь ня меншым, чым на дзяржаўным радыё, імпэтам узялася выкараняць творы вядомых беларускіх літаратараў са старонак часопіса «Нёман». Вось што нам паведаміў адказны сакратар выданьня Валянцін Болтач:

— Новы будучы галоўны рэдактар прынесла чарговы нумар. У ім на 90% тое, што калектыў рыхтаваў, выкінутае, замененае бог ведама чым. Выкінутыя вядомыя пісьменьнікі — Быкаў, Бураўкін, Тарас, Разанаў.

Замест твораў гэтых выбітных беларускіх пісьменьнікаў старонкі чарговага нумару «Нёману» зоймуць тэксты шавіністычнага расейскага літаратара А.Праханава і ягонага беларускага аднадумца Росьцікава. У такой атмасфэры спадар Болтач і бальшыня ягоных калегаў ня бачаць мажлівасьцяў далейшае працы ў «Нёмане». Усе супрацоўнікі часопісу атрымалі пісьмовыя папярэджаньні, што з 1 ліпеня будуць звольненыя з рэдакцыі. Хоць кантракты ў многіх зь іх заканчваюцца ў наступным, а ў некаторых — у 2004 годзе. Новага штатнага раскладу ім не абвясьцілі і прапановаў новага працаўладкаваньня не рабілі. Адрозна ад «нёманцаў», супрацоўнікі «Крыніцы» самі падалі заявы на звальненьне, хоць новы галоўны рэдактар часопіса Вячаслаў Дашкевіч кажа, што з усімі імі хоча працаваць:

— Па-першае, былі прапановы ўсім заставацца. Хацеў бы, каб усе працавалі, таму што пераменаў вялікіх ня будзе. Крышку будзе больш, магчыма, публіцыстыкі, моладзевы ўхіл будзе акрэсьлены больш.

Вось што сказаў спадар В.Дашкевіч пра мажлівасьці друкавацца ў «Крыніцы» тым аўтарам, творы якіх Ніна Чайка зьняла з чарговага нумару «Нёману»:

— Калі заўтра прынясуць свае творы Тарас, Разанаў, буду толькі рады.

Газэту «Літаратура і мастацтва» найменей з усіх выданьняў закранаюць перамены рэдакцыйна-кадравае палітыкі холдынгу, Алесь Пісьмянкоў па-ранейшаму кіруе тыднёвікам. Але з трыццаці супрацоўнікаў рэдакцыі дзевяць пазбавяцца там месца працы. Хоць, як сказаў нам намесьнік галоўнага рэдактара Віктар Шніп, заявы ў абноўленую рэдакцыю зьбіраюцца падаваць усе:

— У часопісах будуць стандартныя рэдакцыі — па дзесяць супрацоўнікаў. А ў нас я ня ведаю, колькі. Мы прапануем дваццаць адну адзінку. Хто застанецца з трыццаці — невядома. Заявы на працу будуць падаваць усе.

Віктар Шніп сказаў таксама пра мажлівы пераход некаторых супрацоўнікаў часопісаў «Полымя» і «Маладосць» з адной рэдакцыі ў другую ў залежнасьці ад сымпатыяў да новапрызначаных галоўных рэдактараў:

— Некаторыя з «Полымя» пойдуць у «Маладосць», некаторыя з «Маладосці» — у «Полымя», «Крыніцу». Туды-сюды, каму які рэдактар падабаецца.

## «ЧАЛАВЕК З ЧУЙНАЙ ДУШОЙ»

17 ліпеня 2002

***Сяргей Навумчык, Прага***

У Менску памёр Уладзімер Кармілкін — незалежны журналіст, фатограф, які зафіксаваў хроніку апошняга беларускага адраджэньня. Усе гэтыя гады Ўладзімер Кармілкін быў побач зь Зянонам Пазьняком, Рыгорам Барадуліным, Васілём Быкавым.

На сувязі Нямеччына, гаворыць Васіль Быкаў:

— Валодзя Кармілкін быў чалавек зь вельмі чуйнай душой, добрым чалавечым сэрцам, гэтая яго чуйная дабрыня і прывяла яго ў свой час у БНФ, зрабіла летапісцам фронтаўскіх справаў і людзей. Ён дужа любіў іх, спрыяў іхнай справе, якая і для яго стала справай ягонага лёсу. Ён зрабіў шмат маіх фатаграфіяў, нямала іх апублікавана ў кнігах і газэтах, але заўжды ён хацеў яшчэ і больш, быццам прадчуваў, што ягоны век кароткі — карацейшы за справу, якую ён любіў, дзеля якой працаваў. Ён праводзіў мяне, як я ад'яжджаў у замежжа, падарыў мне «Пагоню» і бел-чырвона-белы сьцяжок, зь якім я не расстаюся гадамі. Ён мяне зьвязваў з радзімай, з БНФ, і заўжды нагадваў мілага і добрага Валодзю Кармілкіна. Пухам яму зямля.

## «ЁН ПРАВОДЗІЎ МЯНЕ Ў ЗАМЕЖЖА»

24 жніўня 2002

***Ігар Карней, Менск***

Зь перадачы «Партрэт на Свабоду», прысьвечанай Уладзімеру Кармілкіну.





Відэамагнітафон узнаўляе старыя кадры. Кватэра Ўладзімера Кармілкіна, за сталом Зянон Пазьняк, Юры Хадыка, Уладзімер Пузыня, яшчэ колькі знаёмых твараў. І — сам Кармілкін. Гэта было 15 лютага 1996 году, Уладзімеру Кармілкіну спаўнялася 62 гады. На дні нараджэньня сьпявалі песьню-малітву «Магутны Божа».

*Голас У.Кармілкіна:* Цудоўны гімн, цудоўная мэлёдыя. І дай Бог, каб мы дажылі да дзён шчасьлівай нашай незалежнай Беларусі. Тое, што Зянон Станіслававіч робіць, тое, што Фронт робіць, — гісторыя ніколі не забудзе нашых адраджэнцаў. Але каб патрапіць у гісторыю, патрэбна зрабіць усё, каб наш народ жыў шчасьліва. А ня так, як жыве цяпер.

Здавалася, што прыхільнасьць Кармілкіна да кагосьці была нашмат мацнейшая за прыхільнасьць у адказ. Ён вельмі ганарыўся сваім сяброўствам ці проста блізкасьцю зь людзьмі. А калі гаворка ішла пра такіх асобаў як Зянон Пазьняк ці Васіль Быкаў, ён ня мог пераажыць, ня мог дараваць уладам зьдзеку зь фігураў такога маштабу. Кармілкін не саромеўся распавядаць, як плакаў, калі Быкаў ад'яжджаў — спачатку ў Фінляндыю, а потым у Нямеччыну. Плакаў разам з жонкай Васіля Ўладзімеравіча, бо яны ведалі, як цяжка ў сталым веку пачынаць новае жыцьцё. Не маглі зразумець: чаму краіна, супраць якой колісь ваяваў Быкаў, дае яму прытулак, а родная дзяржава ўсяляк ганьбіць ды гоніць? Вось як згадвае пра гэта сам Васіль Быкаў:

*В.Быкаў:* Валодзя Кармілкін валодаў вельмі чуйнай чалавечай душою. Ягоная душа, ейная чуйнасьць рабілі дабро дзеля людзей — найперш, вядома, для людзей добрых, чымсьці падобных да яго, але ён жыў у грамадзтве, якое далёкае ад дабрыні... Мяне ён шмат фатаграфаваў сваёй далёка не першакляснай оптыкай. Гэтай оптыкай, дарэчы, ён пераздымаў ці ня ўсе акцыі Народнага Фронту. Чытаў мае кнігі, звычайна на но-

вую прасіў зрабіць аўтограф. Праводзіў мяне ў замежжа. Тады асабліва крануў, падараваўшы невялічкі аздоблены ім бел-чырвона-белы сьцяжок і «Пагоню». Тыя змайстраваныя ім сымбалі заўсёды са мной. Цяпер яны мне асабліва дарагія, бо ёсьць напамінкам і пра далёкую Беларусь, і пра незабыўнага нашага Валодзю Кармілкіна.

## «ЛУКАШЭНКА І ДЭМАКРАТЫЯ — СЛОВЫ НЕСУМЯШЧАЛЬНЫЯ»

19 лістапада 2002

З прамовы амэрыканскага сэнатара Джона Маккэйна на міжнароднай канфэрэнцыі ў Вашынгтоне.

*Дж.Маккэйн:* Лукашэнка — апошні пасажыр чаўна савецкіх ідэяў, які патанае ў акіяне гісторыі ад часу, як мужныя людзі з дапамогай зьнешняга ціску дамагліся распаду СССР. Знакаміты беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў заўважыў: «Лукашэнка і дэмакратыя — словы несумяшчальныя». Вобраз свабоднай і дэмакратычнай Беларусі, якая не азіраецца на савецкую мінуўшчыну і якая скінула кайданы Лукашэнкавага панаваньня, натхняе беларускіх патрыётаў, чыя маральная адданасьць дэмакратычным пераменам пакладзе канец кіраваньню апошняга дыктатара Эўропы.



# Чэхія

12 сьнежня 2002 — 23 траўня 2003

У сьнежні сям'я Быкавых прыяжджае ў Прагу.
У Празе Быкаў працуе над прыпавесьцямі, пасьпявае ўнесьці некаторыя зьмены ў сумесную з Рыгорам Барадуліным кнігу «Калі рукаюцца душы». Піша прадмову да кнігі супрацоўніка Радыё Свабода Сяргея Абламейкі «EGOізмы». У сакавіку 2003 году ён сустракаецца са старшынёй Рады БНР Івонкай Сурвіллай і ўдзельнічае ва ўрачыстай акадэміі ў гонар 85-х угодкаў БНР.
У пачатку сакавіка ў лісьце да Зянона Пазьняка ў Варшаву Быкаў піша: «Забалела ўнутры, Лукашук адвёз мяне ў клінічны цэнтар, пачаліся тыдні абсьледаваньняў, у выніку якіх — пэрспэктыва апэрацыі і хіміятэрапіі, бо ёсьць падазрэньне на анкалягічны працэс. А мне перад тым трэба зьезьдзіць у Менск, палагодзіць пэўныя справы з сынамі... Ды пакуль не магу, бо на наступным тыдні — кансыліюм, які штось вырашыць...»
Кансыліюм запатрабаваў апэрацыі, якая і была зробленая 27 сакавіка. У шпіталі Быкаў слухае «Свабоду», а пасьля выпіскі ўдзельнічае ў некаторых перадачах.
8 траўня адзначае Дзень Перамогі разам з супрацоўнікамі «Свабоды», 9 траўня ўдзельнічае ў афіцыйнай цырымоніі на Альшанскіх могілках, дзе пахаваныя савецкія салдаты.
У Менск Васіль Уладзімеравіч і Ірына Міхайлаўна вылятаюць 23 траўня, маючы на 6 чэрвеня зваротны білет у Прагу. Васіль Уладзімеравіч просіць супрацоўнікаў радыё не паведамляць пра ягоную паездку ў Беларусь. 4 чэрвеня Быкаў дае апошняе інтэрвію «Свабодзе», якое заканчваецца словамі: «Трэба змагацца за родную мову». 9 чэрвеня Васіля Ўладзімеравіча шпіталізуюць у анкалягічны цэнтар у Бараўлянах пад Менскам.

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ БУДЗЕ ЖЫЦЬ У ЧЭХІІ

12 сьнежня 2002

***Сяргей Навумчык, Прага***

Апошнія тыдні Чэхія выразна акрэсьліла сваё стаўленьне да Беларусі й паказала, каго тут не чакаюць, а каго рады вітаць. Летась у верасьні прэзыдэнт Чэхіі прымаў Васіля Быкава ў Праскім Градзе. Цяпер Вацлаў Гавэл адзначае, што «даць Васілю Быкаву і ягонай жонцы магчымасьць жыць у Чэхіі — гэта ня толькі наш абавязак, гэта вялікі гонар для дзяржавы».

Ад сёньня Васіль Быкаў будзе стала жыць у Чэскай Рэспубліцы. Пісьменьніку і ягонай жонцы далі бестэрміновы від на жыхарства. Мы запыталіся ў Васіля Ўладзімеравіча, зь якімі пачуцьцямі ён прыехаў у Прагу:

— У Чэхію я прабіўся кружным шляхам, праз іншыя землі й народы — таксама неблагія, зь вялікай культурай і найлепшымі памкненьнямі ў сучаснай палітыцы Эўропы. Але заўжды чэхі мне здаваліся найлепшымі з усіх эўрапейцаў. І ня толькі таму, што славяне, што культурна зьвязаныя зь беларускім народам і беларускай гісторыяй, але і таму, што чэхі як ніхто засьведчылі ў гісторыі сваю прыхільнасьць да дэмакратыі. Найлепшы эўрапейскі прэзыдэнт — гэта чэскі прэзыдэнт Вацлаў Гавэл. Я даўно марыў прыехаць у Чэхію, і цяпер мае мары зьдзейсьніліся. Ну, а астатняе пакажа час.

У ранейшых сваіх інтэрвію Быкаў казаў, што пакуль ня бачыць магчымасьці жыць у цяперашняй Беларусі. Цкаваньне Васіля Быкава некаторымі набліжанымі да кіраўніка Беларусі асобамі параўнальнае з тым, што было ў 1960-я гады, пра гэта В.Быкаў напісаў у сваіх успамінах, якія нядаўна ўпершыню прагучалі на хвалях





«Свабоды». Неўзабаве ўспаміны выйдуць у Менску асобнай кнігай у прыватным выдавецтве.

— Кніга выдаецца ў Беларусі, у адным незалежным выдавецтве. Я думаю, што там яе рэдагаваньне і ўвесь працэс паліграфічны праходзяць даволі пасьпяхова, і я думаю, што недзе пры канцы году, можа быць, на пачатку наступнага, кніга зьявіцца ў кнігарнях.

Васіль Быкаў ня любіць казаць пра тое, што завецца «творчымі плянамі», але я ўсё ж папрасіў крыху пра іх распавесьці:

— Ёсьць і пачатае, і тут зьявіліся ў мяне іншыя задумкі. Магчыма, трошкі адпачну і адыду ад клопатаў, зьвязаных зь пераездам, і пачну працаваць, так я спадзяюся. Гэта будзе, можа, нешта зьвязанае з Чэхіяй, альбо нешта не да канца выпрацаванае, што зьвязана ў мяне зь Нямеччынай.

Статус Быкава і ягонай жонкі ў Чэхіі — не палітычны прытулак. Яны застаюцца грамадзянамі Беларусі й плянуюць наведваць радзіму.

## «ПАЭЗІЯ СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА БУДЗЕ ЖЫЦЬ У БЕЛАРУСКАЙ ДУХОЎНАСЬЦІ»

12 сьнежня 2002

***Сяргей Навумчык, Прага***

Памёр паэт Сяргей Грахоўскі.

*В.Быкаў:* Сяргей Грахоўскі — адзін з апошніх магіканаў беларускай літаратуры, якім досталося ў жыцьці, як нікому з пазьнейшых пакаленьняў беларускіх пісьменьнікаў. Можна толькі зьдзіўляцца, як гэты паэтбеларус вытрымаў столькі ў жыцьці і не згубіў ні гра-

мадзянскага гарту, ні паэтычнай узьнёсласьці. Не зважаючы на ўзрост, хваробы і палітычную калатнечу, ён пісаў усё жыцьцё. Як рэдка хто зь ягоных братоў па няшчасьці, ён напісаў таксама ў прозе пра свае нягоды, і гэта будзе ў падмурку вялікай нацыянальнай праўды пра час і пра беларусаў у гэтым часе. Драматычны лёс Сяргея Грахоўскага скончыўся, але я думаю, што яго творы, яго паэзія яшчэ будуць жыць у беларускай духоўнасьці.

## «ПАМЯЦЬ ДЛЯ БАЛЬШАВІКОЎ — ЖАХ, ЗЛАЧЫНСТВА І КРАМОЛА»

23 сьнежня 2002

***Сяргей Навумчык, Прага***

> Перадача трансьлявалася ў Палац мастацтва ў Менску, дзе прэзэнтавалі кнігу «Дарога праз Курапаты». У кнігу, прысьвечаную абароне Курапатаў, увайшлі рэпартажы з Курапатаў, якія гучалі штодня ў нашым эфіры з кастрычніка 2001 году да ліпеня 2002-га. Увесь гэты час некалькі дзясяткаў чалавек спрабавалі ўратаваць урочышча ад будаванай праз яго кальцавой дарогі.

Пра Курапаты даведаўся ўвесь сьвет пасьля таго, як у 1988 годзе ў газэце «Літаратура і мастацтва» быў надрукаваны артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці». Гэты артыкул абудзіў новую хвалю нацыянальнага адраджэньня. Як потым прыгадваў Зянон Пазьняк, такая публікацыя нават у той «перабудовачны» час была б немагчымая, калі б не дапамога і прадмова народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава. Сёньня Васіль Быкаў з Прагі зьвяртаецца да ўсіх абаронцаў Курапатаў:





— Шаноўныя абаронцы Курапатаў, праўды і справядлівасьці! Бальшавікі маюць вялізную практыку закатваць пад асфальт ня толькі непажаданых асобаў, але і хаваць у зямлі цэлыя пласты нашай пакутнай гісторыі. Адэкватных сродкаў супрацьстаяньня іхнаму гвалту дэмакратыя ня мае — апроч хіба памяці. Памяць для бальшавікоў — жах, злачынства і крамола, бо гэта заўжды памяць пра іхныя злачынствы ды іхныя ахвяры. Але ў маладых людзей Беларусі сьвежы розум і добрая памяць, і яны ім ня здраджваюць. Што ж да Курапатаў, дык вы іх зьбераглі цягам завейных месяцаў, празь сьцюжу і тэрор праваразбуральных ды іншых органаў. Вы абаранілі, можа, самы жахлівы краёчак нашай гісторыі — памяць пра зло і крывавыя злачынствы, што чыніліся супраць нацыі. Натуральна, тое было няпроста, але менавіта ў тае ўпартай непадлегласьці — надзея на вольную Беларусь, яе дзяржаўнасьць і духоўнае адраджэньне занядбанай нацыі, лёс якой надышоў да вырашальнай мяжы. Беларусь будзе ўпэўненая, што яшчэ шмат чаго добрага і гераічнага зьдзейсьніць для яе наша мілая беларуская моладзь!

## РЫГОР БАРАДУЛІН: «БЫКАВУ НА КУБЕ ПАКАЗАЛІ СТУКАЧА»

23 сьнежня 2002

***Міхась Скобла, Менск***

> Зь перадачы «Вольная студыя» — гутарка з паэтам Рыгорам Барадуліным.

*— Рыгор Іванавіч, вы адзін зь нямногіх беларускіх пісьменьнікаў, хто пабываў на гэтак званым Востраве Свабоды. Нядаўна па тэлебачаньні Ігар Лучанок захоп-*

*лена расказаў, як ён сьпяваў «Подмосковные вечера» Фідэлю Кастра. А вы яму вершаў не чыталі?*

— Не, я ня быў дапушчаны да гэткіх высокіх парогаў. Гэта толькі для Лучанка... Дарэчы, мне прыгадваецца адна даўняя эпіграма:

Однажды я купил щенка,
но говорит мне Лукша:
купи пластинку Лученка —
она облает лучше!

Але гэта так, да слова. А калі я зьбіраўся на Кубу, адтуль вярнуўся Васіль Быкаў. І ён мне кажа — няма чаго табе туды езьдзіць. Аказалася, што, па-першае, там вельмі горача, а па-другое, Васілю, як дарагому госьцю, паказалі кубінскую школу юных разьведчыкаў і падвялі да яго хлопчыка, які лепш за ўсіх піша даносы!

## «КАМУНІСТЫЧНАЯ ПСЫХАЛЁГІЯ СТАІЦЬ НА ШЛЯХУ ДЭМАКРАТЫЗАЦЫІ ДЫ СПАЗНАНЬНЯ ІСЬЦІНЫ»

24 сьнежня 2002

***Аксана Пяленська, Прага***

Інтэрвію Васіля Быкава Ўкраінскай службе Радыё Свабода.

*— Вы шмат пішаце пра вайну. Ці засвоілі яе ўрокі грамадзяне Ўкраіны, Беларусі, Расеі — краінаў, якія найбольш пацярпелі ад яе наступстваў?*

— Мяркую, што ўрокі не засвоеныя. Прычына ў тым, што ад самага пачатку савецкая ўлада і савецкі рэжым зрабілі ўсё дзеля таго, каб гэтыя ўрокі накіраваць у іншае рэчышча, каб найгалоўнейшыя ўрокі засталіся незасвоеныя. Савецкая ўлада жадала, каб засвоіліся толькі зручныя для яе ўрокі, тыя, што яе задавальняюць. Напрыклад, урок пра тое, што перамога ў вайне была здабытая дзякуючы кіроўнай ролі кампартыі і майстэрству палкаводца Іосіфа Сталіна. Усё іншае заставалася па-за межамі сьвядомасьці нашага народу.

*— А ня позна было б сёньня вярнуцца да тых урокаў?*

— Мяркую, што ўжо позна. Я гэта так бачу. І гэта натуральна. Тая вайна ўжо адышла ў далёкае мінулае. Цяпер жыцьцё на першы плян высунула зусім іншыя праблемы, магчыма, нават ня менш цяжкія, чым была тая мінулая вайна. Таму я лічу, што час страчаны, а тое, што страчана ў часе, ужо не адновіцца.

*— Камуністычнаму рэжыму ўдалося ў значнай ступені зруйнаваць веру людзей у асноўныя чалавечыя каштоўнасьці, маю на ўвазе грамадзянаў былога Савецкага Саюзу. Нават калі мы гаворым аб праве на праўду ці звычайную чалавечую прыстойнасьць. Як вы лічыце, ці ўдасца адрадзіць гэтыя каштоўнасьці,аднавіць веру ў чалавечыя ідэалы?*

— Хочацца верыць, што гэта будзе адроджана. Тым болей, што і міжнародная супольнасьць ставіць гэткія ж мэты. Але супрацьдзеяньне гэтым працэсам таксама вялікае. Нягледзячы на цьверджаньні, што камуністычны рэжым на постсавецкай прасторы зьнішчаны, камуністычная псыхалёгія застаецца. І ня толькі ў асяродзьдзі кіроўнай эліты, але і ў масавай сьвядомасьці. Гэтая камуністычная псыхалёгія стаіць на шляху дэмакратызацыі, спазнаньня ісьціны як пра мінуўшчыну, так і пра цяперашні час — і таксама, мабыць, і пра будучыню. На шляху аднаўленьня, спасьціжэньня ісьціны і нацыянальных ідэалаў паўстае і эканамічны крызіс, які ня хоча пакідаць нашых мясьцінаў. Да гэтага дадаецца і крызіс на Захадзе, хаця і не такіх вялікіх маштабаў. Усё гэта ўскладняе нашым народам шлях да прагрэсу.

*— Спадар Быкаў, чаму дэмакратычныя працэсы ў нашых краінах, ва Ўкраіне і ў Беларусі, прасоўваюцца так марудна?*

— Думаю, што рэч у нашай мэнтальнасьці, у нацыянальнай мэнтальнасьці, якая ня можа альбо ня хоча (а хутчэй усё разам) пазбаўляцца ад свайго камуністычнага мінулага. Камуністычная ідэйнасьць і камуністычная мэнтальнасьць вялікім цяжарам душаць нашыя народы. Гэтаму таксама спрыяе эканамічны вэрхал. Таму цяжка сказаць, калі нашыя народы пазбавяцца ланцугоў камуністычнасьці.

*— Спадар Быкаў, якую пэрспэктыву маюць маладыя беларусы? Што можа даць ім дзяржава?*

— Лічу, што маладым беларусам дзяржава дае толькі вельмі шмат прапаганды, прычым прапаганды наймахровейшай, прапаганды аджылага, і больш — нічога. Што ж да тых здабыткаў, якія найбольш патрэбныя маладым, дэмакратычных здабыткаў, нашыя рэжымы, як украінскі, гэтак і беларускі, моладзі могуць даць вельмі мала. Таму моладзь шукае сама, таму яна мітусіцца, і ня толькі ў сваёй краіне, а ідзе на Захад, у Амэрыку. Яна шукае свайго месца, спрыяльных умоваў для самараскрыцьця, самаідэнтыфікацыі. Гэта вельмі дрэнна, бо гэта адбываецца замест таго, каб у сваёй хаце, на сваёй бацькаўшчыне ствараць будучыню.

*— І да гэтага можна дадаць: паводле некаторых зьвестак, адзін мільён украінскіх грамадзянаў працуе на Захадзе. Гэта вялікая страта для Ўкраіны, таму што найперш гэта — моладзь.*

— Канечне, гэта вялікая страта. Але гэта не віна моладзі, а яе бяда. Малады чалавек, як і ўсялякі іншы, мае права (і гэтае права зафіксаванае ва ўсіх міжнародных дэклярацыях) на годнае жыцьцё ва ўласнай краіне. Звычайна ўмовы для такога жыцьця ёсьць. У нас жа, як я ўжо казаў, такіх умоваў няма. Таму моладзь шукае месца, дзе такія магчымасьці ёсьць. І высьвятляецца, што такія ўмовы ёсьць на Захадзе, і няма іх на бацькаўшчыне.

*— Якую вы бачыце пэрспэктыву для Беларусі, для беларускай дзяржавы?*

— Беларуская пэрспэктыва дужа змрочная. Яна такая сумная, што, напэўна, такой яшчэ не было ніколі ў яе гісторыі. Хаця хмараў заўсёды было дастаткова, хмары навогул ніколі не сыходзілі зь беларускага краявіду. Але ўсё ж пры канцы XX стагодзьдзя ў беларускае акенца зазірнула сонца. Мы спадзяваліся, што надышоў сьвітанак, што гэта — пачатак новага дня. Ды той дзень быў дужа кароткі. Цяпер на нашым даляглядзе так званая інтэграцыя, якая ёсьць ні чым іншым як аншлюсам Расеі ў дачыненьні да заходняй маленькай краіны.

*— На вашую думку, ці можа быць рэальнасьцю саюз трох славянскіх дзяржаваў?*

— Я ня веру ў такі саюз, такі саюз немагчымы. Сёньня ні ў Эўропе, ні ў сьвеце ня можа адбыцца інтэграцыі ў сэнсе расавага ці нават нацыянальнага аб'яднаньня. Гэта ўсё ўчорашні дзень. Цяпер Эўропа і сьвет аб'ядноўваюцца паводле зусім іншых крытэраў. На жаль, гэтыя дэмакратычныя крытэры застаюцца па-за нацыянальнай сьвядомасьцю нашых краінаў.

*— Вы маеце на ўвазе аб'яднаньне новай Эўропы ў межах Эўрапейскага Зьвязу?*

— Так, менавіта гэта я і маю на ўвазе.

*— І ўсё ж як вы мяркуеце, ці могуць Украіна і Беларусь быць членамі Эўрапейскага Зьвязу?*

— Такія магчымасьці, на мой погляд, цяпер вельмі маленькія як ва Ўкраіне, так і ў Беларусі. Гэтыя краіны павінны працаваць у кірунку стварэньня такіх магчы-

масьцяў і перадумоваў. І калі не цяпер, дык гадоў праз дзесяць ці хаця б праз дваццаць павінна быць надзея ўвайсьці ў эўрапейскі дом. Калі такой спадзяванкі ня будзе, дык лёс нашых краінаў вельмі сумны.

*— Спадар Быкаў, і каб не завяршаць так пэсымістычна сёньня, бо набліжаюцца калядныя сьвяты, чаго б вы пажадалі грамадзянам Украіны?*

— Мне заўсёды — напэўна, яшчэ з маладых гадоў, баліць душа за Ўкраіну. І я б вельмі жадаў, каб украінскі народ дажыў да радаснага дня, хай ён і не надыдзе для ўсіх адразу. Бо я лічу, што ўкраінскі народ сьветлай і радаснай будучыні заслугоўвае. Я жадаю, каб гэтая радасная будучыня надышла як найхутчэй.

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ АБВЯРГАЕ ІНФАРМАЦЫЮ РАСЕЙСКІХ СМІ

26 сьнежня 2002

***Сяргей Навумчык, Прага***

> Некаторыя расейскія сродкі масавай інфармацыі (напрыклад, газэта «Известия») у калядныя дні распаўсюдзілі інфармацыю, што Васіль Быкаў нібыта папрасіў у Чэхіі палітычнага прытулку. Крыху раней агенцтва «Интерфакс» разважала, ці атрымае Быкаў чэскае грамадзянства — хаця Быкаў ніколі не казаў пра такі намер.

З гэтай нагоды Васіль Быкаў перадаў у Беларускую службу Радыё Свабода наступную заяву: «У сувязі зь відавочна тэндэнцыйнымі паведамленьнямі некаторых расейскіх СМІ, у прыватнасьці, газэты «Известия», з выпадку майго пераезду ў Прагу хачу заявіць, што я не прасіў у чэскага ўраду або прэзыдэнта Вацлава Гаўла





палітычнага прытулку і ня меў намеру атрымаць такі. Мая просьба заключалася ў прадастаўленьні мне і маёй жонцы права на больш-менш працяглае пражываньне ў Чэхіі, неабходнае для літаратурнай працы і лячэньня як хроніку-лёгачніку. Такое права я і атрымаў у сьнежні 2002 году — сапраўды, пры спрыяньні прэзыдэнта Чэскай Рэспублікі. Спроба некаторых СМІ ператварыць гэты факт, увогуле звычайны для цеперашніх часоў, у палітычную акцыю ёсьць, на мой погляд, зусім правакацыйнай і вартай асуджэньня».

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ ЖАДАЕ ЎБАЧЫЦЬ У 2003 ГОДЗЕ БЕЛАРУСЬ СВАБОДНАЙ

1 студзеня 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

*— Васіль Уладзімеравіч, у 2002 годзе на хвалях «Свабоды» прагучалі вашыя мэмуары, дзе вы ўпершыню распавялі пра сваё дзяцінства і юнацтва. Якія ў вас засталіся ўспаміны пра сьвяткаваньне Новага году?*

— Калі гаварыць пра дзяцінства, дык надараецца на памяці такі выпадак, калі недзе пры канцы 1930-х гадоў, а, можа, і ў сярэдзіне, была ўпершыню дазволеная елка на Новы год. Не на Каляды, канечне, а менавіта на Новы год. Я памятаю, як у школе была ўладкаваная гэтая елка, наверсе былі нейкія цацкі, якія зрабілі школьнікі, а таксама некалькі цукерак. Цукеркі пасьля вельмі кароценькай імпрэзы раздаваў настаўнік, і мне дасталася адна цукерчына з гэтай елкі. Самае сьветлае, што ўспамінаецца ад таго часу.

*— Вы ўжо ня першы год на чужыне. Як сустракаюць Новы год у Фінляндыі ці Нямеччыне?*

— Своеасаблівыя, канечне, у Фінляндыі Новы год і Каляды — гэта, натуральна, вызначаецца паўночнай спэцыфікай. Вялікае ўбранства елак, усіх вокнаў. Ва ўсіх вокнах — рознакаляровыя выявы птушак, малюнкі, Дзед Мароз, выдатна аформленыя вітрыны, вялікая ўрачыстасьць у цэнтры гарадоў. Трэба сказаць, што на Захадзе Новы год ідзе за Калядамі, таму ўсё гэта зьліваецца ў адну вялікую радасную ўрачыстасьць, у якой шмат ад хрысьціянскага, але і нямала ад паганскага.

*— Васіль Уладзімеравіч, чаго б вы пажадалі сабе і слухачам «Свабоды» ў Новым годзе?*

— Ну, сабе заўсёды жадаеш самага лепшага, але што да сябе, дык гэта менш за ўсё збываецца. Слухачам «Свабоды» я жадаю найболей, ад усёй душы — убачыць свабоднай Беларусь у новым 2003 годзе.

## «ПРЫКЛАД ГАЎЛА ГРЭЎ, ПОЎНІЎ СЭРЦА НАДЗЕЯЙ»

15 студзеня 2003

***Алена Ціхановіч, Прага***

Паўнамоцтвы цяперашняга прэзыдэнта Чэхіі Вацлава Гаўла заканчваюцца 2 лютага. Сёньня, разьвітваючыся з заканадаўцамі, Гавэл выступіў у Гішпанскай залі Праскага Граду.

*В.Гавэл:* Я рабіў тое, што ўмеў. Нешта, магчыма, мне ўдалося, нешта — не. Так ці інакш, гэта не мая задача — сваю дзейнасьць ацэньваць. Тое ёсьць і будзе справай грамадзкасьці, палітыкаў, журналістаў і, вядома, паліголягаў і гісторыкаў.





Права ацэнкі В.Гавэл пакінуў іншым. Паводле аднаго з выказваньняў чэскага прэзыдэнта, галоўнай сваёй заслугай ён лічыць тое, што працэс дэмакратызацыі ў Чэхіі ўжо незваротны. У часе ягонага прэзыдэнцтва адбыўся мірны разыход Чэхаславаччыны, самастойная Чэхія стала сябром НАТО і атрымала запрашэньне стаць сябром Эўрапейскага Зьвязу. Апошнія тыдні над рэзыдэнцыяй чэскага прэзыдэнта ўвечары запальвалася нэонавае ружовае сэрца. Постаць дысыдэнта, які стаў прэзыдэнтам, пісьменьніка і філёзафа, які спрабаваў прыўнесьці ў палітыку маральныя прынцыпы, зрабіла яго сапраўднай палітычнай зоркай. Гаворыць Васіль Быкаў:

*В.Быкаў:* Цяпер ужо ўсім зразумела, што гады прэзыдэнта Вацлава Гаўла сталі эпохай ня толькі ў гісторыі Чэхіі, але ў нейкай меры і ўсёй Эўропы ці нават усясьветнай супольнасьці. На прыкладзе Гаўла сьвет убачыў ня так часта ў гісторыі ажыцьцяўляны пастулят — мару антыка Плятона пра тое, каб філёзафы апыналіся пры ўладзе, а ўладары рабіліся філёзафамі. Гавэл — і філёзаф, і дэмакрат, што вельмі важна ў наш супярэчлівы блытаны век. Я, быўшы ў Бэрліне, паслаў яму ліст з просьбай знайсьці магчымасьць прыняць у Карлаў унівэрсытэт маладых беларусаў, якія за палітыку, за апазыцыйнасьць да нялюдзкай улады былі выкінутыя зь беларускіх унівэрсытэтаў, — тым самым узнавіць даўнюю традыцыю Масарыкавай рэспублікі. Празь нейкі час тое было зроблена. Цяпер шмат беларускай моладзі вучыцца ў Празе, яны, можа, і ня ведаюць, каму найперш трэба сказаць беларуска-чэскае «дзякуй».
У маім лёсе Вацлаў Гавэл таксама значыў нямала: даў мне гасьцінны прытулак у Чэхіі, а яшчэ раней зь ягонай ініцыятывы мы спаткаліся ў ягонай рэзыдэнцыі, дзе прэзыдэнт дужа цікавіўся лёсам Беларусі. На жаль, я ня мог нічым усьцешыць прэзыдэнта і палітыка, філёзафа і гуманіста-пісьменьніка. Лёс Беларусі быў звык-

ла чорны, бы эгіпецкая ноч. Тое дужа непакоіла Гаўла, які сам у свой час прайшоў доўгую ноч прыгнёту і дысыдэнцтва, ды ўрэшце дасяг сонца свабоды і дэмакратыі. Ягоны прыклад грэў, поўніў сэрца надзеяй. Мілае сэрцайка чэскага прэзыдэнта, калі яно і сыдзе з прэзыдэнцкага даху, будзе доўга гарэць дабром і надзеяй у сэрцы ня толькі чэхаў, але і іншых народаў сьвету, і беларусаў найперш. Дзякуй вам, вялікі чэх Гавэл, за тое, што вы нарадзіліся на гэтай зямлі.

## «РАСЕЯ РЫХТУЕЦЦА НАС ПРАГЛЫНУЦЬ»

29 студзеня 2003

Ацаніць пэрспэктывы расейскай палітыкі адносна Беларусі папрасіў Васіля Быкава чэскі тыднёвік «Respekt». На думку пісьменьніка, менавіта ад Расеі залежыць будучыня Беларусі, у тым ліку і лёс беларускай незалежнасьці.

Васіль Быкаў мяркуе, што намеры Расеі сьведчаць пра пляны паглынаньня Беларусі праз нейкага роду аншлюс. Беларусь і Ўкраіна патрэбныя Расеі як свайго роду буфэр перад Захадам. Што да саюзьнікаў Расеі ў сьвеце, то, на думку пісьменьніка, амэрыканскага прэзыдэнта Дж.Буша аб'яднала з прэзыдэнтам У.Пуціным антытэрарыстычная палітыка. «У гэтым не было б нічога дрэннага, але баюся, — кажа Быкаў, — што Пуцін пад гэтай маркай паспрабуе вырашыць і некаторыя ўласныя мэты, якія ад стратэгічных намераў Буша значна адрозьніваюцца». На пытаньне карэспандэнткі выданьня «Respekt» пра ўласныя пляны Васіль Быкаў адказаў, што хоча дапісаць у Празе свае ўспаміны, пачатыя яшчэ ў Нямеччыне.





## ВАСІЛЬ БЫКАЎ ДАЎ ІНТЭРВІЮ РАСЕЙСКАЙ ГАЗЭЦЕ «ИЗВЕСТИЯ»

3 лютага 2003

На сайце газэты «Известия» зьявілася інтэрвію, якое Васіль Быкаў даў у Празе спэцыяльнаму карэспандэнту газэты Аляксандру Архангельскаму. В.Быкаў выказаўся пра некаторыя эпізоды найноўшай гісторыі Беларусі й магчымую пэрспэктыву краіны.

«На выбары 1994 году і Шушкевіч і Пазьняк ішлі з цудоўнымі ідэямі. Гэта былі ідэі адраджэньня Беларусі. А Лукашэнка прамаўляў проста, як Ленін у 1917 годзе: запусьцім прамысловасьць, пасадзім злодзеяў. Электарату патрэбныя не ідэі, яму патрэбныя цёплыя батарэі. Такая палітычная культура народу. Быць пэсымістам прыстойнаму чалавеку не пасуе. Але што зрабіць — я пэсыміст. Ня бачу нічога сьветлага для Беларусі ў будучыні. Вось Шушкевіч, якога я вельмі паважаю, думае, што калі Расея анэксуе Беларусь, дык на вельмі кароткі час. А я ўпэўнены, што калі мы страцім у блізкім часе незалежнасьць, дык назаўсёды зьнікнем як дзяржава з мапы сьвету», — заявіў Васіль Быкаў у інтэрвію газэце «Известия». Пісьменьнік не пагадзіўся з прапанаванай журналістам ацэнкай беларуска-расейскай інтэграцыі як аб'яднаньня, настойваючы на фармулёўцы «паглынаньне»: «Я даўно назіраю, з другой паловы 1990-х, што Беларусь шмат у чым ёсьць палітычнай лябараторыяй Расеі. ...Па вялікім рахунку, у выпадку інтэграцыі Расея атрымае магутную ін'екцыю — антыдэмакратычную, дыктатарскую, кагэбісцкую».

Закрануў Васіль Быкаў і праблемы культуры: «Цяпер ідзе разгром нацыянальнай культуры. Беларускую мову, і без таго пераўтвораную ў помесь, у трасянку, улады канчаткова перасталі падтрымліваць і проста сказалі, што яна ім не патрэбная. Не было б таго, было б што

другое — роля нацыянальнай культуры загадам перадаецца правінцыйнаму варыянту маскульту, усім гэтым «Славянскім базарам». Я чалавек культуры, і мне ўрэшце напляваць на эканоміку, якая ў імпэрскіх умовах ніколі не разьвіваецца. Ніколі. Але мне шкада культуры — і расейскай, і беларускай, маёй культуры. І мне шкада эўрапейскай культуры, старэнькай, спарахнелай, але ўсё ж выдатнай культуры, якая ня вытрымае націску глябалізацыі. І здасца на міласьць маскульту».

## «ПРАБЛЕМА Ў ПІРАЦТВЕ, НЕ Ў ЧЫТАНЬНІ»

27 лютага 2003

***Аляксей Знаткевіч, Прага***

Зь перадачы «Беларускі дыялёг на Інтэрнэце».

У Інтэрнэце можна знайсьці літаратурныя творы, аўтары якіх не давалі на гэта згоды. Як беларускія пісьменьнікі ставяцца да таго, што нехта будзе раздрукоўваць іхныя творы з Інтэрнэту, замест каб купляць кніжкі?

Вось меркаваньне Васіля Быкава:

— Калі чалавек ня будзе перавыдаваць, калі толькі для чытаньня — калі ласка. Праблема ў піратцве, не ў чытаньні. Цяпер вельмі шмат ідзе такога роду ініцыятываў, калі па-пірацку выдаюць і таемна прадаюць без удзелу, бязь ведама аўтара. Гэта, канечне, кепска.





## «СПАТРЭБІЛАСЯ ПРАЛІЦЬ МОРА КРЫВІ, КАБ ЧАЛАВЕЦТВА ЎЦЯМІЛА, ШТО ЗАБІВАЦЬ — КЕПСКА»

5 сакавіка 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

Зь перадачы да 50-годзьдзя сьмерці І.Сталіна.

Васіль Быкаў разважае пра фэномэн таталітарызму:

— Цікава, што ў пэўнай часткі масавай сьвядомасьці Сталін і сталінізм зьвязваюцца пераважна з прагай «парадку». Лічыцца, што цяпер «парадку» няма, а тады ён быў. Сталінізм, аднак, зьява цалкам антыгуманная, антыхрысьціянская, антычалавечая. І толькі духоўныя мутанты могуць цяпер да таго імкнуцца. Натуральна, што тое імкненьне гістарычна беспэрспэктыўнае — нават у камуністычным сьвеце пасьля Сталіна, Мао Цзэ Дуна, Пол Пота, Кім Ір Сэна сыстэма цалкам збанкрутавала і датлявае хіба ў лявацкай ідэалёгіі і практыцы рознага роду экстрэмізму. Спатрэбілася праліць мора крыві, каб чалавецтва ўцяміла, што забіваць — кепска, нават у самых зманлівых мэтах, што чалавек — боскае стварэньне і мае права жыць, незалежна ад грамадзкага ладу і самых звыродлівых ідэяў ягоных правадыроў. І нават у стане бязладзьдзя. Бо лад, парадак, якімі спэкулююць, вельмі часта абарочваюцца пагібельлю мільёнаў, а зманлівыя ідэі гэткія ж недасяжныя, як і раней, хоць і працягваюць вабіць цёмных і бедных.

*— Васіль Уладзімеравіч, а ці можаце вы прыгадаць той дзень у сакавіку 1953 году, калі паведамілі, што памёр Сталін?*

— Я тады служыў у войску на Сахаліне, быў на занятках, былі клясныя ў нас заняткі. І, памятаю, расчыніліся дзьверы, і нехта паклікаў нашага кіраўніка падпал-

коўніка Емяльянава. Ён вельмі хутка прыйшоў, з такім посным тварам, і аб'явіў... Не, сьпярша падняў усіх афіцэраў, якія там былі, пасьля аб'явіў, што здарылася вялікае няшчасьце, памёр вялікі правадыр, і так далей. Ну, канечне, афіцэры ўсталі, моўчкі пастаялі й далей селі. І працягвалі заняткі. Ніхто ня плакаў, як гэта часам было ў Маскве, ніхто не закатваў ніякай гістэрыкі. Вельмі спакойна да гэтага аднесьліся. Я, напрыклад, тады толькі падумаў, стоячы ў гэтую хвіліну маўчаньня, што, можа, цяпер што-небудзь зьменіцца ў краіне. Зьмянілася, канечне, шмат што.

## СЛОВА ВАСІЛЯ БЫКАВА ДА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА СХОДУ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

14 сакавіка 2003

Дзякуючы магчымасьці, ласкава прадастаўленай Радыё Свабода, маю намер непасрэдна зьвярнуцца да шаноўнага сходу.

Калі гаварыць коратка і канкрэтна, дык варта зазначыць, што перад намі, як заўжды, паўстаюць два праклятыя пытаньні: хто вінаваты і што нам рабіць? Зрэшты, на першае пытаньне адказ быццам бы знойдзены, і праблема, такім чынам, напалову зьнятая, засталася другая яе палова. Але ў гэтай другой сабралася столькі складанасьцяў, што яны складаюць болей за палову, ці ня ўсе самыя праклятыя праблемы засяродзіліся ў драконавым чэраве тае паловы. Сапраўды, рабіць што? Што — ня ў сэнсе пустапарожняга дыскутаваньня ці шызафрэнічнай гістэрыкі пустазвонаў. Не ў майстэрскай імітацыі чыннасьці прафэсійных дэмакратаў ці нямоглых на справу палітыкаў. А ў сэнсе практычнай прагматыкі, якая была б здольная на пэўны рацыянальны вынік. Найперш — вынік у галіне свабоды і незалежнасьці.

І тут узьнікае пытаньне: а ці сумяшчальныя між сабой тыя пастуляты — свабода і незалежнасьць? Прынята лічыць, што так. Толькі свабода, у тым ліку і свабода выбару, можа даць незалежнасьць, а незалежнасьць забясьпечыць свабоду. Але на практыцы мы ўбачылі, што тое — не зусім так, што ў той формуле яўна бракуе рацыянальнага сэнсу. Бо калі б ён там быў, дык быў бы вынік. А ў нас выніку — нуль. Дык што ж нам рабіць? Мяняць тактыку змаганьня? Але тактыка мае межы, і ўся яна, бадай, вычарпаная. Мяняць кіраўніцтва? Але якое на якое? Ці ня здарыцца так, што на месца кепскага старога прыйдзе яшчэ горшае новае? Рэвізаваць нашую старую нацыянальную ідэю, але ў якіх кшталтах? Можа, мяняцца самім (калі мець на ўвазе нашу нацыянальную эліту), але як і куды? Намагацца зьмяніць мэнталітэт электарату? Але тое ці ў нашай сіле? Калі таго мэнталітэту не зьмянілі стагодзьдзі яго паднявольнага існаваньня, ці магчыма тое за дзясятак гадоў тыраніі? Кажуць, што калі нацыі ня склалася за сто гадоў, дык яе ўжо не складзецца ніколі. Ну а калі мы самі ў гэтым сэнсе ня надта ўдалыя, тады якое маральнае права мы маем патрабаваць зьменаў ад іншых? Хоць бы і ад тае субстанцыі, якую мы глыбакадумна называем электаратам?

Скрозь пытаньні і праблемы. А як вядома з Гэгеля, найбольшая праблема ўзьнікае зусім не з канфлікту правага зь няправым, а менавіта з канфлікту правага з правым. Ужо зразумела, што нашае шаноўнае грамадзтва няздольнае разьвязаць тых заклятых праблемаў, іх прыйдзецца разьвязваць ягонай эліце. Правай і левай. Нацыянальнай і дэмакратычнай. Радыкальнай і лібэральнай. З таго вынікае першая перадумова — аб'яднаньне.

Досьвед паказаў, што мы занадта слабыя, каб дзейнічаць паасобку, каб доўга вагацца, выбіраць і перабіраць, з

кожнае нагоды круціць носам. Тым болей самаеднічаць, цягнуць да халоднай вайны ва ўласным стане. Ня можам таго дазволіць сабе, бо інакш нас хутка ня стане. Ні правых, ні левых. Ні пэсымістаў, ні аптымістаў. Ні праведнікаў, ні вінаватых. Ужо відавочна, што сьвет ідзе зусім не туды, куды яго скіроўваюць нашыя ўладары. Хоць бы Садам ці Лукашэнка. Ці нават Пуцін. Сьвет павярнуў у кірунку Буша. Але і ў тым кірунку месца для нас сумнеўнае. Бо мы іншыя — занадта падлеглыя і талерантныя, з надта прыкметным бракам нацыянальнага эгаізму. А там — панаваньне вялікай і магутнай сілы, якая, на жаль, не заўсёды ёсьць праўдай і справядлівасьцю. Хоць у шмат якіх выпадках менавіта так. Але сьвет зьменлівы, гісторыя парадаксальная, нават ужо Бог у ёй не гарант. Што там можа наша зьняверавая, здушаная эліта і яе клясычны спакутаваны «цёмны крот», цяпер эфэмэрна званы электаратам. Горш за ўсё тое, што час бясплённа мінае, а нашыя праблемы — ні зь месца. Дык што ж нам рабіць? Давайце раіцца.

## БЕЛАРУСЫ ЧЭХІІ АДЗНАЧЫЛІ 85-ГОДЗЬДЗЕ БНР

24 сакавіка 2003

***Галіна Прыгара, Прага***

У суботу беларусы, якія жывуць у Чэхіі, сабраліся ў Люстраной залі ў будынку старажытнага Клемэнтынуму, які лічыцца адным з найпрыгажэйшых архітэктурных комплексаў Прагі. Менавіта тут, у гэтай залі, у 1923 годзе заснавальнікі Беларускай Народнай Рэспублікі, якія апынуліся ў эміграцыі, адзначалі 5-годзьдзе ўтварэньня БНР.

Сёлетні ўрачысты сход, прысьвечаны 85-м угодкам БНР, распачаў намесьнік старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык. Ён зачытаў прывітаньні ад Згуртаваньня беларусаў Вялікабрытаніі, ад беларускіх арганізацыяў з Канады і Аўстраліі. Свае віншаваньні даслаў адзін зь лідэраў беларускай дыяспары ў Францыі Лявон Шыманец, а таксама ўсясьветна вядомы навуковец Барыс Кіт, які жыве ў Нямеччыне. Многія асяродкі беларускага замежжа запрасілі на сьвяткаваньне старшыню Рады БНР Івонку Сурвіллу, але яна абрала менавіта Прагу.

У сваім прывітальным слове да беларусаў Прагі Івонка Сурвілла заклікала ўсіх беларусаў сьвету аб'яднацца дзеля бацькаўшчыны. Віталі беларусаў у Празе пісьменьнік Валянцін Тарас, дэпутат Пухавіцкага раённага савету Алесь Міхалевіч, старшыня суполкі беларусаў у Чэхіі «Скарына» Ганна Сурмач. Прадстаўнік чэскага фонду «Людзі ў бядзе» Любаш Вэсэлы ў сваім звароце да беларусаў Прагі павіншаваў усіх са сьвятам і пажадаў, каб наступныя ўгодкі БНР, альбо хоць бы 90-я ўгодкі, беларусы адзначалі ўжо ў вольнай Беларусі.

На ўрачыстай акадэміі ў Празе выступіў Васіль Быкаў, які сёлета ўзначальвае Ўсебеларускі камітэт сьвяткаваньня ўгодкаў БНР:

— Дарагія беларусы, шаноўныя нашы госьці! 85 гадоў таму ў слотны й шэры дзянёк на зачыне вясны беларусы зьдзейсьнілі цуд. Не, яны не panішчылі ворагаў, ня вызвалілі краіны, не дамагліся свабоды, але яны запалілі кволую сьвечку надзеі. Пры яе сьціплым сьвятле яны, як маглі, і змагаліся з бальшавіцкай навалай, з фашыстоўскай акупацыяй, з роспаччу і паняверкай, што за стагодзьдзі ўкараніліся ў гаротным народзе. Мы ўсьцешаныя, што гэтая сьвечачка гарыць і дасюль, і хоць яе зыркі агеньчык слаба сьвеціць, часам капціць і ня грэе, але ён дае спадзеў шмат якім пакаленьням беларусаў на сьвятло і цяпло, на свой дом і сваю сям'ю — тое, без чаго ў гэтым драпежным сьвеце нікому няма і ня будзе жыцьця. Дык няхай яна гарыць, нашая кволая спадзяванка, якую мы песьцім і тулім, ашчаджаем і бе-

ражэм, як найлепшыя зь беларусаў яе бераглі да нас з думкай: а раптам яна ўспыхне сонечным зьзяньнем, калі надарыцца спрыяльны для таго час. Бо калі ня будзе таго, хай сабе слабога агеньчыку, ня ўспыхне нічога. І для нас настане вечная ноч. Але мы ня хочам вечнай ночы, мы — божае стварэньне, людзі, і мы маем права на боскую долю. Памажы нам, Гасподзь! Жыве Беларусь!

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ ПЕРАНЁС АПЭРАЦЫЮ. ПАКУЛЬ УСЁ ДОБРА

28 сакавіка 2003

***Аляксандар Лукашук, Прага***

> У чацьвер 27 сакавіка Васілю Быкаву зрабілі апэрацыю. Да нас ідуць запыты пра стан здароўя пісьменьніка, якому сёлета спаўняецца 79 гадоў.

Васіль Уладзімеравіч прывітаў нас зь Сяргеем Навумчыкам моцным поціскам рукі. Ён пакуль у рэанімацыі, але ўжо сядзеў, выглядае няблага, вельмі сьветлы твар, ясныя вочы, добрая рэакцыя. Апэрацыя, у выніку якой была выдаленая частка кішэчніка, прайшла пасьпяхова, лекары, якія Быкавым апякуюцца, гаварылі нам, што ён мае моцны арганізм. В.Быкаў правядзе ў шпіталі каля тыдня. Пасьля, калі ўсё будзе добра, — рэабілітацыя і амбуляторнае лячэньне. Аднак пра пэрспэктывы лекары пакуль не гатовыя гаварыць больш канкрэтна. Сытуацыя няпростая. Побач зь пісьменьнікам пастаянна жонка Ірына Міхайлаўна.
Настрой у самога Быкава неблагі. Распытваў нас пра навіны ў сьвеце — крыху пагаварылі пра вайну ў Іраку, пра падзеі ў Беларусі. Васіль Уладзімеравіч зь цікавасьцю даведаўся пра намер стварыць Раду беларускай інтэлігенцыі, сярод сяброў якой называлі і яго прозьвішча. Наступны этап лячэньня ён пакуль мяркуе праходзіць у Празе, заплянаваная раней паездка ў Беларусь адкладаецца. Заўтра, дарэчы, вясельле ўнука Быкава, і ён папрасіў пасланць ад яго імя тэлеграму маладым.
У Менску гэтымі днямі павінна выйсьці кніга быкаўскіх успамінаў «Доўгая дарога дадому», якая ўпершыню прагучала на хвалях «Свабоды» мінулай восеньню. Васіль Уладзімеравіч прасіў перадаць яму асобнік, калі хто будзе ехаць зь Менску. Яшчэ перад шпіталем ён прасіў, калі прыйдзем у адведкі, прыносіць яму што-небудзь для чытаньня, але пакуль лекары не дазволілі яму чытаць — трэба берагчы сілы. Васіль Быкаў прасіў перадаць прывітаньне супрацоўнікам і слухачам «Свабоды». Беларуская служба Радыё Свабода ад імя слухачоў жадае Васілю Ўладзімеравічу добрага здароўя. Спадзяёмся неўзабаве зноў пабачыць яго ў нашай студыі.

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ ПАКІНУЎ РЭАНІМАЦЫЮ, АЛЕ ПАКУЛЬ ЗАСТАЕЦЦА Ў ШПІТАЛІ

31 сакавіка 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

> Разам з Аляксандрам Лукашуком мы наведалі Васіля Ўладзімеравіча ўжо не ў рэанімацыі, а ў звычайнай палаце, дзе значна менш мэдычных апаратаў, затое ёсьць тэлевізар. Праўда, не асабліва яго Васіль Уладзімеравіч і глядзіць, затое пастаянна слухае перадачы Радыё Свабода.

Разам з Васілём Уладзімеравічам увесь час знаходзіцца ягоная жонка Ірына Міхайлаўна, а за паўгадзіны да нас быў віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру Валянцін

Тарас, які гасьцюе ў Празе. Лекары лічаць, што калі ўсё будзе добра, то выпісаць са шпіталю Васіля Быкава могуць ужо праз тыдзень. Аднак зразумела, што на гэтым лячэньне ня скончыцца, відаць, заплянаваную паездку ў Менск давядзецца яшчэ адкласьці. Сёньня ж Васілю Ўладзімеравічу ў шпіталь перадалі дзьве ягоныя кнігі. Першая — кніга ўспамінаў «Доўгая дарога дадому», якую надрукавала менскае незалежнае выдавецтва «Кніга» накладам 2000 асобнікаў; другая — кніга публіцыстыкі «Крыжовы шлях» («Хресна дорога»), выйшла ў Кіеве ў дзяржаўным выдавецтве «Веселка» накладам 1000 асобнікаў.

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ ВЫЙШАЎ СА ШПІТАЛЮ

10 красавіка 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

Народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў выпісаны з праскага шпіталю, дзе ў канцы сакавіка яму зрабілі апэрацыю.

У шпіталі Васіль Уладзімеравіч знаходзіўся два тыдні. Тут яго штодня наведвалі жонка Ірына Міхайлаўна, знаёмыя, ён атрымліваў інфармацыю пра падзеі ў сьвеце і ў Беларусі — у тым ліку і зь перадачаў Радыё Свабода, якія ён слухае рэгулярна. Вось што сказаў Васіль Уладзімеравіч у першыя гадзіны пасьля выпіскі:

— Чэскі шпіталь, у якім я быў, гэта па сучасных мерках палац здароўя, але які б ён ні быў цудоўны — на волі лепш.

Пасьляапэрацыйную рэабілітацыю Васіль Быкаў будзе праходзіць амбуляторна ў Празе. Васіль Уладзімеравіч пацьвердзіў, што наведае Беларусь пры першай магчымасьці.





## «АПОШНЯЕ СЛОВА БЫЛО ЗА ГАЛОЎНЫМ РЭДАКТАРАМ»

30 красавіка 2003

***Сяргей Абламейка, Прага***

Часопіс «Маладосць» адзначае сваё 50-годзьдзе.

*В.Быкаў:* Уся мая ранейшая творчасьць — можна сказаць, раньняя творчасьць — зьвязаная з «Маладосцю». Хаця я ўжо тады ня быў надта малады, тым ня менш, я там друкаваў усе свае першыя аповесьці, у тым ліку і аповесьці «адыёзныя», якія такімі на той час былі прызнаныя. Гэта было няпроста і нялёгка. Але посьпех ім забясьпечваў найперш выдатны галоўны рэдактар «Маладосці», выдатны беларускі паэт і грамадзянін Пімен Емяльянавіч Панчанка. Зь ім у мяне з самага пачатку склаліся вельмі прыязныя дачыненьні ўжо таму, што ён разумеў літаратуру, як рэдка які рэдактар тагачасных часопісаў. І гэта быў чалавек, які ўсё ж такі літаратуру, мастацтва ставіў вышэй за палітыку. На той час гэта была, канечне, навіна. Ён друкаваў усё, што я прыносіў, хаця наступствы былі розныя. І тады — ня тое што цяпер, галоўны рэдактар ня мог самахоць надрукаваць які-небудзь твор, патрэбнае было рашэньне рэдкалегіі, а рэдкалегія складалася вядома зь якіх асобаў, у тым ліку і з членаў ЦК камсамолу. Гэта былі абмеркаваньні, былі вялікія прэтэнзіі. Але ўсё ж такі апошняе слова было за галоўным рэдактарам. І я таму вельмі ўдзячны найперш Панчанку за яго ўдзел у маім лёсе літаратурным.
Пасьля былі яшчэ розныя рэдактары, у тым ліку добрыя рэдактары «Маладосці», пры якіх я друкаваўся — праўда, ня так часта. Ну, напрыклад, мой сябра Генадзь Бураўкін, які таксама спрыяў таму, што я пісаў, і іншыя. Цяпер, вядома, гэты часопіс набыў новых гаспадароў; відаць, набудзе новы твар і новы зьмест. І ўсё ж у час

50-годзьдзя я хацеў бы павіншаваць часопіс зь яго выдатным юбілеем. Ён нешта значыў, і я думаю, нямала значыў у гісторыі беларускай літаратуры.

## «ІСЬЦІ Ў ДУХУ ТРАДЫЦЫЙНАГА БЕЛАРУСКАГА МАЎЛЕНЬНЯ»

7 траўня 2003

***Алесь Пяткевіч, Прага***

> Адказ Васіля Быкава на апытаньне часопіса «ARCHE» — ці добра ўчынілі адраджэнцы канца 1980-х, зрабіўшы выбар на карысьць тарашкевіцы?

— Даўно было відавочна, што беларуская мова, апроч зьнешняй пагрозы, перажывае ўнутраны крызіс — як наступства русіфікацыі, саветызацыі, бюракратызацыі — катастрафічнае зьмяншэньне моўна-нацыянальнай ідэнтычнасьці. Наркамаўскі правапіс 1933 году, а затым і выданьне акадэмічных працаў пад рэдакцыяй акадэміка-паслухмянца Крапівы ўсё набліжалі мову да апошняй мяжы. Таму, мабыць, натуральна, што адраджэнцы, ня маючы магчымасьці паўплываць на гэты катастрафічны працэс, зьвярнуліся да старой граматыкі Браніслава Тарашкевіча. Але бяда ў тым, што граматыка Тарашкевіча ўжо для свайго часу была ня надта прыстасаваная, а праз 50–60 гадоў, вернутая да жыцьця ў іншы гістарычны пэрыяд, у многіх адносінах стала анахранічнай. Для жывой мовы было б вельмі хваравіта — раптоўны пераход з канца XX стагодзьдзя ў стан, уласьцівы мове на пачатку стагодзьдзя. Як на маю думку, дык трэба было б тую апэрацыю рабіць болей ашчадна, выбарачна, ці што. З улікам выдатнага і адмоўнага, што было ў Браніслава Тарашкевіча. Найперш, безумоўна, узаконіць правапіс мяккага знаку і «я» перад





націскам, а пасьля ісьці паступова, а галоўнае, у духу традыцыйнага беларускага маўленьня. І вядома ж, з улікам агульнапрызнанай асновы сучаснай беларускай літаратурнай мовы, якую заклалі Янка Купала і Якуб Колас. Раптоўны, за адзін раз, зварот да тарашкевіцы не апраўданы і дэструктыўны. Ён болей пабурыў, чым стварыў. Цяпер мы маем становішча, калі бальшыня беларусаў усіх узростаў проста аказаліся непісьменныя, бо ня ведаюць, як пісаць і як мовіць. Улады адступацца ад наркамаўкі ня хочуць, а беларусы паўсюдна прыняць тарашкевіцы ня могуць. Народ і будзе ўсё больш зьвяртацца да расейскай мовы, дзе існуе шматгадовы моўны «парадак», па якім гэтак сумуе народ.

## «АМЭРЫКА ПАВОДЗІЦЬ СЯБЕ ВЫСАКАРОДНА І Ў ГІСТАРЫЧНЫХ АСПЭКТАХ ПРАВІЛЬНА»

7 траўня 2003

***Юры Дракахруст, Прага***

> Інтэрвію Васіля Быкава для перадачы «Праскі акцэнт».

*— Пры канцы 1980-х — на пачатку 1990-х гадоў ваш сябар Алесь Адамовіч стаяў на пазыцыі пасьлядоўнага пацыфізму, паводле якога любая вайна — абсалютнае зло. На ваш погляд, якім было б стаўленьне Адамовіча да цяперашняй іракскай вайны? Ці пацыфізм састарэў?*

— Адамовіч жыў у сваім часе, а час мяняецца. Гістарычны час — таксама. Успомніце, што Адамовіч, яго грамадзкая дзейнасьць, літаратурная прыпадалі на пэрыяд зусім іншы. Гэта быў пэрыяд супрацьстаяньня дзьвюх антаганістычных сыстэмаў сьвету. Гэтае супрацьстаяньне пагражала ні чым іншым, як закончыць

навогул жыцьцё на Зямлі. Вечная зіма была, так сказаць, не за гарамі. І Адамовіч адзін зь нешматлікіх, хто вельмі адчуваў гэтую небясьпеку. Небясьпека была жахлівая, яна прывяла чалавецтва, людзкую супольнасьць да магчымасьці вялізнай катастрофы, і таму Адамовіч выказваў усе магчымыя аргумэнты супраць гэтага ядзерна-ракетнага шаленства. І адным з такіх аргумэнтаў для яго быў пацыфізм як ідэалёгія. Тады гэта было вельмі разумна, вельмі своечасова і правільна. Ну, а што да нашага часу, дык мы ж бачым, што тут многае зьмянілася, я думаю, каб Адамовіч жыў цяпер, ягоныя погляды таксама зьмяніліся б на гэты конт. Гэта безумоўна, бо ён быў чалавек разумны, рацыянальны і разумеў свой абавязак як пісьменьніка і грамадзяніна.

*— Наступнае пытаньне якраз пра цяперашнюю сытуацыю, пра вайну ў Іраку. Амэрыканска-брытанскую апэрацыю шмат крытыкуюць — і ня толькі пракамуністычныя колы ці палітыкі кшталту Аляксандра Лукашэнкі. Ці трэба ўтаймоўваць злачынца, выходзячы за межы права? Як далёка можна выходзіць за гэтыя межы? Ці — заставацца ў гэтых межах, пакідаючы гэтага злачынца беспакараным? Тут ня толькі палітычнае, але і чалавечае пытаньне: калі нехта выходзіць за межы правілаў — дык як далёка ён можа зайсьці?*

— Права — гэта адносная рэч. Мы, як вядома, жылі і абыходзіліся шмат дзесяцігодзьдзяў бяз рымскага права, у нас былі і бізантыйскія законы. Я думаю, што ў дадзеным выпадку права ні пры чым. Права ўсё ж усталёўваюць людзі, а ёсьць рэчы, якія пераўзыходзяць чалавечы вопыт — гістарычны нават вопыт. Адна з такіх рэчаў — барацьба са злом. Гэта, канечне, хрысьціянская, біблейская тэма, я думаю, і ў іншых рэлігіях гэтая канцэпцыя існуе і будзе існаваць. Таму што калі не супрацьстаяць злу, то зло panішчыць жыцьцё на Зямлі, гэта ж вельмі натуральна. Таму ў гэтым сэнсе нашае звыклае права, усталяванае ў тым ліку і Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў, нейкім чынам трэба перагледзець. Каб яго перагледзець, зноў жа, у ААН няма палітычнай волі. Гэтая воля знайшлася толькі ў адной краіне — ну, адносна ў адной краіне, галоўнай краіне — апірышчы дэмакратыі, у Злучаных Штатах Амэрыкі.
І гэта выдатна, што Амэрыка не пачала хавацца за ўстанаўленьнямі гэтага права, а зрабіла адпаведна здароваму сэнсу. І яе пазыцыя ў адносінах ня толькі Іраку. Амэрыка праявіла сябе ў гэтым сэнсе яшчэ з часу другой усясьветнай вайны. Як вядома, фашыстоўская Нямеччына напала не на Амэрыку, а напала на эўрапейскія краіны. І Амэрыка за акіянам магла б выдатна адседзецца, карыстаючыся рознымі міжнароднымі абмежаваньнямі й пагадненьнямі, як гэта рабіла спробу яшчэ да Чэрчыля Англія. Але яна ўступіла ў барацьбу, ахвяравала жыцьцямі сваіх грамадзянаў і дамаглася перамогі, у тым ліку і для нас. Гэта вельмі важна. Ну а пасьля былі Карэя, Віетнам (у Віетнаме, праўда, гэта не ўдалося, але, я думаю, быў зроблены Амэрыкай урок), пасьля Аўганістан, пасьля Югаславія.
Калі б Амэрыка глядзела на нейкія ў гэтым сэнсе абмежаваньні, дык югаславы б зь іх этнічнай варажнечай даўно б парэзалі адзін аднаго. Амэрыка разам з НАТО тады зьвярнуліся да скрайняй меры. Гэтая мера скрайняя, яна не была прынятая ўсімі, нават у Эўропе. Усе гаварылі пра «агрэсію», пра «забойства нявінных старыкоў, жанчын і дзяцей», як гэта гаворыцца ў такіх выпадках. Але, мабыць, бяз гэтага не абысьціся, пры кожнай хірургічнай апэрацыі трэба страціць частку крыві. Але я б сказаў, што ўключна і да вайны ў Пэрсыдзкай затоцы, і вайны ў Іраку, Амэрыка паводзіць сябе вельмі высакародна і ў гістарычных аспэктах правільна і абгрунтавана.

*— Васіль Уладзімеравіч, хтосьці з французаў сказаў, што д'ябал пачынаецца зь пены на губах анёла. Вы ня лічыце, што з Амэрыкай гэткае можа адбыцца?*

— Не, я не лічу, што гэта можа адбыцца з Амэрыкай. У Амэрыцы ёсьць традыцыі дэмакратыі — гэтыя традыцыі сягаюць далёка, на два стагодзьдзі, калі яшчэ ў той жа Расеі ня чулі нават гэтага слова. І гэтая традыцыя падтрымліваецца пасьлядоўна, і гэта вельмі добра.

*— Прапаную вярнуцца да нашых беларускіх рэаліяў. Напярэдадні Дня Перамогі Аляксандар Лукашэнка сказаў, што ў савецкага народу спрабуюць адабраць перамогу, пачаў абвінавачваць Амэрыку, Захад. Калі забыцца, што Лукашэнка робіць гэта ў карысьлівых палітычных мэтах, эксплюатуючы тэму перамогі, ці лічыце вы, што ў беларусаў і расейцаў адабралі перамогу? І хто адабраў — Захад, лёс, час?*

— Так, я лічу, што перамогу сапраўды адабралі. І ў беларусаў, і ў расейцаў, і ня толькі. Але гэтае адбіраньне адбылося адразу пасьля перамогі. І адабраў яе ні хто іншы, як самы вялікі кумір гэтых народаў — «вялікі» Сталін. Кожныя пераможцы разьлічваюць нешта здабыць у выніку перамогі, асабліва пасьля такой крывавай вайны, і гэта было правільна, заканамерна. Але што ў выніку яны атрымалі — што атрымалі народы Савецкага Саюзу? Зноў жа тую камуністычную кабалу, тую заняволенасьць і галечу, у той час як народы Эўропы — і пераможцы, і пераможаныя, дарэчы — сапраўды скарысталіся гэтай перамогай. У тым ліку і нашай перамогай. Зноў жа, з ініцыятывы Злучаных Штатаў Амэрыкі быў вылучаны плян Маршала, які ўзьняў Эўропу з руінаў, з гэтых самых папялішчаў, які ўдыхнуў жыцьцё, і якому, па сутнасьці, Эўропа абавязаная і дасюль.
Але ж Сталін адмовіўся ад гэтага пляну. Ён як вайну, так і перамогу, так і пасьляваеннае аднаўленьне, адбудову зноў жа ўзваліў на плечы свайго народу. І гэтым увергнуў яго ў неймаверную шматгадовую галечу. Апроч таго, яшчэ ў выніку нашай гэтай перамогі былі заняволеныя краіны так званай «народнай дэмакратыі», усходнеэўрапейскія краіны. І гэтая наша перамога





яшчэ на паўстагодзьдзя затрымала іх натуральнае гістарычнае разьвіцьцё ў кірунку прагрэсу. З гэтага правалу яны яшчэ дагэтуль ня могуць выбрацца, мы гэта бачым на прыкладзе нашай Усходняй Эўропы. Але яны робяць спробы, усё ж даволі пасьпяховыя, ізноў жа пры падтрымцы міжнароднай супольнасьці — Эўропы і найперш Амэрыкі. А Беларусь стаіць убаку, таму што Беларусі зноў жа марыцца пра ракеты, апрача якіх яна ня бачыць іншага выйсьця з той крызы, у якую яна трапіла ў апошняе дзесяцігодзьдзе.

*— Васіль Уладзімеравіч, апошняе — гістарычнае пытаньне. Расейскія экспэрты прадказвалі, што пасьля падзеньня рэжыму Хусэйна ў Іраку пачнецца партызанская барацьба. Прайшоў месяц — нават аддаленых праяваў партызанкі ў Іраку няма. Як не было яе ў 1945 годзе, хоць Гёбэльс на пачатку 1945 году спрабаваў стварыць часткі «вэрвольф», якраз партызанаў. Чаму ў Беларусі ў 1940-я гады, падчас другой усясьветнай вайны, была даволі моцная партызанка, а вось ні ў Нямеччыне ў 1945-м, ні ў Іраку ў 2003-м партызанкі няма?*

— Наконт беларускай партызанкі яшчэ ня ўсё сказана, яшчэ тут трэба разьбірацца і гісторыкам, і мастакам, і літаратарам. Тут ня ўсё так проста, як гэта зафіксавана ў нашай афіцыйнай гістарыяграфіі. Адрозьненьні ёсьць, скажам, паміж партызанкай у Беларусі і ва Ўкраіне, партызанкай у Прыбалтыцы. Чаму так? Ну, розная была і партызанка. Што ж да Іраку, дык мы бачым, што вайна, якую — я не хацеў бы называць гэта вайною, маю на ўвазе, Амэрыкі супраць Іраку, супраць іракцкага рэжыму. Гэта хутчэй паліцыйная акцыя, якая мела за мэту не клясычныя мэты імпэрыялістычнай вайны — захоп тэрыторыяў, усталяваньне сваіх парадкаў і эксплюатацыю, а проста зьмену рэжыму. Зьмену рэжыму дыктатарскага, крывавага, жахлівага рэжыму ў кірунку дэмакратыі.
Дык вось, іракцы таксама недурныя людзі. Яны ўба-

чылі, якія гэта «захопнікі», якімі выстаўлялі некаторыя сілы, у тым ліку і ў Расеі, амэрыканскіх салдатаў, і зглезелі, што няма ніякіх падставаў і сэнсу супраціўляцца і абараняць гэты жахлівы, крывавы рэжым Садама Хусэйна. Таму там і ня будзе. Таму не было, відаць, гэтай партызанкі і ў Нямеччыне. Таму што немцы зразумелі ўрэшце, што такое фашызм. Яны пабылі дванаццаць гадоў у яго тлуме, і ўрэшце ім далі ўрок, які яны засвоілі. Што ж да беларусаў, дык яны, апрача ўсяго іншага, аказаліся вельмі кепскімі вучнямі гісторыі. Яны шмат чаго не засвоілі дагэтуль. І гэта, зразумела, вялікі жаль.

23 траўня 2003 году Васіль Быкаў разам з жонкай Ірынай Міхайлаўнай вылецелі ў Менск, маючы зваротны білет у Прагу на 6 чэрвеня. На просьбу Быкава Радыё Свабода не паведамляла пра ягонае знаходжаньне ў Менску.

## «БАРАЦЬБА ЛІЦЭІСТАЎ, ВЫКЛАДЧЫКАЎ ПАВІННА МЕЦЬ ПЛЁН»

4 чэрвеня 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

Народны пісьменьнік Беларусі В.Быкаў сочыць за падзеямі вакол Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю, які быў зачынены з волі ўладаў.

Вось як В.Быкаў пракамэнтаваў сытуацыю для Радыё Свабода:
— Тое, што робіцца зь беларускім ліцэем апошнія гады, увогуле зразумела і зьяўляецца складовай часткай агульнай палітыкі адносна нацыянальнай культуры і беларускай мовы. І калі гэты ліцэй не зачынілі яшчэ некалькі гадоў таму, дык толькі таму, што адклалі гэтую





апэрацыю, каб яе расьцягнуць. Мабыць, каб не рабіць шуму. Але я думаю, што барацьба ліцэістаў, выкладчыкаў усё ж павінна прынесьці нейкі плён. І таму ўсімі даступнымі спосабамі трэба змагацца за родную мову.

Гэта было апошняе інтэрвію Васіля Быкава. Празь некалькі дзён яго паклалі ў анкалягічны шпіталь у Бараўлянах пад Менскам.

## ВАСІЛЮ БЫКАВУ — 79 ГАДОЎ

19 чэрвеня 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

Васілю Быкаву спаўняецца 79 гадоў. Сваёй творчасьцю пісьменьнік здабыў ганаровае месца на алімпе сучаснай літаратуры, а ягоная грамадзянская пазыцыя замацавала за ім права звацца сумленьнем беларускай нацыі.

Паэт Генадзь Бураўкін у часе свайго рэдактарства ў часопісе «Маладосць» быў адным зь нешматлікіх рэдактараў, якія адважваліся друкаваць Быкава і не баяліся наступстваў.

*Г.Бураўкін:* Калі гаворыш пра блізкіх сяброў, заўсёды баісься высокіх словаў. Але як бязь іх абыдзесься, калі гаворка ідзе пра Васіля Быкава, шаноўнага Васіля Ўладзімеравіча, мілага, добрага Васіля. Ён ня проста выдатная зьява ў айчыннай літаратуры, ён — знакавая постаць у нашай літаратуры. Бо пасьля яго тэма Вялікай Айчыннай вайны, тэма беларуская і сваімі традыцыйнымі адзнакамі, і ўнёскам ва ўсясьветную, эўрапейскую ваенную тэму, загучала зусім па-іншаму — і сілай праўды, і сілай таленту. Ён — знакавая постаць і ў

нашай гісторыі, у сёньняшнім, на жаль, ня лепшым дні нашай бацькаўшчыны.
Ён ніколі не зьбіраўся быць палітыкам, больш за тое, я гэта добра ведаю, ён ніколі не любіў палітыкі. Але стаў сумленьнем нацыі ў лёсавызначальныя гады маладой сувэрэннай Беларусі. Гады нашага нацыянальнага абуджэньня, нашага нацыянальнага адраджэньня. І аказалася, што, можа быць, нават было нечакана для тых, хто ня надта добра ведаў Васіля-чалавека, Васіля-аналітыка, Васіля-філёзафа, што ён умее мысьліць глыбока і шырока і вельмі добра адчувае настрой народу, вельмі дакладна фармулюе задачы дзяржавы. Шкада, што, як мне здаецца, вельмі многія землякі да гэтага часу так і не пачулі яго, і са сваёй абыякавасьці ці з наіўнасьці не прыслухаліся да яго.
Для мяне ж Васіль Быкаў яшчэ і блізкі сябра, надзвычай, надзіва добры, чулы і сардэчны зямляк. Дзе б ён ні быў, чым бы ні быў заняты, ён ні разу не забыўся павіншаваць з днём нараджэньня, пацікавіцца сямейнымі справамі. Я ўжо не кажу пра творчыя задумкі, пра нейкія публікацыі, пра новыя кніжкі. І яшчэ, я ў гэтым пераканаўся ня так даўно, я гэта адчуваў, нават ня сумняваўся ў гэтым, але — пераканаўся, што ён вельмі мужны чалавек. Бо калі да яго прыйшла цяжкая хвароба, тое, як ён усё гэта пераносіў і пераносіць, тое, які ён трывушчы, па-сялянску, па-вясковаму, па-беларуску, які ён мудры ў дачыненьні да сваіх нейкіх слабасьцяў, гэта было для мяне горкай, але слаўнай характарыстыкай Васіля.
Вельмі важна, што ён з намі, у гэты наш нялёгкі беларускі час. Вельмі важна, што яго хвалююць тыя праблемы, якія хвалююць нас. І вельмі здорава, што мы ўсе — ня толькі сябры, але і ягоныя няпрыяцелі, скажам так, афіцыйныя асобы, азіраемся (нехта пра гэта прызнаецца, нехта не прызнаецца, але азіраемся) на Васіля Быкава, на ягоную думку, на ягонае адчуваньне, на ягоны талент, на ягонае права судзіць і час, і людзей, і тое,





што мы з вамі перажываем. Сёньня дата дастаткова сур’ёзная, хаця і някруглая — 79 гадоў, мне вельмі-вельмі хочацца, каб яшчэ доўга-доўга мы маглі азірацца на Васіля Ўладзімеравіча Быкава, і каб ён яшчэ доўга-доўга быў з намі, і сваёй мудрасьцю, сваім працоўнымцтвам, сваім талентам дапамагаў, падказваў нашай мілай, нашай слаўнай бацькаўшчыне, над якою яшчэ і сёньня вісіць вельмі многа чорных хмараў.

Адзін з самых даўніх сяброў Васіля Быкава — паэт Рыгор Барадулін. Некалькі гадоў таму выйшла кніжка паэтычных лістоў Барадуліна да Быкава ў Хэльсынкі — з малюнкамі Быкава (да вайны пісьменьнік вучыўся ў Віцебскай мастацкай вучэльні). Цяпер рыхтуецца новая кніга — лісты Барадуліна ў Прагу і быкаўскія прыпавесьці. Гаворыць Рыгор Барадулін:

*Р.Барадулін:* Савецкая ўлада выпрабоўвала ўсе сродкі, каб зламаць волю Быкава, каб зрабіць прыручана-хатнім небакрылага. Ішлі ў ход мэтады дазволеныя і недазволеныя, усіх не пералічыць. Камсамольцы білі вокны... І сапраўды, як у габрэйскім досьціпе: калі б Бог жыў на Зямлі, людзі выбілі б яму шыбы. Вэтэраны вайны і партыі пісалі даносы, публікавалі пратэсты, засыпалі бруднымі лістамі. Не дапамаглі ні правакацыі, ні пагрозы, ні высокія ўзнагароды, ні адказныя тытулы. Тытул у Васіля Быкава — і ён адзін, і ён ад Бога — сумленны пісьменьнік. І да гэтага часу ратуе Васіль Быкаў ад беспрацоўя армію падслухачоў, вынюхачоў, паклёпнікаў, верных учорашняму дню. Нездарма аднойчы ўсьміхнуўся апостал: «Чаму пра мінулае мы мала ведаем? Бо даносчыкаў мала было, і яны былі непісьменныя». Васіль і да гэтага часу корміць гэтую армію стукачоў, і мне парой здаецца, хто болей любіў Васіля — ці чытачы, ці слухачы? Нават такія радкі мне прыйшлі ў галаву:

> Заўсёды Быкава любілі стукачы,
> І як маглі яго аберагалі.

Бо зарабляць даваў на добрыя харчы
І падвышаць яжоўскія рэгаліі.

Прыгадваецца, як некалі на 60-годзьдзе Васіля Быкава ўжо падупалы здароўем Уладзімер Караткевіч пасьля тосту перадаў юбіляру невялічкі гарэльеф з выяваю льва, і голасам, што пачынаў слабець, амаль пракрычаў: «Рыкай, акі леў!» Васіль ня рыкае, акі леў — Васіль гаворыць спакойна і ўпэўнена, бо праўды ня трэба крычаць, яе трэба гаварыць спакойна.
Васіль Быкаў жыве і жыць будзе ў сумленьні і ў душы беларусаў. І многа яму год здароўя — сто гадоў, сто гадоў, сто гадоў!

Рыгор Барадулін сябруе з Васілём Быкавым амаль паўстагодзьдзя. Асабістае ж знаёмства Быкава з усясьветна вядомым навукоўцам Барысам Кітом налічвае некалькі гадоў — з таго часу, калі пісьменьнік жыў у Франкфурце. Сёлета ў сакавіку Барыс Кіт наведаў Быкава і ягоную жонку Ірыну Міхайлаўну ў Франкфурце, а цяпер віншуе сябра з днём нараджэньня:

*Б.Кіт:* Здаўна я чуў пра Быкава, што ён зьяўляецца адным з найвялікшых пісьменьнікаў Беларусі. Але пазнаёміўся зь ім толькі тут, у Франкфурце-на-Майне, калі ён прыехаў на часовае жыхарства ў Нямеччыну. Чытаючы ягоныя кнігі, можна яго параўнаць з таксама вялікім пісьменьнікам — з Дастаеўскім. Ён зрабіў на мяне надзвычай цудоўнае ўражаньне. Мы, безумоўна, адразу зразумелі адзін аднаго, амаль што кожны дзень сустракаліся, і гаварылі, і ўспаміналі. І аднойчы ён вырашыў, што найлепш запісваць гэтыя ўспаміны. Ён апрацаваў у той час у Франкфурце мае ўспаміны, якія выйшлі пад назвай «Цярновы шлях. Аповеды Барыса Кіта, запісаныя Васілём Быкавым».

На тэлефоннай сувязі зь Нью-Ёрку — Зянон Пазьняк.





*З.Пазьняк:* Перш-наперш, карыстаючыся магчымасьцю, я хачу павіншаваць Васіля Ўладзімеравіча з днём нараджэньня, з 79-годзьдзем. Зычу яму як найхутчэй паправіцца зь цяжкай хваробы і не здавацца. Не здавацца — я думаю, гэта ў характары Быкава. Спакойна, сваёй баразной. Што б ні было. Мусіць, у гэтым і ёсьць прычына вялікай павагі да яго як да чалавека. Перасьледаваць Быкава пачалі недзе ў пачатку 1960-х гадоў, я добра памятаю той час. А Быкаў ішоў сабе моўчкі наперад, пішучы твор за творам, і штораз — лепш. Цкавалі, вядома, не аднаго Быкава — і Караткевіча, і Разанава, і пісьменьнікаў ва Ўкраіне, і ў Расеі. Папулярнасьцю ў перасьледзе тады, у 1960-я, з Быкавым мог параўнацца толькі расейскі пісьменьнік Салжаніцын.
Я, вядома, не зьбіраюся іх супастаўляць — гэта постаці непараўнальныя. Быкаў — глыба, цэлы кірунак у літаратуры. Салжаніцын жа цалкам адыграў сваю ролю ўжо ў 1980-я. Але вось на што я хачу зьвярнуць увагу. Перад Быкавым таталітарная сыстэма спасавала. Яго раптам перасталі цкаваць. Пачалі няшчыра прызнаваць. Далі нават прэмію, тытулы... А Быкаў, паўтару, як ішоў сабе, так і ішоў. Як бы і не было той сыстэмы, як бы яе і не заўважаў. А потым, калі надарылася магчымасьць, падтрымаў стварэньне Народнага Фронту і далучыўся да яго руху. Салжаніцына тады сыстэма выкінула за мяжу. Гэта пакутлівае выпрабаваньне для творцы. Але за мяжой Салжаніцын пачаў пісаць шавіністычныя артыкулы, а калі вярнуўся, то зацыкліўся на вялікадзяржаўнасьці й забыўся пра літаратуру. Вось вам і розьніца. Пустое — пакоціцца, а глыба — глыба стаіць, бо — моц. І мне радасна так гаварыць і думаць пра Быкава. Я думаю, што Быкаў спраўджвае словы Гётэ: «Твары, мастак, не гавары!» У гэты 79-ты дзень ягоных народзінаў я хачу пажадаць яму, каб адрадзілася і зьберагалася наша Беларусь, наша вольная і дарагая бацькаўшчына.

Зянон Пазьняк лічыць, што без прадмовы Васіля Быкава была б немагчымая публікацыя ў 1988 годзе ў

«Літаратуры і мастацтве» артыкулу «Курапаты — дарога сьмерці». Праз год Быкаў напісаў яшчэ адну прадмову — да першай выдадзенай на тэрыторыі БССР кнігі пра сталінскія рэпрэсіі — яе аўтарам быў Аляксандар Лукашук, цяперашні дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода.

*А.Лукашук:* Без Васіля Быкава цяжка ўявіць эфір Беларускай «Свабоды». Ад 1960-х гадоў ягоныя творы, выступы, барацьба за права пісаць праўду камэнтаваліся ў нашых перадачах. У другой палове 1980-х прагучалі першыя інтэрвію. З таго часу імя, творы, голас пісьменьніка гучалі на хвалях «Свабоды» тысячы разоў. Нашыя слухачы былі першыя, хто змог пазнаёміцца з прыпавесьцямі Быкава, апавяданьнямі, ягонай новай прозай, што нараджалася падчас жыцьця ў Фінляндыі. Мы начытвалі гэтыя тэксты самі, у рэдакцыі, і Васіль Быкаў з кожным новым рукапісам абавязкова прысылаў ліст з прыпіскай — перадайце прывітаньне вашым мілым дзяўчатам і хлопцам, якія так хораша чытаюць. Калі ў Нямеччыне Быкаў напісаў першы дакумэнтальны твор, аўтабіяграфічную кнігу «Доўгая дарога дадому», ён пагадзіўся сам прыехаць у Прагу і тут запісаў сорак перадачаў. Штораніцы на працягу тыдня ён прыходзіў на радыё, сядаў у студыі, надзяваў навушнікі — і мы ўключалі мікрафон. Сьціслыя, амаль без эпітэтаў, напоўненыя сюжэтнай энэргіяй сказы, быццам бясстрасная інтанацыя з унутранай мэлёдыкай, якая нязбытна гучыць у ягонай трагічнай прозе, крыху прыглушаны голас, часам мікрафон захоплівае дыханьне, часам прашалясьціць старонка — аўтапартрэт у гуку, з паўтысячы хвілінаў выгаваранай жывой памяці. Васіль Быкаў ня толькі аўтар — ён сталы слухач «Свабоды». Выходзіць у эфір, калі ведаеш, што цябе слухае Быкаў — якая можа быць большая адказнасьць і ўзнагарода?



# Пасьля Быкава

У гэтым разьдзеле зьмешчаныя тэксты перадачаў Беларускай службы Радыё Свабода — ад жывога эфіру праз паўтары гадзіны пасьля сьмерці Быкава і да саракавінаў, калі, паводле традыцыйных вераваньняў, душа чалавека пакідае гэты сьвет.

## ПАМЁР ВАСІЛЬ БЫКАЎ

22 чэрвеня 2003

***Аляксандар Лукашук, Сяргей Навумчык, Віталь Тарас, Прага***

22.00 у Менску. Жывы эфір.

*В.Тарас:* Зь Менску прыйшла трагічная вестка. 22 чэрвеня на 80-м годзе жыцьця памёр Васіль Быкаў. Апошнія гады пісьменьнік жыў за мяжой — спачатку ў Фінляндыі, потым у Нямеччыне. Летась Васіль Быкаў пераехаў у Чэхію на запрашэньне прэзыдэнта Вацлава Гаўла. Сёлета ў красавіку пісьменьніку зрабілі анкалягічную апэрацыю ў Празе. Апошнія тыдні Быкаў лекаваўся ў Беларусі, у анкалягічнай клініцы ў Бараўлянах. 19 чэрвеня Васілю Быкаву споўнілася 79 гадоў.

*А.Лукашук:* Сёньня мы прысьвячаем нашую праграму памяці пісьменьніка Васіля Быкава. У 20 гадзін 10 хвілінаў, паводле зьвестак, якія мы атрымалі зь Менску, спынілася сэрца Васіля Ўладзімеравіча. (Такая інфармацыя была на момант эфіру. Пазьней стала вядома, што ў 20.10 спынілася дыханьне, а ў 20.30 — сэрца, і лекарыканстатавалі сьмерць. — *Рэд.*) Ён нарадзіўся ў 1924 годзе на Віцебшчыне, у вёсцы Бычкі, дзе дагэтуль жывуць яго родныя, жывуць людзі, якія яго ведалі зь дзяцінства. Яго ведалі далёка за межамі ягонай малой радзімы. Яго ведае ўся Беларусь, яго ведаюць у Эўропе, яго ведаюць у сьвеце. Але так, як яго ведаюць, любяць і помняць у Беларусі, верагодна, нідзе больш помніць, любіць і ведаць ня будуць. На мінулым тыдні карэспандэнты Радыё Свабода наведалі радзіму Васіля Быкава, запісалі словы ягоных сваякоў, людзей, якіх ён ведаў зь дзяцінства, мы рыхтаваліся да спэцыяльнай перадачы, прысьвечанай ягонаму дню нараджэньня, якое было ў мінулы чацьвер.





Мы мелі вялікі гонар мець сярод нашых слухачоў і сярод нашых аўтараў Васіля Быкава. У адзін са сваіх нядаўніх прыездаў у Прагу, яшчэ да таго, як ён пераехаў сюды на жыцьцё, мы папрасілі Васіля Ўладзімеравіча запісаць для нас, для нашага аўдыёархіву ўрыўкі ягонай прозы — з твораў, аповесьцяў першых і прыпавесьцяў апошніх гадоў. Мы вернемся яшчэ да гэтых запісаў. Цяпер я трымаю ў руках кнігу Васіля Быкава «Сьцяна». У прадмове «Ад аўтара» Быкаў піша: «З часоў Шэксьпіра чалавецтву вядома, якая гэта выдатная справа — непарыўная повязь часоў, і як кепска, як тая повязь ірвецца. Што тычыцца беларусаў, дык мы гэта пазналі на нашым шматвяковым гістарычным вопыце, дзясяткі гадоў мы жылі, адрэзаныя ад нашага мінулага, ад нашага досьведу, ад нашай гісторыі». Мы будзем шмат гаварыць пра XX стагодзьдзе; гаворачы пра XX стагодзьдзе ў Беларусі, будзе немагчыма гаварыць і ня згадваць Быкава. Васіль Быкаў ужо быў цяжка хворы, калі даў ці не апошняе сваё інтэрвію — верагодна, апошняе... Сяргей Навумчык, які знаходзіцца разам са мной у студыі, зьвязаўся тады зь пісьменьнікам.

*С.Навумчык:* Я патэлефанаваў Васілю Ўладзімеравічу 4 чэрвеня, гэта была ня першая гутарка пасьля ягонага прыезду ў Менск, ён ехаў у Менск не паміраць, як некаторыя кажуць, у яго быў білет — зваротны білет на 6 чэрвеня ў Прагу, дзе, меркавалася, ён працягне курс хіміятэрапіі, курс лячэньня. Але склаліся так абставіны, што ён мусіў затрымацца ў Менску. Што гэта за абставіны, чаму? Я думаю, пазьней пра гэта можна будзе сказаць. Тэлефанаваў жа я яму вось зь якой нагоды. Ён сачыў за праграмай Беларускай службы Радыё Свабода, ён увогуле сачыў за тымі падзеямі, якія адбываюцца, і калі мы хадзілі да Быкава ў «Motol», калі ён ляжаў пасьля апэрацыі... Першыя суткі, калі чалавек звычайна ледзь-ледзь выходзіць з гэтага стану пасьля наркозу, ягоныя пытаньні былі якраз пра тое, што робіцца

ў Беларусі, што робіцца ў сьвеце. Апошняе гэтае інтэрвію было прысьвечанае сытуацыі вакол Беларускага гуманітарнага ліцэю. «Трэба змагацца за родную мову» — гэта былі апошнія словы Васіля Быкава ў звароце для прэсы, можна сказаць, у звароце, гэткім публічным звароце да беларускага народу. І сымбалічна, што яны былі сказаныя з надзеяй на моладзь. Вось калі гаварыць пра такія запаветы, то, відаць, гэта адзін з запаветаў, які пакінуў нам вялікі беларускі пісьменьнік.

*А.Лукашук:* Мэлёдыя, якую вы цяпер чуеце — «Шумныя бярозы», музыка Пуксты на словы Янкі Купалы. Васіль Быкаў вельмі любіў гэтую песьню, і мы часта гралі яе, калі ў эфіры гучалі ягоныя тэксты. Дзьве хвіліны для музыкі, якую любіў Васіль Быкаў.

*Гучыць песьня ў выкананьні Данчыка.*

*А.Лукашук:* Мэлёдыя «Шумныя бярозы», якую так любіў Васіль Быкаў. Мы будзем чуць гэтую мэлёдыю ў наступныя дні ў нашых праграмах. Васіль Быкаў, калі наведаў Радыё Свабода, запісаў на нашую просьбу некалькі тэкстаў, некалькі любімых урыўкаў са сваіх твораў. Прапаную вам паслухаць тры хвіліны. Васіль Быкаў чытае фрагмэнт з «Альпійскай баляды»:

> Змрочная, непрытульная ноч напаткала ўцекачоў у камяністай, зарослай крывулястым сасьняком цясьніне, якая, патроху вузеючы, адхонна падымалася ўгору.
> Ня так увішна, як раней, Іван лез па замшэлых камянях, зрэдку спыняючыся, каб пачакаць дзяўчыну, што з апошніх сіл упарта плялася за ім. Ён думаў, што лепей было б вылезьці з гэтай змрочнай расьселіны; там, недзе наверсе, мусіць, было раўней і радзейшы быў змрок, які тут цёмным туманом пачаў напаўняць правальле. Але хлопец ужо ня мог набрацца рашучасьці, бо сілы яго таксама канчаліся. Зноў жа вельмі хацелася як найдалей адысьціся ад гораду, як найлепей выкарыстаць гэты даждлівы вечар, які так дарэчы выдарыўся ім і надзейна схаваў ад аўчарак іх дзьве пары сьлядоў. І ён патроху ўсё далей і вышэй прабіраўся ў горы, бо там, у Альпах, быў які-ніякі паратунак — унізе ж, скрозь на дарогах, у далінах, іх чакала пагібель. Праклятыя горы! Ён быў удзячны ім за недаступнасьць для нямецкіх ахоўнікаў з сабакамі, матацыклямі і заставамі, але ён пачаў ужо і ненавідзець іх за тое, што яны так бязьлітасна адбіралі сілы і маглі ўшчэнт замардаваць чалавека. Гэта зусім ня тое, што ў час яго папярэдніх уцёкаў з Сылезіі. Як там зручна было ўначы тупаць па роўнядзі, па палёх і па сенажацях: зоркі ў сьветлаватым небе паказвалі шлях на радзіму. Пракрадваючыся ў нямецкія вёскі і фальваркі баўэраў, яны здабывалі што-кольвечы зь ежы — гародніну і малако зь бітонаў, нарыхтаваных ля весьнічак для ранішняе адпраўкі ў горад. Увесь доўгі, на дзіва пакутны ад бязьдзейнасьці дзень яны, па чарзе вартуючы сябе, сядзелі, зашыўшыся дзе-небудзь у збажыне або хмызьняку. Праўда, небясьпекі хапала і там. Цэлы месяц прабіралася невялічкая група іх, абадраных, няголеных, страшных, да мяжы роднай зямлі. Невядома, як іншым, а яму дужа не пашчасьціла тады: вырваўшыся ад немцаў, ён трапіў у рукі яшчэ горшых вылюдкаў, з выгляду зусім сваіх.
> Калі яго везьлі ў горад, дык ня верылася нават, што яны не жартуюць, — такія гэта былі звычайныя вясковыя хлопцы, бяз злосьці, ляніва лаяліся на зразумелай мове, былі апрануты ў простыя сялянскія кашулі і пінжакі і, апроч драбавікоў, ня мелі іншае зброі. Толькі ў таго, што быў зь белай павязкай на рукаве, вісеў на плячы карабін.
> І цяпер вось горы — Лахтальскія Альпы — невядомы, загадкавы, ніколі ня бачаны край, і ў ім — ма-

ленькая трудная надзея вырвацца на волю, дайсьці да сваіх.

*А.Лукашук:* У эфіры Радыё Свабода спэцыяльная перадача памяці Васіля Быкава. Васіль Быкаў памёр сёньня ў Менску на 80-м годзе жыцьця. У 20 гадзінаў 10 хвілінаў паводле менскага часу спынілася ягонае сэрца. У праскай студыі — Аляксандар Лукашук, разам са мной перадачу вядуць Віталь Тарас і Сяргей Навумчык. Толькі што вы слухалі першае аўтарскае чытаньне «Альпійскай баляды», Васіль Быкаў чытаў урывак.

*С.Навумчык:* «Альпійская баляда» надала эўрапейскую вядомасьць Васілю Быкаву. Дарэчы, ён быў узнагароджаны ў 1995 годзе ордэнам — італьянскім ордэнам. За апошнія гады, нават з 1991 году, Быкаў ня меў ніводнай дзяржаўнай узнагароды ў Беларусі. Быкаў шмат казаў, што безь вяртаньня гістарычнай памяці немагчымая будучыня. І шмат для каго з гісторыкаў, навукоўцаў і пісьменьнікаў гэта было імя, якое асьвячала іх дзейнасьць. У сярэдзіне 1980-х гадоў тады яшчэ малады і мала каму вядомы навапалацкі празаік Уладзімер Арлоў атрымаў маральную падтрымку ад Быкава, у тым ліку і падчас уступленьня ў Саюз пісьменьнікаў. Памятаю, як у 1988 годзе мы разам з Уладзімерам Арловым былі на паседжаньні «Мартыралёгу Беларусі», калі было ўтварэньне Народнага Фронту, і слухалі прамову Васіля Быкава ў Чырвоным касьцёле. Я перадаю слова — на тэлефоннай сувязі зь Менску пісьменьнік Уладзімер Арлоў.

*У.Арлоў:* Я не магу згадаць, калі ўпершыню пачуў імя Васіля Быкава. Мне здаецца, што ён прысутнічаў у маёй сьвядомасьці заўсёды. Прынамсі, з таго часу, калі я ўсьвядоміў сябе беларусам. Але сапраўднае адкрыцьцё Быкава адбылося, напэўна, пасьля зьяўленьня яго аповесьці «Знак бяды», твору знакавага для нашай літаратуры, шмат у чым вызначальнага. Сёньня, успамінаючы





першыя свае сустрэчы з Васілём Уладзімеравічам, я таксама ня мог не прыгадаць і нашых апошніх размоваў, якія адбыліся напачатку чэрвеня, калі Быкаў вярнуўся ў Беларусь. Я быў уражаны тым, што ён шмат чаго чытаў, ведае з апошніх публікацыяў, з апошніх кніг. Я думаю, дзякуючы вам, журналістам «Свабоды», але дзякуючы і таму, што яго розум заставаўся да канца вострым і яго сэрца білася па-беларуску.
У час размовы з Быкавым я перадаў яму просьбу аднаго з прафсаюзных лідэраў Беларусі — просьбу-прапанову заняцца рэстаўрацыяй яго роднага дому на Вушаччыне. Я быў вельмі ўражаны, калі Васіль Уладзімеравіч сказаў: «Не рабіце гэтага. Таму што пасьля рэстаўрацыі дом спаляць». Мне хочацца спадзявацца, што наш нацыянальны прарок усё ж у дадзенай сытуацыі памыляўся. Цяпер трэба сапраўды паклапаціцца пра тое, каб захаваўся дом Быкава на яго радзіме. Каб гэты дом стаў мэмарыялам.
У мяне на стале цяпер апошняя кніга Васіля Быкава, карэктуру якой ён яшчэ чытаў сам. Гэта кніга «Доўгая дарога дадому». Яна разгорнутая на 283-й старонцы, на палове. Дарога Быкава дадому закончылася. Горка і балюча, што гэтага ня здарылася пазьней, але ёсьць свая сымболіка ў тым, што гэтая дарога завершылася на роднай зямлі. І, можа быць, тое, што Беларусь паклікала яго, што беларуская зямля прыме яго, — гэта важней за ўсялякія дзяржаўныя ўзнагароды...

*А.Лукашук:* У эфіры Беларуская служба Радыё Свабода, перадача памяці Васіля Быкава. Сёньня, у нядзелю, у 20.10 спынілася сэрца пісьменьніка Васіля Быкава. Уладзімер Арлоў згадваў твор Васіля Быкава «Знак бяды». Падчас знаходжаньня тут, у Празе, Васіль Быкаў запісаў фрагмэнт гэтага твору. Паслухайце, калі ласка, першае аўтарскае чытаньне:

Празь дзень раскулачвалі Багацьку. Ранічкай у Яхімоўшчыну прыбег Патап Каландзёнак, якога

цяпер Сьцепаніда не хацела пускаць у хату, і ён быццам адчуваў гэта — пастукаў у акно і празьвягаў Лявонаў загад прыйсьці на раскулачваньне. Яна сказала яму і сабе — скульля! І не пайшла. Няхай раскулачваюць безь яе, яна не галасавала за тое раскулачваньне. Але потым растрывожылася, болей за Анютку — як яна там? Гэта ж так яе павязуць, і яна ніколі ўжо не пабачыць дзяўчыну. Аж расхваляваўшыся ад тае думкі, Сьцепаніда як была, у няновай спадніцы і атопках, пабегла ў Выселкі.

Трохі наводшыбе ад вуліцы, на Ладзіміравым падворку ўжо тоўпіліся людзі, пахмурна стаялі запрэжаныя ў сані коні. З хаты выносілі майно: клумкі, кажухі, падушкі, мяхі, — усё неяк таропка, бяз ладу кідалі ў сані. Трошкі ў баку, ля плота, зьнерухомела купка вясковага люду, болей жанок зь дзецьмі, мужчынаў было мала, і сярод іх на падворку вылучалася высокая постаць Лявона ў заляпленым кажусе, з чорнай паскай наўскось па шчацэ, цераз лоб. Выгляд у старшыні быў змрочны і злы, — нібы раскулачвалі яго, а не Ладзіміра. Непадалёк на сьнезе стаяў незнаёмы Сьцепанідзе прысадзісты мужчына ў чорнай бліскучай скуранцы, які таксама назіраў за гэтай выпраўкай у нікому невядомы, далёкі, жалобны шлях. Дзьверы ў сені былі расчынены, адтуль выскачыў спатнелы, чорны, цыганскага выгляду Антось Недасека, пра штось запытаў у Лявона. Сьледам паказаўся Васіль Ганчарык, — няспрытна, задам ступаючы з ганка, валок цяжкаваты зялёны куфэрак, які з другога боку трымаў сам Ладзімір. Згледзеўшы той куфэрак, Сьцепаніда міжвольна ахнула: то ж быў Анюцін пасаг, зь якім дзяўчо нядаўна яшчэ зьбіралася замуж — неяк зімой паказвала Сьцепанідзе, што там было нарыхтавана. Цяпер гэты рыштунак сам Ганчарык выпраўляў невядома куды — на Салаўкі, у Сібір — хто ведае? Сьцепаніда глытнула даўкі ком у горле, з усяе моцы памкнулася стрымаць слёзы. Зрэшты, тое было нялёгка, некаторыя бабы ўжо плакалі, — ціхмана хліпаючы насамі, выціраючы рукавамі вочы, а малая Барысава Маня ўсё тузала маці за палу кажушка і пытала: «Мама, а куды гэта яны? І я хачу ў сані...»

Лізавета крыкнула на дачку раз і другі, ды малая не сьціхала, і тады старая Маланьня, што стаяла побач з кіём у руках, мовіла зь нейкім благім намёкам: «Чакай, дачушка. Вырасьцеш — паедзеш яшчэ...»

*А.Лукашук:* «Знак бяды». Васіль Быкаў чытаў урывак са свайго твору. Запіс зроблены ў Празе, і сёньня ён упершыню гучыць у эфіры. Сёньня, у 20 гадзінаў 10 хвілінаў паводле менскага часу, Васіль Быкаў памёр. Адным з апошніх менскіх літаратараў — з тых, хто адведаў Васіля Ўладзімеравіча ў шпіталі ў Бараўлянах, быў Валянцін Тарас, які цяпер з намі на сувязі. Спадар Тарас, вам слова.

*В.Тарас:* Я нават ня ведаю, з чаго пачаць. Таму што душаць сьлёзы. Душыць вялікае гора. І падтрымка толькі ў тым, што гэта ня толькі маё гора, а гора ўсёй Беларусі. Усёй нашай літаратуры. Усіх тых людзей, якія разумеюць, чым быў для нас Васіль Быкаў і чым ён застаецца для нас навечна. Я шчасьлівы тым, што ён быў побач са мною, што я быў зь ім усё жыцьцё, я застаўся яму абавязаны. Ён даручыў мне, папрасіў мяне зрабіць здабыткам расейскага чытача ягоную кнігу, якая прагучала на «Свабодзе» — «Доўгая дарога дадому». Я гэта абавязкова зраблю, зраблю з усёй сілай, на якую толькі здольны як перакладчык ягоных твораў. Вечная памяць і вечная слава вялікаму пісьменьніку нашай зямлі, нашаму роднаму і незабыўнаму Васілю.

*А.Лукашук:* У эфіры Радыё Свабода перадача памяці Васіля Быкава. Побач са мной у студыі Сяргей Навум-

чык, які толькі што дазваніўся да нашых суродзічаў на іншым кантынэнце.

*С.Навумчык:* На тэлефоннай сувязі ў Канадзе — старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвілла. Івонка, вы нас чуеце?

*І.Сурвілла:* Так, чую.

*С.Навумчык:* Івонка, я прыгадваю, як зусім нядаўна, фактычна два месяцы таму, перад апэрацыяй, мы з вамі былі ў Васіля Ўладзімеравіча дома — тут, у Празе. Тады ён выступіў на ўрачыстым паседжаньні ў гонар 85-х угодкаў БНР. Яму было вельмі цяжка гэта рабіць, таму што ня той быў стан здароўя, і мы яму нават казалі, што, можа быць, варта было б ахвяраваць гэтым выступленьнем. Тым ня менш, ён паехаў тады ў Люстраную залю, у Клемэнтынум, і выступіў там. Ну, а потым мы яшчэ былі ў яго дома. Я хацеў бы папрасіць вас прыгадаць вось гэтую сустрэчу і сказаць колькі словаў пра ўражаньне, якое на вас зрабіў Васіль Быкаў.

*І.Сурвілла:* Уражаньне велізарнае. Я лічыла яго адным з найбольш любых, паважаных людзей, якіх я ведаю. Тое спатканьне было такое цудоўнае. Сапраўды, і гонар, і шчасьце, што мне Бог дазволіў яго пазнаць у Празе. Два разы зь ім спатыкалася ў Празе, і абодва разы сапраўды была захопленая гэтымі спатканьнямі. І са страшэнным болем атрымала вестку пра яго сьмерць, чалавека, якога так моцна і паважала і любіла. Страцілі мы ня толькі вялікага беларуса, якім кожны з нас ганарыўся, а і найбольш выдатнага прадстаўніка нашай культуры XX і пачатку XXI стагодзьдзя. Асірацелі ўсе мы, увесь беларускі народ. Вечная яму памяць. З глыбіні сэрца хачу перадаць шчырыя спачуваньні спадарыні Ірыне і ўсім прыяцелям і сям'і Васіля Быкава.

*С.Навумчык:* Івонка, мы застаемся на сувязі, я нагадаю, што ў нас на сувязі ў Канадзе старшыня Рады БНР





Івонка Сурвілла. Бясспрэчна, што літаратурнае месца Васіля Быкава застаецца на алімпе эўрапейскай, а можна цяпер ужо сказаць, што і ўсясьветнай літаратуры, што ягоныя кнігі будуць чытаць і праз 50, і праз 100, і праз 150 гадоў. Але вось для нас, для сучасьнікаў Быкава, ён яшчэ і грамадзкі дзеяч — пра гэта таксама варта казаць. І Быкаў быў той, хто ўспрыняў ідэю Беларускай Народнай Рэспублікі, ідэю Незалежнасьці. Як бы вы ацанілі гэта, чым для вас як для палітычнага дзеяча была падтрымка Быкава?

*І.Сурвілла:* Вельмі вялікая падтрымка. Гэта ў Беларусі ўсім ведама — называлі Быкава «сумленьнем Беларусі», і я поўнасьцю падзяляю гэтую думку. Ён быў адданы, любіў наш народ, ён так моцна любіў наш народ, што ён ня мог не падтрымліваць нашага руху за незалежнасьць, за волю Беларусі. Вялікім натхненьнем ён быў для мяне, і я думаю, для кожнага з маіх супрацоўнікаў.

*С.Навумчык:* Гаварыла старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвілла.

*А.Лукашук:* У эфіры Беларуская служба Радыё Свабода. Памяці Васіля Быкава. Нагадаю некаторыя моманты біяграфіі Васіля Быкава. Ён нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 году ў вёсцы Бычкі, на Вушаччыне, у сялянскай сям'і. Скончыў 9 клясаў у Кубліцкай сярэдняй школе і паступіў у Віцебскую мастацкую вучэльню. Але вучобу там пакінуў пасьля таго, як студэнтам перасталі плаціць стыпэндыю. Давялося пайсьці ў фабрычна-заводзкае навучаньне, дзе юнакоў кармілі, давалі адзеньне. У выніку Быкаў атрымаў прафэсію не мастака, пра якую марыў, а бэтоншчыка-арматуршчыка. У чэрвені 1941-га ён здаў экстэрнам экзамэн за дзясятую клясу і паехаў ва Ўкраіну, паступаць у індустрыяльны інстытут. Пачалася вайна. Быкаў апынуўся ў інжынэрным батальёне будаўніцтва абарончых умацаваньняў. Потым браў удзел у цяжкіх баях на Паўднёва-Заходнім фрон-

це. Затым была вучоба ў Саратаўскай ваеннай вучэльні, яе Быкаў скончыў у кастрычніку 1943 году ў званьні малодшага лейтэнанта і зноў трапіў на фронт. Цяпер ваяваць выпала ізноў жа ва Ўкраіне, а таксама ў Малдове, у Румыніі, Вугоршчыне і Аўстрыі. Двойчы быў цяжка паранены. Адзін раз яго палічылі пахаваным у брацкай магіле пад Кіраваградам. Падчас аднаго з прыездаў у Прагу Васіль Быкаў запісаў урыўкі са сваіх твораў. Зараз мы прапануем вам паслухаць урывак з аповесьці, якая стала ўсясьветнавядомай таксама і дзякуючы надзвычай таленавітаму фільму, які зьняла Ларыса Шапіцько. Васіль Быкаў, «Сотнікаў»:

> Сотнікаў ня горш за Рыбака бачыў, што ў полі віднее, і добра разумеў, якой нечаканасьцю для іх можа абярнуцца гэты заўчасны ранак.
> Але ён ішоў. Ён сабраў у сабе ўсё, на што яшчэ здольна было яго зьнясіленае цела, і, памагаючы сабе вінтоўкай, з патугай пераступаў нагамі. Сьцягно яго пакутна балела, ступні ён ужо і не адчуваў нават, мокры ад крыві бурак зьмёрз і закасьцянеў, другі, не да канца надзеты, загнуўся на палове халявы, доўгім носам грабучы сьнег. Сотнікаў ведаў, што павідну іх схопяць, але гэта ўжо не адзывалася ў ім вялікай трывогай — яго апанавала абыякавасьць да ўсяго, што не было болем, яго рэальнай штохвілiннай, а ня ўяўнай, пакутай. Каб не Рыбак, ён бы, мусіць, даўно ўжо скончыў гэтыя марныя пакуты, але цяпер, пасьля ўсяго, што той зрабіў для яго, у Сотнікава ажылі зачаткі нейкага абавязку ў адносінах да намаганьняў таварыша.
> Пакуль яны дастыргікалі да ляска, разьвіднела яшчэ болей. Стала відаць поле наўкруг, пагоркі: зьлева, воддаль ад дарогі, цягнулася па лагчынцы кустоўе, але гэта, мусіць, у тых месцах, адкуль яны ўцякалі. Таго ж вялікага лесу, які так быў ім трэба цяпер, не было нават на краявідзе — нібы ён праваліўся за ноч пад зямлю.





> Рыбак, як заўжды, настойліва імкнуўся наперад, зрэшты, гэта было зразумела: яны ішлі як па лязе брытвы, кожную сэкунду іх маглі згледзець, дагнаць або пераняць. Іхнае шчасьце, што дарога ўсё яшчэ ляжала пустая, а купка хвоек наперадзе, хоць і патроху, ды ўсё ж набліжалася. Шкандыбаючы, Сотнікаў праз боль раз-поразу кідаў туды кароткія позіркі — ці хутка дойдуць, але найперш ня дзеля таго, каб схавацца, а больш — каб знайсьці спакой. Але яны яшчэ не дайшлі да гэтае купкі, як Рыбак разгублена вылаяўся і спыніўся.
> «Тваё-маё! То ж могілкі!»
> Сотнікаў узьняў галаў — сапраўды, цяпер ужо было ясна відаць, што той хамлачок хвоек, які ім здаўся ляском, быў вясковымі могілкамі — пад разложыстым суччом хваін тырчала некалькі крыжоў, агароджаў і невялікі цагляны помнік у глыбіні на пагорачку. А найгорш было тое, што з-за могілак выглядвалі саламяныя стрэхі хат; вецер, відаць было, коса цягнуў у неба хамлак дыму з коміна.
> Рыбак высмаркаўся на дарогу, выцер рукой нос.
> «Ну, куды дзявацца?»

*А.Лукашук:* Васіль Быкаў. Вы слухалі ўрывак з аповесьці «Сотнікаў». У арыгінале — першы раз, калі яна была напісаная і прадстаўленая ў рэдакцыю, аповесьць называлася «Рыбак і Сотнікаў». Цяпер яна, канечне, вядомая пад назвай «Сотнікаў». Толькі што, слухаючы гэтую аповесьць тут, у студыі, мой калега Віталь Тарас раптам сказаў, заўважыў адну рэч, якая мяне глыбока ўразіла.

*В.Тарас:* Тут ёсьць глыбока сымбалічнае і разам з тым трагічнае супадзеньне, якое чамусьці адразу не прыйшло ў галаву. Сёньня — 22 чэрвеня, дзень пачатку вайны. Вайны, якая адыграла калясальную ролю ня толькі ў жыцьці Васіля Быкава, але ўсяго народу беларускага ды іншых народаў. Быкаў ня быў баталістам, ён пісаў

не пра вайну, ён пісаў пра людзей у трагічных, гранічных сытуацыях, але тым ня менш — вось гэтая дата. Я чаму яшчэ пра яе ўспомніў: таму што тут мой бацька гаварыў пра Быкава... Шмат гадоў пасьля вайны ён і ягоныя сябры — франтавікі, партызаны, у іх быў такі звычай: 22 чэрвеня ўставаць рана а 3-й гадзіне начы, а 4-й, калі пачалася вайна, і такім чынам сустракаць гэты дзень. Гэта такая была негалосная дамоўленасьць, і сёньня я чамусьці вельмі рана прачнуўся, гадзіны ў 3 начы, я ня ведаў, што здарылася, але было адчуваньне нейкай бяды 22 чэрвеня.

*А.Лукашук:* Віталь, я трымаю ў руках кнігу «Сьцяна». Яна з прадмовай Быкава, дзе ён піша: «Мы жылі, адрэзаныя ад нашага мінулага, ад нашага досьведу, ад нашай гісторыі. У тым ліку і нядаўняй — гісторыі мінулай вайны. Зь цягам часу памяць пра яе актыўна зьмянялася на прапагандавыя схемы, а яе вялікая праўда — на карысьлівую праўдзівасьць таталітарнай партыі... Поруч з гераізмам было на вайне і інакшае... Дык, можа, хоць напрыканцы XX стагодзьдзя перастанем быць дурнямі. Убачым пра сябе праўду. Нават і непрывабную. Праўда ў гісторыі — функцыя адназначная, зь яе робяць урокі. З хлусьні ніякіх урокаў ня зробіш, апроч новай хлусьні». У эфіры — Беларуская служба Радыё Свабода, перадача памяці Васіля Быкава. Я перадаю мікрафон майму калегу Сяргею Навумчыку.

*С.Навумчык:* Сапраўды, як сказаў Віталь Тарас, Быкаў не пісаў пра вайну, ён пісаў пра чалавека — пра чалавека ў гранічных абставінах. Некаторыя называлі яго беларускім Камю, і тады гэтая плынь літаратурная, экзыстэнцыялізм, яна была вельмі непапулярная ў Савецкім Саюзе, калі не сказаць больш. І на самым пачатку сваёй літаратурнай працы Быкаў зьведаў артыкулы... Любога такога артыкулу было б дастаткова, каб чалавек проста зьняверыўся ў тым, што ён робіць. Тым ня менш, ён заставаўся верны праўдзе. Казаць праўду — гэта прэрагатыва пісьменьніка, пра гэта ён казаў на зьезьдзе Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, на V зьездзе ў 1966 годзе. Але былі і выданьні, якія ўжо ў той час аб'ектыўна ацэньвалі Быкава. На вялікі жаль, гэтыя выданьні былі не на тэрыторыі БССР, не на тэрыторыі тагачаснага СССР, а ў замежжы. І цяпер у нас на тэлефоннай сувязі Нью-Ёрк, дырэктар Беларускага Інстытуту Літаратуры і Мастацтва Вітаўт Кіпель. Спадар Вітаўт, вы чуеце нас?

*В.Кіпель:* Я чую вельмі добра.

*С.Навумчык:* Спадар Вітаўт, не маглі б вы прыгадаць, калі ўпершыню пачулі гэтае імя — Васіль Быкаў?

*В.Кіпель:* Найперш — гэтая навіна сапраўды мяне прыбіла... Я не партызан, але належу да таго пакаленьня, для якога 22 чэрвеня нешта значыла. І якраз сёньня раніцай я ўстаў і думаю — гэта вялікая дата для нас. Тым бальней, што на мінулым тыдні мы былі ў Вашынгтоне, і ў невялікай грамадзе мы ўспомнілі Васіля Быкава ў ягоны дзень нараджэньня. Навіна злавесная і страшная.
Пра Быкава як пра пісьменьніка на эміграцыі стала чуваць ад пачатку 1960-х гадоў. Найперш ягоная «Альпійская баляда», іншыя расказы, якія друкаваліся ў часопісах. У беларускім друку на яго зьвярнуў увагу ўпершыню Станіслаў Станкевіч, а ў агульнаамэрыканскім друку, расейска-ангельскім, на яго зьвярнула ўвагу такі вядомы літаратурны крытык Аляксандрава, яна зрабіла некалькі рэцэнзіяў у расейскамоўным друку і ў ангельскамоўным друку, і яна казала, што за гэтым пісьменьнікам яшчэ будучыня. Беларускія эмігранты навогул ад самага пачатку вельмі палюбілі літаратуру Быкава, і нават былі выдадзеныя кніжкі — кніжка «Мёртвым не баліць» была ўпершыню выдадзеная, мне здаецца, на эміграцыі. Потым Быкаў вывучаўся, вывучаліся ягоныя пераклады.

У Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва спадарыня Зора Кіпель зь ім была ў вельмі блізкай перапісцы, бо Быкаў шмат рабіў перакладаў на расейскую мову, гэтыя пераклады не заўсёды адпавядалі беларускім сапраўднікам, і ў ангельскі друк гэта пайшло. Трэба сказаць, што Быкава ў перакладах чытала вельмі шырокае грамадзтва — ангельскамоўнае, францускамоўнае, і ён сапраўды для Беларусі зрабіў велізарную справу, папулярызуючы глыбіню беларускай думкі, аналіз свой, папулярызуючы навогул думаньне, якое ў беларускім народзе вельмі глыбокае. Так што Быкаў для Беларусі рабіў ня толькі як пісьменьнік, але і як вялікі, вялікі дзеяч Беларусі. Эміграцыя яго ўважала сапраўды сумленьнем нацыі. Гэта асоба, чалавек, які прайшоў вайну, і тым ня менш, ён заўважаў пазытыўныя і нэгатыўныя адзнакі на абодва бакі фронту, ён бачыў людзей на абодва бакі фронту, аналізаваў гэтых людзей, што іх прывяло, як яны апынуліся ў той сытуацыі — тое, што пісьменьнік якраз і павінен рабіць.
Эміграцыйны крытык Уладзімер Сядура-Глыбінны казаў, што ў Быкава ёсьць пэўныя ноткі Дастаеўскага і іншых філёзафаў пары XIX стагодзьдзя. Вось, у кароткіх словах, мае думкі аб Быкаву. Я кажу гэта раскідана ўсё, дзеля таго што навіна забойчая. Тым бальней, што сёньня 22 чэрвеня, і толькі на мінулым тыдні мы згадвалі Васіля Быкава ў ягоны дзень нараджэньня...

*С.Навумчык:* Я нагадаю, што на тэлефоннай сувязі ў Нью-Ёрку быў дырэктар нью-ёрскага Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва Вітаўт Кіпель. Вы на хвалях Радыё Свабода, у эфіры перадача, прысьвечаная памяці Васіля Быкава. Аляксандар, мы ўжо згадвалі ролю Быкава ў стварэньні «Мартыралёгу Беларусі». І я памятаю 1988 год, калі я прыходзіў да цябе ў «Звязду», і якраз твой кабінэт быў адным з такіх месцаў, дзе ішла падрыхтоўка да стварэньня гэтай структуры, якая потым перарасла ў аргкамітэт Народнага Фронту, але





тады якраз гаворка ішла пра «Мартыралёг», ён яшчэ называўся «Камітэт-58». І да тваёй кнігі «Зьдзек», якая выйшла, Быкаў напісаў прадмову. Я хацеў бы, каб ты згадаў той час і ролю Васіля Ўладзімеравіча.

*А.Лукашук:* Васіль Быкаў ужо ў той час быў чалавек іншага вымярэньня, і вакол яго была пэўная тэрыторыя, пэўная аўра, на якую цяжка было і падыходзіць блізка. Прынамсі, калі паўстала пытаньне пра друкаваньне маіх сьціплых росшукаў у сталінскай гісторыі, і ўзьніклі праблемы з гэтым, добрыя людзі параілі, што добрая прадмова магла б дапамагчы. І я пазваніў. Я пазваніў абсалютна незнаёмаму мне асабіста Быкаву, ён сказаў: «Прыносьце рукапіс». Я памятаю, што я прынёс яму чамусьці другі экзэмпляр, не на самай лепшай паперы, бо першы быў у друкарні, у наборы, з папраўкамі. І пакінуў яму ў паштовай скрынцы. І затым літаральна на другі дзень ён пазваніў і сказаў, што можна забраць прадмову, што мяне вельмі ўразіла. Я не паверыў, мушу сказаць, ад пачатку, што ён прачытаў. Але потым аказалася, што ён прачытаў. Ён вельмі хутка чытаў. Нават цяпер, калі ён хварэў, ляжаў тут у Празе, я асабіста занёс яму кніжак пятнаццаць. Я ведаю, што ты, Сяргей, са сваёй бібліятэкі яму насіў кнігі. Віталь таксама перадаваў. Мы ўвесь час раздрукоўвалі, ён надзвычай хутка чытаў, ён вельмі добра памятаў, што прачытаў, потым ён пераказваў гэта. І апошнім часам мы мелі такую радасьць, такую асалоду пачуць ягоныя меркаваньні пра шмат якіх аўтараў, бо ён вельмі шмат чытаў — відавочна, менш пісаў.
Вось тая прадмова, канечне... Я яе дагэтуль баюся перачытваць, бо там такія словы, да якіх, як кажуць, расьці й расьці. Сталінская тэматыка і злачынствы камунізму для Быкава былі... Ён лічыцца як бы «ваенны» пісьменьнік, а не «антысталінскі». Але гэта як велізарная чорная глыба, якая пастаянна вісела над ягоным лёсам, вісела над ім. Некалі я рабіў зь ім інтэрвію для «Свабо-

ды», я спытаўся — у дзяцінстве ці еў ён калі-небудзь цукеркі, салодкае? Ён сказаў — што вы! Я першы раз салодкае пакаштаваў пасьля вайны, якія цукеркі? Дзе мы маглі іх купіць? Пасьля вайны нейкія «падушачкі» першы раз. У яго было цяжкое жыцьцё. Як, дарэчы, і ў шмат каго зь ягоных чытачоў.

*С.Навумчык:* Так, ён казаў і прыгадваў словы клясыка: цяжкое юнацтва ці цяжкое дзяцінства — гэта нейкі такі абавязковы падмурак для творцы, для пісьменьніка. Хаця гэта не заўсёды, відаць, так — вось у Быкава менавіта было так. І Аляксандар Лукашук прыгадаў удзел Быкава ў стварэньні «Мартыралёгу Беларусі», я ж магу як былы дэпутат Вярхоўнага Савету і парлямэнцкай апазыцыі сказаць, што ў гэтыя 1990–96-я гады (кажу за сябе ды, думаю, што за ўсіх нас) — гэтае адчуваньне таго, што цябе падтрымлівае Быкаў, што ён ацэньвае твае дзеяньні, яны вельмі былі высокім маральным крытэрам, яны вельмі моцна дапамагалі ў пэўных сытуацыях у парлямэнцкай працы, але яны, канечне, і вельмі многага вымагалі. І я прыгадваю, як пасьля сэсіяў Вярхоўнага Савету, гэта ўжо было 10–11 гадзінаў начы, часам Васіль Уладзімеравіч званіў, дзяліўся нейкімі меркаваньнямі, ён глядзеў тады гэтую сэсію. Гэта было больш як дзесяць гадоў таму, і цяпер тут у Празе, калі мы завозілі яму гэтыя маніторынгі, вялізныя стосы раздрукавак рознай аналітыкі, наступнай раніцай ён даваў свае ацэнкі, і гэтыя ацэнкі проста зьдзіўлялі вастрынёй думкі й разуменьнем сытуацыі. Гэтая тэма — Быкаў і палітыка, Быкаў і ўлада — тэма, якая яшчэ будзе дасьледаваная.

*А.Лукашук:* У эфіры Беларуская служба Радыё Свабода. Памяці Васіля Быкава. Я трымаю ў руках кнігу «Сьцяна». Кніга ў пасьляслоўі завецца «народная кніга». Яна рыхтавалася да выхаду ў дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура», але яе друк быў спынены. Пасьля неаднаразовых прапановаў чытачоў і са





згоды Быкава кніга выйшла ў незалежным выдавецтве «Наша Ніва». Над гэтым праектам працаваў Сяргей Дубавец, які цяпер з намі на сувязі ў Вільні.

*С.Дубавец:* Васіль Быкаў быў найвялікшы беларускі чалавек, можа быць, за ўсю гісторыю Беларусі, таму што сьведчыў пра існаваньне нашай нацыі ўсяму сьвету лепш, чым сьведчаць любыя законы, дакумэнты, дэклярацыі і гэтак далей. Я літаральна дзьве хвіліны таму даведаўся пра гэтую навіну і прашу прабачэньня, што не гатовы казаць нейкіх вынашаных рэчаў. Але іншага такога чалавека ў сёньняшняй Беларусі я проста ня ведаю. Гэта чалавек узроўню найбольшых майстроў усясьветнае культуры, можа быць, Шэксьпіра, Дастаеўскага, Камю... Мы яшчэ будзем ня тое што ўспамінаць Васіля Быкава, мы яшчэ будзем яго перачытваць, таму што не прачыталі як сьлед. Мы толькі ведалі, што ён быў, а чытаць і асэнсоўваць тое, што ён напісаў, хутчэй за ўсё, будзем мы заўтра альбо будуць ужо нашыя дзеці і той сьвет, які будзе заўтра.

*А.Лукашук:* У эфіры Беларуская служба Радыё Свабода. Памяці Васіля Быкава. Сёньня ў Менску на 80-м годзе жыцьця памёр Васіль Быкаў. Яго сэрца спынілася ў 20 гадзінаў 10 хвілінаў. У чацьвер Васіль Быкаў адзначыў 79-я ўгодкі з дня нараджэньня. Адзначыў у шпіталі. У 1965 годзе выйшла аповесьць Быкава «Мёртвым не баліць». Баліць — жывым. Падчас свайго знаходжаньня ў Празе на Радыё Свабода Васіль Быкаў запісаў некалькі фрагмэнтаў са сваіх аповесьцяў і прыпавесьцяў. Паслухайце, калі ласка, аўтарскае чытаньне «Мёртвым не баліць»:

> З пагорка дванаццаць нямецкіх танкаў відаць як на далоні. Звузіўшы інтэрвалы, усе ў рад яны паўзуць па шырокай разьлегласьці балкі-лагчыны. Праўда, паўзуць асьцярожна, відаць, не імкнучыся гусеніцамі душыць уцекачоў — яны іх нішчаць

агнём. Глыбінны нутраны гул, усё мацнеючы, плыве над зямлёй.

На флянг я ўжо не бягу. Прыгнуўшыся, уваходжу ў ланцуг, дзе ён трохі радзейшы, і падаю ў сьнег. Сьнег тут не глыбокі, навокал тырчыць шэрае дудзьдзё быльнягу. Справа ад мяне шавеліць ствалом нехта ў паўшубку — ці не камандзір які? Толькі ён не камандуе. Цяпер ён, як і ўсе, радавы ў гэтым ланцугу старшыны Еўсюкова. З другога боку ад мяне таропка месьціцца ў сьнезе даўганогі баец у кароценькім шынэльку. Над засьнежаным марозным стэпам блішчыць у смузе невысокае зімовае сонца.

Здаецца, мы ўсе загінем. Каб вызначыць тое, ня трэба быць празорцам — дастаткова паглядзець наперад. І, па сутнасьці, так недарэчна! Пасьля загіне Юрка, Каця. Наўрад ці ўратуецца і Сахно. Можна лічыць, што кожны з нас адзін для другога — ужо не існуе. Я — для Юркі, ён — для мяне. Застаюцца хвіліны. Апошнія мае хвіліны. Самотнае гэта прадчуваньне раптам бурыць недалёкі крык. Гэта ў ланцугу прыўстае на каленях старшына. Яго цёмная куртка дэсантніка здалёку відаць на асьнежаным полі.

«Агонь! Якога храна ляжаць! Агонь!»

Так, вядома, трэба агню. Інакш, чым жа мы можам стрымаць гэтыя танкі? Толькі што мы ім зробім гэтым агнём? Каб хоць парачку ПТР. Ды каб гранаты...

З ланцуга рэдка і бязладна пачынаюць брахаць вінтоўкі. Нехта пускае даўгую чаргу з аўтамата. Танкі, напэўна, пакуль нас ня бачаць. Я ляжу ў нейкім здранцьвеньні, увабраўшы рукі ў мокрыя рукавы шыняля. Мерзнуць пальцы. Да самага калена гарыць, ные нага. У маім карабіне ўсяго пяць патронаў, і я выпушчу іх, калі танкі падыдуць бліжэй. Каб пацэліць хоць бы ў які трыплекс...





*А.Лукашук:* Васіль Быкаў, ягонае імя, ягоныя творы, размовы пра яго гучаць на Радыё Свабода каля чатырох дзесяцігодзьдзяў. Паводле маіх падлікаў, больш за тысячу разоў толькі за апошнія гады ягонае імя і ўрыўкі зь ягоных твораў гучалі на нашых хвалях. Беларуская служба Радыё Свабода плянуе выдаць кнігу «Васіль Быкаў на Свабодзе». Ад заўтрашняга дня ў нашым эфіры будуць гучаць урыўкі з кнігі «Доўгая дарога дадому», якую начытаў сам Васіль Быкаў. Пачынаецца новы час. Новы этап, новы пэрыяд у жыцьці ўсіх беларусаў. Час бяз Быкава.

*С.Навумчык:* Сёньня мы атрымалі страшную магчымасьць сказаць тое, што разумелі, я думаю, раней: нашыя нашчадкі, нашыя дзеці, нашыя ўнукі будуць успрымаць нас як сучасьнікаў Васіля Быкава.

## БАЛІЦЬ

22 чэрвеня 2003

***Аляксандар Лукашук, Прага***

> Якое гэта было шчасьце — ведаць, што Васіль Быкаў тут, недзе побач, а значыць, праўда застаецца, яна неператожная. Дабро мацнейшае за зло. Як радасна і лёгка быць сучасьнікам Быкава. Як атлянт, ён трымаў беларускую надзею. Ён задаваў маштаб — мінулай вайне, кнігам, людзям.

Быкаў умеў цярпець — гэтаму майстэрству добра вучылі ў сталінскай вёсцы, на крывавай вайне, якая да апошніх дзён глыбока хвалявала яго, у савецкай літаратуры. Сярод самых дарагіх сувэніраў у ягоным кабінэце — ліст ад Аляксандра Твардоўскага, рэдактара «Нового мира» — там не віншаваньні, не пахвалы выдатна-

му твору, а сялянская цярплівая мудрасьць: усё мінецца, праўда застанецца. Апошнія гады Быкаў ня мог жыць у Беларусі. Яму фізычна невыносна было знаходзіцца ў гнятлівай атмасфэры халуйства і прыніжэньня, гвалтоўнага мярзоцьця. Калі-небудзь унукі цяперашніх уладароў спытаюць іх, чаму Быкаў ня мог дыхаць адным паветрам зь імі. Калі гаворка ішла пра выданьне кніг, пляны, новыя пачынаньні ці навіны ў жыцьці людзей, зь якімі ён сябраваў, Быкаў звычайна як пажаданьне зь мяккай усьмешкай паўтараў: «Дай Божа!» Ён памёр 22 чэрвеня, у самы доўгі дзень году — у гадавіну пачатку вайны. Быкаву цяпер, нарэшце, не баліць. Дай Божа, каб ня ўсьцішыўся ў нас гэты боль.

## НАШЫЯ ЎЧЫНКІ ВЫМЯРАЛІСЯ ЎЯЎЛЕНЬНЕМ — А ШТО СКАЖА БЫКАЎ?

22 чэрвеня 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

Ад самага пачатку новай хвалі беларускага нацыянальнага адраджэньня Быкаў выступіў у ягоную падтрымку. Ён і быў сымбалем гэтага адраджэньня, і менавіта праз Быкава сьвет успрымаў новую Беларусь.

Для тых жа, хто меў дачыненьне да аднаўленьня беларускай дзяржаўнасьці (кажу пра дэпутатаў апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12 скліканьня, да якіх сам належаў), Быкаў быў ня толькі падтрымкай, але і маральным эталёнам: нашыя ўчынкі вымяраліся ўяўленьнем — а што скажа Быкаў? Апошнія ж словы, якія сказаў ён для нашага радыё (і гэта, на жаль, было апошняе ягонае інтэрвію), былі: «Трэба змагацца за родную мову».





## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК: «ТОЕ, ШТО ЎЖО НЯ СТАЛА БЫКАВА, ЯШЧЭ ЦЯЖКА ЎСЬВЯДОМІЦЬ»

22 чэрвеня 2003

На тэлефоннай сувязі ў Нью-Ёрку — старшыня Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк.

*З.Пазьняк:* Сьмерць непазьбежная, але людзям нялёгка з гэтым зьмірыцца. Цяжка зьмірыцца са сьмерцю Васіля Быкава. Такое ўражаньне, што памерла беларуская літаратура. Для мяне вельмі балюча, што Быкаў памёр у цяжкім часе і не ў свабодзе, якую трэба яшчэ вярнуць. Але спакайнее душа, што адбылося гэта на бацькаўшчыне. Толькі той, хто яе страціў, як Адам Міцкевіч ці Максім Багдановіч, толькі той можа зразумець, што нават памерці на радзіме ёсьць шчасьцем. Апошняе шчасьце беларуса. Тое, што ўжо ня стала Быкава, яшчэ цяжка ўсьвядоміць. У 1980-я, 1990-я гады, у час актыўнага змаганьня за незалежнасьць і справядлівасьць, Васіль Уладзімеравіч быў для мяне тым найпершым чалавекам, на якога можна было абаперціся, калі акружала і кусала цябе воўчая зграя. Зь яго словам лічыліся ўсе. Але з другой паловы 1990-х гадоў зьявілася атмасфэра і людзі, для якіх нічога няма ў Беларусі сьвятога. У гэтай атмасфэры было немагчыма дыхаць і жыць вялікаму пісьменьніку, бо ня кожны рашаўся яго бараніць. Адзіноцтва на бацькаўшчыне ён зьмяніў на адзіноцтва на Захадзе, дзе яшчэ горай, але ўжо ніхто ня мог яго зьневажаць. І вось цяпер ён вярнуўся ў сьвятую нашу зямлю. Яна як душа, як калыска, як вечная любоў. Хай жа будзе яна для яго спагаднай, хай жа стане яна для нас свабоднай.

## ЛЕКАР СПЫНІЎ ГАДЗІНЬНІК БЫКАВА Ў 20.30

23 чэрвеня 2003

***Алена Ціхановіч, Сяргей Навумчык, Прага***

Што вядома пра апошнія дні жыцьця Быкава?

*С.Навумчык:* Ня думаю, што маю права казаць пра ўсе акалічнасьці хваробы і апошнія дні Быкава, гэта справа родных. Яшчэ перад апэрацыяй у Празе ў сакавіку быў пастаўлены дыягназ — рак. І было зразумела, што, на вялікі жаль, апэрацыя хаця і аблегчыць стан, але не дапаможа кардынальна. У канцы траўня Быкаў паехаў у Менск. Ён меркаваў вярнуцца ў Прагу, гэта толькі што ў тэлефоннай размове пацьвердзіла і жонка Ірына Міхайлаўна. У іх быў зваротны білет на 6 чэрвеня, але зь некаторых прычынаў адклаў паездку. Да таго ж, пагоршыўся стан здароўя — перад гэтым Васіль Уладзімеравіч прайшоў курс антыанкалягічнай тэрапіі адмысловымі лекамі. Два тыдні таму Быкава паклалі ў Бараўляны, і там было вырашана распачаць курс хіміятэрапіі. Спачатку лекары лічылі ягоны стан вельмі цяжкім, але пазьней было паляпшэньне, і нават ішла гаворка пра выпіску на нейкі час дахаты, у кватэру на Танкавай.
У дзень нараджэньня, акрамя родных, яго наведвалі Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Сяргей Законьнікаў, Валянцін Тарас. Жонка прачытала яму віншавальныя артыкулы з «Народнай Волі». Але на суботу Быкаў быў пераведзены ў рэанімацыю. Учора ў тэлефоннай размове з жонкай Быкава Ірынай Міхайлаўнай я пачуў ад яе, што стан здароўя Васіля Ўладзімеравіча рэзка пагоршыўся, ён прасіў забраць яго са шпіталю. Ён ужо ня мог падымацца. Учора Быкава наведаў сын Сяргей, Ірына Міхайлаўна была з Быкавым у ягоныя апошнія хвіліны... У 20.10 у Быкава спынілася дыханьне, а ў





20.30 перастала біцца сэрца, і лекар спыніў ягоны гадзіньнік.

*А.Ціхановіч:* Апошнія месяцы жыцьця Быкава ў Празе ты часта зь ім сустракаўся...

*С.Навумчык:* Быкаў вельмі шмат чытаў, прычым ён цікавіўся якраз не мастацкай літаратурай, а прасіў прыносіць яму дакумэнтальную літаратуру. Я даваў яму кнігі публіцыстыкі Івана Буніна і Аляксандра Купрына, яшчэ — чатыры кніжкі пра Парыж Барыса Носіка (ён іх усе прачытаў), сярод апошняга — кнігі ўспамінаў Яўгена Еўтушэнкі і актрысы Алы Дзямідавай. Аляксандар Лукашук перадаў кнігу Валкагонава. На пісьмовым стале Васіля Ўладзімеравіча ў Празе засталіся ляжаць «Наша Ніва», апошняя кніга прозы Ўладзімера Арлова і альбом «Краіна Беларусь».

## «ПІСЬМЕНЬНІК ГОНАРУ, ЯКІ НІДЗЕ Й НІКОЛІ НЕ ДАПУСКАЎ НАВАТ НАБЛІЖЭНЬНЯ ДА КАНЬЮНКТУРЫ»

23 чэрвеня 2003

Пра мастака, змагара і салдата Быкава, які змагаўся за свабоду Ўкраіны, гаворыць старшыня Саюзу ўкраінскіх пісьменьнікаў Уладзімер Яварыўскі.

*У.Яварыўскі:* На Кіраваградчыне ёсьць брацкая магіла, дзе высечаныя імёны салдатаў, палеглых падчас другой усясьветнай вайны. І сярод іх — імя Васіля Быкава. Ва Ўкраіне скончылася адно жыцьцё Васіля Быкава. Але потым было другое жыцьцё, калі нарадзіўся вялікі пісьменьнік, пісьменьнік гонару, які нідзе й ніколі не дапускаў нават набліжэньня да каньюнктуры, які настолькі глыбока праклаў баразну сваёй праўды пра вай-

ну — чаго вартыя такія творы як «Дажыць да сьвітаньня» ці «Мёртвым не баліць». Гэта быў цудоўны пісьменьнік, які вытрымаў сваю суровую ноту з глыбока прыхаванай пяшчотаю. Гэта быў чалавек, які змагаўся за незалежнасьць Беларусі. І калі гэтая незалежнасьць была абвешчаная і калі «бацька» Лукашэнка ўзначаліў нацыю, Быкаў быў змушаны эміграваць, як у найстрашнейшыя часы. Яму падаў руку Гавэл, забясьпечыў яму, так бы мовіць, пражытковы мінімум. І апошняе — Васіль Быкаў быў цяжка хворы, у яго быў рак. Ён адчуваў, што вось-вось памрэ. І дзіўна, як лёс павёў яго, што ён вярнуўся да Менску — і пасьля выгнаньня ён памёр у Менску.

## ВАСІЛЯ БЫКАВА СЛУХАЛІ Й ЧЫТАЛІ Ў КУРАПАТАХ

23 чэрвеня 2003

***Ганна Соусь, Прага***

Мой першы рэпартаж на «Свабодзе» быў прысьвечаны Васілю Быкаву. Гэта было тры гады таму прыблізна ў гэткі ж летні час.

У Менску была вялікая дэлегацыя літаратараў эўрапейскіх краінаў. У часе афіцыйнай цырымоніі нямецкі літаратуразнаўца сярод іншага гаварыў пра тое, які гэта вялікі гонар для Нямеччыны, што там жыве і працуе беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў. А перакладчыца, якую прызначылі працаваць з дэлегацыяй, пераклала ўсю ягоную прамову, апроч словаў пра Быкава. Празь некалькі гадзінаў у Вязынцы, а тады было Купальле, латыскі паэт Марыс Чаклайс са сцэны выказаў абурэньне гэтым фактам, а потым у інтэрвію для Радыё Свабода казаў пра тое, як ганебна, што геніяльны беларускі пісьменьнік вымушаны жыць у выгнаньні. Гэта быў мой першы рэпартаж на «Свабодзе»...

Праз два з паловай году, калі ў менскім Палацы мастацтва адбывалася прэзэнтацыя кнігі «Дарога праз Курапаты», Васіль Быкаў у жывым эфіры Радыё Свабода зьвярнуўся да прысутных у залі абаронцаў. Ён дзякаваў моладзі за тое, што яны зьберагլі Курапаты цягам завейных месяцаў, празь сьцюжу і тэрор праваразбуральных ды іншых «органаў». «Вы абаранілі, можа, самы жахлівы краёчак нашай гісторыі — памяць пра зло і крывавае злачынства, што чыніліся супраць нацыі», — казаў Быкаў. Празь нейкі час нямецкі дыплямат, які прысутнічаў на прэзэнтацыі кнігі «Дарога праз Курапаты», запытаў мяне са зьдзіўленьнем: «Як гэта Радыё Свабода дамаглося, што ў цэнтральным палацы Менску гучна й вольна гучала слова Васіля Быкава? Як гэта дазволілі беларускія ўлады?..» Слова Васіля Быкава заўсёды гучала ў Курапатах. Яго там слухалі па нашым радыё і заўсёды чыталі. «Сьцяна», «Кар’ер» ды іншыя творы Быкава былі ў бібліятэчцы абаронцаў Курапатаў. На Дзяды, знаходзячыся ў далёкай Нямеччыне, Васіль Быкаў казаў у эфіры «Свабоды», што ён вельмі хацеў бы далучыцца да тых, хто паставіць сьвечкі ў Курапатах. А цяпер абаронцы Курапатаў запаляць сьвечкі па Васілю Быкаву.

## ЁГАНА ШТРАСЭР: «У РОДНАЙ КРАІНЕ ЁН НЯ БЫЎ У БЯСЬПЕЦЫ»

23 чэрвеня 2003

Некалькі гадоў Васіль Быкаў пражыў у Нямеччыне, дзе знаходзіўся на запрашэньне Нямецкага ПЭН-цэнтру. Слова кіраўніку ПЭН-цэнтру Нямеччыны пісьменьніку Ёгана Штрасэру.

*Ё.Штрасэр:* Я ня ведаў яго асабіста, але Нямецкі ПЭН-цэнтар забясьпечваў яму магчымасьць побыту ў Нямеччыне, нават некалькі разоў, бо ў ягонай роднай краіне ён ня быў у бясьпецы. І я некаторыя яго рэчы чытаў. Я спадзяваўся, што ён як пісьменьнік яшчэ доўга будзе з намі, яшчэ будзе пісаць цікавыя творы. Навіну, што ён памёр, я чую цяпер упершыню, і я вельмі смуткую.

## ПЁТАР ВАЙЛЬ: «БЫКАЎСКАЯ ВАЙНА — НЯ БОЙ ДЗЕЛЯ ПЕРАМОГІ, А БОЙ БЕЗЬ ПЕРАМОЖЦАЎ»

23 чэрвеня 2003

Пра значэньне творчасьці Васіля Быкава гаворыць расейскі пісьменьнік Пётар Вайль.

*П.Вайль:* Найлепшыя кінігі Быкава — пра вайну. Пра вайну ён пісаў усё жыцьцё. Нібыта ня дзіўна — гэта была тэма соцень, калі ня тысяч савецкіх пісьменьнікаў. Але пры гэтым дзіўным чынам вялікай сапраўднай кнігі няма. Гэтаму многае перашкаджала — і наўпрост улада, і наўпрост ці ўскосна рэдактарская цэнзура і аўтарская самацэнзура, і больш за ўсё — дыктат грамадзтва, тое зразумелае, але згубнае для гістарычнай памяці народу пачуцьцё, якое завецца «не чапай сьвятога». Непахіснасьць подзьвігу ператварыла вайну ў маналіт, у нешта, што не падлягае аналізу. На гэтым тле апавяданьні, аповесьці, раманы Васіля Быкава вылучаюцца рэзка, ярка, жыва. Ня рух вайсковых масаў, а рух душы. Ягоная тэма — чалавек на мяжы, чалавек за мяжою. Можа, самае пранікнёнае, што напісана пра вайну — аповесьць «Сотнікаў», якая ў першапачатковым аўтарскім варыянце называлася «Рыбак і Сотнікаў». Называлася слушна, бо Сотнікаў гераічна гіне, а Рыбак па-здрадніцку выжывае. Гэта непарыўная пара,





пушкінскі матыў — «Во всех стихиях человек тиран, предатель или узник».
Адзін з апошніх твораў Быкава «Маладая і прыгожая» — на тую ж тэму. Пра тое, як мілімэтар за мілімэтрам чалавек здымае зь сябе покрыва цывілізацыі, адкідае дасягненьні рэлігіі, права, застаючыся ў самоце перад простым пытаньнем — жыць ці памерці. Быкаў мог распавесьці пра гэта зь велізарнай пераканаўчай сілаю. У Быкава вайна спусташае землі і душы, разбурае гарады і мараль. Чалавек застаецца сам-насам з сабою, і гэты бой — самы жахлівы і цяжкі. Быкаўская вайна — не аптымістычная трагедыя, а трагедыя; ня бой дзеля перамогі, а бой безь пераможцаў. Гэта праўда: галоўнае на вайне — ня тое, хто перамог, а тое, што яна ёсьць, што яна адбылася, што яна пачалася. Васіль Быкаў памёр 22 чэрвеня.

## ДАНУТА БІЧЭЛЬ: «ТОЕ, ШТО ЗРАБІЎ БЫКАЎ, ЯНО НЕСЬМЯРОТНАЕ»

23 чэрвеня 2003

Паэтка Данута Бічэль памятае Васіля Быкава з гарадзенскага пэрыяду ягонага жыцьця і творчасьці.

*Д.Бічэль:* У маім жыцьці ён быў вельмі важны чалавек, таму што ён рабіў літаратурныя старонкі ў «Гродзенскай праўдзе». Я насіла яму свае першыя пробы пяра. Нейкі час ён кіраваў нашым аддзяленьнем Саюзу пісьменьнікаў, так што ён быў маім кіраўніком і маім лідэрам. Горад Горадня маленькі, і ўсе ведалі Васіля Быкава. І ён быў вялікі на гэты горад, завялікі. Але разам з тым, па-мойму, яму тут добра жылося і пісалася ў сэнсе дачыненьняў зь людзьмі, тут у яго было вельмі шмат аматараў, якія яго шчыра, бескарысьліва любілі.

Гэта і простыя людзі, якія чыталі літаратуру, і інтэлігенцыя. Для Горадні гэта быў чалавек, які ўзьняў гэты горад на ўсясьветную вышыню, зрабіў славутым у сэнсе літаратурным... Памятаю, як ён падтрымліваў Ларысу Геніюш, калі яна прыехала. Юрку Геніюшу зрабілі апэрацыю, а яе не пускалі ў Беласток, таму што ў яе быў пашпарт без грамадзянства. Я зь ёю хадзіла па горадзе, яна плакала, і мы зайшлі да Васіля. І неяк ён здолеў пагаварыць зь ёю, яна ад яго выйшла ўжо спакайнейшая. Я гавару пра яго як чалавека, а ацаніць ягоную літаратурную творчасьць — я думаю, што ацэняць час і чытачы, яна ўжо ацэненая. Пісьменьнік вялікі, але нехта сказаў, што памерла беларуская літаратура — я так не лічу. Бо і тое, што зрабіў Быкаў, яно несьмяротнае.

## Р.БАРАДУЛІН: «ЗАСТАЛАСЯ БЕЛАРУСЬ БЯЗ БЫКАВА БЕДНАЙ ХАТАЙ БЕЗ ГАСПАДАРА»

23 чэрвеня 2003

Слова на разьвітаньне з Васілём Быкавым гаворыць ягоны сябра паэт Рыгор Барадулін.

*Р.Барадулін:* Вельмі цяжка ўсьведамляць, што ня стала Васіля. Але яго ня стала зямнога, ня стала яго ў зямным увасабленьні. Таму што думка, слова, сэрца Васіля, душа ягоная, яна засталася, яна засталася з намі. Памятаеце ў Бібліі: напачатку было слова. Дык вось, напачатку самай сумленнай беларускай літаратуры было слова Быкава, слова чыстае, слова праўды. Ён самы залежны пісьменьнік у Беларусі, таму што ён залежыць ад праўды. Калі сказаць: Васіль Быкаў — праўдалюб, гэта ня тое слова, я б яго назваў такім утвораным словам «праўдараб». Ён усё жыцьцё працаваў на праўду. Васіль ніколі не трыбуньнічаў, ніколі ня меў пасадаў





літаратурных. Ён, як і Караткевіч, гэта дзьве такія постаці, якіх Беларусі Бог паслаў. Я яго назваў і называю апосталам нацыі. І ўсе тыя, хто цкаваў яго, а цкавалі яго ўсе рэжымы ўсіх разьліваў, таму што Васіль быў мулкі для іх, яны паскорылі яго хваробу. Таму што вы разумееце, як насіць столькі...
Васіль быў у артылеры ў «саракапятках» — гэта простай наводкай па танку. Ці ты па танку, ці танк па табе. І з «саракапятак» у штрафную роту не пасылалі — гэта прыроўнівалася. Калі падсумоўваць, дык Васіль Быкаў і ў вайну прайшоў у штрафной роце, і ў літаратуры, таму што ён казаў праўду. Я ўчора ноччу напісаў такія чатыры радкі, «Памяці анёла нацыі»:

Нечысьць на зямлю бяду наклікала,
Перагарадзіла белы дзень гара.
Засталася Беларусь бяз Быкава
Беднай хатай без гаспадара.

## ШТО ЗНАЧЫЦЬ ДЛЯ ВАС ТВОРЧАСЬЦЬ ВАСІЛЯ БЫКАВА?

23 чэрвеня 2003

***Галіна Абакунчык, Менск***

«Як вы ўспрынялі вестку пра сьмерць вялікага пісьменьніка?» — гэтае пытаньне мы задавалі мінакам на вуліцах сталіцы. На той момант некаторыя людзі яшчэ ня ведалі, што Васіль Быкаў пайшоў з жыцьця. Бальшыня ж, аднак, дазналася пра трагічную падзею і была вельмі ўражаная гэтай навіной.

*Спадар:* Што Васіль Быкаў памёр, я ня ведаў. Вы мяне проста ўразілі. Я ведаў, што ён за мяжой, што, на жаль, яму не знайшлося месца на радзіме, бо такая ўлада. Але

ж я нават не ўяўляў, што гэты чалавек можа памерці. Бо для мяне гэта, ведаеце, чалавек, які жыў учора, жыве сёньня і заўтра будзе жыць. Гэта як векавы дуб у лесе.
*Спадарыня:* Паколькі я прыкладна таго ж узросту, перажыла вайну, то я, натуральна, вельмі люблю ягоныя творы і няблага іх ведаю. Народ яго любіць, шануе, і вельмі цяжка ад таго, што ён доўгі час правёў не ў Беларусі. Шкада, вельмі шкада.
*Спадар:* Калі я ўпершыню чытаў ягоныя творы, то для мяне гэта было адкрыцьцём эмацыйнай і інфармацыйнай плыні пра вайну. Гэта вялікі літаратар, гонар нашай літаратуры, гонар нашай нацыі, хоць многія чыноўнікі, у тым ліку і пісьменьнікі, ставяцца да яго варожа. Але ягонае значэньне як грамадзяніна, як носьбіта ідэі застанецца назаўсёды.
*Спадарыня:* Я яго люблю, шаную і вельмі шкадую, што ён пайшоў з жыцьця. Гэта сумленьне нацыі. І тое, што апошнія гады ён тут ня жыў, вельмі шкада. Я думаю, што Васіль Быкаў, як і Алесь Адамовіч, на доўгія-доўгія гады будзе заставацца для ўсёй беларускай нацыі гонарам. Яго будуць шанаваць, любіць, чытаць, а галоўнае — памятаць.

Адказы людзей на пытаньне пра значэньне асобы Васіля Быкава ў іхным жыцьці былі розныя ў залежнасьці ад веку суразмоўцаў: моладзь больш гаварыла аб прафэсіяналізьме і ўсясьветнай вядомасьці пісьменьніка, а людзі сталага веку пра Быкава-чалавека, патрыёта і змагара за свабоду.

*Спадар:* Для мяне Васіль Быкаў — гэта пласт беларускай культуры, гэта ягоныя творы, якія былі прызнаныя ня толькі ў Беларусі, але і далёка за мяжой. Я лічу, што нашае грамадзтва страціла вялікага чалавека ў пляне культуры.
*Спадар:* Для мяне Васіль Быкаў — вялікая асоба ў гісторыі сучаснай Беларусі. Я ведаю ягоныя творы са школьнай парты. Гэта глыба вялікая — як чалавек, так і прафэсіянал.
*Спадар:* Мне было важна даведацца, што пра вайну можна пісаць так праўдзіва і так страшна. А пасьля мне было вельмі прыемна сачыць за ягонай актыўнай палітычнай дзейнасьцю, удзелам у жыцьці беларускага народу. Гэта чалавек, які не паклаўся пад дырэктывы і не маўчаў, як гэта здараецца з большасьцю беларускіх пісьменьнікаў.
*Спадарыня:* Незваротная страта, якая нагадвае мне сьмерць Сахарава — гэткія самыя пачуцьці. Ён першы сказаў праўду пра вайну. Ну й, канечне ж, ягоная прынцыповая пазыцыя. У нашай краіне ён быў сярод нямногіх, хто адстойваў гэтую пазыцыю, не зважаючы ні на што. Думаю, што разьвітаньне з радзімай для яго было вельмі цяжкае, але ж ён і на гэта пайшоў.
*Спадар:* У жыцьці я зь ім сутыкаўся вельмі часта, бо я мастак і меў майстэрню ў пад'езьдзе, у якім ён жыў. І калі хацелася спрабаваць саступіць яму дарогу — ён усё роўна рабіў гэта першы. Гэта шмат гаворыць пра сутнасьць чалавека.
*Спадар:* Вельмі добры чалавек, якога ведаюць усе людзі, якія змагаўся за свабоду нашай радзімы Беларусі, за нашую свабоду.

Некаторыя з апытаных мінакоў не маглі згадаць назваў нават вельмі вядомых твораў пісьменьніка, але ніводзін чалавек не сказаў, што ня ведае, хто такі Васіль Быкаў.

## ДЛЯ ЛУКАШЭНКІ БЫКАЎ — «ВАСІЛІЙ»

23 чэрвеня 2003

***Юры Сьвірко, Менск***

Аляксандар Лукашэнка накіраваў спачуваньне жонцы Васіля Быкава Ірыне Міхайлаўне, сваякам і блізкім, «шчыра падзяляючы зь імі смутак і цяжар гэтай неаднаўнай страты», — паведаміла прэзыдэнцкая прэсавая служба. Яна падала некалькі сказаў з тэксту спачуваньня, напісанага на расейскай мове:
«Васілій Быкаў ніколі не шукаў пракладзеных шляхоў у жыцьці й творчасьці. Але, нягледзячы ні на што, ён заўжды заставаўся патрыётам сваёй радзімы. Імя Васілія Быкава шырока вядомае ў Беларусі й за мяжой. На яго кнігах выхаванае не адно пакаленьне грамадзянаў нашай краіны. Сьветлая памяць пра вернага сына беларускага народу, выдатнага пісьменьніка Васілія Ўладзімеравіча Быкава назаўжды захаваецца ў нашых сэрцах», — напісаў Аляксандар Лукашэнка.

## ЗАЛАТЫ ФОНД УСЯСЬВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

23 чэрвеня 2003

***Валянціна Аксак, Менск***

Мудрыя не сьпяшаюцца. Перш чым кінуць на цнатлівую бель аркушовае нівы сваё слова-зерне, яны доўга сьпеляць свае думы, і таму на іхных мысьлярскіх гонях ніколі не прарастае пустацьвету. За 55 гадоў актыўнага творчага жыцьця Васіль Быкаў выдаў каля двух з паловаю дзясяткаў кнігаў арыгінальнае прозы. Перакладзеныя амаль на сто моваў сьвету, яны назаўжды ўвойдуць у залаты фонд усясьветнае літаратуры XX стагодзьдзя.





Самае першае апавяданьне «Дапякло» Васіль Быкаў надрукаваў у 1947 годзе ў часопісе «Вожык». Праз два гады ягоныя літаратурныя публікацыі зьявіліся ў газэце «Гродзенская праўда». Але сам пісьменьнік лічыў пачаткам свайго творчага лёсу 1951 год, калі напісаў апавяданьні «Сьмерць чалавека» і «Абозьнік». Маладыя афіцэры і салдаты з трагічным франтавым лёсам з апавяданьня «Ў першым баі» надоўга стануць галоўнымі героямі твораў пісьменьніка.
Нікім дагэтуль не паказаная акопная праўда другой усясьветнай вайны складзе зьмест кніг ягоных аповесьцяў і апавяданьняў «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская баляда», «Адна ноч». Выдадзеныя ў 1960-я гады, яны прынесьлі пісьменьніку велізарную чытацкую папулярнасьць і жорсткую агрэсію афіцыйных ідэолягаў. І тое і другое памножылі аповесьці «Сотнікаў», «Абэліск», «Воўчая зграя», «Круглянскі мост», «Пайсьці і не вярнуцца», але асабліва — «Мёртвым не баліць». Выдадзеныя ў 1970-я гады, гэтыя творы пісьменьніка прынесьлі яму ўсясьветную славу, якую яшчэ больш пашырыла аповесьць «Знак бяды». Зь яе пісьменьнік першым у беларускай літаратуры зьвяртаецца да пэрыяду жорсткіх сталінскіх рэпрэсіяў у час гэтак званае калектывізацыі. І да канца жыцьця будзе паказваць антыгуманнае аблічча мэтадаў кіраваньня савецкае ўлады. Што адразу ж выклікала неперапыннае цкаваньне пісьменьніка цяперашняй уладаю ў краіне.
Творы канца 1980-х — пачатку 1990-х (раман «Кар'ер», аповесьці «Аблава», «Сьцюжа» і «Ў тумане») яшчэ пасьпеюць выйсьці ў дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура». А антыбальшавіцкія творы, напісаныя ў другой палове 1990-х гадоў, ужо дойдуць да чытача толькі дзякуючы народным ахвяраваньням. Зборнік апавяданьняў «Сьцяна» стаў першаю ў гэтым сэнсе народнаю кнігай. На сабраныя грошы яе выдала ў 1997 годзе выдавецтва «Наша Ніва». Праз два гады ў выда-

вецтве «Вострая Брама» выйшла кніга мэтафарычных прыпавесьцяў Быкава пра сучасную Беларусь «Пахаджане». Між гэтымі дзьвюма кнігамі ў выдавецтве «Гронка» выйшаў зборнік быкаўскае публіцыстыкі «Крыжовы шлях».
Апошняя прыжыцьцёвая кніга апавяданьняў пісьменьніка — «Ваўчыная яма» — зьявілася ў выдавецтве «Кніга» два гады таму. Сваю кнігу ўспамінаў «Доўгая дарога дадому» Васіль Быкаў таксама яшчэ пасьпеў адрэдагаваць сам. А вось абяцаны ўладамі васьмітомнік (менавіта на такі аб'ём творчы наробак пісьменьніка ацаніла дзяржаўнае выдавецтва «Мастацкая літаратура») застаўся за жыцьцёвым парогам. Але творчы архіў пісьменьніка падорыць чытачу яшчэ шмат быкаўскіх адкрыцьцяў. Найбліжэйшае зь якіх, апавяданьне «Бутэльчына, альбо Прэзыдэнт на дрэве» будзе надрукаванае ў адным зь незалежных выданьняў.

## А.ЛУКАШЭНКА: «ІМЯ БЫКАВА — ЯК БЫ МЫ ДА ЯГО НІ СТАВІЛІСЯ — НЕПАСРЭДНА ЗЬВЯЗАНАЕ З ІМКНЕНЬНЕМ НАШАГА НАРОДУ ЖЫЦЬ У СВАБОДНАЙ І НЕЗАЛЕЖНАЙ КРАІНЕ»

23 чэрвеня 2003

***Юры Сьвірко, Менск***

На панядзелак Аляксандар Лукашэнка заплянаваў прагляд новага фільму «Настасься Слуцкая» з удзелам прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі ў менскім кінатэатры «Цэнтральны». Перад пачаткам прагляду спадар Лукашэнка зьвярнуўся да прысутных з нагоды сьмерці Васіля Быкава.

*А.Лукашэнка:* Пайшоў з жыцьця чалавек, імя якога — як бы мы да яго ні ставіліся — непасрэдна зьвязанае з





імкненьнем нашага народу жыць у свабоднай і незалежнай краіне. На жаль, памёр Васілій Быкаў, і яшчэ раз хачу падкрэсьліць: па-рознаму мы разумеем сувэрэнітэт і незалежнасьць, але нельга адмовіць гэтаму чалавеку ў жаданьні страснай барацьбы за свабоду нашай краіны ды яе незалежнасьць. Я думаю, што будзе — як бы гэта ні было сумна — правільна, калі мы хвілінай маўчаньня ўшануем памяць гэтага чалавека.

Пазьней стала вядома, што Аляксандар Лукашэнка накіраваў спачуваньні сям'і Васіля Быкава. Пра гэта паведаміла Лукашэнкава прэсавая сакратарка Натальля Пяткевіч, якая сказала таксама, што кіраўнік дзяржавы падпіша й нэкралёг. Паводле спадарыні Пяткевіч, Аляксандар Лукашэнка даручыў стварыць для арганізацыі жалобных мерапрыемстваў і пахаваньня ўрадавую камісію на чале зь міністрам культуры Леанідам Гулякам — Васілю Быкаву будзе аддадзеная пашана як народнаму пісьменьніку Беларусі і ўдзельніку Вялікай Айчыннай вайны. Як афіцыйна паведамляецца, «клясык беларускай ды ўсясьветнай літаратуры будзе пахаваны на Алеі пачэсных грамадзянаў на Ўсходніх могілках Менску». Пахаваньне Васіля Быкава адбудзецца 25 чэрвеня, і пачнецца яно з жалобнай цырымоніі ў Доме літаратара. Вось што распавёў намесьнік старшыні Саюзу пісьменьнікаў Барыс Пятровіч:

*Б.Пятровіч:* Разьвітаньне адбудзецца ў сераду, у Доме літаратара на вуліцы Фрунзэ, 5 — пачатак а 10-й гадзіне. А а 13-й пачнецца грамадзянская паніхіда, на якой выступяць сябры Быкава, землякі, сваякі, відаць... Потым труну вырашана — я ня ведаю, як гэта будзе на справе, але вырашана пранесьці на руках ад плошчы Перамогі да плошчы Якуба Коласа, і пахаваньне адбудзецца на Маскоўскіх могілках (ці Ўсходніх могілках).

Міністэрства абароны Беларусі таксама далучылася да ўшанаваньня памяці Васіля Быкава. Як заявіў на-

чальнік управы гэтага міністэрства Ўладзімер Сераштан, «вайскоўцы беларускай арміі, вэтэраны Вялікай Айчыннай вайны ды Ўзброеных сілаў з болем успрынялі вестку пра сьмерць народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава». Паводле спадара Сераштана, на творах Быкава выхоўвалася не адно пакаленьне абаронцаў бацькаўшчыны, яны ёсьць у бібліятэцы кожнай вайсковай часткі.

## СЯРГЕЙ ЗАКОНЬНІКАЎ: «БЫКАЎ ВЯЛІКІ ТЫМ, ШТО ВЫЯВІЎ САПРАЎДНЫ БЕЛАРУСКІ ХАРАКТАР»

23 чэрвеня 2003

Паэт Сяргей Законьнікаў называе Васіля Быкава сваім старэйшым сябрам, які заўсёды паказваў, як трэба адстойваць праўду і справядлівасьць.

*С.Законьнікаў:* Мая душа разрываецца ад горычы, ад болю, таму што я страціў свайго старэйшага таварыша. Памёр вялікі пісьменьнік сучаснасьці. Ён вялікі ня толькі тым, што ягоныя творы маленькія беларусы пачынаюць вывучаць у школе. Ня толькі тым, што ягоныя аповесьці й раманы перакладзеныя больш чым на восемдзесят моваў сьвету. Ён вялікі тым, што здолеў у сваёй творчасьці выявіць беларускі характар. Ня той характар, які прайшоў дэфармацыю сталіншчыны, і які сёньня не дае пабудаваць нам незалежнай дзяржавы, годнага жыцьця. Ён выявіў той характар беларуса, які быў патрэбны раней і патрэбны сёньня. Нашае грамадзтва знаходзіцца як бы ў здранцьвеньні. Як трусік перад пашчаю ўдава. І прыклад Васіля Ўладзімеравіча паказвае, што можна не пастулацца сваімі пазыцыямі, можна адстойваць праўду, справядлівасьць і дэмакратыю. І з такімі думкамі, з такім адчуваньнем ён працаваў і над апошнімі сваімі творамі, і над самай апошняй кнігай «Доўгая дарога дадому».

Тут я чуў, што хацелі ад Васіля Ўладзімеравіча, каб пры канцы свайго жыцьця ён пакінуў нейкі духовы запавет. Я кажу ўсім: «Духовы тастамант Васіль Быкаў пакінуў у сваёй творчасьці». Калі ласка, бярыце яго мастацкія, публіцыстычныя кнігі, там усё сказана. Васіль Уладзімеравіч хацеў, каб наша Беларусь была незалежнай, свабоднай і дэмакратычнай. Каб усе людзі жылі ў ёй цывілізавана, заможна, шчасьліва і разумна. Гэтай пазыцыі ён прытрымліваўся да канца сваіх дзён. І трэба, каб мы заўсёды былі годнымі вучнямі Васіля Быкава.

## ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН: «БЫКАЎ ПАВІНЕН УВЕСЬ ЧАС БЫЦЬ ЗЬ БЕЛАРУСАМІ»

23 чэрвеня 2003

Вядомы паэт ня хоча разьвітвацца з Васілём Быкавым. На ягоную думку, Быкаў ня можа быць не зь беларусамі.

*Г.Бураўкін:* Мне вельмі скрушна на душы. Быкаў павінен увесь час быць зь беларусамі і зь Беларусьсю. Бо ён напісаў такія творы, якія павінны пастаянна быць зь беларусамі. Ён пасьпеў за сваё жыцьцё такое сказаць пра нашую гісторыю, пра наш лёс, пра нашую будучыню, што бяз гэтага Беларусі ня можа быць. Бяда нашая ў тым, што да гэтага часу многія не пачулі Быкава. Я спадзяюся, што гэтая сьмерць нарэшце прымусіць многіх ці то абыякавых, ці ня надта сьвядомых людзей пачуць Быкава. Пачуць ягоны боль, ягоныя прароцтвы. І таму я лічу, што Беларусі бяз Быкава ня будзе, не павінна і ня можа быць. Яна заўсёды будзе з Быкавым. І мне ня столькі хочацца гаварыць словы разьвітаньня,

колькі гаварыць сёньня словы падзякі зямлі нашай роднай, вушацкаму краю — за тое, што яны нам далі такога майстра, такога беларуса. Падзяку Богу за тое, што ён Быкаву Васілю даў ладны кавалак жыцьця. І яшчэ сказаць падзяку самому Васілю за тое, што яму хапіла і мужнасьці, і цярпеньня, і мудрасьці, і сьмеласьці зрабіць тое, што ён зрабіў. Я не хачу разьвітвацца з Васілём. Проста мне вельмі скрушна, што ён ужо будзе ня побач з намі, а там, дзе ўжо, на жаль, многія нашыя слаўныя беларусы. Але ён ня можа быць ня з намі, і мы ня можам быць безь яго.

## СВАЕ НАЙБОЛЬШ ВЯДОМЫЯ ТВОРЫ ВАСІЛЬ БЫКАЎ НАПІСАЎ У ГОРАДНІ

23 чэрвеня 2003

***Сяргей Астраўцоў, Горадня***

> Першы раз Васіль Быкаў жыў у Горадні з 1947 да 1949 году. Працаваў у мастацкіх майстэрнях, у рэдакцыі абласной газэты. Вярнуўся сюды ў 1956-м, каб стаць гарадзенцам яшчэ на 22 гады. У рэдакцыі «Гродзенскай праўды» яшчэ захавалася крэсла, на якім ён сядзеў за рабочым сталом.

Пісьменьнік працаваў у газэце літаратурным кансультантам, сваю пасаду ён перадаў паэту Юрку Голубу, які цяпер працуе ў рэдакцыі, а таксама ўзначальвае абласную арганізацыю Саюзу пісьменьнікаў.

*Ю.Голуб:* Многія кнігі Васіль Уладзімеравіч напісаў у нашым горадзе. І гэты горад, і Нёман прысутнічаюць у кнігах пра вайну, пра тыя падзеі, якія былі далёка адсюль. Варта ўспомніць хаця б аповесьць «Дажыць да сьвітаньня» зь яго лейтэнантам Іваноўскім, які прыяжджае напярэдадні вайны служыць у адзін з заходніх гарадоў, у якім пазнаецца менавіта горад над Нёмнам.

Людзі, якія ведалі Быкава, успамінаюць, што ён часам даваў станоўчым пэрсанажам сваіх кніг імёны і прозьвішчы тых, да каго добра ставіўся. А з адмоўнымі героямі рабіў наадварот. Успамінае стары гарадзенскі журналіст Вітольд Іваноўскі, які доўгі час працаваў уласным карэспандэнтам «Звязды»:

*В.Іваноўскі:* Ён заўсёды быў вытрыманы, дасьціпны. Гаварыў мала, але настолькі гэта ўсё было трапна, настолькі дарэчы, што да гэтага часу многае з таго, што ён сказаў, у мяне ў памяці. Памятаю, мы доўга спрачаліся: чым была Унія для Беларусі — ці гэта было добра, ці гэта было кепска? А Васіль Уладзімеравіч сказаў: гэта была апошняя спроба, якая давала магчымасьць Беларусі далучыцца да Эўропы.

Вітольд Іваноўскі ўспамінае, што Васіль Быкаў ня толькі пісаў, але часта маляваў. У філіі Саюзу пісьменьнікаў, якой кіраваў, намаляваў проста на сьцяне шаржы на сябе і на Аляксея Карпюка. Юрка Голуб адзначае, што там жа віселі па-майстэрску выкананыя Быкавым фотапартрэты Мележа, Брыля, Твардоўскага, Танка ды іншых вядомых пісьменьнікаў. На жаль, філію Саюзу пісьменьнікаў выселілі з дому Элізы Ажэшкі, дзе працаваў Васіль Быкаў. Лёс фотапартрэтаў, зробленых ім, невядомы. На сёньняшні дзень ягонае імя пакуль не ўвекавечанае ў горадзе над Нёмнам.

## ГРАМАДЗКІЯ АКТЫВІСТЫ МАГІЛЁВА ПРЫПЫНЯЦЬ ПРАЦУ НА ХВІЛІНУ ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА

23 чэрвеня 2003

***Марыя Ўсьціновіч, Магілёў***

Магілёўскае грамадзкае аб'яднаньне «Кола сяброў» зьвярнулася да сваіх сяброў, партнэраў, калегаў і грамадзкасьці з прапановай адмяніць забаўляльныя імпрэзы на час жалобных мерапрыемстваў з нагоды сьмерці Васіля Быкава.

Сябры грамадзкага аб'яднаньня замаўляюць у праваслаўных цэрквах і касьцёлах Магілёўшчыны памінальныя службы. «Кола сяброў» лічыць, што ў дні жалобы трэба ўстрымацца ад прагляду і праслухоўваньня забаўляльных праграмаў тэлевізійных і радыйных сетак. Штодня да чацьвярга грамадзкія актывісты Магілёва заклікалі жыхароў вобласьці спыняць працу а 13-й гадзіне на хвіліну маўчаньня — на знак ушанаваньня памяці Васіля Быкава.

## ЛІЦЭІСТЫ — ПРА ВАСІЛЯ БЫКАВА

23 чэрвеня 2003

Зь перадачы «Маладыя галасы». Адны з апошніх публічных словаў Васіля Быкава былі ў абарону Беларускага гуманітарнага ліцэю. Ліцэісты распавядаюць, як Быкаў апекаваўся ліцэем — з гонарам адзначаюць, што іхным папярэднікам пашчасьціла атрымаць дыплёмы пра заканчэньне ліцэю з рук Васіля Быкава. Слова навучэнцам Беларускага гуманітарнага ліцэю, гавораць Вера Паклонская, Глеб Лабадзенка, Натальля Ягела, Максім Русьць і Каця Матавелава.





*В.Паклонская:* Сказаць проста, што гэта быў празаік — ня надта будзе нова. Сказаць, што гэта чалавек, які вельмі шмат зрабіў для разуменьня беларусаў, для вызначэньня беларусаў як саміх сябе, гэта будзе бліжэй. Мне былі больш цікавыя ягоныя экзыстэнцыяльныя творы, такія як «Сьцяна». Таму што чытаць проста пра вайну, хоць і праўду пра вайну, мне, напрыклад, нецікава. А вось тэма экзыстэнцыялізму мяне хвалюе. Ён ніколі не пераўтворыцца ў манумэнт, таму што я яго вельмі люблю. У мяне стаіць пяць розных выданьняў яго, і я яго перш за ўсё буду помніць як чалавека, які вельмі шмат рабіў для Беларусі. Калі я была меншая, ён прыяжджаў у ліцэй.

*Г.Лабадзенка:* Быкаў зьвязаны зь ліцэем. Ён тут быў не аднойчы. І раней, калі сытуацыя была ў краіне іншая, Быкаў уручаў атэстаты выпускнікам ліцэю. Я лічу, што гэтым людзям вельмі моцна пашанцавала. Як у мяне за першую-другую клясы граматы і падзякі яшчэ з «Пагоняй», у майго брацiка пасьведчаньне пра нараджэньне з «Пагоняй» — то калі Быкаў уручаў атэстаты, гэта той жа гонар. Вобраз Васіля Быкава, гэта штосьці вялікае, недасяжнае, але ў той жа час нешта сваё. Для пэўнай групы людзей Быкаў быў тым, на каго можна было азірнуцца і сказаць: «А што скажа Быкаў?», «А Быкаў сказаў так». Цяпер я ня бачу такога другога чалавека, на якога можна было б так спаслацца. З таго апошняга, што мяне кранула ў Быкава, гэта ягоная разьвітальная кніжка «Доўгая дарога дадому». Таксама кніжка «Пахаджане» прыйшлася дужа даспадобы, таму што, нягледзячы на хрэстаматыйныя «Знак бяды», «Жураўліны крык», «Сотнікаў», тут адчуваўся ня толькі адыход ад тэмы вайны. Адчуваўся філязофскі падыход аўтара, ягоная глыбіня, ягоная веліч. Быкаў — гэта сапраўды была нашая Сьцяна. І цяпер гэтая сьцяна пачынае расьцярушвацца. Улады не змаглі дамовіцца з жывым Быкавым, я думаю, яны паспрабуюць паспэку-

ляваць на сьмерці. І нашая задача — ня даць зганьбіць гонар вялікага пісьменьніка. І для нас вельмі сымбалічна, што апошнія выказваньні Васіля Ўладзімеравіча былі на абарону ліцэю. Ягоныя апошнія словы былі: «Трэба змагацца за родную мову». Ён ня стаў іконай, хоць яго называюць апосталам нацыі. Ён сапраўды быў і застаецца апосталам нацыі. Я лічу, што зь яго ня зробяць ідала.

*Н.Ягела:* Для мяне гэты чалавек вельмі праўдзівы, які ніколі не мяняў сваёй пазыцыі. Мне ён спадабаўся гэтымі якасьцямі. Канечне, гэта шматгранная асоба, вельмі праўдзівая. Бо ён не ішоў ні за якім рэжымам і заўсёды быў самастойны чалавек. Менавіта асоба, якіх у наш час бывае няшмат — бо некаторыя людзі адчуваюць страх ці падобныя пачуцьці. А ён ніколі не баяўся, таму людзі, калі чыталі, маглі яму верыць і знаходзіць праўду зь ягоных кніг менавіта.

*М.Русьць:* Быкаў умее паказаць кожнага чалавека, вобразы вельмі цікава, але галоўнае — з усіх бакоў. Мой самы любімы твор — «Альпійская баляда». Увогуле, я ягоныя творы вельмі люблю чытаць, асабліва калі прыязджаю ў вёску. Сама атмасфэра такая, калі ў лес ідзеш, ці ў поле — калі чытаеш Быкава, зусім асаблівы настрой.

*К.Матавелава:* Чалавек-легенда. Нават ня верыцца, што такі можа памерці. Быў легенда пры жыцьці, цяпер можна сказаць, што гэта проста легенда. Быкаў — гэта ня мой любімы пісьменьнік. Але, калі-нікалі фальш пачынае настолькі абрыдаць, што хочацца пачытаць штосьці сапраўднае. Кніжак зь несапраўднымі падзеямі цяпер вельмі шмат. А вось Быкаў адзін зь нямногіх людзей, які пісаў штосьці сапраўднае. Гэта асаблівы чалавек, ён любіў ліцэй, ён часта прыходзіў. Некаторым выпускнікам пашанцавала, ён уручаў ім дыплёмы пра заканчэньне ліцэю. Гэта, вядома, вялікі гонар, калі дыплёмы ўручае Быкаў. Нам, на жаль, у гэтым сэнсе не пашанцавала. Але мы будзем памятаць яго, вядома, перш за ўсё як чалавека. Як добрага чалавека, які вельмі шмат зрабіў для бацькаўшчыны і пэрсанальна для нашага ліцэю.





## ЛУКАШЭНКА ПАДПІСАЎ НЭКРАЛЁГ БЫКАВУ, АЛЕ НА ПАХАВАНЬНЕ НЯ ПОЙДЗЕ

24 чэрвеня 2003

***Юры Сьвірко, Менск***

Выступаючы падчас урадавай нарады наконт стварэньня супольнага беларуска-расейскага прадпрыемства на базе «Белтрансгазу», Аляксандар Лукашэнка зрабіў нечаканую заяву.

*А.Лукашэнка:* Тое, як сёньня расейскія СМІ юродствуюць на сьмерці Васіля Быкава, пацягне за сабой скрайне нэгатыўныя наступствы ў стасунках паміж Беларусьсю і Расеяй.

Спадар Лукашэнка не патлумачыў, што менавіта не задавальняе яго ў матэрыялах расейскіх мэдыяў, але сказаў: «На гэта зарыентаваныя сродкі масавай інфармацыі, і іх проста прымушаюць гэта рабіць». Вось што сказала пра гэтыя словы Аляксандра Лукашэнкі ягоная прэсавая сакратарка Натальля Пяткевіч:

*Н.Пяткевіч:* Рэч не ў незадаволенасьці, а рэч у тым, што шэраг сродкаў масавай інфармацыі пачынае спэкуляваць на сьмерці, спрабуючы спарадзіць нейкі антаганізм паміж інтэлігенцыяй і дзяржаўнымі органамі. Але сам факт таго, што пісьменьнік вярнуўся на радзіму і яму была аказаная тут усялякая мажлівая й немажлівая дапамога, гаворыць пра тое, што канфлікту не было. І спрабаваць цяпер на жалобнай для сям’і і для народу

падзеі разыгрываць нейкую карту — гэта злачынна. Вы ж бачылі й чыталі: тэлеканалы і газэты далі нядобрыя матэрыялы.

Пасьля Лукашэнкавага выступу з крытыкай на адрас расейскіх СМІ зьявілася паведамленьне, што ён падпісаў нэкралёг Васілю Быкаву. Тэкст, распаўсюджаны толькі на беларускай мове, пачынаецца гэткімі словамі: «Беларуская літаратура панесла непапраўную страту. 22 чэрвеня 2003 году пасьля цяжкай і працяглай хваробы пайшоў з жыцьця народны пісьменьнік Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы, ляўрэат Дзяржаўных прэміяў СССР і Беларусі Васіль Уладзімеравіч Быкаў». Нэкралёг адзначае, што ваенныя падзеі сталі лёсавызначальнымі для жыцьцёвага і творчага шляху Васіля Быкава. «Імкненьне перадаць праз мастацкае слова суровую праўду вайны, абвостраная чалавечнасьць, высокая патрабавальнасьць у сьцверджаньні маральных прынцыпаў — вось адметныя якасьці Быкава-пісьменьніка». У афіцыйным нэкралёгу згадваюцца толькі тыя аповесьці Быкава, што былі напісаныя ў савецкі час. Заканчваецца тэкст гэтак: «Імя і кнігі Васіля Быкава назаўжды ўвайшлі ў гісторыю нацыянальнай культуры. Сьветлая памяць аб выдатным майстры беларускага слова жыве і будзе жыць у нашых сэрцах».
Акрамя Аляксандра Лукашэнкі нэкралёг падпісалі прэм'ер-міністар Генадзь Навіцкі, сьпікеры абедзьвюх палатаў Нацыянальнага сходу, віцэ-прэм'ер Уладзімер Дражын, кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі ды ягоны намесьнік па ідэалёгіі, міністры інфармацыі, культуры, абароны, адукацыі, старшыні Віцебскага абласнога і Менскага гарадзкога выканкамаў ды іншыя афіцыйныя асобы. Сярод тых, хто падпісаў нэкралёг — тры пісьменьнікі: Алесь Пашкевіч, Мікалай Чаргінец, Іван Шамякін. Старшыня Саюзу пісьменьнікаў спадар Пашкевіч, які ўваходзіць у склад урадавай камісіі ў справе арганізацыі пахаваньня Васіля Быкава, увечары накіраваўся да старшыні гэтай камісіі — міністра культуры Леаніда Гулякі, каб канчаткова вырашыць арганізацыйныя пытаньні. Са спадаром Гулякам цягам дня зьвязацца не ўдалося, але вось што распавёў намесьнік міністра культуры Валеры Гедройц:

*В.Гедройц:* Я вам ня ўсё, напэўна, скажу, але скажу, што ў 10 гадзін — з 10 да 13 — будзе разьвітаньне ў Доме літаратара, а з 13 да 14 плянуецца грамадзянская паніхіда, і ў 14 ужо вынас цела і пахаваньне на могілках Маскоўскіх, ці Ўсходніх.

— І за кошт дзяржавы будзе пахаваньне?

*В.Гедройц:* Канечне. Гэта ўсё будзе бюджэт рэспубліканскі. Якая сума — сёньня я ня ведаю. Там складнікаў шмат — ёсьць і транспарт, і стол жалобны, і прылады гэтыя ўсе.

— Месца бясплатна на могілках выдзелілі, так?

*В.Гедройц:* Я ж кажу вам, што бюджэт будзе ўсе выдаткі браць на сябе.

— А хто будзе выступаць на паніхідзе?

*В.Гедройц:* Весьці будзе старшыня камісіі Гуляка. Будзе выступаць — я дакладна ведаю — Пашкевіч, старшыня Саюзу пісьменьнікаў. Засядала сёньня раніцай камісія, ужо абмеркавалі, склалі такі рабочы плян, хто за што там адказвае, — каб можна было займацца арганізацыйнымі пытаньнямі.

— А прысутнасьць Аляксандра Лукашэнкі абмяркоўвалася? Будзе ён ці не?

*В.Гедройц:* Дакладна ня ведаю я.

Паводле зьвестак з прэзыдэнцкай адміністрацыі, у дзень пахаваньня Васіля Быкава Аляксандар Лукашэнка паедзе ў Сьветлагорскі раён. Прэсавая сакратарка Натальля Пяткевіч сказала, што ён паедзе ад самай раніцы і

браць удзелу ў пахаваньні не плянуе. А вось амбасадары эўрапейскіх краінаў ужо заявілі, што возьмуць удзел у цырымоніі разьвітаньня з народным пісьменьнікам. Як паведаміў старшыня Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Алесь Пашкевіч, у складзе дэлегацыі дыпляматаў Эўрапейскага Зьвязу будуць прадстаўнікі Нямеччыны, Францыі, Брытаніі, Польшчы, Чэхіі, Славаччыны, Літвы, Італіі, Эстоніі.

## НАПЯРЭДАДНІ ПАХАВАНЬНЯ ВАСІЛЯ БЫКАВА: У МЕНСКУ ТРЫВОЖНА

24 чэрвеня 2003

***Аляксандар Лукашук, Менск***

> Вуліцы ля Дому літаратара нагадваюць разварочанае поле бітвы — ідзе ўкладка асфальту, мяняюць клюмбы, бардуры, праезд заблякаваны. Будаўнікі абяцаюць скончыць працу да заўтра, будуць працаваць у трэцюю зьмену.

Заўтра чакаецца прыезд усіх амбасадараў і сяброў Быкава з розных краінаў. Аднак афіцыйны сьпіс выступоўцаў, які вызначае кіраўнік дзяржкамісіі міністар культуры Л.Гуляка, рэзка абмежаваны, каля дзесяці чалавек. Сярод іх — два кіраўнікі вэртыкалі. Невядома, ці будуць улічаныя просьбы ўдавы Ірыны Міхайлаўны даць слова сябрам сям'і Быкава. Я прывёз з сабой з Прагі запіс голасу пісьменьніка, які меркавалася прайграць на магнітафоне ў залі падчас разьвітаньня — аднак няма пэўнасьці, невядома, ці прагучыць голас Быкава заўтра ў Доме літаратара.

У Доме літаратара тым часам працягваецца напружанае абмеркаваньне заўтрашняга дня. Там знаходзяцца Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Уладзімер Арлоў,





Міхась Скобла, Анатоль Кудравец, Уладзімер Някляеў, Андрэй Дынько, Алесь Бяляцкі, а таксама Вінцук Вячорка ды іншыя вядомыя асобы. Адсутнасьць сувязі з кіраўніком дзяржкамісіі пакідала без адказу амаль усе пытаньні. Невядома, ці будзе на сцэне бел-чырвона-белы сьцяг, улады таксама не дазваляюць пранесьці труну зь целам Быкава па праспэкце Скарыны — пакуль гаворка ідзе толькі пра невялікі адрэзак да вуліцы Захарава. Таксама няясна, ці змогуць сябры Быкава несьці труну, ці гэта будуць рабіць толькі вайскоўцы. Невядомы і сьпіс запрошаных на разьвітальны абед.

Настрой пісьменьніцкай граімадзкасьці трывожны. Сёньня па абедзе, калі я адведаў кватэру пісьменьніка, тэлефон званіў не перастаючы. Удава Ірына Міхайлаўна атрымлівала спачуваньні, званілі журналісты, у кватэры раскладзеныя выпускі газэтаў з публікацыямі памяці пісьменьніка. Забіраць заўтра раніцай цела нябожчыка будзе сын Сяргей. Васіль Быкаў будзе пахаваны ў смокінгу, у якім ён атрымліваў прэмію «Трыюмф» у 1999 годзе. Паводле ўдавы, тады Быкаў сказаў, што на цырымонію апрануў смокінг першы раз, а другі раз будзе ўжо на пахаваньне. Да лацкану смокінгу я прымацаваў бел-чырвона-белы значок.

## РАСЕЙСКАЯ ПРЭСА ПРА ВАСІЛЯ БЫКАВА

24 чэрвеня 2003

***Сяржук Сокалаў-Воюш, Прага***

> «Усясьветная літаратура страціла вялікага пісьменьніка», — піша «Российская газета». Ягоная ўсясьветная слава яшчэ толькі пачыналася, а ўжо ішло цкаваньне, якое суправаджала пісьменьніка ўсё жыцьцё. Праўда вайны, пра якую ён пісаў, не супадала з праўдай генэралаў, з той «ватай у вушах», якой ха-

целі заглушыць жорсткую рэальнасьць, — піша газэта.

Васіль Быкаў заўсёды «не супадаў». З камуністычнай ідэалёгіяй, з фанатызмам «праваслаўных атэістаў», з хлусьнёй, з той агрэсіўнасьцю і жорсткасьцю інтэлігенцыі, якая пяць гадоў таму прымусіла яго выехаць з краіны.
Апошнім дысыдэнтам называюць Васіля Быкава «Известия». Усе апошнія гады, — піша газэта, — ён быў напалову выгнаньнік. Ён не прыняў рэжыму Лукашэнкі, у якім бачыў сымбаль найгоршых рысаў брэжнеўска-андропаўскай эпохі. Рэжым не прыняў Быкава і зрабіў усё, каб выціснуць яго за мяжу. Зрэшты, лічыць газэта, драма Быкава была ня толькі ў канфлікце з наяўнай уладай. Больш хваравіта ён перажываў іншае: што краіна хоча інтэграцыі з Расеяй, якую ён называў «паглынаньнем», а не аўтаномнага палітычнага існаваньня. Што беларуская апазыцыя так і ня здолела вылучыць са сваіх шэрагаў фігуры аб'яднаўчай і сапраўды аўтарытэтнай для ўсёй нацыі. Што народ сапраўды на баку ненавіснага рэжыму, а не на баку волі. Што нацыя ня хоча беларусізацыі, а цалкам задаволеная русіфікацыяй.
«Комсомольская правда» адзначае, што асноўны канфлікт у творах Быкава — паміж чалавечнасьцю і бесчалавечнасьцю, паміж прыстойнасьцю і здрадніцтвам. Не паміж ворагамі — паміж сваімі. За гэта яго доўга не друкавалі, — піша газэта і рэзюмуе: але сіла таленту была такая, што прарвала запруду цэнзурных забаронаў.
Васіль Быкаў не прымаў ніякага рэжыму, піша «Независимая газета». Толькі пры Гарбачове Быкаў крышку лягчэй уздыхнуў, а ўлады перасталі рабіць выгляд, што такога пісьменьніка няма. Да гэтага Быкава ня тое каб забаранялі, але й не віталі. І сапраўды, навошта вялікай краіне, якая перамагла фашызм, было ведаць, хай сабе і ад франтавіка, што ня толькі Аляксандры Матросавы ваявалі ў Вялікую Айчынную?





Газэта «Труд» адзначае, што пасьля публікацыяў крываточных жорсткай праўдай вайны аповесьцяў «Мёртвым не баліць», «Круглянскі мост» і «Сотнікаў» пісьменьніка ўзялася злосна душыць афіцыёзная крытыка — за нібыта шкодніцкае згушчэньне трагічных фарбаў, за «абстрактны гуманізм», за тое, што ён, маўляў, абмяжоўваецца ўсяго толькі «акопнай праўдай», а не глядзіць на ўсё арліным вокам вышэйшага начальства. Але, — піша пры канцы газэта «Труд», — жыве і будзе жыць вечна гарачая і мужная праўда, сказаная Быкавым пра вайну і наш час.

## МЕНСКІЯ КНІГАРНІ НЕ ЗАДАВАЛЬНЯЮЦЬ ПОПЫТУ НА КНІГІ ВАСІЛЯ БЫКАВА

24 чэрвеня 2003

***Галіна Абакунчык, Менск***

На кнігі Васіля Быкава гэтымі днямі вялізны попыт у кнігарнях Менску. Кніжныя крамы ня могуць задаволіць патрэбы аматараў творчасьці пісьменьніка. Аднак адмыслоўцы кажуць, што гэткае становішча доўжыцца ўжо не адзін год.

Адну з апошніх кнігаў Васіля Быкава «Доўгая дарога дадому» ў менскіх кнігарнях сёньня набыць было немагчыма: апошнія асобнікі прадалі яшчэ ў панядзелак, калі людзі дазналіся пра сьмерць пісьменьніка. Аднак усе творы клясыка хутка раскуплялі й раней, — кажа загадчыца беларускага аддзелу кнігарні «Цэнтральная» Юлія Барташ:

— «Доўгай дарогі дадому» няма ўжо, бо ўчора прадалі. А яшчэ разабралі «Знак бяды» і «Балота». На сёньняшні дзень засталася толькі «Ваўчыная яма», і ўсё.

— Папыт на кнігі Васіля Быкава ўзрос толькі гэтымі днямі?

— Не. Як толькі ён вярнуўся з-за мяжы ў Беларусь, адразу ж пачалі раскупляць ягоныя кнігі.

— Ці часта пытаюцца пра ягоныя кнігі?

— Часта. Але выдаюць вельмі мала чамусьці.

У «Кнігарні пісьменьніка» стан яшчэ горшы: кніг Васіля Быкава тут не засталося ўвогуле. Прычым пакупніцкага попыту на творы пісьменьніка кнігарня ня ў стане задаволіць некалькі гадоў, — кажа загадчыца крамы Ірына Крэсік:

— Кнігі вельмі добра ідуць, але на сёньняшні дзень нічога няма. Вось апошні асобнік «Доўгай дарогі дадому» прадалі й замовілі на «Белкнізе» са «Школьнай бібліятэкі», калі там яшчэ што засталося.

— Папыт на кнігі Быкава толькі цяпер узрос ці ўвесь час трымаўся?

— Ён увесь час трымаўся. Але гэтых кніг недастаткова. Нават паводле школьнай праграмы. Яны адразу ж разыходзяцца.

Яшчэ адна буйная менская кнігарня «Сьветач», каб даць рады, зьвярнулася да маскоўскіх выдавецтваў — таму пераважная бальшыня кніг Васіля Быкава, якія тут прадаюцца, надрукаваныя па-расейску, прычым у рубрыцы «Расейская проза XX стагодзьдзя». Гутару з загадчыцай беларускага аддзелу Веранікай Варфаламеевай:

— Кнігі на расейскай мове калі да вас паступілі?

— Яны ў нас заўсёды ёсьць. Цяпер вось — «Выбраныя творы» Васіля Быкава, ёсьць «Бедныя людзі», а таксама творы са «Школьнай бібліятэкі». Усе яны дужа добра разыходзяцца і на беларускай, і на расейскай мове.

— Ці задавальняе вас выбар у беларускіх выдавецтвах?





— Зусім не задавальняе — ці яны мала выдаюць, ці па бібліятэках распаўсюджваюць, я ня ведаю, але хацелася б, каб кніг было значна больш.

Кнігі Васіля Быкава, выдадзеныя ў Расеі, пазначаныя 2003 годам. Апошняе ж выданьне пісьменьніка на радзіме, у дзяржаўным выдавецтве «Кніга», было надрукаванае два гады таму.

## НА РАДЗІМЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА ПРАЙШЛІ ЖАЛОБНЫЯ ІМПРЭЗЫ

24 чэрвеня 2003

***Браніслава Станкевіч, Віцебск***

Сваякі ды аднавяскоўцы пісьменьніка зь вёскі Бычкі Вушацкага раёну, колішнія аднаклясьнікі ды знаёмцы з Кубліцкае сярэдняе школы сабраліся на жалобны мітынг-рэквіем. А ў Віцебску, дзе Васіль Быкаў вучыўся ў мастацкай вучэльні, жалобную акцыю правялі прадстаўнікі тутэйшых дэмакратычных сілаў.

Хвілінай смутку ўшанавалі сёньня памяць пісьменьніка Васіля Быкава ў вёсцы Кублічы на Вушаччыне. У Кубліцкай сярэдняй школе Васіль Быкаў скончыў восем клясаў, а цяперашнія вучні, якія вывучаюць знакамітыя творы свайго вядомага земляка, стаялі тут у жалобнай варце. На мітынг-рэквіем былі запрошаныя сястра пісьменьніка, Валянціна Ўладзімераўна, суседзі з малое радзімы Васіля Быкава — вёскі Бычкі, дзе ён нарадзіўся. А таксама прадстаўнікі Вушацкага райвыканкаму: сярод усіх званьняў ды ўзнагародаў пісьменьніка ёсьць і такое — ганаровы грамадзянін Вушацкага раёну.
Нэкралёг па сьмерці Васіля Быкава, складзены абласнымі ўладамі, надрукавалі сёньня і ўсе віцебскія дзяр-

жаўныя газэты. У бальшыні гэтых выданьняў ён зьмешчаны на другой старонцы, пасьля зьвестак пра нарыхтоўку кармоў ды асьвятленьня камунальных праблемаў. А вось шараговым віцяблянам правесьці жалобнай акцыі не ўдалося: усяго дваццаць хвілінаў доўжылася жалобная імпрэза, арганізаваная на пляцы Волі віцебскімі сябрамі КХП БНФ ды «Народнае грамады». Нягледзячы на пратэсты гараджан-гледачоў, супрацоўнікі Кастрычніцкага райаддзелу міліцыі затрымалі Барыса Хамайду ды Яна Таўпыгу, якія трымалі бел-чырвона-белы сьцяг з чорнай стужкаю да партрэт пісьменьніка ў чорнай рамцы. Спадароў Хамайду да Таўпыгу абвінавацілі ў несанкцыянаваным пікетаваньні ды трымалі ў пастарунку некалькі гадзінаў, але й па іхным затрыманьні віцябляне яшчэ доўга стаялі на пляцы Волі. На асфальце засталіся ляжаць кветкі ды кнігі — збор твораў знакамітага пісьменьніка, а таксама плякат са словамі «Быкава яшчэ ня позна пачуць».

## РАДЗІМ ГАРЭЦКІ: «ДЛЯ НАШАЙ НАЦЫІ ЁН БЫЎ ПРАРОКАМ»

24 чэрвеня 2003

***Альгерд Невяроўскі, Менск***

Вядомыя ў Беларусі людзі працягваюць разьвітвацца з народным пісьменьнікам Васілём Быкавым. Усе яны згодныя, што Беларусь страціла вялікага пісьменьніка і чалавека.

Вядомы навуковец і грамадзкі дзеяч, акадэмік Радзім Гарэцкі лічыць, што Беларусь панесла вялікую страту, але спадзяецца, што асоба Васіля Быкава будзе зь беларусамі вечна:





*Р.Гарэцкі:* Быкаў — вельмі добрасумленны, шчыры, аддадзены сваёй бацькаўшчыне чалавек. Для нашай нацыі ён быў прарокам. І ягоная страта ні з чым не параўнальная. Мы ўсе смуткуем, але спадзяёмся, што Беларусь ня згіне. І будзе вечна наша Беларусь, як будуць вечныя слава, справы і творы Васіля Быкава.

Мастак Аляксей Марачкін заклікае ўсіх прыйсьці на пахаваньне Васіля Быкава з жалобнымі бел-чырвона-белымі сьцягамі. Менавіта ў гэтых старажытных сымбалях народны пісьменьнік бачыў сканцэнтраваны духовы патэнцыял беларусаў:

*А.Марачкін:* Доўгае вяртаньне дадому закончылася. І Васіль Быкаў цяпер ужо ў іншым сьвеце, але для кожнага беларуса гэта знакавая фігура. Васіль Быкаў — сумленьне беларускай нацыі. Сьмерць Васіля Быкава адгукнулася ў кожным сэрцы. Нават афіцыйныя ўлады ніяк ня могуць абысьці гэтай значнай фігуры для нашага народу. І мне здаецца, яны паспрабуюць зрабіць усё, каб нейкім чынам прыватызаваць і пахаваньне. І таму, я думаю, мы павінны прыйсьці на пахаваньне з жалобнымі бел-чырвона-белымі сьцягамі.

15 гадоў таму Васіль Быкаў стаяў ля вытокаў Беларускага Народнага Фронту — першага за савецкім часам апазыцыйнага палітычнага руху. Слова на разьвітаньне з Васілём Быкавым гаворыць лідэр Партыі БНФ Вінцук Вячорка:

*В.Вячорка:* Васіль Быкаў, хударлявы чалавек тыповага паўночнабеларускага аблічча, меў дух зубрыны. І жылося значна лягчэй з усьведамленьнем, што ён ёсьць. І няважна, ці ён побач, ці ён далёка, ці ён на іншым краю зямлі. Галоўным было ўсьведамленьне, што ёсьць той, хто творчым духам сваім сьцьвярджае, што была і ёсьць Беларусь, і галоўнае, што яна будзе. І што яна будзе заўсёды. І як бы пэсымістычна Быкаў ні пісаў пра лёс Беларусі, асабліва апошнім часам, я разумею, што гэта

папярэджаньне, званок, сыгнал нам: «Будзьма змагарнымі, будзьма сьмелымі!» Такімі мужнымі й сьмелымі, які быў Быкаў на працягу ўсяго свайго жыцьця. І тады, калі ён быў на фронце ў гады другой усясьветнай, і калі кідаў выклік усёй ідэалягічнай машыне, пішучы праўду пра вайну, а ў канцовым выніку праўду пра чалавека, беларуса. І тады, калі ён у 1988-м, ні хвіліны не вагаючыся, стаў ля вытокаў Беларускага Народнага Фронту.

## ТЫДЗЕНЬ СМУТКУ НА БЕРАСЬЦЕЙШЧЫНЕ

24 чэрвеня 2003

***Алег Супрунюк, Берасьце***

Кіраўніцтва Берасьцейскага дабрачыннага фонду рэгіянальнага разьвіцьця «Наша Вежа» зьвярнулася да ўсіх грамадзкіх аб'яднаньняў рэгіёну з нагоды сьмерці Васіля Быкава.

У звароце гаворыцца, што Васіль Быкаў — адзін з самых вядомых беларусаў сьвету, «ніколі не шукаў лёгкіх шляхоў і з дапамогаю пяра заўсёды змагаўся за праўду». Шануючы памяць пра Васіля Быкава, фонд «Наша Вежа» заклікае ўсе грамадзкія аб'яднаньні Берасьцейшчыны правесьці тыдзень смутку і ўстрымацца на гэты тэрмін ад забаўляльных мерапрыемстваў. У ліпені фонд «Наша Вежа» плянуе правесьці літаратурную вечарыну-рэквіем у гонар пісьменьніка і прапануе ўсім супрацоўнікам бібліятэкаў вобласьці далучыцца да гэтай ініцыятывы. У верасьні, на пачатку новага навучальнага году «Наша Вежа» зьбіраецца зарганізаваць сярод школьнікаў конкурсы твораў на тэму «З Быкавым у сэрцы».





## ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА: ГАЛАСЫ З-ЗА МЯЖЫ

24 чэрвеня 2003

Ані Жаліф, жонка першага амбасадара Францыі ў Беларусі, сёньня сказала нашаму радыё, што чытала кнігі Васіля Быкава, каб лепш зразумець Беларусь.

*А.Жаліф:* Учора я даведалася пра сьмерць Васіля Быкава — чалавека, які зрабіў на мяне глыбокае ўражаньне, найперш таму, што я прачытала некаторыя ягоныя кнігі, калі яшчэ яго ня ведала; пасьля таму, што я сустракалася зь ім у Менску — і я адчувала сябе перад ім маленькай дзяўчынкай. Згадваючы тыя кнігі, я магу сказаць, што сымбаль Беларусі — гэта, магчыма, яе лясы, якія адначасна такія прыгожыя, крыху дзіўныя, але й вельмі гасьцінныя. І людзі там — таксама гасьцінныя, сьціплыя і гасьцінныя, як сам краявід, глыбока чалавечныя і спагадлівыя — якраз такія, як у кнігах Васіля Быкава.

## ЛІТОЎСКІЯ ПІСЬМЕНЬНІКІ РАЗЬВІТВАЮЦЦА З ВАСІЛЁМ БЫКАВЫМ

24 чэрвеня 2003

***Ганна Соусь, Прага***

Слова на разьвітаньне з Быкавым гаворыць Валянцінас Сьвянціцкас, які ад 1994 да 2002 году ўзначальваў Саюз пісьменьнікаў Літвы і неаднойчы сустракаўся з Васілём Быкавым.

*В.Сьвянціцкас:* Я думаю, што гэта вельмі вялікая страта. Калі нехта ў нябёсах складае сьпіс выбітных

пісьменьнікаў XX стагодзьдзя, то Быкава мы там усе бачым. Вельмі важная ягоная проза, бо гэта адзін з тых выпадкаў, калі чытаеш творы, у якіх бачыш простага чалавека, залежнага ад вайны. Надзвычайная сур'ёзнасьць ягонай творчасьці, ягоных паводзінаў, дакладнасьць пазыцыі заўсёды імпанавала. Літоўская літаратура такой традыцыі нібыта ня мае, і таму мы многае чэрпалі з таго, што пісаў Васіль Быкаў. Беларускіх пісьменьнікаў апошнім часам зрэдку перакладаюць на літоўскую мову, аднак кніга Быкава ў нас была выдадзеная ў перакладзе ў 1995 годзе. Гадоў пяць таму ён быў у Вільні. Было лета, час адпачынкаў, аднак пісьменьнікі, перакладчыкі й прыхільнікі ягонага таленту прыйшлі ў Саюз пісьменьнікаў на сустрэчу з Быкавым, і гэта засталося ў памяці як сур'ёзная размова, літаратурная й ня толькі. Васіля Быкава на літоўскую мову перакладалі такія нашыя вядомыя пісьменьнікі як Юозас Апуціс, перакладчыкі Альгімантас Антанавічус, Дануце Крыштапайце. У нас ёсьць кнігі Быкава на літоўскай мове, і яны з намі застануцца.

Літоўскі літаратар Пятрас Бражэнас, знаўца беларускай літаратуры, не хавае хваляваньня, калі гаворыць пра Васіля Быкава:

*П.Бражэнас:* Гэтую вестку вельмі цяжка перанесьці. Быкаў быў ня толькі гонарам беларускага народу, але й усясьветнай літаратуры. Для літоўцаў ён быў вельмі вядомы, любімы. Многія яго творы перакладзеныя на літоўскую мову. Яго чыталі й па-расейску, не чакаючы перакладу на літоўскую мову. Канечне, мы ведалі многіх беларускіх пісьменьнікаў, асабліва за савецкім часам больш перакладаў было. Аднак Быкаў сярод іх быў, безумоўна, першым нумарам. Яго шчырая, складаная і неверагодна глыбокая проза — мы мала з кім маглі параўнаць яго ў Літве. Гэта вельмі сумная вестка. Адчуваю як нейкую асабістую страту.





## ЧЭХІ СМУТКУЮЦЬ РАЗАМ ЗЬ БЕЛАРУСАМІ

24 чэрвеня 2003

> Нашая рэдакцыя атрымала ліст смутку, падпісаны дэканам факультэту гуманітарных навук Карлавага ўнівэрсытэту і былым кандыдатам у прэзыдэнты Чэхіі Янам Сокалам, сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Францішкай Сокалавай і журналістам, рэдактарам інтэрнэт-выданьня «Belarus Online» (www.belarus.cz) Любамірам Гомбашам.

У лісьце гаворыцца: «Дазвольце выказаць вам ды ўсім беларускім сябрам нашыя шчырыя спачуваньні й смутак. Мы вельмі любілі і шанавалі Васіля Быкава як найлепшага сына Беларусі ў наш час, як вялікага пісьменьніка, сапраўднага лідэра беларускага народу і мудрага дэмакрата. Тое, што здавалася на першы погляд адчаем, было ў яго рэальным поглядам, які быў стымулам да актыўнасьці і змаганьня за свой народ і мову — яму і іншым беларусам».

## СЫН ВАСІЛЯ БЫКАВА СЯРГЕЙ НАКРЫЎ БАЦЬКУ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЬЦЯГАМ

25 чэрвеня 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

> Сын пісьменьніка зрабіў гэта, калі прадстаўнікі ўлады паспрабавалі вынесьці з жалобнай залі Дому літаратара нацыянальную сымболіку.

Калі ў панядзелак удава Быкава Ірына Міхайлаўна папрасіла нас перадаць некаторыя рэчы Васіля Ўладзімеравіча з праскай кватэры для пахаваньня, яна пашка-

давала, што ня можа знайсьці бел-чырвона-белага значка. Я перадаў свой, і Аляксандар Лукашук прымацаваў яго да касьцюма, у які апранулі Быкава. Ужо ўчора ўвечары ў залю Дому літаратара прыносілі бел-чырвона-белыя сьцягі, шмат якія вянкі і букеты былі аформленыя ў колеры нацыянальнага сьцяга. Сярод дзясяткаў такіх вянкоў — вянок ад Рады БНР, ад Беларускай службы Радыё Свабода.

Сёньня раніцай, паводле журналіста Аляксандра Старыкевіча, які знаходзіўся ў актавай залі менскага Дому літаратара, дзе адбываецца разьвітаньне з Васілём Быкавым, прадстаўнікі ўладаў запатрабавалі вынесьці з залі бел-чырвона-белую сымболіку, спаслаўшыся пры гэтым на жаданьне А.Лукашэнкі. Родныя Быкава адмовіліся. Калі ж асобы ў цывільным паспрабавалі самі гэта зрабіць, старэйшы сын Быкава, Сяргей, пакрыў цела бацькі бел-чырвона-белым сьцягам. Пасьля гэтага кіраўнік афіцыйнай камісіі ў справе арганізацыі пахаваньня міністар культуры Леанід Гуляка заявіў, што ў такім выпадку ўлады сыходзяць з Дому літаратара.

## БЕЛАРУСЬ І СЬВЕТ РАЗЬВІТАЛІСЯ З ВАСІЛЁМ БЫКАВЫМ

25 чэрвеня 2003

***Валер Каліноўскі, Менск***

Пахаваньне народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава, якое было заплянаванае як дзяржаўнае, пераўтварылася ў сапраўды народнае пахаваньне пасьля таго, як ад ягонай арганізацыі адмовілася дзяржаўная камісія на чале зь міністрам культуры Леанідам Гулякам. Труну несьлі на руках — ад Дому літаратара да Ўсходніх могілак.





Дзесяцітысячнае шэсьце пераўтварылася ў дэманстрацыю беларускім народам любові да свайго пісьменьніка і прарока, да бацькаўшчыны. Васіля Быкава адпяваў уніяцкі сьвятар Андрэй Абламейка, праводзілі яго ў апошні шлях таксама каталіцкія і праваслаўныя сьвятары. З Васілём Быкавым разьвіталіся дзясяткі тысяч грамадзянаў Беларусі, пісьменьніцкія дэлегацыі з Расеі, Украіны, Літвы, Польшчы, маладыя і старыя, вядомыя і звычайныя людзі, дэпутаты і прадстаўнікі апазыцыі. Людзкая рака ішла за труной народнага пісьменьніка па праспэкце Францішка Скарыны ў Менску, спыняліся машыны, людзі несьлі безьліч кветак: ружы, гвазьдзікі, васількі, вянкі ад калегаў, сяброў, розных арганізацыяў, у тым ліку ад Рады БНР.

Гэта быў, бадай, адзіны выпадак, калі міліцыя не хапала людзей за бел-чырвона-белыя сьцягі, якіх былі дзясяткі. Аднак менавіта гэтыя сьцягі не дазволілі працаваць дзяржаўнай камісіі ў справе пахаваньня Васіля Быкава. Сын Быкава Сяргей накрыў цела бацькі вялікім нацыянальным сьцягам. Родныя ж, перш за ўсё жонка нябожчыка, адмовіліся ад прапанаванага дзяржаўнай камісіяй чырвона-зялёнага дзяржаўнага сьцяга. Пасьля гэтага старшыня дзяржаўнай камісіі міністар культуры Леанід Гуляка сказаў, што яму як дзяржаўнаму службоўцу нельга тут прысутнічаць. Разам зь іншымі сябрамі камісіі і вайскоўцамі ён пакінуў залю Дому літаратара на пачатку цырымоніі разьвітаньня з Быкавым. Перад гэтым салдаты паклалі да труны пісьменьніка вянок ад Аляксандра Лукашэнкі — той знаходзіўся сёньня ў Сьветлагорску.

Пасьля сыходу Леаніда Гулякі адказнасьць за арганізацыю пахаваньня ўзяў на сябе грамадзкі камітэт на чале са старшынём Саюзу пісьменьнікаў Алесем Пашкевічам.

## ПАНІХІДА ПА ВАСІЛЮ БЫКАВУ

(Фрагмэнты)

25 чэрвеня 2003, Дом літаратара

*Старшыня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі А.Пашкевіч:* У нашай роднай беларускай мове сёньня не хапае словаў, каб выказаць тую жалобу, той смутак, тое няшчасьце, якое напаткала нашую Беларусь і ўвесь сьвет. Чорная дата 22 чэрвеня 1941 году прайшла праз жыцьцё і ўсю творчасьць Васіля Ўладзімеравіча Быкава. Самім лёсам яму было наканавана выжыць пасьля двух раненьняў і аднаго пахаваньня, каб сказаць тое, чаго яшчэ ніхто не гаварыў. Вайна — гэта абсалютнае зло і агульначалавечая трагедыя. Дзень 22 чэрвеня праз 62 гады стаў чорнай датай для Беларусі, стаў яшчэ больш злавеснай датай для ўсіх нас. Спынілася сэрца салдата і патрыёта, вялікага пісьменьніка і грамадзяніна Васіля Ўладзімеравіча Быкава. Беларуская літаратура панесла найвялікшую і непапраўную страту. Васіль Быкаў быў ня проста літаратар усясьветнага маштабу, ён быў і застаецца ня толькі славутым пісьменьнікам, але быў і застаецца сумленьнем нацыі, вялікім сынам нашай радзімы.

Па творах Васіля Быкава ведалі й будуць ведаць пра Беларусь ва ўсім сьвеце. Творчасьць Васіля Быкава, перш за ўсё знакамітыя аповесьці «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская баляда», «Дажыць да сьвітаньня», «Сотнікаў», «Мёртвым не баліць», «Пайсьці і не вярнуцца», «Круглянскі мост», «Знак бяды» перакладзеныя на дзясяткі моваў сьвету. Ён стаў клясыкам пры жыцьці, зьведаў і славу, і беспрэцэдэнтнае цкаваньне і ганьбаваньне. Але да сваёй славы, шматлікіх заслужаных узнагародаў ён ставіўся спакойна. На брудныя наскокі намагаўся не рэагаваць. Хоць усё гэта атручвала ягонае жыцьцё. Дзіўным чынам у гэтым чалавеку ўжываліся цьвёрдасьць і бескампраміснасьць у адстойваньні прынцыпаў справядлівасьці і праўды зь мяккасьцю характару, выключнай далікатнасьцю і тактам у адносінах зь людзьмі.

Маючы бездакорны маральны аўтарытэт, усясьветную славу, мудрасьць нацыянальнага прарока, ён мог гаварыць тое, што хацеў, ацэньваць падзеі і людзей сваімі меркамі, паводле сваіх маральных і грамадзянскіх прынцыпаў. У Васіля Ўладзімеравіча былі вялікія творчыя і жыцьцёвыя пляны. Ён разумеў немагчымасьць зьдзяйсьненьня задуманага тут, на радзіме, дзе ўсчалася новая хваля шальмаваньня. І ён на пяць гадоў пасяліўся за мяжой, дзе цалкам прысьвяціў сябе творчай працы: напісаў некалькі кніг, аповесьцяў, прыпавесьцяў, апавяданьняў. У іх новы і часам нязвыклы Быкаў. Творы апошняга пэрыяду чакаюць свайго дасьледчыка, свайго прачытаньня.

Падсумаваў сваё творчае і зямное жыцьцё Васіль Уладзімеравіч мэмуарнай кнігай «Доўгая дарога дадому», якую ўжо на бальнічным ложку, пасьля цяжкай апэрацыі пасьпеў патрымаць у руках. Васіль Быкаў вярнуўся на радзіму да родных, сяброў, знаёмых, паплечнікаў, да сваёй Беларусі. На бацькоўскую зямлю вярнуўся, каб назаўсёды спачыць у ёй. Хай будзе вам пухам родная пакутная беларуская зямля, дарагі Васіль Уладзімеравіч! І няхай на векі вечныя жыве разам з вамі нашая Беларусь! Жалобную грамадзянскую паніхіду, прысьвечаную разьвітаньню з народным пісьменьнікам Беларусі Васілём Быкавым, прысьвечаную разьвітаньню з гонарам і годнасьцю нашай нацыі, абвяшчаем адкрытай. Слова для выступленьня мае народны паэт Беларусі, сябар і паплечнік Васіля Ўладзімеравіча Рыгор Барадулін.

*Р.Барадулін:*

> Нечысьць на зямлю бяду наклікала,
> Перагарадзіла белы дзень гара.

Засталася Беларусь бяз Быкава
Беднай хатай без гаспадара.

Дарагі Васілю! Родны Васілю! Я ўжо больш не пачую твайго «Рыгорка!», больш ня ўбачу цябе, схіленым над рукапісамі, больш ня ўбачу твайго прыветнага позірку. Фармальна ня ўбачу, але ўсё гэта ў маёй душы. Васіль дарагі! Васіль любы! Пасьля сьмерці мамы гэта мая самая большая страта. Тры сьвятыя, тры арыенціры ў маім жыцьці былі, ёсьць і будуць: гэта Бог, мама і Васіль Быкаў. Сьветлая памяць Васілю Быкаву! Бог прыме тваю душу. Сьветлая табе памяць і вечны пакой!

*А.Пашкевіч:* Паважанае спадарства! На адрас Саюзу беларускіх пісьменьнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтру прыходзілі і прыходзяць дзясяткі і сотні спачувальных тэлеграмаў з розных куткоў Беларусі і ўсяго сьвету. Прыходзілі й прыходзяць спачувальныя тэлеграмы ад розных грамадзкіх установаў, грамадзкіх аб’яднаньняў. Сярод іх — з Саюзу пісьменьнікаў Расейскай Фэдэрацыі, Нацыянальнага саюзу пісьменьнікаў Украіны, Саюзу пісьменьнікаў Літвы, Латвіі, Польшчы. На адрас сям’і Васіля Ўладзімеравіча прыйшлі спачувальныя тэлеграмы за подпісамі прэзыдэнта Расейскай Фэдэрацыі Ўладзімера Ўладзімеравіча Пуціна, за подпісам прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, ад дзясяткаў грамадзкіх дзеячоў, сярод іх спачувальная тэлеграма ад Зянона Пазьняка. Сёньня разьвітацца з народным пісьменьнікам Беларусі сыходзіцца ня толькі ўвесь Менск, але ўся Беларусь, уся свабодная Эўропа. Да мікрафону запрашаецца сакратар Нацыянальнага саюзу ўкраінскіх пісьменьнікаў Вячаслаў Мядзьведзь.

*В.Мядзьведзь:* Гэта не віна пісьменьнікаў, што сам час стаў жорсткі адносна чалавека. Гэта ня нашая віна, што нам даводзіцца запаўняць паражнечу, якая ўтварылася ня з нашай волі. Чалавек, якога намаляваў і апяваў





Васіль Быкаў, жывы і прысутнічае на гэтай зямлі. Гэта найбольшая радасьць асабіста для мяне. Яшчэ ўчора ў Кіеве пісьменьнікі прыгадвалі Васіля Быкава, пераказвалі сюжэты яго цудоўных аповесьцяў, а таксама прыгадвалі, што ягонае прозьвішча выбітае на мэмарыяльнай пліце з часу другой усясьветнай вайны ва Ўкраіне пад Кіраваградам. Для звычайнага чалавека гэта было б трагічна, а для такога вялікага чалавека гэта, магчыма, Боскі знак. Слава Васілю Быкаву, слава Беларусі!

*А.Пашкевіч:* Жалобнае слова прамовіць паэт, ляўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, сябар і паплечнік Васіля Ўладзімеравіча Генадзь Бураўкін.

*Г.Бураўкін:* Нехта таленавіты аднойчы сказаў: «Няма пракрокаў у сваей айчыне». І даволі многія ў нашым краі радасна з гэтым пагадзіліся. Няма прарокаў — ёсьць толькі павадыры. Няпраўда! Пракрокі ёсьць і ў Беларусі таксама. І сёньня мы прыйшлі да прарока, да вялікага беларуса, да выключнага чалавека, да мужнага салдата — на жаль, у горкую хвіліну. У гэтыя чорныя дні я пачуў такія словы: пасьля 22 чэрвеня Беларусь можа стаць іншая — Беларусь будзе жыць бяз Быкава. Я вельмі хачу, каб Беларусь стала іншая. Але я ніколі не пагаджуся, што Беларусь будзе жыць бяз Быкава! Калі яна сапраўдная краіна, калі наш народ сапраўдны народ, ён ня можа жыць бяз Быкава, без таго, чым хваляваўся, без таго, з-за чаго згарэў наш дарагі, наш любімы Васіль Уладзімеравіч. Сёньня пашану яму аддае калі ня ўвесь сьвет, то ўся Эўропа. Яны называюць яго вялікім пісьменьнікам сучаснасьці, яны называюць выдатным грамадзянінам XX стагодзьдзя. Але толькі мы, беларусы, па-сапраўднаму ведаем, які гэта сапраўды глыбінны талент, які гэта сапраўды мужны грамадзянін, які гэта адданы сын Беларусі. Толькі мы. І наш абавязак, каб Беларусь нарэшце зразумела гэта. Няма праблемы, каму хаваць Васіля Быкава. Выйдзеце на вуліцу! Людзі ска-

залі, хто хавае Васіля Быкава. Яго хавае народ! Яго хаваюць тыя, хто не на загад, а з парыву сэрца ня мог не прыйсьці сюды. І, я думаю, тыя, у каго ёсьць вочы, абавязаныя паглядзець, колькі людзей прыйшло разьвітацца з Быкавым.

Даруй, Васіль, за ўсё, што перанёс,
За ворагам нанесеныя раны,
За брудныя пляўкі з тэлеэкрану,
За сьлёзы ўшацкіх, сьсечаных бяроз.

Даруй, што ўсе свае зямныя дні
Ты азіраўся з горычу міжволі
На памяці закінутае поле
І спадзяваньняў паленыя пні.

Даруй за наш нялітасьцівы час,
За ціхае кананьне роднай мовы,
За ўдзячнасьці запозьненыя словы
І ласкі зэканомлены запас.

Тужлівымі, пакутлівымі снамі
Ты будзеш вечна мроіцца сынам.
Я ведаю, ты ўсё даруеш нам.
Але ці зможам даравацць мы самі?

Бывай, дарагі Васіль! Бывай!

*А.Пашкевіч:* Слова мае сакратар Саюзу пісьменьнікаў Масквы, сябар Васіля Ўладзімеравіча Валянцін Аскоцкі.

*В.Аскоцкі:* Дарагія сябры! Сябры агульнага гора, агульнай бяды, агульнай страты, якая зьвяла нас усіх у гэтай залі. Дарагія сябры з Саюзу пісьменьнікаў Беларусі! Ваш смутак зьліваецца з нашым смуткам, са смуткам Саюзу пісьменьнікаў Масквы і Міжнароднага літаратурнага фонду. Прыміце гэты наш смутак разам з вашым смуткам. Калі думаеш аб уроках жыцьця і творчасьці Васіля Быкава, то думаеш аб тым, што талент пісьменьніка ня можа быць сапраўдным талентам, калі ён ня корміцца сокамі сваёй нацыянальнай глебы, сокамі сваёй зямлі. Беларусь, яе гісторыя, яе трагедыя вырасьцілі талент Васіля Быкава. У яго слове адклікнуліся і нацыянальныя драмы беларускай гісторыі, і калгасны боль калектывізацыі, і драма вайны, драма акупацыі, драма партызаншчыны. Адсюль гэты ёмкі вобраз, які даў назву адной з аповесьцяў — «Знак бяды». Гэтыя словы, «знак бяды», сталі знакавымі словамі гісторыі і яе драмаў.
Але любы талент, калі корміцца сокамі роднай зямлі, звужае і абмяжоўвае сябе, калі гэтыя нацыянальныя сокі не ўліваюцца ў струмень усясьветнай культуры, калі ён не выходзіць да вялікіх агульначалавечых духоўных і маральных каштоўнасьцяў. І слова Васіля Быкава дарагое і значнае менавіта тым, што адштурхоўваецца ад беларускай зямлі. Яно выйшла да ўсясьветнай культуры, да ўсясьветных духоўных каштоўнасьцяў. І калі думаеш аб гэтым агульначалавечым пачатку яго творчасьці, то я б сказаў так: «Гэта боль за чалавека, за чалавека прыніжанага, чалавека нявольнага, чалавека, які жыве ў атмасфэры недаверу і агульнай падазронасьці». Адсюль патас веры ў чалавека і давер да чалавека. Якраз драматычны талент Васіля Быкава прымусіў яго напісаць аповесьць аб чарнобыльскай трагедыі і асэнсаваць чарнобыльскую трагедыю як трагедыю плянэтарную.
Пра гэта ж прымушае думаць адзін зь яго апошніх твораў, «Труба», — пра тое, як ён арганічна, пачынаючы з аповесьці «Трэцяя ракета», уварваўся ў расейскую літаратуру. І Грыгоры Бакланаў адзначае гэтую аповесьць у сваім артыкуле, гэта быў першы артыкул на расейскай мове пра Васіля Быкава: «Запомніце гэтае імя! Яно яшчэ сустрэнецца вам». Яно ня толькі сустрэлася, яно трывала замацавалася ў гісторыі літаратуры. І я разумею таго чытача — дакладней, чытачку, якая прачыта-


Быкаў на Свабодзе

ла артыкул у газэце «Московский комсомолец» пра Васіля Быкава і назвала яго сумленьнем Беларусі. Але ж ён і сумленьне Расеі таксама. Я думаю, што ў гэтым водгуку разуменьне сапраўднага маштабу таленту Васіля Быкава. Васіль Быкаў быў сумленьнем Беларусі. Але ён адначасова быў таксама і сумленьнем Расеі. І ён быў сумленьнем усіх людзей, без разбору іх нацыяў, людзей, якія ідуць да ідэалаў гуманізму, ідэалаў дабра, ідэалаў чалавечнасьці, да ідэалаў веры ў чалавека.

*А.Пашкевіч:* Слова пісьменьніку, вэтэрану Вялікай Айчыннай вайны Валянціну Тарасу.

*В.Тарас:* Дарагія сябры і калегі! Дарагія чытачы Васіля Быкава! Мы ўсе ягоныя чытачы. Пражыў цяжкае жыцьцё, дзіцячае, хлапечае, пра якое расказаў у сваёй кніжцы «Доўгая дарога дадому». У апошнія месяцы, тыдні, калі ён яшчэ быў жывы і размова заходзіла пра нейкую будучыню, вельмі адносную ўжо да яго, ён казаў: «калі я загіну альбо не загіну», таму я і ўжываю гэтыя словы: ён загінуў. І разам з тым, гэтая дата, 22 чэрвеня — яшчэ адна дата ягонага нараджэньня, нараджэньня ў вечнасьць. Я прамаўляю тут ад Беларускага ПЭН-цэнтру, міжнароднага пісьменьніцкага ПЭН-клюбу — арганізацыі, заснаванай клясыкам ангельскай літаратуры Галсуорсі ў 1924 годзе, калі нарадзіўся Васіль. Васіль быў заснавальнікам разам з Алесем Адамовічам, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, іншымі сваімі найбліжэйшымі паплечнікамі Беларускага ПЭН-цэнтру і заставаўся ягоным прэзыдэнтам да апошняга дня свайго жыцьця. Хоць у нашай краіне сёньня ідзе да таго, што прэзыдэнтам можна называць толькі адну асобу, для нас Васіль Быкаў застанецца прэзыдэнтам Беларускага ПЭН-цэнтру, прэзыдэнтам нашай вялікай беларускай літаратуры, якую ён сьцьвердзіў як ніхто з нас. Бывай, Васіль!

*А.Пашкевіч:* Слова мае старшыня Фонду прымірэньня, перакладчык і сябар Васіля Ўладзімеравіча Крыстафэр Гойбнэр.

*К.Гойбнэр:* У гэтую гадзіну багата людзей у Нямеччыне, Францыі ды іншых эўрапейскіх краінах зь любоўю, з пачуцьцём думаюць пра Васіля Быкава. І асабліва ў Нямеччыне, таму што Васіль Быкаў адкрыў немцам тое, што яны рабілі ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Ён пісаў праўду, але ён пісаў праўду так, што ён заставаўся для сваіх чытачоў адкрытым чалавекам, ён працягваў ім руку, і яны бачылі яго адкрытую душу. І за гэта яго любіла нямецкая моладзь, актывісты арганізацыі прымірэньня, зь якімі ён багата размаўляў тут у гэтым доме. Васіль любіў праўду, справядлівасьць і дружбу паміж людзьмі.

*А.Пашкевіч:* Слова старшыні дэпутацкай групы «Рэспубліка» Сяргею Скрабцу.

*С.Скрабец:* Ня стала Васіля Быкава. Ён даў нам паветра свабоды і каханьня, псыхалягічны рэалізм, філязофскую думку, напружаны роздум. Адно агульнае вельмі сучаснае пачуцьцё пранізвае творчасьць і жыцьцё майстра: ад кожнага залежыць усё, кожны асабіста павінен адчуваць сваю адказнасьць за будучыню, за ўсё, што прыйдзе і ня прыйдзе заўтра; кожны адказвае за ўсё, абавязак быць чалавекам бестэрміновы — вось словы герояў Васіля Быкава. Я ўпэўнены, што Васіль Уладзімеравіч чуе нас і цяпер, і хачу запэўніць яго, што яго справа барацьбы за свабоду і незалежнасьць нашай радзімы будзе намі працягнутая.

*А.Пашкевіч:* Слова дырэктару Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандру Лукашуку.

*А.Лукашук:* Анёл зьявіўся ў Беларусі. Цяпер вялікая душа Васіля Быкава разьвітаецца з тымі, хто любіў яго ў Амэрыцы, Эўропе. Вацлаў Гавэл напісаў, што гонар для Чэхіі — прыезд туды Васіля Быкава. Мы мелі

шчасьце зь ім, зь яго мілай жонкай Ірынай Міхайлаўнай шмат гуляць па вуліцах Прагі і парках і гаварыць. Яго галоўнай любоўю была Беларусь. Нават у бальніцы на шпітальным ложку ён прасіў прынесьці яму радыё, каб слухаць тое, што адбываецца тут. У нас многія гадзіны жывога голасу Васіля Ўладзімеравіча, і цяпер кожны дзень ён гучыць. Я прывёз з сабой невялікі запіс, Васіль Уладзімеравіч адказвае на галоўнае пытаньне кожнага пісьменьніка, якое задаў яму Сяргей Навумчык: «Навошта пісаць?»

*Голас В.Быкава:* Усё ж яшчэ пакуль што можна чуць, што пішуць мастакі, ствараюць мастакі. Але справа нават ня ў гэтым. Нават калі нічога ніхто не пачуе, усё роўна наш абавязак творцаў — гэта тварыць, памятаючы, што ісьціна ўсё-такі за намі. За імі, тымі, хто выступае супраць, — перамога, а за намі ісьціна. У гэтым сэнсе, я думаю, што вельмі важнае даўняе выслоўе расейца Талстога, які гаварыў: «Рабіце, што трэба, і хай будзе, што будзе». Вось у гэтым і ёсьць абавязак і, можа быць, апошняе спадзяваньне мастака ў наш час.

*А.Лукашук:* За намі ісьціна. Бывайце, Васіль Уладзімеравіч! Не пакідай нас, анёл!

## З БЫКАВЫМ ПРЫЙШЛІ РАЗЬВІТАЦЦА ТЫСЯЧЫ

25 чэрвеня 2003

***Севярын Квяткоўскі, Менск***

Сярод многіх тысяч людзей, што прыйшлі да Дому літаратара разьвітацца з Васілём Быкавым, было багата моладзі. Агульны настрой — усе мы, беларусы, згубілі асобу, якой няма роўных. Моладзь разьвітвалася з чалавекам, які яднаў нацыю. У словах маладых людзей смутак і спадзеў.





*Хлопец:* Сёньня вельмі трагічны дзень. Гэта дэманструе тая вялікая колькасьць людзей, што прыйшлі на разьвітаньне з Васілём Быкавым. Гэты чалавек — самы вядомы, самы сумленны. Ён аб'ядноўваў людзей розных прафэсіяў і нават нацыянальнасьцяў, розных поглядаў. Гэта чалавек, які аб'ядноўваў нацыю. Вялікі жаль і смутак ва ўсіх, што яго ня стала.
*Дзяўчына:* Было б вельмі дзіўна, калі б на пахаваньне, на разьвітаньне з такім чалавекам не прыйшлі б людзі. Я прыйшла, бо я мушу тут быць. Гэты чалавек быў прыкладам, у якім нельга было знайсьці нейкіх хібаў і сказаць, што я зь ім ня згодная. Ягоную пазыцыю можна цалкам паважаць, абсалютна.
*Студэнт:* Ён быў народны ў першую чаргу. І вельмі шкада, што дзяржава не захацела зрабіць заяўкі на тое, каб ён атрымаў Нобэлеўскую прэмію. Я думаю, што ў Беларусі гэта адзіны чалавек варты таго, каб стаць нобэлеўскім ляўрэатам, нават пасьмяротна. З пэрсонаў такога рангу ў нас быў толькі Якуб Колас. Пахаваньне нагадвае пахаваньне Коласа — калі глядзіш хронікі 1956 году, менавіта столькі людзей прыходзіла на пахаваньне Коласа.
*Студэнтка:* Мне больш цікавы Васіль Быкаў як асоба. Як такая зьява ў жыцьці Беларусі, якая больш не паўтарыцца. Мы ў першую чаргу згубілі чалавека, а не пісьменьніка. Чалавека, грамадзяніна нашай краіны, частку Беларусі. Частку таго, дзеля чаго мы змагаемся, дзеля чаго мы жывём. Яе цяпер проста ня стала.
*Дзяўчына:* Гэта агульнае гора. Відавочна, што прыйшлі людзі, якія паважаюць беларускасьць, але ня могуць іншым чынам выказаць тое, што адбываецца... Цяжка казаць.
*Хлопец:* Сапраўдны чалавек. Грамадзянін, вялікі сын сваёй краіны.
*Дзяўчына:* Гэты чалавек усёй сваёй сутнасьцю, усім сваім жыцьцём паказваў праўду. Нельга сказаць, што ён быў праўдзівы толькі ў нейкіх выказваньнях ці тво-

рах. Калі ён увасабляе праўду, то ён увасабляе праўду ва ўсім. Ва ўсім сваім жыцьці.
*Хлопец:* Няшмат у Беларусі такіх людзей, людзей такога маштабу, якія б маглі такое значэньне мець і такую ролю. Васіль Быкаў быў усім у Беларусі. Шкада. Ён быў сымбалем, сымбалем змаганьня й мужнасьці, сымбалем таго, што Беларусь жыла сапраўды.
*Дзяўчына:* Невыпадкова тое, што ён памёр менавіта 22 чэрвеня. Гэта знак. Гэта знак бяды. Ня толькі ў тым сэнсе, што ў гэты час пачалася вайна, бо менавіта ў гэты дзень пайшоў ад нас пісьменьнік, які пісаў пра вайну. Гэта знак, знак бяды... Напэўна, гэта канец... Не канец, канечне, але...
*Дзяўчына:* Мне здаецца, што кожная фігура, якая была такая маштабная, як Васіль Быкаў, яна стварае глебу для зьяўленьня новых людзей. Ня трэба губляць надзеі: можа, будзе новы прарок. Ня трэба казаць, што на гэтым усё скончана.
*Дзяўчына:* Можна сказаць — волат нацыянальнага духу беларускага. Таму што жыве Беларусь, ёсьць сапраўдныя беларусы, якія паважаюць талент, чалавека, асобу, паважаюць сваю гісторыю. Першая асацыяцыя — проста асоба. Тады ўжо пісьменьнік, публіцыст. Найперш — чалавек.
*Хлопец:* Васіль Быкаў, канечне, ня толькі пісьменьнік. Без Васіля Быкава не было б адраджэнскага руху. Васіль Быкаў — гэта чалавек, безь якога не было б сапраўды незалежнай Беларусі.





## ЖАЛОБНАЯ КАЛЁНА НАБЛІЖАЕЦЦА ДА ПЛОШЧЫ ЯКУБА КОЛАСА

25 чэрвеня 2003

***Аляксандар Лукашук, Менск; Сяргей Навумчык, Прага***

Труну зь целам Васіля Быкава нясуць на руках.

15.45 паводле менскага часу. Уся плошча Перамогі ў Менску, а таксама ўвесь праспэкт Скарыны да плошчы Якуба Коласа запруджаныя людзьмі. Лунаюць бел-чырвона-белыя сьцягі. Труну зь целам Васіля Быкава нясуць на руках. За труной ідуць удава Ірына Міхайлаўна і сын Сяргей. Людзі хочуць несьці труну на руках да Ўсходніх могілак, але Ірына Міхайлаўна сказала, што ёй будзе цяжка прайсьці ўвесь шлях, і папрасіла на плошчы Коласа паставіць труну ў катафалк. Падчас паніхіды прагучаў фрагмэнт інтэрвію Васіля Быкава для Радыё Свабода аб ролі творцы: «Нават калі нічога ніхто не пачуе, усё роўна наш абавязак, абавязак творцаў — гэта тварыць, памятаючы, што ісьціна ўсё-ткі за намі. За імі, тымі, хто выступае супраць, — перамога, а за намі — ісьціна».

## МІЛІЦЫЯ СПЫНІЛА ЖАЛОБНУЮ КАЛЁНУ

25 чэрвеня 2003

***Аляксандар Лукашук, Менск; Сяргей Навумчык, Прага***

16.25. На плошчы Якуба Коласа труну зь целам Васіля Быкава паклалі ў аўтобус.

У аўтобус селі ягоныя блізкія, і ён павольна рушыў у бок Усходніх могілак. За ім ідзе шматтысячная калёна, аднак цяпер міліцыя спыніла аўтобус.

## ІРЫНА БЫКАВА: «Я БАЧУ ЦЯПЕР, ШТО ЖЫВЕ, ШТО БУДЗЕ ЖЫЦЬ БЕЛАРУСЬ»

25 чэрвеня 2003

***Аляксандар Лукашук, Менск; Сяргей Навумчык, Прага***

> 17.05. Жалобная калёна набліжаецца да Акадэміі Навук.

*А.Лукашук:* Я цяпер знаходжуся ў аўтобусе, дзе стаіць труна Васіля Быкава. За аўтобусам па праспэкце Скарыны ідзе безьліч людзей зь вянкамі й кветкамі. Некалькі разоў міліцыя спрабавала спыніць аўтобус, але наперадзе ідуць, узяўшыся за рукі, некалькі дзясяткаў хлопцаў. Побач са мной Рыгор Барадулін і ўдава Ірына Міхайлаўна, перадаю ёй трубку.

*С.Навумчык:* Ірына Міхайлаўна, прыміце яшчэ раз нашыя спачуваньні, трымайцеся...

*І.Быкава:* Сяргей, перада мной труна, галава Васіля, і я цяпер тры разы стукну трубкай аб труну. Гэта будзе вам апошняе прывітаньне ад Васіля... Вось так яно атрымалася — вельмі шмат людзей, сьцягоў. Я бачу цяпер, што жыве, што будзе жыць Беларусь...

*С.Навумчык:* Выглядае, Ірына Міхайлаўна, што найлепшае, што маглі зрабіць улады — гэта сысьці з вачэй блізкіх Васіля Ўладзімеравіча.

*І.Быкава:* Так.





## ПАМЯЦЬ ВАСІЛЯ БЫКАВА ЎШАНАВАЛІ АМБАСАДАРЫ ЗАМЕЖНЫХ КРАІНАЎ

25 чэрвеня 2003

***Галіна Абакунчык, Менск***

> Правесьці ў апошні шлях Васіля Быкава прыйшлі амбасадары замежных дыпляматычных прадстаўніцтваў у Беларусі. Нямеччына цяпер старшынюе ў Эўразьвязе, а таму амбасадар гэтай краіны Гэльмут Фрык ад імя ўсяго дыпляматычнага корпусу накіраваў спачуваньне сям'і нябожчыка.

Вось што спадар Фрык сказаў на разьвітаньне з Васілём Быкавым:

*Г.Фрык:* Нас вельмі кранула сьмерць Васіля Быкава, і на сваіх сустрэчах амбасадараў краінаў Эўразьвязу, а таксама кіраўнікоў місіяў краінаў, якія стануць сябрамі Зьвязу ў наступным годзе, мы спантанна вырашылі, што абавязкова возьмем удзел у жалобнай цырымоніі з нагоды сьмерці вялікага беларускага пісьменьніка. Сёньня раніцай, ад імя ўсіх сваіх калегаў-амбасадараў, я накіраваў ліст спачуваньня спадарыні Ірыне Быкавай. Васіль Быкаў пражыў шмат гадоў у Нямеччыне, і некаторыя ягоныя апошнія кнігі зьявіліся менавіта там, але ня толькі на нямецкай мове, а ў перакладзе на многія іншыя мовы сьвету.
Як я думаю, ён зрабіў вялікі ўнёсак у справу прымірэньня ў Эўропе, паставіўшы тэму другой усясьветнай вайны ў цэнтар сваёй творчасьці з мэтай пераадолець жахлівыя згадкі мінулага стагодзьдзя і рабіць крокі да прымірэньня. Мяркую, што такая палітыка новай Нямеччыны, якая ўзьнікла пасьля вайны, і палітыка Эўразьвязу, якія нясуць вялікую маральную й палітычную адказнасьць за будучыню. І ў гэтую справу Васіль Быкаў зрабіў вялізны ўнёсак сваёй творчасьцю і сваім

жыцьцём. Быкаў ёсьць сымбалічнай фігурай для новай краіны — незалежнай Беларусі. І, мяркую, што ён зьяўляецца найважнейшай фігурай для адраджэньня Беларусі пасьля Янкі Купалы і Якуба Коласа.

## ІРЫНА БЫКАВА: «СЁНЬНЯ ТУТ НА КОЖНЫМ КРОКУ АДЧУВАЕШ АДНО — ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ»

25 чэрвеня 2003

***Аляксандар Лукашук, Менск; Сяргей Навумчык, Прага***

17.27. Жалобная калёна рушыць да Ўсходніх могілак.

Ірына Міхайлаўна Быкава кажа:

*І.Быкава:* Што я скажу... Тут шмат болю, шмат смутку. Але калі сустракаліся суайчыньнікі ці аднадумцы, яны сустракаліся і разьвітваліся заўсёды — «Жыве Беларусь!» І сёньня тут на кожным кроку адчуваеш адно — жыве Беларусь. Гэта тут вельмі, вельмі адчуваецца. Усё арганізавана добра. І гэта ж намаганьне вялізнае — увесь праспэкт Скарыны прайсьці, з таго Фрунзэ і да Маскоўскіх могілак. Гарачыня такая. І моладзі шмат, і вэтэраны былі, усе. І ведаеце, там, каля труны, адзін маліўся, другі кланяўся, трэці станавіўся на калені, чацьверты аддаваў чэсьць. Вельмі, вельмі з пашанай, і кожны прыносіў кветкі. Многа васількоў было, васількі вось на труне цяпер з Васілём едуць туды... Балюча, смутна, але, мабыць, такога яшчэ сучаснае пакаленьне і ня бачыла, і няхутка яшчэ пабачыць.

*С.Навумчык:* Шмат хто адзначае цяпер, што адбылося тое, пра што марыў Васіль Уладзімеравіч, хаця б на нейкі час, — адбылося яднаньне людзей, адбылося яднаньне нацыі.





*І.Быкава:* У нейкім сэнсе так. Мабыць, трэба было й большае яднаньне, у большым саступіць, у нечым дамовіцца. Але атрымалася добра. Можна было марыць пра такое. Уявіць сабе было цяжка, што такое ўдасца. Яшчэ як тое скончыцца, што і як... але пакуль верыцца, што ўсё будзе як трэба, як мае быць.

## У МЕНСКУ НА ЎСХОДНІХ МОГІЛКАХ ПАЧАЛОСЯ ПАХАВАНЬНЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА

25 чэрвеня 2003

***Аляксандар Лукашук, Менск***

18.05. Пры ўваходзе на могілкі сьпявалі «Магутны Божа».

Я стаю на могілках, дзе пачалося разьвітаньне з Быкавым. Я шмат разоў чуў «Магутны Божа», і нават у прафэсійным выкананьні, але такога — ніколі. Шмат вянкоў і кветак. Паблізу — магілы Ўладзімера Караткевіча, Уладзімера Мулявіна. Пачаліся выступы прамоўцаў. Пахаваны Васіль Быкаў будзе побач з былым сакратаром ЦК КПБ Аляксандрам Кузьміным, які памёр у пачатку траўня. У сваіх успамінах «Доўгая дарога дадому» Быкаў напісаў шмат словаў пра дапамогу, якую адчуваў ад Кузьміна ў той час, калі яго цкавалі за публікацыі.

## ПАХАВАНЬНЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА. УСХОДНІЯ МОГІЛКІ

25 чэрвеня 2003

З фанаграмы.

*Уніяцкі сьвятар айцец Андрэй Абламейка:* Блаславёны Бог наш спрадвеку, цяпер і заўсёды навекі вякоў. Усявышні супакоіць тваю душу і адорыць цябе вечным збаўленьнем, дзе найсьвяцейшая Багародзіца Маці Божая, усе сьвятыя і анёлы. Прымі гэты дар Божай любові ў імя Айца і Сына, і Духа Сьвятога.

*Старшыня Саюзу пісьменьнікаў Алесь Пашкевіч:* Родныя Васіля Ўладзімеравіча! Блізкія! Сябры! Шаноўнае спадарства! Вось мы і прайшлі апошнім жыцьцёвым шляхам Васіля Ўладзімеравіча. Гэты шлях сымбалічны, як і ўсё жыцьцё нашага народнага пісьменьніка Беларусі. Мы вынесьлі труну зь целам Васіля Ўладзімеравіча, труну народнага песьняра, народнага пісьменьніка Беларусі з Дому літаратара, мы данесьлі цела непераможнага салдата да плошчы Перамогі. Мы данесьлі цела славутага пісьменьніка нашай нацыі да плошчы нацыянальнага песьняра Якуба Коласа. Мы правезьлі цела Васіля Ўладзімеравіча, грамадзяніна і патрыёта па галоўным праспэкце сталіцы нашай Беларусі, праспэкце, які носіць імя кніжніка Францішка Скарыны. Гэты наш шлях быў асьветлены нашым высокім родным беларускім небам, якое, нібыта зьлітаваўшыся з нас, не дало нам сёньня дажджу. Гэты наш сымбалічны шлях быў асьветлены нацыянальнай сымболікай, у якой вечнасьць нашай нацыі, у якой кроў Пана Ісуса Хрыста на плашчаніцы Гасподняй. Сёньня знакавы дзень у гісторыі нашай нацыі. На жаль, гэты знакавы дзень у такой жалобе, апісаць якую словаў не хапае. Першым прапануецца выступіць на нашым жалобным мітынгу пісьменьніку, сябру Васіля Ўладзімеравіча Быкава, ляўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Сяргею Іванавічу Законьнікаву.





*С.Законьнікаў:* Дарагі Васіль Уладзімеравіч! Прабачце мне, што я трошкі пакарыстаюся паперай. Тут ёсьць, ёсьць для гэтага прычына. Дарагая Ірына Міхайлаўна! Дарагая Валянціна Ўладзімераўна! Сыны! Унукі! Усе родныя, блізкія Васіля Ўладзімеравіча! Шаноўная грамада! XXI стагодзьдзе для нашай роднай Беларусі пачалося зь неймаверна цяжкой страты. Мабыць, гэта самая страшная страта і застанецца на ўсё XXI стагодзьдзе. Мы хаваем сёньня ня толькі выдатнага пісьменьніка сучаснасьці, але і заступніка, дарадцу, настаўніка; хаваем чалавека, да якога імкнуліся і ў сьветлы час, і ў чорныя дні душы і сэрцы беларусаў, прадстаўнікоў усіх нацыянальнасьцяў, якія жывуць у беларускай народнай сям'і, і мільёны людзей ва ўсім сьвеце. Вышэйшая воля дала нараджэньне, правяла сьціплага сялянскага хлопца з Вушаччыны праз вайну, праз усе выпрабаваньні, каб ён змог акумуляваць у сабе столькі мужнасьці, столькі мудрасьці, столькі дабра для людзей, выявіць празь літаратуру глыбока і поўна характар беларускага народу. Сілавое поле мастацкага генія Васіля Быкава прыцягвае людзей, яно вучыць усіх нас любіць жыцьцё, не марнаваць зямнога часу на пустое, сьпяшацца рабіць дабро, мужна адстойваць праўду і справядлівасьць.

У гісторыі беларускага народу было шмат глябальных узрушэньняў, якія ставілі на кон само яго існаваньне. Вынікам гэтых узрушэньняў станавілася новае татальнае падаўленьне нацыянальнай сьвядомасьці, зьвядзеньне чалавечага жыцьця да прымітыўнага, элемэнтарнага біялягічнага выжываньня. Нешта падобнае адбываецца з намі і цяпер. Васіль Быкаў заўсёды бачыў жыцьцё свайго народу не такім. Ён бачыў яго годным, разумным, заможным і шчасьлівым. Вось чаму ён так самаддана адстойваў, змагаўся ў творчасьці й жыцьці

за незалежнасьць Беларусі, за тое, каб мы занялі свой пачэсны пасад між усімі народамі. Ён кожнаю крывінкаю свайго сэрца любіў Беларусь — свой родны дом. У апошнія гады Васілю Ўладзімеравічу давялося пакінуць гэты дом. І трэба падзякаваць усім добрым людзям за мяжою, якія прытулілі геніяльнага пісьменьніка, якія далі магчымасьць яму на старасьці гадоў спакойна жыць і працаваць. Але душа і сэрца Быкава былі тут. У пісьмах да мяне Васіль Уладзімеравіч піша: «Усё болей прыходжу да элемэнтарнай высновы: трэба жыць дома. Каб тое толькі было б магчымым. Дома лепей, канечне. Але для тых, у каго ёсьць людзкі дом. Мы ж яго ня маем. А адносіны да бяздомных у сьвеце — вядома якія». Гэтак пісаў Васіль Уладзімеравіч пра народ, які яшчэ не нарадзіўся.
Гэта, на жаль, так, але хочацца спадзявацца, што гэтыя горкія словы, зь якімі Быкаў адышоў у вечнасьць, скалануць здранцьвелыя, запалоханыя душы беларусаў. Мы павінныя выканаць запавет усіх сваіх слаўных папярэднікаў, запавет Васіля Быкава і пабудаваць свой утульны беларускі дом, сваю незалежную Беларусь. Я калісьці напісаў чатыры радкі такія, верш такі кароткі «Воля» і прысьвяціў яго Васілю Ўладзімеравічу. Ён гэты верш ведае:

Пра гэта я думаю зараз найболей,
Адпрэчыўшы новай хлусьні каламуць.
Якая ты ўсё ж неацэнная, воля,
Калі за скарынку цябе прадаюць.

Як бы хто ні хацеў прынізіць нашую беларускую нацыянальную чалавечую годнасьць, растаптаць нашу мову, культуру, усё нашае духоўнае багацьце і выставіць нас перад усім сьветам нягеглымі людзьмі, якія без дапамогі нейкага суседа, нейкага дабрадзея ня могуць пражыць на белым сьвеце — гэтага зрабіць нікому ня ўдасца. Мы, беларусы, надзвычай багатыя людзі, мы маем Васіля Быкава. Я кажу «маем», таму шта прарок, анёл, заступнік пасьля зямнога жыцьця не памірае. Ён назаўсёды застаецца са сваёй айчынай, са сваім народам. Бывайце, дарагі, любімы ўсімі намі Васіль Уладзімеравіч! І прабачце за ўсе пакуты, за пакуты маральныя, за пакуты фізычныя, якія вам, зраненаму салдату, абаронцу нашай радзімы, тонкай душы мастаку давялося за сваё жыцьцё вытрымаць. Мы заўсёды будзем помніць вас.

*Старшыня Саюзу мастакоў Уладзімер Басалыга:* Любая бацькаўшчына! Шаноўнае спадарства! Дарагія родныя! Сёньня мы разьвітаемся з Васілём Быкавым. Можна сказаць шмат вельмі станоўчага, вельмі чалавечага і добрага пра гэтага чалавека. Але ж, што б мы ні сказалі й колькі б ні сказалі, то ўсё гэта аб'ядноўваецца імем і прозьвішчам: Васіль Быкаў. Ён — наша мужнасьць, ён — нашае разуменьне праўды, ён — нашае сумленьне, ён — на што многія з нас арыентаваліся і арыентуюцца ў жыцьці. Ён адыходзіць. Кожны з нас аддаў бы часьціну сябе, каб можна было гэтым самым утрымаць яго на гэтым сьвеце яшчэ некалькі хвілін, часін, гадоў... Але няма магчымасьці адкупіцца ні ў Бога, ні ў лёсу, ні ў хваробы.
Васіль Уладзімеравіч! Твая душа яшчэ з намі, яна лунае над намі ў гэтым небе, якое над табою, паміж гэтых дрэваў. Яна, твая душа, яшчэ на гэтай зямлі, якую так ты моцна любіў! І хай яна чуе наш апошні зварот! Васіль! Калі надарыцца быць там і сустрэць душы нашых выдатных сыноў Беларусі, пачынаючы ад Эўфрасіньні, Скарыны, Буднага Сымона, Цяпінскага, Цёткі, Караткевіча, Каліноўскага, Коласа, Купалы, перадай ім, што Беларусь яшчэ жыве і будзе жыць, пакуль у яе ёсьць, былі і будуць такія сыны як сам Васіль Быкаў і як тыя папярэднікі, якіх я назваў і якіх яшчэ шмат у нашай гісторыі. Бывай, наш любы чалавеча! Мы цябе будзем доўга-доўга помніць! І прабачай нас, калі мы чымсьці пры жыцьці табе не дапамаглі. І хай цябе

ўшануе там, у тым жыцьці, Гасподзь Бог! Хай ён табе прабачыць усё тое, пра што тут казалася ў малітве, бо не бязгрэшныя. Але для нас ты сьвяты чалавек, сьвяты ў сваіх творах, у сваіх учынках, сьвяты душою, сьвяты сэрцам, сьвяты розумам. Бывай, дружа! Бывай, дарагі чалавек!

*Старшыня Канфэдэрацыі творчых саюзаў Беларусі Іван Вашкевіч:* Людзі добрыя! Ірына Міхайлаўна! Апошнія словы... Магчыма, сёньня і адбудзецца тая клятва тым думкам, памкненьням, ідэям Васіля Быкава. А яны вельмі простыя: быць гаспадарамі на сваёй зямлі, стварыць свой агульны дом, дзяржаву, за якую б не было сорамна перад сьветам; шанаваць і дружыць з усімі суседзямі, якія нас паважаюць. Пры жыцьці клясык — беларус, які пайшоў у сьвет белы. Трэба жыць, каб выканаць гэтыя запаветы. Жыве і будзе жыць Беларусь! Зямля пухам вам і дай вам Бог царства нябеснага.

*Пісьменьнік Анатоль Кудравец:* Вялікая жалоба прыйшла на беларускую зямлю: памёр Васіль Быкаў, памёр чалавек, адно імя якога было гарантам, што Беларусь жыве. Беларусь хварэе, але Беларусь змагаецца за сябе, за самую сябе, за сваю незалежнасьць, за сваю будучыню, за дзяцей сваіх, за сваю памяць, за сваю родную мову. Памёр пісьменьнік, кожнае слова якога было словам жорсткай, балючай, але гаючай праўды, праўды без ілюзіяў і ружовага туману. Памёр патрыёт, кожнае імгненьне жыцьця якога аддана за змаганьне, за шчасьце свайго народу, за тое, каб народ нарэшце ўстаў з калень на свой поўны вялікі заслужаны рост. Памёр прарок. Я назваў бы яго сумным праракам. І не віна прарока, што ён сумны. Бо такое сумнае кругом жыцьцё. Бо такія нярадасныя наперадзе пэрспэктывы. Сваім розумам, сваёй інтуіцыяй Васіль Быкаў угадваў, прадчуваў тую чарнату, якая толькі зараджалася ва ўладных галовах, ва ўладных структурах і стараўся папярэдзіць аб гэтым людзей. Ён не хацеў, каб чорнае засланяла сьветлае. Ён не хацеў бачыць свайго народу ў хлусьні і бязьвер'і. Гэта быў чалавек, які ўсёй натурай сваёй, усім сваім жыцьцём, цяжкім, але прыгожым, упарта паказваў хлусьлівасьць такой выгаднай уладзе казачкі пра вечна памяркоўнага, прыніжанага і бязвольнага беларуса. У сваіх творах ён расказаў пра беларуса-патрыёта, беларуса-змагара, у грудзях якога, нават у найцяжэйшай сытуацыі, на мяжы жыцьця і сьмерці, б'ецца агонь непакоры, агонь змаганьня, веры ў перамогу. Гэты агонь нязгасна жыў у яго сэрцы. Ён ня ўмеў хавацца за чужыя плечы, ён прайшоў сваё жыцьцёвае міннае поле годна, не згінаючыся, ня робячы крутых палахлівых віражоў.
Пайсьці і не вярнуцца — як быццам прадракаў яму лёс. А ён пайшоў і вярнуўся. Гэта шчасьце для Беларусі, што ў далёкім 1943 годзе, у засьнежаных стэпах Кіраграваддчыны нямецкі танк не растаптаў яго. Тым самым Бог пакінуў яго жыць, жыць для Беларусі, жыць для беларускага народу, жыць для ўсясьветнай культуры. Бог прывязаў яго, як галерніка, для той работы, якая была пад сілу толькі яму. І гэтую работу ён мужна, цярпліва, настойліва рабіў і зрабіў. Доўгая была яго дарога дадому, доўгая — на ўсё жыцьцё. Ён вярнуўся ў Беларусь і пайшоў дадому, пайшоў туды, адкуль не вяртаюцца, пайшоў у вечнасьць. Як салдат, які перажыў вайну, ён не любіў бравурных маршаў. Ён любіў цішыню. Як чалавек і мастак ён любіў усе колеры жыцьця. Але як патрыёт ён аддаў перавагу двум колерам: беламу і чырвонаму. Дык пасадзім жа на яго магіле белыя і чырвоныя кветкі й будзем даглядаць, каб яны ніколі не завялі! І пакладзем пучок палявых васількоў. Ён вельмі любіў іх. Бывай, дарагі Васіль Уладзімеравіч! Хай мяккім пухам будзе табе наша родная беларуская зямелька! Бывай!

*Старшыня расейскага Саюзу пісьменьнікаў Масквы Юры Чарнічэнка:* Я магу гаварыць толькі ад гораду Масквы, таму што выступаю як старшыня Саюзу

пісьменьнікаў толькі ад Масквы, а Расея — яна на дзесяць гадзінавых паясоў. Дзякуй Беларусі, што яна нарадзіла такога вялікага настаўніка, апостала і прарока, які зьбіваны — звычайна дома прарока зьбіваюць камянямі сувымернымі, хто якое сумленьне мае і галаву на плячах. Дзякуй «Новому миру» Твардоўскага, які падняў напісанае з Горадні да ўсясьветнага ўзроўню, і пакараны быў «Новый мир» і Твардоўскі, і сьмяротную кару прыняў за такіх, як Быкаў, якога і вывеў на ўзровень усясьветны. Дзякуй ад усёй душы за вяртаньне паветра свабоды, якім я сёньня дыхаю ўвесь дзень. Гэта паветра нашага жніўня 1991-га, таму што такой дэманстрацыі волі й адданасьці, прыстойных твараў я даўно ня бачыў, таму што гэта было ў сумны дзень сьвята. Нехта можа танчыць у гэты дзень як карась на патэльні — гэта ягонае гора, але такія ўсенародныя праводзіны, якія Менск наладзіў свайму вялікаму настаўніку, які нікому не даруе, — гэта было сьвята. Я жадаю вяртаньня гэтага паветра майму гораду, дзе ўжо сорак гадоў я жыву ў гарах, Вераб'ёвых гарах. Я ўдзячны гэтым тысячам ці дзясяткам тысяч чалавек, якія зьдзейсьнілі — што там казаць «грамадзянскі»... — якія былі людзьмі. І гэтага дабіваўся ад чалавека Сотнікаў, які ў сьвеце, у побыце зваўся Быкаў Васіль Уладзімеравіч. Даруй, калі што ня так...

*Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Валеры Фралоў* выказаў пажаданьне, каб «у кіраўніцтве краіны былі людзі, якія б лічылі за гонар і абавязак прысутнічаць на пахаваньні такога чалавека як Васіль Быкаў. Каб краінай кіравалі такія людзі, якія не забіралі б свайго вянка перад труной нябожчыка ў апошнюю хвіліну... У сваёй працы група «Рэспубліка» будзе кіравацца тымі поглядамі на жыцьцё, зь якімі жыў Васіль Быкаў. І калі кожны з нас будзе рабіць усё, што ад яго залежыць, мы неўзабаве пабудуем сьветлую і добрую краіну».





*Віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру Ўладзімер Арлоў:* Дарагая Ірына Міхайлаўна, Сяргей, родныя і блізкія, шаноўнае спадарства!

Вялікае бачыцца на адлегласьці. Але ўжо сёньня мы разумеем, што страцілі генія. Генія нашай літаратуры, нацыянальнага празорцу і прарока.

Прароцтвы Васіля Быкава ніколі не былі сьветлымі. Будзем спадзявацца, што ня ўсе зь іх спраўдзяцца. Аднак яны мусілі гучаць, каб засьцерагаць нас ад аблуды і трагедыі. Ува ўсе часы ўлада нязьмерна больш любіла не жывых, а мёртвых геніяў. «Нашая» ўлада няздатная нават на гэта. Напэўна, таму, што вярэдліва ўсьведамляе: некалі яе, у лепшым разе, мімаходзь згадаюць нядобрым словам. А ў гісторыі і ў памяці Беларусі навечна застанецца **Быкаў**.

Няхай зь любоўю прыме ягоную душу нябесная Беларусь. Няхай будзе пухам для яго цела беларуская зямля, якую ён умеў любіць, як ніхто іншы. Бывайце, дарагі Васіль Уладзімеравіч!

*З разьвітальным словам таксама выступіў Станіслаў Шушкевіч.*

## ТРУНУ ЗЬ ЦЕЛАМ ВАСІЛЯ БЫКАВА АПУСЬЦІЛІ Ў МАГІЛУ

25 чэрвеня 2003

***Аляксандар Лукашук, Менск***

18.55. Труну зь целам Васіля Быкава засыпаюць зямлёй.

Людзі, што стаяць вакол, сьпяваюць «Магутны Божа». На могілках — тысячы людзей.

## БЕЛАРУСЫ РАЗЬВІТВАЛІСЯ З ВАСІЛЁМ БЫКАВЫМ

25 чэрвеня 2003

***Галіна Абакунчык, Менск***

> Да менскага Дому літаратара на разьвітаньне з Васілём Быкавым прыйшлі тысячы людзей з кветкамі і бел-чырвона-белымі сьцягамі. Чарга да залі, дзе стаяла труна зь целам вялікага пісьменьніка, расьцягнулася на некалькі соцень мэтраў.

Правесьці народнага пісьменьніка Беларусі ў апошні шлях прыйшлі людзі сталага веку і зусім юныя, вядомыя палітыкі й шараговыя грамадзяне. Колькасьць прысутных многіх уразіла. Вось што казалі людзі:

*Спадарыня:* Вельмі цяжка, вельмі балюча, і я ўдзячная ўсім, хто сюды прыйшоў. Я ведала, што людзі будуць, але не ўяўляла, што так шмат. Я сама больш за гадзіну стаяла ў чарзе. Боль, страшэнны боль, што мы згубілі Быкава.
*Спадар:* Гэты чалавек мне дарагі ня толькі як духоўны апостал беларускага народу, як пісьменьнік, як філёзаф і мысьляр, але і як асоба. А яшчэ ён мой зямляк. І я разьвітваюся ня толькі з асобай, але яшчэ і зь земляком.
*Спадарыня:* Ведаеце, я бязь сьлёзаў не магу пра гэта казаць. Але няхай нашыя ворагі сёньня паглядзяць, колькі народу прыйшло. Няхай паглядзіць уся Эўропа, што ёсьць наш беларускі народ, што нашая мова жыве. І гэта паказаў наш народны пісьменьнік Васіль Быкаў.
*Спадар:* Для мяне Васіль Быкаў — гэта вялікі беларускі патрыёт, мужная неардынарная асоба, ён ва ўсе часы не баяўся супрацьстаяць таталітарнай сыстэме, зрабіўся ізгоем, але застаўся сабой.
*Спадарыня:* Усе гэтыя тры дні я адчуваю, што мы страцілі частку Беларусі. І я лічу, што ў краіне мусілі





былі абвясьціць агульную жалобу, каб людзі ведалі, каго яны страцілі. Але я гляджу на гэтых людзей, якія прыйшлі разьвітацца з Васілём Быкавым, і разумею, што ўсё-такі жыве Беларусь.

Людзі ішлі з кветкамі, бел-чырвона-белымі сьцягамі й уласнымі вершамі. І амаль кожны зь іх казаў, што прысутнасьць на пахаваньні Васіля Быкава ёсьць грамадзянскім абавязкам кожнага беларуса і грамадзяніна гэтай краіны.

*Спадар:* Я лічу, што гэта абавязак кожнага грамадзяніна — прыйсьці й аддаць пашану такому вялікаму чалавеку. Гэта вялікі чалавек, ён шмат рабіў, каб Беларусь ведалі ў сьвеце.
*Спадарыня:* Я не магла не прыйсьці, бо я любіла гэтага чалавека: праўдзівага, строгага — як героя. І цяпер я паглядзела, што ён і ў труне ляжыць як герой. І я вельмі ўдзячная прэзыдэнту Лукашэнку і ўсёй ягонай экіпе, што яны аддалі нам нашага Быкава, што паўсюдна бел-чырвона-белыя сьцягі.
*Спадар:* Мяне крыху засмучае вось гэтая фраза — «пакінуў нас». Васіль Быкаў нас не пакідаў, ніколі не пакіне і будзе заўсёды з намі. Наадварот, яшчэ прыйдзе ў дом кожнага беларуса.
*Спадар:* Сёньня мы разьвітваемся ня проста зь пісьменьнікам, ня проста з цудоўным чалавекам, а часткай нашай радзімы. Бо для мяне Быкаў атаесамляецца найперш з радзімай, а затым зь літаратурай.

## СЬВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ: «МУЖНАСЬЦЬ ІДЭАЛІЗМУ»

25 чэрвеня 2003

Вядомая пісьменьніца апавядае, што значыў Васіль Быкаў у ейным жыцьці.

*С.Алексіевіч:* Вельмі цяжка гаварыць цяпер, бо яшчэ некалькі тыдняў таму я чула жывы голас Васіля Ўладзіміравіча. І мы размаўлялі пра ўсё — але не пра тое, пра што хочацца казаць цяпер. А цяпер хочацца казаць пра тое, што мы ўсе не пасьпелі сказаць яму: і ён быў далёка ад нас, і мы былі занятыя — сабою і гэтым жахлівым часам. Я маю на ўвазе перш за ўсё тое, што адбываецца ў нас у Беларусі. Я не пасьпела сказаць яму пра тое, што я яго вельмі люблю. У гэты цяжкі час ён уратаваў годнасьць усіх нас, нашую нацыянальную годнасьць. Шмат у якіх краінах я чула: «Дзе вы, дзе гэты беларускі народ, дзе гэтая беларуская мова, дзе беларуская эліта?» Аднак пры гэтым заўжды гучала рэфрэнам: «Але ў вас ёсьць Быкаў». Штосьці для нас усіх сышлося ў гэтай асобе, хаця здавалася, што мы маем справу з народам і часам, калі няма ніякіх апосталаў, праведнікаў, прапаведнікаў. Не, як высьвятляецца, ёсьць. У нас быў гэты чалавек. Мы любілі яго, і мы верым, што будзе нейкая іншая будучыня. І яго няўрымсьлівая шчырасьць, раскошная для цяперашняга часу, няздольнасьць да любога кампрамісу — гэта тое, што застанецца з намі разам зь яго кнігамі, разам зь яго здагадкамі й перасьцярогамі. Застанецца асоба — асоба шчырая, ідэалістычная. У яго была мужнасьць ідэалізму.





## «ПЕРАКЛАДАЦЬ ЯГО АПОВЕСЬЦІ БЫЛО ПАКУТАЮ І ШЧАСЬЦЕМ АДНАЧАСНА»

25 чэрвеня 2003

Элена Корці, перакладчыца твораў Быкава на італьянскую мову, згадвае свае сустрэчы зь пісьменьнікам.

*Э.Корці:* У панядзелак мне тэлефануе мой муж і кажа, што ў Менску памёр Васіль Быкаў. Я маўчу, у мяне замерла сэрца. Я толькі зьбіралася яму тэлефанаваць — у мяне, відаць, было прадчуваньне. Я не люблю нэкралёгаў, ня буду казаць пра вялікага пісьменьніка, якім радзіма ганарыцца. Многія могуць сказаць гэта нашмат лепш за мяне. Я хачу сказаць пра чалавека. Мы з Васілём пазнаёміліся ў сьнежні 1999 году ў Фінляндыі, правялі разам некалькі гадзінаў, выбралі аповесьці для італьянскіх выдавецтваў. Гэта была незабыўная размова. Яго сьветаўспрыманьне, ягоная мудрасьць, яго суворы, але спагадлівы погляд на сьвет чалавецтва мяне моцна ўражваюць. Мы сталі сябрамі. Калі ў Італіі выйшлі перакладзеныя мной яго аповесьці, мы зь ім і зь ягонай жонкай Ірынаю правялі на запрашэньне выдаўца некалькі дзён у Міляне і ў Рыме. Хаця мы былі там дзеля працы, ён выступаў, а я яго перакладала, час ад часу мы хадзілі па горадзе, а калі стамляліся, сядзелі ў кавярні. Я наноў адкрыла Мілян і Рым праз яго і Ірыніны неверагодна маладыя, зачараваныя вочы. А потым мы яшчэ сустракаліся ў Празе, вячэралі ў нашым доме. Адыходзяць сябры, адышоў і Васіль. Не, ён не адышоў — ён жывы, ён жыве ў маім сэрцы, у маёй памяці і ў памяці і ў сэрцы ўсіх, хто чытаў, чытае і будзе чытаць яго выбітныя творы. Перакладаць яго аповесьці было для мяне пакутаю і шчасьцем адначасна. Перад высокай літаратурай перакладчык заўсёды трымціць. Але перш за ўсё гэта было духоўнае ўзбагачэньне, за якое я яму назаўжды ўдзячная.

## АЛЯКСАНДАР ЛУКАШЭНКА НАВЕДАЎ СЬВЕТЛАГОРСК

25 чэрвеня 2003

***Казімер Яноўскі, Сьветлагорск***

Калі ўся Беларусь разьвітвалася з Васілём Быкавым, Аляксандар Лукашэнка знаходзіўся ў Сьветлагорску, на цэлюлёзна-кардонным камбінаце. Адрозна ад усіх ранейшых візытаў у рэгіён, сёньня Аляксандар Лукашэнка ў Сьветлагорску ня выйшаў да журналістаў. Склалася меркаваньне, што ён не жадаў пачуць нязручнага пытаньня пра Васіля Быкава.

У акцыянэрным таварыстве «Сьветлагорскі цэлюлёзна-кардонны камбінат» Аляксандар Лукашэнка абвясьціў, што забірае акцыі камбінату і зробіць яго дзяржаўным. Толькі на такіх умовах можна будзе выдаткаваць 15 мільёнаў даляраў на мадэрнізацыю вытворчасьці цэлюлёзы і выпуску кардонных вырабаў. Цяпер у акцыянэрным таварыстве дзяржава мае 47% акцыяў, працоўны калектыў — 12%, астатнія, паводле кіраўніка, аддадзеныя невядома каму. Рабочым камбінату Аляксандар Лукашэнка раіў не крыўдаваць, калі і 12% акцыяў, што належаць калектыву, ён таксама забярэ. Дывідэндаў на іх усё роўна няма. Акцыі могуць апынуцца «у нейкага расейскага замежнага чалавека».
У Сьветлагорску Аляксандар Лукашэнка заслухаў і старшыню райвыканкаму Баляслава Пірштука пра ўкараненьне ў раёне дзяржаўных сацыяльных стандартаў у жыльлёвай і камунальнай сфэрах. Як высьветлілася, дзевяць стандартаў з сарака чатырох сьветлагорская вэртыкаль яшчэ ня здолела прапанаваць насельніцтву. Сярод іншага, сьветлагорцы недастаткова забясьпечаныя месцамі ў школах. Гэта асабліва паказальна, бо летась у горадзе на рашэньне гарвыканкаму быў зачынены адзіны беларускамоўны ліцэй.





## 100 ГАДОЎ ТАМУ НАРАДЗІЎСЯ ДЖОРДЖ ОРУЭЛ

25 чэрвеня 2003

***Сяргей Шупа, Прага***

Сёньня — 100-я гадавіна з дня нараджэньня брытанскага пісьменьніка Джорджа Оруэла, раманы якога «Фэрма» і «1984» пакінулі глыбокі сьлед ва ўсясьветнай літаратуры.

Беларускі кантэкст стагодзьдзя Оруэла зазначыўся сумным супадзеньнем — яно прыпадае на той самы дзень, калі ў Менску хаваюць Васіля Быкава. Вось жа ў сёньняшніх юбілейных нататках нельга не згадаць пра агульны кантэкст, які зьвязвае таго, хто сто гадоў таму прыйшоў на гэты сьвет, і таго, хто гэтымі днямі яго пакінуў. Оруэла і Быкава зьвязвае ня толькі тое, што сёньня іх прозьвішчы стаяць амаль побач у газэтах розных краінаў сьвету. Оруэл, як і Быкаў, пісаў і «акопную» літаратуру — у ягоным рамане «Памяць аб Каталёніі» апісваецца суровая праўда аб грамадзянскай вайне ў Гішпаніі, дзе, як і ў Быкава, гэтая праўда значна складанейшая за чорна-белыя ідэалягічныя схемы. Быкаў, як і Оруэл, пісаў сацыяльна-палітычныя прыпавесьці й памфлеты — у творах зь ягонай кнігі «Пахаджане» перад намі паўстае гратэскна-страхатлівая тапаграфія антыўтопіі, дзе, як і ў Оруэла, бязь цяжкасьці пазнаюцца постаці і краявіды навакольнай рэальнасьці. Калі ў бурлівыя часы пераменаў на пераломе 1980–90-х гадоў у постсавецкіх краінах пачалі адкрыта выдавацца творы Джорджа Оруэла, здавалася, што яны безнадзейна спазьніліся і незваротна страцілі сваю актуальнасьць. На вялікі жаль, прынамсі, для Беларусі, абсурдны сьвет Оруэлавых антыўтопіяў надалей шмат у чым перагукаецца з навакольнай будзёншчынай. У сваіх прыпавесьцях Быкаў яшчэ больш выразна абазначыў контуры гэтай новай беларускай рэальнасьці, але сама

гэтая рэальнасьць сталася для яго невыноснай, і ён вырваўся зь яе, каб вярнуцца толькі для сваёй апошняй зямной дарогі. Цяпер абодва вялікія пісьменнікі XX стагодзьдзя будуць сузіраць з халоднай вечнасьці наш недасканалы сьвет, які яны ў сваім зямным жыцьці імкнуліся ўратаваць, папярэджваючы нас сваімі змрочнымі прароцтвамі.

## ДЫРЭКТАР УСХОДНІХ МОГІЛАК АСАБІСТА КАНТРАЛЯВАЎ, КАБ ВЯНОК АД А.ЛУКАШЭНКІ НЕ ЗАКЛАДВАЛІ КВЕТКАМІ

26 чэрвеня 2003

***Валер Каліноўскі, Менск***

> Да магілы народнага пісьменьніка людзі прыяжджаюць сем'ямі, прыходзяць паасобку, са сьвечкамі й кветкамі. Сярод іх і тыя, хто не пасьпеў на разьвітаньне з народным пісьменьнікам у Доме літаратара, і тыя, хто адстаяў там дзьвюхгадзінную чаргу, менчукі й жыхары іншых гарадоў.

З самай раніцы да магілы Васіля Быкава на Ўсходніх могілках Менску ішлі дзясяткі людзей, некаторыя адпрасіліся з працы, прыехалі сем'ямі, зь дзецьмі, як Уладзімер Хаданкоў, які быў тут з трыма дочкамі:

*У.Хаданкоў:* Мы прыехалі з Воршы, каб аддаць даніну павагі нашаму сумленьню нацыі. Васіль Быкаў — гэта тое, што ў нас было, такіх людзей адзінкі. Гэта найлепшае, што было ў нацыі. Калі Расея слаўная сваім Салжаніцыным, то мы — сваім Быкавым. Адзінае, што мяне абурае, што стаўленьне ўлады нават і ў гэтым выпадку — зьдзек. Нават тут, з памяці ягонай. Гэтае выпячваньне вось гэтага...





Уладзімер Хаданкоў паказаў пры гэтым на чырвона-зялёны вянок ад кіраўніка дзяржавы, які быў адмыслова прыстаўлены да магілы Васіля Быкава на самым бачным месцы, з надпісам на стужцы «Прэзидент Республики Беларусь А.Г.Лукашенко». Дырэктар Усходніх могілак асабіста кантраляваў, каб вянок ад А.Лукашэнкі людзі не закладвалі кветкамі. Побач з афіцыйным вянком прызнаньне народнай любові — вялікі букет розных палявых кветак у трохлітровым слоіку ды запаленыя сьвечкі.

*Э.Бірыла:* Я не магла прыйсьці ўчора, кепска мне было. Быкаў — душа беларускага народу, сьветач нашай культуры. Гэта наш Дастаеўскі, хоць Дастаеўскі быў беларус... Быкаў — гэта глыбіня. Я ўсе дні не магу прыйсьці ў сябе, — сказала жыхарка Менску Эмілія Бірыла, удава акадэміка Мікалая Бірылы, які пахаваны побач з Быкавым.

Пакуль начальнік управы Міністэрства культуры Беларусі Тадэвуш Стружэцкі ня змог паведаміць пра плян дзяржаўнага ўшанаваньня памяці Васіля Быкава. Не было яшчэ паседжаньня дзяржаўнай камісіі, не паступіла прапановаў ад урадавых і грамадзкіх структураў, але спадар Стружэцкі кажа, што такое ўшанаваньне адбудзецца:

*Т.Стружэцкі:* Думаю, што ў любым выпадку, канечне, будуць уносіцца прапановы і на ўрадавым узроўні, таму што імя таго заслугоўвае.

Тым часам у Саюзе пісьменьнікаў сёньня разглядалі прапановы аб увекавечаньні памяці Васіля Быкава, якія да канца тыдня будуць перададзеныя ва ўрад. Як зазначыў старшыня Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Алесь Пашкевіч, размова ідзе аб паўнамаштабным увекавечаньні імя Васіля Быкава:

*А.Пашкевіч:* Тут казённа, бюракратычна і па завядзён-

цы: вуліца, музэй, школа, унівэрсытэт імя народнага пісьменьніка. І найперш, канечне, выданьне збору твораў.

Алесь Пашкевіч кажа, што пісьменьнікі прапануюць паставіць помнікі Васілю Быкаву ў Менску і на ягонай радзіме, давесьці да ладу хату, дзе нарадзіўся пісьменьнік у вёсцы Бычкі на Вушаччыне. Ужо сёлета выдавецтва «Мастацкая літаратура» зьбіраецца выпусьціць першыя два тамы збору твораў Васіля Быкава, сродкі на гэта ёсьць. Алесь Пашкевіч паведаміў, што будзе створаная грамадзкая камісія дзеля захаваньня спадчыны Васіля Быкава. Галоўную ролю ў ёй будзе мець пісьменьнікава ўдава Ірына Міхайлаўна.

## РЫГОР БАРАДУЛІН: «ПЕРАД ГЕНІЕМ БЫКАВА ЎСЕ ГЭТЫЯ КАМУНІСТЫ, СУПЭРКАМУНІСТЫ, ПОСТКАМУНІСТЫ, ПОЦ-КАМУНІСТЫ БЛЕДНЫЯ»

26 чэрвеня 2003

***Юры Сьвірко, Менск***

Галоўнай тэмай дня для двух беларускіх тэлеканалаў — БТ і АНТ — стала наведваньне Аляксандрам Лукашэнкам Сьветлагорскага раёну. У праграме «Панарама» сюжэт пра пахаваньне Васіля Быкава пачаўся на 25-й хвіліне.

Абодва каналы ўшчувалі апазыцыю за тое, што яна карысталася бел-чырвона-белымі сьцягамі ды што шэсьце было нібыта пераўтворанае ў «палітычнае шоў». Першы нацыянальны тэлеканал дайшоў нават да таго, што паведаміў у 21.25 наступнае: Васіля Быкава «пахавалі з усімі дзяржаўнымі й ваеннымі ўшанаваньнямі». Хаця ніводнага высокапастаўленага дзяржаўнага чыноўніка ці вайскоўца на могілках не было. «Панарама» таксама заявіла, што «труну насілі па вуліцах». Гэта значна адрозьніваецца ад таго, што было насамрэч — труну несьлі па праспэкце Скарыны.

Я зьвярнуўся да тых, хто браў удзел у гэтым шэсьці ды прысутнічаў на Ўсходніх могілках Менску, з пытаньнем: «Як, на вашую думку, прайшло пахаваньне Васіля Быкава?» Вось як адказаў на гэта старшыня Саюзу пісьменьнікаў Алесь Пашкевіч:

— Прайшло годна і дастойна, як таго заслугоўвае нацыянальны прарок, народны пісьменьнік.

— Тое, што ўлада вам ніяк не дапамагала — перашкаджала, можа? Як вы ацэньваеце?

— Хаваў народнага пісьменьніка народ. Тое, што ўлада не дапамагала, — маецца на ўвазе, фізычна, арганізацыйна — не перашкодзіла, і ўрэшце сталася так, як мог марыць Васіль Уладзімеравіч.

З гэтымі словамі спадара Пашкевіча салідарны народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін:

— Тут я чуў, як пачыналася шэсьце — нехта гаворыць: гэта будзе, відаць, як Машэрава. Я гавару, што Машэрава — гэта было арганізаванае камуністамі: ад кожнага заводу па тры чалавекі і таму падобнае. Такога шэсьця ў Беларусі на наступныя пяцьдзясят гадоў ня будзе. Гэта яшчэ раз паказвае, што беларусы прачынаюцца — гэтае шэсьце пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. І тут адступіла міліцыя. Гэта Васіль Быкаў, відаць, нават зварухнуў сумленьне ў самых камуністаў і прыхільнікаў калхознага сацыялізму. Васілю Быкаву нават Бог даў надвор'е — абяцалі ж праліўныя дажджы, вы разумееце? А па народнай традыцыі — вось якраз Валя Быкава, сястрыца родная, гаворыць: «У нас калі хаваюць добрага чалавека, заўсёды добрае надвор'е». Гэта яшчэ раз гаворыць, што Бог яго прыняў да сябе, гэта прарок нацыі.

— Як вы ацэньваеце тое, што ўлада ня брала ўдзелу ў пахаваньні?

— Разумееце, я лічу, што ўсё ж ва ўлады цяпер агонія, і ім хапіла нарэшце мазгоў, што лепш ня ўвязвацца. Таму што, як камуністы гаварылі, «нястрымны працэс». Яны зразумелі, што яны адчуюць сваю паразу, таму што перад Быкавым, перад геніем Быкава ўсе гэтыя камуністы, супэркамуністы, посткамуністы, поц-камуністы бледныя.

А вось што сказаў Радыё Свабода, выходзячы з могілак, першы кіраўнік незалежнай Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч:

— Я лічу, што пахаваньне народнага пісьменьніка прайшло па-народнаму. Таму што тут было много сумленных людзей; і так многа, што я нават гэтага не чакаў, хаця думаў, што будзе вельмі многа. І яно яшчэ таму па-народнаму, што ўсе антынародныя сілы тут адсутнічалі.
— А як вы ставіцеся да таго, што Лукашэнкі тут не было?
— Вось я і кажу: усе антынародныя сілы тут адсутнічалі, таму прайшло чыста, прыстойна, духоўна. І, ведаеце, крыўдна, што дажыліся мы да таго, што ўвесь гэты «сброд» не разумее, што такое Быкаў, і пэўныя асобы сьцьвярджаюць, што вучыліся на яго вершах, і ня прыйдуць папрасіць прабачэньня за сваё невуцтва і за сваё хамства.

## САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ ПРАТЭСТУЕ СУПРАЦЬ ХЛУСЬНІ НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ

26 чэрвеня 2003

***Юры Дракахруст, Прага***

Мы паведамлялі, што прадстаўнікі ўлады адмовіліся ўдзельнічаць у пахаваньні Васіля Быкава пасьля таго, як сын пісьменьніка Сяргей паклаў на труну зь целам бацькі бел-чырвона-белы сьцяг. Сёньня Саюз беларускіх пісьменьнікаў і Партыя БНФ выступілі з заявамі ў зьвязку з цынічным і хлусьлівым асьвятленьнем пахаваньня Васіля Быкава ў дзяржаўных мэдыях.

Беларускае тэлебачаньне заявіла, што «насуперак хрысьціянскай маралі разьвітаньне з народным пісьменьнікам Беларусі Васілём Быкавым радыкальная апазыцыя ператварыла ў палітычны фарс. Разьвешаныя белчырвона-белыя сьцягі ня мелі нічога агульнага з народнай жалобаю — і ўсё дзеля таго, каб насаліць уладам імем Быкава нават у дзень яго пахаваньня». Падобным чынам апісвала падзеі і газэта «Советская Белоруссия»: «Некаторыя палітыкі вырашылі зрабіць спаборніцтва на тэму: каму належыць прах Васіля Ўладзімеравіча. Ім ці ўладзе? Улада, нам падаецца, павяла сябе салідна, зрабіла ўсё, каб пахаваньне не пераўтварылася ў звычайны мітынг. А да гэтага ішло».
Сёньня сакратарыят Саюзу пісьменьнікаў прыняў адмысловую заяву, якую зачытаў намесьнік старшыні Саюзу Міхась Скобла:

*М.Скобла:* «25 чэрвеня Беларусь разьвіталася са сваім вялікім сынам Васілём Быкавым, чыя сьмерць адгукнулася ў сэрцах мільёнаў беларусаў незагойным болем. Дзясяткі тысяч людзей праводзілі яго ў апошні шлях. Сябры і паплечнікі пранесьлі труну салдата і пісьменьніка ад плошчы Перамогі да плошчы Якуба Коласа. Аднак афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі Беларусі, у прыватнасьці, Беларускае тэлебачаньне і газэта «Советская Белоруссия» паведамілі пра пахаваньне Васіля Быкава надзвычай тэндэнцыйна і цынічна, ганьбуючы памяць пра вялікага пісьменьніка, абражаючы яго родных і блізкіх. У сувязі з гэтым Саюз беларускіх пісьменьнікаў заяўляе катэгарычны пратэст супраць

хлусьні на дзяржаўным узроўні, якая выклікае абурэньне і агіду ўва ўсіх сумленных людзей».

З заяваю выступіла сёньня і Партыя БНФ. Партыя адзначае, што дзеля пахаваньня Васіля Быкава была створаная дзяржаўная камісія, але ў яе склад не ўвайшлі ні Рыгор Барадулін, ні Генадзь Бураўкін — найбліжэйшыя сябры пісьменьніка, якім безумоўна давярае яго сям'я. Насуперак волі сям'і нябожчыка, — гаворыцца ў заяве БНФ, — плянавалася зладзіць вайсковы рытуал пахаваньня з жаўнерскай вартай, аркестрам і салютам, пры гэтым не дапусьціўшы нават кароткай жалобнай працэсіі па вуліцах гораду. Але ў выніку цырымонію вялі Саюз пісьменьнікаў, Партыя БНФ і некаторыя іншыя арганізацыі. «Болю ад сыходу Васіля Быкава нічым не суняць. Але вялікі творца ўшанаваны так, як належыць постаці такога маштабу ў цывілізаванай краіне. Васіль Быкаў нават сьмерцю сваёй паказаў, хто сапраўдны валадар сэрцаў людзкіх у Беларусі. Гэта быў апошні ўчынак нязломнага Быкава, які даў Беларусі надзею», — гаворыцца ў заяве Партыі БНФ.

## ЛУКАШЭНКА ПАТРАБУЕ ПРАБАЧЭНЬНЯЎ АД НТВ ЗА СЮЖЭТ ПРА ПАХАВАНЬНЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА

26 чэрвеня 2003

***Юры Сьвірко, Менск***

Як паведаміла дзяржаўнае агенцтва БелТА, у чацьвер Аляксандар Лукашэнка правёў рабочую нараду па шэрагу актуальных пытаньняў. У цэнтры ўвагі нарады знаходзіліся таксама пытаньні, якія датычацца жалобных мерапрыемстваў і пахаваньня Васіля Быкава, што прайшлі ў Менску напярэдадні.

Падчас нарады спадар Лукашэнка запатрабаваў самым дакладным чынам праверыць інфармацыю, якая прагучала на расейскім тэлеканале НТВ, пра тое, што беларускія ўлады перашкаджалі пахаваньню Васіля Быкава. Аляксандар Лукашэнка заявіў, што даў даручэньне ўсім органам улады ня ўмешвацца ў жалобныя мерапрыемствы. «Я дакладна і пэўна даў указаньні — зрабіць так, як вырашаць сваякі. Вырашылі сваякі несьці труну па Менску да 20 гадзін вечара — гэта іх права. Хоць гэтым і былі створаныя пэўныя нязручнасьці, але мы ж ня можам разганяць апазыцыянэраў, якія фактычна арганізавалі вакол гэтага дэманстрацыю», — заявіў А.Лукашэнка, хаця труну зь целам Васіля Быкава ўнесьлі на могілкі а 18-й гадзіне.
Паводле агенцтва БелТА, Аляксандар Лукашэнка даручыў дзяржаўнаму сакратару Савету Бясьпекі Генадзю Нявыгласу прызначыць дакладнае расьсьледаваньне ў гэтым пытаньні. «Калі інфармацыя, якая прагучала, была няпраўдзівая, то СМІ павінны неадкладна прынесьці свае прабачэньні дзяржаве, — заявіў А.Лукашэнка і дадаў: — Калі ж хтосьці з прадстаўнікоў органаў улады сапраўды перашкаджаў пахаваньню, дык яны панясуць адказнасьць». На традыцыйным брыфінгу ў Міністэрстве замежных справаў Беларусі сёньня было зададзенае пытаньне, ці плянуюцца якія-небудзь захады супраць НТВ, але прэсавы сакратар МЗС Андрэй Савіных адказаў, што нічога пра такія захады ня ведае.

## ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА

26 чэрвеня 2003

***Георгі Ліхтаровіч, Менск***

Фотамастак Георгі Ліхтаровіч часта фатаграфаваў Васіля Быкава. На сьмерць народнага пісьменьніка ён напісаў верш.

Трымціць непаслухмяная рука,
Баліць душа, і замірае сэрца,
І слова выбіваецца з радка —
Яшчэ не ўсьведамляе сэнсу сьмерці.

Ня стала дуба ў полі — знак бяды.
І навальніца ў роспачы ад ранку:
Цяпер яна ня ведае, куды
Накіраваць наступную маланку?

Жалобная віруе талака,
Ня верыць, што жыцьцё пражыта.
А як радзіме жыць без Васілька?
Ці будзе каласіцца ў полі жыта?

Пакуль мы ў смутнай мітусьні прамоў
Ягоны скон асэнсаваць ня ў стане.
Напэўна, і вярнуўся ён дамоў,
Бо ведаў, што ніколі ўжо ня ўстане?..

Гаротна будзе сьлёзы неба ліць,
А чалавек — да ісьціны імкнуцца...
Каб высьветліць, што мёртвым не баліць,
Ён здольны быў пайсьці і не вярнуцца.

І міласьці ад лёсу не чакаў —
За сьпіны непрывычны быў хавацца.
А нам, жывым, і сьмерцю ўласнай даў
Ці не апошні шанец — аб'яднацца!





## ФРАЙМУТ ДУВЭ НАКІРАВАЎ СПАЧУВАНЬНІ СВАЯКАМ І БЛІЗКІМ ВАСІЛЯ БЫКАВА

26 чэрвеня 2003

Упаўнаважаны АБСЭ ў пытаньнях свабоды слова Фраймут Дувэ накіраваў спачуваньні сваякам і блізкім Васіля Быкава — паводле Дувэ, «вялікага, незабыўнага пісьменьніка, чые творы сталі часткай вечнасьці».

«Беларусь і сьвет страцілі аднаго з найвялікшых пісьменьнікаў сучаснасьці. Васіль Быкаў быў сапраўдным сынам беларускай зямлі і сымбалем культуры сваёй нацыі», — гаворыцца ў лісьце спадара Дувэ. Фраймут Дувэ прыгадвае, што яму асабіста некалькі разоў даводзілася выступаць у абарону пісьменьніка, калі беларускія ўлады «перасьледавалі Быкава за тое, што ён не хаваў сваіх поглядаў на кардынальныя гістарычныя перамены, якія адбываліся ў яго роднай краіне».

## ВІЦЕБСКІЯ АКТЫВІСТЫ КХП БНФ БЫЛІ ЗАТРЫМАНЫЯ ПАДЧАС АКЦЫІ, ПРЫСЬВЕЧАНАЙ ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА

26 чэрвеня 2003

***Браніслава Станкевіч, Віцебск***

Сталічныя ўлады ўстрымаліся ад рэпрэсіяў супраць тых, хто ўшаноўваў памяць Васіля Быкава. У Віцебску ж бяз гэтага не абышлося. Віцебскія актывісты Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Барыс Хамайда і Ян Таўпыга былі затрыманыя міліцыяй падчас акцыі, прысьвечанай памяці Васіля Быкава.

Учора некалькі чалавек, сярод іх спадары Хамайда і Таўпыга, сабраліся на плошчы Свабоды. Яны трымалі бел-чырвона-белы сьцяг з жалобнай стужкай і партрэт Быкава ў чорнай рамцы. Прыкладна праз дваццаць хвілін пасьля пачатку акцыі міліцыя разагнала яе ўдзельнікаў, а Барыс Хамайда і Ян Таўпыга былі затрыманыя і дастаўленыя ў Кастрычніцкі РАУС Віцебску. Ім патлумачылі, што яны затрыманыя за правядзеньне несанкцыянаванага пікету.

## РЭАКЦЫЯ ГРАМАДЗТВА І ЎЛАДЫ НА СЬМЕРЦЬ І ПАХАВАНЬНЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА

26 чэрвеня 2003

***Валер Карбалевіч, Менск***

Перадача «Экспэртыза Свабоды»: удзельнічаюць пісьменьнік Валянцін Тарас і дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандар Лукашук.

*В.Карбалевіч:* Сьмерць і пахаваньне народнага пісьменьніка Васіля Быкава сталі вельмі важнай падзеяй у грамадзкім жыцьці ня толькі Беларусі, але і суседніх краінаў, міжнароднай супольнасьці. Гэтая падзея, водгукі на яе і цяпер знаходзяцца ў цэнтры ўвагі грамадзтва і сродкаў масавай інфармацыі. Вы ўдзельнічалі ў пахаваньні, увесь час кантактавалі з прадстаўнікамі ўлады, Саюзам пісьменьнікаў. Якія вашыя ўражаньні ад рэакцыі грамадзтва? Які водгук выклікала гэтая падзея ў жыхароў Беларусі, беларускай эліты?

*В.Тарас:* Кіраўніцтва Саюзу пісьменьнікаў вяло перамовы зь дзяржаўнымі структурамі наконт пахаваньня Васіля Ўладзімеравіча Быкава. Мы казалі, што мы нешта вам саступім — вы нешта нам саступіце. У прыватнасьці, мы ніяк ня можам адмовіцца ад нацыянальнай сымболікі. Таму што яна была тым, у што верыў, чаму пакланяўся як грамадзянін пісьменьнік Васіль Быкаў. Мы ня можам адмовіцца ад гэтага. Але нават у гэтым нам не саступілі. Тысячы й тысячы людзей бясконца ішлі разьвітацца з Васілём Быкавым. Мы не змаглі задаволіць усіх жадаючых разьвітацца, вымушаныя былі спыніць гэты працэс, таму што пачыналася грамадзянская паніхіда. Яны што, усе прыхільнікі БНФ? Не. Але на гэты раз яны не спалохаліся бел-чырвона-белых сьцягоў.

Васіль Быкаў як пісьменьнік — надпалітычная асоба, надпалітычная зьява. Ягоная творчасьць не прасякнутая ніякай палітыкай. Ягоныя мастацкія творы падпарадкаваныя праўдзе жыцьця і праўдзе мастацтва. Народ гэта адчуў, народ гэта разумее. І ён гэта паказаў падчас разьвітаньня, шэсьця. Таму мне пазыцыя ўладаў абсалютна не зразумелая. Нас абвінавачваюць, што мы ў палітычных мэтах выкарысталі пахаваньне Васіля Быкава. Я думаю, што такі папрок трэба адрасаваць найперш уладам. Яны хацелі выкарыстаць у нейкіх сваіх мэтах гэтую сьмерць, адсунуўшы ўбок нават найбліжэйшых сяброў. Гэта пачалося з таго, што ва ўрадавую камісію арганізацыі пахаваньня не ўключылі прапанаваных Саюзам пісьменьнікаў кандыдатураў Сяргея Законьнікава, Рыгора Барадуліна — найбліжэйшага сябра, духоўнага і творчага брата Васіля Быкава, Генадзя Бураўкіна. Як пасьля гэтага можна казаць пра нейкую павагу да пісьменьніцкай арганізацыі?

*А.Лукашук:* Гэта было народнае пахаваньне. Быкава хаваў народ. Ён усім сваім жыцьцём, усёй сваёй творчасьцю стварыў такую атмасфэру, вызначыў такія каардынаты, у якіх толькі так яно магло і адбыцца. Ён аказаўся настолькі моцным, што нават той палітычны рэжым, які цяпер існуе ў Беларусі, ня змог паўплываць на гэта. Тое, што народ змог годна пахаваць свайго

пісьменьніка, стала самай выразнай рысай гэтай сумнай падзеі. Расейскі публіцыст Юры Чарнічэнка ўчора, прамаўляючы на могілках, сказаў, што вельмі даўно, ад жніўня 1991 году, ён ня дыхаў такім паветрам свабоды, ня бачыў столькі адухоўленых твараў вакол. Перад гэтай свабоднай Беларусьсю ён гатовы быў стаць на калені. Я думаю, што мы прысутнічалі пры гістарычнай падзеі, значэньне якой — нягучнае, ціхае, духоўнае, будзе толькі ўзрастаць з кожным днём, з кожным годам, з кожным новым чытачом, які будзе адкрываць кнігі Быкава.

*В.Карбалевіч:* Хацеў бы працягнуць тую тэму, якую распачаў Валянцін Тарас. Сьмерць і пахаваньне Васіля Быкава паставіла ўладу ў даволі складанае становішча. З аднаго боку, пісьменьнік быў сымбалем беларускага нацыянальнага адраджэньня, то бок такога ідэалягічнага і палітычнага кірунку грамадзкага жыцьця, якога ўлада не прымае, лічыць апазыцыйным і нават варожым. Зь іншага боку, Васіль Быкаў занадта вялікая постаць ня толькі ў беларускім, але і ва ўсясьветным маштабе, каб можна было замаўчаць гэтую падзею. Афіцыйныя органы, дзяржаўныя СМІ паспрабавалі знайсьці нейкую залатую сярэдзіну, адпаведна сваім уяўленьням, зразумела. Па-першае, яны паспрабавалі мінімізаваць інфармацыю аб гэтай падзеі, абмежаваўшыся афіцыйна-казёнымі паведамленьнямі. Па-другое, дзяржаўныя СМІ паспрабавалі зрабіць акцэнт на дзейнасьці Васіля Быкава як пісьменьніка, на яго літаратурных заслугах і вынесьці за дужкі, замаўчаць яго як грамадзкага дзеяча. На ваш погляд, ці ўдалося ўладзе вытрымаць гэтую лінію? Як бы вы ацанілі афіцыйную рэакцыю на гэтую падзею?

*В.Тарас:* Я думаю, што ўладзе не ўдалося вытрымаць гэтай лініі. І тут яе можна папракнуць вось чым. Аляксандар Лукашэнка, выступаючы на праглядзе фільму «Настасься Слуцкая», сказаў, што Васіль Быкаў быў змагаром за незалежнасьць, сувэрэнітэт, свабоду. Пры гэтым ён падкрэсьліў, што яны мелі розныя погляды, па-рознаму глядзелі на сувэрэнітэт, на свабоду. Здавалася б, гэтыя словы Лукашэнкі павінны былі быць нейкім камэртонам для дзяржаўных СМІ. Калі па-рознаму, дык дайце магчымасьць гэтую рознасьць і паказаць. Дзяржаўныя СМІ, калі яны хацелі выказаць сапраўдную павагу да Васіля Быкава, павінны былі ўлічыць і гэты бок ягонай асобы, ягонай дзейнасьці. Але гэтага не адбылося.

*А.Лукашук:* Учора вечарам я глядзеў рэпартаж тэлебачаньня. Яны хлусілі, яны проста сьвядома казалі няпраўду ў сваім рэпартажы пра пахаваньне. Яны сказалі такую фразу: «Пахаваньне прайшло з усімі дзяржаўнымі й вайсковымі ўшанаваньнямі». Сьвядома, абсалютна нахабна сказаная яўная няпраўда. Яны вельмі хацелі быць дапушчаныя туды. Бо яны ведаюць: быць з Быкавым — гэта значыць быць там, дзе праўда. Быць супраць Быкава, быць бяз Быкава — у гэтым ёсьць прабглема. Сёньняшнія дзяржаўныя газэты ўражваюць ступеньню цынізму і хлусьні. Цяперашняя пазыцыя ўладаў мне нагадала стаўленьне да чарнобыльскай праблемы. Памятаеце, калі здарылася аварыя, людзі пачалі гаварыць пра радыяцыю, пачаліся крыкі з боку ўлады: «Не палітызуйце Чарнобылю, адыдзіце, не рабіце зь яго палітыкі, не выкарыстоўвайце ў сваіх палітычных мэтах, гэта амаральна». Насамрэч і тады, і цяпер гаворка ідзе не пра боль людзкі, а пра дзеяньні ўлады.
Раніцай у дзень разьвітаньня з Васілём Быкавым я прысутнічаў пры тлумачэньні, якое даваў старшыня дзяржаўнай камісіі ў арганізацыі пахаваньня міністар культуры Л.Гуляка. Ён вельмі мітусьліва паўтараў: «Я дзяржаўны чалавек і не магу прысутнічаць у гэтай залі, дзе ёсьць нацыянальныя сьцягі». Ён потым вельмі хутка, неяк бокам уцякаў. Гэтак была прадэманстраваная не-

сумяшчальнасьць дзяржавы з усім тым, што было дарагое для Быкава.

*В.Карбалевіч:* Яшчэ да пахаваньня Васіля Быкава ўлада пайшла на рэзкую палітызацыю гэтай падзеі. На мой погляд, тактыку ўлады сапсавалі міжнародныя і расейскія СМІ, якія падкрэсьлівалі канфліктныя дачыненьні паміж пісьменьнікам і кіраўніцтвам дзяржавы, нядобразычлівае стаўленьне ўлады да Васіля Быкава. І, здаецца, у афіцыйнага Менску ня вытрымалі нэрвы. Ён пайшоў на дыпляматычны дэмарш у адносінах да Расеі. Пратэст расейскім уладам заявілі і кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта, і міністар замежных справаў Беларусі. На вашую думку, чым тлумачацца такія беспрэцэдэнтныя дзеяньні беларускага кіраўніцтва ў такім далікатным пытаньні? Гэтыя жорсткія палітычныя захады рабіліся ў той час, калі яшчэ не адбылося пахаваньня народнага пісьменьніка.

*В.Тарас:* На гэтым прыкладзе мы яшчэ раз бачым, што ніякага іншадумства, нават самага дробязнага, улада, і асабліва першая асоба ва ўладзе, цярпець ня могуць. І таму, сапраўды, у кіраўніцтва краіны ня вытрымалі нэрвы. Я ня думаю, што расейскія СМІ наўмысна падкрэсьлівалі нейкія рознагалосьсі паміж Быкавым і ўладаю. Яны проста паказвалі існы стан рэчаў. Гэтыя падзеі яшчэ раз прадэманстравалі несумяшчальнасьць Быкава з гэтым рэжымам.

*А.Лукашук:* Для Васіля Быкава ўвага і падтрымка з боку расейскіх літаратараў, з боку Твардоўскага, часопіса «Новый мир» і іншых вельмі шмат азначала яшчэ ў 1960–80-я гады. І тое, што дэмакратычная частка расейскай інтэлігенцыі, «Расея Сахарава», як казаў сам Васіль Быкаў, цяпер зноў адгукнулася і ўспрыняла яго сьмерць як асабістую трагедыю — гэта натуральна. І гэта адлюстравалі расейскія СМІ. Тое, як адрэагавала на гэта беларускае кіраўніцтва, выклікае зьдзіўленьне сваёй неадэкватнасьцю. Гэта цяжка растлумачыць нечым іншым, як эмацыйнай рэакцыяй. Відаць, сыстэма ўлады, якая існуе ў Беларусі, ня церпіць іншых вышыняў. Яна мае на ўвазе, што ёсьць толькі адзін карыфэй. Вось гэтая структурная арганізацыя палітычнага мэханізму, калі рэагуе прымітыўна, то рэагуе менавіта паводле гэтых канонаў.





*В.Карбалевіч:* Ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму любая грамадзкая падзея непазьбежна палітызуецца. Гэта адбываецца аб’ектыўна, незалежна ад жаданьня яе ўдзельнікаў. Пахаваньне ўсясьветна вядомага пісьменьніка не магло пазьбегнуць гэтай заканамернасьці. Жалобнае шэсьце па праспэкце Скарыны зь бел-чырвона-белымі сьцягамі мела, акрамя ўшанаваньня памяці Васіля Быкава, і палітычнае адценьне. Камэнтар Беларускага тэлебачаньня на адрас удзельнікаў пахаваньня, як ужо адзначаў спадар Лукашук, быў жорсткі й агрэсіўны. На ваш погляд, ці выйграла ўлада ў вачах грамадзтва ў гэтай інфармацыйнай вайне?

*В.Тарас:* Я думаю, што ўлада прайграла. Гэта адназначна. Таму што вельмі шмат народу прайшло каля труны Быкава. Мы бачылі, якая рэакцыя была ў людзей. І які смутак выклікала гэтая сьмерць ва ўсім сьвеце.

*А.Лукашук:* Я думаю, што цяжка гаварыць пра ўсё грамадзтва. І тым больш пра ўвесь беларускі народ. Шмат людзей проста ня ведае, што адбылося. Магу толькі паўтарыць словы самога Васіля Быкава, якія гучалі ў апошнія гадзіны разьвітаньня зь ім: «За імі — сіла, за намі — ісьціна». Я думаю, у гістарычным пляне, канечне, перамога за ісьцінаю.

*В.Карбалевіч:* Беларуская ўлада штучна палітызавала такую далікатную падзею як разьвітаньне і пахаваньне Васіля Быкава. Ёй не хапіла элемэнтарнага такту проста не заўважыць таго, што ёй не падабалася. Ператвараць сьмерць у чыньнік палітычнай барацьбы — справа

няўдзячная, яна ня будзе падтрыманая беларускай масавай сьвядомасьцю. Жорсткія палітычныя ацэнкі апанэнтаў, нават замежных, ня сьведчаць пра сілу ўлады, ня кажучы ўжо пра простую разважлівасьць.

## КАРЭСПАНДЭНТУ НТВ ПАЎЛУ СЕЛІНУ ПАГРАЖАЕ ПАЗБАЎЛЕНЬНЕ АКРЭДЫТАЦЫІ І ДЭПАРТАЦЫЯ

27 чэрвеня 2003

***Валер Каліноўскі, Менск***

Рэпартаж карэспандэнта расейскай тэлекампаніі НТВ Паўла Селіна пра пахаваньне Васіля Быкава выклікаў рэзка нэгатыўную рэакцыю беларускіх уладаў. На загад А.Лукашэнкі створаная адмысловая камісія, якая займецца дасьледаваньнем прыведзеных у тэлерэпартажы фактаў.

Сакратар Савету Бясьпекі Генадзь Нявыглас ужо прыгразіў прымяніць да «крыніцаў і асобаў, што распаўсюдзілі гэтую інфармацыю, вызначаныя законам захады». Карэспандэнту НТВ Паўлу Селіну, як калісьці ягонаму папярэдніку Аляксандру Ступнікаву, пагражае пазбаўленьне акрэдытацыі і дэпартацыя зь Беларусі. Уласнага карэспандэнта НТВ Паўла Селіна выклікалі ў Міністэрства замежных справаў для папярэдніх тлумачэньняў наконт трох зьвестак, якія прагучалі ў ягоным рэпартажы: аб тым, што ў жонкі Васіля Быкава Ірыны Міхайлаўны былі праблемы з прапіскай; пра тое, як улады былі вымушаныя забраць чырвона-зялёны дзяржаўны сьцяг ад труны пісьменьніка; і пра тое, як міліцыя адмыслова стварала заторы на праспэкце Скарыны і замінала пахавальнай працэсіі.
Павал Селін назваў усе крыніцы інфармацыі, у праўдзівасьці якой ён абсалютна перакананы. Што да дзеяньняў міліцыі падчас працэсіі, то тут ёсьць прынамсі дзесяць тысяч сьведкаў. Аднак спадар Селін лічыць, што сапраўднай прычынай раздражненьня ўладаў сталі ня гэтыя факты, а выказваньне ў інтэрвію НТВ Станіслава Шушкевіча, які на пытаньне, чаму тут няма Лукашэнкі, заявіў, што Лукашэнку «сорамна тут паказацца, асуджаць Быкава мог толькі невук, і Лукашэнка ня ўзьняўся да такога ўзроўню, каб прыйсьці й папрасіць прабачэньня ў сумленьня нацыі, хаця б тут, каля труны». Павал Селін лічыць, што лёс ягонай працы ў Беларусі, відаць, вырашаны. Аб гэтым сьведчыць тое, што старшыня камісіі, якая павінная была дасьледаваць факты, у той жа дзень зрабіў высновы і ўжо выказаў ацэнку. Гэта спадар Селін лічыць «верхам цынізму». Павал Селін ужо мае адно вуснае папярэджаньне за сюжэт пра тое, як пазбавілі волі былога дырэктара МТЗ М.Лявонава ды пісьмовае папярэджаньне за сюжэты пра разгон маршу «Так жыць нельга» і беларускую эміграцыю.

*П.Селін:* Я думаю, што, хутчэй за ўсё, цяпер будзе другое пісьмовае папярэджаньне, і, калі вы памятаеце, то Сашу Ступнікава, першага карэспандэнта НТВ, выслалі якраз пасьля двух папярэджаньняў. Мяркую, што мне будзе тое самае. Хаця вельмі ня хочацца зьяжджаць зь Менску, я не плянаваў гэтага рабіць, але, канечне, маўчаць у сытуацыі з пахаваньнем Васіля Ўладзімеравіча Быкава таксама было б не па-журналісцку і не па-чалавечы.

Павал Селін лічыць сьмешнымі абвінавачаньні афіцыйнага БТ, што расейскія журналісты пісалі пра сьмерць і пахаваньне Быкава пад рэжысуру Крамля. Ён упэўнены, што большасьць расейскіх журналістаў паведамляла пра дрэннае стаўленьне ўлады да Быкава, бо разумела, што маўчаць нельга, гэта ня той выпадак. Павал Селін з наступнага панядзелка мае двухтыднёвы адпачынак. У яго няма ні жаданьня, ні магчымасьці ўдзель-

нічаць у тым разьбіральніцтве, якое распачала беларуская ўлада. Кіраўніцтва НТВ падтрымлівае Паўла ў гэтай пазыцыі.

*П.Селін:* Я заплянаваў два месяцы таму адпачынак. На жаль, ня ведаў, што пахаваньне Васіля Ўладзімеравіча так адгукнецца. Мне сапраўды вельмі шкада, што мяне могуць пазбавіць акрэдытацыі й напэўна дэпартуюць з краіны. Шкада, бо адна рэч — быць пазбаўленым акрэдытацыі за нейкі палітычны сюжэт, зусім іншая — за сюжэт пра пахаваньне. Гэта адзінае, з прычыны чаго мне па-чалавечы няёмка.

Хаця разьбіральніцтва толькі пачалося, Генадзь Нявыглас ужо назваў большую частку інфармацыі ў рэпартажы П.Селіна «хлусьнёй», якой «будзе дадзеная юрыдычная ацэнка адпаведнымі органамі юстыцыі і пракуратуры». Пры гэтым ён спаслаўся на ўдаву Быкава Ірыну Міхайлаўну — што тая нібыта выказала «абурэньне інсынуацыямі вакол ейнага імя і вакол пахаваньня». Ірына Міхайлаўна кажа, што такога не было:

*І.Быкава:* Усё гэта ня мае да мяне ніякага дачыненьня, бо я нічога не кранала, не гаварыла, не выказвала ніякіх адносінаў. Я ведала, што інакш нельга паводзіць сябе. І так надалей мне прыйдзецца. Калі б я мела іншае прозьвішча, я б ахвотна ў гэта ўлезла, а так нічога ня выйдзе.

Ірына Быкава кажа, што ня будзе спрачацца з Генадзем Нявыгласам, каб не прыніжацца і не прыніжаць імя Васіля Быкава.





## ЛЮДЗІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ ІСЬЦІ ДА МАГІЛЫ ВАСІЛЯ БЫКАВА, КАБ УШАНАВАЦЬ ЯГОНУЮ ПАМЯЦЬ

27 чэрвеня 2003

***Галіна Абакунчык, Менск***

Два дні пасьля пахаваньня Васіля Быкава да магілы пісьменьніка ідуць людзі. Яны нясуць кветкі й сьвечкі, моўчкі стаяць, многія плачуць. Гэта людзі рознага веку — усе, хто ня здолеў разьвітацца каля труны. Прыходзяць і тыя, хто тут ужо ня першы раз.

Вось што людзі казалі ў інтэрвію Радыё Свабода:

*Спадар:* Я ня ведаў, калі разьвітаньне з Васілём Быкавым, але вельмі хацеў прыйсьці. Атрымалася толькі сёньня. Я ведаў яго як пісьменьніка, вядомага на ўвесь сьвет, таму і прыйшоў ушанаваць памяць Васіля Быкава і аддаць яму даніну павагі.
*Спадар:* Мы зь сябрам вырашылі прыйсьці, пастаяць каля магілы, ушанаваць памяць гэтага чалавека. Ён пісаў выдатныя творы пра вайну і ўвогуле творы, якія прымушаюць разважаць пра сэнс чалавечага жыцьця.
*Спадар:* Не атрымалася пабыць на пахаваньні, таму прыехалі сёньня наведаць магілку Васіля Быкава. Вядомы пісьменьнік, франтавік, змагар за свабоду і незалежнасьць, любімец народу — вось што можна сказаць пра гэтага чалавека.
*Спадар:* Я шаную і паважаю гэтага чалавека. Ён мне дарагі, бо ён жыў і працаваў шчыра і сумленна. Гэта тое, чаго сёньня не хапае.
*Спадар:* Я ня мог не прыйсьці, бо падзяляў погляды Васіля Быкава і шанаваў ягоны пісьменьніцкі дар. А яшчэ таму, што пайшоў чалавек такога маштабу, які яшчэ ня хутка зьявіцца ў Беларусі.
*Спадарыня:* Я лічу сябе асірацелай некалькі разоў: няма бацькі, няма маці. Была надзея — Васіль Быкаў. Мне

здаецца, што ён бы яшчэ жыў, калі б яго ня выгналі, калі б ня вымусілі пакінуць Беларусь. Бо я ўпэўненая, што любоў людзей да пісьменьніка павінна працягваць жыцьцё, а тут яму яго скарацілі. Гэта такі велічны, годны чалавек, яго няма, іншых выгналі, альбо яны зьніклі, яго няма — ня стала чым дыхаць.
*Спадар:* Ён быў вельмі шчыры чалавек, вельмі просты, вельмі даступны, культурны чалавек. Нават дзівуесься, што на нашай зямлі — здратаванай, вытаптанай — зьяўляецца такі чалавек. Гэта геній. І тое, што людзі ідуць — таму пацьверджаньне. І яны будуць яшчэ доўга ісьці на заклік уласнага сэрца. Зірнеце, нават магіла Быкава нацыянальная. Мяне толькі зьдзіўляе вось гэты вянок з расейскамоўным надпісам ад «президента Республики Беларусь». Яго закладаюць, але нехта ізноў выцягвае — нехта ж тут у кустах сядзіць і сочыць. Калі яны так любяць Быкава, дык няхай пакажуць па тэлебачаньні ягоны фільм «На Чорных лядах» пра Слуцкае паўстаньне. Калі вы так любіце Быкава, чаму ён ня мог жыць дома — ён пяць гадоў жыў у выгнаньні! Што гаварыць: як мог пакласьці вянок чалавек, які кажа, што ён чытаў вершы Быкава? Ды яны ўвогуле нічога не чытаюць — я не магу нават назваць іх уладаю. Гэта ня ўлада, а нейкі бандыцкі калгас.





## БЫКАЎ НЯ МОГ ЖЫЦЬ У КРАІНЕ, У ЯКОЙ ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ «ЭСКАДРОНЫ СЬМЕРЦІ»

27 чэрвеня 2003

Беларускія ўлады вельмі рэзка зрэагавалі на шэраг публікацыяў у расейскіх мэдыях, якія пісалі пра тое, што Васіль Быкаў апошнія гады быў выгнаньнік, што беларускія ўлады цкавалі яго.

Абурэньне гэтымі паведамленьнямі выказваў Аляксандар Лукашэнка; кіраўнік ягонай адміністрацыі Ўрал Латыпаў адмыслова званіў кіраўніку адміністрацыі прэзыдэнта Расеі Аляксандру Валошыну, каб выказаць пратэст супраць адпаведных публікацыяў. У сувязі з гэтым падаецца дарэчным прывесьці фрагмэнт інтэрвію, якое за месяц да сваёй сьмерці Васіль Быкаў даў расейскай газэце «Аргументы и факты». Гэтае інтэрвію надрукаванае ў апошнім нумары газэты. Пісьменьнік тады казаў: «Я вымушана жыву за мяжою. Рэжым, які стварыўся ў мяне дома, не дае мне жыць і працаваць там. Як можна жыць у краіне, у якой дзейнічаюць «эскадроны сьмерці»? Яны створаныя ўрадавымі структурамі і зьнішчаюць людзей. Перш за ўсё, зразумела, зьнікаюць тыя, хто знаходзіцца ў апазыцыі да ўлады. Зразумела, сродкі масавай інфармацыі ў Расеі пра гэта гавораць скрозь зубы». На пытаньне, ці не спрабавала беларуская ўлада купіць яго, Васіль Быкаў адказаў: «Не праходзіла і тыдня, каб гэтая ўлада рукамі сваіх ці расейскіх пісакаў не палівала мяне брудам, не кампрамэтавала, не спрабавала зьнішчыць. Таму пра якую куплю можа ісьці гаворка? Зьняволенага ў канцлягеры не купляюць — яго зьнішчаюць».

## ВІЦЕБСКАЯ СУДЗЬДЗЯ ЖУРАЎКОВА ЛІЧЫЦЬ, ШТО ПРА СЬМЕРЦЬ БЫКАВА ТРЭБА БЫЛО ПАІНФАРМАВАЦЬ УЛАДЫ ЗА 15 ДЗЁН

27 чэрвеня 2003

***Браніслава Станкевіч, Віцебск***

Паводле словаў судзьдзі Кастрычніцкага раённага суду Віцебску спадарыні Жураўковай, арганізатары мусілі зьвярнуцца па дазвол на правядзеньне жалобнай акцыі два тыдні таму.

Віцябляне Барыс Хамайда ды Ян Таўпыга, затрыманыя ў часе жалобнае акцыі, прысьвечанай памяці Васіля Быкава, атрымалі судовае папярэджаньне за несанкцыянаванае пікетаваньне. Васьмёра віцебскіх сяброў КХП БНФ выйшлі 24 чэрвеня на пляц Волі з партрэтам пісьменьніка, зборам ягоных твораў, кветкамі ды бел-чырвона-белым сьцягам з чорнаю стужкай. Разам зь імі ўшанаваць памяць Васіля Быкава сабраліся яшчэ некалькі дзясяткаў віцяблянаў, але праз дваццаць хвілін жалобную акцыю перапынілі міліцыянты. Двух удзельнікаў — Барыса Хамайду ды Яна Таўпыгу, якія трымалі сьцяг ды партрэт, адвезьлі спачатку ў пастарунак, а праз колькі гадзінаў — у суд Кастрычніцкага раёну Віцебску.

Судовы працэс над імі судзьдзя Жураўкова мусіла распачаць ужо пасьля працоўнага дня. Словы апазыцыянэраў пра тое, што сьмерць Васіля Быкава ёсьць надзвычайнай падзеяй для ўсіх беларусаў, судзьдзя да ўвагі не прыняла, заявіўшы, што згодна зь беларускім заканадаўствам ахвотныя ўшанаваць памяць вядомага пісьменьніка мусілі былі зьвярнуцца па дазвол на правядзеньне сваёй акцыі як найменш 15 дзён таму. Паколькі затрыманыя гэтага не зрабілі, судзьдзя прызнала жалобную акцыю парушэньнем грамадзкага парадку і дала ім судовае папярэджаньне.





## У ГОНАР ВЯЛІКАГА СЫНА

27 чэрвеня 2003

***Вінцэсь Мудроў, Наваполацак***

Наваполацкая гарадзкая суполка Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны зьвярнулася праз мясцовыя СМІ да навапалачанаў з прапановаю надаць адной з вуліцаў гораду імя вялікага сына беларускага народу Васіля Быкава.

Надоечы з ініцыятывы гарадзкой арганізацыі ТБМ была ўтвораная адмысловая ініцыятыўная група, якая будзе займацца зборам подпісаў грамадзянаў на карысьць такой прапановы. У яе ўвайшлі дэпутаты гарадзкога савету, журналісты, навуковыя работнікі, студэнты. На сьведчаньне старшыні гарадзкой арганізацыі ТБМ Алеся Рымшы, ініцыятыўная група будзе дамагацца наданьня імя Васіля Быкава адной з цэнтральных наваполацкіх вуліцаў, якія цяпер носяць імёны Кірава, Калініна і Дзяржынскага.

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ У ІНТЭРНЭЦЕ

29 чэрвеня 2003

***Віталь Тарас, Прага***

Перадача «Беларускі дыялёг на Інтэрнэце», прысьвечаная тэме «Васіль Быкаў у Інтэрнэце».

25 чэрвеня, калі Беларусь разьвітвалася зь вялікім пісьменьнікам, дзяржаўныя электронныя мэдыі са зразумелых прычынаў ухіліліся ад асьвятленьня галоўнай падзеі ў жывым эфіры. Гэтак сама ўхілілася ад свайго абавязку дзяржаўная камісія пахаваньня Васіля Быка-

ва пасьля таго, як у Доме літаратара і вакол яго зьявіліся бел-чырвона-белыя сьцягі. І толькі праз Інтэрнэт можна было даведацца пра ўсё, што адбывалася ў гэты дзень усенароднай жалобы. Адразу некалькі інфармацыйных сайтаў вялі анлайнавы рэпартаж, пачынаючы ад грамадзянскай паніхіды ў Доме літаратара да пахаваньня на Ўсходніх могілках у Менску. Трэба сказаць, што вестка пра сьмерць Васіля Быкава ўсьлед за тым, як яна прагучала на Беларускай «Свабодзе», амаль адразу, позна ўвечары 22 чэрвеня, зьявілася і на асноўных інфармацыйных сайтах Расеі. Найперш, гэта быў сайт РИА Новости (http://www.rian.ru), потым інфармацыя зьявілася на сайтах Газета.ru (http://www.gazeta.ru) і Лента.ru (http://www.lenta.ru). На жаль, не абышлося бяз прыкрых памылак — РИА Новости, напрыклад, у біяграфіі пісьменьніка няправільна ўказала месца яго нараджэньня: замест вёскі Бычкі было названае іншае месца. Пра тое, што пісалі пра Быкава ў расейскім Інтэрнэце — пры канцы перадачы.
А зараз пра тое, дзе ў сеціве можна прачытаць творы Васіля Быкава. Думаю, ня будзе перабольшаньнем сказаць, што самы вялікі збор твораў пісьменьніка ў Інтэрнэце сёньня можна бачыць на «Беларускай палічцы» (http://www.knihi.com). Я патэлефанаваў аўтару гэтага інтэрнэт-рэсурсу Андрусю Жвіру, якога папрасіў адказаць на некалькі пытаньняў. І першае пытаньне: як ставіўся сам Васіль Быкаў да публікацыі сваіх твораў у сеціве?

*А.Жвір:* Усе творы, зьмешчаныя на «Беларускай палічцы», зьмешчаныя з дазволу пісьменьніка. Я аднойчы сустракаўся з Васілём Быкавым — гэта адбылося ў Празе, на сьвяткаваньні ўгодкаў БНР, у 2000 годзе, калі не памыляюся. Тады я запытаўся ў яго: ці можам мы зьмясьціць ягоныя творы ў Інтэрнэце? І ён даў тады дазвол на гэта.

*— Напэўна, усё немагчыма пералічыць, але колькі прыблізна ўжо твораў Васіля Быкава выстаўлена на «Беларускай палічцы» і якія апошнія зь іх?*

*А.Жвір:* Дастаткова шмат. Можна крыху пералічыць... Гэта раман «Кар'ер», аповесьці «Ваўчыная яма», «У тумане», шмат апавяданьняў. Акрамя твораў на беларускай мове, таксама зьмешчаныя творы ў перакладзе на расейскую, польскую, украінскую, нямецкую. Акурат цяпер мы рыхтуем шмат твораў у перакладзе на ангельскую мову. Будуць выстаўленыя зусім хутка, я спадзяюся, «Ваўчыная зграя», «Знак бяды», «Незагойная рана». Паспрабуем па часе таксама заняцца, каб зьявіліся ў нас творы, перакладзеныя на нямецкую мову.

*— А ці ёсьць іншыя сайты, якія друкуюць творы Быкава ня толькі па-беларуску, але й на замежных мовах?*

*А.Жвір:* Так, у асноўным гэта расейскамоўныя сайты. Прынамсі, досыць вялікі збор твораў Васіля Быкава па-расейску знаходзіцца на сайце «Библиотека Мошкова». (http://lib.ru). Ёсьць і іншыя сайты — напрыклад, «Военная литература» (http://militera.lib.ru), там таксама зьмешчаныя творы Быкава пра другую ўсясьветную вайну. Друкаваліся ягоныя творы ў некаторых расейскіх часопісах, якія таксама можна знайсьці ў Інтэрнэце. Ёсьць яшчэ сайт, прысьвечаны Васілю Быкаву, на беларускай мове — http://bykau.by.ru. На жаль, ён нешта апошнім часам не абнаўляецца. Там нават не было абвесткі, што пісьменьнік памёр. Сайт цікавы, але, у прынцыпе, гэта проста збор усяго, што ўжо было зьмешчана ў Інтэрнэце. Аўтар проста сабраў гэта ўсё разам і выставіў у сябе на сайце.

Што тычыцца стаўленьня пісьменьніка да Інтэрнэту і ўвогуле да кампутараў, дык яно, як у чалавека старэйшага пакаленьня, было неадназначнае. У сваім колішнім інтэрвію, якое стала своеасаблівай прадмовай да першага выхаду ў эфір ягоных успамінаў «Доўгая да-

рога дадому», Васіль Быкаў так адказаў на пытаньне, чым ён пераважна карыстаецца ў сваёй працы — кампутарам ці асадкай:

*В.Быкаў:* Кампутар усё ж, апрача ўсяго іншага, гэта тэхніка, і валоданьне ёй патрабуе пэўных намаганьняў, якіх не патрэбна для звыклай справы, калі пішаш ручкай. Апрача таго — тэмп; тэмп майго мысьленьня дастасаваўся да тэмпу маіх пальцаў, і даволі гарманічна гэта адбываецца. А на кампутары перажываеш нейкую дысгармонію. Таму найлепш, калі нават звычайныя фразы, якую-небудзь устаўку, ці што, напішаш сьпярша на паперы, хоць бы маларазборліва, беглым почыркам, а пасьля ўжо перадрукуеш на кампутары. Люблю ручку, каб яна была з тонкай лініяй, і пераважна або сіняя, або чорная. Ну, магу пісаць і алоўкам — па сутнасьці, няважна. Вось некалі Валодзя Караткевіч у гэтым сэнсе меў адно патрабаваньне — гэта харошая папера. Харошая папера мне таксама падабаецца. Хаця ўсё жыцьцё... У нас жа цяпер толькі паявілася такая папера добрая, а то ўсё была такая газэтная. Ну, а ўвогуле, ня ў тым справа. Калі нешта ёсьць у галаве, дык напішацца дзе хочаш — нават на цыгарэтным пачку.

Так гаварыў Васіль Быкаў у інтэрвію Радыё Свабода, запісаным прыкладна год таму. Але варта дадаць, што Васіль Быкаў меў свой уласны кампутар — ноўтбук. Ён цудоўна арыентаваўся ў сеціве. Прынамсі, пра многія падзеі ў Беларусі й сьвеце ён, паводле ўласнага прызнаньня, даведваўся з Інтэрнэту.
Як мы ўжо адзначалі, на мінулым тыдні на расейскіх інтэрнэт-сайтах шмат гаварылася й пісалася пра канфлікт паміж уладай і пісьменьнікам, які працягваўся, нават можна сказаць, успыхнуў з новаю сілай пасьля ягонай сьмерці. Значна меней было ў сеціве спробаў асэнсаваць сапраўднае значэньне творчасьці Быкава, значэньне ягонай асобы. Выключэньнем выглядае публікацыя аглядальніка расейскага сайту Грани.ru (http://grani.ru) Ільлі Мільштэйна: «Бацька» неяк ляпнуў у расейскім ток-шоў: маўляў, ведаю Быкава, вершы ягоныя ў школе вучыў. Цяжка сказаць, чые вершыкі беларускі прэзыдэнт вучыў у школе і з кім пераблытаў свайго нацыянальнага пісьменьніка, у якога відавочна не прачытаў ні радка. Бо паэзія і Васіль Быкаў, як злачынства і геній, несумяшчальныя. Пісьменьнік... быў празаік ад прыроды — і бязьлітасным сьветаадчуваньнем сваім, і стылістычна. Магчыма, таму яму наканаваны й літаратуры лёс, адрозны ад многіх паўзабытых ягоных аднагодкаў. Бо час і ў яго на радзіме, і па суседзтве, і ў сьвеце надыходзіць досыць бязьлітасны, і прырода чалавека паўстае ў абліччы, убачаным на вайне. Таму прозе Васіля Быкава прадвызначанае доўгае жыцьцё. Яго яшчэ ўспомняць. Вайну забудуць — за праўду падзякуюць».
Усе падзеі мінулага тыдня, зьвязаныя зь імем Васіля Быкава, словы разьвітаньня, якія прамаўлялі выбітныя асобы альбо звычайныя грамадзяне Беларусі — усё гэта, зразумела, знайшло адлюстраваньне ў эфіры Радыё Свабода, сталым аўтарам якога быў пісьменьнік. Большасьць матэрыялаў памяці Васіля Быкава можна прачытаць і ў Інтэрнэце на нашым сайце.

## БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ ДЭПАРТАВАЛІ КАРЭСПАНДЭНТА НТВ ПАЎЛА СЕЛІНА

29 чэрвеня 2003

***Валер Каліноўскі, Менск***

28 чэрвеня Міністэрства замежных справаў Беларусі пазбавіла акрэдытацыі ўласнага карэспандэнта НТВ у Беларусі Паўла Селіна за ягоны рэпартаж аб пахаваньні Васіля Быкава. Міністэрства ўнутраных

справаў прыняло пастанову аб ягонай дэпартацыі на працягу 24 гадзінаў. Спадару Селіну забаронены ўезд у Беларусь на пяць гадоў.

Гэта ўжо другі карэспандэнт НТВ, якога дэпартавалі беларускія ўлады, першы быў Аляксандар Ступнікаў, якога выслалі ў 1997 годзе. У 15 гадзінаў 28 чэрвеня ўласны карэспандэнт НТВ Павал Селін быў выкліканы ў Міністэрства ўнутраных справаў Беларусі. Там яму зачыталі пастанову аб дэпартацыі, зацьверджаную міністрам унутраных справаў Уладзімерам Навумавым. У пашпарце спадара Селіна кіраўнік пашпартна-візавай службы МУС падпалкоўнік Іванчыкава зрабіла запіс аб дэпартацыі й забароне прыяжджаць у Беларусь наступныя пяць гадоў. Супрацоўнік МЗС забраў акрэдытацыйнае пасьведчаньне Селіна, рашэньне аб пазбаўленьні акрэдытацыі было прынятае адмысловай камісіяй яшчэ ўчора. Падставай для такіх жорсткіх і пасьпешлівых дзеяньняў беларускіх уладаў стаў рэпартаж Селіна на НТВ аб пахаваньні Васіля Быкава.
У пастанове аб дэпартацыі з тэрыторыі Беларусі зазначана, што гэты рэпартаж «утрымліваў неаб'ектыўную, тэндэнцыйную і правакацыйную інфармацыю, якая мела на мэце стварыць нэгатыўнае ўяўленьне аб сацыяльна-палітычнай сытуацыі ў Беларусі, ачарніць дзеяньні органаў улады». Беларускія ўлады стварылі камісію расьсьледаваньня зьвестак у рэпартажы Селіна ў чацьвер, праз два дні тая ўжо зрабіла высновы, што зьвесткі хлусьлівыя і не адпавядаюць рэчаіснасьці. Павал Селін лічыць, што няма сэнсу абскарджваць дзеяньні беларускіх уладаў у судзе, бо ня верыць у аб'ектыўнасьць беларускага правасудзьдзя. Ён лічыць, што ўсё адбываецца на загад А.Лукашэнкі, які грае ва ўсім гэтым першую ролю. Павал Селін так пракамэнтаваў рашэньне беларускіх уладаў:

*П.Селін:* Я вельмі шкадую, што ўсё гэта адбываецца на фоне сьмерці аднаго з маіх любімых пісьменьнікаў,





Васіля Ўладзімеравіча Быкава, якога я лічу проста вялікім пісьменьнікам. На вялікі жаль, улады Беларусі, пачаўшы гэтыя танцы на касьцях, уцягнулі й мяне. Гэта адзінае, аб чым я шкадую, і мне вельмі сорамна за тое, што я фармальна бяру ў гэтым удзел, супраць сваёй волі.

Спадар Селін лічыць, што ягоны рэпартаж быў цалкам аб'ектыўны і праўдзівы, яго падтрымлівае ў гэтым кіраўніцтва тэлекампаніі НТВ. Тыя прыдзіркі да яго, якія агучылі ўлады, ён лічыць абсалютна фармальнымі. Сёньня вечарам спадар Селін зьбіраецца паехаць у Маскву. Заўтра ён выступіць у праграме Леаніда Парфёнава «Намедни». Павал Селін працаваў у Беларусі са студзеня 2001 году, зрабіў 349 сюжэтаў, вывучыў беларускую мову, пакідаць краіну яму шкада.

*П.Селін:* Мне надзвычай балюча за гэтую краіну, таму што ў мяне тут застаюцца дзясяткі сяброў, вельмі шкадую, што не магу прыяжджаць сюды наступныя пяць гадоў. Але што зробіш — можа, у 2008 годзе нешта памяняецца ў Беларусі. Можа, і раней.

Сябры і калегі зьбіраюцца праводзіць яго на маскоўскі цягнік. Так сталася, што ў суботу прыяжджае жонка Селіна, але выходзіць, што ў Менску яна пабудзе ўсяго некалькі гадзінаў. Пакуль невядома, хто будзе працаваць карэспандэнтам НТВ у Менску, Павал баіцца, што існаваньне карпункту кампаніі ў Менску цяпер пад пагрозай.

## ЛЮДЗІ ПРЫХОДЗЯЦЬ УШАНАВАЦЬ ПАМЯЦЬ ВАСІЛЯ БЫКАВА

30 чэрвеня 2003

***Галіна Абакунчык, Менск***

Ніводнага дня ад пахаваньня Васіля Быкава не было бязьлюдна каля ягонай магілы. Многія прыйшлі сюды і на дзявяты дзень па ягонай сьмерці.

Вось што людзі казалі ў інтэрвію Радыё Свабода:

*Спадар:* У дзень пахаваньня ў мяне не было магчымасьці разам зь людзьмі дайсьці да могілак, таму я прыйшла сюды сёньня. Ён заўсёды застанецца ў маім сэрцы — як чалавек зь вялікай літары. І для ўсёй Беларусі ён значыць вельмі многа, мы яго ніколі не забудзем.
*Спадар:* Я паважаю гэтага чалавека — Васіля Быкава. Гэта сапраўды народны пісьменьнік, які шмат рабіў для свайго народу. Таму я прыйшоў ушанаваць ягоную памяць.
*Спадарыня:* Гэта чалавек, зь якога трэба браць прыклад і паважаць ягоную памяць. Каб нашыя дзеці і ўнукі, мы самі ня ставіліся да жыцьця так легкадумна, як цяпер.
*Спадарыня:* Вялікі чалавек. Любіў сказаць, што думаў, людзі яго за гэта паважалі.
*Спадарыня:* Асабліва ягоная ваенная проза — сапраўды цікавая. Ну, што тут казаць? Вялікі чалавек, сапраўды вялікі.
*Спадарыня:* Гэта наш зямляк, з Вушаччыны — і таму мы сюды прыйшлі. Ён быў адзін з арганізатараў руху БНФ. Ёсьць БНФ, Малады Фронт, іншыя палітычныя і грамадзкія арганізацыі, ёсьць каму прадоўжыць тое, што ён гаварыў і рабіў.
*Спадарыня:* Гэта адзіны чалавек, да якога сёньня можна ісьці з адкрытай душой і ведаць, што нават на тым сьвеце ты ад гэтай чыстай душы возьмеш энэргіі дабрыні, чалавечнасьці і ўсяго найлепшага, што ўвасабляе чалавек і што павінна ўвасабляць нацыя. Таму я думаю, што да яго будуць ісьці заўсёды. Я ведаю, што ішло шмат маіх знаёмых. Гэты чалавек — сумленьне нацыі, ахвяра нацыі, надзея нацыі.
*Спадар:* Такі вялікі творца, такі вялікі пісьменьнік, барацьбіт за айчыну і ідэалы, зразумелыя і блізкія ўсім людзям. Гэта вельмі цяжка — губляць тое, на што ты абапіраўся. Як губляць бацьку і маці, да прыкладу. Калі ты іх губляеш, то губляеш нейкі духоўны стрыжань. Вось і Васіль Быкаў для беларускай нацыі быў гэткім жа духоўным стрыжнем. Трэба, каб прайшоў нейкі час, аддаць яму належнае па-хрысьціянску, па-чалавечы. А затым набыць духоўнае апірышча ў ягоных творах.





## НТВ НЯ БУДЗЕ ПРАСІЦЬ ПРАБАЧЭНЬНЯ Ў БЕЛАРУСКІХ УЛАДАЎ ЗА СЮЖЭТ ПРА ПАХАВАНЬНЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА

30 чэрвеня 2003

***Валер Каліноўскі, Менск***

Намесьнік генэральнага дырэктара тэлекампаніі НТВ Аляксандар Герасімаў кажа, што афіцыйная пазыцыя НТВ наконт гэтай праблемы яшчэ фармуецца, бо беларускія ўлады пакуль ніякіх зваротаў на адрас НТВ не рабілі, адбылася толькі дэпартацыя ўласнага карэспандэнта НТВ.

*А.Герасімаў:* Тое, што мы не вітаем гэтай высылкі, гэта рэч неаспрэчная і відавочная, бо так дзейнічаць адносна журналіста кіраўніцтву краіны, якая прэтэндуе на нейкія дэмакратычныя лягатыпы, прынамсі, не да твару. Па-другое, мы не атрымалі ніякіх паведамленьняў

пра закрыцьцё нашага карпункту. Такім чынам, наш карпункт дзейнічае, у нас там ёсьць абсталяваньне і апэратар, які здольны здымаць, і мы ў прынцыпе спадзяёмся, што беларускі ўрад празь некалькі дзён апамятаецца.

Урад Беларусі на прапанову Міністэрства замежных справаў разглядае пытаньне пра закрыцьцё карпункту НТВ у Менску «да афіцыйнага прабачэньня ў эфіры» ў беларускага кіраўніцтва. Адносна патрабаваных прабачэньняў намесьнік генэральнага дырэктара НТВ Аляксандар Герасімаў зазначыў:

*А.Герасімаў:* Не, мы ня бачым неабходнасьці прасіць прабачэньня за нешта, бо, на наш погляд, Павал там увогуле добра працаваў, надзвычай аб'ектыўна і акуратна. А ў тым матэрыяле, які інкрымінуецца Паўлу, няма ўвогуле нічога. Пазыцыя Шушкевіча, якая прагучала ў рэпартажы, гэта ягоная пазыцыя, Шушкевіч — не трактарыст з далёкага раёну. Гэта чалавек вядомы ў краіне, ён калісьці ёю кіраваў і цяпер займаецца палітыкай. Калі ўрад мае прэтэнзіі да Шушкевіча, то гэта прэтэнзіі да Шушкевіча, а не да нас.

Аляксандар Герасімаў запэўніў, што Павал Селін — добры журналіст і будзе працягваць працаваць у НТВ, і тэлегледачы неўзабаве зноў пабачаць яго на экране. Пра свае найбліжэйшыя пляны Павал Селін сам распавёў «Свабодзе»:

*П.Селін:* Цяпер я сыходжу ў адпачынак на два тыдні — паеду ў Літву, давядзецца ляцець самалётам, бо туды цягнікі з Масквы ідуць праз Беларусь. Спадзяюся, што самалёт ня будуць прымусова садзіць у Менску... Пасьля адпачынку вяртаюся ў Маскву, буду тут працаваць. Пакуль у Маскве, а далей пабачым.

П.Селін кажа, што ён узрушаны тым, як добра паставілася да ягоных праблемаў найвышэйшае кіраўніцтва НТВ, як падтрымалі яго сябры і калегі зь Беларусі:

*П.Селін:* Словы падзякі ўсім калегам, якія сваімі матэрыяламі падтрымлівалі мяне ў гэтыя нялёгкія гадзіны, усім, хто прыйшоў праводзіць мяне на вакзал, усім сябрам у Беларусі, якія былі на маім баку. Было б нашмат цяжэй бязь іх.

Павал Селін кажа, што цяпер яго найбольш хвалюе лёс бюро НТВ у Менску. Ён спадзяецца, што беларускія ўлады ня пойдуць на далейшае абвастрэньне сытуацыі. Бачна, што расейскі бок не выказвае жаданьня такога абвастрэньня — расейская амбасада адмаўляецца даваць камэнтары на гэтую тэму, МЗС Расеі выступіла толькі з камэнтаром свайго афіцыйнага прадстаўніка, які выказаў «шкадаваньне з нагоды дзеяньняў беларускіх уладаў» і зазначыў, што расейскі бок чакае тлумачэньняў беларускага боку. Але ніякіх тлумачэньняў зь Менску пакуль не было, — паведаміў прэсавы сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных. У беларускім урадзе кажуць, што разгляд пытаньня пра спыненьне дзейнасьці карпункту НТВ можа зацягнуцца.

## ЛЮДЗІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ ІСЬЦІ ДА МАГІЛЫ ВАСІЛЯ БЫКАВА

1 ліпеня 2003

***Галіна Абакунчык, Менск***

Штодня да магілы Васіля Быкава ідуць людзі: паасобку і сем'ямі, сталыя і зусім маладыя. Каб ушанаваць памяць таленавітага пісьменьніка і грамадзяніна, многія прыходзяць сюды ня першы раз.

Вось што апавялі людзі Радыё Свабода:

*Спадар:* Гэта хрысьціянскі звычай: калі ты ня быў на пахаваньні чалавека, блізкага жыцьцёва, імя якога ты шанаваў, а Васіль Быкаў — знаёмы па творчасьці, любімы пісьменьнік, то, натуральна, трэба ісьці да магілкі, пастаяць, пакласьці кветкі ці запаліць сьвечкі.
*Спадарыня:* Кіно па ягоных творах глядзела, кнігі чытала — таму і хаджу сюды. І ўчора была, і сёньня, бо я яго вельмі люблю.
*Спадарыня:* Я шкадую, што такія людзі нас пакідаюць. Але ж у нас два жыцьці: гэтае — адзін міг, а там — вечнасьць. І яны ў той вечнасьці таксама будуць не апошнія людзі.
*Спадар:* Чаму я прыйшоў? Таму, што гэты чалавек — сумленьне нашай радзімы. Калі б так адбылося, што ў нас зьмяніўся б прэзыдэнт, то гэта — адзіны чалавек, якому можна было б даверыць уладу без фармальнага абраньня.
*Спадарыня:* Васіль Быкаў заўсёды быў у апазыцыі да гэтага прэзыдэнта і да сучаснага ладу ў Беларусі. Лукашэнка ж ня быў на пахаваньні, але я не магу ацэньваць ягоных учынкаў звычайнымі чалавечымі меркамі. Думаю толькі, што калі на пахаваньні ня быў, то і вянка твайго тут ня трэба.
*Спадарыня:* Я тут ня першы раз, я і на пахаваньні была. Гэта чалавек, які ёсьць гонарам і спадзяваньнем нацыі на тое, што нашая моладзь будзе мець ідэал вялікага, моцнага і праўдзівага чалавека, які служыў сваёй радзіме, ахвяруючы жыцьцём. Гэты чалавек дарагі ня толькі мне асабіста — вы бачыце, тут уся мая сям'я, дзеці, унукі. Тут на могілках мой муж пахаваны, і мне нават лягчэй перажываць асабістае гора, ведаючы, што разам зь ім знаходзіцца такі вялікі чалавек.
*Спадарыня:* Я прыходзіла зь ім разьвітацца, прастаяла дзьве гадзіны, але так і не атрымалася. Тады ў мяне былі іншыя кветкі, а сёньня я прынесла спадару Васілю васількі. Я думаю, што ён чуе, што людзі гавораць, што думаюць пра яго, і ён нам дапаможа.





## ІМЕМ ВАСІЛЯ БЫКАВА ПРАПАНУЮЦЬ НАЗВАЦЬ АДЗІН З ПРАСПЭКТАЎ МЕНСКУ

7 ліпеня 2003

***Валер Каліноўскі, Менск***

Паўстала грамадзкая камісія ў справе спадчыны і ўшанаваньня памяці Васіля Быкава. Яе дзейнасьць каардынуе Саюз беларускіх пісьменьнікаў, які ўпаўнаважаны перадаць вылучаныя прапановы ўшанаваньня памяці Васіля Быкава ў Савет Міністраў Беларусі.

Як паведаміў старшыня Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Алесь Пашкевіч, у склад камісіі акрамя родных, блізкіх і сяброў Васіля Быкава выказалі жаданьне ўвайсьці пісьменьнікі з Расеі, Украіны і Нямеччыны, прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Чэхіі. У прыватнасьці, у камісію ўвайшлі ўдава Васіля Быкава Ірына Міхайлаўна, сын Сяргей, а таксама Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законьнікаў ды іншыя, ад Расеі — Валянцін Аскоцкі і Лазар Лазараў, ад Украіны чакаецца ўдзел Зьмітра Паўлычкі. Першае паседжаньне грамадзкай камісіі мае прайсьці на гэтым тыдні. Паводле Алеся Пашкевіча, ужо вызначаныя стратэгічныя, найбольш маштабныя кірункі дзейнасьці камісіі:

*А.Пашкевіч:* Найперш апублікаваньне тых твораў, якіх яшчэ чытачы ня бачылі, пытаньне публікацыі збору твораў Васіля Быкава, зьбіраньне ў адно абшырнай і маштабнай перапіскі, якую Васіль Уладзімеравіч найперш апошняе дзесяцігодзьдзе вёў са сваімі калегамі, сябрамі ў Беларусі, Расеі, Украіне і іншых дзяржавах. Каардынуе дзейнасьць грамадзкай камісіі Саюз пісьменьнікаў. Будзе неўзабаве першае паседжаньне гэтай камісіі, будуць канкрэтныя прапановы, якія датычаць творчай

спадчыны і грамадзкага ўшанаваньня ў Беларусі і за яе межамі.

Алесь Пашкевіч кажа, што ўжо ёсьць прапановы назваць імем Васіля Быкава адзін з праспэктаў Менску, а таксама вуліцы ў Горадні і Вушачах, даць яго імя навучальнай установе ў Віцебску, школе ў Вушачах, усталяваць помнік і мэмарыяльную шыльду, выдаць збор твораў да дзесяці тамоў. Гэтая ж камісія будзе зьбіраць творчую спадчыну Быкава — тое, што не захавалася ў ягоным асабістым архіве. Але першым і самым важным крокам Алесь Пашкевіч лічыць выданьне Кнігі памяці Васіля Быкава, куды ўвайшлі б усе ягоныя гутаркі й інтэрвію апошняга дзесяцігодзьдзя. Мяркуецца іх сабраць і выдаць адным томам, праілюстраваўшы карцінамі самога Васіля Быкава, ягонымі акварэлямі й графікай.
Ва ўрадзе чакаюць прапановаў у справе ўшанаваньня памяці Васіля Быкава ад грамадзкай камісіі, паведаміў намесьнік міністра культуры Беларусі Валеры Гедройц. А Таварыства беларускай мовы ўжо вылучыла свае прапановы ва ўрад, сярод якіх стварэньне літаратурнага музэю ў хаце, дзе нарадзіўся Васіль Быкаў у вёсцы Бычкі Вушацкага раёну. Валеры Гедройц мяркуе, што ўшанаваньне памяці Быкава адбудзецца ўрэшце на высокім узроўні — як адной з самых выдатных постацяў у гісторыі краіны. Грамадзкая камісія ўлічвае, што ў наступным годзе будзе адзначацца 80-годзьдзе з дня нараджэньня Васіля Быкава. Гаворыць старшыня Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Алесь Пашкевіч:

*А.Пашкевіч:* Гадавіна пасьля сьмерці Васіля Быкава супадае зь ягоным 80-годзьдзем. Сёньня ўжо ёсьць дамоўленасьць, што літаратурныя мерапрыемствы дзеля ўшанаваньня памяці Васіля Быкава адбудуцца ня толькі ў Менску, але і ў іншых краінах: найперш у Цэнтральным доме літаратара ў Маскве і ў Кіеве.





Рада Беларускага ПЭН-цэнтру на гэтым тыдні таксама выпрацуе свае прапановы ўшанаваньня памяці Васіля Быкава, які ўзначальваў Беларускі ПЭН-цэнтар, паведаміў віцэ-прэзыдэнт арганізацыі Андрэй Дынько.

*А.Дынько:* Мы задумалі зладзіць канфэрэнцыю да ўгодкаў сьмерці Васіля Быкава пад назвай «Спадчына Быкава», якую пастараемся зладзіць у супрацоўніцтве з рознымі іншымі структурамі, такімі як Саюз пісьменьнікаў ці БДУ.

Акрамя таго, сябар Васіля Быкава паэт Рыгор Барадулін зьбіраецца выдаць сваю перапіску зь ім.

## «NEW YORK TIMES» ПРА ВАСІЛЯ БЫКАВА

14 ліпеня 2003

***Сяржук Сокалаў-Воюш, Прага***

> Заходнія сродкі масавай інфармацыі працягваюць адгукацца на сьмерць Васіля Быкава. Учорашняя «New York Times» зьмясьціла публікацыю пра пісьменьніка, у якой сказана: «Васіль Быкаў — прызнаны беларускі пісьменьнік, чые творы пра жорсткую праўду вайны выклікалі лютасьць савецкіх лідэраў і захапленьне мільёнаў суайчыньнікаў».

Сьмерць Быкава, якога «некаторыя называлі Сахаравым беларускай літаратуры, — падае словы старшыні Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Алеся Пашкевіча «New York Times», — прывяла ў пахавальную працэсію на менскіх вуліцах 50 тысяч чалавек». Аўтар публікацыі пры ацэнцы творчасьці Васіля Быкава адзначае, што пісьменьнік пісаў у манеры, не ўласьцівай тыповаму савецкаму раману. Ён паказаў, што прымушала людзей

рабіцца дэзэртырамі, і чаму ня ўсе ўдзельнікі супраціву былі героямі. «Ён пісаў праўду пра вайну ў савецкі час, калі гэта рабілі нямногія, — працягвае цытаваць А.Пашкевіча «New York Times», — і ён меў вялікія праблемы з савецкім урадам. Публікацыя многіх ягоных твораў часта адкладалася, а цэнзары рабілі ў іх шмат правак». Самая вядомая кніга Быкава «Мёртвым не баліць» прынесла яму найбольш праблемаў ад савецкага кіраўніцтва.

Пасьля развалу Савецкага Саюзу і здабыцьця Беларусьсю незалежнасьці ў 1991 годзе Васіль Быкаў далучыўся да новай барацьбы — гэтым разам супраць абранага на пасаду прэзыдэнта краіны ў 1994 годзе Аляксандра Лукашэнкі, чыя ўлада працягвала ціск на пісьменьніка і ўрэшце прымусіла пакінуць Беларусь. «Быкаў, — піша «New York Times», — ніколі не называў сябе палітычным выгнаньнікам. Ён пачасту шчыра выказваўся што да ўраду Лукашэнкі і называў беларускую ўладу «рэжымам». Пасьля выезду зь Беларусі Быкаў жыў у Фінляндыі, Нямеччыне і, нарэшце, у Чэхіі. Увесь гэты час ён пісаў змрочныя алегарычныя прароцтвы, якія грунтаваліся на ягоным бачаньні будучыні Беларусі. Аўтабіяграфія Быкава «Доўгая дарога дадому», піша пры канцы «New York Times», была выдадзеная ў Беларусі незадоўга да сьмерці аўтара.

## АМЭРЫКАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ВАСІЛЯ БЫКАВА

14 ліпеня 2003

***Галіна Прыгара, Нью-Ёрк***

У суботу 12 ліпеня беларусы Нью-Ёрку правялі вечарыну памяці Васіля Быкава. Пасьля сьмерці Быкава тамтэйшыя беларусы сабраліся разам упершыню, таму Васіль Быкаў, ягоныя творчасьць, жыцьцё і ўплыў на беларусаў сьвету былі тэмай сустрэчы, арганізаванай нью-ёрскім аддзелам Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня.





Пачалася сустрэча хвілінай маўчаньня ў памяць Васіля Быкава. Вёў вечарыну старшыня нью-ёрскага аддзелу Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня Віталь Зайка, які нагадаў, што апошнім часам беларускія арганізацыі некалькі разоў запрашалі Васіля Ўладзімеравіча наведаць Амэрыку, але ён увесь час ветліва адмаўляўся, спасылаючыся на стан здароўя. Лідэр Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк выступіў з даволі падрабязным аналізам творчасьці Васіля Быкава ў кантэксьце ўсясьветнай літаратуры. Адзначыў Зянон Пазьняк і мужную грамадзянскую пазыцыю Быкава ў 1980–90-я гады.

Дырэктар нью-ёрскага Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва Вітаўт Кіпель згадаў пра свае сустрэчы з Васілём Уладзімеравічам і паказаў прысутным фатаздымкі. Згадаў спадар Кіпель і пра тое, што аповесьць «Мёртвым не баліць» упершыню была выдадзеная ў 1965 годзе менавіта на эміграцыі; сам Быкаў, дарэчы, даведаўся пра гэта толькі напачатку 1990-х гадоў. Вітаўт Кіпель заўважыў, што імя выдатнага беларускага пісьменьніка добра вядомае амэрыканцам — Быкаў ужо з 1970-х гадоў фігуруе ва ўсіх амэрыканскіх літаратурных энцыкляпэдыях, прычым падкрэсьліваецца беларускасьць Быкава, ён не падаецца як «савецкі» пісьменьнік. Выступіў і госьць зь Беларусі, старшыня Віцебскай абласной рады Таварыства беларускай мовы Іосіф Навумчык, які распавёў пра мерапрыемствы памяці Быкава на радзіме пісьменьніка. Інтэлігенцыя Віцебшчыны даўно казала пра тое, што ў хаце, дзе прайшло дзяцінства Быкава, павінен быць музэй, але сам Васіль Уладзімеравіч гэтай ідэі не падтрымліваў. Цяпер мэмарыялізацыя мясьцінаў, зьвязаных з памяцьцю вялікага

беларускага пісьменьніка, — наш абавязак, — лічыць спадар Навумчык.
Кіраўнік галоўнай управы Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня Антон Шукелойць у сваім выступе распавядаў пра высілкі амэрыканскіх беларусаў у справе наданьня Васілю Быкаву Нобэлеўскай прэміі. Усе прысутныя пагадзіліся зь меркаваньнем, што Быкаў застаецца найвыбітнейшым эўрапейскім пісьменьнікам нашага часу. Практычна ўсе выступоўцы лічаць, што сьмерць і пахаваньне Васіля Быкава — сумная, але і самая важная падзея гэтага году ў Беларусі, што б там ні адбылося надалей.

## РЫГОР БАРАДУЛІН: «ЛУКАШЭНКА БЛЫТАЕ БЫКАВА З ШАМЯКІНЫМ»

21 ліпеня 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

Падчас жывога эфіру на расейскім тэлеканале НТВ Аляксандру Лукашэнку задалі й пытаньні пра Васіля Быкава. Сярод іншага, Лукашэнка сказаў: «За многа месяцаў да сьмерці Васіль Быкаў зьвярнуўся праз родных, блізкіх, сяброў да мяне і папрасіў мяне нешта зрабіць... Я яму зрабіў усё, нягледзячы на нашыя разыходжаньні».

Вось як пракамэнтаваў гэтыя словы блізкі сябра Васіля Быкава, паэт Рыгор Барадулін:

*Р.Барадулін:* Наколькі я ведаў Васіля, і ведаю Васіля Ўладзімеравіча, я не дапускаю, што ён нават у думках мог зьвяртацца да нашага прэзыдэнта. Гэта выключана. Гэта яшчэ раз гаворыць пра вялікую фантазію Аляксандра Рыгоравіча. Ну, чалавеку з фантазіяй жыць весялей і цяплей. Ён, відаць, яго блытае з Шамякіным. І падобнымі на Шамякіна.

Адносна ж словаў А.Лукашэнкі «я яму зрабіў усё» — працытуем адно з апошніх інтэрвію Васіля Быкава, у якім на пытаньне карэспандэнта, ці спрабавала ўлада яго купіць, Быкаў адказаў: «Не праходзіла і тыдня, каб гэтая ўлада рукамі сваіх альбо расейскіх пісакаў не палівала мяне брудам, не кампрамэтавала, не спрабавала зьнішчыць. Таму пра якую куплю можа ісьці размова? Вязьня канцлягеру не купляюць — яго зьнішчаюць». Гэтае інтэрвію Васіль Быкаў даў расейскай газэце «Аргументы и факты» за месяц да шпіталізацыі.

## ПЕРШЫ НУМАР АДНОЎЛЕНАЙ ГАЗЭТЫ «ДЕНЬ» ПРЫСЬВЕЧАНЫ ВАСІЛЮ БЫКАВУ

24 ліпеня 2003

***Галіна Абакунчык, Менск***

Пасьля працяглага перапынку аднавіўся выхад незалежнай газэты «День».

Газэта выйшла на васьмі бачынах накладам 5 тысяч асобнікаў і цалкам прысьвечаная гарадзенскаму пэрыяду жыцьця Васіля Быкава. Выхад газэты стаў магчымы дзякуючы дабрачынным ахвяраваньням прыхільнікаў творчасьці пісьменьніка.

## МІХАІЛ ГАРБАЧОЎ: «КАЛІ БЫКАЎ ВЫМУШАНЫ БЫЎ ЗЬЕХАЦЬ — ГЭТА ШМАТ ПРА ШТО КАЗАЛА»

29 ліпеня 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

Апошні час В.Быкаў часта згадваў канец 1980-х — пачатак 1990-х гадоў, пэрыяд, які пазначаны ў гісторыі СССР як канец перабудовы і распад савецкай імпэрыі, а ў найноўшай гісторыі Беларусі — як трэцяя хваля нацыянальнага адраджэньня. Мы шмат зь ім размаўлялі пра М.Гарбачова, і адчувалася, што Быкаў надаваў яму выключную ролю ў гісторыі. Быкаў ацэньваў гэтую ролю станоўча.

*— Міхаіл Сяргеевіч, вы толькі на сем гадоў маладзейшы за Быкава, гэта адносна невялікая розьніца, але, выглядае, ён успрымаўся вамі як прадстаўнік іншага пакаленьня, якое прайшло вайну?*

— Я павінен сказаць, што да гэтага пакаленьня ў мяне асаблівае стаўленьне. Я ж усё-такі ўсю вайну памятаю, і пяць месяцаў на акупаванай тэрыторыі быў, калі фронт туды-назад... І ўсе гэтыя «пахаронкі», і бацька ў мяне чатыры гады на фронце, быў паранены, потым у Чэхаславаччыне, пад Кошыцэ... І потым усе гэтыя ягоныя расповеды. Я, вы ведаеце, нават у нейкай ступені думаю, што нашае пакаленьне — гэта пакаленьне, якое можна назваць «дзецьмі вайны». І таму стаўлюся я да таго пакаленьня зь вялікай павагай, яны столькі зрабілі, што я ня ведаю, ці можна было зрабіць болей? А беларусы? Кожны трэці загінуў, абараняючы сваю зямлю. Гэта проста жахліва. Толькі цяпер Беларусь аднавіла даваенную колькасьць.

*— Не аднавіла.*

— Яшчэ нават і не аднавіла? Я з калясальнай павагай стаўлюся да народу беларускага, шмат сяброў у мяне там. Праўда, яны цяпер ужо ў большасьці на пэнсіі, як і я. Што датычыцца Васіля, дык я павінен сказаць, што... Цяпер, калі будуць адзначацца гэтыя сорак дзён пасьля сыходу яго з жыцьця, мне прыгадваецца гэты чалавек як адкрытая, аголеная нэрва. Ён надзвычайна рэагаваў, вельмі чэсна, шчыра рэагаваў. І вельмі мужна казаў пра ўсё. І я вельмі гэта цаніў. Мы зь ім ня так блізка былі знаёмыя асабіста, з Алесем Адамовічам болей. Але Васіль і іншага крыху характару! І тым ня менш — мы сустракаліся. І пачалося, як і ва ўсіх у нас, знаёмства з Васілём Быкавым зь ягоных кніг, раманаў, гэтых аповесьцяў, якія былі ня вельмі вялікія, але былі такія магутныя!

*— Вы іх чыталі яшчэ ў «Новым мире» Твардоўскага?*

— Большасьць чытаў. Усе мы тады «Новый мир» чыталі, але і Быкава чыталі. А потым гэтыя фільмы, «Узыходжаньне» па «Сотнікаву» — ён вельмі ўражваў, гэты фільм. «Знак бяды», іншае. Ужо нават і забываюцца назвы, але кожная ягоная аповесьць была вельмі сур'ёзнай падзеяй. І ведаеце, што я хачу сказаць... Быў момант, калі ў час перабудовачны, калі шмат што асэнсоўвалася, калі шмат рабілася, каб з гонарам жыць і неяк зрабіць краіну адкрытай, вольнай і шчасьлівай... Гэта, канечне, праект на тысячу гадоў, але тым ня менш, яго трэба было пачынаць, і пачынаць трэба было. Можна ж было знаходзіцца ў тым стане, у якім мы былі, і загніваць паступова. А вось ён — перажываў.
І вось ён аднойчы даслаў мне ліст — па-мойму, і патэлефанаваў, і мы нават сустракаліся. Ня памятаю. Але памятаю дакладна ліст з подпісамі 25 чалавек — Міхаіл Сяргеевіч, дапамажыце, тут у нас такія глупствы робяцца, мы пазбавімся сваёй беларускай мовы. Я гэта зрабіў набыткам Палітбюро і, канечне, падтрымаў яго ідэі, каб там не бюракратычна да гэтых пытаньняў ставіліся. Ня можа ж так быць, каб мы згубілі беларускую мову! Што

б там начальства ні выраблялa... Так, ёсьць прыцягненьне да вывучэньня расейскай мовы — ну што ж, цудоўна. Мы любім беларусаў за адкрытасьць, за шчырасьць, за блізкасьць. У мяне вось цяпер унучка выйшла замуж — маці ў яе мужа беларуска...

*— Выглядае, што ў вас праўнук ці праўнучка будуць беларусы?*

— Так-так! Атрымліваецца, што так! А ў самога мяне — маці ўкраінка, а бацька — расеец... Васіль — гэта агромністая велічыня, прычым духоўнага значэньня. Ён маральны аўтарытэт. Часам непрыемна, можа быць, яго чуць тым, хто і працуе шмат, але ж і дапускае памылкі, і калі ім указваюць на іх нейкія глупствы, ці калі яны нейкія адступальныя працэсы пачынаюць... Ну што ж. Дзеля гэтага і існуюць такія як Васіль Быкаў. Добра, што яны ёсьць, і былі заўсёды, і будуць. Як бы ні складаўся час.

*— У сваіх успамінах Быкаў высока ацэньвае вашую ролю ў ягоным лёсе, і сярод іншага піша пра Ленінскую прэмію за «Знак бяды» ў 1986 годзе, калі некаторыя ў Палітбюро былі супраць, і былі вялікія спрэчкі, але Гарбачоў абараніў... Вы ня памятаеце падрабязнасьцяў?*

— Ведаеце, я пэрсаналіяў ужо не прыгадаю, але вакол Быкава спрэчкі ўвесь час былі. Гэта сьведчыць — тое, пра што ён пісаў, закранала ўсіх.

*— У тым ліку і ў Палітбюро спрэчкі?*

— Ну, я маю на ўвазе ня тое, што мы засядалі адмыслова наконт Быкава і абмяркоўвалі ягоныя творы, не. Але тое, што ўзьнікалі размовы, абмены меркаваньнямі, што ня ўсім гэта падабалася, многія былі яшчэ з «таго» часу, і «той» закваскі — гэта факт. Гэта — факт... Потым яны і пусьцілі пад адхон і перабудову, і путч быў, і ўсё гэта пайшло да чорта, і Гарбачова...





*— Міхаіл Сяргеевіч, я вам працытую словы Васіля Ўладзімеравіча з адной з нашых перадачаў на «Свабодзе»: «У мяне было некалькі сустрэчаў і канфідэнцыйных гутарак з Гарбачовым... Гутарак, дзе ён, у прынцыпе, падтрымліваў беларускую дэмакратыю супраць жорсткага рэакцыйнага дубаломнага партыйнага кіраўніцтва Беларусі».*

— Ён яго, гэтае кіраўніцтва, так і называў! Крута называў!

*— Дык вось, у якой ступені вы сачылі за гэтай ягонай барацьбой за дэмакратызацыю і наогул за беларускімі падзеямі?*

— Ён быў той чалавек, які, як я лічыў, чалавек перабудовачнай каманды. Духоўна. Гэта ня тое што яго «мабілізавалі», ведаеце. Не! Абавязацельстваў мы ніколі з Васіля Быкава ня бралі... І гэта глупства было б, калі б такога чалавека... Ён бы проста абурыўся.

*— Сапраўды, ён быў ня з тых, хто нешта рабіў бы супраць сваёй волі.*

— Ды ён рыхтаваў перабудову. Чаму ў Твардоўскага ён друкаваўся? Ды таму, што Твардоўскі з той жа плеяды людзей, якія захоўвалі нашую культуру, адстойвалі вольную думку. Васіль Быкаў да іх належаў.

*— У якой ступені вы сочыце за літаратурай? Чытаеце новае, альбо вы з тых, хто перачытвае клясыку?*

— Вы маеце рацыю: другое — болей. І апошнія гады я вельмі шмат заняты ў межах Фонду, у межах «Зялёнага крыжа», цяпер вось Форум усясьветнай палітыкі ды іншае, форумы ляўрэатаў Нобэлеўскай прэміі. Шмат часу ідзе на праблемы міру, праблемы экалёгіі, праблемы барацьбы з жабрацтвам і ўсімі тымі пагрозамі, якія перад намі. Я шмат чытаю, імкнуся нічога сур’ёзнага не прапусьціць — хаця немагчыма не прапускаць, пішац-

ца цяпер шмат... Бягучую літаратуру я, вядома, чытаю. Спрабую. Я ня ведаю — колькі часопісаў цяпер, колькі газэтаў... На мой погляд, ёсьць і такія, якіх можна было б і не выпускаць — але тым ня менш, вось, карыстаюцца свабодай на падставе закону.

*— Міхаіл Сяргеевіч, я вам яшчэ словы Быкава з нашай перадачы прывяду: «Памятаю, як незабыўны Алесь Адамовіч паехаў у Маскву, каб давесьці Гарбачову праўду пра тое, што сапраўды здарылася ў Беларусі, пятая частка якой апынулася пад радыенуклідамі. Вядома ж, пра тое яму не дакладвалі ні навукоўцы, ні беларускае кіраўніцтва, якое поўнілася аптымізмам кшталту таго, што «савецкаму чалавеку атам нястрашны». У бясьпецы атаму ўсё ж давялося ўсумніцца генсэку Гарбачову і перакацаць у тым беларускіх гаўляйтэраў, якія ўзьненавідзелі разам з Гарбачовым таксама і Адамовіча. Першага — за тое, што парушыў партыйную субардынацыю, а другога — за тое, што выскачыў наперад тагачаснага беларускага «бацькі» Яфрэма Сакалова».*

— Так, гэта правільна. Але вы ведаеце, я ня думаю, што нехта адмыслова нешта хаваў. Але чакалася, што ўдар галоўны прыйдзецца на Кіеў. А калі ўсё адбылося, і мы адчулі... Швэды адчулі, ад іх сыгнал быў — потым пабачылі: Магілёў і Гомель. Гэта проста бяда. Сюды ўдарыла. І Адамовіч тады ўпарта змагаўся. Наогул, я яго люблю, Алеся, проста пакланяюся. Мужны і востры як лязо. І праўдзівы.

*— Міхаіл Сяргеевіч, вы пэўна ведаеце, што апошнія пяць, фактычна шэсьць гадоў Васіль Уладзімеравіч, застаючыся грамадзянінам Беларусі, быў вымушаны жыць па-за межамі радзімы...*

— Я гэта наогул успрымаў як ненармальнасьць. Гэта шмат пра што казала. Калі Васіль вымушаны быў зьехаць і ў Празе жыў — гэта дрэнна. Вельмі дрэнна. І я думаю, што кіраўніцтва цяперашняе павінна ўсё ж падумаць над такім учынкам чалавека, які зьяўляецца сумленьнем ня толькі Беларусі. Што адбылося, чаму ён зьехаў? Можна сказаць, што з гадамі і тое, і другое, і трэцяе... Ён няпросты чалавек. Няпросты. Але ён жа сумленны чалавек, найсумленьнейшы. Найсумленьнейшы! Ва ўсіх адносінах. І потым, гэта мысьляр, гэта ня проста спрактыкаваны сачыняльнік. У яго ўсе творы нагружаныя вялікай філязофіяй жыцьцёвай. Таму яны павінны пра гэта думаць. І калі што-небудзь будзе сказана зь іх боку на сорак дзён — гэта будзе добра.





## ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН: «З ДАПАМОГАЙ ЯГОНЫХ ТВОРАЎ, ЯГОНАЙ ПУБЛІЦЫСТЫКІ МЫ МОЖАМ ВЫВЯРАЦЬ СВОЙ ШЛЯХ»

31 ліпеня 2003

Спаўняецца сорак дзён па сьмерці Васіля Быкава. Слова пра свайго сябра кажа паэт Генадзь Бураўкін.

*Г.Бураўкін:* Ну вось і разьвітваецца з намі душа Васіля Быкава і адлятае, як лічылі продкі, з грэшнай і любай нашай зямлі ў лепшы сьвет, да Бога. І ўсё гучней чуваць галасы, заклапочаныя галасы: «А хто ж заменіць Быкава? Хто зойме ягонае месца ў духоўным жыцьці Беларусі?» Думаю, няма сумненьня, што Быкава ніхто не заменіць, што Быкаў — ён у гісторыі ня толькі Беларусі, але і ўсяго сьвету. Такі — адзін. І ня трэба яму ні намесьнікаў, ні заменьнікаў. А патрэбна нам вельмі многа людзей, якія б маглі стаць поруч, поплеч з Быкавым. Так, як ён сёньня навекі стаў поплеч з Купалам, поплеч з Багдановічам, поплеч, урэшце, са Скарынам і з Каліноўскім. Вось такія людзі нам сёньня вельмі патрэбныя, і я думаю, што яны, бясспрэчна, ёсьць.
Толькі трэба, каб усе беларусы прачыталі ўважліва тое,

што чытаў Быкаў. Бо ён мог, калі быў жывы, нешта яшчэ дадаць, нешта растлумачыць, а цяпер мы самі павінны ва ўсім разабрацца, што ён сказаў, што ён нам завяшчаў. Таму, сапраўды, для дэмакратычных сілаў Беларусі надыходзіць, відаць, новы этап. Этап, калі Быкаў ужо ня зможа сам паправіць нас ці падказаць нам. Але мы з дапамогай Быкава, з дапамогай ягоных твораў, ягонай публіцыстыкі можам вывяраць свой шлях, можам знайсьці тыя рашэньні, якіх ад нас чакае гісторыя. Нам трэба цяпер паклапаціцца, каб мы былі вартыя яго любові да радзімы, а значыць, і да нас. І каб мы былі вартыя яго надзеяў, зь якімі ён пайшоў у лепшы сьвет. Бо, як паказвае сёньняшні дзень, нават і сьмерць ня толькі не спалохала, але нават не зрабіла больш разумнымі й разважлівымі людзей, якія сёньня на ягонай магіле, яшчэ зусім сьвежай, ужо ладзяць свае скокі хлусьні, свае скокі няпраўды. На магіле чалавека, які ўсё сваё жыцьцё, увесь свой агромністы талент аддаў служэньню і абароне праўды.

## НЯШЧАСЬЦЕ СЁНЬНЯ — НЯМА БЫКАВА. І ШЧАСЬЦЕ — СПАЗНАЦЬ ЯГО ТАКІМ, ЯКІ ЁН БЫЎ

31 ліпеня 2003

***Аляксандар Лукашук, Прага***

Адразу пасьля пахаваньня ў незалежнай газэце зьявіўся артыкул пад загалоўкам «Большы за Коласа». Гаворка ішла пра значэньне Быкава — дакладней, пра тое, чым Быкаў ня быў: ні Гаўлам, ні Салжаніцыным, ні прарокам, і пасьля яго, трэба спадзявацца, прыйдуць большыя і лепшыя. Гэтыя практыкаваньні з умоўным ладам рабіліся ў дзень пахаваньня. Нетактоўнасьць мае дваістую прыроду — гэта і этычная, і эстэтычная глухата.





Ацэньваць чалавека паводле таго, што магло б быць — пустая справа, брутальнае неразуменьне — усё роўна, як упікаць аўтара тых радкоў, што ён пераажыў гадамі Багдановіча, але вось жа не напісаў «Пагоні» ці ня стаў чэмпіёнам у фрыстайле. Сапраўднае ў мастацтве заўсёды ўнікальнае. Няма аналягаў ні Гаўлу, ні Салжаніцыну. Непаўторны і Быкаў. Ніколі не паўторыцца ягоны час і ягоны шлях, законы, якія ён вызначыў для сябе і паводле якіх яго толькі й можна ацэньваць.

Быкаў ведаў вагу свайго імя і таму змушана пагаджаўся на публічныя ролі — дэпутат, прэзыдэнт «Бацькаўшчыны», сябра Сойму БНФ, кіраўнік ПЭН-клюбу, старшыня аргкамітэту 25 сакавіка. Аднак пра сябе Быкаў казаў: стары чалавек, які толькі спрабуе дажыць у згодзе з сумленьнем. Ягоная творчая энэргія паводле сваёй прыроды ня мае выйсьця ў грамадзкія сфэры, жыцьцё ў ёй — трагічны выпадак, ён намнога бліжэйшы да бясконцасьці сьмерці, чым да марнасьці сьвету. Аповесьць Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» Быкаў назваў «каляднай казачкай» — такая прорва разьдзяляе іх сьветаадчуваньне. У інтэрвію на пытаньне, што такое шчасьце, Быкаў адказваў: «Калі няма няшчасьця». Няшчасьце сёньня — няма Быкава. І шчасьце — спазнаць яго такім, які ён быў.

## «ТРЭБА ЖЫЦЬ ДОМА... КАБ ТОЕ ТОЛЬКІ БЫЛО МАГЧЫМА»

31 ліпеня 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

Пра сваё жыцьцё на чужыне Васіль Быкаў пісаў у лістах да паэта Сяргея Законьнікава.

*С.Законьнікаў:* 4 лютага 1999 году Васіль Уладзімеравіч піша зь Фінляндыі: «Дарагі мой дружа Сяргей! На днях мне пераслалі сюды маю шматпакутную кніжку «Крыжовы шлях», на якую я, прызнацца, ужо махнуў рукою. Ды не, выйшла! Найперш тваімі, Сярожа, намаганьнямі і клопатам, за што табе мая шчырая падзяка. Я тут, канечне, стараюся не дарма есьці фінскі хлеб. Працую. Напісаў з тузін апавяданьняў — розных, аднак, па тэме, узроўні, жанру. Лепшае, большае, відаць, перадам табе ў «Полымя». Ужо дзевяць месяцаў, як мы на чужыне. Увогуле — добра, для заняткаў літаратурай нават выдатна: сытна, цёпла, утульна. І, бывае, ніводнага званка за дзень. Але ж... Усё болей прыходжу да элемэнтарнай высновы: трэба жыць дома. Каб тое толькі было магчыма... Дасьць Бог, яшчэ пабачымся. А да таго — абдымаю. Васіль Быкаў».

У лісьце ад 5 кастрычніка 2000 году ён ізноў выходзіць на гаворку пра дом: «Увогуле — няблага. Але — і нічога добрага. Дома лепей. Канечне, для тых, у каго ёсьць *людзкі* дом. Мы ж яго ня маем. А адносіны да бяздомных у сьвеце вядома якія».

У верасьні 2001 году з аказіяй я пераслаў Васілю Ўладзімеравічу хлеб, сьпечаны на кляновым лісьце, вушацкія журавіны і ліст у Франкфуркт-на-Майне. 1 кастрычніка ён адказвае: «Дарагі Сяргей! Дзякуй за ліст і за ХЛЕБ, які парадаваў нас незвычайна. Адразу відаць спрактыкаванага пілігрыма, які ведае, што трэба для замежнай гасьціны. Сваім тут жыцьцём не пахвалюся. Найперш, пачынае здаваць здароўе. А лячыцца тут неяк. Абсалютна. Таму, відаць, прыйдзецца вяртацца, «хоцца-няхоцца». Хаця і там — мала радасьці, у тым ліку і наконт здароўя».



Быкаў на Свабодзе

## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК: «Я АДЧУЎ, ШТО РАЗМАЎЛЯЮ АПОШНІ РАЗ, І ШТО БЫКАЎ, ВІДАЦЬ, ГЭТА ТАКСАМА ВЕДАЕ»

31 ліпеня 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

> Зянон Пазьняк апошні раз размаўляў з Васілём Уладзімеравічам Быкавым па тэлефоне перад самым яго ад'ездам у шпіталь у Бараўляны.

*З.Пазьняк:* Калі адыходзяць навечна духоўна блізкія людзі, заўсёды пачынаеш шкадаваць, што замала гаварыў, замала сустракаўся. Але, калі разабрацца, то як яно было, гэтак і было. Бо ўсе мы жывём дзеля будучыні, а ня дзеля сьмерці. Таму і складваецца ўсё так, як складваецца. Рэальна я гэта зразумеў 5 чэрвеня, калі па тэлефоне апошні раз размаўляў з Васілём Уладзімеравічам Быкавым, перад самым яго ад'ездам у шпіталь у Бараўляны. Ён быў вельмі сумны, гаварыў пра сваё расчараваньне замежжам, пра цяжкі стан, пра безвыходнасьць, што існуе наўкола, пра тое, што яму дрэнна і ён ад'яжджае... у Бараўляны. Бараўляны — гэта сымбаль, які выклікае трывогу. Усе гэта ведаюць.

Інтуітыўна я адчуў, што размаўляю апошні раз, і што Быкаў, відаць, гэта таксама ведае. Я пачаў яго фальшыва падбадзёрваць і гаварыць банальнасьці. Быкаў уздыхаў, хмыкаў і сьціпла цярпеў, пакуль я ня змоўк. Гэтага маўчаньня мне хапіла, каб вярнуцца ў рэальнасьць. І я сказаў яму тое, што думаю і кажу заўсёды: «Што б ні было, Васіль Уладзімеравіч, і што б хто ні рабіў, я ведаю адно — жыве Беларусь і будзе жыць. Ніхто ўжо нас не пераможа, ніякая Расея і ніякая Эўропа. Наша будучыня з намі. Гэтак станецца. Верце мне. Яна ўжо ідзе, толькі ніхто ня бачыць». Голас Быкава пацяплеў, і я зразумеў, што ён заўсьміхаўся і нават узрадаваўся. Ён заўсёды ўсьміхаўся і радаваўся, калі я яму такое казаў,

лагодна адмаўляючы мой аптымізм. «Ну, дай жа Божа, як кажуць, дай жа Божа!» — паўтараў з таго боку прыхільны голас. Гэта найбольш мне запомнілася з апошняй размовы і гучыць у вушах.
Я пазнаёміўся з Быкавым у траўні 1988 году, калі спаткаўся зь ім і папрасіў напісаць прадмову да артыкулу пра Курапаты. Гэта была бомба пад Савецкі Саюз. Агітаваць Быкава не было патрэбы. Гэта выглядала б сьмешна. Тут павінен быў стацца выбар. Таму знаёмства было стрыманае і нешматслоўнае. Быкаў прачытаў артыкул і напісаў прадмову. Гэта была моцная падтрымка, бо разьвязала рукі рэдакцыі газэты, дала падпорку. Памятаю востры момант у час арганізацыі «Мартыралёгу Беларусі» і аргкамітэту Народнага Фронту 19 кастрычніка 1988 году ў Чырвоным касьцёле ў Менску. Чыноўнік з ЦК КПБ, які апынуўся на ўстаноўчай канфэрэнцыі і нечакана даведаўся, што тут будзе арганізаваны Народны Фронт, літаральна кідаўся на выступоўцаў, на мікрафон і не даваў гаварыць. Гэта цягнулася доўгі час. Чыноўнік, вядома, ашалеў ад страху і стараўся выслужыцца перад начальствам як умеў. Але нам было зразумела, што ён хоча справакаваць, каб яго вывелі пад рукі й потым сымуляваць, што яго пабілі, выклікаць міліцыю і сарваць сход. Таму мы цярпелі, а заля аж віравала, патрабуючы яго выставіць. Колькі я назіраў за Быкавым, ён нават у вельмі вострых дачыненьнях у час грамадзкіх сутыкненьняў, спрэчак, канфліктаў маўчаў як камень. Пазыцыю ён меў, але ніколі ня кідаўся зь ёй у пеўневы бой. І тут раптам ня вытрымаў Быкаў. Ён устаў у гневе, хутка і рашуча. Выгляд яго быў пагрозьлівы (няўжо дасьць? — мільганула ў мяне бязглуздая думка). Быкаў рэзка крутануў да сябе мікрафон з-пад рота цэкіста і сказаў тое, што трэба, у поўнай цішыні, якая ўсталявалася пры ягоным уставаньні. Пасьля кароткага выступу Быкава цэкіст яшчэ лез, але неяк зьвяў і неўзабаве здаўся. Сход увайшоў у сваё нармальнае рэвалюцыйнае рэчышча.





На дзень нараджэньня 19 чэрвеня мы, фронтаўцы, часта прыходзілі да Быкава на Танкавую вуліцу, дзе ён жыў. Успамінаецца ягонае 70-годзьдзе ў сядзібе Фронту, паездка зь ім у Гомель разам з Рыгорам Барадуліным, дзе мы выступалі перад грамадзкасьцю. Увогуле мы вельмі шанавалі Быкава і сьцераглі яго ад цяжкасьцяў палітыкі, ад правакатараў, ад зьнявагаў, ад бязглуздых людзей, мы ніколі не забываліся, што ён вялікі пісьменьнік. Мы берaглі ягоны аўтарытэт. Нам дастаткова было, што ён побач. Потым, аднак, калі я апынуўся ў эміграцыі, аказалася, што ня ўсе так думалі. У 1999 годзе, калі калолі і секлі Фронт, усчалася кампанія за перацягваньне Быкава. Як і трэба было чакаць, Быкаў ад Фронту адышоў. Мае сябры папракалі: чаму я нічога не тлумачу Быкаву, чаму яму нічога не кажу? Паглядзі, маўляў, якая сумнеўная публіка імкнецца да яго ў суразмоўцы. Але я не адказваў. Я разумеў, што тут, як з Курапатамі, агітацыя не патрэбная. Тут — маральны выбар. Пераконваць можна звычайных людзей. Быкаў — асоба.
У сакавіку 2000 году мы спаткаліся з Быкавым на Дзень Незалежнасьці ў Празе. Перад ад'ездам ён падышоў да мяне і ў прысутнасьці трэцяй асобы рашуча і гучна сказаў: «Зянон Станіслававіч, я хачу, каб вы ведалі і ня мелі ніякіх няпэўных думак. Я цаню ўсё, што вы рабілі і робіце цяпер. Я вас падтрымліваў і буду падтрымліваць. Я бачу, што адбываецца. Ніколі нічога супраць вас ня будзе мной сказана. Я хачу, каб вы гэта ведалі». Я, здаецца, нічога яму не адказаў, бо чакаў, што ён павінен быў высьветліць сваю пазыцыю, і я крыху разгубіўся. У гэты момант я адчуваў у ім салдата, сілу прыкрыцьця. Вось нешта робіцца, і ўпоперак гучыць суцэльны крык, напад, псыхічная атака. Азірнесься — і за плячыма наводдаль — маўклівая постаць Быкава. Ён ёсьць. Ён узіраўся. Ён заўсёды недзе быў (нібы анёл-ахоўнік у гэтым сьвеце), каб падаць руку. І вось яго няма. І з гэтым вельмі цяжка зьмірыцца.

## СА СЬМЕРЦЮ БЫКАВА АСІРАЦЕЛА І ЯГОНАЯ РАДЗІМА — ВЁСКА БЫЧКІ

31 ліпеня 2003

***Ігар Карней, Менск***

У вёсцы Бычкі на Вушаччыне ці не 90% жыхароў маюць адно прозьвішча — Быкавы. Таму і Васіля Ўладзімеравіча заўсёды называлі аднавяскоўцам, не зважаючы, што прыяжджаў ён туды апошнія гады жыцьця найчасьцей раз на год. Якую памяць захавалі Быкавы пра свайго знакамітага земляка?

Кожны жыхар Бычкоў ведае біяграфію Васіля Быкава амаль дасканала. Вось і спадарыня Люба, якую я першую сустрэў на пустой вуліцы, упэўнена пачала распавядаць:

— І матка ягоная адсюль была, і бацька, і брат. Братава жонка дагэтуль жыве ў старой хаце.

*— А чаму так атрымалася, што ён вывучыўся, ад'ехаў, а ўсе засталіся?*

— Брат меншы быў глухі амаль, мала нават у школу хадзіў, застаўся ў калгасе працаваць. Ну, а бацька з маткай старыя ўжо былі — куды ж яны паедуць? Сястра выйшла замуж у Ваўчо, там і засталася.

*— Тут побач стаіць зусім развалены дом Быкава...*

— Ага. Гэта ягоны дом разваліўся зусім. Ніхто не глядзіць за ім. Каб захацелі, каб хто паклапаціўся, дык музэй зрабілі б. Але мясцовая ўлада нікуды ў нас не глядзіць, ані. Глядзяць, каб толькі хапнуць у сваю кішэню.

Выгляд радавога гнязда Васіля Быкава нічога, апроч роспачы, не выклікае. Толькі сьцены яшчэ трымаюцца, дый тое, як кажуць, на чэсным слове: страха даўно правалілася праз столь, падлога ўрасла ў зямлю. З захавальніцай прывіднага музэю, жонкай малодшага брата Быкава, спадарыняй Антанінай, мы ледзьве прасоўваемся праз барыкады зь бярвеньняў: цяжка верыцца, што тут можна нешта аднавіць.

— Раней, да вайны, хата была праз вуліцу. Але яна стала ад часу абы-якая, дык яны перабудавалі гэтую. Васіль гадаваўся ў гэтай хаце, і на вайну пайшоў адсюль. А ў той, дзе мы жывём цяпер, ён вучыўся, там школа была. Памятаю, як толькі купілі яе, ён прыехаў, і гляджу, нешта ходзіць-ходзіць, быццам і сьмецьця няма, а ён усё выглядае. А потым сказаў, што вось на гэтым месцы сядзеў, як у школу хадзіў. Але Васька як пайшоў, дык ужо і не вяртаўся: на мастака вучыўся, а потым у рамеснае пайшоў.

Найбольш перажывае, што хата зруйнаваная часам, сусед — Сямён Быкаў. Катэгарычна заяўляе, што музэй у роднай хаце быў бы найлепшым помнікам пісьменьніку:

— Трэба, каб быў абавязкова. Хто б ні застаўся — унукі, праўнукі, патрэбна. Хоць бы пакрыць цяпер страху, і тое... Але дапусьціць такое? Ня ведаю. Такі чалавек! Гэта ж адзіны ў нас герой, і дапусьцілі такое.

З творчасьцю Быкава ў Бычках знаёмыя ўсе. Вяскоўцы нават спрабуюць аналізаваць, дзе праўда, а дзе пісьменьніцкая фантазія. Мой новы знаёмец спадар Міхал кажа, што шмат твораў свайго аднавяскоўца прачытаў і кінафільм «Альпійская баляда» бачыў, але не з усім напісаным згодны:

— Прыфарбаванага дужа шмат. Праўда! Ня я адзін так думаю, усе так лічаць. Ну, але калі напісаў, няхай будзе і такая памяць.

Спрабую высьветліць у спадара Міхала, чаму, на ягоны погляд, беларускія ўлады адмоўна ставіліся да пісьменьніка?

— А таму, што ён пакінуў краіну. А мы ж тут жывём, і

расьцём, і косім, а ён кінуў Беларусь і кудысьці ад’ехаў. А што там? А тут бацька пахаваны, маці...

Сястра ж Быкава, Валянціна, заўсёды разумелася з братам. І толькі зь ім магла абмеркаваць падзеі, што адбываюцца ў Беларусі. Пытаюся ў спадарыні Валянціны: як ставяцца да яе аднавяскоўцы, ведаючы, што яна сястра пісьменьніка, залічанага ўладай да апазыцыі?

— Ай, наперад нeяк яшчэ паважалі, а цяпер хто як. У вёсцы нашай цяпер адно толькі стар’ё. Паважаюць за справы. Вось асфальтавую дарогу ад Бычкоў да Кублічаў па ягонай ініцыятыве зрабілі, моцна дапамог. А што да мяне, дык я ж тут наезная, чужая, а як Васіль у БНФ яшчэ ўступіў, дык тыя, хто за Лукашэнку, перасталі паважаць і мяне. Разумныя добра ставяцца, а каторыя не разумеюць, дык тым усё роўна.

Многія, з кім давялося размаўляць у Бычках, цяпер адчуваюць, што вёска нібы асірацела. Хоць Быкаў і ня быў апошнім часам часты госьць на радзіме, хоць не заўсёды яны маглі яго зразумець, само адчуваньне зямляцтва з Быкавым усё ж грэла сэрцы. Сорак дзён таму вялікага аднавяскоўца ня стала.

## РЫГОР БАРАДУЛІН: «ЯК БЫЦЦАМ МЫ ЎСЁ ЖЫЦЬЦЁ БЫЛІ ЗНАЁМЫЯ»

31 ліпеня 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

Найбліжэйшы сябар Васіля Быкава згадвае іхнае знаёмства.

*Р.Барадулін:* Усё сьвядомае літаратурнае жыцьцё імя Васіля Быкава было ў маёй душы, у маім сэрцы. Папершае, Васіль Быкаў з Бычкоў, гэта побач з Вушачамі.





Калі я вучыўся ў школе, у нас на кватэры была Марыя Быкава (там шмат з прозьвішчам Быкава), яна ўсё распавядала, што калі яна вучылася ў школе, Васіль Быкаў намаляваў ейны партрэт. Пасьля, як ужо я стаў ва ўнівэрсытэце вучыцца, я быў студэнтам і паехаў у Горадню да сваёй будучай жонкі Валянціны, і там мы сустрэліся ўпершыню з Быкавым. Гэта, лічыце, прайшло паўстагодзьдзя, як я яго ўпершыню пабачыў. Уражаньні мае (як першае, так і да апошняга) — як быццам бы мы ўсё жыцьцё былі знаёмыя. Бо Васіль Быкаў зьдзіўляў сваёй глыбінёй, сваёй удумлівасьцю, немітусьлівасьцю і сваёй глыбіннай перакананасьцю і непахіснасьцю. Гэта была скала. Калі казаць груба — скала зь лірычнымі вачыма. Таму што душа ў Васіля дужа трапяткая. Я помню, аднойчы неяк ён гаворыць: «І ўва мне ўсё затрымцела». А вонкава — быў такі спакойны, быццам бы яго нічога не хвалявала...

## НЕКАЛЬКІ СОЦЕНЬ ЛЮДЗЕЙ ПРЫЙШЛІ ДА МАГІЛЫ ВАСІЛЯ БЫКАВА НА САРАКАВІНЫ

31 ліпеня 2003

***Валер Каліноўскі, Менск***

У чацьвер адзначалі саракавіны па сьмерці Васіля Быкава — дзень, калі адбываецца разьвітаньне душы памерлага з гэтым сьветам. Гэтыя саракавіны на Ўсходніх могілках Менску былі шчымлівыя і ўрачыстыя.

Некалькі соцень людзей прыйшлі да магілы Васіля Быкава, была ўдава Ірына Міхайлаўна, старэйшы сын Сяргей, блізкія сябры, пісьменьнікі, прыхільнікі таленту Васіля Быкава, а таксама амбасадары ЗША, Нямеччыны, Польшчы, Чэхіі, Літвы, Украіны, Славаччыны.

Яны прынесьлі з сабою вянкі, кветкі, сьвечкі, бел-чырвона-белыя сьцягі. Уніяцкі сьвятар Андрэй Абламейка асьвяціў магілу Васіля Быкава і правёў памінальную імшу. На невялікім жалобным мітынгу прагучалі кароткія прамовы блізкіх сяброў Васіля Быкава — Генадзя Бураўкіна, Сяргея Законьнікава, Рыгора Барадуліна, Юрыя Хадыкі, Алега Трусава. Яны прыгадвалі словы Васіля Быкава, якія яны ўспрымаюць як ягоны запавет: «Бараніць беларускую мову, бараніць беларускі ліцэй, бараніць бацькаўшчыну». Паэт Рыгор Барадулін назваў Васіля Быкава «скалой зь лірычнымі вачыма», а Юры Хадыка папрасіў прабачэньня ў сям'і нябожчыка за тое, што ён асабіста ня змог прысутнічаць на пахаваньні Васіля Быкава, бо быў у вязьніцы.
Генадзь Бураўкін заклікаў пакуль не зьвяртаць увагі на спэкуляцыі прадстаўнікоў улады аб тым, што нібыта Быкаў прасіў у гэтых уладаў дапамогі і атрымліваў яе. «Ня трэба пакуль, — сказаў Генадзь Бураўкін, — бо сёньня душа Васіля Быкава разьвітваецца са сьветам. Ня трэба пакуль, але потым мы скажам усё».

## ІВОНКА СУРВІЛЛА: «Я АСАБІСТА АДЧУВАЮ НЯЗНОСНАЕ ПАЧУЦЬЦЁ СТРАТЫ»

31 ліпеня 2003

***Сяргей Навумчык, Прага***

У мінулую нядзелю беларусы канадзкай сталіцы сабраліся разам, каб адзначыць угодкі аднаўленьня суверэнітэту Беларусі. Перш як гаварыць пра сьвята, ушанавалі хвілінай маўчаньня памяць Васіля Быкава. Тыдзень раней паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР у Нью-Джэрзі таксама пачалося хвілінай маўчаньня ў памяць Васіля Быкава.





*І.Сурвілла:* Між людзьмі, імёны якіх застануцца назаўсёды запісаныя залатымі літарамі ў гісторыі нашага народу, Васіль Быкаў займае адно з найбольш пачэсных месцаў. Геніяльны пісьменьнік быў таксама чулым, поўным дабрыні цудоўным чалавекам, які бясконца любіў сваю бацькаўшчыну і перайма́ўся яе лёсам. І я асабіста адчуваю нязноснае пачуцьцё страты. І адначасна — вялікае пачуцьцё ўдзячнасьці за тое, што Бог даў нашаму народу Васіля Быкава, і што побыт яго між намі быў доўгі і плённы.

## УЛАДЗІМЕР АРЛОЎ: «РАЗМОВА З БЫКАВЫМ БУДЗЕ ДОЎЖЫЦЦА, ПАКУЛЬ БУДЗЕ БЕЛАРУСЬ»

31 ліпеня 2003

Пісьменьнік Уладзімер Арлоў прыгадвае першую сустрэчу з Васілём Быкавым.

У 1982 годзе я атрымаў запрашэньне на сэмінар маладых літаратараў у Каралішчавічы. На гэтым сэмінары тагачасны загадчык аддзелу культуры ЦК КПБ Іван Антановіч імкнуўся пераканаць нас у росквіце беларускай культуры. Сьветлай памяці Ян Скрыган стварыў рэкляму маім апавяданьням, абвінаваціўшы аўтара ня больш ня менш як у парнаграфіі... Карацей, для маладога літаратара падзеяў у тыя некалькі дзён хапала.
Але галоўным успамінам для мяне засталася сустрэча з Васілём Быкавым, на якую нас прывезьлі ў сталічны Дом літаратара. Гэта была мая першая сустрэча зь пісьменьнікам, які ў маім успрыманьні займаў разам з Уладзімерам Караткевічам зусім асаблівае месца ў нашай літаратуры. Караткевіч быў тады мне бліжэйшы. Я быў у абладзе ягонага рамантызму, перажываў захапленьне нашай гісторыяй. Але ўвадначас я добра разу-

меў, што кнігі Караткевіча, як зазвычай і бывае з гістарычнай літаратурай, адрасаваныя найперш нам, беларусам, нацыянальнаму чытачу. Караткевіч адкрываў беларускую душу ва ўсёй яе шматстайнасьці самім беларусам. А Быкаў дзякуючы адметнасьці свайго таленту і сваёй галоўнай тэме адкрываў гэтую душу ўсяму сьвету.

Быкаў на згаданай сустрэчы ў Доме літаратара гаварыў, што яшчэ не сказаная ўся праўда пра мінулую вайну. І слухаючы яго, я адразу ўспомніў тую прыдзьвінскую вёску на Полаччыне, якую ўлетку 1941 году спалілі разам з жыхарамі пераапранутыя ў нямецкую форму супрацоўнікі НКВД.

Але значна больш за тое, што гаварыў Быкаў, мяне ўразіла тады ягонае маўчаньне ў час выступаў markрознага рангу каялітаратурных чыноўнікаў. У гэтым маўчаньні адчуваліся сапраўдныя глыбіня і годнасьць асобы. Мы яшчэ ня ведалі, што якраз у той час ствараўся «Знак бяды» — аповесьць, зь якой, як я лічу, пачалося далучэньне Васіля Быкава да беларускага нацыянальнага космасу.

Потым я шмат разоў сустракаўся з Быкавым, але тая сустрэча ў Доме літаратара, першае ўражаньне — не зьнікалі. Ёсьць пісьменьнікі — выдатныя прамоўцы, але слухаць іх нязьмерна цікавей, чым чытаць. Аднак я перакананы, што клясыкаў, геніяў нацыянальнай літаратуры трэба найперш чытаць. Яны прамаўляюць да нас не публічнымі выступамі, а сваімі творамі. Бо іх творы вышэйшыя за саму асобу пісьменьніка. Бо ў гэтых творах праз аўтара прамаўляе да нас сам геній нацыі.

Я не хачу сказаць, што Быкаў быў нецікавы суразмоўца. Але ад той, першай сустрэчы, мне заўсёды было даражэйшае ягонае маўчаньне. Мне хацелася, каб ён прамаўляў і да мяне, і да астатніх сваіх чытачоў найперш сваімі кнігамі. Гэтая маўклівая размова з Быкавым будзе доўжыцца, пакуль будзе Беларусь.



# З архіваў

Разьдзел складзены з матэрыялаў, знойдзеных у фанатэцы і ў прыватных архівах супрацоўнікаў радыё. Таксама далучаная прадмова да зборніка эсэ, якія на працягу 1999 году гучалі на хвалях «Свабоды» і пазьней былі выдадзеныя часопісам «ARCHE».

## «КІРАЎНІКІ ЦК ВЫЯВІЛІ СЯБЕ ПОЎНЫМІ НІКЧЭМНАСЬЦЯМІ»

19 кастрычніка 1993

***Аляксандар Лукашук, Менск***

У сядзібе Беларускага Народнага Фронту на Варвашэні, 8 адбылася вечарына з нагоды 5-х угодкаў утварэньня Беларускага Народнага Фронту. Выступалі старшыня БНФ Зянон Пазьняк, намесьнік Юры Хадыка, сваімі ўспамінамі падзяліўся і сябра Сойму БНФ Васіль Быкаў.

*В.Быкаў:* Вядома, што ў свой час гэтая зьява, утварэньне Народнага Фронту — неардынарная, можа быць, гістарычная зьява — будзе дасьледаваная не адным пакаленьнем дасьледчыкаў. Як трэба, апісаная ў літаратуры, ва ўсіх яе жанрах. Гэта безумоўна, таму што гэта вельмі важная падзея. Я б сказаў, гістарычная падзея на шляху, вельмі цярністым шляху нацыянальнага супраціўленьня таталітарызму. Канечне, цяпер шмат што стала зразумелым, вядома. А ў той час многае было абсалютна незразумела, многае выяўлялася як бы нейкімі абрысамі няпэўнымі з туману.
Я, напрыклад, калі на тым памятным сходзе, дзе мы стваралі кіраўніцтва «Мартыралёгу Беларусі», я ня ведаў, што ёсьць нейкая задума стварыць і Народны Фронт. Для мяне гэта было нечакана, але ўсё-такі было нейкае адчуваньне неабходнасьці, гістарычнай неабходнасьці менавіта такога акту. І ён — зьдзейсьніўся. Усе мы адчувалі тады вялізны ўціск на сябе з боку ўлады. Я за ўсе свае гады жыцьця ў Беларусі столькі разоў ня быў у ЦК і ў Вярхоўным Савеце, як у тыя некалькі тыдняў, калі мяне кожны дзень, відаць, вазілі туды на машыне — і я там, значыць, засядаў у кабінэтах, ну а часьцей за ўсё адзін на адзін. То зь Пячэньнікавым, то зь яго памагатымі, то з Сакаловым. Гэта, канечне, былі вельмі непрыемныя сустрэчы. Непрыемныя ў тым сэнсе, што даводзілася даказваць такія рэчы, пра якія з разумнымі людзьмі, нармальнымі проста ніякай гаворкі не магло быць. Найэлемэнтарнейшыя рэчы. Ну, апроч таго, яны, канечне, праявілі сябе ў гэтым сэнсе поўнымі нікчэмнасьцямі. Абсалютнымі нікчэмнасьцямі. Ня толькі ў вачах беларускай нацыі, але і ў вачах нават свайго партыйнага, маскоўскага кіраўніцтва.
У мяне на гэты конт былі дзьве гаворкі з Гарбачовым. Адна была малапрыемная, гэта была аўдыторыя вялікая, была нейкая сустрэча ў Маскве, дзе з аднаго боку было ўсё Палітбюро, а з другога боку — інтэлігенцыя, творчыя работнікі. І тады Гарбачоў — якраз гэта здарылася пасьля падзеяў 30 кастрычніка — Гарбачоў мяне падняў для допыту: што такое адбываецца ў Беларусі? Для мяне гэта ўжо такое ўсё было набалелае, што я там адказаў прама і без усякай дыпляматыі. І, мабыць, гэта падзейнічала, бо Гарбачоў больш нічога ў мяне ня мог там запытацца, толькі круціў галавой і пра сябе гаварыў: «Як жа так атрымалася? Такая нацыя...» Ён быў зьбянтэжаны. І ў часе другой гаворкі (гэта было крышку пазьней, і было сам-насам, больш нікога), хаця гэта была кароценькая гаворка, я зразумеў (ён мне гэта сказаў), што нашае кіраўніцтва, у тым ліку і ЦК, і КГБ, і Міністэрства ўнутраных справаў, інфармавалі Маскву такім чынам, што 30 кастрычніка беларускае кіраўніцтва задушыла нацыяналістычны мяцеж.
І вось цяпер, як тут гаварыў Зянон Станіслававіч, усё стала зразумела, асабліва калі мець на ўвазе алмацінскія падзеі. Гэта звычайнае стандартнае мысьленьне, паколькі гэта адбылося так у Алматы, дык так павінна было адбыцца і ў Беларусі. Супраць людзей, супраць народу, які выйшаў на вуліцы з абсалютна бязьвіннымі мэтамі — ушанаваньня памяці продкаў, былі кінутыя вялізныя сілы арміі, міліцыі, ну і таксама партыйных арганізацыяў, партыйныя сілы. Усё гэта

такім чынам падавалася, і нашы кіраўнікі, далажыўшы, што гэта мяцеж падаўлены, чакалі, безумоўна, узнагароды. І там, у Палітбюро, ужо намячаліся такія згоды, што трэба адзначыць...

Але, праўда, Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету СССР і ЦК КПСС — ёдаць, таму, што ў Гарбачова ўжо зьявілася нейкае сумненьне, яны не пасьпелі такім чынам адрэагаваць і ўзнагародзіць. Адно толькі палкоўніку, які кіраваў усёй гэтай арміяй каля Маскоўскіх могілак, Міністэрства ўнутраных справаў (гэта ўжо іх прэрагатыва) прысвоіла наступнае, генэральскае званьне. Вось на гэтым усё скончылася. Яшчэ можна сказаць, што ў гэтай нашай барацьбе, як і належала, як і трэба было чакаць, усё-такі нас падтрымала расейская дэмакратыя. Я цяпер успамінаю хоць бы тую самую нараду, на якой пасьля майго выступленьня выступіў Віктар Астаф'еў, у вельмі рэзкай форме выгаварыў ЦК і Гарбачову, можа быць, так выгаварыў, як і належала зь імі гаварыць. Я, на жаль, проста не валодаю такім стылем, якім валодае Віктар Астаф'еў. Ну, канечне, Адамовіч там многа чаго зрабіў у гэтым сэнсе на нашу карысьць.

Але я хацеў бы сказаць, што былі і іншыя людзі, зь ліку нашай нацыянальнай інтэлігенцыі, якія іменна ў гэты час пісалі пад дыктоўку кіраўніцтва, таго ж ЦК розныя акты — пра тое, скажам, што (гэта вядомы акт парлямэнцкай камісіі) у часе падзеяў 30 кастрычніка з боку «правоохранительных органов никаких противоправных действий применено не было». І гэты, я б сказаў, ганебны акт трэба было б надрукаваць вось цяпер, бо там стаяць подпісы нашых вядомых цяперашніх, вельмі паважаных, шаноўных інтэлігентаў. Я памятаю, што калі я гаварыў з Сакаловым у той час, ён увесь час «патрасаў» гэтым дакумэнтам. Я казаў, што атручаныя газам дзясяткі людзей, а ён мне паказваў акт, скрэплены подпісамі гэтых людзей, і гаварыў, што вось яны сьведчаць, што ніякіх там газаў не прымянялі, абсалютна.

Яшчэ я хацеў бы на заканчэньне сказаць вось што. Безумоўна, падзеі 30 кастрычніка зьявіліся экзамэнам найперш для новенькага, толькі народжанага кіраўніцтва Народнага Фронту. І найбольш з поўным правам гэтыя падзеі засьведчылі права Зянона Пазьняка на лідэрства Народным Фронтам і на лідэрства сярод нашай нацыі. І гэта, канечне, вялікае шчасьце ў тым вялізным няшчасьці для нашай нацыі.





## «Традыцыя Дзядоў вельмі значная для духоўнага здароўя нацыі»

2 лістапада 1993

***Аляксандар Лукашук, Менск***

> Менск, праспэкт Скарыны. На рагу вуліцы Ўрыцкага і праспэкту Скарыны ўсталявана «Капліца памяці» з тэкстам: «Адсюль, ад будынку НКВД, пачынаўся пакутны шлях у Курапаты. Вечная памяць ахвярам бальшавіцкага тэрору!» Сьціплыя кветкі, людзі вакол.

На мітынгу каля будынку НКВД—КГБ выступіў і Васіль Быкаў.

*В.Быкаў:* Шаноўныя сябры! Кожны народ мае сьвяшчэнныя мясьціны, як у сваёй гісторыі, так і ў сваёй геаграфіі. Гэтая сьвяшчэннасьць зьвязаная ня толькі з доблесьцю і гераізмам, але таксама і з пакутамі, і тымі выпрабаваньнямі, якія ён панёс на сваім гістарычным шляху. Так сталася, што беларусы на сваім шляху адзначаюць вось іменна гэтую мясьціну. Гэта мясьціна, якая зьявілася пачаткам шляху на Гальготу многіх і многіх тысяч беларусаў у нядаўнім мінулым. Мы павінны памятаць як іх імёны, імёны нашых пакутнікаў, таксама і імёны іх катаў. Таму што для нас праблема віны і спра-

вядлівасьці — вельмі зьядналая праблема. І без вырашэньня яе немагчымы навогул ніякі прагрэс і разьвіцьцё нацыі. Дык вось, я думаю, што сапраўды вось гэтая традыцыя адзначэньня Дзядоў, гэтага месца, відаць, яна ўсталюецца надоўга, бо яна вельмі значная для духоўнага здароўя нашай нацыі.

## «МЫ НЕ ГАТОВЫЯ ДА ПАКАЯНЬНЯ»

12 сьнежня 1993

***Аляксандар Лукашук, Менск***

> — Ці памятаеце вы 1963 год, калі забілі Джона Кенэдзі, і што гэта значыла для вас тады, у тыя гады? Чужая краіна, «вораг» Амэрыка, забіты прэзыдэнт... І — вашы адчуваньні?[1]

— Мае адчуваньні былі... Самае першае было — гэта пытаньне: хто? Чыіх рук гэта справа? І канечне, мне тады ўжо здалося, хаця я ня меў ніякіх зьвестак, ніякіх матэрыялаў, але здалося, што гэта справа рук КГБ. Я думаў, што бязь іх гэта не абышлося. А пасьля, калі пачала раскручвацца гэтая справа — і выявіўся тут Освальд, і яго лёс прывёў у Менск, я зразумеў, што, канечне, інакш і быць не магло! Інакш і быць не магло. Справа толькі ў тым, што гэтыя самыя спэцыялісты, чэкісты, яны ж умеюць хаваць канцы. У іх паралельна з распрацоўкай апэрацыі ідзе распрацоўка і таго, як схаваць канцы ў ваду. І вось, відаць, так здорава схавалі, што нічога зразумець дагэтуль немагчыма.

[1] Пытаньні пра Кенэдзі былі патрэбныя для перадачы да 30-годзьдзя забойства амэрыканскага прэзыдэнта. (*Тут і далей заўвагі А.Лукашука.*)





*— Васіль Уладзімеравіч, а вось вашы адчуваньні ад таго, што загінуў прэзыдэнт чужой, варожай краіны? Я маю на ўвазе, што гэта ўсё ж такі была яшчэ пара, хоць, можа быць, і не такой жалезнай, як пры Сталіну, але ўсё ж такі жалезнай заслоны...*

— Ну, я скажу, што не было ў мяне з гэтай нагоды ні радасьці, ні вялікага смутку, таму што... Радасьці не было — бо я тады не адчуваў Амэрыку як варожую ці патэнцыйна варожую краіну. А смутку не было, бо ўсё-такі гэта была чужая краіна, з чужымі праблемамі, а ў нас, дзякуй Богу, тады сваіх праблемаў было... І ў мяне асабіста праблемаў была такая вялікая колькасьць, што ў мае эмоцыі ўжо іншыя проста не маглі паўнапраўна ўлезьці, уторкнуцца...

*— Гавораць, што для пісьменьніка, для чалавека творчага пакуты — гэта частка прафэсіі. І нават ёсьць такі падыход, што трэба пакутаваць, трэба гэтыя цяжкасьці цярпець... Вы лічыце, што тыя адчуваньні, тыя нэгатыўныя эмоцыі, скажам, 1960-х гадоў, яны мелі нейкі станоўчы вынік для вас як для чалавека, які піша?*

— Ну дык вядома, што адмоўныя эмоцыі, якіх звычайна бывае багата ў жыцьці, яны працуюць у пэўных натурах у адным напрамку — у напрамку працы над душой, над удасканаленьнем, над выгартоўваньнем душы. Мы ведаем і з прыкладу многіх іншых, у тым ліку і літаратараў, што яны іменна як літаратары, як асобы выхаваліся на пераадоленьні цяжкога, нават пакутнага. Гэта адносіцца і да Льва Талстога, і да Дастаеўскага. Ёсьць сьведчаньні, я памятаю, Буніна, які другі раз ажаніўся і ехаў у падарожжа ў Палестыну, і ўсё ў яго на душы было так хораша, што ён у пісьме свайму брату старэйшаму напісаў, што так мне цяпер хораша, што я баюся, як жа я буду далей пісаць? Значыцца, вось гэтыя пакуты, яны для творчай асобы проста маюць неацэннае значэньне.

*— Вельмі важна, чым ёсьць пакуты для творчай асобы? І пакуты для іншых людзей? Скажам, той пакутны час, які перажывае цяпер уся нацыя... Ці нейкі станоўчы здабытак можа быць у выніку? Ці не?*

— Я думаю, што так. Таму што, відаць, уся гісторыя чалавецтва разьвіваецца, па-першае, у пераадоленьні, па-другое, у напрамку нейкай навукі, нейкага ўроку гістарычнага, які могуць даць толькі іменна пакутныя, стрэсавыя моманты гісторыі кожнага народу. Варта зірнуць хоць бы на становішча ў Эўропе, пра якое кажуць, што яно стабільнае, што там няма войнаў (за выключэньнем, можа быць, краінаў былой Югаславіі), і дэмакратыя там усталявалася... Усё гэта добра. Але мы павінны ўспомніць, што перажыла да гэтага Эўропа, краіны Эўропы і дзяржавы эўрапейскія. Колькі там было калатнечы і колькі было праліта крыві. І толькі прайшоўшы праз усё гэта, празь вялікія выпрабаваньні і вялікія пакуты, праз войны трыццацігадовыя, напалеонаўскія і іншыя, праз шмат рэвалюцыяў, міжусобіцаў, толькі ў такім выпадку ўрэшце напрыканцы XX стагодзьдзя эўрапейскія народы прыйшлі да цяперашняга стану. Да стану стабільнасьці, узаемнай згоды, да разуменьня таго, што ў эўрапейскім доме можна жыць толькі мірна, толькі не падпальваючы яго з розных бакоў. І калі дагэтуль яшчэ нехта падпальвае, дык гэта ўсё ня што іншае, як пераадоленьне гэтага сындрому камунізму.
Калі паглядзець уважліва на гэтыя канфлікты ў былой Югаславіі, у Альбаніі, эканамічныя цяжкасьці ў краінах Усходняй Эўропы, усе яны маюць адну прыроду: камуністычную прыроду. І пакуль гэты сындром камунізму ня будзе пераадолены, дагэтуль Эўропа ня стане канчаткова на шлях згоды і мірнага суіснаваньня.

*— У пераадоленьні сындрому камунізму — што, на вашу думку, галоўнае? Актыўнасьць суб'ектаў? Ці ўсё ж не па сілах асобных людзей, нейкіх групаў, ці нават палітыкаў гэта зрабіць, і патрабуецца час, патрабуюцца вось тыя сорак гадоў, якія патрабаваліся біблейскаму Майсею, каб з рабоў зрабіць вольных людзей? Наколькі гэта залежыць ад нас?*

— Гэта цалкам залежыць ад нас, але і ня толькі ад нас. Я думаю, што калі гаварыць пра час, дык яго трэба, можа быць, куды больш, чым сорак гадоў. Справа ў тым, што камунізм — гэта СНІД, татальны СНІД, які паражае ўсё грамадзтва і, у рознай меры, усе суб'екты гэтага грамадзтва. І трэба мець на ўвазе, што гэтае паражэньне было вельмі канцэнтраваным, вельмі інтэнсіўным. Мы ж ведаем, мы ж можам успомніць, як інтэнсіўна разьвівалася ўсё, што зьвязана з камуністычнай ідэалёгіяй. Якія былі сродкі выхаваўчыя, якая была прапаганда, якая была эканоміка. Усё — у адным напрамку. І таму менавіта гэты СНІД паразіў на вялікую глыбіню абсалютна ўсе бакі чалавечага існаваньня, у тым ліку ня толькі эканоміку, якая ня можа выкараскацца і дагэтуль — як ня дзіўна, ніякія меры не эфэктыўныя. Пакуль ня будзе канчаткова перажытае ўсё, што зьвязана з камуністычнай эканомікай, я думаю, што і зруху ня будзе.
Далей. Гэта адносіцца да культуры, да псыхалёгіі таксама, чалавечай псыхалёгіі. Я думаю, што патрабуецца зьмена некалькіх пакаленьняў, і таму, безумоўна, сорак год біблейскага Майсея — гэта занадта кароткі тэрмін у параўнаньні з тым, які патрэбны нам, каб панішчыць раба ў сваёй натуры.

*— Калі гаварыць пра нас не як пра народ, не як пра нацыю, а як проста пра асобных людзей, пра індывідуўмаў, то нам не падыходзіць такі адказ. Яго можна толькі з горыччу прыняць. У нас жыцьцё ўсё ж абмежаванае. І ў межах свайго жыцьця, значыць, падыход трэба шукаць іншы. Скажыце, наколькі вам уяўляецца плённай ідэя, якая была выказаная на самым пачатку перабудовы,*

*што скончыць з гэтым можна праз пакаяньне? Што адбылося з гэтай ідэяй?*

— Ідэя вельмі харошая, я лічу. Але ўся справа ў тым, што іменна мы, пакаленьні, якія цяпер жывуць, якія мелі дачыненьне да нядаўняга мінулага, да камунізму, проста псыхалягічна не гатовыя да якога-небудзь пакаяньня. У нас цяпер колькі заўгодна ёсьць тэорыяў, па якіх значыцца, што мы — не вінаватыя. Што вінаватыя толькі, дапусьцім, чэкісты. Або далей некаторыя ідуць: што вінаватае толькі кіраўніцтва партыі, таму што «радавыя члены ні пры чым», яны былі проста «вінцікамі», ад іх нічога не залежала. Іншыя кажуць, што, можа быць, кампартыя вінаватая, але вось маса беспартыйных, простых былых савецкіх людзей, рабочых, калгасьнікаў — ужо абсалютна не вінаватая, таму што ад іх нічога, зусім ужо нічога абсалютна не залежала.
Дык вось, я хацеў бы сказаць, што ад усіх залежала. Таму што гэта такое зьявішча камуністычнае, якое ў сваю арбіту ўцягвала абсалютна ўсіх і ўсё. Зьява татальная. І таму пакаяньне можа быць толькі татальнае. І пакуль наша грамадзтва, наш народ не дарастуць да ўсьведамленьня менавіта татальнасьці нашага пакаяньня, відаць, ня ўсё будзе зроблена ў сэнсе нейкіх перадумоваў для перамогі гэтага праклятага мінулага.

*— Яшчэ раз пра пакаяньне. У гэтае паняцьце, відаць, абавязкова ўваходзіць і такая якасьць, як дараваньне. Дараваньне, калі ізноў казаць па-хрысьціянску, дык — ворагу свайму. Ці можам мы ўвогуле з нашым мінулым і з нашым цяперашнім днём мець такую раскошу, як даруваць?*

— Ну я ня ведаю, што значыць — «даруваць»? Таму што дараваньне таксама, відаць, мае шмат бакоў і шмат ступеняў. Можна даруваць усё ўсім. Гэта жа, як і пакаяцца ўсім ва ўсім. Але можа быць і такая форма дараваньня, як непрыцягненьне былых віноўнікаў да крымінальнай адказнасьці. Гэта значыць, можна не патрабаваць, каб тых, якія забівалі, саджаць цяпер на лаўку і судзіць. Бяз гэтага можна абысьціся. Але я думаю, што мера павінна быць усё ж такі вызначаная. І калі іх, забойцаў, не забіваць, дык, можа быць, варта іх нейкім чынам яшчэ пакараць. Можа быць, пазбавіць пэнсіі. А, можа быць, урэшце іх проста пакараць тым, што назваць, апублікаваць іхныя імёны. І ў гэтым таксама будзе дараваньне. Дараваньне і пакараньне. Ну, гэта ўжо больш тонкая і складаная справа, я пра гэта ня думаў.
Я толькі ведаю пэўна, што як бы там ні было, а зло павінна быць названа. І калі мы назвалі зло, якое чынілася ў адносінах да народу ў часы сталінскай эпохі, мы назвалі, што гэта быў генацыд, гэта было забойства невінаватых людзей, дык мы павінны гэта зло адрасна прывязаць да некага. Да нейкіх пэўных асобаў ці групаў асобаў... Што датычыць камуністычнай партыі — дык гэта пэўна зьвязана з чэкізмам, гэта напэўна зьвязана. Але ж і там, у партыі, і ў чэкістаў былі нейкія канкрэтныя асобы. Я думаю, што іх трэба называць. Наколькі гэта магчыма цяпер, пакуль яшчэ гэтае мінулае канчаткова не схавалася пад вадой часу, трэба шукаць у архівах і называць, называць як мага больш і ахвяраў, і іх катаў.

*— Скажыце, а чаму ідэя, якая так горача абмяркоўвалася ў колах інтэлігенцыі гадоў пяць таму, ідэя Нюрнбэргу над КПСС, над нашым савецкім мінулым — чаму яна, па-першае, ужо не абмяркоўваецца, а па-другое, што адбываецца з усімі гэтымі судамі? Я маю на ўвазе працэс над КПСС, працэс над ГКЧП, ці вось будучы працэс — ёсьць забітыя ў Маскве, ёсьць людзі, якія аддавалі каманду... Ізноў — нічога не адбываецца. Нейкая дзіўная рэалізацыя прынцыпу «не судзіце й не судзімыя будзеце». Чаму не прыйшоў «час судзьдзі»?*

— Дый зноў жа, мы маем справу перш за ўсё з маральнай ды ідэйнай няпэўнасьцю нашага грамадзтва. У нас

на зьмену колішнім камуністычным догмам і догматам, якія былі вельмі кансэрватыўныя і жалезныя, каменныя, нязьменныя, прыйшлі нейкія вельмі няпэўныя спробы нешта зьмяніць. І ў гэтым сэнсе, вось колькі ўжо прайшло часу, як была забароненая КПСС, але дагэтуль адносіны да яе ў грамадзтве вельмі няпэўныя. Гэта як да той жа самай аўганскай вайны: з аднаго боку, вайна — і гэта прызнана ўсеагульна, амаль што аднагалосна — вайна гэтая незаконная, вайна разбойная, вайна жахлівая. А з другога боку, людзі, якія яе вялі, — яны героі. Таму што яны нашы, бачыш, людзі, і ня іх віна, што іх туды паслалі.

Гэтае ж адносіцца і да КПСС. Асабліва гэта выявілася на працэсе, які Канстытуцыйны суд вяршыў над КПСС. Мы бачылі, якія гэта былі дваякія хады, якія былі розныя хітрыкі, я ня ведаю, юрыдычныя, ці хутчэй за ўсё — псыхалягічныя, асабліва старшыні гэтага Канстытуцыйнага суду — у тым напрамку, каб, па-першае, і не пакрыўдзіць КПСС, і ў той жа час вынесьці нейкі прысуд, які б ня выклікаў усеагульнага абурэньня. Як ён над гэтым глыбакадумна моршчыў лоб некалькі месяцаў! І ўрэшце вынес гэтае саламонава рашэньне.

Тое самае адносіцца да працэсу над ГКЧП, і, відаць, тое ж будзе і з апошнімі «героямі» мяцяжу Хасбулатава і Руцкога, якім, аказваецца, і дагэтуль яшчэ не прад'яўленае абвінавачаньне (я на днях прачытаў у «Известиях»)! Яшчэ пракуратура, абвінаваўцы, юрысты глыбакадумныя ня могуць сфармуляваць ім абвінавачаньня, па якім іх можна асудзіць! Гэта проста дзіва, і ў гэтым я бачу ня толькі не пераадоленьне камуністычнай мэнтальнасьці з боку праваахоўчых органаў, але і адсутнасьць жаданьня, адсутнасьць імкненьня да гэтага пераадоленьня. Ідуць хітраванскія камбінацыі ўсё ў тым напрамку, каб дагадзіць гэтай сіле, якая па-ранейшаму магутная — і ў сьвядомасьці людзей, і, відаць, у грамадзтве навогул.





*— Калі вы казалі пра неабходнасьць татальнага пакаяньня, гаворка, відаць, ішла пра тое, што гэта тычыцца кожнага — а ня тое, каб гэта рабіць разам ці публічна, калі я вас правільна зразумеў?*

— Я калі гэта гаварыў, ня меў на ўвазе нейкай працэдуры пакаяньня, як, скажам, хрышчэньне, ці якой-небудзь яшчэ абрадавасьці рэлігійнай. Я думаю, што гэта можна было б, увогуле, устанавіць, але — ці гэта патрэбна? Патрэбна, каб кожны чалавек зразумеў і ў сваёй душы асудзіў тое мярзотнае, што яму давялося перажыць. Як, у якой форме гэта павінна выявіцца — я ня ведаю. Гэта я ня ведаю, яшчэ раз скажу. Але калі б гэта здарылася, дык тады б не было ўсяго іншага, што нас цяпер так засмучае. Я маю на ўвазе — і некаторых зьяваў і ў Маскве, і ў Беларусі. Душы людзкія былі б раскрытыя насустрач гэтым пераўтварэньням, якія ў нас так цяжка цяпер ідуць, і безь якіх, мы ведаем, немагчымае выйсьце з нашага глыбокага татальнага крызісу.

*— Скажыце, камуністычны грэх, на які захварэла дзяржава, і мы ў яго таксама патрапілі — гэта такі самы грэх, як і шмат якія іншыя грахі чалавечыя, пра якія гаворыцца ў хрысьціянстве, увогуле ў агульначалавечай маралі? Ці гэта грэх іншага характару, і такога ў сьвеце, у гісторыі чалавецтва, на вашую думку, не было?*

— Я думаю, што іменна такога граху ў гісторыі чалавецтва не было. Гэта грэх асаблівага гатунку. Асаблівага гатунку хоць бы ў тым, што ён налічвае куды больш, чым утрымліваецца ў запаветах Майсея, тут куды больш... Прычым гэтыя грахі куды больш вычварныя, куды больш складаныя, тонкія, распрацаваныя, хітрыя. А самае галоўнае — што ніколі яны не ахоплівалі такой колькасьці людзей. Гэта ж, можна сказаць, што цалкам падлеглае гэтым грахам было насельніцтва былога Савецкага Саюзу. Больш за тое, ім былі ахопленыя некалькі рэлігійных канфэсіяў. Нельга сказаць, што гэта

быў грэх хрысьціянства альбо мусульманства. І ўсе іншыя канфэсіі былі таксама ім захопленыя.
Апроч таго, краіны Ўсходняй Эўропы ўрэшце таксама апынуліся ў арбіце гэтай грахоўнасьці. Далей — яшчэ і пэўная частка Эўропы і народаў Азіі, ды й Афрыкі... Тое, што адбываецца цяпер у чорнай Афрыцы, таксама ж мае нейкую зьвязку з нашым марксісцкім грахом. Марксізм — ён распаўсюдзіўся па ўсіх кантынэнтах. А менавіта гэта ён нёс у аснове сваёй вірус гэтай камуністычнай мэнтальнасьці, які ўрэшце знайшоў клясычнае ўвасабленьне ў былой Расеі. Таму я магу падагульніць, што такой вялікай паразы чалавецтва ў гісторыі не было ніколі. І я думаю, што і ня будзе ніколі, таму што гэта ўжо немагчыма. Таму што гэта ўрок для ўсіх і на ўвесь час існаваньня жыцьця на зямлі.

*— Найлепшыя, найвыдатнейшыя пісьменьнікі мінулага стагодзьдзя, у першую чаргу я маю на ўвазе Дастаеўскага, Талстога, даволі глыбока займаліся праблемамі жыцьця і сьмерці чалавека, выратаваньня чалавека і маралі. XX стагодзьдзе стварыла новую сытуацыю якраз у сэнсе камунізму. Наколькі, вы думаеце, літаратура і мастацтва ўжо асэнсавалі гэтую зьяву? І ці здольныя камуністычны грэх, камуністычная хвароба зрабіцца прадметам мастацкага ўвасабленьня — такога, якім у XIX стагодзьдзі былі творы Дастаеўскага?*

— Я думаю, што наша мастацтва, літаратура нават у дзясятай долі не асэнсавала таго, што трэба асэнсаваць. І асэнсаваньне гэтага камунізму будзе адбывацца яшчэ і далей, на многія стагодзьдзі наперад. Канечне, цяпер з гэтым цяжка, можа быць, пагадзіцца, бо намеціўся ў нашым мастацтве, у нашай культуры рэзкі паварот ад усяго, што зьвязана з нашым нядаўнім мінулым. Гэта можна зразумець, таму што ўсё гэта апрыкра, усё гэта выклікае агіду.
І постмадэрнізм так ахвотна мяняецца на іншыя плыні — я лічу, фармалістычныя плыні. Але ўсё-такі, няхай сабе гэтая плынь у мастацтве старая, можа быць, і апрыкрая, рэалізм — асабліва крытычны рэалізм — ён будзе мець месца і надалей. І нейкая частка мастацтва (я думаю, што лепшая, далёка ня горшая) будзе займацца нашым мінулым яшчэ многа, многа гадоў. Можа, нават у тым выпадку, калі нейкага масавага захапленьня, масавага спажываньня гэты напрамак і ня знойдзе. Вядома, што мас-культура — яна мае сваю прыроду, і разьвіваецца ў сваіх напрамках, але ўсё-такі імкненьне асэнсаваць ва ўсіх сфэрах духоўнай творчасьці, у тым ліку і ў мастацтве, гэтае імкненьне будзе існаваць яшчэ доўга, яго хопіць на наступнае стагодзьдзе.

*— Як вы ацэньваеце тое, што адбываецца ў Беларусі зь літаратурай, я маю на ўвазе канкрэтны літаратурны твор Сьвятланы Алексіевіч —«Цынкавыя хлопчыкі»?*

— Тое, што адбываецца ў Беларусі, мае канкрэтную прывязку і да творчасьці Алексіевіч, і да Менску. Я маю на ўвазе вось гэты нядаўні судовы разгляд. Але ўвогуле, гэта характэрна для посткамуністычнай мэнтальнасьці. І галоўнае тут, як я ўжо гаварыў, канцэнтруецца менавіта ў няпэўнасьці асэнсаваньня ўсёй гэтай афганскай авантуры як зьявы — грамадзкай, псыхалягічнай. А галоўнае, можа быць, як ідэйнай зьявы ў нашай гісторыі. Таму што далей усьведамленьня таго, што гэтая вайна несправядлівая, што зь ёй трэба было скончыць, што і зрабіў Гарбачоў, вывеўшы адтуль войскі, — наша грамадзкая думка не пайшла. На тым яна і спынілася. Яна спынілася на тым, хаця мы, чалавецтва, наш народ апынуліся перад сотнямі тысяч удзельнікаў гэтай авантуры. Авантура сама па сабе скончылася там, пакінуўшы пасьля сябе больш мільёна, каля двух мільёнаў сьмерцяў афганцаў, масу зьнішчаных кішлакоў, палёў, культурных цэнтраў і рэлігійных асяродкаў таксама. Усё гэта засталося ззаду. Але людзі, якія ўсё гэта ўчынілі, — яны тут. Якія павінны быць у нас да іх адносіны?

Хоць бы маральна, якія адносіны? У грамадзтва на гэта няма адказу.
Дык вось, Алексіевіч зрабіла спробу ў жанры літаратуры асэнсаваць нейкім чынам нейкія пачаткі гэтай праблемы. І адразу ж гэта выклікала шалёны адпор. Найперш з боку таго, каго лягчэй за ўсё было скарыстаць, — маці ахвяраў. Маці ня тых людзей, якія там забівалі і жывуць цяпер між намі, а тых, якія самі загінулі там. Гэта, канечне, было вельмі проста, гэта — самае лёгкае рашэньне. І яно было знойдзена і прыменена ў нас у Беларусі. Менавіта супраць гэтага твору «Цынкавыя хлопчыкі», супраць яго аўтара Сьвятланы Алексіевіч і супраць спробы асэнсаваць усё-такі ролю нашых людзей (у дадзеным выпадку — людзей з нашай нацыі, зь беларускай) у гэтай вайне — паўсталі маці, жанчыны. І, канечне, як сродак былі скарыстаныя судовыя разборкі.

*— Яшчэ адзін аспэкт, Васіль Уладзімеравіч, які мне здаецца важным закрануць. Апошнім часам і лідэры Беларускага Народнага Фронту, і сацыял-дэмакратычнай «Грамады», іншых нацыянальна арыентаваных суполак, арганізацыяў, партыяў даволі актыўна гавораць пра тое, што выхад для Беларусі, для беларускай нацыі з посткамуністычнага крызісу палягае ў адраджэньні нацыянальнай ідэі. Я меў нядаўна гутарку зь Міхасём Чарняўскім — археолягам, гісторыкам, чалавекам, які зьяўляецца таксама адным з актывістаў руху, і ён сказаў мне такую рэч, што ў гады сваёй маладосьці, гадоў дваццаць таму, у Менску ён ведаў трох-чатырох чалавек, для якіх нацыянальнае адраджэньне мела вартасьць. Цяпер, ён кажа, такіх ужо ў любым калектыве ёсьць два, тры, чатыры, пяць — і яны ўжо пачынаюць мяняць сытуацыю. Ягонае меркаваньне такое: трэба пратрымацца яшчэ пяць гадоў, і праз пяць гадоў, на яго думку, сытуацыя будзе ўжо незваротнай, радыкальна памяняецца. Як вам бачыцца разьвіцьцё нацыянальнага ўсьведамленьня народу?*





— Ну дык мы ж бачым ня толькі на прыкладзе нашай нацыі беларускай, але і на прыкладзе ледзьве ня ўсіх нацыяў, што паратунак ад гэтага камуністычнага мінулага — толькі ў нацыянальнай ідэі. Толькі яна цяпер можа даць нейкі шанец, нейкую альтэрнатыву для больш-менш дэмакратычнага разьвіцьця. Усе іншыя ідэі ў гэтым сэнсе даўно збанкрутавалі. Даўно ўжо на практыцы даказалі сваю няслушнасьць. Што датычыць беларусаў, і ня толькі беларусаў — дык сапраўды, нас жа жыцьцё, усё гістарычнае разьвіцьцё падштурхнула, і ня першы раз прычым, і настойліва — менавіта да ажыцьцяўленьня гэтай ідэі. Да нацыянальнай ідэі. Іншая справа, што варункі складваюцца такім чынам, што ўрэшце нешта нам яе заступае і перашкаджае, пераломвае нашае разьвіцьцё на іншы лад. Але кожны раз мы бачым, што гэты іншы лад нічога добрага нам не прыносіць. І зноў жа вяртаемся да ранейшай, нязьдзейсьненай, але самай прыцягальнай нацыянальнай ідэі.
Ну а пасьля мы ж можам рабіць высновы нейкія на прыкладзе іншых нацыяў. Калі на тую ж Эўропу паглядзець, на яе сучасную карту — уся ж дзяржаўнасьць эўрапейская складзена з кавалкаў, ласкутоў нацыянальных. Перш за ўсё на нацыянальнай аснове адбывалася фармаваньне дзяржаўнасьці эўрапейскіх краінаў. Канечне, гэта ўсё было пакутна. Гэта намацвалася стагодзьдзямі, калі не тысячагодзьдзямі. Але ўрэшце ўсё сфармавалася ў такім выглядзе, як ёсьць цяпер. І мы бачым, што для нашага часу гэта аптымальны варыянт! А там, дзе гэтага не адбываецца, дзе гэта ня складваецца, дзе людзі вымушаныя пераадольваць нядаўнюю імпэрскую ідэю, або, зноў жа, блытаную нацыянальную з камуністычнай, як гэта ў Югаславіі, — бачым, што адбываецца дагэтуль. Значыць, самая плённая, мне думаецца, у адносінах да беларускай нацыі — гэта нацыянальная ідэя. І я б сказаў, што гэта, можа быць, апошняя ідэя, якая яшчэ нам нешта абяцае. Іншыя ўжо нічога даўно не абяцаюць.

*— Але цяпер, калі насельніцтва былога СССР чуе словы пра нацыянальную ідэю, першае, што прыходзіць на памяць, гэта Карабах, гэта Армэнія, Азэрбайджан, Малдова... Нацыянальная ідэя сёньня ў большасьці так званых простых людзей альбо не выклікае ніякіх прыхільных пачуцьцяў, альбо выклікае проста непрыманьне. За ёй сёньня стаіць кроў. Што — нацыянальная ідэя пры канцы XX стагодзьдзя абавязкова павінна быць з крывёю, да яе можна толькі праз пакуты падысьці? У чым справа? Чаму яна такі колер мае крывавы?*

— Яна мае крывавы колер толькі там, дзе яна не была ажыцьцёўленая ў свой час. Дзе яна была самым нахабным чынам падмененая іншай, камуністычнай ідэяй. І калі мы бачым, што ў Закаўказьзі льецца кроў, альбо льецца кроў на Балканах, дык не таму, што там раптам узьнікла нацыянальная ідэя, а вось дагэтуль яе не было і жыцьцё было спакойнае. Нацыянальнае жыцьцё тады проста было ў нейкім анабіёзе — з той прычыны, што нацыянальную ідэю, якая абавязкова павінна была там ажыцьцявіцца, усыпілі да часу. Да часу стварылі такі палітычны клімат, калі яна не магла ажыцьцявіцца. Але мы бачым, што безь яе вырашэньня, безь яе ажыцьцяўленьня ня можа быць пасьпяховай ніякая іншая ідэя. Таму, відаць, для ажыцьцяўленьня ўсякай іншай ідэі (ідэі справядлівасьці, роўнасьці, там сацыяльных розных ідэяў) найперш павінна быць вырашаная нацыянальная ідэя. Дык вось, зноў жа, тое, што мы бачым у Закаўказьзі, Югаславіі — гэта спазьнелае ажыцьцяўленьне нацыянальнай ідэі. І кроў там льецца не таму, што гэта ажыцьцяўляецца нацыянальная ідэя, а таму, што яна ажыцьцяўляецца ня ў свой час, а зь вялікім, вялікім спазьненьнем.

*— Адна са зьяваў нашага часу, якая была ўласьцівая сацыялістычнаму, савецкаму ладу жыцьця — імітацыя. Калі, напрыклад, казалі, што выконваецца плян, але яго не выконвалі, калі зьбіралі зерне, але хлеба не было, і гэтак далей. Гэта грамадзкая згода на падман, на калектыўную хлусьню. Наколькі гэтая зьява вам падаецца небясьпечнай сёньня, у цяперашняй Беларусі?*

— Ну, канечне, як вы сказалі, зьява гэтая нарадзілася ня сёньня. Можа быць, яна нарадзілася і да 1917 году. Але, натуральна, мы бачылі, што ў гады таталітарызму яна ўжо расквітнела буйным цьветам. А цяпер таксама яна ў поўнай хадзе. Шырока, вельмі шырока распаўсюдзілася. Тым больш, што цяпер, калі гэты ўціск таталітарных структураў зьменшыўся, цяпер можна сапраўды рабіць кар'еру, існаваць бязьбедна шмат гадоў, займаючыся ня дзейнасьцю рэальнай — а імітуючы гэтую дзейнасьць.
А што датычыць палітыкаў, парлямэнтараў — дык яны цалкам пераключылі сябе на імітацыю. Мы ж бачым, як у нас імітуюцца законы, імітуецца Канстытуцыя. У нас імітуецца палітычная дзейнасьць. У нас усё падлягае імітацыі, за выключэньнем хіба што рэальных прыбыткаў грашовых. Вось нашы фінансавыя, спэкулянцкія і іншыя структуры — яны першыя пераадолелі гэты момант імітацыі, яны не імітуюць. У той час, як іншыя займаюцца імітацыяй вытворчасьці. Альбо палітыкі — яны накопліваюць капітал. Нездарма ў нас банкавыя служачыя, якія раней атрымлівалі самую нізкую або даволі нізкую зарплату, цяпер аказаліся з самай высокай зарплатай. Пад мільён грабуць у месяц на адну толькі зарплату. Вось гэта не імітацыя. Ну але ў параўнаньні або ў супрацьпастаўленьні палітычным структурам, якія заблыталіся і апроч імітацыі ні на што ня здольныя, — канечне, мы можам меркаваць, які будзе зыход. І ўрэшце, чыя будзе ўлада.

*— Ці ёсьць у такой сытуацыі дастойнае выйсьце для сярэдняга чалавека, які ня хоча красьці, ня хоча ілгаць, і адначасна, якому трэба неяк існаваць у гэтым сьвеце?*

*Як вы лічыце, ці ёсьць рэальны спосаб праіснаваць — і не запэцкацца, і нешта добрае зрабіць?*

— Ну, сярэдні чалавек, або сярэдняя кляса, як вядома, гэта ва ўсіх грамадзтвах «страдательный» элемэнт, парасейску кажучы. Ён заўсёды ў пройгрышным знаходзіцца становішчы. І ў наш час тым больш. Я думаю, што для сярэдняга чалавека, для яго мэнталітэту, або для яго інтарэсу, найбольш прыдатны дэмакратычны лад. Хоць дэмакратычны лад забясьпечвае роўныя магчымасьці і таксама для карумпаваных сілаў, і для багатых, але там знаходзіцца нейкае больш-менш цярпімае месца і для сярэдняга чалавека.

*— Васіль Уладзімеравіч, вось у нашай такой імглістай рэчаіснасьці — надвор'і і палітычным, і эканамічным — што вас усё ж такі радуе? Ад чаго вам лепш, весялей на сэрцы? Ад чаго вам прыемна жыць?*

— Ведаеце, я б сказаў, што радуе толькі прырода. Хаця прырода і яе пагода ў наш час вы бачыце, якія за акном. Асабліва ў гэты час — вельмі і вельмі незайздросны. Можна сказаць, што агідная, подлая прырода ў нас робіцца, і подлая пагода. Але я пэўна ведаю, што прыйдзе вясна, настане лета, засьвеціць сонейка — і няважна, незалежна ад грамадзкага ладу, ад таго, будуць выбары ці ня будуць выбары, незалежна ад таго, пераможа якая партыя, і нават які капітал накопяць у нас карумпаваныя структуры, — усё-такі зазелянее трава, і ўзыдуць нейкія кветкі. І ў наш час вось толькі гэта і дае радасьць для душы.





## «Я ДУМАЮ, ШТО БОГ ЁСЬЦЬ, І ХАЦЕЛАСЯ Б У ГЭТА ВЕРЫЦЬ»

12 сьнежня 1993

Васіль Быкаў адказвае на «анкету Дастаеўскага». Запіс Аляксандра Лукашука[2].

*— Ваша любімае выслоўе?*

— Ну, можа і не любімае, але некалі я вынайшаў такі афарызм, гэта асабіста мой, які гучыць так: «Шкодна жыць доўга».

*— Што вы цэніце ў людзях?*

— Чалавечнасьць.

*— А што цэніце ў мужчынах?*

— Тое, што і ў людзях.

*— Што цэніце ў жанчынах?*

— Тое, што ў людзях.

*— Ці верыце вы ў каханьне зь першага погляду?*

[2] Напачатку сьнежня 1993 году я прыехаў зь Мюнхэну ў Менск і запісваў інтэрвію з Васілём Быкавым. Пасьля інтэрвію я папрасіў Васіля Ўладзімеравіча адказаць на пытаньні «анкеты Дастаеўскага» — так называўся апытальнік, які, лічыцца, друкаваўся ў сямейным альбоме Дастаеўскіх. Анкеты — традыцыйны прыём ня толькі журналістыкі, але і літаратуразнаўства. Гэта дастаткова дэмакратычны спосаб пабудаваць нейкае параўнальнае поле для тэмы, працэсу ці асобы. Звычайна на падобныя апытаньні адказваюць пісьмова, дакладна фармулюючы думку. Але мне патрэбны быў запіс голасу для радыё, і гэтыя адказы цікавыя якраз тым, што яны непасрэдныя і не падрыхтаваныя — і адначасна лякапічныя, глыбокія і зьмястоўныя. Мне здаецца, што важна і тое, што сказаў Быкаў, і тое, што не палічыў патрэбным камэнтаваць.

— Можа быць, а можа й ня быць. Можа быць зь перша-га, а можа быць і з другога погляду.

*— Ваша стаўленьне да шлюбу?*

— Выдатнае, натуральна. Шлюб прадаўжае жыцьцё.

*— Ці маеце вы мэту ў гэтым жыцьці?*

— Як у старога габрэя: дажыць да суботы.

*— Ці ёсьць у вас анёл-ахоўнік?*

— Некалькі разоў я меў магчымасьць пераканацца, што ёсьць. Як ён выглядае, як ён завецца — я ня ведаю. Але напэўна ёсьць, таму што іншых момантаў свайго жыцьця я не магу растлумачыць, як толькі ўмяшаньнем, пакравіцельствам іменна анёла-ахоўніка.

*— Вашыя адносіны да Бога?*

— Я думаю, што Бог ёсьць, і хацелася б у гэта верыць.

*— Ці здараліся з вамі цуды?*

— Так, здараліся.

*— Ваш любімы ўспамін?*

— Цяжка мне тут знайсьці любімы ўспамін... Памяць больш падсоўвае ўспаміны, якія даволі нелюбімыя.

*— Галоўная рыса вашага характару?*

— Ну, гэта павінен вызначаць ня я. Можа быць, мая жонка лепш вызначыць.

*— Што б вы хацелі памяняць у сабе?*

— Вельмі шмат што хацеў бы зьмяніць, вельмі шмат. Куды менш я хацеў бы пакінуць тое, што мяне задавальняе. Больш хацеў бы зьмяніць.

*— Кім бы вы хацелі стаць, каб ня сталі..?*

— Некалі, яшчэ ў школьныя гады, можа быць, у пятай





ці шостай клясе, я вельмі хацеў стаць капітанам рачнога парахода. Так я сябе ўяўляў прыгожа на мосьціку, каля штурвала, паміж цудоўнымі берагамі, на якіх квітнеюць кветкі, ходзяць людзі, і я плыву па рацэ... З таго часу ўсё перамяшалася. У тым ліку і мае жаданьні.

*— Што такое лёс?*

— Гэтага я ня ведаю. Я ня ўпэўнены, што існуе лёс, таму што каб існаваў лёс, дык некаторыя дробязі жыцьця не ўплывалі б так на тое самае канкрэтнае жыцьцё чалавека. Бо калі мы паглядзім і на сваё жыцьцё, і на жыцьцё сваіх блізкіх, то мы бачым, як яно крута, гэтае жыцьцё, мяняецца пад узьдзеяньнем ну нейкай абсалютнай драбязы! Скажам, ён і яна, ну і ёсьць вядомыя ў гісторыі выпадкі, любілі адно аднаго, дамовіліся сустрэцца на вакзале а такой-та гадзіне ў такі-та дзень, каб зьвязаць сваё жыцьцё. Але пасьля нешта такое атрымалася, што яны не сустрэліся, і іх жыцьцё разышлося назаўжды. Як так, няўжо гэта непаразуменьне ў часе, у хвіліне — магло ўсё зьмяніць?

*— Ці былі ў вас падарункі лёсу?*

— Былі некаторыя. Былі, праўда. Мала, але было.

*— Што такое шчасьце?*

— Шчасьце, мне думаецца, тое, што такім уяўляецца, хоць зусім неабавязкова яму быць сапраўдным шчасьцем. Але калі чалавеку здаецца, што гэта яго шчасьце — то, значыць, яно для гэтага чалавека і зьяўляецца вось іменна тым, чым яму ўяўляецца.

*— Тое, што вы зрабілі, — ці застанецца?*

— Наўрад ці.

*— Якая гістарычная падзея паўплывала на вас як асабістае здарэньне?*

— Ну, тут колькі заўгодна. На нас уплывае ўсё. І вайна,

і мір, і, скажам, XX, XXII зьезд, і пачатак перабудовы, і крушэньне СССР, і стварэньне Беларусі — усё гэта, канечне, на кожнага з нас, у тым ліку і на мяне, уплывае як асабістая зьява.

*— У якую гістарычную эпоху вы хацелі б жыць?*

— Можа быць, у якой-небудзь з будучых, хаця я ня ўпэўнены ў гэтым, што там будзе тое, што мне хацелася б.

*— Як вы ацэньваеце наш час?*

— Вельмі кепска. Я лічу, што вельмі правільна ацаніў некалі Бунін, назваўшы адзін свой твор дзёньнікавы «Окаянные дни». Ну, для Буніна гэта былі «окаянные дни», а для нас, здаецца, наступае тое, што можам назваць «окаянные годы».

*— Вашыя адносіны да сьмерці?*

— Сьмерць — натуральная зьява, таму, я думаю, што і адносіны да яе павінны быць таксама натуральныя.

*— Якой сьмерцю вы хацелі б памерці?*

— Раптоўнай.

*— Ці былі ў вашым жыцьці людзі, якія зрабілі на вас вялікі ўплыў?*

— Былі, натуральна.

*— Ці маеце вы сябра на ўсё жыцьцё?*

— Хацелася б, каб быў на ўсё жыцьцё...





## «РОЛЮ «СВАБОДЫ» Ў ПАЛІТЫЧНЫМ ЖЫЦЬЦІ БЕЛАРУСІ ПЕРААЦАНІЦЬ НЕМАГЧЫМА»

Прадмова Васіля Быкава да «Слоўніка Свабоды», які апублікаваў часопіс «ARCHE», (№7 (12), 2000).

Відаць па ўсім, яшчэ на зары свайго існаваньня чалавецтва пазнала магічную сілу слова. Слова стала магутным сродкам у спрадвечнай барацьбе дабра і зла, праўды і маны. Менавіта словам-заклікам, словам-камандай перамагалі ў войнах і рэвалюцыях, асабліва калі людзі яшчэ не навучыліся дыфэрэнцыяваць таемны сэнс словаў, разьбірацца ў іхных часам звыродлівых камбінацыях. Калі расейскія бальшавікі абрынулі на галовы падданых імпэрыі ўзрушлівыя словы-лёзунгі (фабрыкі — рабочым, зямлю — сялянам, мір — народам), дык тыя так іх і зразумелі — у іх празрыстым канкрэтным сэнсе. І фатальным чынам былі ашуканыя.

Ашуканства тое паўтаралася безьліч разоў, і процістаяць яму магло толькі праўдзівае слова.

З пачаткам халоднай вайны камуністычнае кіраўніцтва «ўмацавала» ўласнае слова татальнай хлусьнёй, да якой дадало жалеза дэспатыі, спарадзіўшы знакамітую жалезную заслону. Ды слова праўды праявіла дзівосную здольнасьць — яно рабілася няўлоўным і перасягала ўсялякія заслоны. Нарадзілася вялікая ідэя вольнага радыё, якая ў 1949 годзе набыла форму карпарацыі «Свабоднай Эўропы». Менавіта радыё спрычынілася да разбурэньня ўсялякіх муроў-заслонаў, у тым ліку і жалезных. А таксама самай удасканаленай за стагодзьдзе маны, якой зьяўляецца камуністычная ідэя.

Дасягнуць таго, мабыць, было няпроста, але дужа важна. Уся Ўсходняя Эўропа гібела ў вязьніцы атрутнага дурману, які пасьля перамогі над нямецкім нацызмам памацнеў шматкроць. Разбураная вайной, распалавіненая Эўропа няшмат магла зрабіць, каб вызваліцца ад яго, затое шмат зрабіла Амэрыка. Штаты каторы раз

засьведчылі перад чалавецтвам трывалую дэмакратычную прынцыповасьць, адданасьць ідэям свабоды. Эфект аказаўся вялікі, і злачынная мана рассыпалася. Не зважаючы на дасканалую сыстэму глушылак, на перасьлед за слуханьне, на тэрор да вольных перадатчыкаў і тамтэйшых журналістаў, на шпіянаж у іх шэрагах. Зьняволеныя народы прагнулі праўды, і тая праўда зь дзівоснай рэгулярнасьцю мкнула праз Радыё Свабода. Беларусы разам з астатнімі народамі Ўсходняй Эўропы будуць заўсёды ўдзячныя гэтаму радыё. Цэлыя пакаленьні слухачоў шэраг гадоў мелі адзіную крыніцу незалежнай інфармацыі, аб'ектыўных ведаў менавіта праз Радыё Свабода — Свабодная Эўропа.
Ня так даўно Расейская служба «Свабоды» трансьлявала перадачу з удзелам былога спэцыяліста па колішнім савецкім глушэньні. Там былі цікавыя прыклады зь ягонай практыкі, але нічога не ўпаміналася пра беларусаў. А між тым, дагэтуль на нашай памяці цікавы выпадак зь Менску, калі двое прыяцеляў, вядома ж, добра паддаўшы з прычыны выходнага летняга дня, слухалі «Свабоду». Мабыць, слухаць ім было ня надта зручна, бо адбывалася тое на вуліцы Казлова, дзе побач, на могілках ля касьцёлу сьвятога Роха няспынна гулі высачэзныя мачты трансьлятараў глушэньня. Тады двое захмялелых радыёаматараў, пэўна ж, абураныя нахабным парушэньнем іхных грамадзянскіх правоў, рушылі да недалёкай прахадной глушэльні. Яны лёгка скруцілі там соннага вахцёра, адабралі ў яго наган, але далей ня шмат пасьпелі — не хапіла часу і, відаць, радыёэрудыцыі, каб умела адключыць усю сыстэму глушэньня. Іх неўзабаве судзілі, і зноў пачулі яны голас «Свабоды» няхутка.
А слухаць, між іншым, было што. Ня толькі Расейская, але і Беларуская служба «Свабоды», не зважаючы на супраціўленьне ўсходнеэўрапейскіх рэжымаў, пашыралі абсяг свайго ахопу. Штодня ў пэўны час праз траскоцьце глушылак ішла інфармацыя пра шматлікія нягоды





зьняволенага жыцьця, хроніка прыдушанай культуры, скрадзенай беларускай гісторыі. Голас Язэпа Барэйкі пераконваў беларусаў, што яны маюць годнае мінулае, Ларыса Верас штодня распавядала пра задушаныя ў Беларусі дэмакратычныя каштоўнасьці.
З пачаткам абвяшчэньня сурагатнай незалежнасьці рэспублікі праца Беларускай службы Радыё Свабода яшчэ больш актывізавалася, у яе рэдакцыю прыйшло новае пакаленьне таленавітых і самаадданых беларускіх журналістаў. Не цураючыся традыцыйных палітычных і культуралягічных тэмаў, яны галоўным зацікаўленьнем зрабілі балючую праблему незалежнасьці Беларусі ды растаптаных у краіне правоў чалавека. І тое было правільна, бо няма сёньня для нас больш важных, лёсавызначальных каштоўнасьцяў, чым названыя каштоўнасьці чалавечага і грамадзкага існаваньня. Тое выразна прызнае сусьветная супольнасьць, краіны якой прыязна дапамагаюць радыёстанцыі ў ажыцьцяўленьні яе пачэснай місіі. Толькі аўтарытарныя рэжымы, сярод якіх і Беларусь, адмаўляюцца ад такога супрацоўніцтва, забараняюць рэтрансьляваць «Свабоду» на сваіх тэрыторыях.
Тым ня менш, як і раней, ролю «Свабоды» ў палітычным жыцьці Беларусі пераацаніць немагчыма, яе слухаюць у гарадах і вёсках, слухаюць рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя. Слухаюць беларусы і небеларусы — усе грамадзяне краіны. «Адзіная радасьць для мяне — сустрэча з вамі на «Свабодзе», а таксама з «Нашай Нівай», — піша ў рэдакцыю слухачка Марыя Кіркевіч. Мабыць, да яе словаў маглі б далучыцца тысячы беларускіх слухачоў «Свабоды».
Так, значэньне «Свабоды» ў беларускім жыцьці і беларускай палітыцы велізарнае. Нялішне будзе нагадаць беларускую мову, укараненьне якой у беларускі побыт «Свабода» робіць штодзень практычна. У вуснах яе журналістаў і асабліва журналістак яна набывае надзвычай выкшталцонае гучаньне, што на тле сучаснага

беларускага бязмоўя дае сакральную надзею: гэткая мова ня можа зьнікнуць, гэта было б злачынствам перад гісторыяй. Можна толькі парадавацца, што гэта разумеюць і слухачы. «Даўно слухаю вашае радыё. Дзякуючы яму я палюбіў сваю мову, нашу радзіму і ўсіх людзей», — піша на «Свабоду» слухач Мікола Вештарт зь Менску.

Неацэнная заслуга Беларускай «Свабоды» яшчэ і ў тым, што яна вярнула беларускай гісторыі шмат якія імёны яе лепшых сыноў — палітыкаў, пісьменьнікаў, мастакоў, рэлігійных дзеячаў. І зрабіла гэта ў час, калі беларускія ўлады ўважалі іх адно за ворагаў народу, а некаторых, дарэчы, уважаюць за такіх дасюль. Яна ж дала сказаць пра сябе сумленнае слова беларускай эміграцыі, якую шмат год бальшавіцкі рэжым бэсьціў як здраднікаў і фашыстоўцаў, і раскрыла сапраўдныя абліччы катаў народу, тых, чыімі высілкамі ў Беларусі былі закапаныя дзясяткі Курапатаў.

У апошнія гады наша «Свабода» набыла значны досьвед у асьвятленьні складанага, часам заблытанага палітычнага жыцьця Беларусі, у дасьледаваньні яе культурнай спадчыны. Маладыя журналісты «Свабоды», якія нядаўна вырваліся з падцэнзурнай дыктатарскай прасторы, зазналі сапраўдны росквіт свайго таленту, прынесьлі на «Свабоду» нялёгкі, драматычны досьвед барацьбы за свабоду інфармацыі, супраць усемагутнага ўціску спэцслужбаў. Цікава і важна, што ўсё гэта робіцца здабыткам самых шырокіх масаў Беларусі, якія ўжо ня могуць сабе ўявіць жыцьця бяз вольнай інфармацыі, якую нястомна штодзень нясе ім «Свабода».

«Свабода», «Свабодная Эўропа» даўно сталі надзейнымі апірышчамі сучаснай эўрапейскай дэмакратыі. Вядома, як высока ацаніў іх прэзыдэнт Эстоніі Ленарт Мэры, вылучыўшы на Нобэлеўскую прэмію. Беларусы горача падтрымліваюць ягоную ініцыятыву і будуць шчыра віншаваць нашую «Свабоду», калі тая ініцыятыва спраўдзіцца. «Свабода» таго заслугоўвае.





## «ВЯЧАСЛАЎ АДАМЧЫК ЗАСТАЎСЯ НЕТАРОПКІМ, НЕМІТУСЬЛІВЫМ ДАСЬЛЕДНІКАМ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ДУШЫ»

6 жніўня 2001

Слова Васіля Быкава на сьмерць Вячаслава Адамчыка.

Старэйшыя людзі сыходзяць з жыцьця кожны ў свой час, але заўжды гэты час здаецца заўчасным, а сьмерць — нечаканай, занадта брутальнай. Вячаслаў Адамчык пайшоў неспадзявана і заўчасна, для мяне, прынамсі.

Калісь, шмат год таму, мы разам уваходзілі ў беларускую літаратуру, былі на адным літаратурным сэмінары ў слынных і мілых тагачасных Каралішчавічах. Памятаю, туды ён прывёз з сабой «Зоню» — знакамітае апавяданьне, якое ўпэўнена атэставала яго як пісьменьніка народнага жыцьця, пільнага псыхоляга, знаўцу сельскага побыту. Такім ён і застаўся ў сваіх выдатных раманах — нетаропкім, немітусьлівым дасьледнікам беларускай нацыянальнай душы. Тады ж, на самым пачатку, Вячаславу давялося адчуць на сабе ўсю жорсткасьць бальшавіцкай сыстэмы, якая не спынялася ні перад чым, каб зламаць мастака, прымусіць яго служыць. Інакш яна выкідвала яго ў аўтсайдэры, на жыцьцёвую ўзбочыну. Адамчык зь яго чыстай і чуйнай душой дужа перажываў тое, і, мабыць, ня хутка ад таго збавіўся.

Апошнім часам я ня часта спатыкаўся зь ім, але памятаю колішнія нашы сустрэчы на верхнім паверсе ягонага дому па вуліцы Карла Маркса, па суседстве зь вялікім Уладзімерам Караткевічам, зь якім сябраваў Вячаслаў. Памятаю ягоны пісьмовы стол і чарнільніцу з вучнёўскай ручкай, якой былі напісаныя ўсе ягоныя раманы. Выдатныя раманы! Шкада, што іхнага працягу ён ужо не напіша, але тое, што напісаў, застанецца ў залатой скарбонцы беларускай прозы.

Пухам табе зямля, мілы наш Чэсь!

## «АДАМОВІЧ ШМАТ ЗА ШТО ЗАПЛАЦІЎ ЖЫЦЬЦЁМ»

26 студзеня 2002

Слова Васіля Быкава ў гадавіну сьмерці Алеся Адамовіча.

Неўзабаве пасьля сьмерці Алеся Адамовіча на доме, дзе ён некалі жыў, была ўсталяваная мэмарыяльная дошка зь ягоным імем і барэльефам. У Менску ж, дзе ён жыў ці ня ўсё жыцьцё, — нічога няма. Ні вуліцы ягонага імя, ні мэмарыяльнай дошкі, ні якога знаку. А між тым, значэньне Адамовіча ў беларускай нацыянальнай культуры вялікае, як, можа, нікога іншага. Ці ня ўвесь канец XX стагодзьдзя менавіта Адамовіч болей за іншых уплываў на разьвіцьцё беларускай літаратуры і тым самым выхаваньне беларускай дэмакратыі. Кожная яго рэцэнзія ў друку, кожны артыкул у часопісе былі як адкрыцьцё надзеі, прыносілі глыток свабоды і справядлівасьці. Як і немалы клопат тым, хто быў пастаўлены іх не даваць, трымаць, не пушчаць. Але ня толькі ў Беларусі. Адамовіч, літаратар і публіцыст, быў жаданы і шаноўны таксама ў шэрагах расейскай дэмакратыі, дзеля ўсталяваньня якой ён зрабіў нават болей, чым знакамітыя цяперашнія камунапатрыёты. Яго прынцыповасьць супраціву дэгуманізацыі сьвядомасьці грамадзтва агульнапрызнаная.

Алесь Адамовіч пісаў на дзьвюх мовах — расейскай і беларускай. Але па праву паходжаньня і культурнага выхаваньня належыць усё ж да Беларусі. Важна, што, памершы, ён лёг у зямельку, дзе ляжыць ягоны немалы слынны род. Адамовіч, безумоўна, належыць шэрагу мастакоў і мысьліцеляў вялікіх. Шкада, што ня толькі Беларусь, але і Эўропа ня надта зразумелі тое.

Вельмі важна таксама, што Адамовіч быў і палітык — гэта значыць, чалавек дзейны, ня толькі мысьлячы. Ня





толькі мастак, але і грамадзянін — што, вядома ж, не рабіла ягоны лёс шчасьлівейшым. А можа, і да часу зьвяло ў магілу. Але ж вядома, за ўсё на сьвеце трэба плаціць, у тым ліку за розум і вялікасьць. Адамовіч шмат за што заплаціў жыцьцём. У гісторыі ён так і застанецца з папулярным азначэньнем: Адамовіч — беларускі пісьменьнік. Хаця, безумоўна, ня толькі беларускі, і ня толькі пісьменьнік. А яшчэ і вялікі грамадзянін Эўропы — да яе заўсёды імкнуўся гэты слынны дзеяч гуманітарнай эўрапейскай культуры, якая, на жаль, усё болей сыходзіць у нябыт.

Ён хварэў доўга, а памёр раптоўна. І думаецца, што зрабіў тое своечасова, бы прадчуваючы наступ часу, не сумяшчальнага зь ягоным жыцьцёвым крэда: наступ «трэцяга таталітарызму» ў Расеі і ў Беларусі Адамовіч наўрад ці стрываў бы.

## «ПЕРАМОЖЦЫ І ПЕРАМОЖАНЫЯ НІБЫ ПАМЯНЯЛІСЯ РОЛЯМІ»

22 чэрвеня 2002

***Сяргей Абламейка, Прага***

У 61-ю гадавіну нападу фашыстоўскай Нямеччыны на Савецкі Саюз мы пазванілі чалавеку, які прайшоў усю вайну на перадавой, а пасьля зрабіў вайну пераважнай тэмай сваёй творчасьці і стаў усясьветна вядомым пісьменьнікам.

*В.Быкаў:* 22 чэрвеня — невясёлая дата, чорная лічба календара. Для ўсяго чалавецтва, але для нас асабліва. Трохі нават дзіўна — столькі год, а ўсё помніцца. Найбольш, аднак, тымі, хто стаўся ахвярай, нашымі народамі, што на ўсход ад Нямеччыны. Немцы, як я зразу-

меў, хацелі б гэтую дату як мага хутчэй забыць. І гэта іх права, бо яны пацярпелі паразу. Параза, як вядома, малапрыемная рэч. Але гісторыя парадаксальная па сваёй сутнасьці. І так сталася ў часе, што пераможцы і пераможаныя нібы памяняліся ролямі. Яны — бы пераможцы, а мы — сапраўды пераможаныя, бо бедныя і зьняважаныя. Чаму так? Але гэта пытаньне для нас. Немцы на яго даўно адказалі. А мы не навучаныя разважаць гэткім чынам, мы задавольваемся старэчай эўфарыяй ад даўняй перамогі, якая на справе перамога ня нашая. А чыя — во гэта таксама пытаньне, на якое наша грамадзкая думка дагэтуль ня мае выразнага адказу. Можа, баімся? Ці гэткія дурні, што не разумеем? Ці нам не даюць зразумець... Але ж зразумець — ужо палова шляху да ісьціны. Відаць, другую палову суджана прайсьці ня нам. І тое крыўдна і балюча, асабліва 22 чэрвеня.



# In Memoriam

Васіля Быкава ўспамінаюць супрацоўнікі «Свабоды», якіх зьвязвала зь пісьменьнікам ня толькі прафэсійная дзейнасьць, але і асабістыя адносіны. Ва ўспамінах — радкі зь лістоў, згадкі пра апошнія, праскія месяцы яго жыцьця, а таксама аповед пра абставіны драматычнага вяртаньня на радзіму.

*Аляксандар Лукашук*

## «ЛІСТЫ ЦЯПЕР ДЛЯ МЯНЕ — МАННА НЯБЕСНАЯ»: ПЕРАПІСКА З ВАСІЛЁМ БЫКАВЫМ

Мой адрас на капэртах Быкаў пісаў на чатырох мовах адразу. Назву сталіцы Чэхіі — па-ангельску, «Prague», назву вуліцы — па-нямецку, «Winogradska», назву ўстановы — лацінкай, «Radio Liberti», маё прозьвішча — пачэску, «Lukašuk». Старанна выпісаныя разборлівыя літары меліся палегчыць працу эўрапейскіх паштароў, і сапраўды, ягоныя лісты, нягледзячы на полілінгвізм, заўсёды знаходзілі адрасата.

Нашая перапіска пачалася летам 1998 году пасьля ад'езду Васіля Ўладзімеравіча і Ірыны Міхайлаўны ў Фінляндыю. Ужо пяць гадоў перад тым я жыў за мяжой, спачатку ў Мюнхэне, пасьля ў Празе, і рэгулярна пасылаў В.У. і І.М. калядныя віншаваньні, паштоўкі да дня нараджэньня, мы гаварылі па тэлефоне, запісвалі інтэрвію. Калі я бываў у Менску, заўсёды заходзіў у іх гасьцінную хату, пару разоў адведваў Быкава, які пакутаваў на астму, і ў бальніцы. Калі падчас аднаго прыезду я сам патрапіў у шпіталь, Быкаў з Рыгорам Барадуліным таксама прыйшлі ў адведкі. В.У. бываў у Празе, і частата і рэгулярнасьць гэтых кантактаў выключала неабходнасьць ліставаньня.

Пасьля пераезду ў Швэцыю, а затым у Фінляндыю паходы на пошту для Быкавых сталі часткай жыцьця. Быкаў не карыстаўся e-mail, ягонае знаёмства з Інтэрнэтам было яшчэ наперадзе, лісты сталі асноўным спосабам падтрыманьня сувязі зь сябрамі, часопісамі, выдавецтвамі, калегамі ў ПЭН-цэнтры, лідэрамі Народнага Фронту, і нават формай літаратурнай працы, — кніга Рыгора Барадуліна так і называецца: «Лісты ў Фінляндыю зь Менску і з Вушачы».

У чэрвені 1998 я пазваніў у Хэльсынкі і зрабіў інтэрвію





з нагоды дня нараджэньня В.У.[3], а таксама прасіў прысылаць новыя творы.

У той час мы шукалі сваё аблічча для перадачы «Чытальная заля» — чытаньне літаратурных твораў ёсьць клясыкай жанру для караткахвалевага радыё. Але што, чаму, калі, як чытаць — на гэтыя пытаньні пры ўсёй іх прастаце нялёгка знайсьці адказ. Урэшце, пасьля некалькіх спробаў і дыскусіяў мы пастанавілі спыніцца на арыгінальных творах дакумэнтальнага (мэмуарнага) жанру — фактычна, замаўляць будучым аўтарам пісаць свае ўспаміны. Мастацкія творы збольшага мелі шанец дайсьці да чытача і бяз нас, праз дзяржаўныя і незалежныя часопісы і выдавецтвы, а бесцэнзурная дакумэнталістыка, апроч таго, наўпрост адпавядала статутным задачам вяшчаньня — свабоднаму распаўсюду інфармацыі і ідэяў.

Але Быкаў быў выключэньнем.

Ня толькі з прычыны таго, што яго не друкавалі ў Беларусі[4]. Перадусім — з прычыны ягонага пісьменьніцкага і чалавечага маштабу. Да 2003 году беларусы мелі тое, чаго ня меў ужо хіба ніводзін з эўрапейскіх народаў — бясспрэчны маральны аўтарытэт нацыі.

Я думаў тады і думаю цяпер, што ўшанаваньне Быкава Нобэлеўскай прэміяй паспрыяла б аўтарытэту Швэдзкай Акадэміі навук, якая, на жаль, апошнія дзесяцігодзьдзі распыляе значэньне ляўрэацтва (як гэта здарылася з цэлай сэрыяй імёнаў, якія патанулі ў забыцьці ня толькі ў сьвеце, але і ў сваіх краінах).

У жніўні 1998 пошта прынесла бандэроль з рукапісам, да якога быў далучаны ліст.

---

[3] Гл. с. 92.

[4] Увесну 1997 мы чыталі ў эфіры апавяданьні і прыпавесьці з рукапісу кнігі «Сьцяна» (гл. с. 74), якую былі падрыхтавалі да друку, але пазьней забаранілі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

**13 жніўня 1998.**
**Саша, дарагі дружа,**
**пасылаю новую аповесьць, якую толькі што скончыў. Ня ведаю, што атрымалася — тое заўжды даведваесься толькі пасьля. Зноў жа надрукаваў на машынцы і на наркомаўскай граматыцы, бо ўсё ж галоўная надзея на друкаваньне — Менск. Хаця можа так стацца, што марная надзея. Але марнасьці цяпер хапае ўсюды, так што гэтая — ня самая вялікая.**
**Паглядзіце, што там можна зрабіць зь яе на «Свабодзе».**
**Казку, пра якую я гаварыў па тэлефоне, дашлю крышку пазьней.**
**Я тут жыву добра, спакойна, (нават аж залішне спакойна), слухаю «Свабоду» — галоўную крыніцу маёй інфармацыі пра радзіму. Выдатна выступае Сяргей[5] зь Нью-Ёрку, — правільна, глыбока, разумна…**
**З прывітаньнем —**
**Васіль.**
**P.S. Калі што — тэлефануйце. Мой тэл. 341-23-12.**

Прыкладна палова лістоў ад В.У., якія я захоўваю, — роўныя аркушы, бяз згінаў на тры ці чатыры разы, як звычайна робяць, каб укласьці ў капэрту. Гэта лісты, якія прыходзілі разам з новым рукапісам у вялікай бандэролі фармату А4. Амаль усе свае творы пасьля ад’езду зь Беларусі Быкаў дасылаў на нашыя просьбы ў Прагу.

**16 верасьня 1998.**
**Добры дзень, Саша!**
**Тут я дапоўніў аповесьць новым разьдзелам — 8**

[5] Журналіст Сяргей Навумчык, дэпутат Вярхоўнага Савету 12 скліканьня, ад 1996 у палітычнай эміграцыі.





**старонак, якія дасылаю. Вельмі прашу, калі ня позна:**
- **Выняць з кампутарнага тэксту маю 19 старонку.**
- **Замест яе ўставіць 8 старонак.**
- **І гэта — усё.**

**Ня ведаю, як быць з «НН». Калі кампутарны мой тэкст ужо ў Менску, дык прыйдзецца мне дадатак слаць туды. Але калі яшчэ не, — тады я папрашу, каб і ў той тэкст укласьці гэтыя 8 старонак.**
**Чытаньне слухаю. Усё добра. Дзякуй чытачам — разам з маім прывітаньнем.**
**Удачы Вам.**
**Ваш В.Быкаў.**

Аповесьць, пра якую піша Быкаў, «Ваўчыная яма», была першай, напісанай на тарашкевіцы. У замежжы ў В.У. зьявіўся кампутар — у 75 гадоў ён узяўся асвойваць таямніцы апэрацыйных сыстэмаў лэптопа і праграмы Word, і гэта ашаламляла. Рэдактар «Нашай Нівы» Сяргей Дубавец яшчэ больш быў уражаны быкаўскай тарашкевіцай. «НН» надрукавала аповесьць з устаўкамі. Мы ў Празе чыталі аповесьць у эфіры, звычайна на некалькі галасоў[6]. Часьцей за ўсё агучвалі аўтарскі тэкст Алена Ціхановіч і Сяржук Сокалаў-Воюш, В.У. любіў іх галасы, заўсёды перадаваў ім свае падзякі[7].
Якраз тады заканчвалася праца над маёй кніжкай дакумэнтальнай прозы, якая мелася выйсьці ў Вільні ў заснаванай Сяргеем Дубаўцом сэрыі «Вострая Брама». Я вагаўся наконт назвы, і пытаўся ў Быкава парады. У ліст у Хэльсынкі таксама паклаў паперы на ангельскай мове аб заключэньні аўтарскай дамовы.

[6] Гл. с. 115.
[7] У аўтографе на кнізе «Пахаджане» для Алены Ціхановіч у верасьні 2001 году В.У. пісаў: «З удзячнасьцю да яе салаўінага голасу, які гучыць у гэтай кніжцы».

**Кастрычнік 1998.**
**Дарагі Саша,**
**паперы падпісаў і высылаю, хаця мала што зь іх зразумеў. Але — давяраю Вам. Што ж да кніжкі, дык даўно пара, хаця зноў жа, — пара для таго — ня самая лепшая. Здаецца, літаратура ўвогуле дажывае апошнія гады і не пяройдзе рубеж стагодзьдзяў. Пяройдуць іншыя мастацтвы, што ўвальюцца ў магутны, мутны і сьмярдзючы паток маскульту. Ну, але гэта — у якасьці NB.**
**Назва — даволі складаная праблема, якая паўстае перад кожным аўтарам. Здаецца, яна ў адваротнай залежнасьці ад якасьці твору. Чаму так? — ня ведаю. Але дужа распаўсюджаная такая сытуацыя, калі ў добрых твораў — кепская назва. І наадварот. Што ж да мяне, дык я аддаю перавагу клясычнай форме: найлепшая назва тая, якая ўвасабляецца ў адным-двух словах. Але тое цяпер састарэла. У модзе — мадэрновыя назвы, сэнс якіх так зашыфраваны, што ніхто, апроч аўтара, не зразумее. Або надта прэтэнцыёзныя, што сьведчаць ужо не пра твор, а пра характар аўтара.**
**Жадаю, Вам, Саша, удачы ў сямейных клопатах. Як кажуць: дай Божа!**
**Прывітаньне мілым чытачам «Ямы».**
**З прывітаньнем**
**В.Быкаў.**

«Ваўчыная яма», у цэнтры якой самотныя лёсы людзей, закінутых у чарнобыльскую зону, зацікавіла таксама Расейскую службу Радыё Свабода. Вядучы літаратурнай праграмы «Экслибрис» Сяргей Юр'енен быў даўнім прыхільнікам Быкава. У 1965 годзе ён, тады дзесяціклясьнік 2-й сярэдняй школы Менску, з дапамогай дырэктара сваёй школы паэта Ляпёшкіна патрапіў на зьезд пісьменьнікаў і пачуў выступ Быкава, які потым распаўсюджваўся ў самвыдаце. У школе тады выкладалі курс стэнаграфіі, і малады чалавек шмат што сабе запісаў. Калі Юр'енен эміграваў у канцы 1970-х, з-пад яго пяра выйшла шмат артыкулаў і цёплых згадак пра Быкава ў эміграцыйных літаратурных часопісах. Сяргей прачытаў аповесьць, прыйшоў да мяне ў кабінэт і сказаў, што ёй будзе аддадзена гадзіна эфіру ў «Экслибрисе».
Ён зьдзівіў мяне сваім вызначэньнем галоўнага героя «Ямы» — на думку Юр'енена, ім была беларуская прырода. Жывапіс Тургенева ў аповесьцях Быкава спалучаўся з псыхалягізмам прыроды Гэмінгўэя часоў «Старога і мора»: беларускі лес, зіма, мокрыя галіны фізычна адчувальныя і жывыя, чалавек толькі частка гэтай таямнічай сілы.
Я пазваніў у Хэльсынкі, Быкаў ня быў супраць, неўзабаве фрагмэнты «Ваўчынай ямы» ў аўтарскім перакладзе прагучалі па-расейску.
Ірына Міхайлаўна, разьбіраючы быкаўскі паштовы архіў, сярод сотняў адрасаваных В.У. лістоў знайшла стос маіх. Некаторыя ў скароце зьмяшчаюцца тут, каб лепш зразумець ягоныя ўласныя допісы.

**11 лістапада 1998.**
**Прывітаньне, Ірына Міхайлаўна, Васіль Уладзімеравіч,**
**спадзяюся, у вас усё ў парадку, як і належыць быць у Фінляндыі. Хаця ўсякае бывае.**
**Беларускія навіны вы, калі чуваць радыё, ведаеце; у нас у карпункце пабывалі «госьці» ў пагонах, пачынаецца нейкае сьледзтва. Будуць перашкаджаць, ну ды чаго іншага трэба было спадзявацца. Мы да гэтага арганізацыйна гатовыя, наколькі гэта магчыма.**
**Думаем над пераменамі ў праграме, дамагаемся, каб нас рэтрансьлявалі зь Літвы, Польшчы, Украіны, але там ня надта хочуць. І сварыцца з Лукашэнкам ня хочуць, бо ўсім патрэбныя памежныя пагад-**

**неньні — так ён трымае Кучму, без такога пагадненьня ня можна ўступаць у Эўразьвяз. Ну, і з ахвотай, як Адамкус літоўскі, яны выступаюць у ролі пасярэднікаў, зарабляючы ачкі на Захадзе. Ды і фон такі ім выгадны.**
**Тут у Празе скандал з прычыны таго, што мы пачалі вяшчаньне на Іран і Ірак — Тэгеран адклікаў пасла, газэты пішуць пра тэрарыстаў, на радыё ўзмацнілі ахову. Што яшчэ — пасылаю Вам часопіс «Transitions» («Пераходны пэрыяд»), з артыкулам пра «Сьцяну» і Вас[8]. Ян Максімюк[9] казаў, што зараз «Сьцяну» перакладаюць на польскую; таксама, здаецца, праявілі цікавасьць у Амэрыцы.**
**Прачытаў нейкія дзіўнаватыя нататкі старога Адамчыка пра Твардоўскага: намякае, што той быў гомасэксуаліст і папракае Салжаніцына ў «зласьлівым слове». Дарэчы, гэты нумар прыкладаю. У Салжаніцына выйшла новая кніга, «Россия в обвале», тыраж 5000.**
**Спадзяюся, Сяргей Дубавец ужо пераслаў Вам «НН»[10], як абяцаў мне. Тым часам перадаю Вам найлепшыя пажаданьні і прывітаньні ад Беларускай службы.**

Зборнік «Сьцяна» выпускаў рэдактар «Нашай Нівы» Сяргей Дубавец, гэта была першая кніга Быкава пасьля паўзы на некалькі гадоў — дзяржаўныя выдавецтвы спынілі друкаваньне яго твораў. Была абвешчана падпіска на будучую кнігу народнага пісьменьніка, якую выдавец хацеў зрабіць «народнай кнігай» — выдаць на сабраныя грамадой грошы.
У Празе, напрыклад, адзін з самых прыгожых будынкаў, тэатар опэры і балету на беразе Вэлтавы, называецца «Národní divadlo» — Нацыянальны тэатар, бо грошы на яго зьбірала ўся нацыя. Праз «Нашу Ніву» ў Беларусі ўдалося сабраць сродкі на паўтары тысячы асобнікаў. Выданьне атрымала розгалас, і мяне папрасілі напісаць пра кнігу і аўтара ў часопіс «Transitions». Калі часопіс выйшаў, паслаў у Хэльсынкі пару экзэмпляраў, а таксама выразку зь «ЛіМу» з публікацыяй беларускага празаіка Вячаслава Адамчыка. Быкаў адразу сеў пісаць адказ.

**18 лістапада 1998.**
**Дарагі Аляксандар Міхайлавіч,**
**атрымаў ваш ліст ад 11 лістапада, вялікі дзякуй за ўвагу і навіны. Лісты цяпер для мяне — манна нябесная, чакаю кожнага дня і радуюся, атрымаўшы. Відаць, тут мае месца банальная хвароба — настальгія, якой рэдка каму на чужыне ўдавалася пазьбегнуць. А зрэшты, нашто і пазьбягаць? Трэба перажываць усё, што наканавана лёсам. Ужо хоць бы таму, што тое не ад цябе залежыць.**
**Дзякуй за часопіс таксама. Ня надта разабраў, што там Вы пра мяне напісалі, але, спадзяюся, зрабілі тое няблага. Ня так, як Адамчык пра АТТ[11], а яшчэ раней і куды больш зьедліва — пра Бажка і Брыля. Бажку так і трэба, чалавек гэты паскудны ва ўсіх адносінах, а вось Брылю будзе дужа пакутна. Хоць у тым яго жыцьцёвым эпізодзе, на мой пагляд, ніякай крамолы, ды ўсё ж... Зь ягоным самалюбствам гэта будзе амаль катастрофа.**
**Ну і Чэсь! Таленавіты пісьменьнік, але з пароды тых, якія, паводле расейскага выслоўя «ради красного словца не пожалеют и отца». Што ж датычыць АТТ, дык гэта ўжо ня толькі неэтычна. Гэта палітычна падсьлепавата, бо Чэсь ня ведаў**

[8] Гл. с. 106.
[9] Перакладчык на беларускую, супрацоўнік Радыё Свабода.
[10] Газэта «Наша Ніва».
[11] Аляксандар Трыфанавіч Твардоўскі, рэдактар часопіса «Новый мир», дзе друкаваліся Быкаў і Салжаніцын.

**АТТ, не знаёмы з той атмасфэрай, у якой жыў гэты чалавек. Але ж ён не надрукаваў Чэсеў раман, і мабыць, таго факту раманіст ня мог даравацць яму. Хаця наконт А.С.[12] Чэсь мае рацыю. Усё ж ня трэба было А.С. пляваць яшчэ ў сьвежую магілу АТТ. Я ведаю, той надта перажываў за лёс будучага набэліста, іншая справа, што ня мог усё для яго зрабіць. Зрэшты, пра іхныя адносіны ёсьць шмат сьведчаньняў Кандратовіча, Лакшына ды іншых, якім можна болей верыць, чым наскокам аднаго менчука, які, калі і бачыў АТТ, дык толькі ў прэзыдыюмах пісьменьніцкіх пленумаў. А піша пра калідоры ЦК і яго з дрыготкай цыгарэткай. Здаецца, у той час Адамчык быў яшчэ беспартыйны, выключаны з БДУ. Гэта пасьля ён стаў парторгам СП БССР.**

**Наконт удасканаленьня трансьляцыі Беларускай службы Радыё Свабода даўно і надта трэба паклапаціцца, бо не чуваць. Не чуваць было ў Беларусі, кепска чутно і тут, у фінах. Затое і там і тут выдатна чуваць Украінская служба — у чым справа? Ці ў вас і ва ўкраінцаў на «Свабодзе» розныя тэхнічныя ўмовы? Тое я шмат год не магу зразумець. А цяпер дык на хвалі 41 мэтар у 18:30 накладваецца нейкая гарластая арабская станцыя і ўсё. Не чутно нічога. А тут яшчэ мілыя, але слабенькія дзяўчачыя галасы вашых дыктарак. Адно ратуе становішча Г.Айзенштадт, гэтую заўсёды добра чутно — праб'ецца празь любыя глушылкі. І гэта добра.**

**Званіў зь Нью-Ёрку Сяргей Н.[13], казаў, што хутка будзе ў Празе. Дай Бог! Я люблю Сярожу і вельмі жадаю, каб справы яго на замежжы неяк наладзіліся. Відаць, у гэтым сэнсе Прага — найлепшы з магчымых варыянтаў. І для справы таксама.**

[12] Аляксандар Салжаніцын.
[13] С.Навумчык.





**Сардэчнае вітаньне ўсім вашым беларусам!**
**Ваш Васіль Быкаў.**
**І.М. і я таксама шлем найлепшыя пажаданьні Вашым дзяўчаткам — дома. Дай Бог ім удачы. В.**

Толькі апошнія два сказы дапісаныя ад рукі — гэта, здаецца, першы ліст з Хэльсынкі, які аўтар акуратна адолеў на кампутары.

У сьнежні спаўнялася 80 гадоў Аляксандру Салжаніцыну. Я пазваніў у Хэльсынкі, і В.У. падрыхтаваў кароткае слова з нагоды юбілею, якое прагучала ў эфіры ў дзень нараджэньня аўтара «Архіпэлягу»[14]. У сьнежні Быкаў прыслаў новую прыпавесьць, у студзені яшчэ адну.

**10 студзеня 1999.**
**Шаноўны Алесь Міхайлавіч,**
**дасылаю Вам свой новы невялічкі твор. Можа, спатрэбіцца. А калі не, дык вельмі папрашу пераслаць у «НН». Спадзяюся, у Вас усё добра?**
**Прывітаньне ўсёй Вашай цеснай беларускай сямейцы.**
**Сардэчна**
**В.Быкаў.**
**Мой тэл.: 3412312. Хэльсынкі.**

Я пазваніў у Хэльсынкі, падзякаваў, прыпавесьць прагучала ў эфіры. Наступнае ліставаньне адбылося напрыканцы месяца, калі я нарэшце сабраўся падрабязьней напісаць пра нашыя праскія навіны.

**25 студзеня 1999.**
**Шаноўны Васіль Уладзімеравіч,**
**даўно не пісаў Вам, быў надта заняты ў гэты час,**

[14] Гл. с. 122.

**калі не было дырэктара[15], адсутнічала шмат людзей на Каляды, мелі нашу гадавую справаздачу ды пачыналі перамены ў праграмах і рабілі інтэрнэтную старонку.**
**Спадзяюся, што атрымалі навагодняе віншаваньне.**
**Вялікі дзякуй за прыпавесьць, мы адразу прачыталі цалкам у эфіры. Як Вы і даручалі, я пераслаў у «Нашу Ніву» — яны ўжо надрукавалі ў апошнім нумары. Дубавец пачынае выдавецкі праект, бібліятэку «Вострая Брама», і прасіў пацікавіцца, ці не пагадзіліся б Вы выдаць новыя, пасьля «Сьцяны», творы ў гэтай сэрыі. Сярод першых там, здаецца, Славамір Адамовіч, Уладзя Арлоў і я.**
**Доўга змагаўся за назву — мая была «Перад свабодай. Нататкі перабежчыка», але прайграў. Дубавец выносіць на вокладку назву асобнай навэлкі, якая стаіць у канцы кніжкі цалкам асобна і нічога ня мае агульнага з асноўным тэкстам: «У фіялетавай ночы вугал крыла». Супольнае хіба ў тым, што гэта мэтафара ўсяго папярэдняга. Аргумэнты Дубаўца — мой варыянт сьведчыць пра публіцыстыку-журналістыку, ягоны — пра літаратуру. Я разгубіўся, бо ў мяне ўсё ж інстынкты больш моцныя на журналістыку, і мусіў даверыцца крытыку. Навэлкі пра журналісцкае жыцьцё ў 1980-я ў кніжцы перамяжаюцца цытатнікам — фразамі са «Звязды» 1982 году. Яны нуднаватыя, разрубаюць аповед, але і не прызначаюцца для чытаньня адразу — гэта як ілюстрацыі, карцінкі ў форме словаў. Захочацца — можна будзе ўгледзецца больш пільна (так я памылкова думаю).**
**У нас навіна — нарэшце прыяжджае Сяргей Навумчык. Яшчэ адна навіна — ад 1 студзеня я зацьверджаны на пасадзе дырэктара Беларускай службы. У нас увогуле толькі добрыя навіны тут у Празе, і на працы і дома.**
**Мы атрымліваем падборкі расейскай прэсы на тэмы культуры — там часта ёсьць цікавыя публікацыі. Для прыкладу пасылаю Вам адну такую падборку, калі зацікавіць, магу пасылаць рэгулярна.**

Быкаў шмат чытаў, прычым вельмі хутка і добра запамінаў прачытанае. На часопісным століку ў ягоным працоўным кабінэце ў Менску адна гара часопісаў, кніг, газэтаў пастаянна зьмянялася іншай. У Хэльсынкі інфармацыйны асяродак быў разрэджаны, апроч слуханьня радыё і лістоў амаль нічога не было, і В.У. і І.М. радаваліся ўсяму, што прысылалі пачытаць[16]. На «Свабодзе» нават у даінтэрнэтны час мы мелі надзвычай шырокі доступ да расейскамоўнай прэсы і маглі раздрукоўваць сабе любыя артыкулы.
Здаецца, якраз на свой дзень нараджэньня на пачатку лютага я атрымаў новы ліст з Хэльсынкі.

**1 лютага 1999.**
**Дарагі Саша!**
**Найперш — маё Вам віншаваньне з высокай і вельмі важнай пасадай, якая па цяперашнім часе робіцца ўсё болей важнай.**
**Добра, што і Сяргей урэшце дабрыў да «Свабоды», яшчэ б туды (хоць бы ў Прагу) мілую Галю — і беларуская сямейка экзыльных была б разам. Гэта было б выдатна, бо, як пагляджу здаля, сапраўды — то магутная кучка, роля якой у беларускай гісторыі вельмі проста можа апынуцца большай, чым тыя, што мітусяцца на радзіме. Во і Сяржук вырастае такім разумным і артыстычным, што я заўжды**

[15] Дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода Вячка Станкевіч пайшоў на пэнсію ў кастрычніку 1998, я выконваў ягоныя абавязкі.

[16] Пазьней гэта стаў рэгулярна і ў значных аб’ёмах рабіць С.Навумчык, і В.У. і І.М. былі яму вельмі ўдзячныя.

**слухаю яго з большым задавальненьнем, чым якога сучаснага барда[17]. А і разумныя яго адказы (як у праграме С.Дубаўца) на пытаньне: што аб'яднае беларусаў? Самы лепшы, самы трапны адказ Сержука. Дай Бог яму ўдачы. І яго дзеткам таксама.**
**Наконт бібліятэкі «Вострая Брама» — вельмі магчыма[18]. Я ж тут не дарма ем фінскі хлеб (дарэчы, нясмачны), напісаў за восень і зіму 12 апавяданьняў і прытчаў + аповесьць. Так што зьбярэцца на невялікі зборнік.**
**Наконт назвы, Саша, я магу толькі сказаць, што назва мае другараднае значэньне; раней гэта было прадметна, цяпер болей мэтафарычна (такая мода), але адзіна важны зьмест. Хаця цяпер і зьмест страчвае зьмест і сэнс, і называецца — тэкст. Пісьменьнікі Расеі пішуць не аповесьці або раманы, а тэксты. Ня ведаю, як на Захадзе, але думаю — гэтак жа. Бо Ўсход пераймае Захад. Ну, а мы ўсё яшчэ старамодныя — раман, аповесьць, апавяданьне… Хаця… Усё вырашае густ аўтара. Чытач жа сучасны, здаецца, даўно ўжо страціў які-небудзь густ. Ён упёрся ў тэлевізар або кампутар.**
**А мне тут параслалі зь Менску маю новую кніжку артыкулаў і выступленьняў, якая выдавалася два гады і, канечне, састарэла, бо апошнія артыкулы пазначаныя 1996 г.[19] Але афармлена добра, пасучаснаму, што, вядома, найперш грэе аўтарскае самалюбства.**

[17] Сяржук Сокалаў-Воюш. На пытаньне, што можа аб'яднаць беларусаў, ён адказаў: хлусьня, матывуючы гэта тым, што высакародныя мэты ў айчыннай гісторыі заўсёды цярпелі паразу.
[18] Кніга «Пахаджане» выйшла ў 2000 годзе. Быкаў потым падпісаў яе мне як «першаму трансьлятару шмат якіх твораў гэтай кніжкі».
[19] «Крыжовы шлях» (Менск, 1998), выданьне фонду «Гронка» пры ўдзеле Беларускага ПЭН-цэнтру, аўтар вокладкі Алена Законьнікава.





**Ну, а ў астатнім усё звычайнае. Чытаю расейскія часопісы (ёсьць у адной бібліятэцы. Зь беларускіх там толькі «Нёман» і «Мастацтва».). Сёньня першы за зіму вельмі лагодны сонечны дзень, хадзілі з І.М. у зімовы лес. Гэта блізка да хаты. Хораша ўжо тым, што неяк нагадала ўласнае дзяцінства і зімовую (штодзень) дарогу (сьцежку) праз лес у школу.**
**Ну, а ў 18.00, як заўжды, транзыстар да вуха і — навіны з Прагі пра Беларусь. Тэлевізіі ў мяне, дзякаваць Богу, няма.**
**Дык шчасьцейка Вам, дарагі Саша, на новай пасадзе. Удачы Сяргею і Сержуку і ўсім вашым дзяўчаткам.**
**Ірына Міхайлаўна таксама кланяецца ўсім.**
**Абдымаю,**
**Васіль Б.**

Яшчэ не атрымаўшы адказу зь Фінляндыі, я сеў за новы ліст, пра перамены і пляны ў рэдакцыі: імкнёмся да лякані́чнасьці, апэратыўнасьці, мяняем перадачы, шукаем новых аўтараў. У тым лісьце я прасіў парады і задаваў Быкаву некалькі літаратурных пытаньняў:

**Сёньня гаварыў з Барадуліным, ён прапанаваў свае варыяцыі на псальмы Давіда, а таксама пагадзіўся паўдзельнічаць у перадачы «Слоўнік Свабоды». Пачаў я сам нешта пісаць для сябе, але ў пераходны дырэктарскі пэрыяд закінуў — думаю вярнуцца, калі ўдасца. Цікава, з Вашай практыкі, — як у Вас зь перапынкам, як удаецца аднаўляць дыханьне, рытм, ці Вы не прыпыняецеся? І яшчэ — што Вы чытаеце падчас актыўнага пісаньня — у сэнсе, як уплывае на Вас у такі пэрыяд напісанае іншымі?**

Пакуль ішла пошта, В.У. падрыхтаваў да адпраўкі ў Прагу новую бандэроль з рукапісам.

**9 лютага 1999.**
**Дарагі Аляксандар Міхайлавіч,**
**пасылаю яшчэ адну прыпавесьць, можа скарыстаеце яе, як і папярэднюю. Калі не надакучыў Вам гэты мой жанр, дык праз месяц магу прыслаць новую, а затым і яшчэ. Прывітаньне абодвум Сержукам і вашым дзяўчатам. Ваш Васіль Быкаў.**
**P.S. Напісаў, але яшчэ не адправіў гэты ліст, як атрымаў Ваш ад 3 лютага. Таму дзякую. Зразумела акцыя Сяргея — што зробіш[20].**
**Стараюся слухаць Беларускую службу штодня. Амаль заўжды тое ўдаецца — або ў 18 г., або ў 22. Самая цікавая (для мяне, прынамсі), канечне, першая палова перадачы — навіны, падзеі і г.д. Пасьля трохі горш. Мне здаецца, вашыя хлопцы (і дзяўчаткі) трохі злоўжываюць часам — усім хочацца гаварыць даўжэй. Але не заўжды зьмест вымагае таго. Часам даволі кароткай інфармацыі, але не даўгога тлумачэньня вядомага.**
**Канечне, лепш пісаць рэгулярна, не прыпыняючыся (як Шамякін), хаця тое не заўжды на карысьць творам. Я працую нерэгулярна, калі ўжо нахлыне. Але з гадамі тое нахланьнё ўсё радзей. Таму асабліва тут, у Хэльсынкі, стараюся пісаць штодня — пісаць ці перакладаць. Перакладаць — асабліва нялюбая праца. Але трэба.**
**Чытаць у час працы (у якасьці адпачынку) трэба. Не абавязкова што блізкае, роднаснае. Як я цяпер, дык аддаю перавагу дакумэнталістыцы. Але добра і бэлетрыстыку (чытаю апавяданьні Дж.Сэлінджэра). Стымулюе, у сэнсе — падганяе. І дае зразумець, наколькі ты малы ў параўнаньні... Або як асалода.**
**А наконт папулярнасьці перадачаў — зрабіце рэгулярны агляд пісьмаў слухачоў зь Беларусі (як у Стрэлянага), будуць слухаць і пісаць. Перадачы ж Дубаўца — самі сабой разумныя і вартыя, але для вузкага кола. Хаця, канечне, трэба і такія. Я хоць ня маю Інтэрнэту, але заўжды зь цікавасьцю слухаю Сяргея Н. — тое таксама вельмі патрэбна. Дарэчы, прывітаньне яму і дай Бог удачы.**
**І.М. дзякуе за выпуск «Культуры». Ужо чытае, пасьля я...**
**Бывайце — В.Б.**

[20] Паводле правілаў Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, С.Навумчык мусіў прыпыніць членства ў БНФ на час працы на радыё.





Напачатку красавіка пошта прынесла новую бандэроль.

**29 сакавіка 1999.**
**Шаноўны Аляксандар Міхайлавіч,**
**пасылаю новы сатырычны твор. Можа, скарыстаеце? А калі не, дык перашліце, калі ласка, у «НН». Слухаю бел. «Свабоду» на дадатковых хвалях. Стала куды лепш чуваць. У Беларусі, кажуць, таксама. Дай Бог вам!**
**З прывітаньнем**
**В.Быкаў.**

Хвалі «Свабоды» мяняюцца двойчы на год — напрыканцы сакавіка і напрыканцы кастрычніка, адначасна са зьменай часу. Гэта зьвязана з распаўсюджваньнем сыгналу на кароткіх хвалях, які залежыць ад сонца, ад працы іншых станцыяў па суседстве, ад наяўнасьці рэтрансьлятараў. Частоты разьмяркоўвае Міжнародны зьвяз электрасувязі, і двойчы на год радыёстанцыі розных краінаў вядуць барацьбу за больш магутныя перадатчыкі, стабільныя ўмовы, лепшыя хвалі. Удзельнічаем у гэтым змаганьні зь пераменным посьпехам і мы. Напачатку красавіка мы чыталі фрагмэнты новых прыпавесьцяў Быкава, цалкам тэксты я пераслаў у «Нашу Ніву», Сяргей Дубавец надрукаваў. Чарговы ліст у Хэльсынкі я адаслаў 12 красавіка:

**Пішу Вам зь вялікімі паўзамі — цяжкая навука бюракратыі даецца марудна. Ваюю за хвалі, за бюджэт, за абсталяваньне і г.д. Ня дужа цікава, ды патрэбна. Зьбіраюся праз тыдзень у Бостан. Гарвардзкі ўнівэрсытэт праводзіць канфэрэнцыю пра Беларусь, першую такога маштабу, будуць дасьледчыкі й палітыкі з ЗША, Канады, Францыі, Нямеччыны, дык сяджу, рыхтую даклад пра магчымасьці перамены рэжыму палітычнымі элітамі і недзяржаўнымі арганізацыямі. Так мне акрэсьлілі тэму. А магчымасьці гэтыя самі ведаеце якія — як у элітаў Паўночнай Карэі і грамадзкіх арганізацыяў Кубы. Сёлета бяз Вас адбылося ўручэньне ПЭН-цэнтраўскіх прэміяў — ды хіба Карлас[21] Вам усё напісаў. Сяргей Навумчык, Вам, мабыць распавёў пра асаблівасьці цяперашняй выбарчай кампаніі і пазыцыю Зянона. Быццам слушна, ды толькі нагадвае сытуацыю ў Расеі ў 1916-м ці ў Нямеччыне пачатку 1930-х, калі тагачасныя «дэмакраты» паміж сабой бескампрамісна ваявалі за прынцыпы. Калі цуду ня будзе, дык будучыня ва ўсіх сумная. Дарэчы, ці чыталі Вы «Узлы» Салжаніцына? Цікава было б пачуць Вашую ацэнку. А тым часам пасылаю свой «вузельчык»[22], які толькі сёньня атрымаў сам. Тэкст напісаны так даўно, што не выклікае ніякіх эмоцыяў у форме кнігі. Пачаў мінулай восеньню пісаць зусім іншае, ды пакуль завісла.**

Я зьвярнуў увагу, што ў некалькіх лістах напачатку году В.У. зьмяніў зварот да мяне: замест звычайнага «Саша» зьявілася «Аляксандар Міхайлавіч». Я быў падумаў, што гэта зьвязана з далікатнасьцю В.У., які такім чынам надае ўвагу маёй новай пасадзе. Ня ведаю, ці ў гэтым прычына — Быкаў ня раз казаў, што мы поўныя цёзкі зь ягоным сябрам Алесем Адамовічам, якога ён часта называў Сашам. Але якраз выйшла мая кніжка, пра якую я згадваў раней, я паслаў яе ў Хэльсынкі і напісаў пра сваё зьдзіўленьне зьменай звароту. Быкаў адказаў па-быкаўску.

[21] Карлас Шэрман, віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру.
[22] Кніга «Ў фіялетавай ночы вугал крыла» выйшла ў Вільні ў сэрыі «Вострая Брама».





**24 траўня 1999.**
**Мілы Саша, шаноўны Аляксандар Міхайлавіч, даўно прачытаў Вашае «Крыло» (даруйце, але, як я ўжо і казаў Вам, поўная назва здаецца мне занадта прэтэнцыёзнай і малавыразнай), кніжка ўвогуле харошая — ва ўсіх адносінах. Яно і вядома: у тым часе, дзе палягаюць аўтарскія зацікаўленьні, безьліч матэрыялу менавіта такога кшталту — гумару, сатыры, сарказму. Вы гэта адчулі ўласным талентам і добра зрэалізавалі задуму.**
**Гэта яшчэ ў тыя часы сумленныя пісьменьнікі казалі, што найлепшы стыль для іх — стыль прозы Салтыкова-Шчадрына. Але тады тое было маладаступна. Цяпер — увакурат. Выдатна таксама, што ў тэкст урэзаны вытрымкі з тагачаснага друку — гэта лепей за ўсе малюнкі ілюструе сутнасьць і характар тагачаснай журналістыкі. Чытаецца ўсё гэта нават зь цікавасьцю, — тут, вядома, спрацоўвае настальгічнае ўспрыманьне (гэта калі ў старэйшых чытачоў), а маладзейшых падкупляе добры, дасьціпны гумар, якога шмат рассыпана па старонках кніжкі.**
**Апошняе апавяданьне ў іншым стылі, тут у мяне няма пэўнай думкі. Але то спроба постмадэрновага стылю, я так разумею, — стылю, які, як вядома, захапіў немалую частку сучаснай літаратуры. Але тут патрэбныя нейкія іншыя крытэрыі, якімі я не валодаю, таму баюся даваць ацэнку. Чытаецца, аднак, добра, ідэя ж, само сабой — беззаганная. Дай Божа, Вам, мілы аўтар.**

**А я, трохі папрацаваўшы ўвосень і ўзімку, відаць, прытаміўся па вясну і цяпер болей чытаю. Зноў жа некаторая няпэўнасьць майго тут пражываньня трохі гняце. Павінны ўжо быў паехаць дадому, ды тут прапанавалі яшчэ пабыць. Канечне, тая прапанова дужа спакушае, тым болей, што дома ў нас Вы ведаеце, што і як. А тут яшчэ гэтыя дэмакраты (ды і БНФ таксама) наблыталі так, што немагчыма даўмецца[23].**
**Ці то такая глыбакадумная, хітрая палітыка, ці элемэнтарная шызафрэнія — не магу зразумець адсюль з майго скандынаўскага далёка. Часам думаю: а можа, і ня варта, марна спрабаваць тое? Але тады таксама не лягчэй — адчуваеш сябе блазнам. Асабліва пачытаўшы Сеўруковы[24] опусы ў менскіх газэтах. Ледзьве ўстрымаўся, каб на прыклад Матукоўскага[25] не пачаць гарачыццаапраўдвацца. Здаецца, правільна стрымаўся, але ж поўнай задаволенасьці ад таго ня маю. Дый то зразумела.**
**У пачатку траўня быў у Бэрліне на літаратурных сустрэчах. Былі таксама хлопцы-дзяўчаты зь Беларусі, выступалі перад нейкай аўдыторыяй чалавек з 30. Нікога цяпер літаратура не цікавіць, шкада толькі высілкаў арганізатараў гэткіх шоў. Ну, але Бэрлін — горад выдатны, асабліва яго заходняя частка, Курфюрстэндам, Кудам, якую я ведаю даўно і люблю. Да таго ж там была вясна ў разгары.**

[23] У траўні 1999, у сувязі са сканчэньнем пяцігадовага тэрміну прэзыдэнцтва А.Лукашэнкі, была зроблена спроба правесьці альтэрнатыўныя прэзыдэнцкія выбары сіламі апазыцыі.
[24] Уладзімер Сеўрук, былы намесьнік загадчыка аддзелу прапаганды ЦК КПСС, затым супрацоўнік адміністрацыі А.Лукашэнкі, адзін з арганізатараў цкаваньня пісьменьніка.
[25] Мікалай Матукоўскі — карэспандэнт газэты «Известия», драматург, сябар Быкава.





**А тут — толькі на самым пачатку. Усё ж Фінляндыя — сьцюдзёная краіна, нават у параўнаньні з нашай Беларусьсю.**
**Вашую «Свабоду», вядома ж, слухаю штодзень, і адчуваю, у якое вы трапілі становішча з гэтымі «пацешнымі» выбарамі. Але што зробіш...**
**Удачы Вам, Саша, і посьпеху! Прывітаньне Сяргею.**
**Ваш В.Быкаў.**

Гэты ліст быў аддрукаваны на кампутарным прынтэры, але Быкаў па звычцы яшчэ ўносіў папраўкі ручкай — ставіў двукосьсі, коскі, дадаваў працяжнікі, мяняў словы месцамі, упісваў новыя — адным словам, працаваў так, як ён прывык працаваць з тэкстам. Хаця, канечне, лісты ў гэтым сэнсе не параўнаць зь ягонымі творамі ці перакладамі ўласнай прозы. Неяк В.У. паказаў мне першую старонку свайго «Кар'еру» — там пачатковая вэрсія расейскага аддрукаванага тэксту была проста нечытэльная з-за шматлікіх аўтарскіх паправак.
Празь пяць дзён В.У. адправіў яшчэ адзін ліст на адрас «Свабоды».

**29 траўня 1999.**
**Дарагі Саша,**
**пасылаю два невялічкія творы на тэму інтэграцыі. Можа, спатрэбяцца — для радыё ці публікацыі.**
**Я — пакуль што на старым месцы ў Хэльсынкі. Можа, застануся тут да лета. Але ня пэўна. Калі не — дык вярнуся (хутка) у Менск. А пакуль што — гляджу ў вакно і чакаю лістоў. Надвор'е халаднаватае, і гэта таксама не суцяшае.**
**З найлепшымі пажаданьнямі**
**В.Быкаў.**

У 1999-м працягваліся нашыя тэлефонныя гутаркі. 19 чэрвеня Васілю Ўладзімеравічу споўнілася 75 гадоў. Я падрыхтаваў пытаньні і запісаў працяглую, хвілінаў на

сорак, гутарку[26]. Менш чым праз месяц быў яшчэ адзін літаратурны юбілей — 100 гадоў Гэмінгўэю, я рыхтаваў перадачу і папрасіў Быкава паўдзельнічаць[27]. Паводле практыкі, якая замацавалася гадамі, звычайна мы званілі В.У., абмяркоўвалі тэму і дамаўляліся на час запісу. Калі Быкаў быў дома і нічога не замінала, можна было пазваніць праз паўгадзіны, ён за гэты час ужо накідваў тэкст, і мы рабілі запіс. Інтэрвію, натуральна, запісваліся ў свабоднай гутарцы, без падрыхтоўкі.

**7 верасьня 1999.**
**Дарагі Саша,**
**калі я яшчэ не надакучыў «Свабодзе», дык пасылаю новую прыпавесьць. Можа прачытаеце ў эфіры і дашлеце ў «НН».**
**З шанаваньнем**
**В.Быкаў.**

Прыпавесьць прагучала ў эфіры, я пераслаў яе таксама ў «НН», дзе яна была надрукаваная. Тым часам заканчваўся тэрмін знаходжаньня ў Хэльсынкі, ішлі, як заўсёды ў такіх справах, даўгія і ня надта пэўныя перамовы пра працяг побыту ці пераезд у Нямеччыну. Новая бандэроль зь Фінляндыі прыйшла праз два месяцы.

**3 лістапада 1999.**
**Шаноўны Аляксандар Міхайлавіч,**
**пасылаю 2 апошнія прыпавесьці, болей ня буду, бо, мусіць, я ўжо надакучыў імі і «Свабодзе» і «НН». Трэба ведаць і меру.**
**Дажываю апошнія тыдні ў Хэльсынкі, а затым прыйдзецца вяртацца дамоў. Ня надта прыемная пэрспэктыва, але і неабходная. Што будзе пасьля — невядома.**

[26] Гл. с. 131.
[27] Гл. с. 147.





**Але што ўжо мне разьлічваць на якое <u>пасьля…</u>**
**Усяго Вам здатнага, з прывітаньнем**
**В.Быкаў.**

Віншаваньні з новым 2000 годам я пасылаў на менскі адрас Быкавых — на непрацяглы час яны вярнуліся ў Беларусь. В.У. езьдзіў у Маскву, дзе атрымаў прэмію «Трыюмф», выступаў па тэлебачаньні, затым вярнуўся ў Менск. Напрыканцы студзеня мы запісалі інтэрвію пра Джорджа Оруэла[28]. Праз некалькі дзён, пасьля кампаніі цкаваньня, Быкавы пакінулі Беларусь.

**12 лютага 2000.**
**Дарагі Саша,**
**ужо тыдзень, як мы з І.М. у Нямеччыне. Жывём у нямецкім доме творчасьці між Бэрлінам і Лейпцыгам, у старым маёнтку графоў фон Арнімаў. Увогуле тут добра: сельская ідылія, стары парк, цішыня, сьвежае паветра. А галоўнае — надвор'е, якое ў нас не заўжды бывае ў красавіку. Ну ды і ў Вас такое ж…**
**Беларуская «Свабода» гучыць тут выдатна, чаго нельга сказаць пра расейскую. Ня ведаю, чаму так.**
**Працаваць яшчэ ня браўся (у сэнсе літаратурным), рабіў малюнкі для кніжкі паэзіі Р.Барадуліна «Лісты ў Фінляндыю зь Менску і з Вушачы». Колькі разоў тэлефанаваў Вам, але Ваш тэлефон маўчыць. Мой тэлефон тутэйшы: 0049-33-746-699-31. Вельмі прашу, Саша, паведаміць яго сп. Елене Корці, да якой я таксама чамусь не магу дазваніцца. Мы тут да 1 мая.**
**Сардэчнае вітаньне Сяргею Навумчыку, без пакетаў якога мне тут сумнавата…**
**Са шчырасьцю і вітаньнем да ўсіх,**
**В.Быкаў.**

[28] Гл. с. 176.

У канцы сакавіка Быкаў прыехаў у Прагу на сьяткаваньне Дня Волі 25 сакавіка. Прыездам апекавалася вядомая праваабарончая арганізацыя «Людзі ў бядзе» — яе супрацоўнік нават паехаў у Франкфурт, узяў пашпарт В.У., завёз яго ў чэскую амбасаду ў Боне і разам з Быкавым прыехаў у Прагу. Тыдзень Быкава быў надзвычай насычаным: сустрэчы ў чэскім парлямэнце, са студэнтамі, з грамадзкасьцю, з удзельнікамі сьяткаваньня ўгодкаў БНР, якія прыехалі зь дзясятка краінаў сьвету. У Беларусі сьвяткаваньне было жорстка разагнанае, Быкаў выказаў сваё стаўленьне да падзеяў у эфіры[29]. В.У. разам са старшынёй Рады БНР Івонкай Сурвіллай і сэнатарам Янам Румлам пасадзілі Дрэва дэмакратыі на адным з астравоў на Вэлтаве.

У В.У. была сустрэча з кіраўніцтвам Чэскага ПЭН-цэнтру, на якую мы пайшлі разам. Размова была вельмі падобная да тых, што адбываюцца і ў Менску: цяжка друкавацца, страчваецца цікавасьць да літаратуры, маскульт перамагае. Гэта пацьвярджала адчуваньні самога В.У., які ахвотна ўдзельнічаў у гутарцы. Калі мы вярталіся на радыё па Вацлаўскай плошчы, я прапанаваў Быкаву зазірнуць у кніжную краму: багацьце айчыннай і перакладной літаратуры ашаламляла і неяк не вязалася са скаргамі былых дысыдэнтаў. Правільна кажуць, што ўсё пазнаецца ў параўнаньні, падсумаваў В.У.

У гэты прыезд мы ў рэдакцыі папрасілі В.У. выбраць і запісаць для нашага архіву ўрыўкі зь ягоных аповесьцяў. Ён сам адабраў і запісаў чатыры фрагмэнты з «Альпійскай баляды», «Мёртвым не баліць», «Сотнікава», «Знаку бяды»[30].

У гэты ж прыезд мы з В.У. хадзілі ў госьці да перакладчыцы яго твораў на італьянскую мову Элены Корці, жонкі тагачаснага дырэктара Расейскай службы «Свабоды» Марыё Корці. Гаспадыня прыгатавала сапраўдную «пасту», гаспадар адкаркаваў нейкае спэцыяльнае віно, і ўвесь вечар гаворка пра літаратуру перамяжалася кулінарнымі адступленьнямі. Быкаў, які ўвогуле быў непатрабавальны ў ежы, любіў італьянскую кухню, хваліў і гаспадыню, і віно. Той самай вясной, калі ягоная кніга выйдзе, В.У. разам з жонкай паедзе ў Рым, пасьля ў Мілян, будуць інтэрвію ў друку і сустрэчы з чытачамі[31].

Пошта прыносіла новыя бандэролі зь Нямеччыны, і ў эфіры гучалі новыя тэксты Быкава: «Труп», «На балотнай сьцяжыне», «Кароткая песьня», «Вялікоднае яйка». Нягледзячы на тое, што я званіў і прасіў прысылаць новыя творы, ён кожны раз рабіў далікатную прыпіску, што калі не зацікавіць, тады не чытайце.

Памятаю, мяне моцна ўразіла аповесьць «Маладая і прыгожая» — у ёй рамантычны Быкаў часоў «Жураўлінага крыку» спалучаўся з клясычнай трагедыйнасьцю «Сотнікава», і ўсё гэта нагадвала лепшыя прыпавесьці. Уражаны, я пазваніў яму адразу па атрыманьні. Быкаў, як любы аўтар, чакаў рэакцыі на свае творы, хаця і ніколі не выказваўся з гэтай нагоды. Мне падалося, што аўтар крыху «перапісаў» аповесьць — яна заканчвалася на паўтары старонкі раней, і я сказаў пра гэта таксама. Быкаў выслухаў, быццам пагадзіўся, пасьля перапісаў і прыслаў іншы варыянт — але свой.

Летам 2000-га Быкаў узяў удзел у нашай штодзённай перадачы году «Галасы стагодзьдзя» — ягоны ўспамін пра пачатак вайны прагучаў 22 чэрвеня[32]. Тады ж я папрасіў яго напісаць прадмову да яшчэ адной нашай «вялікай» перадачы — «Слоўніка Свабоды». Быкаў яе добра ведаў, эсэ на тэму знакавых для мінулага стагодзьдзя словаў штодня выходзілі ў эфір ў 1999 годзе.

[29] Гл. с. 190.

[30] Упершыню яны прагучалі ў эфіры а 10-й вечара 22 чэрвеня 2003, праз паўтары гадзіны пасьля сьмерці В.У.

[31] Гл. с. 215.

[32] Гл. с. 203.

Часопіс «ARCHE» рыхтаваўся выдаць перадачу асобным выпускам. Я сабраў і паслаў у Франкфурт пакет з інфармацыяй пра гісторыю радыё, пра ўмовы і расклад вяшчаньня, ацэнкі слухачоў. Прадмова Быкава была ягоным першым вялікім тэкстам, прысьвечаным Радыё Свабода — і заканчвалася нечакана:

**«Свабода», «Свабодная Эўропа» даўно сталі надзейнымі апірышчамі сучаснай эўрапейскай дэмакратыі. Вядома, як высока ацаніў іх прэзыдэнт Эстоніі Ленарт Мэры, вылучыўшы на Нобэлеўскую прэмію. Беларусы горача падтрымліваюць яго ініцыятыву і будуць шчыра віншаваць нашую «Свабоду», калі тая ініцыятыва спраўдзіцца. «Свабода» таго заслугоўвае[33].**

Наступны ліст прыйшоў з Франкфурту-на-Майне.

**17 ліпеня 2001.**
**Шаноўны Аляксандар Міхайлавіч,**
**пасылаю абяцаны твор — вялікае (адносна, вядома) апавяданьне. Можа, гэта і ня тое, што трэба, але такое атрымалася. Чытайце, рашайце. Заўтра еду ў Кёльн, на «Нямецкую хвалю», дзе штосьці прыйдзецца вяшчаць. Да таго ж — на расейскай мове, такія ўмовы-дамовы. Прывітаньне свабодным хлопцам, і дзяўчаткам — таксама.**
**З прывітаньнем**
**В.Быкаў.**

11 верасьня Быкаў прыляцеў у Прагу — назаўтра была прызначаная сустрэча з прэзыдэнтам Гаўлам. Раніцай ад удараў тэрарыстаў загінулі тысячы людзей у Амэрыцы. Я запісаў кароткую гутарку[34] з В.У. з гэтай нагоды, пасьля ён пайшоў на сустрэчу ў прэзыдэнцкі палац, і ў наступныя дні, да вяртаньня ў Франкфурт, мы запісалі яшчэ некалькі перадачаў. У наступным лісьце В.У. пазначыў дату адметным чынам:

[33] Гл. с. 530.
[34] Гл. с. 246.





**2 лістапада. Дзяды.**
**Шаноўны Аляксандар Міхайлавіч,**
**пасылаю абяцаны твор. Але адначасна абяцаю новы, цікавейшы. А яшчэ хацеў бы парэкамэндаваць аповеды Барыса Кіта, якія я канчаю апрацоўваць. Там сапраўды шмат цікавага. Са згоды Б.Ул. тыя можна было б Вам выслаць напрыканцы году. Патэлефануйце яму. Т. 49.......**
**Усяго найлепшага. З прывітаньнем да ўсіх**
**В.Быкаў.**

Мяне ўразіў сам факт быкаўскай працы над чужымі ўспамінамі[35]. Мы настойліва працягвалі агітаваць В.У. пісаць свае ўспаміны. Ён уважліва слухаў перадачы нашай новай рубрыкі «Сучасныя мэмуары», часам камэнтаваў пачутае. У нашай просьбе быццам і не адмаўляў, але нічога пэўнага і не абяцаў.
На пачатку новага 2002 году я рабіў інтэрвію пра мэмуарную літаратуру, і Быкаў расказваў, як яшчэ ў Горадні ён запісваў успаміны аднаго знаёмага франтавіка-артылерыста — тысячу старонак перарабіў нанова. У выпадку з В.У. гэта падавалася недаравальнай растратай уласнага літаратурнага часу, але ён адказаў, што інакш усё прапала б. Тады ж я ў эфіры, пад запіс, спытаўся, ці працуе В.У. над сваімі ўспамінамі. І Быкаў раптам пацьвердзіў: «Я мушу прадоўжыць, наколькі мне гэта будзе дадзена. Я хачу напісаць. Можа быць, не пра ўсё стагодзьдзе, не пра ўсё жыцьцё, а хоць бы пра ўласны вопыт пры канцы XX стагодзьдзя»[36]. На гэты мо-

[35] «Дыялёгі з Барысам Кітом» былі апублікаваныя ў 2002 годзе.
[36] Гл. с. 267.

мант кніга, верагодна, была амаль закончаная. Пасьля некалькіх тэлефонных размоваў пошта прынесла невялічкі пакунак.

**19 сакавіка 2002.**
**Шаноўны Аляксандар Міхайлавіч,**
**як і дамаўляліся, пасылаю дыскету з успамінамі. Але я дужа няўпэўнены, што перапісалася. Можа, Вы там праверыце. Калі ж не, тады буду друкаваць на прынтэры. Гэта каля 300 стар.**
**Патэлефануйце к.л.**
**З прывітаньнем**
**В.Быкаў.**

Тэлефанаваць давялося зь ня надта прыемнай зьвесткай — дыскета пустая, нічога не запісалася. Пасьля некалькіх спробаў В.У. зрабіў, як заўсёды: аддрукаваў увесь тэкст, запакаваў, пайшоў на пошту, і празь некалькі дзён аб'ёмісты рукапіс пад загалоўкам «Мае ўспаміны» прыйшоў у рэдакцыю.
Я быў першым чытачом (пасьля І.М., зразумела), і адразу стала ясна, што трэба пераконваць аўтара начытаць успаміны самому. Усе мастацкія творы Быкава ў эфіры гучалі ў выкананьні журналістаў «Свабоды», сам ён быў неахвочы да дыктарскай працы. Ды й па тэлефоне такія запісы ня робяцца, патрабуецца студыйная якасьць гуку. Толькі аднойчы, здаецца, у перадачы паводле інтэрвію Алеся Адамовіча з В.У. ён пагадзіўся начытаць кароткія фрагмэнты свайго тэксту, якія былі ўмантаваныя ў запіс.
Сьпярша В.У. спрабаваў прапанаваць, каб і ўспаміны начытаў хто-небудзь, але пазьней пагадзіўся з нашай просьбай. Тым часам сам працягваў працаваць з тэкстам, шукаў іншую назву, дасылаў нейкія ўстаўкі, папраўкі.





**17 красавіка 2002.**
**Дарагі Саша,**
**я нічога болей у рукапісе перарабляць ня буду, апроч старонкі 208, якую дасылаю ў новай рэдакцыі. Вельмі прашу замяніць яе на гэтую, а старую выкінуць.**
**Наконт дакумэнтаў на Прагу:**
**— замовіў даведку ў паліцыі, якую дашлюць пад канец месяца;**
**— замовіў даведку з банку, якую таксама чакаю;**
**— зрабіў ксэракс пашпартоў.**
**Як усё зьбяру, дашлю. Толькі куды[37]?**
**З прывітаньнем**
**В.Быкаў.**

Гэта апошні ліст В.У., які ў мяне захаваўся. У новай рэдакцыі падаваўся эпізод зь лістом супраць Салжаніцына, пад якім бяз згоды аўтара быў пастаўлены быкаўскі подпіс. Зьмены насамрэч былі нязначныя, але, верагодна, В.У. хацелася быць як мага больш дакладным у гэтым эпізодзе. Напачатку чэрвеня нам удалося запрасіць Быкава з жонкай на тыдзень у Прагу на запіс успамінаў. Мы вырашылі ўзяць для эфіру пасьляваенны пэрыяд, прыкладна палову кнігі. В.У. на нашу просьбу крыху скараціў тэкст, разьбіў яго на сорак частак, і пачаўся запіс. На працягу трох месяцаў тройчы на тыдзень у эфіры гучала назва «Доўгая дарога дадому», і частка за часткай ажывала быкаўскае XX стагодзьдзе.
Напрыканцы году Быкавы пераехалі ў Прагу, і патрэба ў перапісцы адпала. Праўда, у мяне ёсьць яшчэ адзін ліст за подпісам В.У., датаваны студзенем 2003, але пра яго і некаторыя іншыя рэчы — у чатырох невялікіх дадатках да гісторыі нашай перапіскі.

[37] Пераездам Быкавых зь Нямеччыны ў Прагу непасрэдна займаліся чэскі фонд «Людзі ў бядзе» і С.Навумчык.

**1. Гарвардзкі дыплём**

...Дзясяты пад’езд дому на Танкавай, я знаходжу ў паўцемры паштовую скрынку і апускаю рукапіс. Памойму, другі экзэмпляр, першы — у рэдакцыі. Канец 1980-х, кніжку рыхтуе часопіс «Маладосць», першапачатковая назва «Сталін цэліцца ў нас», здаецца, ужо замененая на «Зьдзек». Але рэдакцыя баіцца, што без аўтарытэтнай прадмовы надрукаваць ня ўдасца. Праз два дні Васіль Уладзімеравіч тэлефануе забраць тэкст з клясычным «быкаўскім» загалоўкам «Кроў і праклён». Вось тады я ўпершыню хіба і пабачыў яго зблізку.

Я працаваў у той час ў газэце «Звязда» і шмат пісаў пра сталінскія рэпрэсіі. Зьбіраць матэрыялы на гэтую тэму я пачаў даўно, сустракаўся зь вязьнямі ГУЛАГу, дзецьмі рэпрэсаваных, запісваў іх успаміны. Абвешчаная галоснасьць дала магчымасьць пачаць друкаваць гэтыя аповеды, праводзіць круглыя сталы, а афіцыйны статус журналіста трохі адчыніў дзьверы ў архівы. Тое, чаго не ўдавалася апублікаваць у сваёй газэце (Алесь Адамовіч прыпячатаў той час тэрмінам «Вандэя»), я друкаваў у тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у літаратурных часопісах. Быкаў быў надзвычай уважлівым чытачом, і гэтым, верагодна, тлумачыцца хуткасьць напісаньня прадмовы.

Разам з прадмовай ён падараваў мне свой новы раман «Кар’ер», які толькі выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», зь вельмі патрабавальным надпісам:

**Аляксандру Лукашуку з сардэчнай удзячнасьцю за ягоную прыхільнасьць да Праўды. Васіль Быкаў. 16.03.88.**

Гадоў праз пятнаццаць, на Дзень Перамогі, 8 траўня 2003 году, у Празе мы гулялі па Градчанах, у парку ля прэзыдэнцкага палацу, дзе некалі хадзіў у садоўніках беларускі першадрукар. Калі колькі гадоў перад тым адкрывалі помнік Скарыну, прыехала афіцыйная беларуская дэлегацыя, маршыраваў прэзыдэнцкі аркестар, выступаў мэр. Разам з намі стаялі старыя чэскія дысыдэнты з «Хартыі-77», якія трымалі плякаты і час ад часу голасна патрабавалі вызваліць беларускіх палітвязьняў. Потым адзін зь іх нахіліўся да мяне і спытаў, якое яшчэ патрабаваньне было б дарэчы. Я сказаў пра свабоду прэсы. Дысыдэнты набралі паветра і дружна выгукнулі:

— Свабоду ціску ў Беларусі!

Чаго-чаго, а ціску беларускі друк (па-чэску — *tisk*) зьведаў больш чым дастаткова... Быкаў слухаў аповед, усьміхаўся, быў цудоўны цёплы дзень, па алеях гуляла шмат людзей, квітнеў бэз, духмяны водар ішоў ад нейкіх жоўтых кветак. Некалі, гадоў ужо дзесяць таму, я спытаўся, што яго больш за ўсё радуе.

— Прырода.

Здаецца, прырода — адзінае, што не расчароўвала яго ніколі. Калі Быкавы пераехалі ў Прагу і з дапамогай чэскай арганізацыі «Людзі ў бядзе» шукалі сталую кватэру, дык выглядала, што канчатковы выбар ня надта зручнага памяшканьня, які зрабіў В.У., быў абумоўлены перш за ўсё невялікім паркам па суседзтве, дзьве хвіліны хады. Быкавы любілі гуляць у гэтым парку і часта згадвалі яго.

Мы загаварылі пра літаратуру, і я спытаўся пра жанр прадмовы і яго адметнасьці.

— Пісаў, а як жа, — усьміхнуўся Быкаў. — Вось некалі напісаў аднаму журналісту для кніжкі «Зьдзек»...

— Ну, а аднаму генэралу? Здаецца, міліцэйскі дэтэктыў — зусім ня ваш жанр...

— Шмат пісаў, прасілі, — лаканічна адказаў Васіль Уладзімеравіч.

Быкаў выказаўся аб прадмове як аб характарыстыцы: часьцей за ўсё фармальная, але часам патрэбная, каб дапамагчы аўтару. Калі рыхтаваўся да друку апошні прыжыцьцёвы збор твораў (1992—1994), ён перагледзеў і ўключыў у 6-ты том толькі чатыры прадмовы. Уступнае слова да артыкулу Зянона Пазьняка і Яўгена

Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці», што зрабіла магчымым саму публікацыю, прадмову да кнігі Пазьняка «Сапраўднае аблічча», уступ да кнігі Аляксандра Ўліцёнка «Іншадумцы», які я як тагачасны галоўны рэдактар выдавецтва «Беларусь» папрасіў яго напісаць, і прадмову да майго «Зьдзеку».

Відаць, апошняе ўступнае слова напісанае ім для кнігі афарызмаў журналіста Радыё Свабода Сяргея Абламейкі ў сакавіку 2003 году. А за два месяцы да таго Васіль Уладзімеравіч паставіў подпіс пад адной прадмовай, калі можна так расьцягнуць паняцьце жанру, для аўтара гэтых радкоў. Я падаваў дакумэнты на стажыроўку ў Гарвардзкі ўнівэрсытэт, патрэбная была рэкамэндацыя. Пасьля пералічэньня традыцыйных у такіх паперах заслуг у тэксьце згадваліся і словы з той самай першай прадмовы, зь якой некалі пачалося нашае знаёмства. Ад тых словаў захоплівае дух — мне падавалася і падаецца, што Быкаў быў занадта шчодры ў сваіх ацэнках, прынамсі, да мяне.

У Гарвард я не паехаў, засталася копія ліста на блянку Беларускага ПЭН-цэнтру за подпісам Васіля Быкава. Даражэйшая за любы ўнівэрсытэцкі дыплём у сьвеце.

**2. Правільная гарэлка**

Дома ў Быкавых заўсёды сустракалі гасьцінна. Калі я прыяжджаў у Менск зь Мюнхэну, а пасьля з Прагі, абавязкова заходзіў у знаёмы чырвоны цагляны дом, падымаўся на дзявяты паверх, і заўсёды гасьцінныя гаспадары частавалі, і мы з Васілём Уладзімеравічам выпівалі па кілішку. Часам каньяк, часьцей гарэлку. На гатунак я не зьвяртаў увагі, захоплены магчымасьцю пагаварыць з гаспадаром, задаць яму пытаньні — пераважна пра літаратуру. Аднойчы, у сярэдзіне 1990-х, Быкаў прыехаў у Прагу, мы стаялі побач на нейкім прыёме з налітымі кілішкамі, я зьдзівіў Васіля Ўладзімеравіча пытаньнем: а што такое мэніск?

Рэч у тым, што фантастычны расейскі пісьменьнік Венядзікт Ерафееў, аўтар паэмы «Москва-Петушки», у адным інтэрвію расставіў сучасных пісьменьнікаў паводле прынцыпу «каму колькі наліў бы, калі б тыя зайшлі ў госьці». Бялову ні кроплі, Астаф'еву 15 грамаў, Распуціну — 100.

«Васілю Быкаву — цэлую шклянку з мэніскам. А тым больш Адамовічу. А больш і няма каму», — сказаў Ерафееў. Цікава, што ў першай публікацыі ў «Литературной газете» ў студзені 1990 году замест гэтага абзацу засталася толькі адна фраза: «А з сучасьнікаў адчуваю духоўную блізкасьць з магутным беларусам Васілём Быкавым».

Праз пару гадоў быў надрукаваны поўны тэкст інтэрвію, які мяне і зьбянтэжыў. Я заўсёды думаў, што мэніск — гэта нешта, што выскоквае ў футбалістаў у калене. Пры чым тут гарэлка? Быкаў засьмяяўся і кажа:

— Мэніск — гэта выпукласьць лінзы, гэта я яшчэ з артылерыйскай вучэльні памятаю, калі прыцэлы вывучалі. А яшчэ гэта паверхневае нацяжэньне вадкасьці, наліць з мэніскам — значыць, наліць з горкай.

З таго часу я стаў пільна сачыць, якому гатунку аддае перавагу Быкаў: «Smirnoff», «Absolut», «Finlandia»... Лёгіка мая тут такая: Ерафееў, безумоўны аўтарытэт што да алькаголю, найвышэйшымі аўтарытэтамі для сябе лічыць Быкава і Алеся Адамовіча. Адамовіч, як вядома, ня піў, а Быкаў наліў мне, напрыклад, «Smirnoff», значыць, якая найлепшая гарэлка?

Правільна. Тая, якую налівае Быкаў.

**3. Любімая піцца**

Мы сядзім у праскай кватэры Быкавых, і Васіль Уладзімеравіч расказвае пра інтэрвію нямецкай газэце «Більд», якое ён даваў, калі жыў у Франкфурце. Карэспандэнт доўга распытваў пра сытуацыю ў Беларусі, стан мовы, літаратурны працэс, гаварылі пра новую Эўропу і экзыстэнцыялізм, давалі палітычныя прагнозы. Пры канцы размовы журналіст пацікавіўся, што

пісьменьніку падабаецца зь нямецкай кухні, як увогуле ён тут харчуецца.
— Я яму кажу: «Люблю піццу. Вось амаль штодня і гатую».
— А якую? — загарэўся той.
— Піцца-пэпэроні.
— А якой фірмы?
— «Доктар Откер», іншыя.
— А як гатуеце?
— Купляю замарожаную, потым у мікрахвалёўку. Празь пятнаццаць хвілінаў гатовая.
Пасьля тузіна падобных пытаньняў і ўдакладненьняў госьць разьвітаўся. Праз колькі дзён выходзіць газэта. На першай старонцы вялікі каляровы здымак: стаіць і ўсьміхаецца Быкаў зь піццай у руках. Побач інтэрвію, у якім ні слова пра экзыстэнцыялізм, сацрэалізм і білінгвізм, затое ўсе кулінарныя падрабязнасьці прыгатаваньня піццы ў хатніх умовах. (Так, пад сьмех слухачоў, расказваў гэтую гісторыю сам Васіль Уладзімеравіч — у газэце на здымку ён трымае свае дзьве выдадзеныя ў Нямеччыне кнігі, і ў тэксьце гаворка ня толькі пра італьянскую кухню.)
Напрыканцы траўня пасьля працы я ехаў да Быкавых у адведкі і згадаў гэтую гісторыю. Спыніўся па дарозе ля італьянскага рэстарану і замовіў піццу-пэпэроні на вынас. Праз дваццаць хвілінаў кардонка з гарачай піццай стаяла на стале. Васіль Уладзімеравіч шчыра ўзрадаваўся і адразу сеў за стол. Ірына Міхайлаўна адмовілася ад сваёй долі і зь цёплай усьмешкай глядзела, як Васіль Уладзімеравіч каштаваў свой, паводле «Більду», улюбёны прадукт.
Гэта быў апошні раз, калі я бачыў Быкава, праз два дні ён з жонкай адляцеў з Прагі ў Менск.

**4. Дзьве ўсьмешкі**

Празь некалькі дзён пасьля пахаваньня Быкава я зноў быў у ягонай кватэры, і мілая Ірына Міхайлаўна, абясскроўленая непапраўным горам, але вонкава спакойная і прыязная, як заўсёды, разьбірала пісьмовы стол і прапанавала нешта на памяць. Гальштук, які Быкаў купіў у Нямеччыне, ягоная лінза, зь якой добра было разьбіраць дробны шрыфт на леках, фатаздымкі ў двух экзэмплярах. У капэрце ляжаў здымак: малады Быкаў і малады Салжаніцын. Зьлева Быкаў у цёмнай кашулі, побач сядзіць Салжаніцын у белай, абодва аўтары «Нового мира» бяз гальштукаў радасна глядзяць адзін на аднаго і, здаецца, зараз голасна расьсьмяюцца. Рэдкая абаяльнасьцю быкаўская ўсьмешка, на рэдкасьць вясёлы выраз твару ягонага калегі.
У той жа шуфлядзе — пажоўклая выразка з «Правды» з асуджэньнем Сахарава і Салжаніцына, сярод подпісаў — «В.Быкаў». Некаторыя імёны падкрэсьленыя.
У 1960-я і на пачатку 1970-х Быкаў слаў Салжаніцыну віншаваньні з днём нараджэньня, атрымліваў ад яго запросіны на ўручэньне Нобэлеўскай прэміі, якое мела адбыцца ў Маскве, Быкаў і Адамовіч былі адзінымі беларускімі літаратарамі, што паставілі свае подпісы пад салжаніцынскім лістом да зьезду пісьменьнікаў.
За апошнія дзесяць гадоў я зрабіў з Быкавым дзясяткі інтэрвію. Пераважна па тэлефоне, часам у студыі ці ў яго дома. Яны ўключаныя ў кнігу «Быкаў на Свабодзе». Але гутарка пра подпіс у кнігу ня трапіла, бо не запісвалася. Мы сядзелі ў тым самым ягоным кабінэце за нізкім столікам, напалову заваленым кнігамі, альбомамі, новымі часопісамі, і я спытаўся пра подпіс. Запісу на стужку я ня вёў і таму прыводжу адказ з памяці.
...Быкаў некалькі дзён быў у паездках, удзельнічаў у сустрэчах са слухачамі па лініі бюро прапаганды Саюзу пісьменьнікаў. Падчас чарговай сустрэчы на заводзе ў Магілёве раптам падышоў чалавек і перадаў, што Быкава тэрмінова просяць у абкам партыі да «вяртушкі» — так называлі начальніцкія тэлефоны спэцсувязі. Званілі з ЦК КПБ — пільны клопат, яго ўжо другі дзень шукаюць, рыхтуецца важная публікацыя, і пат-

рэбны ягоны подпіс. Быкаў сказаў, што не чытаў, падпісаць таго ня зможа і паклаў трубку. Праз паўгадзіны пачалася галоўная савецкая тэлепраграма «Время» — у паведамленьні пра ліст у сьпісе падпісантаў было прачытана прозьвішча Быкава.

Быкаў пазваніў у Маскву даўняму знаёмаму, пісьменьніку Сяргею Залыгіну, чыё імя таксама стаяла пад лістом. Той запрасіў Быкава тэрмінова прыехаць. Доўга думалі, што рабіць, каму скардзіцца. Знайшлі тэлефон дачы Мсьціслава Растраповіча, дзе быццам жыў Салжаніцын, але нумар не адказваў, маўчаў тэлефон ягонай будучай жонкі. Магчыма, трэба было пайсьці да замежных карэспандэнтаў, але Залыгін, як больш спрактыкаваны масквіч, гэтай ідэі не падтрымаў. Быкаў напісаў ліст у ЦК КПСС, сам занёс яго на прахадную і аддаў. Ніякага адказу ён ніколі не атрымаў і ніколі ня меў больш магчымасьці пагаварыць з Салжаніцыным, якога неўзабаве выслалі.

— Майго подпісу пад гэтым лістом няма, — сказаў мне тады Быкаў.

Я напісаў ліст Сяргею Залыгіну, які ў той час быў ужо рэдактарам «Нового мира». Праз пару тыдняў прыйшоў адказ на афіцыйным блянку часопіса.

«Калі б Вы пабачылі арыгінал таго дакумэнту, дык уведалі б, што майго подпісу там няма», — пісаў Залыгін.

Гэтую гісторыю я коратка пераказаў у газэце «Літаратура і мастацтва» ў сваёй прадмове да публікацыі працы вядомага гісторыка Роя Мядзьведзева пра «Архіпэляг ГУЛАГ» у 1989 годзе. У тым самым годзе на сэсіі Вярхоўнага Савету СССР Быкаў расказаў гісторыю свайго подпісу Андрэю Сахараву — пасьпеў расказаць, бо той самай ноччу Сахараў памёр.

Быкаў вярнуўся да гісторыі з подпісам падрабязна, ува ўсіх дэталях у сваёй апошняй кнізе «Доўгая дарога дадому». Там прыводзіцца парада сяброў, якія раілі не апраўдвацца: каму трэба, усё зразумеюць. Такую параду Быкаў ужо аднойчы атрымліваў — пасьля публікацыі «Мёртвым не баліць». Нядаўна сярод папераў Ірына Міхайлаўна знайшла тэлеграму з «Нового мира». 8 кастрычніка 1969 году ў 17.10 тэлеграма адпраўлена з Масквы, у 19.11 атрымана ў Горадні. Я папрасіў дазволу перапісаць тэкст:



Быкаў на Свабодзе

**«Дорогой Василий Владимирович надеемся что вы не смущены новой попыткой обрушить на вас волну несправедливых упреков тчк будьте тверды тчк все минется правда останется обнимаем вас Твардовский Кондратович Хитров».**

Дачыненьні Быкава і Салжаніцына, напачатку вельмі прыязныя, ужо не аднавіліся, і ня толькі з прычыны сфальшаванага подпісу.

Але гэта было пазьней. Я аддаў чорна-белы фатаздымак, знойдзены ў стале Быкава, на павелічэньне. Ён цяпер вісіць у маім кабінэце на сьцяне: радасныя, маладыя, прыгожыя твары зь незабыўнай усьмешкай — напэўна, так тады, у 60-я гады мінулага стагодзьдзя, усьміхалася сама свабода.

*Сяргей Абламейка*

## ВЯСНА З БЫКАВЫМ

Сваю вясну 2003 году я называю «Вясна з Быкавым». Так склалася, што ў апошнюю для Васіля Ўладзімеравіча вясну нам выпала ня раз сустракацца. У лютым ці пачатку сакавіка мне падумалася, што трэба нейкім чынам натаваць падрабязнасьці нашых сустрэчаў. Але часу з-за працы ня так шмат, дый арганізаванасьці не хапіла — думаў, што наперадзе яшчэ шмат часу і размоваў зь пісьменьнікам, маўляў, такой бяды, калі пра тую ці іншую сустрэчу не занатую. Атрымалася толькі свае ўражаньні і падрабязнасьці некалькіх сустрэчаў нагаварыць на дыктафон. Пры гэтым у размовах з Быкавым я ніколі нічога не пытаўся ў яго з разьлікам пасьля занатаваць — ня мог і не хацеў быць няшчырым. Цяпер шкадую. Лепш бы я наўмысна яго распытваў.

***

Толькі калі я пазнаёміўся з Быкавым бліжэй, я зразумеў, які гэта інтэлектуал і які гэта шляхетны і далікатны чалавек. Мяне асабіста ён увесь час зьдзіўляў — ад таго самага часу, калі 19 кастрычніка 1988 году я ўбачыў яго ў залі Чырвонага касьцёлу на ўстаноўчым сходзе «Мартыралёгу Беларусі». Ніколі не забуду свайго зьдзіўленьня і радасьці, калі Быкаў адштурхоўваў плячом цэкоўца Бузука ад трыбуны. Цяпер, спазнаўшы яго бліжэй, адназначна магу сьцьвярджаць, што ён быў пасьлядоўным беларускім нацыяналістам і чалавекам правых, кансэрватыўных поглядаў. Апрача таго, ён быў глыбока начытаны і самаадукаваны чалавек з фэнамэнальнай памяцьцю. «Доўгую дарогу дадому» ён напісаў, не карыстаючыся ніякімі дзёньнікамі, бо дзёньнікаў, паводле яго словаў, ніколі ня вёў. Я ня раз быў сьведкам, як пры размове ён на памяць цытаваў выказваньні славутых маралістаў і філёзафаў.





***

Літаратурная слава Быкава зрабіла яго ў значнай ступені публічным чалавекам. Шмат розных людзей дамагаліся яго ўвагі, яму званілі, пісалі, прасілі інтэрвію — турбавалі няспынна. Такое жыцьцё навучыла Васіля Ўладзімеравіча бараніцца — ён мог быць і вельмі халодным, нават жорсткім чалавекам, мог адкрыта і цьвёрда прадэманстраваць да некага сваё незацікаўленьне. Тым больш каштоўнай была яго нязьменная ўвага да супрацоўнікаў Беларускай службы Радыё Свабода.

Думаю, што давер да мяне ў Васіля Ўладзімеравіча ўзьнік яшчэ і праз маю жонку Вольгу Краўчанку, якая паходзіць зь літаратурнай сям'і і была зь дзяцінства знаёмая з Быкавымі. І яшчэ больш дыстанцыя паміж намі скарацілася, як я адчуў, пасьля таго, як Васіль Уладзімеравіч прачытаў рукапіс маёй кнігі «EGOізмы» і напісаў да яе прадмову (кніга выйшла ў сакавіку 2004 году). Да прачытаньня рукапісу мы зь ім пры сустрэчах рукаліся, а пасьля — ён мог на разьвітаньне абняць і расцалаваць.

Калі прадмова была гатовая, ён запрасіў мяне дадому яе забраць. Гэта было 19 ці 20 сакавіка. Я прыехаў. Для мяне гэта была троху няёмкая сытуацыя, не хацелася турбаваць Васіля Ўладзімеравіча (да апэрацыі заставалася дзевяць дзён). Я хацеў прадмову і рукапіс хутчэй забраць ды зьехаць. Але Быкаў настояў, каб я зайшоў, пасядзеў у іх. Ірына Міхайлаўна згатавала кавы, Васіль Уладзімеравіч дастаў рукапіс з прадмовай і прапанаваў, каб я прачытаў яго. Я з хваляваньнем і таму ня надта ўважліва прагледзеў тэкст. Пасьля Васіль Уладзімеравіч спытаўся, ці ёсьць у мяне пытаньні або заўвагі. Гэта мяне ўразіла. Быкаў паводзіў сябе вельмі далікатна і адначасова даволі цырымонна — было відаць, што ён адчувае і падкрэсьлівае значнасьць моманту. Ён сказаў, што кніга добрая, і выказаў надзею, што прадмова паспрыяе яе выданьню.

Прыехаўшы дадому, я ўважліва прачытаў тэкст і зразу-

меў, што заўсёды буду ўдзячны Быкаву за прадмову да «EGOізмаў» і іх высокую ацэнку.
Празь месяц Васіль Уладзімеравіч падараваў мне кнігу сваіх успамінаў «Доўгая дарога дадому» і напісаў, што дорыць яе з «братнім пачуцьцём»...

***

Было цікава назіраць вельмі далікатныя адносіны Быкава да сваёй жонкі, Ірыны Міхайлаўны, якую ён ласкава называў «Ірыся». Ірына Міхайлаўна, дарэчы, была Быкаву ня толькі жонкай, яна была, фактычна, яго літаратурным дарадцам і сакратаром. Прынамсі, так я зразумеў адносіны паміж імі.

***

Уразіла мяне і яго мужнасьць. Ня думаю, што хаця б 10 са 100 чалавек зь яго дыягназам і станам могуць паводзіцца так стрымана, мужна і годна — такіх, відаць, адзінкі. Аднойчы ён нам з жонкай проста і спакойна сказаў, што ў яго стане пытаньне стаіць так — ці мае ён яшчэ хаця б некалькі месяцаў...

***

Неяк увосень 2002 году, калі Быкаў у адзін са сваіх прыездаў у Прагу запрасіў Алеся Лукашука, Сяргея Навумчыка і мяне з жонкай у рэстарацыю, я спытаўся, як яму жылося ў Горадні, і ён адказаў, што вельмі добра, маўляў, у яго жыцьці так было заўсёды, чым далей ён перамяшчаўся на захад, тым больш камфортна сябе пачуваў эмацыйна і псыхалягічна. Так было зь пераездам з Далёкага Ўсходу ў Беларусь, з Асіповічаў у Горадню, зь Беларусі ў Фінляндыю, а адтуль у Нямеччыну.

***

Вясна 2003 году выдалася гарачаю ў сэнсе міжнародных падзеяў: ішла вайна ў Іраку, сьвет віраваў. Быкаў





адназначна быў на баку Амэрыкі і казаў, што тыранія павінна быць зьнішчана. На размовы пра ахвяры амэрыканскіх бамбаваньняў ён адказваў, а колькі, маўляў, памерла людзей ад рук Хусэйна.
Васіль Уладзімеравіч заўсёды падтрымліваў незалежніцкія рухі, пра якія б народы ні ішла гаворка. Аднойчы мы гаварылі пра курдаў, якія падчас вайны ў Іраку паспрабавалі дамагчыся для сябе нейкіх правоў. Быкаў асуджаў цынічную пазыцыю Турэччыны, якая патрабавала ад ірацкіх курдаў вываду сваіх войскаў з цэнтраў нафтаздабычы на поўначы Іраку — гарадоў Кіркук і Масул. Турэччына баялася, што курды, атрымаўшы кантроль над нафтай, а значыць, і грошы, дапамогуць і дванаццаці мільёнам курдаў турэцкіх. Я таксама гэтым абураўся, але казаў, што на сьвеце справядлівасьці няма, і таму чакаць яе ад краінаў не выпадае. А Васіль Уладзімеравіч адказаў цытатай зь некага (яму здавалася, што гэта быў Максімільян Валошын), маўляў, ніякая ідэя не праліла столькі крыві, як ідэя справядлівасьці.

***

Быкавы на чужыне нудзіліся. Колькі б вакол ні было ўважлівых і гатовых дапамагчы маладых людзей, людзям пажылым патрэбныя іх сябры, іх сваякі і адпаведнае асяродзьдзе — адным словам, іх сьвет. Гэты сьвет у Быкава адняла цяперашняя ўлада, якая назвала яго «літаратурным паліцаем» і выштурхнула за мяжу. Ніколі не забуду дзьве самотныя постаці ў акне кватэры на першым паверсе дому ў праскіх Вэршовіцах. Шмат разоў, ад’яжджаючы, мы з жонкай сядаем у машыну побач з пад’ездам, а ў акне — два самотныя чалавекі прыязна і сумна махаюць нам рукой. У Васіля Ўладзімеравіча — клясычны быкаўскі разьвітальны жэст: дзьве счэпленыя над галавой рукі, і погляд троху спадылба...

***

22 сакавіка 2003 году ў Празе адбылася ўрачыстая акадэмія з нагоды 85-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР (тады быў апошні публічны выступ Быкава). Пасьля акадэміі мы з Вольгай адвозілі Васіля Ўладзімеравіча дадому. А ён нечакана запрасіў нас да сябе, і вось так сталася, што 85-я ўгодкі БНР мы адзначылі разам — я з жонкай і Быкаў з Ірынай Міхайлаўнай. Мы пілі белае «Бардо» і да самага вечара шмат гаварылі. Я тады, памятаю, шмат разважаў, што 25 сакавіка 1918 году — найвялікшы дзень тысячагадовай беларускай гісторыі, галоўны ўклад беларускага народу (разам з царкоўнай Уніяй 1596 году) у гісторыю чалавецтва — бо менавіта тады мы засьведчылі ўсяму сьвету, што ёсьць такі народ, і што ён мае права на самастойнае дзяржаўнае існаваньне. Я казаў таксама, што братоў Луцкевічаў з паплечнікамі, якія ў сакавіку 1918 году прыехалі зь Вільні і згвалцілі Раду, каб яна абвясьціла незалежнасьць, трэба лічыць апосталамі беларускай нацыі. Каб не яны, што цяпер было б зь Беларусьсю?.. Васіль Уладзімеравіч з гэтым адназначна пагаджаўся.

***

Цікава, што ў той дзень, 22 сакавіка, калі мы ехалі ў мэтро да месца стаянкі нашага аўто, да Быкава ў кішэню залез злодзей — у Празе яны езьдзяць у грамадзкім транспарце групамі, ствараюць таўкатню і спусташаюць сумкі ды кішэні пасажыраў. Звычайна іх ахвярамі становяцца турысты, якія і грошы маюць пры сабе, і выглядам сваім вылучаюцца, і на чужых мовах гавораць — якраз па мове найчасьцей ахвяры і выбіраюць. І вось такая купка злачынцаў пачала валтузьню вакол нас. Я, як мог, затуліў Быкава плячом і пастараўся адштурхнуць нападнікаў рукамі. Васіль Уладзімеравіч захаваў спакой, а калі мы выйшлі з вагона, сказаў, што адчуўтакі ў кішэні руку злодзея, але выгляду не падаў. Пасьля засьмяяўся: «А чаго баяцца, кішэня ж — пустая».





***

Раніцай 24 сакавіка, у панядзелак, Алесь Лукашук адвёз Быкава на апэрацыю ў лякарню. Але ўвечары яго выпісалі, бо паднялася тэмпэратура. А 26-га, у сераду, у тую ж лякарню яго адвозіў ужо я. Мне хацелася, каб зь ім была нейкая хрысьціянская рэліквія. Спачатку я хацеў падараваць яму асабісты ружанец Язэпа Германовіча (Вінцука Адважнага), які ў мяне ёсьць. Але атрымалася інакш, бо ружанец я забыўся дома.
У мяне ў машыне была маленькая драўляная іконка Багародзіцы з Ісусам, якую мне некалі асьвяціў і падараваў уніяцкі сьвятар з Кастамлотаў у Польшчы архімандрыт Раман Пентка. Калі мы прыехалі, я ўзяў тую іконку, уклаў у руку Васіля Ўладзімеравіча і пацісьнуў яе. У адказ ён сьціснуў маю руку, і так мы нейкі час трымалі адзін аднаго за руку, а паміж нашымі далонямі была тая іконка. Для мяне гэта было выразам удзячнасьці, павагі і ўзаемаразуменьня. Праз пару дзён пасьля апэрацыі я прыйшоў да яго ў лякарню і ўбачыў тую іконку ў нагруднай кішэні піжамы, у якой ён ляжаў. Пасьля гэтую іконку ён узяў з сабой у Бараўляны, яе відаць на здымках на тумбачцы каля яго ложка. А калі Васіль Уладзімеравіч памёр, Ірына Міхайлаўна ўклала той абразок яму ў кішэню пінжака. Зь ім яго і пахавалі...
Дарэчы, у труну да Васіля Ўладзімеравіча паклалі і перададзеныя Сяргеем Навумчыкам з Прагі бел-чырвона-белую значку і ручку з быкаўскага пісьмовага стала. Прывёз іх у Менск і перадаў сыну Сяргею Алесь Лукашук.

***

Калі я ў верасьні 2003 году аглядаў у быкаўскай менскай кватэры яго кабінэт, Ірына Міхайлаўна прапанавала мне ўзяць зь яго пісьмовага стала любую рэч на выбар — як сувэнір і рэліквію. Звычайна на стале людзі трымаюць або вельмі патрэбнае, або мілыя ім рэчы-за-

баўкі. Там было шмат усяго — нож для паперы, ручкі і алоўкі, люпа... Я выбраў маленькую плястыкавую іконку-складзень. Калі яе разгарнуць, на левым баку абразок сьвятога Васіля Вялікага, а на правым — тэкст малітвы да гэтага сьвятога па-царкоўнаславянску. У такі спосаб мы зь ім завочна абмяняліся іконкамі.

***

31 сакавіка Быкава перавялі з рэанімацыі ў звычайную палату, і ў той жа дзень мы з Вольгай і зь Сяргеем Навумчыкам прыехалі яго адведаць. Ён узрадаваўся. Мы прывезьлі яму першыя асобнікі дзьвюх ягоных кніжак: «Доўгай дарогі дадому» і зборніку быкаўскай публіцыстыкі на ўкраінскай мове «Крыжовы шлях». Ён так чакаў выданьня сваіх успамінаў і быў так рады кнізе, што пакуль мы сядзелі ў яго на працягу гадзіны і гаварылі, некалькі разоў пачынаў гартаць кнігу і траціў нітку размовы. Мы абмяркоўвалі дызайн абедзьвюх кніжак, гаварылі, што ўкраінская лепшая, але было відаць, што яго цікавіць толькі «Доўгая дарога дадому».

Навогул, лякарня і атмасфэра ў ёй прыгняталі яго. Ён сказаў, што надзвычай рады пераводу з рэанімацыі — там увесь час мітусьня, некага прывозяць, адвозяць, выратоўваюць. Пасьля ўспомніў пра свайго сына Васіля, які, прапрацаваўшы дваццаць гадоў у дзіцячай нэўралягічнай клініцы, сышоў з мэдыцыны, бо ня мог штодзень трываць чалавечае гора і боль. Дэфіцыт лекаў з-за беднасьці дзяржаўнай мэдыцыны, немагчымасьць дапамагчы хвораму і яго сваякам не давалі яму спакойна жыць. Мне падумалася, што Васіль Быкаў-малодшы мае такую ж мастацкую і чульлівую душу, як бацька. Васіль Уладзімеравіч тады гаварыў, што лекарам навогул павінен быць вельмі моцны характарам чалавек, бо побач заўсёды пакуты, боль і сьмерць. Сказаў таксама, што каб на яго цяперашні розум, дык ён бы сыну не дазволіў пассупаць на мэдыцыну.

Тады мы яшчэ гаварылі пра мізэрныя ганарары, якія плацяць цяпер пісьменьнікам, і Васіль Уладзімеравіч расказваў, што перад паўлаўскай грашовай рэформай меў на рахунку ў Дзяржбанку СССР 250 тысяч рублёў. Тыя грошы прапалі, і народны пісьменьнік далей вымушаны быў жыць на пэнсію.

***

Саму дату 25 сакавіка (гэта быў аўторак) мы з Вольгай адзначалі ў Сяргея і Галі Навумчыкаў. І вось тады, абмеркаваўшы сытуацыю, мы вырашылі, што пасьля апэрацыі пастараемся па меры сваіх сілаў дапамагчы Быкавым, зьняць зь іх некаторы бытавы клопат. Быкавы былі ў Празе ня вельмі абжытыя, амаль нічога дома не гатавалі, а мы разумелі, што пасьля апэрацыі на кішэчніку і печані чалавеку патрэбная дыета. І калі 9 красавіка Васіля Ўладзімеравіча выпісалі, Галя Навумчык і мая Вольга пачалі па чарзе гатаваць яму абеды. Навумчыкі езьдзілі да Быкавых на грамадзкім транспарце (машыны ў іх тады не было) пераважна ў выходныя, а ў астатнія дні ежу адвозіў я. Даязджаў да Быкавых з пачастункамі і Алесь Лукашук з жонкай Сьвятланай.

***

Пасьля апэрацыі Васіль Уладзімеравіч страціў пачуцьцё смаку — не адчуваў ежу на смак. Аднойчы яму ў лякарні страшна захацелася зваранага ўсьмятку яйка, Ірына Міхайлаўна прынесла, а ён смаку не адчуў...

І вось мне запомнілася, што гэтае пачуцьцё яму вярнулася 17 красавіка. У той дзень я прывёз згатаваны маёй Вольгай дыетычны абед: аўсяны суп з морквай і паравыя катлеты з падлівай і грэчневай кашай. Васіль Уладзімеравіч зьеў, пасядзеў задуменна, паўсьміхаўся і сказаў, што ўпершыню адчуў і смак ежы, і пах, і апэтыт. Усяго гэтага з раніцы яшчэ не было. Тая падзея выклікала ў нас аптымізм.

Яшчэ мне запомнілася, што 29 красавіка Вольга звары-

ла кіслую капусту і нешта на другое, я, як заўсёды, адвёз абед да Быкавых, а вечарам па тэлефоне Васіль Уладзімеравіч падзякаваў і сказаў, што гадоў трыццаць ня еў такіх «шчэй»...

***

Калі ў канцы красавіка Сяргей Навумчык ад'ехаў на месяц у Амэрыку, да мяне перайшоў абавязак прывозіць Быкаву сьвежую прэсу — мы раздрукоўвалі яе з Інтэрнэту. Дагэтуль я адвозіў яму толькі «Нашу Ніву», якая прыходзіла ў Прагу на маё імя з пазнакай у дужках «Для Васіля Быкава». Зь беларускіх газэтаў мы раздрукоўвалі яму яшчэ «Народную Волю», якую ён з ахвотай чытаў. Навогул, паколькі газэты раздрукоўваліся з Інтэрнэту, дык артыкулы пераважна былі на мой густ, якія не абмяжоўваўся толькі палітычнымі ці літаратурнымі навінамі. А ён заўсёды дзякаваў, казаў, што вельмі цікава, бо яго якраз і займае «жыцьцё ва ўсіх яго праявах». Ён, дарэчы, практычна не чытаў мастацкай літаратуры, казаў, што стаміўся і страціў да яе інтарэс. А жыцьцём «ва ўсіх яго праявах» цікавіўся жвава і з ахвотай. Так працягвалася, зь невялікім перапынкам у канцы красавіка (калі я быў у Беларусі), да самага ад'езду Быкавых у Менск 23 траўня. Мае візыты былі даволі кароткія — ня больш за гадзіну. Але за тыя размовы, за дабрыню і ўвагу Быкавых я буду заўсёды ўдзячны лёсу.

***

У тыя красавіцкія дні шмат гаварылі і пісалі пра забойства ў Расеі дэпутата Думы Сяргея Юшанкова. Васіль Уладзімеравіч казаў, што гэта адназначна «гэбуха» — яе почырк, яе стыль. Быкаў тады сказаў вельмі характэрную рэч, якая шмат можа сказаць тым, хто абвінавачвае яго ў прарасейскасьці. Ён сказаў, што ў Расеі кіруе «гэбэшная кліка», а ў гэтага, як ён сказаў, «расейскага беспарадку» ёсьць адна асаблівасьць. Калі б раптам высьветлілася, што загад аб забойстве Юшанкова аддаў сам Пуцін, і гэта стала б шырока вядома, дык народ яго не асудзіў бы, а наадварот сказалі б, маўляў, во якая рука цьвёрдая, які мужык, які гаспадар круты — узяў і забіў. І яшчэ больш захапляліся б. Так Быкаў сказаў пра Расею і расейскі народ 24 красавіка 2003 году.

Расказваў ён і пра свае рахункі з ГБ. Казаў, што ў Менску рукапісы ў яго кралі ня толькі на дачы, але і дома, на Танкавай. Калі я спытаўся пра зьніклыя за мяжой арыгіналы рукапісаў, Васіль Уладзімеравіч расказаў, што дзеля той справы не паехаў на першы зьезд БНФ. Парыскае выдавецтва прапанавала Быкаву выдаць поўны збор яго твораў, адзіная ўмова — даслаць тэксты з арыгіналамі рукапісаў. У Васіля Ўладзімеравіча якраз надарылася паездка ў Гішпанію, якую ён вырашыў скарыстаць для перадачы рукапісаў у Парыж, бо на савецкую пошту з-за ГБ не спадзяваўся. У Гішпаніі нейкі былы савецкі гішпанец дапамог яму запакаваць усё, і яны адправілі рукапісы на ўказаны парыскі адрас. Як вядома, усё зьнікла бязь сьледу. У пачатку 1990-х гадоў Быкаў сам прыехаў у Парыж і стаў шукаць тое выдавецтва. Аказалася, што такога няма і не было. Васіль Уладзімеравіч казаў, што яму асабліва шкада першага варыянту «Мёртвым не баліць», бо ён з-за бясконцых пераробак страціў адчуваньне «явы» — без арыгіналу ён сам ужо ня мог сказаць, які варыянт першасны, сапраўдны. А я думаў пра маштаб гэтай страты для беларускай культуры... Каму было важна, каб творы Быкава ніколі не былі выдадзеныя ў ня зьмененым цэнзурай выглядзе? Таму, хто гэтую цэнзуру і дапільноўваў.

***

9 траўня я віншаваў Васіля Ўладзімеравіча зь перамогай па тэлефоне. Атрымалася невялікая размова. Я расказаў, што ў маёй сям'і вайна пераламала лёсы сваякоў і з боку бацькі, і з боку маці. Бацькаў бацька быў у мірскім батальёне самаахovы, у 1944-м забраны на

фронт і ў тым жа годзе загінуў у Славаччыне. Бацька мамы быў савецкім афіцэрам, быў у партызанах, цяжка паранены, пасьля вайны за страту пісталета дастаў дзесяць гадоў лягераў, адседзеў, пасьля піў. Васіль Уладзімеравіч у адказ сказаў, што і тады «жыцьцё чалавечае каштавала тры капейкі», і цяпер яшчэ чалавецтва не дажыло да разуменьня каштоўнасьці асобнага чалавечага жыцьця...

***

Быкаў вельмі тонка адчуваў людзей і сьвет, часткай гэтага адчуваньня была яго здольнасьць да жывапісу і малюнку. Ён таксама меў прыроджаную годнасьць, якой ужо так мала засталося сярод насельнікаў сучаснай Беларусі. Пыхі, прэтэнзіі і фальшывага гонару хапае, а вось годнасьці, у тым ліку і нацыянальнай, амаль няма... Тую годнасьць яшчэ можна ўбачыць сярод беларускіх эмігрантаў, большасьць якіх таксама паходзяць зь сялянаў. У пачатку і ў палове мінулага стагодзьдзя ў Беларусі яшчэ заставалася шмат такіх здольных і годных вяскоўцаў, якія ні перад кім не схілялі галавы і шмат чаго хацелі, не задавальняючыся малым. На ўсходзе краіны такіх выбіла НКВД, калектывізацыя і дэпартацыі, а на захадзе — спачатку саветы, Армія Краёва і немцы, а пасьля зноў жа савецкая ўлада. Вось якраз яны і іх дзеці жывуць цяпер у заходніх краінах. Несумненна, што такім чалавекам быў і Васіль Уладзімеравіч. Не дарэмна ён хутка сышоўся і пасябраваў з Барысам Кітом. Быкаў таксама не схіляў галавы...

***

Увесну 2003 году надвор'е ў Празе выдалася ня надта добрае — ніяк не станавілася цёпла. Неба было спрэс зацягнутае нізкімі алавянна-шызымі аблокамі, дзьмуў халодны вецер. Сьнег у Празе бывае рэдка, і яшчэ вясной вецер можа гнаць вам пад ногі зжоўклае апалае лісьце — уздых мінулае восені. У тую вясну ўзьнікла





нават блытанае адчуваньне пары году — ці то лета наперадзе, ці то зіма. А Быкавы якраз вельмі цікавіліся надвор'ем. Гэтаму было дзьве прычыны. Адна — няведаньне замежных моваў. Пажылым людзям у новай краіне наладзіць побыт асабліва цяжка. Свайго тэлевізара ў іх не было, і таму тэлевізар і відэамагнітафон 19 красавіка ім пазычыў Віталь Тарас. Па-чэску Быкавы не разумелі, і ў выніку зьвярталі ўвагу пераважна на прагнозы надвор'я, дзе ўсё ясна і бяз словаў, па карцінцы. Пра гэта з жартам ня раз казаў сам Васіль Уладзімеравіч. Зрэшты, гэта толькі адна і не галоўная прычына ўвагі Быкава да надвор'я ў тую апошнюю для яго вясну.
Ён відавочна разумеў усю крытычнасьць свайго становішча і свайго дыягназу. І таму было асабліва балюча назіраць у ім тугу па сапраўднай вясьне, па красе прыроды, па «сонейку», як ён казаў. Ён толькі і гаварыў што пра цяпло, пра цёплае надвор'е — ён прагнуў яго, чакаў апантана і з надзеяй, можна было падумаць, што цяпло было яму жыцьцёва неабходнае...
Аднойчы, прыйшоўшы да яго ў палату, мы з Вольгай сказалі, што на вуліцы пайшоў сьнег. Васіль Уладзімеравіч так засмуціўся і расстроіўся, нібыта даведаўся нейкую кепскую навіну. Падышоў да акна, паўздыхаў...
На 23 красавіка ў Васіля Ўладзімеравіча быў прызначаны чарговы прыём у анколяга. Напярэдадні ён сказаў, што яму толкам нічога не гавораць, і што чэскія мэдыкі яшчэ застаюцца пры старой савецкай традыцыі хаваць ад хворага праўду пра яго сапраўдны стан. «А што я... Мне — каб хутчэй цёпла стала, мне б да цяпла дажыць», — сказаў ён.
Затое, калі вясна-такі надышла ў траўні, Быкаў зьмяніўся, прыбадзёрыўся, яго настрой відавочна палепшыўся.
Аднойчы мы з Вольгай заехалі апоўдні да яго, каб аддаць сьвежую прэсу. Папярэдне я пазваніў Васілю Ўладзімеравічу на мабільны тэлефон, ён сказаў, што

цяпер з Ірынай Міхайлаўнай знаходзіцца ў Гаўлічкавых садах і прапанаваў нам ехаць адразу да садовае брамы. Сады знаходзіліся літаральна за дзьве сотні мэтраў ад кватэры Быкавых. Гэта быў шанцунак, што апошнія месяцы Васілю Ўладзімеравічу выпала пражыць каля гэта цудоўнага праскага парку, разьмешчанага на маляўнічым і даволі стромым схіле гары з выступамі скальнай пароды. Ён праводзіў там шмат часу, падоўгу гуляючы па дагледжаных алеях сярод векавых дрэваў і велізарных кустоў расквітнелага бэзу, або седзячы на сонейку на адной са шматлікіх лавачак.
Мы прыехалі, ля ўваходу ў парк нас сустрэў сам Васіль Уладзімеравіч — Ірына Міхайлаўна на той час пайшла ўжо дадому. Гэта быў ці не адзін зь першых па-сапраўднаму цёплых дзён. Васіль Уладзімеравіч быў у гуморы, вельмі ажыўлены і ўвішны. Ён прапанаваў паказаць нам парк, мы згадзіліся, і ён павёў.
Быкаў крочыў паперадзе і так жвава, што мы ледзьве пасьпявалі. Ён вёў нас па алеях і расказваў пра кожнае дрэва ці куст — дзіўным чынам ён ведаў іх назвы, а было іх там безьліч. Я дзівіўся, захапляўся яго ведай і ў адказ нагадаў яму, як у сваіх дзёньніках Вячаслаў Адамчык расказвае пра пахвалу Кандрата Крапівы яго першаму раману: «А вы шмат зёлак ведаеце...» Прыгадаў я і безьліч батанічных назваў у творах Караткевіча. У адказ Быкаў задаволена ўсьміхаўся. Мы абышлі ўвесь парк, пасядзелі на лаўцы, пагаварылі троху пра тое-сёе. Васіль Уладзімеравіч захапляўся вясной, цеплынёй і расквітнелай прыродай. І разам з тым, недзе глыбока ў куточках быкаўскіх вачэй я бачыў прыхаваны сум і боль — ён адназначна разьвітваўся. Вядома, надзея на лепшае таксама была, але было і разьвітаньне. Разьвітаньне зь вясной, цеплынёй, прыродай, з «сонейкам» і... з цэлым сьветам. Ён хацеў на разьвітаньне надыхацца цёплым веснавым паветрам, нацешыцца сонечнымі косамі, налюбавацца кветкамі і маладой зелянінай. Усё навокал ён тонка адчуваў, разумеў і цаніў. Любоў і





замілаваньне да прыроды былі, як я разумею, часткай яго шляхетнай беларускай і мастакоўскай душы...

***

Неяк, седзячы ў Быкавых, я расказаў Васілю Ўладзімеравічу пра свае невясёлыя назіраньні за нашым нацыянальным характарам. Беларусы, казаў я, заўсёды саступаюць, сыходзяць убок, прапускаюць наперад «паночкаў», не жадаюць увязвацца ў якое-кольвечы процістаяньне. Каб беларуса выклікаць на канфлікт, трэба яго так дапячы, каб зусім невыносна было, тады ўжо беларус выбухне. Дый тое ня факт. Як прыклад, я прыводзіў звычайную сытуацыю на вуліцы любога зь беларускіх гарадоў. Ты ідзеш, а нехта крочыць збоку, і вашыя шляхі перасякаюцца. У Празе ў аналягічнай сытуацыі табе ніхто і не падумае саступаць, табе спакойна пярэйдуць дарогу, бывае, наступяць на нагу, не прабачацца, а могуць нават і аблаяць. А беларус пераважна саступіць, можа нават спыніцца як укапаны ці спалохана тузануцца назад. Якраз перад гэтым я меў такі выпадак у Менску, калі жанчына (!), зь якой нашыя шляхі перасекліся, адхіснулася ад мяне раней, чым я сам пасьпеў зрабіць тое самае. І адхіснулася з такой гатовасьцю і рашучасьцю, што выключыла ўсялякія думкі пра выхаванасьць і далікатнасьць. Гэта нешта іншае — глыбейшае і большае. Я назіраю гэта шмат гадоў. Славутая беларуская памяркоўнасьць ёсьць вынікам сумнага вопыту беларускіх сялянаў за апошнія тры стагодзьдзі, калі яны толькі і чулі, што «асадзі назад»... Шляхта і гараджане нас пакінулі, спольшчыліся і абруселі, засталіся сяляне, якія ў пачатку стагодзьдзя яшчэ хацелі «людзьмі звацца», а цяпер, пасьля трагічнага вопыту XX стагодзьдзя, перасяліліся ў гарады і думаюць, што ўжо «людзьмі сталі» і што ім ёсьць што губляць... Былым сялянам няма з чым параўноўваць, грошай на замежныя падарожжы па-ранейшаму няма.
Так прыблізна я наракаў на беларускі характар, і Васіль

Уладзімеравіч мяне горача падтрымаў. Ён сказаў, што сапраўды беларусы адскокваюць убок, саступаючы адно аднаму, сказаў таксама, што нават тут, у Празе, ён у гэтым увесь час пераконваецца на прыкладзе сябе і сваёй жонкі, якая ўвесь час яму кажа, маўляў, адыдзі ўбок, не заступай людзям дарогу, ня трэба турбаваць нікога, самі дамо рады і гэтак далей.

Стопрацэнтным беларусам у гэтым сэнсе быў і сам Быкаў. Аднойчы ўзімку, празь месяц-другі пасьля пераезду ў Прагу, ён быў у нас на радыё, і паўстала патрэба адвесьці яго ў оптыку замовіць акуляры. Паколькі я размаўляю па-чэску, то менавіта я і мусіў быў пайсьці зь ім. Васіль Уладзімеравіч усьцешыўся і пачаў апранацца, а я кажу: «Пачакайце, калі ласка, хвілінаў пяцьдзесяць, я мушу скончыць тут адну працу». Мне трэба было начытаць трохвілінны тэкст міжнароднага камэнтара. Як Быкаў дачуўся, што я яшчэ маю нейкую працу, ён тут жа адмовіўся ісьці ў оптыку, сказаў, што іншым разам, і як мы зь Сяргеем Навумчыкам яго ні ўгаворвалі, надзеўся і сышоў. Я быў спачатку падумаў, што нечым яго пакрыўдзіў, але пасьля зразумеў, што гэта ўсяго толькі яго беларуская звышдалікатнасьць.

Пра тое, што Быкаў гэтую сялянскую рысу беларусаў разумеў і бачыў, сьведчыць яго аповесьць «Аўганец». Я прачытаў яе праз год пасьля сьмерці аўтара. Нікому ня трэба падманвацца з-за ўяўнай спрошчанасьці быкаўскай прозы, з-за адкрытасьці і яснасьці сюжэтаў і прадказальнасьці фіналаў. У «Аўганцы» таксама ўсё, на першы погляд, проста: праблемы ўзьніклі, нявыкрутка, дапякло — заб'ю; грошай далі, накармілі, купілі — а-а... ну ладна, хай як ёсьць застаецца... Гэта суворая праўда беларускага быцьця. Гэта — праўда пра беларуса. Пра маўклівага, ляснога, канфармісцкага, зацюканага шматлікімі сваімі і суседзкімі панамі і падпанкамі беларускага мужыка. Быкаў усё разумеў і «простымі сродкамі дамагаўся складанага...» (sorry за самацытату).





***

Аднойчы, калі гаворка ішла пра маю кнігу «EGOізмы», Васіль Уладзімеравіч раптам прызнаўся, што і сам некалі складаў афарызмы. Адзін яго афарызм мне запомніўся праз супадзеньне думак. Гаворачы пра маю канстатацыю аб пераможцах, якія звычайна са зьдзіўленьнем даведваюцца, колькі ў іх было паплечнікаў у часе барацьбы, Васіль Уладзімеравіч сказаў: «Ну Божа ты мой, перамога заўсёды мае шмат крэўных, а няўдача — сірата».

***

29 красавіка я спытаўся ў Васіля Ўладзімеравіча, як ён адчувае сябе інтэлектуальна, ці працуе над нечым. Ён адказаў, што якраз у гэты дзень упершыню пасьля апэрацыі зноў узяўся за пісаньне. Сказаў, што да абеду скончыў ліст «маскоўскаму сябру», які доўга ляжаў ня скончаны...

***

Як вядома, падзеі другой усясьветнай вайны ў Беларусі Быкаў называў грамадзянскай вайной — на яго думку, ваявалі партызаны з паліцыяй, а немцы былі ўбаку ад гэтай лютай бойкі. Ён лічыў, што якраз ад гэтага найболей цярпела насельніцтва, і што абодва бакі тога канфлікту былі калябарантамі.

Яшчэ да пераезду Быкавых у Прагу, 22 чэрвеня 2002 году, мне выпала працаваць вядучым. Я пазваніў Васілю Ўладзімеравічу ў Франкфурт-на-Майне і папрасіў у дзень пачатку вайны сказаць некалькі словаў на адкрыцьцё праграмы. Ён папрасіў паўгадзіны на падрыхтоўку, і калі я пераваніў, надыктаваў мне дзьвюххвіліннае слова пра вайну, пераможцаў, пераможаных і перамогу. Вось фрагмэнт таго быкаўскага радыёінтэрвію:

«...Немцы, як я зразумеў, хацелі б гэтую дату як мага хутчэй забыць. І гэта іх права, бо яны пацярпелі паразу.

Параза, як вядома, малапрыемная рэч. Але гісторыя парадаксальная па сваёй сутнасьці. І так сталася ў часе, што пераможцы і пераможаныя нібы памяняліся ролямі. Яны — бы пераможцы, а мы — сапраўды пераможаныя, бо бедныя і зьняважаныя. Чаму так? Але гэта пытаньне для нас. Немцы на яго даўно адказалі. А мы не навучаныя разважаць гэткім чынам, мы задавольваемся старэчай эўфарыяй ад даўняй перамогі, якая на справе ёсьць перамогай ня нашай. А чыя — во гэта таксама пытаньне, на якое наша грамадзкая думка дагэтуль ня мае выразнага адказу».

***

8 траўня 2003 году яшчэ не такі моцны пасьля апэрацыі Васіль Уладзімеравіч пад вялікім націскам беларускага пасла ў Чэхіі Ўладзімера Бельскага згадзіўся ўзяць удзел у афіцыйнай цырымоніі ўшанаваньня загінулых савецкіх жаўнераў на Альшанскіх могілках у Празе. Штогод у гэты дзень там зьбіраюцца паслы Беларусі, Украіны і Расеі разам з прадстаўнікамі афіцыйных уладаў Чэскай Рэспублікі. Падчас цырымоніі, на якой Быкаў ледзь не самлеў, ён зазнаў яшчэ й вялікі боль і сорам. Празь дзень Васіль Уладзімеравіч расказаў, што перад пачаткам цырымоніі зайгралі расейскі і ўкраінскі гімны, а беларускага не было. «Як быццам мы ўжо ўвайшлі ў склад Расеі», — сказаў сумны Васіль Уладзімеравіч. Ён моцна шкадаваў, што згадзіўся пайсьці на тую імпрэзу — магчыма, гэта быў кампраміс за новы пашпарт для Ірыны Міхайлаўны, а можа, ён проста ня здолеў адмовіць. Пасол Бельскі, паводле Быкава, на адсутнасьць беларускага гімну не зрэагаваў.

***

Калі мы адзначалі разам Дзень Волі, Васіль Уладзімеравіч расказаў нам з Вольгай, што ў пэўным сэнсе верыць у прыкметы. Прынамсі, цэлае ягонае жыцьцё лічбы 11 і 111 прыносілі яму непрыемнасьці і няшчасьці.





Калі, скажам, у камандзіроўцы яму выпадала пасяліцца ў гатэльным пакоі з нумарам 11 ці 111, дык абавязкова за гэтым ішла хвароба, выкраданьне грошай ці яшчэ нейкая непрыемнасьць. Трапілася, напрыклад, скрыня ў аўтаматычнай камэры захоўваньня з нумарам 111, і якраз перад адпраўленьнем цягніка ў ёй зламаўся замок. У выніку спазьненьне на цягнік. І такіх прыкладаў Васіль Уладзімеравіч прыводзіў незьлічона. А далей ён расказаў, што калі ўзімку 2003—2004 гадоў адчуў сябе кепска, то мусіў зьвярнуцца ў Празе да беларускіх лекараў Юрчанкаў. І вось калі пры першым прыёме на яго заводзілі гісторыю хваробы, Васіль Уладзімеравіч краем вока зірнуў на толькі што ўпісаны рукой чэскай мэдсястры нумар карткі. Гэта была лічба 111... «Я ўбачыў 111 і зразумеў, што нічога добрага ад гэтай хваробы мне чакаць не выпадае», — дакладна так сказаў Быкаў нам з Вольгай 22 сакавіка 2003 году, за пяць дзён да ракавой апэрацыі. Ён таксама сказаў, што нічога добрага не чакае і ад самой апэрацыі, і нават болей — разумее, што дарэмна на яе згадзіўся. Мне тады, памятаю, стала вусьцішна, я запратэставаў, сказаў, што можна яшчэ паспрабаваць адмовіцца ад нажа. А Быкаў адказаў літаральна наступнае: «Няёмка, столькі людзей уцягнута ў гэтую справу, столькі мне дапамагалі...» Ён прадчуваў вынік і ня мог адмовіцца! Як звычайны беларус...

***

Быкаў любіў аўтамабілі і любіў кіраваць.

Калі ён езьдзіў у маёй машыне, я заўсёды адзначаў ягоную павагу да кіроўцы. Аднойчы ў 2000 годзе мы ехалі на Альшанскія могілкі, каб ушанаваць памяць прэзыдэнтаў БНР Пятра Крэчэўскага і Васіля Захаркі. У машыне сядзелі Івонка Сурвілла, Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык. Нехта паскардзіўся, што ззаду мяне мала месца, і папрасіў пасунуць наперад крэсла кіроўцы. Быкаў настойліва сказаў: «Не чапайце

Сяргея, ён павінен спакойна ехаць, каб нічога не замінала». У гэтым праявілася ягонае стаўленьне да шафёрства.
На маю думку, мужчыны паводле стаўленьня да машынаў падзяляюцца на дзьве выразныя групы: адны машынамі цікавяцца і водзяць іх, а іншыя машынамі таксама цікавяцца, але водзяць іх жонкі. Быкаў, вядома, належаў да першай групы.
Ён шмат расказваў пра свае падарожжы і прыгоды на аўтамабілі, пра дзьве аварыі, у якіх пабываў з уласнае віны, пра сваіх сяброў-падарожнікаў, зь якімі яму давялося езьдзіць. Са сьмехам згадваў Барадуліна, у якога ў быкаўскай машыне рот ніколі не закрываўся.
Урэшце пра яго аўтамабільную жарсьць сьведчыць і тое, колькі месца свайму аўтааматарству ён прысьвяціў у «Доўгай дарозе дадому».
Мне запомніліся ўважлівасьць і цікавасьць, зь якой Быкаў слухаў мае аповеды пра новыя аўто, сыстэмы бясьпекі і камфорт. Ён, бывала, сядзеў збоку, на месцы пасажыра і ўважліва пазіраў, як я кірую машынай, сачыў за маніпуляцыямі. Ня ведаю, што ён думаў тады, ці спадзяваўся яшчэ сам паезьдзіць... Зрэшты, Ірына Міхайлаўна неяк пыталася, колькі каштуюць чэскія «Шкоды» і ці добрыя гэта аўтамабілі. Мне нават падумалася, што, можа, Быкавы яшчэ спадзяюцца ў Празе машыну купіць?

***

Быкаў любіў чырвонае віно, умеў і любіў выпіць, шанаваў добрае застольле і добрую кампанію. Яму таксама не было чужое і пачуцьцё пэўнай зухаватасьці. Аднойчы ў рэстаране я бачыў, як ён разьлічваўся з афіцыянтам і даволі цырымонна, з разухабістым смакам кінуў грошы на стол. Гэта было своеасаблівае пачуцьцё стылю. Ён навогул адчуваў стыль.





***

Мне давялося бачыць Васіля Ўладзімеравіча ў розны час яго жыцьця. У пачатку 1990-х у Менску, калі мы жылі ў суседніх пад’ездах доўгага чырвонага дому на Танкавай, ён пачасту праходзіў міма з троху апушчанай галавой, засяроджаны, задуменны і хмуры. Бачыў яго ў праскай кватэры ў коле добрых знаёмцаў — вясёлага, іранічнага і ажыўленага. Бачыў яго на трыбуне — рашучага, сур’ёзнага і адказнага. Назіраў яго ў рэстарацыі за келіхам віна — троху сп’янелага, і ад таго больш раскаванага і нават зухаватага. Бачыў я Быкава і ў ненайлепшы час яго жыцьця — у лякарні, цяжка хворага, пра які ён гаварыць троху сароме ўся, казаў пра «ракавыя клеткі».
А запомніўся і назаўсёды застаўся ў маёй памяці рафінаваны беларускі інтэлектуал — тонкія белыя рукі, дагледжаныя, апрацаваныя пазногці, адпушчаныя ззаду, даволі даўгія валасы, якія ён меў у часе жыцьця ў Нямеччыне, і разумныя глыбокія вочы.
Калі б мне давялося вырашаць, які помнік Быкаву паставіць, я б ня выбраў камень. Гэта быў мудры, добры і прыстойны чалавек, ён тонка разумеў людзей і сьвет — я б такую душу каменем не прывальваў. Тым больш, што быў ён хрысьціянінам і памёр з іконкай у кішэні. На хрысьціянскіх магілах так ці іначай прысутнічаюць крыжы.
Зь іншага боку, менавіта камень адпавядае нязломнасьці і непахіснасьці быкаўскай жыцьцёвай пазыцыі.
19 красавіка мы былі ў Быкава ўдвох зь Сяргеем Навумчыкам. Навумчык якраз меўся празь дзень ад’ехаць у Нью-Ёрк на месяц. Гэта была іх апошняя сустрэча. Васіль Уладзімеравіч, нібы прадчуваючы гэта, нягледзячы на пасьляапэрацыйны пэрыяд дастаў і адкаркаваў бутэльку гарэлкі. Ірына Міхайлаўна запратэставала і не дала піць мужу, я быў «за рулём», і давялося піць аднаму Навумчыку. Так мы і праседзелі гадзіну або дзьве, пагаварылі. І вось, памятаю, якраз у той дзень

гаворка зайшла, хто, дзе і як хацеў бы быць пахаваны. Менавіта тады Васіль Уладзімеравіч і сказаў, што яго ідэалам ёсьць магіла Талстога ў Яснай Паляне. Гэта звычайная парослая травой купіна.

***

У той разьвітальны візыт Навумчыка мы гаварылі пра літаратуру. Навумчык пытаўся, што Васілю Ўладзімеравічу перадаць пачытаць, магчыма, нешта з клясыкі. Быкаў сказаў, што клясыкі ня хоча. «Клясыка з часам траціць значэньне», — гэта дакладная быкаўская цытата. Ён таксама сказаў, што Бунін — адзін зь лепшых расейскіх пісьменьнікаў. А пасьля папраавіўся: «Ды што там адзін зь лепшых... Хіба лепшы расейскі пісьменьнік». Васіль Уладзімеравіч нават працытаваў выказваньне Буніна, маўляў, не прапануйце мне клясычных раманаў, мне патрэбнае жыцьцё ва ўсёй яго паўнаце. Таму і я, сказаў Васіль Уладзімеравіч, болей цікаўлюся сёньняшнім.

***

Быкаў ня быў атэістам, як гэта часам сьцьвярджаюць. Ён быў вернікам. Іншая справа, што ён быў вернікам не ўцаркаўлёным, а хутчэй традыцыйна-стыхійным. Паводле сьведчаньня яго сяброў, у тым ліку Рыгора Барадуліна, і ў савецкі час на нечых хаўтурах Васіль Уладзімеравіч жагнаўся. Маліўся і жагнаўся ён, напрыклад, на паховінах Алеся Адамовіча. Сам Быкаў ня раз прызнаваўся, што хадзіў у храмы ставіць сьвечкі — пра гэта ён пісаў і ў сваіх успамінах.
Шмат разоў, праводзячы мяне з Вольгай, ён перахрышчваў нас на разьвітаньне са свайго акна...
Памятаю, 22 красавіка я прывёз Быкавым два фарбаваныя яйкі зь Велікоднай службы ў праскай грэка-каталіцкай катэдры Сьвятога Клімэнта і кавалак пасхальнай булкі. Васіль Уладзімеравіч быў вельмі рады.
Мы ня раз гаварылі пра Бога, пра надпрыродныя сілы і





надпрыродны пачатак сьвету. Неяк я сказаў, што толькі існаваньнем Бога можна патлумачыць сэнс і мэту існаваньня чалавека і сусьвету. Навука ведае, як нараджаецца і расьце жывая матэрыя, як дзеліцца клетка і адбываюцца іншыя жывыя працэсы, але яна ня ведае, чаму ўсё гэта адбываецца, хто ці што дае штуршок. Быкаў у адказ усьміхнуўся і працытаваў славутага ангельскага астрафізыка Гоўкінга, які сказаў, што ён можа растлумачыць, як зьявіўся наш сьвет, зоркі, плянэты, матэрыя, але ня можа сказаць — чаму.
Неяк я вырашыў прыцягнуць увагу Васіля Ўладзімеравіча да важнасьці малітвы для хворага чалавека. Разумеючы, што перада мной глыбока самаадукаваны інтэлектуал, які прывык сам шукаць рацыянальныя адказы на ўсе пытаньні, я пачаў здалёк. Я расказаў яму пра тэорыю амэрыканскага фізыка Эвэрэта, якую ён стварыў пяцьдзясят гадоў таму, і якой дагэтуль ніхто ня можа матэматычна абвергнуць. Тэорыя такая неверагодная і страшная, што пра яе ўсе стараюцца забыць. Клясычная мэханіка сьцьвярджала, што калі існуюць дзьве сыстэмы, яны функцыянуюць і не ўплываюць адна на адну. Айнштайн унёс папраўку, сказаўшы, што ўсё залежыць ад хуткасьці назіральніка — чым хутчэй рухаецца назіральнік, тым павальней працуе сыстэма. Эвэрэт жа папраавіў Айнштайна, сказаўшы, што як толькі назіральнік пачынае нешта назіраць, ён адразу тое мяняе. Любая спроба назіральніка, напрыклад, зьмерыць маштаб каменя побач зь ім, тут жа нараджае новы камень, расшчапляе яго на два — а значыць, стварае новую рэальнасьць. Эвэрэт стварыў тэорыю расшчапленьня сусьветаў, тэорыю безьлічы сусьветаў. Я, памятаю, сказаў, што калі зараз захачу зьмерыць рост Васіля Быкава, дык адразу ж узьнікне новы Васіль Быкаў. На сьвеце безьліч людзей, кожны нешта назірае і кантралюе вачыма ці думкамі, і ў выніку сусьвет бясконца драбіцца на паралельныя сьветы. Такія разьлікі Эвэрэта. А далей я сказаў, што, магчыма, тэорыя Эвэрэта даз-

валяе меркаваць, што мы можам матэрыялізоўваць свае жаданьні — усё залежыць ад нашай увагі. Магчыма, разьвіваў я далей сваю думку, гэтая тэорыя пацьвярджае і слушнасьць малітвы — калі мы нечага вельмі хочам і канцэнтруем на гэтым увагу, мы мяняем рэальнасьць, а сьвядомасьць наша, магчыма, вандруе паміж тымі расшчэпленымі рэальнасьцямі. Далей я сказаў, што малітвай мы можам зьмяніць свой лёс і ўплываць на сваё здароўе...
Быкаў уважліва слухаў, усьміхаўся, глядзеў мне проста ў вочы, і ў нейкі момант я раптам зразумеў, што мог бы ўсяго гэтага не гаварыць...

***

Сумная вестка зь Менску 22 чэрвеня дайшла да нас праз гадзіну пасьля сьмерці Васіля Ўладзімеравіча — пазваніла Галя Навумчык. У мяне тады гасьцяваў брат зь сям'ёй, айцец Андрэй Абламейка — у яго быў двухтыднёвы летні адпачынак. Ужо праз паўтары гадзіны пасьля сьмерці Васіля Ўладзімеравіча Андрусь пачаў служыць паніхіду за супакаеньне душы слугі Божага Васіля. Было шкада разьвітвацца, але Андрусь — сьвятар, і таму, атрымаўшы на наступны дзень запрашэньне ад сваякоў і сяброў пісьменьніка, ён не вагаючыся прыняў рашэньне перапыніць адпачынак і ехаць хаваць Васіля Ўладзімеравіча.
Гэта глыбока сымбалічна, што менавіта Ўніяцкая царква праводзіла Быкава ў апошні шлях — ім пакуль абодвум няўтульна ў роднай Беларусі.
Сваячка чалавека, пахаванага непадалёк ад Васіля Ўладзімеравіча, паспачувала неяк Ірыне Міхайлаўне з прычыны таго, што «Быкаў зьвязаўся з уніятамі». Тая жанчына хацела памаліцца за Быкава ў праваслаўнай царкве і спыталася ў сьвятара, ці можна паставіць сьвечку за хрышчанага праваслаўнага, якога пахавалі ўніяты. Сьвятар сказаў, што можна, але туды — сьвятар тыцнуў пальцам у неба — яна ня дойдзе...





***

25 ліпеня, праз месяц пасьля сьмерці Васіля Ўладзімеравіча, у Прагу прыехала Ірына Міхайлаўна — забраць рэчы, здаць кватэру, а таксама (як яна сказала) аддзячыць некаторым з нас: тым, хто Быкавым так ці іначай дапамагаў у Празе. У суботу, 26-га, мы зь Сяргеем Навумчыкам паехалі да Ірыны Міхайлаўны і яе сына Сяргея ў быкаўскую праскую кватэру. Ехалі найперш пабачыцца, але ня толькі — я хацеў зьняць на відэа- і фатастужку праскую кватэру Быкава. Хай тыя кадры стануць дакумэнтам, каб не спэкулявалі пасьля, што Быкаў, нібыта, жыў у Празе раскошна.
Кватэра яго была аднапакаёўкай з маленькім трохкутным перадпакоем, які быў адначасова і кухняй. І вось у тым закутку, апрача вешала для адзеньня, была яшчэ газавая пліта, некалькі кухонных шафаў на сьцяне, умывальнік і два ўваходы — у прыбіральню і душавую, прычым уваход у душ ня меў дзьвярэй. Неяк Васіль Уладзімеравіч сказаў, што раней гэта была брамніцкая (вратніцкая, як ён казаў). Сапраўды кватэра была на першым паверсе і бліжэй за ўсе іншыя да ўваходных дзьвярэй пад'езду. Тапілася яна газавай гарэлкай, якая разьмяшчалася ў сьцяне пад адзіным акном на вуліцу U Vršovického nádraží і мела выхлап навонкі. Той, хто бываў у Чэхіі, мог бачыць старой пабудовы дамы з жалезнымі газавымі выхлапамі пад вокнамі. Выхлап навонкі, аднак, не дапамагаў. У ацяпляльны сэзон у кватэры заўсёды пахла газам. Аднойчы я пытаўся ў Васіля Ўладзімеравіча пра гэта, але ён, як заўсёды, сказаў, што нічога, маўляў, жыць можна.
Мы, аднак, паміж сабой гаварылі і вырашылі, што кватэру трэба мяняць. Недзе ў красавіку мая Вольга пачала праглядаць аб'явы і абзваньваць прымальныя варыянты. Аднойчы Быкавы нават зьбіраліся паехаць паглядзець адну прапанову, але нешта не атрымалася, а пасьля ўжо ня выпала.
Быкавых да думкі памяняць кватэру канчаткова схіліла

будоўля, што пачалася на гарышчы іхнага дому. Гэта праская мода: перабудоўваць паддашкі ў шыкоўныя кватэры, а пасьля здаваць або прадаваць іх. Проста перад акном Быкавых быў усталяваны кран-пад'ёмнік, які пачынаў грукатаць і ляпаць зь сямі раніцы. Ад гэтага Васіль Уладзімеравіч, паводле яго словаў, моцна пакутаваў апошнія тыдні ў Празе.

***

А тады, у суботу 26 ліпеня, Ірына Міхайлаўна запрасіла нас з Навумчыкам у кітайскі рэстаран «Хуанхэ», які знаходзіцца непадалёк ад быкаўскай праскай кватэры, і дзе яны з Васілём Уладзімеравічам часам абедалі.
Вочы ў Ірыны Міхайлаўны ўвесь час яе праскага побыту былі чырвоныя ад частых сьлёз. Яна была відавочна знэрваваная, часта неспадзявана мяняла тэмы размовы, адмаўлялася гаварыць пра Васіля Ўладзімеравіча і тут жа сама пачынала згадваць пра яго апошнія дні і хвіліны. Гэтак яна расказала ў рэстаране пра яго апошні дзень нараджэньня — 19 чэрвеня. Пасьля ўсіх візытаў і праслухоўваньня стужак з запісамі віншаваньняў расейскіх пісьменьнікаў, якія прыносіў Сяргей Шапран зь «Белорусской деловой газеты», Ірына Міхайлаўна і Васіль Уладзімеравіч засталіся адны. «Я заплакала, — сказала Ірына Міхайлаўна, — заплакаў і Васіль...» Яму заставалася тры дні.
Я, дарэчы, чытаў транскрыпцыю тых віншаваньняў, апублікаваных у «БДГ». Лепш за ўсіх, на маю думку, сказаў Барыс Васільеў, назваўшы Быкава самым буйным пісьменьнікам з тых, хто пісаў пра другую ўсясьветную вайну (у Васільева «Вялікую Айчынную»). Я з гэтым згодны.
Візыты і эмацыйнае напружаньне 19 чэрвеня, на думку Ірыны Міхайлаўны, паспрыялі пагаршэньню стану пісьменьніка, і яго паравялі ў рэанімацыю. У апошні дзень Быкаў практычна не гаварыў, ён задыхаўся і хрыпеў. Ірына Міхайлаўна была побач, разьбірала толькі





асобныя словы кшталту «Падымі, павярні...». А вечарам у адзін момант пакутны выраз яго твару нечакана зьмяніўся на супакоены і нават шчасьлівы. Ірына Міхайлаўна не пасьпела зьдзівіцца, як пачула роўны, аднастайны піск апарата, які імгненьне перад гэтым раўнамерна адлічваў удары сэрца самага вядомага ў сьвеце беларускага пісьменьніка, — сэрца спынілася...

***

Нам на «Свабоду» фотакарэспандэнт «Нашай Нівы» даслаў якую сотню фатаграфіяў з пахаваньня Васіля Ўладзімеравіча. Калі я глядзеў іх, узьнікла ўражаньне, што нашых сьцягоў ля труны было аж занадта — хапіла б і аднаго... Ня ўсе, відаць, гэта адчувалі. Ля труны быў ня толькі смутак, але і палітыка. Некаторым хацелася і ў смутную хвіліну як бы сказаць: «Вось, Быкаў наш, а ня ваш!..» А Быкаў якраз — усіхны, хоць і найперш беларускі. Зрэшты, і людзей можна зразумець — ім няма чым дыхаць у задушлівай атмасфэры сёньняшняй Беларусі, і пахаваньне народнага пісьменьніка стала магчымасьцю ўздыхнуць свабодна і на поўныя грудзі. Недарэмна Станіслаў Шушкевіч сказаў ля магілы, што апошняя заслуга Быкава ў тым, што ён сваёй сьмерцю дазволіў беларусам прайсьціся па цэнтральнай вуліцы Менску са сваімі сьцягамі, чаго ім улады ўжо даўно не дазваляюць. Тым ня менш, гэтым сваім уражаньнем я тады падзяліўся з Ірынай Міхайлаўнай, і яна згадзілася, сказала: «Так. Ведаеце, Сярожа, у мяне ў нейкі момант навогул было адчуваньне, што мы з Васілём там ні пры чым...»
А навогул, ведаючы пра абставіны пахаваньня Быкава, а таксама (і асабліва) пра тое, што ім папярэднічала і ў Доме літаратара, і на паседжаньнях пахавальнай камісіі, я здымаю капялюш перад старэйшым сынам Васіля Ўладзімеравіча Сяргеем...

***

У той суботні вечар Навумчык шмат распытваў Ірыну Міхайлаўну пра падрабязнасьці шпіталізацыі і лячэньня Быкава. Справа ў тым, што праскі лекар-анэстэзіёляг, эмігрант зь Віцебску Сяргей Юрчанка, які, уласна, і арганізаваў апэрацыю, і быў як бы апекуном Быкава ў клініцы «Motol», адназначна сьцьвярджае, што выпадак Быкава — гэта «выпадак Міхаіла Васільевіча Фрунзэ».

Абставіны лячэньня Быкава ў Празе навогул цікавыя. Пра іх яшчэ напішуць больш падрабязна. Я тут падам толькі некалькі цікавых дэталяў. У 79 гадоў браць чалавека на апэрацыю — даволі рызыкоўна. Але ў Чэхіі на гэта ідуць. У выпадку Быкава ў лекараў была надзея і прыклады. Сяргей Юрчанка расказваў, што дакладна такі ж выпадак быў у іх клініцы год да Быкава. Дык вось той 80-гадовы чалавек жыве і цяпер, больш чым праз тры гады пасьля апэрацыі, і бярэ тыя ж лекі, якія далі і Быкаву. Гэты прэпарат вельмі дарагі. Спатрэбілася некалькі тыдняў на ўзроўні міністэрства аховы здароўя ўзгадняць са страхавой кампаніяй умовы аплаты і яе згоду на прымяненьне тога леку. І вось з дазволу мэдычных уладаў і страхавой кампаніі Быкаву быў пачаты курс лагоднай хіміятэрапіі таблеткамі «Xeloda» — гэта быў адзіны падобны лек у сьвеце, які ня шкодзіць сэрцу, а яно ў Васіля Ўладзімеравіча было хворае і слабое.

У Менску Быкаву далі хіміятэрапію звычайную... У Менск Васіль Уладзімеравіч паехаў, маючы з сабой шэсьць упаковак таго леку па 2900 даляраў кожная. Гэтую лічбу я называю наўмысна для тых, хто сьцьвярджае, што Быкава ў Чэхіі лячылі кепска. Для паездкі Быкавы вырашылі скарыстаць двухтыднёвы перапынак у курсе лячэньня. Гісторыя з прапіскай, аднак, не дазволіла ім вярнуцца ў Прагу своечасова.

Сяргей Навумчык і я казалі Ірыне Міхайлаўне, паўтараючы словы Юрчанкі, што пачынаць хіміятэрапію ў





Менску ўнутрывенна было нельга, бо яна мае кардыятаксычнае дзеяньне. Але яна адказала, што быкаўскае сэрца хіміятэрапію вытрымала, але ня вытрымалі лёгкія — у Васіля Ўладзімеравіча была астма і эмфізэма лёгкіх. Факт застаецца фактам — праскі лекар-беларус сьцьвярджае, што ў Бараўлянах паступілі няправільна, і гэта паскорыла трагічны вынік, прычым не ад асноўнага дыягназу...

***

Іншыя цікавыя рэчы расказала нам у той суботні вечар Ірына Міхайлаўна. Напрыклад, калі Быкаў пераступіў парог сваёй менскай кватэры, яго твар падабрэў, пасьвятлеў, і ён вымавіў: «Можа, ня ехаць у Прагу, заставацца тут». Гэта — дадатковы штрых у карціну быкаўскага разьвітаньня з гэтым сьветам і сваім народам. Яшчэ цікавая дэталь. У дзень прыезду Быкаў наведаўся ў госьці да старэйшага сына Сяргея, і там жа быў яго ўнук, таксама Сяргей, якога Быкаў вельмі любіў і за якога ўвесь час перажываў — нешта там у яго ня ладзілася. На наступны дзень з Горадні прыехаў малодшы сын, Васіль. Вырашылі, што ён паставіць сваю машыну ў бацькаў гараж, там жа ля дому, 200 мэтраў ад быкаўскага пад'езду. Трэба было выгнаць быкаўскую «Волгу» і загнаць машыну сына. Яны пайшлі, і Ірына Міхайлаўна дзьве гадзіны іх чакала. Нарэшце ня вытрымала і пайшла ў гараж сама. Кажа, прыйшла, а Васіль стаіць спалатнелы — яна зразумела, што быкаўская «Волга» не заводзілася, і яны корпаліся ў маторы. Ірына Міхайлаўна нават зрабіла Васілю-малодшаму вымову — маўляў, сам лекар, павінен разумець стан бацькі. А мне падумалася, што Васіль Уладзімеравіч пасьля таго, як год ці два ня бачыўся з сынам, меў вялікую і апошнюю асалоду папрацаваць пару гадзінаў побач зь ім у гаражы, пагаварыць...

***

Расказала Ірына Міхайлаўна і падрабязнасьці справы з прапіскай. Як вядома, прыехаўшы, Быкавы пайшлі да пашпартысткі, каб паставіць у новы пашпарт Ірыны Міхайлаўны штамп аб прапісцы. Гэты пашпарт Ірына Міхайлаўна атрымала ў Празе ў беларускім пасольстве, бо ў яе старым пашпарце скончыліся старонкі. У пашпарце стаяў штамп чэскай іміграцыйнай паліцыі аб тым, што ўладальніцы пашпарта дазволена пастаяннае пражываньне ў Чэхіі, затое не было штампа аб менскай прапісцы і аб дазволе на выезд. Неяк Быкавы з трывогай падзяліліся сваімі апасеньнямі, і мы з Вольгай сталі іх супакойваць. Мы казалі, маўляў, не бяды, штамп аб жыхарстве ў Чэхіі замяняе дазвол на выезд, а прапіска застаецца ў старым пашпарце, якога пасольства ў Ірыны Міхайлаўны не забрала.

Але ў Менску, у пашпартысткі, Быкавы даведаліся, што яны абодва (!) — а пашпарт жа мяняла толькі Ірына Міхайлаўна — выпісаныя са сваёй кватэры на той падставе, што атрымалі дазвол на пастаяннае пражываньне ў Чэхіі. А кватэра не прыватызаваная. Можна сабе ўявіць шок старых людзей, і сілу ўдару для сьмяротна хворага пісьменьніка... Гэта была бліскучая і апошняя (ці адна з апошніх) апэрацыя супраць Быкава.

У Празе, аб гэтым ведала абмежаваная колькасьць людзей, Быкаў прасіў не агалошваць справы. Лукашук вёў перамовы зь беларускай амбасадай, Сяргей Навумчык трымаў пастаянную сувязь з Быкавымі, таму яны напішуць пра гэта больш падрабязна.

Ірына Міхайлаўна сказала, што шмат дапамагаў міністар культуры Гуляка, прычым і з кватэрай, і зь лекамі ў Бараўлянах... Былі і іншыя памочнікі. Якраз гэтую сытуацыю меў на ўвазе самы галоўны беларус, калі сказаў у эфіры НТВ, што зрабіў для Быкава ўсё, аб чым пісьменьнік прасіў. Я дагэтуль ня ведаю, ці зьвяртаўся Васіль Уладзімеравіч, напрыклад, да Латыпава (хоць Ірына Міхайлаўна і казала, што Латыпаў «атрымаў вымову» за кантакты з Быкавым), але ведаючы Быкава, яго настроі і стаўленьне да сёньняшняй беларускай улады ад яго самога, магу сабе ўявіць ступень адчаю і прыніжэньня, якое яго прымусілі перажыць, нават калі ня ён сам, а нехта са сваякоў ці сяброў пазваніў у адміністрацыю прэзыдэнта...

Прапіску вярнулі. Ірына Міхайлаўна гаварыла, колькі ім паказвалі дакумэнтаў — законаў і пастановаў, што вымагалі іх выпіскі. Маўляў, калі чалавек пераяжджае на сталае жыхарства за мяжу, ён пазбаўляецца прапіскі. Усё так, але ў выпадку, калі чалавек паведамляе аб гэтым улады. Быкавы ж проста часова жылі за мяжой. Чэхі далі ім сталы від на жыхарства зь некаторымі яго выгадамі, напрыклад, бясплатнай мэдычнай страхоўкай. Але само атрыманьне такога статусу не азначае, што чалавек мае намер заўсёды пражыць у гэтай краіне. Не зашкодзіла б уладзе спытацца (хоць бы праз пасольства), ці мае той чалавек намер зьехаць назаўсёды зь Беларусі. Я ўжо не кажу, што так трэба было зрабіць у выпадку Быкава — усясьветна вядомага і ўсенароднa любімага пісьменьніка. Гэтага, аднак, не зрабілі, а цішком задумалі і ажыцьцявілі яшчэ адну правакацыю супраць яго.

Няясная і роля беларускага пасольства ў Празе і яго супрацоўнікаў у гэтай гісторыі. Якраз сытуацыя вакол прапіскі і стала прычынай таго, што сваякі не захацелі абвяргаць выказваньняў Лукашэнкі, што ён нібыта зрабіў для пісьменьнікаў усё, аб чым той прасіў.

Гісторыя аддасьць належнае кожнаму з удзельнікаў гэтай драмы. Мне ж тыя падзеі яшчэ раз паказалі, наколькі далёкія людзі з сучаснага кіраўніцтва Беларусі ад маралі і культуры.

***

А той вечар у кітайскай рэстарацыі скончыўся нашым вяртаньнем у быкаўскую кватэру. Я абмеркаваў з Ірынай Міхайлаўнай дэталі паніхіды па Васілю Ўладзіме-

равічу, якую 31 ліпеня — на сарачыны, павінен быў адслужыць у Чырвоным касьцёле мой брат. Пасьля зьняў кватэру на камэру, зрабіў некалькі фатаздымкаў, а тады мы з Ірынай Міхайлаўнай і Сяргеем Навумчыкам селі на канапу, дзе спаў Васіль Уладзімеравіч, і нас сфатаграфаваў пасынак Быкава Сяргей. Пасьля Ірына Міхайлаўна падаравала нам некалькі рэчаў Васіля Ўладзімеравіча ў якасьці рэліквіяў. Мне дасталіся яго шарыкавая асадка зь пісьмовага стала (ёй я асабліва радуюся, бо колер стрыжня такі ж самы, як і на арыгінале быкаўскай прадмовы да маёй кнігі — думаю, што ёй прадмова і падпісаная), купленыя Быкавым у Празе пакаёвы тэрмомэтар на магніце і брусок для заточкі нажэй, кубачак, зь якога Васіль Уладзімеравіч у Нямеччыне піў каву, і невялікая шклянка, зь якой ён (паводле Ірыны Міхайлаўны) любіў піць гарэлку, а таксама дзьве кнігі з асабістай праскай бібліятэкі пісьменьніка: фотаальбом на 90-годзьдзе Барыса Кіта і зборнік быкаўскіх аповесьцяў на расейскай мове «Его батальон» (Масква, 2000).

***

У пачатку ліпеня 2004 году я быў у Менску ў камандзіроўцы. Як заўсёды, зайшоў адведаць Ірыну Міхайлаўну, а пасьля мы разам паехалі на Ўсходнія могілкі да магілы Васіля Ўладзімеравіча. Па дарозе Ірына Міхайлаўна расказала мне дзіўную (і ня дзіўную) рэч. Аказваецца, падчас яе частых візытаў на могілкі ўсе міліцыянты-ахоўнікі актыўна зь ёй кантактавалі, дэманстравалі вялікую павагу, нават запабягалі, прасілі прынесьці ды падпісаць кнігі Васіля Ўладзімеравіча і, галоўнае, не давалі нікому падступіцца да магілы, не давалі нічога там чапаць — міліцыя яго магілу ахоўвала... Калі я стаў тады ля магілы, спрэс заваленай вянкамі зь бел-чырвона-белымі стужкамі і ўтыканай вялікімі і малымі бел-чырвона-белымі сьцягамі і сьцяжкамі, я зразумеў ашаламляльную рэч, і скура мая пайшла пупышкамі. За бел-чырвона-белы сьцяг у сучаснай Беларусі людзей зьбіваюць на вуліцах і даюць пятнаццаць сутак арышту, а на магіле Быкава прадстаўнікі гэтай жа ўлады бел-чырвона-белыя сьцягі ахоўваюць цэлы год... Ён *іх* перамог. Нават пасьля яго сьмерці *яны* (і былыя, і цяперашнія) нічога ня могуць яму зрабіць, ён быў і ёсьць непараўнана большы за *іх*...

У канцы кастрычніка 2004 году я зноў прыехаў у Менск у камандзіроўку і адразу з братам наведаўся да Ірыны Міхайлаўны. Яна расказала, што якраз напярэдадні, 22 кастрычніка, сама прыбрала ўсё з магілы, рыхтуючыся да ўстаноўкі помніка. Я зразумеў, што тых бел-чырвона-белых сьцягоў ніхто так і не насьмеліўся крануць... Ён быў увасабленьнем нашай годнасьці і сьведкам нашае прысутнасьці ў гэтым сьвеце. У 2003 годзе тэрыторыя незалежнай бел-чырвона-белай Беларусі зьвялася да магілы Васіля Быкава... І, спадзяюся, некалі пашырыцца адтуль зноў на ўвесь беларускі абшар. Быкаў жыў няскораны, ад'ехаў зь Беларусі няскораны, і пайшоў у вечнасьць няскораны.

***

Цяпер шмат спрачаюцца, ці прыехаў Быкаў сьвядома паміраць на Бацькаўшчыну, ці вярнуўся ў Беларусь назаўсёды? Вось як гэта выглядала з Прагі.

Быкавы моцна сумавалі па Менску і па Беларусі, асабліва жалілася Ірына Міхайлаўна. Пра саму паездку ў Менск Васіль Уладзімеравіч гаварыў шмат, мяняліся і даты — то гэта была восень 2003 году, то канец лета, то ліпень. Адначасова ў красавіку-траўні мы ня раз абмяркоўвалі і магчымасьць прыезду ў Прагу яго сваякоў, нават плянавалі іх разьмяшчэньне.

Нечакана, недзе ў другой дэкадзе траўня, Быкавы пачалі цікавіцца коштам чыгуначных і авіяцыйных білетаў. І вось аднойчы ў мой прыезд (цяпер ужо ня памятаю даты) Васіль Уладзімеравіч рашуча сказаў, што едзе. 22 траўня, за дзень да адлёту, мы з Вольгай былі ў Бы-

кавых, і яны раіліся з намі, як вырашыць такую вось праблему. Наступіў двухтыднёвы перапынак у курсе хіміятэрапіі. На 6 чэрвеня быў прызначаны кантрольны аналіз крыві і пачатак наступнага этапу лячэньня. І якраз на 6 чэрвеня, пятніцу, былі зваротныя білеты Быкавых. Яны не пасьпявалі здаць таго кантрольнага аналізу, бо аналізы, як вядома, бяруцца да дзясятай раніцы. Мы параілі ім дамовіцца зь лекаркай, каб аналіз узялі 7-га, у суботу — я ведаў, што так робіцца. Так і пастанавілі.

Мы разьвіталіся на два тыдні. Ніякіх размоваў пра канчатковае вяртаньне не было. Іншая справа, што недзе падсьвядома, ведаючы свой дыягназ і адчуваючы свой стан, Васіль Уладзімеравіч мог нешта прадчуваць і канчаткова адчуў гэта дома... У кожным выпадку, паводле прагнозу праскіх лекараў з той швайцарскай далікатнай хіміятэрапіяй Васіль Уладзімеравіч павінен быў пражыць яшчэ прынамсі год-паўтара...

***

Мне цяпер усё роўна, ці зьбіраўся Васіль Уладзімеравіч дадому назаўсёды, ці не. Усё адбылося так, як адбылося. І ў сьмерці гэтага вялікага чалавека была яго апошняя ахвяра роднай Беларусі, якую ён любіў бязьмежна, якой жыў і дыхаў, якая прынесла яму столькі радасьці, болю і расчараваньня. Сьмерць Быкава стала яго апошняй перамогай над уладай, якая яго зьневажала, над той несправядлівасьцю, якая пануе цяпер на нашай Бацькаўшчыне, над чалавечай слабасьцю і подласьцю, над стукацкім саслоўем, якое, паводле яго словаў, заўсёды было побач зь ім. Яго сьмерць і паховіны сталіся сымбалічнымі і знакавымі, яны паказалі зьняверанаму народу і яго разьяднанай эліце, што мы яшчэ «ня ўмёрлі»... Вялікі пэсыміст пакінуў нам надзею.

*Ліпень 2004 — сакавік 2005*





*Сяргей Навумчык*

## «ЁН ПРЫЕХАЎ, САМ ПАМЁР, УСЁ СПАКОЙНА»: АПОШНІЯ ТЫДНІ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Васіль Быкаў мог бы жыць і сёньня.

Кажучы гэтак, маю на ўвазе ня толькі сыстэматычнае цкаваньне ў афіцыйнай прэсе, выкіданьне з выдавецтваў кніг, стварэньне рэжымам Лукашэнкі той невыноснай атмасфэры, якія не дадалі Васілю Ўладзімеравічу здароўя і ў выніку вымусілі жыць па-за межамі радзімы. Маю на ўвазе сьвядомае — у гэтым я перакананы — скарачэньне жыцьця Быкава ў самыя апошнія тыдні і дні, калі ён прыехаў у Менск.

### «Ня ведаю, ці дачакаюся зьвяржэньня дыктатара Лукашэнкі»

Адразу пасьля пахаваньня Быкава ўлада імкнулася пераканаць, што ніякага канфлікту паміж ёй і пісьменьнікам не было.

Міністар культуры Леанід Гуляка: *Паміж уладай і Быкавым асаблівых канфліктаў і не было, як вы ведаеце. Некаторыя канфлікты больш падаграваліся і правакаваліся, чым яны існавалі насамрэч.*

Прэсавая сакратарка А.Лукашэнкі Натальля Пяткевіч: *Сам факт таго, што пісьменьнік вярнуўся на радзіму, і яму была аказаная тут усялякая мажлівая і немажлівая дапамога, гаворыць пра тое, што канфлікту не было.*

Пра вяртаньне і пра «дапамогу» — пазьней. Што ж да стаўленьня Быкава да лукашэнкаўскага рэжыму, дык Васіль Уладзімеравіч даваў недвухсэнсоўныя і палітычныя, і маральныя ацэнкі Лукашэнку, у тым ліку і на хвалях «Свабоды».

Прычым у Быкава не было ніякіх ілюзіяў адносна першага прэзыдэнта Беларусі. Да прыкладу, летам 2002

году падчас тэлефоннай размовы на ягонае традыцыйнае пытаньне пра навіны па-за межамі палітыкі, я сказаў, што ў Аляксандра Старыкевіча нарадзіўся сын. «Віншуйце. Можа, будзе другім прэзыдэнтам Беларусі». — «Што прэзыдэнтам, дык дай Бог, але, Васіль Уладзімеравіч, чаму другім? Можа, дзясятым». — «Ды не, будзе другім. Цяперашні будзе яшчэ гадоў сорак, да сьмерці ня сыдзе».

У гутарках зь сябрамі, у сваіх лістах Васіль Уладзімеравіч больш драматычна ацэньваў стаўленьне да яго Лукашэнкі, чым у інтэрвію. Так, у лісьце да ўкраінскага літаратуразнаўцы Васіля Бурана Быкаў піша: «Тут я — чалавек з Усходу, бедны беларус, з краіны, якую тут мала хто і ведае. Жыву я на стыпэндыю, якую выхлапатаў празь Нямецкі ПЭН-клюб завочна. Бо нікога з таго ПЭН-клюбу яшчэ ў вочы ня бачыў. Праз тры месяцы стыпэндыя канчаецца, канчаецца і віза таксама. Паеду да Лукашэнкі — на ягоную міласьць. А ён можа адабраць пашпарт, пасадзіць, аб’явіць, што Быкаў украў у дзяржавы мільён даляраў. Знойдзецца дзясятак сьведак, якія пацьвердзяць, адпаведныя дакумэнты, судзьдзі і пракуроры. Або можна зьнікнуць бязь сьледу, як палітыкі ўжо многія. І ўсё таму, што некалі пару разоў выступіў супраць яго і на выбарах агітаваў за Пазьняка. А тут я таксама пад ягоным каўпаком, і кожны мой крок (і кожнае слова) адсочваецца і дакладаецца ў Менск. У Маскву таксама...» (27 жніўня 2000).

«На радзіме ўсё тое ж, што і ва Ўкраіне... толькі яшчэ горш, бо наш каўдыльлё горш за вашага ў дзесяць разоў. Ваш прычыніўся да аднаго непакорнага журналіста, а наш да чатырох — палітыка, журналіста, генэрала, бізнэсоўца. І што цікава — ні Масква, ні Захад — амаль ніякай трывогі. Усе толькі мацуюць інтэграцыйную палітыку» (1 лютага 2001).

І яшчэ адзін урывак з быкаўскага ліста зь Нямеччыны Барысу Бурану:

«На радзіме рэжым Л. абрынуўся на мяне з усяе сілы. Радыё, тэлебачаньне, прэзыдэнцкі друк кожны месяц мажуць мяне гразьзю. Думаю, што маецца на мэце зрабіць маё вяртаньне немагчымым. Або рыхтуюць яшчэ больш страшнае. У такой сытуацыі, канечне, хочацца быць здаровым. А тут — хвароба».

Хвароба, пра якія пісаў Васіль Уладзімеравіч, была ня тая, страшная, якая выявіцца пазьней. Доўгі час за мяжой Быкаў ня меў ніякіх сацыяльных гарантыяў, што ў ягоным узросьце жыцьцёва неабходна. Самае ж першае і галоўнае для чалавека, які апынуўся на Захадзе, — гэта мэдычная страхоўка. У лісьце Сяргею Законьнікаву Быкаў пісаў: «Жыць трэба дома, калі б толькі тое было магчымым. А лячыцца тут няма як».

Дома ж жыць ён, як вядома, ня мог зусім не па сваёй волі.

**«Сытуацыя не дае магчымасьці для маёй прафэсійнай літаратурнай дзейнасьці і нармальнага існаваньня»**

У пачатку 2002 году Васіль Уладзімеравіч сказаў мне, што да канца году магчымасьць жыць у Нямеччыне закончыцца. Спробы нямецкіх сяброў Быкава працягнуць побыт натыкаліся на бюракратыю, хаця, як мне вядома, быў задзейнічаны нават прэзыдэнт Нямеччыны Раў. Але справа ў тым, што ў дэмакратычных краінах дзейнічае прыярытэт права: ніхто, прэзыдэнт ці прэм’ер, ня можа загадаць чыноўніку зрабіць тое, што супярэчыць закону. Адзіны варыянт — браць палітычны прытулак — Васіль Уладзімеравіч адмаўляў з шэрагу прычынаў, у тым ліку і таму, што гэта не давала б магчымасьці езьдзіць на радзіму (але павінен сказаць, што аднойчы такі варыянт мы зь ім абмяркоўвалі).

Мае праскія сябры прапанавалі паспрабаваць чэскі варыянт і паабяцалі дапамогу. У чэрвені 2002 году Быкаў прыехаў у Прагу і напісаў такую заяву (чарнавік ён аддаў мне):

***Пану Міністру Ўнутраных спраў***
***Чэскай Рэспублікі***
***ад грамадзяніна***
***Рэспублікі Беларусь***
***пісьменьніка***
***Васіля Быкава***

***Заява***
***У сувязі з тым, што ў Рэспубліцы Беларусь, дзе я нарадзіўся і пражываў да 1999 году, склалася непрыязная для мяне сытуацыя (найперш палітычная), якая не дае магчымасьці для маёй прафэсійнай літаратурнай дзейнасьці і нармальнага існаваньня, прашу ўрад ЧР прадаставіць мне права пражываньня ў Чэхіі.***
***Разам са мной знаходзіцца жонка Быкава Ірына, якая далучаецца да мае просьбы.***
***З павагай***
***В.Быкаў***
***І.Быкава***

Мы пастараліся вызваліць Васіля Ўладзімеравіча ад большасьці клопатаў, зьвязаных з афармленьнем дакумэнтаў. Дапамог ліст з канцылярыі Гаўла ды невялікая зачэпка ў законе, хаця, маючы нават ліст прэзыдэнта, давялося тры месяцы абіваць парогі ўстановаў (ніякіх выключэньняў там не рабілі; прыйшлося нават браць даведкі з усіх тых краінаў, дзе жыў Быкаў апошнія пяць гадоў, пра тое, што ня быў пад судом). Прычым нам удалося і для Васіля Ўладзімеравіча, і для Ірыны Міхайлаўны аформіць права сталага побыту ў Чэхіі, безь неабходнасьці працягваць візу, якое ім, як асобам пэнсійнага ўзросту, давала і бясплатную мэдычную страхоўку (тады нават ня думалася, як хутка яна спатрэбіцца). У побытавым сэнсе жыцьцё ў Празе ўладкавалася не адразу — былі праблемы і зь фінансамі, і з кватэрай. Даводзілася чуць папрокі ў бок Чэхіі на гэты конт, але





прэтэнзіі трэба адрасаваць менскім уладам, якія стварылі Быкаву невыносныя ўмовы на радзіме. У любым разе, Чэхія дала такі прававы статус, якога ня здолела прапанаваць ніякая іншая эўрапейская краіна.

**«Вы ж разумееце, адкуль была каманда»**

На час пакутлівай хваробы Быкава і страшнага дыягназу-прысуду прыйшлася публікацыя, якая, як я перакананы, была для яго моцным ударам. Нават калі ўлічыць усе зьнішчальныя «літаратуразнаўчыя» артыкулы 1960-х гадоў ды абразьлівыя выказваньні «камэнтатараў» лукашэнкаўскага тэлебачаньня — гэтая публікацыя пераўзышла агіднасьцю ўсё ранейшае. Пра яе мне сказаў сам Васіль Уладзімеравіч, калі быў у шпіталі (ня ведаю, хто паказаў яму той часопіс). Пазьней Быкаў некалькі разоў прыгадваў публікацыю, хаця ён быў ня з тых, хто скардзіцца на ўласныя непрыемнасьці. Я пераконваў, што ня варта зьвяртаць увагі на подласьць, хаця сам цудоўна разумеў, што падобнае спакойна не ўспрымаецца.
Аднойчы сказаў яму, што напішу пра гэтую публікацыю. «Ня варта, Сярожа, усё гэта бессэнсоўна». — «А калі падаць у суд?» — «Які суд у Беларусі? Вы ж разумееце, адкуль была каманда. Ды і выканана гэта вельмі паскудна і хітра: фармальна прозьвішча майго няма». І ўсё ж Васіль Уладзімеравіч даў мне гэты часопіс, я забраў яго ў Нью-Ёрк, куды мусіў адляцець на некалькі тыдняў. Але тады мяне адгаварылі пісаць — тым аргумэнтам, што ня варта паказваць аўтару і ініцыятарам публікацыі, што ў нечым яны дасягнулі сваёй ганебнай мэты: зрабілі Быкаву балюча. Вельмі шкадую, што не напісаў пры жыцьці Быкава. Цяпер адповедзь ужо ня мае сэнсу — але прывяду некалькі цытатаў, якія выяўляюць духоўнае ды маральнае аблічча як іх аўтара, так і тых, хто за ім стаіць.
Гаворка ў «творы» Яўгена Росьцікава «Динамит для лауреата — маленькая повесть о большом человеке»

(«Нёман». №1, 2003) ідзе пра пісьменьніка з прозьвішчам Дроб, які жыве за мяжой і можа атрымаць Нобэлеўскую прэмію. Некаторыя біяграфічныя эпізоды нібыта недвухсэнсоўна паказваюць на канкрэтнага чалавека, але ўсё астатняе — фантазія самага гнюснага кшталту:
*«Перед войной успел два года поучиться в художественном училище»... «подался в областную газету»... «местные черносотенцы с ведома властей забрасывают скромный домик фронтовика камнями за его острые публикации»... «переводили на итальянский, французский, немецкий и английский языки»... «власть щедро одаривала его премиями, орденами, медалями»... «сделал ставку на рвущихся к власти националистов. Сделал им пару комплиментов в интервью, а лидера их... вообще назвал апостолом»... «из преуспевающего советского писателя он вдруг превратился в великомученика, «совесть нации»... «разоблачения «гэтай улады»... «тихий немецкий городок, в котором ему милостиво предоставили виллу. Газеты писали, что здесь, почувствовав, наконец, свободу, он плодотворно работает над новым гениальным романом, который должен продемонстрировать весь ужас существующей в его стране системы и одновременно должен стать новым словом в литературе»... «почувствовал, как внутри вдруг что-то взорвалось и, переполнив его, стало вытекать наружу... Он открыл окно, потом включил кондиционер, но запах уже заполнил комнату, проник во все щели»... «трупный запах»... «нет, надо что-то делать — бежать, спасаться, пока эти культурные немцы не догадались, что живут рядом с трупом»»... «о том, что переполняет его, что он труп, знало и руководство ПЕН-центра, предложившее ему эту «последнюю акцию» — бегство за рубеж, чтобы властям страны стало стыдно, поскольку они не создали гению надлежащих условий»... «Тысяча двести гостей уже заняли свои места за праздничными столами в стокгольмской ратуше, чтобы отдать дань*





*уважения современным гениям — нобелевским лауреатам, и в первую очередь ему — Федору Дробу»... «последнее, что увидел Дроб — это гостей необыкновенного вечера, которые вместе со всем королевским семейством, с лауреатами и официантами, зажав пальцами носы, ринулись из старинной ратуши вон»... «Журналистов в зале не было. Профессиональным нюхом почуяв запах тлена, они уже мчались в редакции, чтобы сообщить миру сенсационную новость о смерти писателя, который маниакально хотел получить Нобелевскую премию»...*
Я не прыводжу самых мярзотных пасажаў гэтага опусу. Скажу толькі, што ў якой іншай краіне аўтар падобнага знаходзіўся б пасьля публікацыі на яе тэрыторыі роўна столькі, колькі займае паездка ад кватэры да аэрапорту — пры самым шчасьлівым для яго разгортваньні падзеяў. Назаву яшчэ склад рэдкалегіі, якая выпусьціла ў сьвет гэтую мярзоту: «Н.Чайка, В.Лукша, И.Лученок, С.Зайцев, Г.Пашков, М.Позняков, М.Савицкий, Ю.Сидоров, А.Сульянов, Н.Шевцов». Дадам, што кіраўніцтва «холдынгу», куды ўваходзіць цяпер часопіс, прызначалася адміністрацыяй прэзыдэнта, а сам аўтар працуе ва ўрадавай газэце «Республика».
Пра сапраўдны дыягназ (рак), акрамя лекараў, самога Васіля Ўладзімеравіча і Ірыны Міхайлаўны, ведалі толькі некалькі чалавек. Ва ўсялякім разе, так нам тады здавалася. У канцы сакавіка ў Прагу раптам патэлефанаваў Мікалай Чаргінец (кіраўнік штабу Лукашэнкі на апошніх выбарах і дэпутат «сэнату») і выказаў жаданьне дапамагчы. Пра званок мне распавяла Ірына Міхайлаўна; калі я запытаўся ў Васіля Ўладзімеравіча (гэта было на наступны дзень пасьля апэрацыі), ён сказаў, што ня мае з Чаргінцом ніякіх адносінаў. Чаргінец выявіў дзіўнае веданьне стану здароўя Быкава — прычына гэтай дасьведчанасьці стала зразумелая пазьней.
Быкаў быў перакананы, што кожны ягоны крок адсочваецца, тэлефонныя размовы яго і блізкіх праслухоўва-

юцца (гэта я чуў ад яго шмат разоў, думаю, чулі і іншыя. Напісаў ён пра гэта, як бачым, і ў вышэй працытаваным лісьце да ўкраінскага сябра). Літаральна за некалькі дзён да званка Чаргінца лекар Сяргей Юрчанка, які апекаваўся Быкавым і падчас апэрацыі рабіў анэстэзію, патэлефанаваў сыну Быкава ў Беларусь і распавёў усю праўду пра дыягназ і верагодныя пэрспэктывы. Выглядае, што і размову гэтую перахапілі тыя, каму яна была вельмі цікавая. І зрабілі пэўныя высновы.

**«Васіль Уладзімеравіч ацэньваў сытуацыю як спэцыяльна праведзеную апэрацыю ўладаў»**

Апошні раз я бачыў Быкава 19 красавіка — на наступны дзень мне трэба было вылятаць у Нью-Ёрк. Пра тое, што ён хоча зьезьдзіць у Менск, Васіль Уладзімеравіч казаў даўно, плянаваў нават паездку да апэрацыі — але прыйшлося адкласьці. У той дзень Быкаў сказаў, што паедзе, магчыма, у чэрвені, а мо і пазьней. Я тэлефанаваў яму з Амэрыкі, і аднойчы Васіль Уладзімеравіч сказаў, што назаўтра разам з Ірынай Міхайлаўнай вылятае ў Менск — а вернуцца 6 чэрвеня, зваротныя білеты таксама ўжо купленыя. Мяне крыху зьдзівіла раптоўная зьмена плянаў. Васіль Уладзімеравіч сказаў, што трэба «палагодзіць некаторыя справы», а што ён меў на ўвазе канкрэтна, я ня стаў дапытвацца.
Ляцелі Быкавы ў Менск 23 траўня 2003 году самалётам «Белавія» Як-40. У тыя дні «Белорусскую деловую газету» ледзь не закрылі за тое, што асьмелілася напісаць, як Лукашэнка прапанаваў нейкай «міс Расеі» прэзыдэнцкі авіялайнэр — хворы ж геній беларускай літаратуры быў вымушаны дабірацца на радзіму самалётам, які і маладыя ды здаровыя людзі зь цяжкасьцю пераносяць. У тэлефоннай размове Васіль Уладзімеравіч сказаў, што пералёт быў для іх вельмі пакутлівым («ледзь ачунялі»). Пазьней я даведаўся, што Быкаў, выйшаўшы з самалёта, страціў прытомнасьць.
Цяпер — адносна таго, што Быкаў нібыта прыехаў у





Беларусь паміраць. Гэтак заяўляюць прадстаўнікі ўладаў, якім хочацца, хай і пасьмяротна, прымірыць Быкава з уладай. Гэтак кажуць і некаторыя сябры, жадаючы падкрэсьліць любоў Быкава да Беларусі. Часам сьцьвярджэньне набывае характар відавочнай спэкуляцыі, аж да заявы ў адным апазыцыйным выданьні, што нібыта Быкаў вярнуўся памерці, каб сваёй сьмерцю ўзьняць беларускі народ...
Але Васіль Уладзімеравіч ня ехаў у Менск паміраць. Магчыма, прыехаўшы, ён зразумеў, што ўжо нікуды зь Беларусі ня зьедзе — але паміраць ён ня ехаў, і гэтаму ёсьць доказы.
Праз некалькі дзён пасьля прыезду Васіль Уладзімеравіч папрасіў мяне перадаць яму з аказіяй ягоны пэрсанальны кампутар. Гэты кампутар перадалі ў Менск, і 3 чэрвеня на кватэру па Танкавай яго занёс Віталь Цыганкоў. А крыху пазьней, ужо ў Бараўлянах, Васіль Уладзімеравіч праз Ірыну Міхайлаўну надыктаваў сьпіс рэчаў з праскай кватэры, якія я яму таксама перадаў: два нататнікі (адзін з уласнымі малюнкамі, якія ён рабіў у Празе — бацькоўская хата на Вушаччыне, дарога ў школу, возера дзяцінства, полацкая Сафія, вайсковыя замалёўкі, другі — з нататкамі і роздумамі над прачытаным, якія потым назавуць «дзёньнікам»), лісты, на якія не пасьпеў адказаць, некаторыя рукапісы ненадрукаваных твораў, фатаздымкі. А таксама прыладу для вымярэньня ціску, мабільны тэлефон і некаторыя іншыя рэчы — тое, што ён хацеў мець пры сабе. І абавязкова ўзяў бы, калі б ведаў, што зьяжджае назаўсёды. І ўжо, канечне, у такім выпадку ён ня браў бы зваротнага білета ў Прагу.
У дзень, калі Васіль Уладзімеравіч папрасіў перадаць кампутар, ён сказаў, што вакол яго адбываюцца некаторыя падзеі, але ён ня хоча пра іх казаць па тэлефоне, «вярнуся ў Прагу — тады раскажу». І запытаўся, калі прыедзе ў Менск Аляксандар Лукашук. Аляксандар сапраўды зьбіраўся ў Беларусь, але паездка адклалася,

і я папрасіў яго тэрмінова пазваніць Быкаву (падаю ягоныя сьведчаньні, запісаныя праз некалькі тыдняў пасьля тых падзеяў, у ліпені 2003 году). Тут і далей выказваньні ўдзельнікаў падзеяў прыводзяцца даслоўна:

А.Лукашук: *Напрыканцы лютага — напачатку красавіка я дапамагаў Быкавым стаць на ўлік у беларускай амбасадзе і запоўніць дакументы на атрыманьне новага пашпарта для Ірыны Міхайлаўны. На маіх вачах былі запоўненыя формы, консул Валавік Андрэй Уладзімеравіч заявіў, што Ірына Міхайлаўна мае права атрымаць новы пашпарт у амбасадзе, бо мае дазвол на сталае пражываньне. Прапіска ці права на жыльлё ніяк ня згадваліся. Консул вызваліў Быкавых ад аплаты збораў.*
*8 траўня Быкавым пазванілі з амбасады і сказалі, што пашпарт гатовы. Назаўтра прадстаўнікі амбасады заехалі за Быкавым, каб запрасіць яго на ўскладаньне кветак да магілаў савецкіх салдат на Альшанскіх могілках, і ўручылі пашпарт Ірыне Міхайлаўне. У ім не было штампа прапіскі. З гэтай нагоды Ірына Міхайлаўна адмовілася аддаць у амбасаду стары пашпарт.*
*Пасьля нечаканага ад'езду Васіля Ўладзімеравіча і Ірыны Міхайлаўны з Прагі ў Менск 23 траўня, я ўпершыню гаварыў з Васілём Уладзімеравічам недзе праз тыдзень. У той дзень Сяргей Навумчык сказаў, што Васіль Уладзімеравіч гаварыў пра надзвычайную навіну, але не хацеў даваць падрабязнасьцяў па тэлефоне. Я спытаўся пра гэтую навіну — Васіль Уладзімеравіч пацьвердзіў, што ёсьць навіна, і яшчэ якая, і яна тычыцца яго.*
*Недзе праз некалькі дзён я зноў гаварыў зь ім па тэлефоне і зноў спытаўся пра важную навіну. Васіль Уладзімеравіч расказаў, што іх пазбавілі прапіскі. Па ягоных словах, прапіскі пазбаўлены і ён, і жонка. І няясна, ці могуць яны ўвогуле цяпер знаходзіцца ў гэтай кватэры, якая не была прыватызаваная. Васіль Уладзімеравіч сказаў, што ў ЖЭСе яму паказалі нейкі закон і інструкцыю, зь якой вынікала, што яны выпісаныя цалкам законна. Ён некалькі разоў спасылаўся на гэтыя дакументы.*





Паводле ведамасных інструкцыяў МЗС і МУС (інструкцыяў, а не закону!), асобы, якія стала пражываюць за мяжой, павінны падаць заяву аб адмове ад прапіскі ў Беларусі — у тым разе, зразумела, калі яны хочуць мець беларускі пашпарт і легальна наведваць радзіму. Гэтае правіла не распаўсюджваецца на тых, хто мае часовую ці, напрыклад, гадавую візу. У Быкавых была сталая чэская віза. З другога боку, тэрмін дзеяньня візы быў пятнаццаць гадоў («мне гэтага хопіць», — казаў Васіль Уладзімеравіч), што давала б беларускім уладам магчымасьць разглядаць яе як часовую. Наогул, інстытут прапіскі — гэта савецкі анахранізм, сутнасьць якога патлумачыць заходняму чалавеку практычна немагчыма, аднак у беларускіх умовах прапіска значыць даволі шмат. Адно зь менскіх агенцтваў нерухомасьці ў 2003 годзе зьмясьціла на сваім сайце наступную заўвагу аб прапісцы: «Прапіска мае вялізнае значэньне ў нашым жыцьці, прычым асноўная частка гэтага самага значэньня і блізка ня тычыцца жыльлёвых пытаньняў. Гэта і пэнсіі, і школа, і мэдычнае абслугоўваньне, ды і проста магчымасьць спакойна хадзіць па вуліцах, не баючыся штрафаў з-за адсутнасьці рэгістрацыі».
Такая самая праблема з прапіскай была і ў мяне (калі я запытаўся ў генконсульстве РБ у Нью-Ёрку, на якіх умовах мне далі б беларускі пашпарт), тады даволі шмат пісалася пра гэта ў «Народнай Волі». Пасьля адной з такіх публікацыяў (гэта быў студзень 2003 году), Васіль Уладзімеравіч сказаў, што яны з Ірынай Міхайлаўнай устрывожаныя, ці ня здарыцца тое ж самае і зь імі, гэта значыць, ці не запатрабуюць ад іх выпісацца. Тады я сказаў, што наўрад ці ўлады асьмеляцца зрабіць такое з

Быкавым. «Ды яны зробяць з намі што захочуць», — быў адказ. Празь некалькі месяцаў стала зразумела, што Быкаў больш рэальна ацэньваў стаўленьне да сябе ўлады.

Першае, што я прапанаваў Васілю Ўладзімеравічу, калі пачуў пра сытуацыю з прапіскай — гэта даць інфармацыю ў прэсу. Мы былі гатовыя сказаць пра гэта па «Свабодзе» ў той жа дзень. Аднак Васіль Уладзімеравіч настойліва папрасіў гэтага не рабіць: «Так хоць застаецца якая-небудзь надзея, а калі іх раззлаваць — тады проста выкінуць з хаты». Перад шпіталізацыяй я некалькі разоў размаўляў па тэлефоне з Васілём Уладзімеравічам, і ён увесь час быў занепакоены гэтай праблемай. У адной з тэлефонных размоваў ён нават сказаў маёй жонцы Галіне, што вось, маўляў, пакуль яшчэ жывуць на Танкавай, ня выселілі, «пакуль ніхто ня ўнёс сюды свае чамаданы, а могуць і засяліць якога перадавіка вытворчасьці з трактарнага заводу»...

Ізноў слова Аляксандру Лукашуку:

А.Лукашук: *На пытаньне, што ён плянуе рабіць, Васіль Уладзімеравіч адказаў няпэўна: маўляў, раюся. На той момант ён не зьвяртаўся да афіцыйных асобаў, хаця ўжо яму званілі намесьнік міністра культуры, пазьней, здаецца, дэпутат Чаргінец, а потым званіў міністар культуры Гуляка.*

*Я пазваніў у амбасаду дарадцу Віктару Міхайлавічу Казлову, які неаднаразова бываў на афіцыйных сустрэчах Радыё Свабода, распавёў пра стан справаў і выказаў меркаваньне, што амбасада выглядае ў гэтай сытуацыі двухсэнсоўна, як праваднік апэрацыі спэцслужбаў. Пазьней мне пэразваніў консул Валавік, якому я таксама паўтарыў гэта. Абодва выказвалі зьдзіўленьне, казалі, што гэта глупства на месцах, да якога амбасада і МЗС ня маюць ніякага дачыненьня. Валавік абяцаў неадкладна ўсё высьветліць і дапамагчы палагодзіць.*

У тэлефонных размовах Васіль Уладзімеравіч у тыя дні і мне казаў, што зьвярнуўся па дапамогу да сябра, і, магчыма, нешта ўдасца зрабіць. Гэтым чалавекам быў Генадзь Бураўкін, і вось як прыгадваў ён падзеі ў кастрычніку 2003 году:

Г.Бураўкін: *Васіль сказаў мне пра цяжкасьці з прапіскай, якія ўзьніклі ў Ірыны Міхайлаўны, але зазначыў, што ня хоча ні аб чым прасіць уладу. Прыкладна ў тыя ж дні са мною зьвязаўся кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Ўрал Латыпаў і запытаўся: ці ня мог бы асабіста ён чымсьці дапамагчы Быкаву?*

Уражвае гэтае імкненьне самага высокапастаўленага чыноўніка лукашэнкаўскай адміністрацыі (дарэчы, палкоўніка КГБ) дапамагчы «асабіста» — пасьля таго, як гэтай самай адміністрацыяй было зьняважана ўсё тое, што для Быкава было дарагім: ідэя нацыянальнага Адраджэньня, беларуская мова, дзяржаўныя сымбалі. Пасьля таго, як створаная Лукашэнкам атмасфэра цкаваньня і маральнага зьдзеку вымусіла Быкава шукаць прытулку на чужыне.

Г.Бураўкін: *І я тады ж сказаў, што Васіль ня хоча зьвяртацца да прадстаўнікоў улады зь нейкімі просьбамі, але ў яго ёсьць побытавыя цяжкасьці, якімі, я перакананы, ён не павінен займацца. І распавёў пра цяжкасьці з прапіскай. На што Латыпаў адказаў: «Генадзь Мікалаевіч, гэта не праблема. Мы вырашым». Але я яго папярэдзіў, што Васіль баіцца паўтарэньня сытуацыі з Генадзем Карпенкам, калі пасьля пахаваньня таго Лукашэнка сказаў, што на ягонае ўказаньне ўлада нават чаравікі купляла для нябожчыка. І таму Васіль Уладзімеравіч баіцца, што нейкія жэсты з боку чыноўнікаў будуць пададзеныя як ласка ад найвышэйшага кіраўніцтва... Пытаньне з прапіскай празь некалькі дзён было вырашана.*

Ірыне Міхайлаўне выдалі новы пашпарт з прапіскай — але, каб вярнуцца ў Чэхію, ёй ужо спатрэбілася б браць

візу, бо пашпарт з пастаяннай візай быў здадзены. А потым, у Празе, аднаўляць той штамп, які даваў права на сталае жыхарства. І яшчэ: калі б пашпарт прыйшлося мяняць Быкаву, у яго б таксама забралі той, дзе была пастаянная чэская віза.
Мая перадапошняя размова з Васілём Уладзімеравічам адбылася 4 чэрвеня, я папрасіў яго выказацца наконт ліквідацыі Беларускага нацыянальнага гуманітарнага ліцэю, і словы *«трэба змагацца за родную мову»* сталі апошнімі словамі ягонага апошняга інтэрвію. Тады ж Васіль Уладзімеравіч сказаў мне, што праблема пашпарта Ірыны Міхайлаўны вырашаная, хаця невядома, што будзе зь ягоным пашпартам, калі спатрэбіцца замена. Але гэта ўжо не турбавала Васіля Ўладзімеравіча, ён адчуваў сябе вельмі дрэнна, і я запісаў ягоныя словы: *«Сярожа, цяпер паперкі, штампікі ў пашпарце мяне ўжо не цікавяць. Могуць быць, а могуць і ня быць...»*
На наступны дзень Васіль Уладзімеравіч сказаў, што кладзецца ў Бараўляны.
Ну а тое, ці была гэтая гісторыя выпадковай, і якая ў ёй роля ўладаў — у тыя ж дні вызначыў сам Быкаў.

А.Лукашук: *Васіль Уладзімеравіч ацэньваў сытуацыю як спэцыяльна праведзеную апэрацыю ўладаў, ён і жонка былі надзвычай знэрваваныя гэтым здарэньнем і цяжка перажылі гэты ўдар.*

У тым, што гэтая калатнеча з прапіскай забрала ў Быкава апошнія сілы, перакананыя ўсе, каму Васіль Уладзімеравіч палічыў патрэбным пра яе сказаць. «Васіль быў у адчаі», — прыгадвае Рыгор Барадулін. Перакананы, што гэты нэрвовы тыдзень зрабіўся для ягонага здароўя фатальным: калі перад адлётам з Прагі Васіль Уладзімеравіч адчуваў сябе адносна добра, дык ужо праз некалькі дзён стан здароўя рэзка пагоршыўся, і ён пайшоў на абсьледаваньне ў Бараўлянах.
У «Беларускіх ведамасьцях» Зянон Пазьняк вельмі трапна даў маральную ацэнку створанай уладамі сытуацыі, назваўшы яе «подласьцю» і «нізасьцю»: «Хвораму Быкаву прыйшлося гэтую нізасьць пераадольваць ды перажываць і з-за яе застацца ў Менску, ён плянаваў вярнуцца ў Прагу. Там сябры чэхі і беларусы выстараліся яму рэдкае лякарства... Чалавека, нават сьмяротна хворага на рак, яно магло патрымаць у жыцьці яшчэ год або два...» («Беларускія ведамасьці». №4, 2003).
І тут варта прывесьці запіс інтэрвію з праскім лекарам Сяргеем Юрчанкам, зроблены ў чэрвені 2003 году.

**«Мы ня раілі Быкаву ляцець у Менск»**

Сяргей Юрчанка — анэстэзіёляг, лекар найлепшага ў Празе шпіталю «Motol». Як і ягоная жонка Вольга, скончыў Віцебскі мэдычны інстытут, з 1997 году — у Чэхіі. Менавіта Сяргей і Вольга апекаваліся Быкавым у час ягонай хваробы ў Празе з таго першага дня ў лютым 2003 году, калі Васіль Уладзімеравіч адчуў сябе кепска. Гэта было жаданьне самога Васіля Ўладзімеравіча, які хацеў, каб побач былі «свае». Хаця, канечне, вакол Быкава былі дзясяткі лекараў, а апэрацыю яму рабіў адзін з найлепшых хірургаў ва Ўсходняй Эўропе прафэсар Паўка (які апэраваў і Вацлава Гаўла).
Пасьля апэрацыі (не рабіць яе было нельга, гэта пагражала раптоўнай сьмерцю) Васілю Ўладзімеравічу быў прызначаны курс анкалягічнага лячэньня. Пры анкалягічным дыягназе гарантыяў, як вядома, быць ня можа, але лекары спадзяваліся. Знайшлі найлепшыя швайцарскія лекі — «Xeloda».

С.Юрчанка: *Гэта былі лекі хіміятэрапэўтычныя, для лячэньня анкалягічных хваробаў, а пасьля апэрацыі — дзеля прафіляктыкі росту на ранейшым месцы. Але — не звычайная хіміятэрапія. Гэта былі швайцарскія лекі, якія пазбаўлялі неабходнасьці рабіць кропельніцы. Не патрэбныя былі ўнутрывенныя прэпараты, якія заўсёды пераносіліся хворымі вельмі дрэнна і мелі кардыятак-*

*сычны эфэкт, таксычны ўплыў на сэрца. Гэтыя лекі якраз былі распрацаваныя дзеля прыёму ўнутранага, як таблеткі, і распрацаваныя яны былі менавіта для людзей сталага веку і мелі тую ж самую эфэктыўнасьць. Падкрэсьлю: пры той жа эфэктыўнасьці гэтых лекаў пабочныя эфэкты былі значна больш мяккімі. Крыху слабасьць, млосьць, але гэта ні ў якім разе не ўплывае на сэрца, на функцыі арганізму. Карацей, пасьля першага і другога курсу нармальна ён гуляў па парку, хадзіў на вуліцу, хадзіў у крамы, сустракаўся зь сябрамі, са знаёмымі. Што наўрад ці было б магчыма пры хіміятэрапэўтычных леках старога кшталту, гэтых унутрывенных магутных дозах, якія хворыя ў ягоным узросьце звычайна цяжка пераносяць і ў выніку ляжаць у ложку.*
*Паездку ён гэтую тлумачыў неабходнасьцю вырашыць нейкія сямейныя пытаньні, у падрабязнасьці мы не ўваходзілі. Але з мэдычнага гледзішча ні мы, ні хірургі, ні анколягі яму ня раілі ехаць. Раілі хаця б адкласьці на месяц-паўтара, пакуль не закончыцца прыём курсу лекаў. Мы ня раілі яму, але ён настойваў, казаў, што два курсы перанёс абсалютна нармальна, бяз значных пабочных эфэктаў, толькі былі млосьць ды лёгкая слабасьць. Ён сказаў: «Я пераношу гэта вельмі добра», сказаў, што будзе інфармаваць па тэлефоне, як усё ідзе, абяцаў, што больш за тыдзень там не затрымаецца. У нас зь ім была дамоўленасьць, у яго былі зваротныя квіткі на самалёт.*
*Дарэчы, мы зноў жа яго адгаворвалі ляцець самалётам. Ягоныя аргумэнты былі, што добрае, нармальнае самаадчуваньне, слабасьць ёсьць, але ня вельмі. Таму вырашыў ляцець самалётам, каб не зацягваць час на дарогу, каб праз пару гадзінаў быць там. Білеты зваротныя былі, і я павінен быў сустракаць яго ў аэрапорце.*

Але вяртаньне ў Прагу, як вядома, было адкладзена — узьнікла праблема з прапіскай. І, нават атрымаўшы ў Менску новы пашпарт для Ірыны Міхайлаўны, Быкавы не маглі вярнуцца ў заплянаваны час, бо ў пашпарт гэты патрэбная была чэская віза. Такім чынам, вярнуцца ў Прагу, дзе быў заплянаваны чарговы курс лячэньня, Быкаў ня мог.

С.Юрчанка: *Калі ён даказаў сваю рашучасьць ехаць у Беларусь, у Менск, тады мы, канечне, зрабілі ўсё магчымае, каб забясьпечыць... Ведаеце, заўсёды лекар падазрае, што хай сабе два курсы хіміятэрапіі, два тыдні пацыент перанёс добра, але на трэці тыдзень можа нешта пагоршыцца. Таму мы спадзяваліся на супрацоўніцтва. Мы самі раілі яму зьвярнуцца ў выпадку вострай неабходнасьці ў Бараўляны, але толькі ў выпадку вострай неабходнасьці. Калі ёсьць магчымасьць — вяртацца сюды, каб працягваць лячэньне.*
*На выпадак, калі б ён зьвяртаўся там да лекараў, мы далі яму выпіску, у якой былі дыягназ, дозы прызначаных лекаў хіміятэрапэўтычных. І самае галоўнае, яны для высьвятленьня неабходных падрабязнасьцяў заўсёды маглі з намі скантактавацца. Мы далі кантакты мэдыкаў, якія пасьля апэрацыі яго лячылі. Там быў адрас электроннай пошты, тэлефон. На жаль, ніхто нам не патэлефанаваў, ніхто нам не напісаў. Што нас, канечне, вельмі зьдзівіла.*
*Зразумела, што кожны шпіталь, кожны ўнівэрсытэт прытрымліваецца нейкай школы. Але я магу сказаць, што наш унівэрсытэцкі шпіталь у «Motol» — адзін з найсучасьнейшых, і лекары, якія тут працуюць, пастаянна бываюць на кангрэсах, на стажыроўках і ў Амэрыцы, у Англіі, і дзе заўгодна. І ўсё новае тут успрымаецца, ніякіх абмежаваньняў фінансавых на набыцьцё прэпаратаў ці абсталяваньня тут практычна не існуе. Тут выкарыстоўваюць самыя перадавыя мэтодыкі.*
*Можа быць, гэта адрозьніваецца крыху, альбо вельмі адрозьніваецца ад ужо звыклых мэтодык, якія ўжо гадамі існавалі ў Менску. Натуральна, што там нехта зь лекараў мог бы не пагаджацца з тым, што мы робім*

*тут. Нехта можа і ня ведаць, што тут робіцца, гэта таксама зусім натуральна. І таму, канечне ж, мы разьлічвалі на звычайны кантакт з калегамі.*

Аднак ніхто зь менскіх лекараў на кантакт з праскімі калегамі падчас знаходжаньня Быкава ў Бараўлянах не выходзіў. Ня выйшаў і потым. Затое прагучаў папрок, што Быкава ў Празе не даглядалі. Вось што сказаў у перадачы Беларускага тэлебачаньня «Панарама» на наступны дзень пасьля сьмерці Быкава, 23 чэрвеня 2003 году, дырэктар НДІ ў Бараўлянах Іосіф Залуцкі: «Его прооперировали 7 марта (на самай справе 27 сакавіка. — **Рэд.**) в Чехии. Он получил два курса химиотерапии, но никто за ним не наблюдал, курсы оказались неэффективными. Мы в таком случае всегда смотрим за больным». Да гэтых словаў аўтар тэлерэпартажу дадаў, што «Лекары адзінага ў краіне аддзяленьня інтэнсіўных мэтадаў лячэньня, дзе знаходзіўся Васіль Быкаў, таксама шкадуюць, што час быў страчаны».

С.Юрчанка: *Хацелася б запрасіць гэтых людзей сюды, каб яны паглядзелі на самае сучаснае ў Чэскай Рэспубліцы аддзяленьне анэстэзіялёгіі і рэанімацыі, дзе Быкава даглядалі цягам практычна ўсяго першага тыдня. Потым паглядзелі б на клініку хірургіі прафэсара Пайкі, дзе Быкаў быў пасьля рэанімацыі, у аддзяленьні інтэнсіўнай тэрапіі. І каб пазнаёміліся зь лекарамі, якія яго глядзелі. Ну і анколягі, якія амбуляторна яго глядалі, мая жонка ў аддзяленьні для замежнікаў за ім таксама сачыла. Езьдзілі мы да яго і да хаты, і ён прыяжджаў на аналізы да нас праз пэўныя інтэрвалы. Калі гэтага ўсяго недастаткова, я ня ведаю, што павінна быць яшчэ.*
*Я думаю, што якая-небудзь ацэнка з майго боку дзеяньняў беларускіх лекараў неправамоцная. Але... І якая-небудзь ацэнка дзеяньняў дзясяткаў чэскіх лекараў — людзьмі, якія нават з элемэнтарнага мэдычнага гледзішча не паклапаціліся даведацца пра працэс хваробы тут, што тут рабілася з моманту звароту Быкава ў лютым да ад'езду ў Менск... Гэта проста з этычнага боку, з мэдычнага боку — гэта абразьліва ў дачыненьні да тых лекараў, якія тут сапраўды (дзясяткі чэскіх лекараў!) імкнуліся зрабіць усё магчымае. І лекары гэтыя — вельмі высокага ўзроўню.*
*Інфармацыя пра тое, што ён хворы, што зробленая апэрацыя, была раней, яшчэ ўвесну. І ў той час ніякай цікавасьці альбо прапановы дапамогі з боку беларускіх лекараў не было. І ніякіх водгукаў і крытыкі. А потым гэта ўсё абрынулася, нібыта па камандзе.*

Мэтад лячэньня, прызначаны Васілю Ўладзімеравічу ў Бараўлянах, кардынальна адрозьніваўся ад таго, што было ў Празе, дзе ён адчуваў сябе адносна няблага. Самае большае, чаго баяліся праскія лекары — што ў Менску будзе прымененая хіміятэрапія не праз таблеткі, а праз кропельніцу «Ён яе не перанясе», — сказаў мне Сяргей Юрчанка яшчэ ў сярэдзіне чэрвеня 2003 году, калі даведаўся, што Быкаў у Бараўлянах. Але ў Бараўлянах прымянілі менавіта яе.

С.Юрчанка: *Я не бяруся абмяркоўваць альбо асуджаць дзеяньні лекараў у Беларусі і тое, што рабілася пасьля прыезду Васіля Ўладзімеравіча ў Менск. Гэта, я думаю, яшчэ надоўга застанецца таямніцай альбо, ва ўсялякім разе, незразумелым. Бязь нейкіх фактаў альбо без гісторыі хваробы я, як лекар, навогул не магу пра гэта казаць. Але ў той жа час якраз зьдзіўляе рэакцыя беларускіх мэдыкаў на правільнасьць альбо няправільнасьць лячэньня тут.*
*Нармальна для кожнага лекара — спачатку высьветліць анамнэз, гісторыю хваробы. Таму вельмі дзіўныя і вельмі незразумелыя паводзіны лекараў, якія мелі ў руках тэлефоны, кампутарны адрас лекараў тутэйшых, і не пацікавіліся ніякімі нават здымкамі, кампутарнай тамаграфіяй. Прайшоў жа месяц-другі, і можна было б нешта параўнаць. Гэта вельмі зьдзіўляе і, канечне, на-*

*водзіць на думку, што гэта проста нейкае палітычнае асьляпленьне, але ні ў якім разе ня дзеяньні нармальнага лекара, які б ніколі так не зрабіў.*

Яшчэ калі Васіль Уладзімеравіч быў жывы, я даведаўся пра адну размову, якая калі не канчаткова, дык у значнай ступені патлумачыла тое, што рабілася вакол Быкава ў апошнія тыдні. Да дня нараджэньня Васіля Ўладзімеравіча я напісаў невялікі артыкул, і 16 чэрвеня размаўляў з галоўным рэдактарам «Народнай Волі» Іосіфам Сярэдзічам (пазьней я папрасіў Іосіфа Паўлавіча паўтарыць свае словы для запісу):

І.Сярэдзіч: *Літаральна на наступны дзень пасьля вяртаньня Васіля Быкава з Прагі ў Менск я сустрэўся з адным добрым знаёмым, чыноўнікам высокага рангу, які ў найбліжэйшым атачэньні Лукашэнкі. І вы ведаеце, я заўважыў проста, як ён, паціраючы рукі, сказаў, што «я вось пераконваў, усе пагадзіліся», і менавіта толькі дзякуючы яму і найбліжэйшаму атачэньню Лукашэнкі Васіль Быкаў «зьявіўся паміраць» — менавіта «паміраць» — на радзіму. Таму што — ён так і сказаў: «ты ж ведаеш, калі б Васіль Быкаў памёр у Празе, як бы яго сустракала ўся грамадзкасьць на чыгуначным вакзале альбо ў аэрапорце, калі б самалётам, гэта вылілася б у вялікую, можа, маніфэстацыю. А тут — ён прыехаў, сам памёр, усё спакойна».*

Заўважым, што гэтыя словы высокапастаўлены чыноўнік лукашэнкаўскай адміністрацыі сказаў на наступны дзень пасьля прыезду Васіля Ўладзімеравіча ў Менск — калі Быкаў яшчэ ня ведаў, што яго чакае і не плянаваў класьціся ў Бараўляны.
Аднак менавіта ў сьмерці Быкава рэжым бачыў сваю перамогу. І — прысьпешыў яе.

*Ліпень 2003 — красавік 2005*



## ПАСЬЛЯСЛОЎЕ

Першае выданьне кнігі выйшла ў 2004 годзе, яе прэзэнтацыя адбылася ў менскім Доме літаратара 20 траўня. «У гэтай кнізе што і асаблівае, што захавана гучаньне. Я чую яе — не чытаю яе, а слухаю гэтую кнігу... Карацей кажучы, сэрцам слухаю», — гэтак Рыгор Барадулін вызначыў адметнасьць быкаўскай радыёпубліцыстыкі.
Ідэя кнігі ўзьнікла яшчэ пры жыцьці Быкава; у студзені 2003 году яна абмяркоўвалася з Васілём Уладзімеравічам у агульных рысах; тады ж пачаўся і збор матэрыялу. Але складаць кнігу давялося ўжо пасьля сьмерці пісьменьніка. Імя Васіля Быкава пачало гучаць на хвалях «Свабоды» яшчэ ў 1960-я гады, калі ягоныя творы набылі прызнаньне ў сьвеце.
У 1965 годзе супрацоўнікі «Свабоды» самым непасрэдным чынам паспрыялі таму, каб быкаўскае слова дайшло да чытача ў нескажоным выглядзе — у Мюнхэне, дзе разьмяшчалася штаб-кватэра «Свабоды», была выдадзеная ў непадцэнзурным варыянце аповесьць «Мёртвым не баліць». Ні выдавецкіх зьвестак, ні накладу ў выданьні не пазначана. Цяжка сказаць таксама, колькі асобнікаў трапіла ў Беларусь — сам Васіль Быкаў даведаўся пра выданьне толькі ў апошнія гады жыцьця.
Сваіх карэспандэнтаў у Беларусі радыё тады ня мела і інфармацыю брала пераважна з афіцыйных савецкіх крыніцаў — як партыйных газэтаў, так і літаратурна-мастацкіх часопісаў.
У сьнежні 1966 году ў савецкім друку зьявіўся ліст «Ня вам беларусамі звацца», падпісаны прозьвішчамі васьмёх беларускіх пісьменьнікаў, у тым ліку і В.Быкава. Ліст быў вытрыманы ў традыцыйных савецкіх штампах.

Скіраваны супраць прадстаўнікоў дыяспары, ён ня меў канкрэтнага адрасата (Радыё Свабода там навогул не фігуравала) — але ў тэксьце згадваліся некаторыя аўтары радыё. Да напісаньня гэтага ліста Быкаў ня меў ніякага дачыненьня, але подпіс, як нам удалося высьветліць, сапраўды паставіў. Ліст жа савецкіх пісьменьнікаў супраць Андрэя Сахарава і Аляксандра Салжаніцына, які надрукавалі 1 верасьня 1973 году ў органе ЦК КПСС газэце «Правда» і пад якім таксама стаіць прозьвішча Быкава, пісьменьнік не падпісваў — пра свой «подпіс» ён даведаўся з тэлевізійнай перадачы і тады ж скіраваў пратэст у ЦК КПСС з нагоды скарыстаньня ягонага імя.
У 1967 годзе Быкаў далучыў свой подпіс да ліста Аляксандра Салжаніцына, адрасаванага IV зьезду Саюзу пісьменьнікаў СССР — ліст гэты не друкаваўся ў савецкім друку, але хадзіў у самвыдаце і абмяркоўваўся на хвалях «Свабоды» ды ў заходніх СМІ.
У «свабодаўскай» перадачы 1 кастрычніка 1971 году літаратурны крытык, супрацоўнік нью-ёрскага бюро «Свабоды» Станіслаў Станкевіч, аналізуючы працэс дэсталінізацыі ў беларускім грамадзтве за часам Хрушчова, адзначаў: «Цяглы і сыстэматычны працэс вызваленьня літаратуры зь ейнае службовае ролі партыі, ейны зварот да паўнакроўнага і шырокага адлюстраваньня жыцьця, да разгляданьня літаратурнага мастацтва перш-наперш як мастацтва зь ягонымі апрычонымі й незалежнымі эстэтычнымі функцыямі зазначыўся ў Беларусі адно на парозе 1960-х гадоў. У пляне дэсталінізацыі пачалася тады й рэабілітацыя нацыянальнае існасьці літаратуры, ейны зварот да народных вытокаў і да рэвалюцыйнае спадчыны, да нацыянальнага беларускага патрыятызму... Найбольшы размах дэсталінізацыі й разам зь ім найвышэйшы творчы ўздым мелі месца ў беларускай літаратуры на





працягу ўсяе першай паловы 1960-х гадоў. У гэтым пэрыядзе зьявіліся ў жанры беларускае мастацкае прозы такія выдатныя аповесьці й раманы, як «Людзі на балоце» й «Подых навальніцы» Івана Мележа, «Нельга забыць», «Дзікае паляваньне караля Стаха» й «Каласы пад сярпом тваім» Уладзімера Караткевіча, «Трэцяя ракета», «Альпійская баляда» й «Мёртвым не баліць» Васіля Быкава...»
З канца 1980-х гадоў пачалі гучаць і быкаўскія інтэрвію з ацэнкай палітычных падзеяў у Беларусі, у тагачасным СССР і ў сьвеце.
Для разуменьня палітычнага і культурніцкага кантэксту быкаўскай публіцыстыкі трэба вызначыць часавыя межы і этапы апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэньня. Пачаткам можна лічыць 1988 год — ад публікацыі артыкулу З.Пазьняка і Я.Шмыгалёва «Дарога ў Курапаты» ў ліпені і ўтварэньня Аргкамітэту БНФ «Адраджэньне» ў кастрычніку (у абедзьвюх падзеях Быкаў адыграў вызначальную ролю) — да «рэфэрэндуму» ў траўні 1995 году, калі былі скасаваныя дзяржаўнасьць нацыянальных сымбаляў і статус беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай. Гэты пэрыяд мае свае этапы. Так, на працягу адносна кароткага часу прадстаўнікі нацыянальнага руху ў найвышэйшым органе заканадаўчай улады маглі, хай і даволі абмежавана, спрыяць беларусізацыі грамадзкага, культурніцкага жыцьця краіны і нават дзяржаўных установаў — з пачаткам працы Вярхоўнага Савету 12 скліканьня ў траўні 1990 і больш плённа — з аднаўленьня незалежнасьці ў жніўні 1991 і да абраньня прэзыдэнтам Аляксандра Лукашэнкі ў ліпені 1994. Менавіта ў гэтыя два-тры гады былі пераведзеныя на беларускую мову існыя адукацыйныя ўстановы і створаныя новыя; школьныя праграмы былі ачышчаныя ад праімпэрскіх камуністычных стэрэатыпаў, былі

надрукаваныя дасьледаваньні гісторыкаў, зьявіліся новыя беларускія газэты і часопісы, а на міжнароднай арэне Беларусь пачала ўспрымацца як дзяржава з даўняй гісторыяй і багатай культурай. Быкаў вітаў гэтыя зьмены і адначасна выказваў сумневы ў іх незваротнасьці. Гэты пэсымізм меў рэальны грунт: апазыцыя БНФ не складала нават дзясятай часткі парлямэнту, у бальшыні ж дэпутатаў пракамуністычныя погляды спалучаліся зь непрыманьнем самой ідэі беларускага Адраджэньня. Фактычна, Беларусь была адзінай посткамуністычнай краінай на абшарах былога СССР і Ўсходняй Эўропы, дзе найвышэйшы заканадаўчы орган знаходзіўся пад кантролем тых, хто адмаўляў і дзяржаўнасьць краіны, і дзяржаўнасьць мовы тытульнай нацыі. Бязь веданьня гэтага парадоксу гісторыі нашчадкам будзе цяжка зразумець шмат якія публіцыстычныя выступы Быкава пачатку 1990-х гадоў.
Шмат якія падзеі найноўшай беларускай гісторыі знаходзілі сваё адлюстраваньне і асэнсаваньне ў публіцыстычных выступах Быкава. Іх было даволі шмат, часам некалькі дзясяткаў на год, як артыкулы, так і інтэрвію — на радыё, у газэтах (часам ня толькі менскіх, але і маскоўскіх). Сам Быкаў надаваў вялікае значэньне публіцыстыцы, пра гэта сьведчыць і тое, што некаторыя выступы ён уключыў у апошні прыжыцьцёвы збор твораў (1992—1994). Выдаваліся і асобныя зборнікі.
Прыкметна, што пасьля лістапада 1996 году, калі А.Лукашэнка правёў антыканстытуцыйны пераварот, быкаўская публіцыстыка са старонак беларускіх газэтаў зьнікае. Пасьля выезду ў замежжа ў 1998 годзе Быкаў зьвяртаецца да суайчыньнікаў выключна праз Радыё Свабода.
У гэтай кнізе зьмешчана ня ўсё, што гучала, бо, на жаль, сам архіў рэдакцыі далёка ня поўны (сыстэмна аўдыёархіў Беларускай службы пачаў складацца толькі





ў канцы 1995 году). Напрыклад, мы знайшлі толькі адно інтэрвію Быкава 1991 году — у асабістым архіве ўкладальніка кнігі захавалася некалькі экзэмпляраў так званага «радыёперахопу» перадачаў «Свабоды», якія рабіўся адмысловай сакрэтнай службай для найвышэйшых кіраўнікоў і рассылаўся ў ЦК, Савет Міністраў, кіраўніцтву КГБ. У адным з такіх экзэмпляраў, накіраваных старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусі, зьмешчанае інтэрвію Быкава. Трэба меркаваць, у «радыёперахопах» былі і іншыя быкаўскія інтэрвію, і застаецца спадзявацца, што ў пэўных установах усьведамляюць каштоўнасьць гэтых дакумэнтаў для гісторыі.
Кніга пераважна складалася паводле аўдыёзапісаў перадачаў, рабочых аўдыёзапісаў, а таксама тэкстаў, якія былі зьмешчаныя на сайце Беларускай «Свабоды» www.svaboda.org
Друкуюцца і некаторыя інтэрвію іншым службам «Свабоды» (гутаркі на Расейскай службе падаюцца на мове арыгіналу).
У кнігу не ўвайшлі літаратурныя творы Быкава, якія гучалі на «Свабодзе», а таксама ягоныя ўспаміны «Доўгая дарога дадому», якія Васіль Уладзімеравіч на працягу сарака перадачаў чытаў у эфіры. Успаміны гэтыя, дарэчы, былі напісаныя ў значнай ступені дзякуючы настойлівым просьбам супрацоўнікаў Беларускай «Свабоды».
Словы Быкава ў ягоных інтэрвію і камэнтарах падаюцца так, як яны прагучалі па «Свабодзе»; ніякіх скарачэньняў не рабілася. Наадварот — калі ўдавалася знайсьці арыгінал рабочага запісу, быкаўскія словы ў кнізе падаваліся менавіта згодна з арыгіналам. Часам такія аднаўленьні былі вельмі істотныя, як у выпадку з адным з апошніх інтэрвію Быкава для перадачы «Праскі акцэнт», дзе было яшчэ некалькі ўдзельнікаў — у эфіры

прагучала толькі частка быкаўскіх выказваньняў, а ў кнізе падаецца поўны запіс інтэрвію. Меркаваньні іншых удзельнікаў перадачы не прыведзеныя, бо яны запісваліся асобна ад Быкава. Тое ж тычыцца і некаторых іншых перадачаў — напрыклад, перадачы, прысьвечанай Міхаілу Гарбачову. Але там, дзе Быкаў непасрэдна браў удзел у дыскусіі, падаюцца і меркаваньні ягоных суразмоўцаў.
Звычайна слухачы чулі камэнтары Быкава, зробленыя адмыслова для «Свабоды». Але часам гучалі і пераказы некаторых публікацыяў Быкава ў друку. Да прыкладу, у 1995 годзе ў прэсе зьявіўся артыкул «Камунафашызм — новая выбуховая сумесь» (пазьней ён увайшоў у кнігу публіцыстыкі Васіля Быкава «Крыжовы шлях» пад назвай «Чырвона-карычневыя»). На «Свабодзе» ён прагучаў у студзені 1996-га ў пераказе нашага нью-ёрскага карэспандэнта — зразумела, са скарачэньнямі, якіх вымагае спэцыфіка радыйнага жанру. У кнізе матэрыял зьмешчаны менавіта так, як ён прагучаў у эфіры, як яго пачулі слухачы і сам Быкаў.
У кнізе падаюцца рэпартажы аб падзеях, у якіх удзельнічаў ці да якіх меў непасрэднае дачыненьне Быкаў, што дазваляе ўявіць грамадзка-палітычны альбо літаратурны кантэкст; некаторыя рэпартажы падаюцца ў фрагмэнтах, але скарачэньні ў такіх выпадках тычацца не зьвязаных з Быкавым эпізодаў і не закранаюць сутнасьці падзеяў.
Мы, аднак, палічылі патрэбным даць поўны тэкст перадачы з цыклю «Вострая Брама», якая была прысьвечаная магчымаму прысуджэньню Нобэлеўскай прэміі беларускаму аўтару, таму што ў перадачы выразна адлюстраваныя настроі й чаканьні беларускага грамадзтва, зьвязаныя найперш зь імем Быкава.
Інтэрвію і камэнтары Быкава пазначаныя той датай, калі яны ўпершыню прагучалі ў эфіры і былі пачутыя слухачамі «Свабоды». Зьмешчаныя ў кнізе тэксты ахопліваюць вялікае кола падзеяў і імёнаў, што натуральна, калі гаворка ідзе пра асобу такога мастакоўскага і грамадзкага гучаньня, як Быкаў.
Некаторыя падзеі і тэрміны, якія былі зразумелыя ў свой час, цяпер вымагаюць камэнтару. Разумеючы, што дасьледаваньне быкаўскай публіцыстыкі наперадзе, мы імкнуліся пазбавіць чытача неабходнасьці зьвяртацца да энцыкляпэдычных ці адмысловых выданьняў. У іменным паказьніку падаецца асноўны род заняткаў, а таксама пасада асобы на момант, калі яна прыгадваецца ў кнізе.
Большасьць фатаздымкаў друкуецца ўпершыню. Гэтак сама, як і факсыміле некаторых лістоў Васіля Ўладзімеравіча, якія даюць уяўленьне пра ягонае стаўленьне да Радыё Свабода.

С. 10. *...фактычнай самастойнасьці яшчэ няма — і невядома, калі яна будзе...* — Інтэрвію запісвалася да падпісаньня Віскулёўскага пагадненьня аб дэнансацыі СССР 8 сьнежня 1991 г. і яго ратыфікацыі Вярхоўным Саветам Беларусі 10 сьнежня 1991 г.

С. 11. *...распусьціць Вярхоўны Савет і правесьці новыя выбары на шматпартыйнай аснове.* — Прапанова была вылучаная Беларускім Народным Фронтам на надзвычайнай сэсіі Вярхоўнага Савету ў жніўні 1991 г.

С. 21. *...імітацыю ўважаў за сур'ёзную справу, браў у ёй удзел аж да моманту прыняцьця на Вярхоўным Савеце пастановы «Аб увядзеньні ў дзеяньне «Закону аб мовах».* — Закон быў прыняты Вярхоўным Саветам 11 скліканьня 26 студзеня 1990 г.

С. 21. *...упершыню ў гісторыі беларускага Вярхоўнага Савету па-беларуску загаварыў яго старшыня...* — Маецца на ўвазе Станіслаў Шушкевіч.

С. 28. *...сярод сотняў віншавальных тэлеграмаў не было прывітаньняў ад старшыні парлямэнту і кіраўніка ўраду.* — У чэрвені 1994 г. старшынём Вярхоўнага Савету Беларусі быў Мечыслаў Грыб, старшынём Савету Міністраў — Вячаслаў Кебіч.

С. 33. *...як адмыслова выказаўся ў Менску небезьвядомы ўсім «сын рускай і юрыста».* — Гэтак назваўся ў адным інтэрвію старшыня Лібэральна-дэмакратычнай партыі Расеі Ўладзімер Жырыноўскі.

С. 53. *І калі Гарбачоў паехаў у Рэйк'явік на сустрэчу з Рэйганам...* — Сустрэча лідэраў СССР і ЗША адбылася ў кастрычніку 1986 г. у ісьляндзкім Рэйк'явіку і паклала пачатак працэсу раззбраеньня і спыненьня халоднай вайны.

С. 62. *...самая галоўная праблема... вырашыцца ў другім туры...* — У другім туры прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі ў ліпені 1996 г. Барыс Ельцын перамог камуніста Генадзя Зюганава і быў пераабраны прэзыдэнтам.

С. 66. *Калі Ілюхін у Маскве агучыў пэўныя пляны...* — 25 ліпеня 1996 г. старшыня Камітэту ў справе нацыянальнай бясьпекі Дзяржцумы Расеі Віктар Ілюхін заявіў на прэсавай канфэрэнцыі пра «змову ЦРУ супраць Беларусі», мэта якой — нібыта выклікаць палітычныя страйкі, акцыі вулічнага супрацьстаяньня, у выніку якіх «плянуецца забойства аднаго ці двух лідэраў нацыянальнага руху Беларусі, якім адводзіцца роля пакутнікаў, а арганізатарам забойства будзе абвешчаны прэзыдэнт Лукашэнка» (газэта «Свабода», 30 ліпеня 1996 г.).

С. 125. *...прадстаўнікам францускае амбасады дазволена ўпершыню наведаць Драздзы, сваю рэзыдэнцыю.* — У 1998 г. амбасадары шэрагу заходніх краінаў былі выселеныя са сваіх рэзыдэнцыяў у Драздах, дзе месьцілася і афіцыйная рэзыдэнцыя Аляксандра Лукашэнкі.





С. 128. *...спроба Барыса Мікалаевіча Ельцына ўратавацца ад імпічмэнту...* — Камуністы ў Дзяржцуме Расеі на працягу 1996—1999 гг. неаднаразова ставілі пытаньне пра імпічмэнт прэзыдэнту і ягоную адстаўку з прычыны слабога здароўя (у лістападзе 1998 г. для рашэньня не хапіла пяці галасоў).

С. 130. *...вядомыя падзеі ў Тбілісі ці ў Рызе...* — У красавіку 1989 г. падразьдзяленьні Савецкай Арміі разагналі мітынг у Тбілісі, некалькі чалавек былі забітыя сапэрнымі рыдлёўкамі; у студзені 1991 г. у Вільні і ў Рызе дзеяньні КГБ і МУС СССР супраць прыхільнікаў незалежнасьці Літвы і Латвіі таксама прывялі да чалавечых ахвяраў.

С. 130. *...вядомай змовы Рыбэнтропа-Молатава.* — На зьезьдзе народных дэпутатаў СССР у чэрвені 1989 г. была ўтвораная адмысловая камісія для вывучэньня сакрэтных пратаколаў (дадатку да савецка-нямецкай Дамовы 23 жніўня 1939 г. аб ненападзеньні), якія падзялялі сфэры ўплыву паміж Сталіным і Гітлерам. Факт існаваньня сакрэтных пратаколаў упершыню згадваўся на Нюрнбэрскім працэсе ў 1946 г., аднак на працягу дзесяцігодзьдзяў савецкая гістарыяграфія іх наяўнасьць адмаўляла. У сьнежні 1989 г. Другі зьезд народных дэпутатаў СССР прызнаў існаваньне пратаколаў.

С. 130. *...імпэрская партыя і яе славуты «шосты артыкул» Канстытуцыі.* — Гэты артыкул Канстытуцыі СССР замацоўваў «кіроўную ролю» КПСС у вызначэньні ўнутранай і замежнай палітыкі. Ягоная адмена была адным з патрабаваньняў дэмакратычных сілаў; скасаваны ў сакавіку 1990 г.

С. 130. *Гарантам неімпэрскай будучыні тады здаваўся высокі шызавалосы гігант...* — Маецца на ўвазе Барыс Ельцын, у той час адзін з кіраўнікоў міжрэгіянальнай дэпутацкай групы, куды ўваходзіў і Васіль Быкаў.

С. 280. *...калі прыходзіць замест выдатнага пісьменьніка Алеся Жука... крыклівая, віскілівая баба...* — На загад Міністэрства інфармацыі ў лютым 2002 г. рэдакцыі літаратурна-мастацкіх часопісаў былі аб'яднаныя ў «рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову «Літаратура і мастацтва» (якая называлася таксама «холдынгам»), галоўныя рэдактары выданьняў былі замененыя на ляяльных да ўлады асобаў: замест Сяргея Законьнікава быў прызначаны Мікола Мятліцкі («Полымя»), замест Алеся Жука — Ніна Чайка («Нёман»), замест Алы Канапелькі — Вячаслаў Дашкевіч («Крыніца»), замест Генрыха Далідовіча — Раіса Баравікова («Маладосць»). Кіраўніком выдавецкай установы быў прызначаны Сяргей Касьцян.

С. 288. *...вы тады прапанавалі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».* — Маецца на ўвазе накіраваны ў лістападзе 1991 г. ліст у Вярхоўны Савет з прапановай прыняць у якасьці дзяржаўнага гімн на словы Макара Краўцова. Ліст падпісалі Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч і Рыгор Барадулін.

С. 310. *...Чэхія выразна акрэсьліла сваё стаўленьне да Беларусі й паказала, каго тут не чакаюць...* — У лістападзе 2002 г. Чэхія адмовілася выдаць візу Аляксандру Лукашэнку дзеля наведваньня праскага саміту НАТО з удзелам палітычных лідэраў сьвету.

С. 321. *...узнавіць даўнюю традыцыю Масарыкавай рэспублікі.* — Падчас прэзыдэнцтва Томаша Гарыга Масарыка (1918—1935) у праскіх унівэрсытэтах





вучылася шмат беларускіх студэнтаў, чэскі ўрад даваў ім стыпэндыю.

С. 335. *...якім было б стаўленьне Адамовіча да цяперашняй іракскай вайны?* — Маецца на ўвазе вайсковая апэрацыя ЗША і Вялікабрытаніі ў Іраку ў сакавіку-красавіку 2003 г., у выніку якой быў зьліквідаваны рэжым Садама Хусэйна.

С. 446. *...цырымонію вялі Саюз пісьменьнікаў, Партыя БНФ і некаторыя іншыя арганізацыі.* — Арганізацыю пахаваньня Васіля Быкава ўзялі на сябе прадстаўнікі ПЭН-цэнтру, Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ і Партыі БНФ.

С. 456. *...міліцыя адмыслова стварала заторы на праспэкце Скарыны і замінала пахавальнай працэсіі.* — У некаторых месцах міліцыя спрабавала перашкодзіць руху жалобнай калёны, адмыслова скіроўваючы на праспэкт аўтамабілі з суседніх вуліцаў. У інтэрвію «Свабодзе» мянчанка Сьвятлана Гаеўская распавяла: «Мы знаходзіліся недзе на Казлова, калі спрабавалі калёну сьціснуць, і побач праходзілі даішнікі, якія кіравалі рухам аўтамабіляў. І ня тое слова, што яны проста накіроўвалі машыны на праспэкт, яны казалі ў рацыі: «Побольше машин! Побольше машин на проспект!» Гэта вельмі нас тады ўразіла».

С. 483. *І вось ён аднойчы даслаў мне ліст...* — Зварот да генэральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова супраць дыскрымінацыі беларускай мовы ў сьнежні 1986 г. падпісалі 28 прадстаўнікоў інтэлігенцыі, у тым ліку і Васіль Быкаў. Выніку, на які спадзяваліся аўтары, ліст ня даў. Масква скіравала ў Менск адмысловую камісію, падпісантаў выклікалі ў ЦК кампартыі Беларусі

і прапаноўвалі адмовіцца ад подпісу, але ніхто гэтага не зрабіў.

С. 488. *Адразу пасьля пахаваньня ў незалежнай газэце зьявіўся артыкул...* — Артыкул Андрэя Дынька «Большы за Коласа» надрукаваны 27 чэрвеня 2003 г. у газэце «Наша Ніва».

С. 505. *...асабліва калі мець на ўвазе алмацінскія падзеі.* — У сьнежні 1986 г. група моладзі выйшла на вуліцы Алматы на знак пратэсту супраць прызначэньня кіраўніком Казахстану чалавека з Масквы, дзеля абароны казаскай мовы і нацыянальных каштоўнасьцяў. Дэманстрацыя была жорстка задушаная падразьдзяленьнямі КГБ, войска і міліцыі. Паводле грамадзкай камісіі з удзелам народных дэпутатаў, былі забітыя дзясяткі чалавек. У маскоўскай прэсе зьявіліся абвінавачаньні, што шэсьце справакавалі «па-экстрэмісцку настроеныя нацыяналістычныя элемэнты». Са словаў Зянона Пазьняка, у красавіку 1988 г. кіраўніцтва ЦК КПБ на Ўсходніх могілках рыхтавала аналягічную акцыю, у выніку якой нацыянальны і дэмакратычны рух у Беларусі павінен быў быць спынены.

С. 514. *...гэта выявілася на працэсе, які Канстытуцыйны суд вяршыў над КПСС.* — З 26 траўня да 30 лістапада 1993 г. Канстытуцыйны суд Расейскай Фэдэрацыі разглядаў справу аб канстытуцыйнасьці ўказаў прэзыдэнта Расейскай Фэдэрацыі аб забароне КПСС і кампартыі Расеі. Было вынесена рашэньне, якое ў хуткім часе дазволіла аднавіць дзейнасьць кампартыі.

С. 514. *...тое ж будзе і з апошнімі «героямі» мяцяжу Хасбулатава і Руцкога...* — У кастрычніку 1993 г. у Маскве падчас супрацьстаяньня прэзыдэнта Расеі Ельцына і кіраўніцтва Вярхоўнага Савету былі забітыя





некалькі дзясяткаў (па іншых зьвестках — некалькі сотняў) чалавек. Старшыня Вярхоўнага Савету Хасбулатаў і віцэ-прэзыдэнт Руцкой, а таксама некаторыя іншыя арганізатары мяцяжу былі арыштаваныя, але затым крымінальная справа была спыненая.

С. 517. *...тое, што адбываецца ў Беларусі зь літаратурай, я маю на ўвазе канкрэтны літаратурны твор Сьвятланы Алексіевіч — «Цынкавыя хлопчыкі»...* — Удзельнік савецкай інтэрвэнцыі ў Аўганістане і маці аднаго з загінулых савецкіх салдат падалі ў суд пазоў да пісьменьніцы Сьвятланы Алексіевіч аб абароне гонару і годнасьці, бо пабачылі ў кнізе «Цынкавыя хлопчыкі» скажэньне фактаў. Суд Цэнтральнага раёну Менску з 19 студзеня да 8 сьнежня 1993 г. разглядаў пазоў і часткова яго задаволіў, двойчы адхіліўшы хадайніцтвы абаронцаў Алексіевіч аб правядзеньні літаратуразнаўчай экспэртызы.

С. 573. *...Дачыненьні Быкава і Салжаніцына, напачатку вельмі прыязныя, ужо не аднавіліся...* — Зьвесткі пра тое, што Быкаў не падпісваў ліст супраць Салжаніцына і Сахарава, а таксама тэксты Быкава пра Салжаніцына, зьмешчаныя ў гэтай кнізе, укладальнік летам 2004 г. перадаў Аляксандру Салжаніцыну. У адказ Салжаніцын сказаў, што ведае пра акалічнасьці зьяўленьня таго ліста і што не трымае на Быкава ніякай крыўды.

*Мы выказваем удзячнасьць Ірыне Міхайлаўне Быкавай, Уладзімеру Арлову і Рыгору Барадуліну за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтай кнігі, а таксама Генадзю Бураўкіну і Зянону Пазьняку за лісты Васіля Быкава.*

*Сяргей Навумчык*

## ПАКАЗЬНІК АСОБАЎ

### А



### Б

## В

## Г



## Д

## Е



## Ж



## З



## І

## К

## Н



## О



## П

## Р



## С

## Т



## У



## Ф



## Х



## Ц

## ЗЬМЕСТ



У кабінэце кватэры на Танкавай у Менску







Аляксандар Лукашук запісвае выступ Васіля Быкава

З журналістамі й літаратарамі падчас канфэрэнцыі ПЭН-цэнтру ў Іслачы: Галіна Прыгара, Павал Шарамет, Валянцін Жданко, Віталь Цыганкоў, Васіль Быкаў, Чэслаў Сэнюх, Дзьмітры Бугаёў. Верасень 1995

За пісьмовым сталом









У тэлестудыі перад жывым эфірам кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі Зянона Пазьняка: Уладзімер Заблоцкі, Зянон Пазьняк, Васіль Быкаў, Вінцук Вячорка. Менск, чэрвень 1994

Ля будынку КГБ. Менск, Дзяды-95

Падчас імправізаванага мітынгу ў сквэры Янкі Купалы, калі калёну вэтэранаў-сяброў БНФ не прапусьцілі да помніка Перамогі. Менск, 3 ліпеня 1994









Дэлегаты зьезду Беларускага Народнага Фронту: Сяргей Навумчык, Уладзімер Арлоў, Лявон Дзейка, Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Лявон Баршчэўскі, Мікалай Крыжаноўскі. Менск, 1995

Прамова на 4-м зьезьдзе Беларускага Народнага Фронту. Менск

Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк, а. Міхал Сапель на сьвяце ў гонар каранацыі Вітаўта Вялікага. Менск, Дом літаратара, сьнежань 1992

Імпрэза ў сквэры Янкі Купалы з нагоды 70-годзьдзя В.Быкава. Менск, 19 чэрвеня 1994



У Стакгольме




За пісьмовым сталом. Хэльсынкі




На шпацыры

13 ліпеня 98 г.

Саша, дарагі дружа,

пасылаю новую аповесьць, якую толькі што скончыў. Не ведаю, што атрымалася — тое заўжды даведваешся толькі пасьля. Зноў жа надрукаваў на машынцы і па-наркамаўскай граматыцы, бо ўсё ж галоўная надзея на друкаваньне — Мінск. Хаця можа так стацца, што марная надзея. Але марнасьці цяпер хапае ўсюды, так што гэтая — не самая вялікая.

Паглядзіце там, што можна зрабіць з яе на „Свабодзе“.

Карту, пра якую я гаварыў па тэлефоне, дашлю крыху пазьней.

Я тут жыву добра, спакойна (нават аж залішне спакойна), слухаю „Свабоду“ — галоўную крыніцу маёй інфармацыі пра радзіму. Выдатна выступае Сяргей з Нью-Ёрка, — правільна, глыбока і разумна...

З прывітаньнем — Васіль.

P.S. Калі што — тэлефануйце. Мой тэл. 341-23-12.

Ліст Аляксандру Лукашуку





9 сьнежня 999 г.

Дарагі Сяргей Іосіфавіч,
мілы Сярожа!

Найперш — сардэчна віншую Вас з Днём нараджэньня, хай Вам Бог дасьць здароўя і ўдачы ва ўсіх Вашых справах, — асабістых і грамадзкіх. Тое, што Вы робіце на „Свабодзе“, — важнае і сур'ёзнае, прынамсі не менш, чым у БНФ у Менску. Я не хачу тым кінуць які-небудзь папрок фронту, ні цэнтральнаму, ні нядаўняму, але бясспрэчна, што ён трапіў у тупік усё з тае ж прычыны (кля-січнай) — неадэкватнасьці сродкаў дэмакратыі і брутальных сродкаў таталітарызму, якія ў гэтых сваіх сродках — бязьмежныя. Таму заклік Зянона да ўсеагульнага страйку ці ўсенароднай барацьбы — не больш, чым рытарычныя фігуры. Сумленныя, прыгожыя, гераічныя і — бескарысныя.
Але ўся наша гісторыя такая, дык што чаго чакаць іншага? Нават і ад сумленнага і гераічнага Зянона Пазьняка.
Дзякуй Вам за інфармацыйныя бандэролі, усё што Вы прысылаеце, дужа цікавае.
Паедзеце ў Амэрыку — перадавайце прывітаньне мілай Галі. Хай вам шчасьціць на ўсіх кантынентах!
Ірына Міхайлаўна далучаецца да маіх віншаваньняў і пажаданьняў.

Удачы, Сярожа!

З шанаваньнем В. Быкаў



За рабочым сталом. Франкфурт-на-Майне



З Барысам Кітом







Слухаючы «Свабоду». Франкфурт-на-Майне

Васіль Быкаў і пастар Олаў

У Бэрліне






Зь Вінцуком Вячоркам. Гётэборг, верасень 2000

На сустрэчы з прэзыдэнтам Чэхіі Вацлавам Гаўлам. Прага, 12 верасьня 2001



На праскай вуліцы



Выступ на 85-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі: зьлева карэспандэнт «Свабоды» Галіна Прыгара, справа старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла. Прага, 23 сакавіка 2003





У Люстраной залі Клемэнтынуму: Івонка Сурвілла, Зянон Пазьняк, Васіль Быкаў, Сяргей Навумчык. Прага, 25 сакавіка 2000

На Дзіцячым востраве: крайні справа чэскі сэнатар Ян Румл. Прага, 18 сакавіка 2000







З супрацоўнікамі Беларускай «Свабоды»: Віталь Тарас, Юры Дракахруст, Сяргей Шупа, Вольга Kраўчанка, Васіль Быкаў, Вячаслаў Ракіцкі, Алена Радкевіч, Сяргей Абламейка, Аляксандар Лукашук. Прага, верасень 2001

На Вацлаўскай плошчы. Прага, верасень 2001

З Івонкай Сурвіллай перад будынкам Радыё Свабода. Прага, сакавік 2000





У студыі «Свабоды»: Вольга Караткевіч, Сяргей Навумчык, Васіль Быкаў.
Прага, 12 верасьня 2001

З дырэктарам Беларускай «Свабоды» Аляксандрам Лукашуком.
Прага, 12 верасьня 2001




Накід да прыпавесьці, які застаўся на праскім пісьмовым стале Васіля Быкава





У праскай кватэры Васіля Быкава: з Івонкай Сурвіллай і Сяргеем Навумчыкам. 24 сакавіка 2003

Ірына Міхайлаўна і Васіль Уладзімеравіч Быкавы









Дом літаратара. Людзей не пускаюць на адпяваньне

Перад уваходам у Дом літаратара

Жалобная чарга

Паніхіда па Васілю Быкаву






У руках Рыгора Барадуліна — вушацкая зямля

На менскім праспэкце Скарыны





На Ўсходніх могілках

Родныя Васіля Быкава. Апошнія хвіліны разьвітаньня






Магіла Васіля Быкава

Кабінэт у менскай кватэры






Васіль Быкаў і Аляксандар Салжаніцын, гатэль «Масква». Масква, 1967.
Здымак Алеся Адамовіча

Першае выданьне «Мёртвым не баліць». Мюнхэн, 1960-я







←
Зь фінскага альбому малюнкаў

«Эн юмярря» — «Не разумею»







Пану Міністру Унутраных Справаў
Чэшскай Рэспублікі

ад грамадзяніна
Рэспублікі Беларусь
пісьменніка
Васіля Быкава

Заява

У сувязі з тым, што ў Рэспубліцы Беларусь, дзе я нарадзіўся і пражываў да 1999 году, склалася непрыемная для мяне сітуацыя (найперш палітычная), якая не дае магчымасьці для маёй прафесійнай літаратурнай дзейнасьці і нармальнага існаваньня, прашу ўрад ЧР прадаставіць мне права пражываньня ў Чэхіі.

Разам са мной знаходзіцца жонка Быкава Ірына, якая далучаецца да маёй просьбы.

З павагай В. Быкаў
І. Быкава

Чарнавік звароту Быкава. Чэрвень 2002






У кавярні на Градчанах

Працоўны стол у праскай кватэры






Авіяквіткі Прага—Менск—Прага

Гадзіньнік і абразок. 24 чэрвеня 2003



Хата, у якой гадаваўся



Маё Возера

«Першыя мае ўражаньні ад навакольнага сьвету, аднак, зьвязаныя з возерам... Неўміручае і нават нязьменнае маё азярко, якое я буду любіць да скону дзён». («Доўгая дарога дадому»)